ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
INSTITUT DE LA CULTURE BLANCHE-RUTHÉNIENNE
АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ
SECTION DE LA LANGUE ET LITTÉRATURE BLANCHES-RUTHENIENNES

Аддзел першы. Сэрыя IV. Кніга I

МАТАР'ЯЛЫ ДА ВЫВУЧЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ, ЭТНОГРАФІІ І ЛІТАРАТУРЫ

Аляксандар Сержпутоўскі

# КАЗКІ І АПАВЯДАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ

З СЛУЦКАГА ПАВЕТУ

MATÉRIAUX POUR L'ÉTUDE DE LA LANGUE, ETHNOGRAPHIE ET LITTÉRATURE BLANCHES-RUTHÉNIENNES

Alexandre Seržputowski

# CONTES ET RÉCITS DES BLANCS-RUTHÉNIENS

DISTRICT DE SLOUTSK

КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

1926

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
INSTITUT DE LA CULTURE BLANCHE-RUTHÉNIENNE
АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ
SECTION DE LA LANGUE ET LITTÉRATURE BLANCHES-RUTHENIENNES

Аддзел першы. Сэрыя IV. Кніга I

МАТАР'ЯЛЫ ДА ВЫВУЧЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ, ЭТНОГРАФІІ І ЛІТАРАТУРЫ

Аляксандар Сержпутоўскі

# КАЗКІ І АПАВЯДАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ

З СЛУЦКАГА ПАВЕТУ

MATÉRIAUX POUR L'ÉTUDE DE LA LANGUE, ETHNOGRAPHIE ET LITTÉRATURE BLANCHES-RUTHÉNIENNES

Alexandre Seržputowski

# CONTES ET RÉCITS DES BLANCS-RUTHÉNIENS

DISTRICT DE SLOUTSK



КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

1926

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ

Аляксандар Сержпутоўскі
Правадзейны Член Інстытуту
Беларускае Культуры

# КАЗКІ І АПАВЯДАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ

## З СЛУЦКАГА ПАВЕТУ

НАДРУКАВАНА КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
Ў ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІЧНАЙ ДРУКАРНІ Ў ЛЕНІНГРАДЗЕ
1926

# Прадмова.

Сабраныя тут галоўным чынам жыцьцёвыя апавяданьні, кароткія байкі ды зрэшта даўнейшыя казкі запісаў я па працягу 1890—1923 гадоў у Слуцкім Палесьсі, амаль што толькі ня ў дзьвюх суседніх вёсках — Чудзіне ды ў Вялікім Рожане.

З таго матар'ялу, які мне тут ўдалося сабраць, частка ўжо надрукавана ў маім першым зборніку казак і апавяданьняў,[1] а затым гэты сшытак трэба лічыць працягам першага, бо ў ім ёсьць казкі і апавяданьні тых самых баечнікаў, творы якіх ужо ўбачылі сьвет, напрыклад: Рэдкага, Савіцкага, Болбата ды Кулеша.

Запісаўшы так шмат казак ды апавяданьняў амаль што толькі ў дзьвюх вёсках, я думаў, што сабраў тут ужо ўсё, але пабываўшы ў гэтых самых вёсках у вясну 1915 году, калі грымела вялікая вайна, — пачуў новыя і новыя казкі ды апавяданьні. Тыя самыя баечнікі, ад якіх я 20 год таму назад запісваў казкі, цяпер казалі мне то адменьнікі даўнейшых казак, то ўсё новыя ды новыя. Вельмі шкада, што тады час быў неспакойны, і мне нельга было запісаць больш адменьнікаў і новых твораў, а то лёгка можна было-б пазнаць, як складаюцца народныя творы, як яны множацца і як родзяцца іх адменьнікі. З гэтага мы бачым, які багаты скарб захованы ў думках і ў сэрцы нашых вясковых людзей, бачым, што крыніцы народных твораў ніколі нельга вы-

---

[1] Сержпутовскій, А. К. Сказки и разсказы Бѣлоруссовъ-Полѣшуковъ. СПб. 1911.

чарпаць і што гэтыя творы растуць і шырацца. Ды яно так і мае быць, бо людзі, як і ўсё жывое, растуць і целам, і духам, ідуць наперад, шыраць сваю здольнасьць і твораць усё новае і новае. Праўда, кожны народ жыве сваім асобным жыцьцём; адзін творыць больш, другі — менш, але кожны мае сваіх мастакоў, якія твораць тое, што само цячэ з думкі, што родзіцца на сьвет разам з пачуцьцём сэрца і потым доўга жыве ў памяці людзей. Тыя творы хутка разыходзяцца на сьвеце, растуць, прыгажэюць і так зьліваюцца з думкамі людзей, і так напаўняюць іх сэрца, што, здаецца, быццам яны там век былі, ці аж там і радзіліся. Тых мастакоў, якія тварылі казкі, прыказкі, ці што іншае, мы ня ведаем, бо такіх, мабыць, і ня было; мабыць народныя творы, якія мы чуем ад баечнікаў, складаліся супольна: мастакі тварылі толькі нарыс, а потым баечнікі дапаўнялі, апрацоўвалі, каб было хораша ды складна, ды падганялі да думак грамадзянства. Мабыць мастакі былі разам і баечнікамі, або наадварот, баечнікі больш усяго і тварылі казкі, апавяданьні, ці што іншае. Як-бы яно там ні было, а баечнікі на вёсцы — самыя разьбітныя людзі. Яны ўмеюць хораша ды складна гаварыць і маюць добрую памяць. Добры баечнік, кажуць, «як пачне выдумляць, плесьці ды хлусіць, дык толькі слухаў-бы яго». Лічу ня лішнім памянуць добрым словам тых удалых мастакоў-баечнікаў, ад якіх і запісаны сабраныя тут творы.

Самым лепшым баечнікам, якога я толькі сустракаў на сваім вяку, — быў стары дзед Рэдкі. Але аб ім я ўжо шмат гаварыў у сваім першым спытку казак, а тут скажу аб іншых.

Сасноўскі таксама быў ужо стары чалавек. У яго, кажуць, яшчэ ззамаладу памерла жонка, якую ён так любіў, што трэйчы парываўся накласьці на сябе рукі, але ўсё неяк людзі ратавалі. Да сьмерці жонкі ён быў вясёлы ды гаваркі, якіх мала трапляецца сярод гарапашнікаў, а пасьля свайго няшчасьця — спрэсу зьмяніўся: стаў якісь пануры ды маўклівы, так, што часамі ад яго нельга было дабіцца слова. Але затое, як ужо пачне штонебудзь расказваць, дык ужо будзе гаварыць доўга, доўга, ды

так гожа, што, здаецца, слухаў-бы ўсю ноч і не захацеў-бы спаць. Праўда, ад яго вельмі цяжка было запісваць казкі, бо невядома, калі ён будзе ў гумары, каб баяць. Заўсёды трэба было лавіць такую часіну, калі ён ужо разгаворыцца і забудзе і сам сябе, і што кругом яго.

Старэнькі дзед Болбат быў бортнік, ён амаль заўсёды сядзеў ля сваіх пчол, ці каля перавозу. Бывала, пляце сабе лапці, ці які-небудзь кашэль і ціханька ды памаленьку кажа казку. Пазьбіраюцца людзі, пасядуць кругом, ці палягуць на траве, слухаюць казку, маўчаць, а пра дзела і забудуцца, пакуль іх хто-небудзь не пагоніць. Гожа гаварыў Болбат.

Стары дзед Савіцкі жыў у Бохаве недалечка ад в. Чудзіна. Свае гаспадаркі ён ня меў, а жыў так-сяк у свайго зяця на ласкавым хлебе. Вядома, што ласкавы хлеб горкі, але старэнькі дзядок Савіцкі ня тужыў: зімою сядзеў сабе ў запечку, рабіў з лучыны забаўкі дзецям, ды баяў ім казкі, а ўлетку пасьвіў перш гаўяда, а потым авечкі або коні. Ён быў дзед капрысны, яго цяжка было ўламаць, каб ён пачаў баяць казкі, але затое, калі, бывала, пачне ён баяць, дык ужо гатоў на цэлую ноч. Гаварыў ён ціха, роўна і памаленьку. Бывала, супыніцца на часінку, пакурыць люльку, або адкашляецца ды зноў пачне: ду-ду-ду, бы вада пад колам у млыне. За сваё доўгае жыцьцё ён шмат павалачыўся па сьвеце і трохі паслужыў па дварох. Мабыць затым і яго гаворка трохі была якаясь інакшая, а ня гэткая, як у чудзінцаў.

Даніла Кулеш жыў у Чудзіне. Ён быў добры, старанны гаспадар, збудаваў новыя сьветлыя дзьве хаты, разьвёў шмат гаўяда, выгадаваў і ажаніў сына, — адным словам, быў харошы чалавек, якіх мала ва ўсёй акрузе. Ужо яго сын быў старастаю, як вось наш Даніла задурыў, пачаў учашчаць у карчму, а парэшце так запіў, што рэдка бываў цьвярозым. Але затое ўпіўшыся, Даніла Кулеш вельмі хораша баяў казкі, а цьвярозы, бывала, сядзіць ды толькі паплёўвае, — з яго нельга выцягнуць ні воднага слова.

Самы цікавы з усіх баечнікаў — гэта Лявон Лебедзік. Ён жыў у Чудзіне і празываўся неяк інакш, але як — я не памятаю, а прадражнілі яго Лебедзікам затым, што пры гутарцы ён усім гаварыў «мой лебедзіку». Лявон Лебедзік быў добры гаспадар і вельмі харошы чалавек. За ўсё сваё жыцьцё ён, як кажуць, ня скрыўдзіў і малога дзіцяці. Ён, мабыць, толькі адзін быў з усяго сяла, што ніколі ня піў гарэлкі, ні з кім не сварыўся і нікога ня кляў і ня лаяў. Часта ён гаварыў: «Калі садзішся за стол, дык зірні перш, ці няма тут каго галоднага, каб уперад яго накарміць, а калі няма, дык першы кавалак кінь сабаку, бо ня ведаем, праз чыю ласку жывом, дык трэ і сабацы дагадзіць». Лебедзік сам любіў слухаць казкі і верыў, што яму кажуць праўду. «Багі яго сьвятыя ведаюць, — казаў ён, — мо гэта калі была і праўда». Ён сам рэдка баяў казкі, бо ня любіў, што маладзічкі ня шчыра слухалі, ці слухаючы пасьмейваліся. — «Няма чаго дарма гаварыць, — у такім разе казаў ён, — бо толькі сабака брэша па зьві-вецер». Другія баечнікі як убачаць, што я запісваю казку, дык саромяюцца, пачынаюць мыляцца, а то і зусім змаўкаюць. А Лебедзік ня то, што не сароміўся майго запісваньня, але яшчэ больш руніўся, каб лепш расказаць. Сваю гаворку Лебедзік заўсёды перасыпаў усялякімі прыказкамі, якіх ён ведаў больш ад усіх.

Больш усяго казкі ды апавяданьні я запісваў ад мужчын, бо яны менш саромяюцца, як жанкі, якія доўга штурхаюць адна другую, ды ўсё кажуць, што нічога ня ведаюць. Толькі некалькі малых апавяданьняў мне ўдалося запісаць ад старое Бохмачыхи ды ад Умінскае. Бохмачыха ўсё адпіралася, кажучы, што ў яе шмат клопату ды працы, дык затым яна ўсё перазабыла, што ведала змаладу. Затое-ж Умінская, якая лічыда сябе шляхцянкаю, перш вельмі шмат расказвала пра сваё жыцьцё, пра тое, як яна лечыць людзей зельлямі і замовамі і як тое вельмі добра памагае. Урэшце расказала мне дзьве-тры казкі, дый стала гаварыць замовы. Пакуль я толькі слухаў, а ня пісаў замовы — яна гаварыла, а як толькі я хацеў тое запісаць, дык яна кінулася вон

з хаты і ўжо больш не захацела нічога гаварыць, каб не загубіць моцы знахаркі. Бо ёсьць такое павер'е, што калі знахар ці знахарка навучыць знахараваць каго-небудзь другога, дык ужо сам загубіць моц, і яго шэпты нікому не памогуць.

Кожны вясковы чалавек ведае дзесятак-другі казак ці якіх-небудзь апавяданьняў, а мастакі-баечнікі дык ведаюць іх сотню ці яшчэ і больш, але ўсяго ня могуць спамятаць, а расказваюць толькі тое, што пападзецца на памяць, аб чым загавораць іншыя людзі, ці чым-небудзь напомняць. Запісваць народныя творы ня цяжка, калі ёсьць добрыя мастакі-баечнікі, трэба толькі прывычаіцца хутка пісаць. Больш цяжка падыйсьці да баечнікаў так, каб яны не сароміліся ды даверчыва адкрылі свае думкі, сваё сэрца. Перш чым запісваць народныя творы, я доўга жыў на вёсцы, знаёміўся, як кажуць, з старымі і малымі, гаварыў з імі пра гаспадарку, пра іх дзела, пра тую бяду, якая заўжды трапляецца сярод людзей. І толькі тады, як людзі пачнуць гаманіць са мною, як з сваім братам, я распытоўваюся, хто там добра бае казкі. З тым казачнікам я сустракаюся нібы ненарокам і сам расказваю яму якое-небудзь апавяданьне. Ён паслухае і пачне сам баяць. Перш я толькі слухаю казку, але не запісваю, а стараюся запомніць яе так. Бо калі адразу запісваць, дык кожны баечнік саромяючыся шмат што прапусьціць, скамечыць, пачне варочацца назад ды блытаць, і выйдзе штось нікчэмнае, а не мастацкі твор. І толькі тады пачынаю запісваць, як баечнік добра пазнаёміцца і ўдругае пачне расказваць тую байку. Калі байка кароткая і добра запісана, дык я яе так і застаўляю, а калі-ж яна даўгая ды блытаная, дык я яе слухаю яшчэ трэці раз ды сачу свой запіс. Тут часамі мастак-баечнік дабаўляе ўсялякія прыказкі, прымоўкі ды жарты, што і робіць яго твор мастацкім.

Запісваў я, як толькі мог запісаць у кароткі час і як чула маё вуха, слова ў слова так і тою самаю гаворкаю, якою гаварыў баечнік. Транскрыпцыя запісаў ясна кожнаму, хто толькі чытае па-беларуску і не патрабуе асаблівага тлумачэньня. Усюды паставіў я націскі так, як іх стаўляў у жывой гаворцы кожны

баечнік. Калі-ж адзін і той самы баечнік ґаварыў неаднакова, дык там так і застаўлена. Зроблена гэта дзеля таго, каб запісаць на паперы жывую гаворку як можна вярней.

Разабраны ў зборніку казкі і апавяданьні па баечніках. Творы аднаго і таго самага баечніка паложаны ў тым самым парадку, у якім іх мне апавядалі баечнікі.

Вывіць, якія распаўсюджаны на Палесьсі асновы казак і дзе ўжо надрукаваны іх адменьнікі — гэтая праца адложана мною да другога разу, як набярэцца больш матар'ялаў.

*А. Сержпутоўскі.*

Петраград, 1923.

## 1. Цуд.

Былѐ гэто я̀кась у лі͡етку. Лю̀дзі збу͡ольшаго пакасілі сі͡ено на берагу͡ох, а муру͡ожныі͡е сенажа̀ці яшчэ̀ не вы̀расьлі да й жы̀то не пасьпі͡ело. Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, а тут нахапі̀ўса які̀сь сьвято̀к; не то, каб ужэ̀ яко̀е велі̀кае сьвя̀то, алѐ ўсе-ж сьвято̀к; трэ сьвяткава̀ць, бо часа̀мі малы̀ наро̀біць гары͡эй, як велі̀кі, ці ва̀рто, ці ні͡е, а трэ шанава̀ць. Хаць яко̀е там шанава̀не, — адзі̀н прыклёп; сабі͡е рабі̀ць нему͡ожна, бо яшчэ̀ зашко̀дзіць, а лю̀дзі не найма̀юць, бо са̀мі абрабі̀ліса й ніко̀му не трэ. От хіба̀ йці на рабо̀ту ў дву͡ор. Дак до̀брэ, калі̀ там е рабо̀та. У дворы̀ му͡ожна рабі̀ць не то, што ў малы̀ сьвято̀к, алѐ й у са̀мае велі̀кае сьвя̀то, бо тагды̀ гры͡эх бу̀дзе па̀ну, а беда̀ кашы̀цца на яго̀ галаві͡е. Дак от у такі̀ малы̀ сьвято̀к павыхо̀дзілі лю̀дзі на ву̀ліцу, пасі͡елі на бервѐне кала̀ плу͡оцья, паку̀рваюць сабі͡е люлькі̀ да гамо̀няць пра між сабо̀ю да распыто̀ўваюць, што чува̀ць на сьві͡еці, што ка̀жуць паны̀ да жыды̀. Ві͡едамо, паны̀ чыта̀юць газэ̀ты да ксёнжкі, та яны̀ пѐўне ўсе ві͡едаюць. А жыды̀ цяга̀юцца па сьві͡ету да ўсю̀ды со̀ваюць сваѐ ры̀ло, дак яшчэ̀ лі͡епш пану͡оў усѐ ба̀чаць, усѐ чу̀юць. Да й куды̀ там пану͡ом да жыду͡оў. Паны̀ мо й зна̀юць, алѐ маўча̀ць зу̀бы сця̀ўшы, спаганя̀юць па̀ньські го̀нар, а жыд, калі̀ што зна̀е, дак па языку̀ не затрыма̀е, немажэ̀ ні і͡есьці, ні піць, ні спаць, каб другі̀м не сказа̀ць. От так сьвербі̀ць у яго̀ язы̀к, бы ў каро̀сьце, му̀сіць яго̀ пачаса̀ць. От гэ жу̀пяць мужчы̀ны: хто ба̀е а паго̀дзе, а хто а прыго̀дзе. Адзі̀н ска̀жэ, а другі̀ прыска̀жэ. Седзя̀ць радко̀м і гамо̀няць ладко̀м, пасьмею̀цца, пашутку̀юць ці̀хо да й забу̀дуць лі̀хо, бо ка-

жуць лю̀дзі, што ча̀сам трэ што нѐбудзь сьплесьці̀, каб ду̀шу атвесьці̀. Адны̀ гамо̀няць, выдумля̀юць, а другі̀е слу̀хаюць да на вус мата̀юць, по̀тым ска̀жуць ба̀бе да прыба̀вяць; та̀я дзя̀нне да сусі͡едцы. Так малѐнькая прачу̀тка хо̀дзіць з ха̀ты ў ха̀ту да ўсе расьцѐ, ўсе харашы͡эе і дату̀ль яна гуля̀е, паку̀ль ка̀зкаю ста̀не, а як устары͡эе, дак і саўсі̀м бу̀дзе пра̀ўда. Пачну̀ць стары̀е каза̀ць, а ба̀бы слу̀хаць да ўздыха̀ць, бо ча̀сам стары̀ ка̀жэ на глу̀м, а малады̀ берэ̀ на ву̀м. Ка̀жуць-жэ, што до̀брэ бага̀таму кра̀сьці, бо е к чаму̀ прыкла̀сьці. До̀брэ старо̀му хлусі̀ць да плѐткі насі̀ць, бо як тут дагада̀цца, калі̀ ні͡ельга спракава̀цца. Эгэ̀-ж, дак от і то̀е даўні͡ей было̀, — пача̀ў каза̀ць стары̀ дзі͡ед. — Я чуў ат стары̀х людзѐй. А хто стары̀х неслу̀хае, той і бо̀га небаі̀цца. Яны̀ каза̀лі, што са̀мі ба̀чылі. Седзя̀ць лю̀дзі ў сьвя̀то, от бы мы, раздаба̀рваюць сабі͡е аж да змро̀ку. Мо ўжэ й со̀нейко зайшло̀, на нѐбе анѐлы запалі̀лі сьві͡ечачкі, ту͡олькі ось штось загуло̀ да загрукаці͡ело, от бы перу̀н. А на нѐбе ні хма̀ркі. Хрысьцяцца лю̀дзі да азіра̀юцца, аж з захо̀ду леціць зьмі͡ей, леціць над са̀мым лі͡есам да про̀сто й са̀дзіць на село̀. Галава̀ велізазная бы сту͡ог, блішчыць, ба̀ццэ сі͡ено гары̀ць, а і̀скры дако̀ла й сыплюцца. Леціць, разя̀віўшы го̀рло, а хву͡ост цягнецца мо на тро̀е гану͡оў. — Прапа̀лі мы, — ду̀маюць лю̀дзі да ту͡олькі хрысьцяцца. Не зьлюбіў ён ма̀быць таго̀, пралеці͡еў мі̀мо села̀ да як тры͡эсьне, дак аж земля̀ задрыжа̀ла. Разсыпаўса ён на дру͡обны͡е кускі̀ да й упаў у бало̀то. Седзя̀ць лю̀дзі да й неварухну̀цца, бы акамені͡елі, так яны̀ спало̀халіса. Ту͡олькі ось узышо̀ў мі͡есячык, паві͡еяў ві͡етрык. Ачу̀халіса лю̀дзі да й ка̀жуць: гэто бо̀жы цуд. Прапа̀лі-б мы ўсі͡е, пажра̀ў-бы нас агні̀сты зьмі͡ей, каб не перахрысьці̀ліса. Хрэст-бу͡оская му͡оц, уселя̀кае лі̀хо перамага̀е. На другі̀ дзѐнь пашлі̀ лю̀дзі на бало̀то шука̀ць куску͡оў таго̀ зьмі͡ея. Ку͡олькі ніхадзілі яны̀, ку͡олькі ні шука̀лі, дак от кажы̀, німа̀ нічо̀го да й ту͡олькі. Пагама̀нілі лю̀дзі да й пачалі̀ ўжэ забыва̀ць, ту͡олькі ось з тых ча̀саў быў хво̀ры адзі̀н пасту̀х. Ён тагды̀, як леці͡еў той зьмі͡ей, шука̀ў у лі͡есі згу̀бленую каро̀ву. Ту͡олькі ён вышаў на прага̀ліну да як уба̀чыў зьмі͡ея да як учу̀ў грымо̀ты, дак так спа-

лохауса, што й захварыэў. Чаго людзі ні рабілі, якіх зельёў ні давалі, к якім шаптунум да шаптухам ні ўдаваліса, нічого не памагае. Тульки ось прыцёгса з местэчка жыд да й кажэ: у нас нарадзіўса месіяш, то будзе буог паш. — Пеўне гэто ён леціеў, — кажуць людзі, — да мабыць гэто яго прарувок Ілля перуном трыэснуў. — Ну, ніхто невіедае, дзіе ён, тульки ось падымаецца кітаевец, — кажэ жыд. — А ён як надымецца, та ўвесь сьвіет заваює. — А хто-ж гэто такі кітаевец? — Хто? Зьвіесно, пасі кітаеўцы, сто носяць доўгііе лапсардакі й доўгііе пейсы. — Эй, нархатыіе, куды вам увесь сьвіет заваяваць, калі вы баіцёса й стрэлбу ў руках дзержаць. — На сто нам стралаць, калі гоі будуць самі себе забіваць, а мі тульки дабро іх спажываць. — Не дачакане вашэ, погань! Прыдзе прарувок Ілля, та ён звас наробіць гніллэ. А ваш масіяш ужэ даўно ў балоці седзіць да чартум служыць. — Пачуў тое хворы пастух да й прыпомніў, што як леціела святого Іллі страла, дак перад яго ачу навальла таўпічэразны дуб да й сама ў ём засіела. От і просіцца ён, каб яго павезлі на тое міейсцэ, та мо ён і выачуняе. Кажуць людзі, — як тонішса, та й за салому хопішса. Так і ў бедзіе трэ ўсяго папробуваць. От павезлі таго пастуха ў ліес. Тульки яны прывезлі яго к таму дубу, як ён усхапіўса з воза, бацнэ й не хварыэў, да й пачаў аглядаць пень таго дуба. Аж бачыць, седзіць там каміенная страла, ўся чорная да гладкая, аж палыскуецца. Убачылі людзі той цуд, памаліліса тут яны богу да й паставілі там крыж. І да тых час е там прошча. Усякую першую недзіельку збіраюцца туды людзі да моляцца богу. Дак от які там быў цуд. Я сам яшчэ падшыварком хадзіў туды з маткаю, як у мене балиелі вочы. Дак от, дзякуй богу, памагло, да тых час бачу божы сьвіет. Тагды ўжэ дуба не было, тульки ў капліцы лежыць, от бы цепер бачу, чорны, велікі камень, мо з локаць даўжынёю, а на ём гараць сьвіечачкі.

Лявун Лебедзік.

Чудзін.

## 2. Кальві̀нські пу͡ост.

Пашо̀ў адзі̀н пан у лі͡ес на палева̀не. До̀ўго хадзі̀ў ён, заблу̀таўса ў гушчэ̀чы да й заблудзі̀ўса. Дзень быў хму̀рны да ціхі. Ні со̀нейко не бліснѐ, ні раслі̀на не калыхнѐцца, ні̀ма жу͡одна͡іе прыкмі͡еты, куды̀ йці. Ужэ̀ такі̀ до̀брэ прагалада̀ўса пан, утамі̀ўса, ла̀зячы цѐраз вы̀скаці да каладзьѐ, а тут і зверыны̀ ні̀ма ня̀ка͡іе да й супачы̀ць ні͡едзе. Стаў ён і ду̀мае, што тут рабі̀ць. Алѐ ось уваднў͡ом бо̀цы забраха̀ў саба̀ка. Абра̀даваўса пан да й пашо̀ў у той бу͡ок. Ужэ̀ до̀брэ сьцемні͡ело, як ён прыцѐгса ў ха̀ту к стра̀жніку. Ві͡едамо, стра̀жніка ха̀та адна̀-адзінюшачка стая̀ла на паля̀наццы серу͡од лі͡есу, а кругѐм мо̀ на які̀х дзѐсяць версту͡оў не было̀ жыво̀͡іе душы̀. Застаўса пан у стра̀жніка начава̀ць. Про̀сіць пан і͡есьці, а стра̀жнік ка̀жэ: ні̀ма ў нас, пано̀чак, ні̀чо̀го сяго̀нячы, апры̀ч бу̀льбы, бо ў нас пу͡ост. — Які̀-ж гэто пу͡ост, — ка̀жэ пан, — калі̀ ў вас і ні̀ма ні̀чо̀го скару͡омнаго. Гэто й уся̀кі ду̀рэнь так напо̀сьціць, калі̀ скару͡омнаго ні̀ма. От ты тагды̀ нанасьці, як усяго̀ мну͡ого, а і͡есьці не му͡ожна. От то, дак пу͡ост. На͡іеўса пан пѐчана͡іе бу̀льбы да й лёг спаць на цьво̀рдуй ла̀ве, падкла̀ўшы пад го̀лаў ша̀пку. Сьпіць ён бы по̀сле ма̀ку, бо ві͡едамо, за дзень пахадзі̀ўса, як пацу̀к. На за̀ўтрэ запру͡ог стра̀жнік сваю̀ кабы̀лку да й паўёз па̀на ў яго̀ маёнтак. Пры͡іехалі яны̀ туды̀, заўѐў пан стра̀жніка к саб͡іе ў пако̀і. Ба̀чыць стра̀жнік, што там сабрало̀со мну͡ого пану͡оў да па̀ней; у ку͡ожнуй ста̀нцаі панаста̀ўлено сталу͡оў, а на іх ру͡озных патра̀вак, што аж не прыду̀маць, чаго̀ там не было̀. Ідзѐ пах ат тых патра̀ў па ўсіх пако̀ях, што аж сьліна цечэ̀ з ро̀та. Чака̀е ён, калі̀-ж гэто бу̀дзе аб͡іед. Тым ча̀сам ужэ даўно̀ пара̀ аб͡іедаць, а па̀ні да паны̀ хо̀дзяць кала̀ тых патра̀вак да ту͡олькі сьлінку каўта̀юць да аблі̀зваюцца, бы саба̀кі. От сустрака̀е ён таго̀ па̀на да й ка̀жэ: пара̀ мн͡іе, пано̀чку, і͡ехаць да гаспо̀ды, бо яшчэ̀ хто лі͡ес пакра̀дзе. — Пачака̀й, каха̀ны, я-ж цебѐ пачасту̀ю за то̀е, што прыня̀ў менѐ на̀ нач, — ка̀жэ пан. Застаўса стра̀жнік. Тым ча̀сам ужэ й даў

бу͡ог вѐчар, а абі͡еду німа̀. У стра̀жніка ўжэ даўнò ў жываці͡е перабурча̀ло й урòце перасхлò, бо ўсю сьлìну пакаўта̀ў, пазіра̀ючы на сма̀чныі͡е патра̀ўкі. От і пыта̀е ён у лѐкая, калì бу̀дзе абі͡ед. — За̀ўтра аб гэтуй пары̀, — адмаўля̀е лѐкай. — Ба̀чыш, маі͡е паны̀ кальвіны̀, а ў кальвіну͡оў сягòдне пу͡ост. Дак гэто яны̀ так пòсьцяць, бо, — ка̀жуць яны̀, — то не пу͡ост, калì німа̀ чагò і͡есьці, от то пу͡ост, калì ўсягò мну͡ого, а і͡есьці нему͡ожна. — Не вы̀трымаў стра̀жнік, ускòчыў на сваю̀ кабы̀лку да ва ўсю̀ ну͡оч папѐрса да гаспòды, каб хучы͡эй наі͡есьціса хаць пу͡оснаі͡е бу̀льбы. Пры͡іехаў даму͡оў да й ду̀мае: мò й пра̀ўда. Не дзіво не зграшыць у намастыры̀, дзі͡е нема̀шака грахў, а от ты ў жы̀цsmåцы не саграшы̀, дзі͡е грахì на кòжнум крòку — як ступіў, та й саграшы̀ў.

Ляву͡он Лебедзік.

Чудзін.

## 3. Сабака й грошы.

Быў у ваднагò чалаві͡ека вѐльмі разу̀мны саба̀ка. Тагò саба̀ку не карміліі, хібо калì-не-калì гаспада̀р кìдаў яму̀ скары̀нку хлі͡еба да агры̀зеную ку͡осць. У тагò чалаві͡ека была̀ вѐльмі пага̀ная жу͡онка; яна за̀ўжды выганя̀ла саба̀ку з ха̀ты мі͡ешалкаю, абò качаргòю, ці аблìва̀ла вадòю. Той чалаві͡ек быў жа̀ласлівы на̀ват да ўселя̀кага жыу̀ѐла. Ён ча̀сто гавары̀ў жу͡онцы, што трэба саба̀ку карміць, бо ка̀а, — мо не праз чыю̀ ла̀ску жыву͡ом. Пачу̀ўшы тòе, пага̀ная жу͡онка ту͡олькі знева̀жа̀ла свайгò гаспада̀ра да ешчэ̀ гары͡эй біла саба̀ку. — Саба̀ка, як ку͡от, — крыча̀ла яна̀, — павінен сам сабі͡е знайсцì корм. І пра̀ўда, бі͡едны саба̀ка цэлы дзень бі͡егаў туды̀-сюды̀, шука̀ючы сабі͡е кòрму. Бу͡ольш усегò любіў ён грабціса ў земліі, каб злавіць мыш, абò крата̀. От пашòў раз той чалаві͡ек у пòле, гдзі͡е на межы̀ стая̀ла йгру̀ша, каб натрасцì дзікіх ігру̀ш. Ідзе ён і ду̀мае сабі͡е: натрасу̀ пòвен кашы͡эль ігру̀ш, занесу̀ ў гумнò, вы̀сыплю ў муру͡ог. Яны там сапры͡эюць і ху̀тко пагнію̀ць. Бу̀дзе дòбрэ і͡есці дзі͡е-

цям, рэшту баба высушыць да наварыць узвару. — Падходзіць ён к ігрушы, аж бачыць—яго сабака грабецца тут на межы. Падыйшоў ён туды. Сабака ўбачыў хаджаіна, выскачыў з ямы, лашчыцца, кідаецца на грудзі да ўсе зноў скачэ ў яму. Зірнуў чалавіек у яму, аж там стаіць повен гаршчок грошэй. Блішчыць золато, бы слеза. Забраў той чалавіек грошы ў кашыэль, натрус ігруш наверх і папёр да гасподы. Ужэ быў пуодвечарак, як ён прышоў дамуоў. Жуопка падаіла каруову. От той чалавіек наліў у місу малака, накрышыў туды хлеба да й даў сабацэ. Жуопка давай лаяцца, давай зневажаць да праклінаць на чуом сьвіет стаіць. Насілу гаспадар сутрымаў трохі шалёную бабу. На другі дзень ён веліеў бабе куожын дзень варыць страву сабацэ да карміць яго малаком. — Ашаліеў гаспадар — думае баба, — дай-жэ я хіба атручу сабаку, а то ён скорміць ім усе малако. Побегла баба к сусіедкам, жаліласа на сваю гуоркую долю, праклінала гаспадара да й выпрасіла атруты. Наварыла яна стравы, усыпала туды атруту да й атруціла таго сабаку. Вернууса з работы гаспадар да як давіедауса, што сабака здох, дак чуць не заплакаў, так яму шкода было віернаго слугі. Німа чаго рабіць, дастаў ён харошых дошак, збіў вельмі гожую труну, наслаў у яіе пуху да й палажыў туды сабаку. Потым выкапаў на могліцах яму, прынёс туды труну да й пазваў папа хаваць змарлаго. Прышоў пуоп і веліеў атчыніць дамавіну. Зняў той чалавіек з труны віено. Убачаў тут пуоп, што ў дамавіне сабака, а не чалавіек, закрычаў і кажэ, што за гэтакі абман сашле да Сіберу, ці згноіць у вастрозе. Насыпаў той чалавіек папу поўную шапку грошэй і просіць, каб пахаваў сабаку. Паглядзэўпаглядзэў пуоп у сваеї ксёнжцы да й кажэ: «усякае стварэне да хваліць госпада», — і пахаваў сабаку. Ідуць яны з могліц, а пуоп і кажэ: «шкода, што буольш не хаваюць сабак».

Лявуон Лебедзік.

Чудзін.

## 4. Закалдо̀ваная ша̀пка.

Быу̀ сабі͡е адзін пікчэ̀мны мужычы̀на да такі̀ нескла̀дны, плюга̀вы, што звыча̀йны͡е лю̀дзі не хаці͡елі на яго̀ й плюнуць. Ніхто̀ з ім не зна̀уса, ніхто̀ не звау̀ к сабі͡е у̀ го̀сці, ві͡едамо пакі̀дзішчэ. Сто̀яло ту͡олькі зірну̀ць на яго̀, як ужэ̀ чалаві͡ека брау̀смі͡ех, така̀я то была̀ пачвѐра, а не бо̀жае стварэ̀не. Алѐ ён, як і другі̀е мужыкі̀, мі͡еу̀ сабі͡е яку̀юсь слімаза̀рную гаспада̀рку й на̀ват пашо̀у̀ сабі͡е жу͡онку, таку̀ю-ж раскіра̀ку, як і са̀м. Бо ка̀жуць, што жанчы̀на гэ̀ мерку̀е: неха̀й сабі͡е мужы̀к як ла̀пець, абы з ім не пла̀каць. Усі͡е яго̀ лічы̀лі ду̀рням, а у̀ яго̀, ма̀бысць, чорт ро̀зуму не зъі͡еу̀, — ён быу̀ дага̀длівы й вѐльмі хі̀тры мужы̀к, да̀рам, што у̀сі͡е яго̀ зва̀лі раскіракаю. От раз гэ̀стая раскіра̀ка пау̀͡еу̀ у мі͡есто на кірма̀ш прадава̀ць я̀лавіцу. Прыў͡еу̀ ён сваю̀ дыхля̀шіну, прывеза̀у̀ к слупу да й чака̀е, паку̀ль хто ку̀піць. Падбі͡ег жыдо̀к, мацну̀у̀ я̀лавіцу кала̀ за̀ду, памата̀у̀ галаво̀ю да й пабі͡ег да̀лей. Падышлі̀ мужыкі̀, аглядзі͡елі я̀лавіцу да й пыта̀юць: ку͡олькі хо̀чэш за гэ̀стую казу̀. — Яку̀ю казу̀? Гэ̀сто-ж каро̀ва, — адмау̀ля̀е той нікчэ̀мны мужы̀к. — Така̀я гэ̀сто каро̀ва, як і ты, — ка̀жуць мужыкі. — У цебѐ пыта̀юць, па чу͡ом прадаѐш казу̀? — Каза̀, дак каза̀, неха̀й сабі͡е й каза̀, ту͡олькі дава̀йце харо̀шые гро̀шы. — У нас гро̀шы но̀венькіе, харо̀шые, ту͡олькі гавары̀ сэ̀с. — Старгава̀ліса мужыкі̀ да й купі̀лі ту̀ю каро̀ву. Заплаці̀лі мужыкі̀ гро̀шы й хо̀чуць весьці̀ каро̀ву. Ту͡олькі яны̀ у̀зяліса за по̀вад, а гаспада̀р і ка̀жэ: я вам прада̀у̀ жыу̀͡ело без по̀вада, бо на казу̀ злыгача̀ не трэ. — Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, заплаці̀лі мужыкі̀ яшчэ̀ за по̀вад і павелі̀ каро̀ву. От той раскіра̀ка накупі̀у̀ сабі͡е у̀ кро̀мках, што яму̀ было̀ патрэ̀бно, по̀тым зайшо̀у̀ у ка̀рчму, купі̀у̀ дзві͡е пля̀шкі гарэ̀лкі да й ка̀жэ ландару̀: Неха̀й яны̀ пабу̀дуць у цебѐ, паку̀ль я зайду̀. — По̀тым зайшо̀у̀ у другу̀ю ка̀рчму да й там так са̀мо купі̀у̀ дзві͡е пля̀шкі гарэ̀лкі да й аставі̀у̀ у жыда да тых час, по̀кі за̀йдзе. Зрабі̀у̀шы то̀е, пашо̀у̀ шука̀ць тых мужыку͡оу̀, што купі̀лі у̀ яго̀ каро̀ву. Па нема̀лым ча̀се

пібыто ненаро̀кам сустракае ён тых мужыку͡оў і ка̀жэ: заплацілі вы мне до̀брые гро̀шы, дак ха̀дзём хіба̀ вы̀пъем барышу̀. — До̀брэ, — ка̀жуць яны̀. — От наш раскіра̀ка паўёў мужыку͡оў у ка̀рчму й заказа̀ў дзві͡е бутэлькі гары͡элкі. Вы̀цяглі яны з кішы͡энь акра̀йцы хлі͡еба й са̀ла, вы̀пілі гары͡элку да й закусілі. Узя̀ўса наш раскіра̀ка за ша̀пку да й ка̀жэ ландару̀: за гары͡элку табі͡е запла̀чано. — Запла̀чано, — адмаўля̀е жыд. Падняліса мужыкі й пашлі з ка̀рчмы да ту͡олькі пераглі̀даюцца па між сабо̀ю, чаму̀ гэто іх сябер не плаці̀ў жыду за гары͡элку, а той ка̀жэ, што запла̀чано. Паўёў ён мужыку͡оў у другу̀ю ка̀рчму да й зноў велі͡еў пада̀ць дзві͡е бутэлькі гары͡элкі. Вы̀пілі яны̀ й ту̀ю. Зноў сябер узя̀ўса за сваю̀ ша̀пку да й пытае жыда, ці запла̀чано за гарэлку. Жыд адмаўля̀е, што ўсе запла̀чано. Тут ужэ̀ на̀шы мужыкі дзіву даліса да атра̀зу дагада̀ліса, што ў гэстаго пікчэмнаго чалаві͡ека закалдо̀ваная ша̀пка. От, як ту͡олькі вы̀шлі з ка̀рчмы, дак і прыста̀лі яны̀ да таго̀ мужыка̀, каб ён прада̀ў ім сваю̀ закалдо̀ваную ша̀пку. Алѐ той нехо̀чэ, ка̀жэ, як-же ён бу̀дзе жыць без гэтакаі͡е ша̀пкі. Яны̀ прасіць, яны̀ блага̀ць. Упіра̀ўса, ўпіра̀ўса наш пікчэмны мужы̀к, нарэшце пада̀ўса да й прада̀ў мужыку͡ом за сто рублёў сваю стару̀ю ша̀пку, што была̀ бы варо̀ны гнездо̀. — Ну, — ка̀жэ, — шкада̀ мне гэстаі͡е ша̀пкі, ні за які͡е гро̀шы не адда̀ў бы яі͡е чужы̀м лю̀дзям, а гэто ту͡олькі, што сябру͡ом. Ну, насі͡еце на здаро̀ве да памінайце Раскіра̀ку. Прашчава̀йце, сябры̀! Трэ да гаспо̀ды цягну̀цца, а то баба качаргою сперы͡эсьціць мазгаўню да ска̀жэ, што пъяны загубіў ша̀пку. — Пашо̀ў наш раскіра̀ка сваёю даро̀гаю, а мужыкі зайшлі яшчэ ў адну̀ знаёмую ка̀рчму й заказа̀лі дзві͡е пляшкі гары͡элкі. Пъюць яны̀ да ра̀дуюцца, што такі купілі таку̀ю дзіўную ша̀пку. От вы̀пілі яны̀ гары͡элку, адзін узя̀ўся за ту̀ю ша̀пку да й ка̀жэ да жыда: запла̀чано! — А той усмехну̀ўса да й атка̀звае: ну, калі німа̀ гро̀шэй, та я запішу̀. — Пашлі яны̀ ў другу̀ю ка̀рчму й там вы̀пілі пляшку гары͡элкі. Узя̀ўса ужэ̀ другі за ша̀пку й ка̀жэ ландару̀, што запла̀чано, алѐ ланда̀р і слу̀хаць не хо̀чэ. — Сто ві пъя̀ніцы, валацу̀гі, менѐ ду̀рням ро̀біце!.. Я лі͡епш ат вас памя-

то̀ю, сто запла̀цано, а сто ні͡е. Заплаці̀лі мужыкі̀ за гары͡элку, кі̀нулі на зѐмлю ту̀ю шапку да й давай яі͡е таптаць нагамі да рваць, на сабі͡е гі̀ры. Отож абману͡у, хвары͡эць яго̀ ма̀тары. І пацяглі̀са даму͡оу, бы мо̀крыі͡е ку̀ры.

Лявуон Лебедзік.

Чудзін.

## 5. Лі̀хо абхо̀дзь, а дабра̀ не мі̀най.

Ішо̀у па сві͡еце Хрысто̀с з Па̀улам-Петро̀м, до̀уго яны хадзілі, патамі̀ліса й шука̀лі, дзі͡е-б ім супачы́ць. Абхадзі̀лі яны нѐмаль усю̀ вѐску, ніхто̀ не прыма̀е на̀ нач. Усі͡е адмау̀ляюцца та сім, та тым. Пачу̀ла аб гэтум адна̀ бі͡едная у̀дава, у̀ каторaі͡е лежа̀у вѐльмі хво̀ры апу͡ошні сын. Яна̀ так сказа̀ла сабі͡е, што калі̀ к ёй за̀йдуць на̀ нач гэтые падару͡ожные, та яі͡е сын вы̀здаравее. Прыбі͡егла яна̀ з са̀маго канца̀ вѐскі да й про̀сіць іх к сабі͡е. Тым ча̀сам Петро̀ й Па̀вел зайшлі̀ у̀ вадну̀ бага̀тую ха̀ту, дзі͡е было̀ весі͡елье, да й залі͡езлі на пі͡еч. Ві͡едамо, на весі͡елы зау̀жды людзѐй мну͡ого. Тау̀ку̀цца яны у̀ хацѐ, бы у̀юны у̀ ры͡эшацi. Прасі̀ла, прасі̀ла іх удава̀ к сабі͡е, каб у хаце былі̀ чужы́е людзі, як бу̀дзе памі̀раць яі͡е каха̀ны сыно̀чак, прасі̀ла жывы̀м бо̀гам, аж у зѐмлю кла̀нялася, але Па̀уло-Петро̀ не у̀ва̀жылі яі͡е про̀збы, расьцеглі̀са с кра̀ю на пѐчы да й гры͡эюць стары́і͡е ко̀сці. Ту͡олькі Хрысто̀с зжа̀лі̀уса да й пашо̀у па гразі̀ у̀ са̀мы канѐц вѐскі к бі͡еднуй удаві͡е. Ту͡олькі ён улі͡ез у ку̀рную ха̀тку у̀давы́, як сын яі͡е ачу̀няу і у̀ста̀у з пасьцѐлі. Падзя̀кувала у̀дава̀ Хрысту̀, пакланіліса яму̀ у̀ но̀гі, а той і зні̀к. Тым ча̀сам на весі͡елы хло̀пцы захадзі̀ліса кала̀ Па̀ула-Петра̀ да й пачалі̀ лупцава̀ць іх палі̀скамі. Кру̀цяцца на пѐчы Па̀уло-Петро̀, бы у̀юны́ на скаварадзі͡е, а хло̀пцы лу̀пяць іх да прыка̀зваюць, — не чапа̀йце на̀шых дзі͡евак, не лі͡езьце на чужо̀е весі͡елье... Тут прышо̀у Хрысто̀с і велі͡еу Па̀улу-Петру̀ лѐгці на другі̀ бу͡ок пѐчы. Зайшлі̀ хло̀пцы на другі̀ бу͡ок пѐчы да й ка̀жуць: Цепѐр трэ праву̀чы́ць і гэстых валацу̀гау і дава̀й іх перы͡эсціць, дава̀й лупіць так, што аж па̀ра з іх паваліла.

Лявуон Лебедзік.

Чудзін.

## 6. Каму̀ грыэх, а каму̀ ніе.

Разу̀мные люодзі кàжуць: грыэх у міех, а спàсеньне ў тòрбу; хто кàжэ — грыэх, тагò ў мòрду. Я чуў яшчэ ат свайгò дзèда, калі я ешчэ быў малым падшпàркам, а ён ужэ тагды сгòрбіўса, змòршчыўса бы пòрхаўка. Бàло седзіць на прызбе ўлетку ў кажушку да грыэецца на сонейку, а мы біегаем бòсые ў ваднıх сарòчках, і пуот з нас вàліць, біегаем, ці слу̀хаем бàйкі старòго дзіеда. А ён вèльмі любіў казàць бàйкі. Шмат я пераняў тых баяк, алè, бàчыце, сам ужэ састарыэўса, здурніеў і мнуогае запàмятаваў. От, — дай бòжэ пàмяць, — дзіед расказваў, як Хрыстòс з святым Петрòм хадзілі па сьвіету да вучылі людзèй. Дòўго яны хадзілі піешкі, пазбівàлі нòгі, абадрàліса да ніткі, а ўсе хадзілі да вучылі дабру̀, згòдзе да братэрскуой жыцца на сьвіеце. Убàчыў раз Петрò, што бàбы павіесілі на плòце вèльмі мнуого руознаго плàця. Надаіело Петру̀ хадзіць у трàнцах, а мòжэ ягò й вòшы заіелі, от і пазàрыўса ён на чыстае плàце да й укрàў сабіе адну̀ сарòчку, туолькі абмылìўса, ўзяў не мушчынськую, а жанòчую. Бàчыце, даўнèй мушчыны насілі сарòчкі дòўгіе па сàмые пяты. Падзіеў ён ту̀ю сарòчку, аж каўніер несхòдзіцца, а рукавы туолькі па лòкці. Апрану̀ў ён навèрх свае лàпікло, алè ніельга закрыць сарòчку. Абернуўса Хрыстòс к Петру̀ да й пытàе: скуль ты ўзяў жанòчую сарòчку? — Укрàў, гòспадзі, ў багàтых, даруй бòжэ цяжкі грыэх. — Лядзі, каб не абернуўцца ў жанчыну. — Злекàўса Петрò, скінуў сарòчку да й панёс на тòе міейсцэ, дзіе яіе ўзяў. Падхòдзіць ён туды да й чуе, аж там бàба крычыць, кліне, чуць не галòсіць, што хтòсь укрàў ту̀ю сарòчку, катòрую янà хавàла сабіе на смèрць. — Чагò ты крычыш і турбу̀ешса, бàбко? — пытàе Петрò. — Як-жэ мніе не турбавàцца, — адмаўляе бàба, — калі хтось укрàў у менè ту̀ю сарòчку, якую я згатòвіла сабіе на смèрць. Як-жэ цепèр я пампу̀, калі ў менè німà на смерць сарòчкі. — Дак ты, бàбко, не памірàй, — кàжэ Петрò. — Ой, муой сакòліку, — адмаўляе бàба, — на што-ж я бу̀ду сьвіет

займа̀ць, калі̀ я ні на ву͡ошто не патрэ̀бна. — А ты сабі͡е жыві̀ сама̀ ля себѐ. — Ой, ні͡е, му͡ой ру͡удненькі, ля себѐ ва̀жко жыць, так ва̀жко, што лі͡епш памѐрці. — Як ні ўгаво̀рваў Петро̀ ба̀бу, та̀я адмаўля̀ласа, а нарэ̀шце пачала̀ галасі̀ць. Адда̀ў ёй Петро̀ саро̀чку й пашо̀ў да̀лей. Ідзѐ ён да йдзѐ, аж ба̀чыць, вісі̀ць на пло̀це калѐ растанцо̀ў бі͡елая бы сні͡ег мушчы̀ньська саро̀чка. Палядзі͡еў ён давокала, укра̀ў ту̀ю саро̀чку, надзі͡еў яі͡е пад сваѐ ла̀пікло да й хучы͡эй пашо̀ў да̀лей. Прыхо̀дзіць ён да Хрыста̀ й ка̀жэ, што адда̀ў ба̀бе саро̀чку жано̀чую, а ўзяў сабі͡е мушчы̀ньськую. — А ві͡едаеш, яку̀ю саро̀чку ты ўзяў? — пыта̀е Хрысто̀с. Ні͡е, го̀спадзі, — адмаўля̀е Петро̀. — Гэ̀то два бага̀тые браты̀ дзелі̀ліса да ні̀як не маглі̀ падзелі̀ць гэ̀стую саро̀чку; до̀ўго яны̀ сварылі̀са, калапі̀ліса, бі̀ліса, а по̀тым паві͡есілі ту̀ю саро̀чку на растанцу͡ох, каб яна̀ не ўвадзі̀ла іх у гры͡эх. — Што-ж мні͡е рабі̀ць? — Пыта̀е Петро̀. — Насі̀ гэ̀тую саро̀чку, хаць ты яі͡е ўкраў, бо гэ̀тым ты ро̀біш лю̀дзям дабро̀ — мі̀рыш іх, а хто мі̀рыць людзѐй, з тым і бу͡ог памі̀рыцца.

Леву͡он Лебедзік.

Чудзін.

## 7. Праму̀дры Саліму͡он.

Жыў ко̀лісь праму̀дры Саліму͡он. Быў ён мудры͡эйшы ат усі̀х людзѐй. Цары̀ з далѐкіх ца̀рств прыезджа̀лі к яму̀, каб паслу̀хаць яго му̀драсці да павучы̀цца ў яго̀ ро̀зуму. І пача̀ў ду̀маць Саліму͡он: кѐпьско бу͡ог сатвары̀ў сьві͡ет, бо ра̀зам з до̀брым пазво̀ліў жыць і ліхо̀му. От Саліму͡он вы̀даў такі закуо͡н, каб ку͡ожнаго ві͡ешаць, каго̀ зло̀вяць на зладзі͡ействе. Уба̀чыў бу͡ог тые ду̀мкі Саліму͡она й зрабі̀ў так, што той пазна̀ў сваю̀ амы̀лку. От як то̀е было̀. У Саліму͡она была̀ вѐльмі го̀жая дачка̀. Ён яі͡е так му͡оцно любі̀ў, што чаго̀-б яна̀ ні папрасі̀ла, ні ў чу͡ом ёй не атка̀зваў. От раз папрасі̀ласа яна̀, каб Саліму͡он узя̀ў яі͡е з сабо̀ю на ахво̀ту. Саліму͡он узя̀ў. От паахво̀ціўса Саліму͡он з сваі̀мі

прыбліжо̀нымі, налавілі яны̀ мну͡ого ўселя̀каі͡е зверыны̀, нагато̀вілі там і пачалі̀ балява̀ць. Ту͡олькі ось хапіла дачка̀ Саліму͡она кусо̀к вѐльмі сма̀чнаго мя̀са, ці мо яна̀ вѐльмі му͡оцно прагалада̀ласа на ахво̀це, ту͡олькі кусо̀к у го̀рле й перасі͡еў. Што тут ні рабілі, як ні ратава̀лі, нічо̀го не пара̀дзяць. Падавіласа Саліму͡она дачка̀ да й ту͡олько. Засмуціўса Саліму͡он, го̀дзі балява̀ць, паўёз з ахво̀ты любімую дачку̀ хава̀ць. От убра̀лі яі͡е ў зо̀лато й дарaго̀е адзі͡ене. Апрыч таго̀ Саліму͡он павяза̀ў ёй на шыю дъяманто̀вые па̀церкі, які̀х яшчэ̀ ніхто̀ не ба̀чыў. От адзін чалаві͡ек паба̀чыў на ту͡ой зма̀рлуй зо̀лато й дъя̀мант і заду̀маў то̀е ўкра̀сці. От як пахава̀лі Саліму͡она дачку̀, засыпалі землёю да ўсі͡е разышлі̀са з мо̀гліць, от той зло̀дзей ху̀ценько раскапа̀ў магілу, вы̀цяг дамавіну павѐрх да й хаці͡еў атчыніць ві͡еко, алѐ яно̀ было̀ му͡оцно прыбіто гвазда̀мі. Як ён ні му̀чыўса, нічо̀го не мажэ̀ зрабіць, каб аткрыць ві͡еко. От ён вы̀вернуў з аднаі͡е магілы велізны ка̀мень, прынёс яго̀ да як удырыць па труні͡е, дак ві͡еко й атчыніласо. Зірну̀ў ён, аж дачка̀ Саліму͡она ажыла̀ да й падыма̀ецца з труны̀, бо му̀сіць, як ён удырыў тым ка̀меням, дак ат таго̀ ру̀ху мя̀со ў го̀рле й праско̀чыло й дзеўчына ажыла̀. Не ві͡едаючы, што з ею ро̀біцца й чаго̀ яна̀ лежыць у гэ̀стуй скрыні, пачала̀ яна̀ зваць к сабі͡е таго̀ зло̀дзея, алѐ ён так спужа̀ўса, што не мажэ̀ ні варухну̀цца, стаіць, бы акамені͡еў. От на крык збі͡егліса лю̀дзі, ўба̀чылі ту̀ю дзеўчыну, забра̀лі яі͡е й таго̀ зло̀дзея да й прывелі̀ к Салімо̀ну. Абра̀даваўса ён, што ажыла̀ дачка̀, а як даві͡едаўса, што яі͡е спас той зло̀дзей, та вѐльмі засмуціўса й зразумі͡еў ён, што не яму̀ ву̀чыць бо̀га, бо бу͡ог зрабіў так, што ча̀сам і ліхо̀е ро̀біць до̀брае, што без ліхо̀го, мо й сьві͡ет пераўёўса-б.

Ляву͡он Лебедзік.

Чудзін.

## 8. Хлапѐц удалѐц.

Жылі сабіе дзіед да баба. Пражылі яны нѐмаль усю жытку й не было ў іх дзецѐй. Чаго яны не рабілі, якіх прымхў не спраўляліі, якіх зельеў баба не піла, якіх варажбітўоў не прасіла. Хадзіла яна на прошчам, давала на хвалу божую на цэркаў, на касцѐлы й нават на жыдўоўськую школу. Нічого не памагае. Тўолькі ось ішоў якісь старац да й запачаваў у тых людзѐй. Дала яму баба вечэрацъ, а сама стаіць кала пѐчы да ўздыхае. Зірнўў старац да й пытае, чаго яна ўздыхае. — Як жэ мніе неўздыхаць, калі бўог прагніеваўса на пас за грахі да й не дае нам дзецѐй, — кажэ баба. — Чым-жэ вы яго прагневілі? — А бўог яго святы віедае! Ці-ж мы віедаем, што грыэх, а што не грыэх? Цѐмныіе мы людзі, мўой саколіку. Мы й не віедаем, мо грашымо кўожную часіну. — Уздыхае баба да жаліцца, што німа каму заставіць свае дабро, што не бўдзе каму памінаць іх душачкі, бо ўсіе рўодные паўміралі, тўолькі яны ліпяць. — Не турбўйса, бабко, мо яшчэ бўог змілуецца над вамі да й дась вам дзіетак, — кажэ старац. — Ой, мўой лѐбедзіку, парадзь, што мніе рабіць? — Папасьці, бабко, шчырым постам дванаццаць пъятніц, — радзіць старац. Падзякувала баба таму старцу да й пачала пасьціць шчырым постам пъятніцы. Яшчэ не адпасьціла яна ўсіх пъятніц, як чўецца, што ўже тоўстая. Сказала яна гаспадару. Той здзівіўса, але радуецца разам з ею. От прышоў час і радзіла тая баба хлапчука, да такого малѐнькаго, як міезены палац. Хаць малѐнькі хлапчўк, алѐ-ж віедамо, свае дзіця, гадўе яго баба, піесьціць, просто й не атходзіць ат калыпкі. Узгадаваўса той хлапчўк, пачаў хадзіць да біегаць, стаў такі правўорны да жвавы, што дзіед з бабою й не нарадуюцца на яго глядзячы, тўолькі якім быў малѐнькі, такім і застаўса. Седзяць яны за сталом да сілкўюцца, а хлапчўк біегае па сталу да пераскоквае цѐраз лoжкі. От надаіело яму біегаць у хаці па лавах да па жордках і пачаў ён прасіць бацька, каб паслаў яго на работу. Дўого-



дз͡іед адмаўля̀ўса, нарэ̀шце паслàў ягò ў л͡іес па дрòва. Запр͡уог гэто дз͡іед кабы̀лку ў сàні да й кàжэ: ну, ͡іедзь м͡уой сынòк, пры-везі мàццы дроў. Ускòчыў хлапèц кабы̀лцы ў вỳхо, шапнỳў ёй куды̀ б͡іегці, да й па͡іехаў. Пры͡іехаў ён у л͡іес, дз͡іе былі злòжаны ў высòкі ст͡уос дрòва, падвёў к сàмаму стòсу сàні. Тым чàсам в͡іецер як махнè, дак і вы̀вернуў тỳю дзераўля̀ку, калà якòе быў злòжан ст͡уос, той і абернỳўса прòсто на сàні. Шапнỳў хлапчỳк кабы̀лцы ў вỳхо, а тàя й павезлà дрòва ў вёску прòсто на св͡уой дв͡уор. Падзівіліса дз͡іед з бàбою да й кàжуць: хаць малы̀ хла-пèц, да ўдалèц. Ї празвàлі ягò з тых чàсаў хлапèц удалèц. От пашòў раз дз͡іед у л͡іес па грыбы̀ да ўзяў з сабòю й хлапчукà. Пакỳль дз͡іед убàчыць грыба з высòка, дак хлапèц удалèц ужэ й знайдзе да й цягне ў каш͡ыэль. Назьбірàў ён грыб͡уоў пòвен ка-ш͡ыэль, так што дз͡іед чуць плішчыць. Тым часам пан вы̀шаў ў л͡іес на палявàне да й сустракàе тагò дз͡іеда. От пан суня̀ўса да й пытàе, ці мн͡уого назбірàў дз͡іед грыб͡уоў. — Нічòго, панòчку, — адмаўля̀е дз͡іед. Тут пан падыш͡уоў к дз͡іеду, гля̀нуў у каш͡ыэль да й кàжэ: — што-ж ты хлỳсіш, стары̀ псюка, а гэто-ж хто назбі-рàў? — Гэто м͡уой хлапчỳк, — кàжэ дз͡іед. — Дз͡іе-ж ён? — Ой, сцеражы̀са, панòчку, — закрычàў дз͡іед, — бо затòпчэш майгò хлапчукà. — А яж думаў, што гэто грыб. — Узя̀ў пан хлапчукà к саб͡іе на далòню, а той і давàй там скакàць да вычварàць уселя̀-кі͡іе штỳкі. Вèльмі спадабàўса пàну той хлапчỳк. От і прòсіць ён, каб дз͡іед аддàў ягò ямỳ на слỳжбу. Нехап͡іеў аддавàць дз͡іед, алè хлапчỳк шапнỳў ямỳ, каб не бая̀ўса, бо ён хỳтко вèрнецца. Напя̀ў пан тагò хлапцà ўдальцà, даў за ягo дз͡іеду сто рублёў да й панёс дагаспòды. Паказàў пан ягo пàні, а тàя дзівіцца й з рук ягo не пускàе. От сабрàў пан мн͡уого гасцèй, каб яны̀ падзівì-ліса на тагò хлапчукà. С͡іелі яны̀ за ст͡уол. В͡іедамо паны̀, пьюць, едзя̀ць, балю̀юць саб͡іе да дзівяцца, як хлапчỳк скàчэ на стал͡іе. От скакàў ён да скакàў памiж тал͡іерак, пòтым ускòчыў да давàй скакàць на пàньськіх лысінах. Крычàць паны̀ да абганя̀юць ягò як мух. Але ён скàчэ, бы ск͡уочка ат аднагò пàна да другòго, ат адна͡іе пàні ці панèнкі да другò͡іе. Спалòхаўса пан да й прагнàў

яго̀ з стала̀ на ду͡ол. От размау̀ляюць сабі͡е паны̀ да па̀ні а ту͡ом, а сём, а хлапчу̀к ціхенько забра̀уса к па̀ні пад су̀кню да й дава̀й там слыката̀ць. Раго̀чэ па̀ні, аж пу̀каецпа ат смі͡еху, а у̀сі͡е пазіра̀юць да дзівяцца, чаго̀ яна̀ раго̀чэ. Ужэ̀ ду̀малі яны̀, што яна̀ памеша̀ласа. Алѐ ось па̀ні схапіла сваю̀ су̀кню да й задра̀ла ‘яі͡е да вѐрху, каб абараніцца, бо яна̀ ду̀мала, што там мыш. Алѐ ось аттуль вы̀скачыу̀ той хлапчу̀к. Абазлі̀уса пан і дава̀й яго̀ чва̀ліць саба̀камі. Спусцілі саба̀к цы͡элую сво̀ру, яны за хлапчуко̀м, а той ускочыу̀ на ката̀ да й трыма̀ецца за шэрсць. Саба̀кі за като̀м, а той ускочыу̀ на дзѐраво, з таго на другое да за плот і у̀цёк у по̀ле. Саско̀чыу̀ хлапѐц маладзѐц з ката̀, абернуу̀са верабъём да й прылеці͡еу̀ к ба̀цьку й матцы. Ра̀ды стары͡іе, што сын вернуу̀са даму͡оу̀ і не зна̀юць, чым яго̀ паці͡ешыць. От ба̀ба спекла̀ яѐчню, навары̀ла са̀ла да й частуе сынка̀, бы го̀сця, а ён дзюбануу̀ крыху̀ да й го̀дзі, бо ві͡едамо, ку͡ольки яму̀ трэ, мо меньш як верабъю. Алѐ стары̀ ка̀жэ: ось мы паі͡едзем у мі͡есто, неха̀й ён сам сабі͡е вы̀берэ гасьцінцы. Сказа̀у̀ стары̀ да запру͡ог сваю̀ кабы̀лку да й паі͡ехау̀ з хлапчуко̀м купля̀ць яму̀ гасьцінцы. От і͡едуць яны̀ да й сустрака̀юць якого̀сь па̀на. Хлапчу̀к і ка̀жэ ба̀цьку: я абернуса вы̀жлам, ты прада̀й менѐ па̀ну, ту͡олькі не аддава̀й ланцужка̀, та я зноу̀ вернуса. Перакінуу̀са ён, абернуу̀са вы̀жлам да й бежы̀ць за во̀зам. Уба̀чыу̀ пан, што гэто вѐльмі харо̀шы вы̀жал да й прыста̀у̀ к старо̀му, — прада̀й да прада̀у̀. Злупіу̀ стары̀ з па̀на за вы̀жла до̀брые гро̀шы, зняу̀ ланцужо̀к да й адда̀у̀. Ту͡олькі тро̀хі адъі͡ехау̀ пан, аж з ло̀му вы̀скачыу̀ за̀яц. Вы̀жал за тым за̀йцам цѐраз паля̀нку да у̀ кусты̀, да у̀ лі͡ес і прапа̀у̀. Зваў, зваў пан, шука̀у̀, шука̀у̀ вы̀жла, а таго й слі͡ед прасты̀у̀. Не так яму̀ шко̀да гро̀шэй, як таго̀ саба̀кі, алѐ нічо̀го не пара̀дзіш, — паі͡ехау̀ сваѐю даро̀гаю. Тым ча̀сам вы̀жал дагна̀у̀ старо̀го, обернуу̀са хлапчуко̀м да й седзіць на во̀зе. Ось пры͡іехалі яны̀ у̀ мі͡есто, вы̀брау̀ сабі͡е хлапчу̀к до̀брую адзѐжу, бо̀ты да ша̀пку й накупіу̀ усяго̀, што трэ хло̀пцу. — На што табі͡е така̀я вялікая адзѐжа? — пыта̀е ба̀цько сы̀на, — калі̀ ты сам ось які̀ малѐнькі, — пака̀звае стары̀ сву͡ой мі͡езены па̀лац. Тут сын абер-

пу̑уса ў такого малайца̀, што ту͡олькі ў ка̀зцы сказа̀ць. Убра̀ўса ён у ту̑ю адзѐжу, накупіў ба̀цьку й ма̀тцы ру͡озных пада̀рункаў, да й па͡ехалі яны̀ да гаспо̀ды. Ху̀тко высватаў ён сабі͡е са̀мую го̀жую дзі͡еўку, а за не до̀ўгім ча̀сам яны̀ й набра̀ліса. Спра̀вілі бацькі̀ свайму̀ сы̀ну вѐльмі гу̀чнае весі͡ельле да й пачалі̀ баля̀ваць. Аж ось і прыхо̀дзіць на весі͡ельле той са̀мы ста̀рац, што пара̀іў ба̀бе пасьціць двана̀нцаць пьятніц. Пазна̀ла яго̀ ба̀ба да й злека̀ласа.—Не бу͡ойса, ба̀бко,—ка̀жэ ста̀рац,—а закажы̀ другім, каб яны̀ пьятніцу пасьці̀лі да паважа̀лі, а сам і зьнік. Мо пьяну̑й ба̀бі͡е то̀е прычу̀дзіласо, а мо й пра̀ўда. Дак от які̀е здарэ̀не.

Ляву͡он Лебедзік.

Чудзін.

## 9. Неха̀й так бу̀дзе.

Служы̀ў сабі͡е у ваднаго̀ гаспадара̀ малады̀ да вѐльмі ўда̀лы хло̀пец. З маленства аста̀ўса ён сірато̀ю да так і вы̀гадаваўса на чужы̀х лю̀дзях. Ця̀жко было̀ яму̀ служы̀ць, ця̀жко глядзі͡еці у чужы̀ рот да чака̀ць, паку̀ль і яму̀ даду̀ць асу̀шак хлі͡еба, ці пагры̀сці якую-нѐбудзь ку̀бсьць. Нарэ̀шце ён пача̀ў служы̀ць у ваднаго̀ вѐльмі бага̀таго гаспадара̀. А ві͡едамо, калі̀ мужы̀к бага̀ты, та ён гары͡эй пага̀ны да скупы̀, а калі̀ не сам, дак яго̀ жу͡онка. Ліхо было̀ таму̀ па̀рабку ў бага̀таго гаспадара̀, да нехаці͡еласо яго̀ накіда̀ць, бо ў яго̀ была̀ вѐльмі го̀жая дачка̀, што так спадаба̀ласа, як ніхто̀ на сьві͡еці. Як ні ця̀жко па̀рабку, як не і͡есь яго̀, не пілі̀ць пага̀ная гаспады̀ня, а ён слу̀жыць, ро̀біць дзі͡ело бы чо̀рны ву͡ол да яшчэ̀ гра̀е на скры̀пацы, ці паѐ сабі͡е так го̀жэ, што ту͡олькі заслу̀хацца. І закаха̀ласа ў яго̀ хаджа̀йская дачка̀. Ві͡едамо, малад̀ось, не лядзіць на то̀е, што ба̀цько да ма̀ці не аддаду̀ць яі͡е за безду͡омнаго парабчука̀, ў като̀раго й парто̀к сваі̀х німа̀, а лядзіць на ўро̀ду да слу̀хае яго̀ пі͡есьні, ці йгру на скры̀пцы. От злюбі̀ліса яны̀, да то̀яцца ат бацьку͡оў,—ба̀яцца, каб ты̀е не прагна̀лі па̀рабка. Сустры͡энуцца яны̀ на йгры̀шчы,

ці абыдзіе пры людзях, дак дзеўчына таго парабка к сабіе й блізко не падпускае: чмыхане да й атвернецца. Алеш кажуць, што шыла ў мешку не схаваеш, так і кахане людзі заўжды пранюхаюць. От пашлі бабы сакатаць, што багача дзіеўка любіцца з тым парабкам. Дачуласа маці да й пачала ў яіе дапытоўвацца. Крупіла дзіеўка, крупіла, а парэшце й прызналаса мацы. Яна думала, што матка не вораг ля свайго дзіцятка, да й ашукаласа: тая сказала бацьку. А ён быў вельмі хітры мужык. Нічого ён не сказаў дзіеўцы, а штось задумаў. Мо цераз тыдзень, ці цераз два пасылае ён парабка на плыты — мо аж у самы Кралевец. Цяжко парабку раставацца з дзеўчынаю, але німа чаго рабіць, трэ слухаць, бо як папнуса, дак бы запрадаўса. Пагнаў ён плыты да й узяў з сабою сваю скрыпачку. Гоніць плыты, утоміцца, от ён сядзе на калодзе, пайграе трохі, дак і сам аддыхае, да й у другіх ульё сілы. От і зноў яны хопяцца за работу, дак плыты бегуць уперад, тульки бурчаць. Хучыэй усіх загналі яны сваіе плыты, а за тое далі ім буольш грошэй. І пачалі яны купаваць сабіе гасьцінцы: хто шапку, хто чобаты, хто пояс, хто люльку, ці што другое, а той хлопец пашоў на кірмаш, сустрыэў там вельмі біеднаго старца да й аддаў яму ўсіе сваіе грошы. Падзякуваў той да й кажэ: бачу, што ты й сам біедны, а не пашкадаваў мніе даць апуошняе, дак за тое я дам табіе, што я маю. От муой саколе, што-б ты ні рабіў, ці неўбачыў, да як скажэш — пехай так будзе, та яно гэ й зробіцца. Падзякуваў той парабак за добрае слово да й пашоў да гасподы.

Тым часам пакуль ён гнаў плыты, гаспадар хучыэй намовіўса з жуонкаю да й пачалі та просьбаю, та гросьбаю прымушаць сваю дачку, каб яна йшла замуж за таго багача, што пачаў заляцацца. Што яна ні рабіла, як не ўбіваласа, чуць на себе рук не налажыла, парэшце мусіла ніби згадзіцца, тульки весіелле ўсе атскладвала, каб прыждаць свайго ненаглядного да хаць яшчэ разік зірнуць яму ў вочы. Знаюць бацькі, што плыты хутко не пагоніш, што парабак яшчэ не хутко вернецца, дак яны й не рабілі яшчэ ладу. — Нехай, — думаюць, — дзеўчына буольш па-

знаё̀міцца з сваі̀м жапіхо̀м. — Хо̀дзіць той да дзеўчы̀ны ку͡ожын дзень, но̀сіць ёй уселя̀кі͡іе падару̀нкі да ўсе наро̀віць, каб з ѐю пераначава̀ць, алѐ дзеўчы̀на й слу̀хаць не хо̀чэ. — Неха̀й, — ка̀жэ, — тагды̀, як ко̀су расплету̀ць. — А сама̀ й зальѐцца слё̀зкамі, лежы̀ць у клѐці да пла̀чэ, аж разліва̀ецца, а жапі̀х стаі̀ць пад клѐцью кала̀ дзверэ̀й да про̀сіцца, каб яна̀ ўпусці̀ла хаця̀ ў кл͡іецць. От раз ён гэ стая̀ў кала̀ клѐці, аж той парабчу̀к неспадз͡іенкі верну̀ўса да гаспо̀ды да хуч͡ыэй і паб͡іег у кл͡іець да сва͡іе дзеўчы̀ны. Зірнѐ ён, аж хтось стаі̀ць; і паду̀маў ён, што гэто злодзей. — Ну, — ду̀мае, — сту͡ой. — Да й ка̀жэ ціхенько: неха̀й бу̀дзе так. Як ту͡олькі ён гэто прамо̀віў, дак той бага̀ч і прыліп да клѐці, ба̀цэ прыру͡ос. Нарабі̀ў парабчу̀к кры̀ку, зб͡іегліса лю̀дзі, пачалі̀ таго̀ багача̀ атрыва̀ць ат клѐці, да нічо̀го не пара̀дзяць. Даў бу͡ог дзень, пашлі̀ бацькі̀ прасіць папа̀, каб прышоў з сьвято̀ю вадо̀ю да пакрапі̀ў таго̀ жаніха̀, та мо яму атро̀біць. Прышо̀ў пу͡оп зь дзяко̀м туды̀. Паблагата̀ў, паблагата̀ў пу͡оп, пакрапі̀ў сьвято̀ю вадо̀ю да й узя̀ўса за таго̀ багача̀, каб атарва̀ць яго̀ ат клѐці, а парабчу̀к ціхенько й шэпчэ: неха̀й так бу̀дзе, от і пу͡оп прыру͡ос. Дачу̀ласа мату̀лька, бежы̀ць ратава̀ць папа̀ да й сама̀ прыста̀ла к яму, бы прырасла̀. Су̀нуліса туды̀ бацькі̀ та͡іе дзеўчы̀ны да хро̀стная ма̀тка багача̀, алѐ ўс͡іе там і застал̀іса. Дагада̀ліса людзі, што гэто ўдз͡іеяно да й паб͡іеглі па ба̀бу-шапту̀ху, што ўселя̀кі͡іе ча̀ры атрабля̀ла. Усхапі̀ласа баба, зьл͡іезла зь пѐчы да хуч͡ыэй пашла̀ туды̀. Кандыба̀ла яна̀ пѐраз грэ̀бельку на загумѐчы на кла̀цы, пасьлізну̀ласа да й упа̀ла ў во̀ду. От яна̀, каб не замачы̀цца, падняла̀ андара̀к да саро̀чку аж да по̀яса да й прыдзѐ. Зірну̀ў на я͡іе парабчу̀к да шапну̀ў, — неха̀й так бу̀дзе, — дак ба̀ба й не мажэ̀ апусьці̀ць сву͡ой паду͡ол да так і кандыба̀е кала̀ гумна̀. А ў гумн͡іе чалав͡іек зсыпа̀ў шу̀плям збу͡ожэ, зірну̀ў ён праз варо̀та да як убачы̀ў ту̀ю ба̀бу, што й сарама̀ ёй німа̀, дак вы̀скачыў з гумна̀ да й плясь шу̀плям ба̀бу па аза̀дку. — Неха̀й бу̀дзе так, — шапну̀ў па̀рабак, от шу̀пель і прыста̀ў да ба̀бы. Рагочуць людзі з та͡іе ба̀бы, аж пу̀каюцца да ка̀жуць, што ось і нев͡іеста прышла̀ к таму̀ бага̀таму жаніху̀. Нац͡іешыўса па-

рабчук да й адрабіў тое. От пуоп і кажэ бацькуом тые дзеўчыны, што гэто буог пакараў за тое, што яны прымушалі сваю дачку йці замуж за нелюбаго, — бо, — кажэ, — туолькі там буог, дзіе любоў. — Па немалум часе парабчук і тая дзеўчына набраліса да й зрабілі лад. Было гучнае весіельле, усіе веселіліса да радуваліса, на маладых глядзячы, туолькі адзін той багаты пукаўса ат злосьці.

Лявуон Лебедзік.

Чудзін.

## 10. Чорт перарабіў.

Было гэто тагды, як яшчэ буог туолькі тварыў сьвіет. Зтварыў буог нёбо й зёмлю, наставіў ясное сонейко, каб яно сьвеціло ў дзень да грыэло зёмлю й уселякае жыўёло да расьліну. Сьвіеціць да грыэ яно й радуе уселякае стварэне. Схаваўса чорт ат сонейка пад зёмлю ў пекло да ціхенько й пазірае аттуль. Але ось утамілосо сонейко за дзень да й спусціласо за зёмлю трохі аддыхаць, і стало цёмно на землі, хаць ты воко выкаль. Бачыць чорт, што на землі стало цёмно, вылез ён з пекла да й пашоў перараблять тое, што буог зрабіў. Ідзе ён праз ліес, вывароочвае дзераўлякі да грабе ат злосьці лапамі зёмлю й навыгрыэбаў ямы да панасыпаў гуоркі. Пабіегла вада ў ямы, от і зрабіліса там выжары, пелі да такая тхлання, што й не пралізьці. Трапіў ён у дзераве слепат, паглядзіеў, што пчолы збірають мёд на патрэбу людзям, да вуоск на хвалу божую, от ён наплеваў у дуплё, дак аттуль і высыпалі шаршні да восы да й пачалі яго рыэзаць, пачалі слепіцаю ліезьці ў вочы. Схапіў ён жменю віеця, ашмаргнуў ліс це да давай махаць, давай абгапяцца ат шаршнёў і вуос. Як марськанё ён руоскамі, дак і паразсекае шаршнёў і вуос на друобныіэ куски, а з тых парабіліса мошкі, камары да уселякі гнюс. Грызе ён чорта, аж на ём шкура пукаецца. Абганяўса ён, абганяўса, выскачыў на поле да давай хватаць да сыпаццa пескам. Падае песок на зёмлю, а зь яго й прарастаюць уселякіе паганыіе

зельѝ. Так насіеяў ён гэстаіе пòшкудзі па ўсёй землі, алè ніельга ямў абараніцца ат гнюса, от і схавàўса ён у вòду да й зрабіў сабіе там лагвò. Пагнàўса гнюс за чòртам, лётае над вадòю, алè не мажэ ягò аттўль вы̀курыць. Паседзіеў чорт там да й запагàніў усю вòду, пакўль людзі не пачалі свяціць яіе да выганяць аттўль чòрта. Убàчыў бўог, што зрабіла пагàная сіла, пашкадавàў, што сатвары̀ў тўолькі аднò сòнейко, катòрае немажэ заўжды сьвеціць на нèбе, да й даў ямў на пòмач міесяц, каб ён сьвеціў у нўочы. Убàчыў тòе чорт да й дўмае сабіе: пачакай-жэ, я ягò зґры̀зў ці саўсім скіну зь нèба. Палеціеў чорт к міесяцу да й пачàў зь ім барукàцца да гры̀зьці ягò зубàмі. Гры̀зè, гры̀зè, от ужэ здаèцца астàўса тўолькі вўзенькі агры̀зачак. Бàчыць міесяц, што ямў цяжко барукàцца з чòртам, от ён памалèньку ўсе атступàе к сòнейку, каб янò абаранілo ягò ат чòрта. Тым чàсам чорт от ужэ здаèцца пракаўтнè й апўошні агры̀зак міесяца, як той падыдзе к сàмаму сòнейку. Не вы̀трымае чорт сьвіету сòнейка да й пўсьціцца наўцекачà. Тым чàсам сòнейко пахўкае на міесяц, пагры̀зе ягò сваім бляскам, і той зноў памалèньку пачнè ачуняць да абрастàць ціелам да йці на сваè міейсцо, каб сьвеціць у нўочы. Так заўжды міесяц дзьвіе педзіельки расьцè да набірàецца сілы, а дзьвіе педзіельки барукàецца з чòртом.

Лявўон Лебедзік.

Чудзін.

## 11. Сусіецкая спрàва.

Былà адзін рўок вèльмі цяжкая зімà. Пèршы сьнег вы̀паў скòро пòсле Ўзьвіжаня да так і астàўса лежаць, а на Пакрòвы ўжэ стàла сусім зімà. Да хвацілі, чўеце, такіе марòзы, што хаць ты дванàццаць лы̀сых лічы̀. Не былò ні адніаіе адліегі, трымàе траскўн, кўожын дзень такàя кўдаса, што хаць з пèчы пе ліезь. На двўор ніельга паказàць пўос. Тут ужэ блізко Благавіешчаніе, а гўры рўоўно з харòмамі. Не хапіло ў людзèй гаўяду сіена, бо ліецячко былò карòткае да такòе гарàчае, што ўсе вы̀гарало.

Сепажа̀ці яшчэ̀ пѐрад Іва̀нам пачарні͡елі бы земля̀. Мо' яшчэ̀ да калѝд страві̀лі не то, што сі͡ено, алѐ ўсю заваля̀шчую саломы. Ужэ на Ула̀са лю̀дзі пазьдзіра̀лі стры͡эхі на корм, алѐ нічо̀го не пара̀дзяць, — гаўя̀до равѐ гало̀днае да хапа̀е сьні͡ег. От пачалі̀ лю̀дзі сі͡екці то̀нкае ві͡еце, ва̀зіць яго̀ зь лі͡есу да дава̀ць гаўя̀ду. От гэ біліса лю̀дзі, каб дачака̀ць цеплà да вы̀гнаць го̀вядо на па̀шу. Былі̀ тут і бага̀тые лю̀дзі. Яны̀ мі͡елі мну͡ого сі͡ена до̀ма й у стажку͡ох на бало̀це, алѐ яны̀ не хаці͡елі прадава̀ць, як іх ні прасі̀лі сусі͡едзі, бо, ка̀жуць, і нам не хо̀піць да весны̀. От аслабі͡елі ў адна̀го чалаві͡ека каро̀вы да ўжэ саўсі̀м здыха̀юць з го̀ладу. — Пайду̀, — ду̀мае к бага̀таму сусі͡еду Нічы̀пару; папрашу хаць берэме сі͡ена. — Ві͡едамо, — сусі͡едцкая спра̀ва, — трэ памага̀ць у бедзі͡е адзі̀н другѝму. От прышо̀ў ён да й про̀сіць: Нічы̀пар, браткò, атступі̀ хаць аха̀пак сі͡ена, а то гаўя̀до до̀хне. — Трэ было̀ ў лі͡етку завіха̀цца, а не ў ценьку̀ прахладжа̀цца, — ка̀жэ той. — У менѐ й сабі͡е не хо̀піць. Усяму̀ сьві͡ету не надаѐшса, — замармыта̀ў Нічы̀пар, насу̀нуў на во̀чы ша̀пку да й папъѐрса сабі͡е ў гумнò. Паста̀яў той бі͡едны чалаві͡ек, штось успаменуў, яшчэ̀ раз сказа̀ў — сусі͡едцкая спра̀ва — да й пацѐгса да гаспо̀ды. Даў бу͡ог вѐчар, от ён ціхенько запру͡ог валу͡оў, паі͡ехаў на бало̀то, дзі͡е была̀ Нічы̀пара сепажа̀ць, накла̀ў ву͡оз сі͡ена да й прыплі̀шчыў даму͡оў. — Сусі͡едцкая спра̀ва, — ка̀жэ ён сам сабі͡е, — нехай бу͡ог прабачыць.

Мо' прайшло̀ з ты̀дзень, прыхо̀дзяць к Нічы̀пару лю̀дзі прасі̀ць сі͡ена бы згавары̀ўшыса. — Ото-ж прыста̀юць бы смала̀, — ка̀жэ ён сам сабі͡е, — атступі̀ да атступі̀. Сусі͡едцкая спра̀ва. А са̀мі што рабі̀лі ўлі͡етку? Чаму̀ не накасі̀лі бу͡ольш? — Тут ён схамену̀ўса, што даўно̀ не быў на бало̀це. — Трэ паглядзі͡ець свайго̀ стажка̀. А то лі͡епш забра̀ць даму͡оў, а то яшчэ̀ хто ўкра̀дзе... Атступі̀. Трэ', каб да Юр'я было й у ду̀рня. Алѐ ў менѐ пѐўне хо̀піць і да Міко̀лы. А той стажо̀к трэ' забра̀ць. — І пашо̀ў ён запрага̀ць валу͡оў.

Седзі̀ць сабі͡е Нічы̀пар развалі̀ўшыса на са̀нях да пага̀няе валу͡оў, а тут страча̀е на даро̀зе, як лю̀дзі згры͡эбаюць по̀валач

да складваюць у рэдзгіны, каб прынесьці дамоў хаць ахапачак сена. Нічыпар едзе да толькі пасмейваецца сабе. — Ото-ж пазавідуюць суседзі, — думае ён, — як убачаць, што я везу зелёненькае сенцэ, бы рута. — От ён выехаў з лесу на чыстае балото. — Атсюль павінно быць блізко да маіе сенажаці, — думае Нічыпар. — Алè зімою мейсцовась так меняецца што й не пазнаць. А мо заблудзіўса. Алè, здаецца, ніе. Эгэ-ж ніе. Ось і верба, а там куст лазы. Тут калодзісік, радам бабравіна. Онь і гаек. Што за дзіво! Дзіе-ж мой стажок. Ой, кроўная гадзіна, куды-ж ён дзіеўса!? От Нічыпар супыніў валы, злез з саней і пачаў шукаць тое мiейсцо, дзіе павінен быць стог сена. Не доўго ён шукаў, церaз двадцать ці мо трыдцать крокаў убачыў ён толькі кол, а сьцежар занесло снегам. — Я-ж горкі да нешчасны, — закрычаў Нічыпар, — прапала-ж мая галоўка! Гэто-ж укралі мае сено. Да бадай-жэ цебе забралі немачы, да бадай-жэ ты выхвараў да выстагнаў!.. Мо' з паўгадзіны лаяўса да праклінаў Нічыпар таго, хто забраў яго сено. Нарэшце кажэ: Пана клівуць, а ён таусціе. — Плюнуў тут Нічыпар сабе на бораду да й падышоў к сьцежару. Зірне ён, аж у анучцы к калу штось прыўязано. Адвезаў ён, аж там папірак. Забраў ён той папірак за пазуху да й папхаўса дамоў з пустымі санямі. — Куды ты, Нічыпар, езьдіў, што нічого не везеш? — пытаюць людзі. — Да от хтось, хварыэць яго матары, украў мае сено на балоце. — Тут Нічыпар дастаў з-за пазухі папірак да й дае чытаць. Нашоўса тут граматніей, той самы бедны чалавек, што прасіў у Нічыпара сена, разгарнуў ён папірак да й прачытаў: Мая жонка Варка. Касіць сено было жарка. Я паклаў на воз да й паўёз. Прывезьці была забава, бо гэто суседкая справа. — Эгэ-ж суседкая справа, — сказалі мужыкі да й пакаціліса ат сьмеху. — Нічыпар, гэто-ж у цебе жонка Варка, дак от табе й зімою жарка. —

Лявон Лебедзік.

Чудзін.

## 12. Сьвяты̀ чалаві͡ек.

Жыў дау̀ні͡ей на земл̀і сьвяты̀ чалаві͡ек. Жыў ён не то, што багàто й не сау̀сім бі͡едно, а так сабі͡е, як бу͡ог даў. Е хлі͡еб, та і͡есь, а немàшака, та й так абойдзецца. Жыў ён у вѐсцы на сàмум канцы̀. Хто ні йдзе, та к яму̀ захòдзіць нà нач. Усìх то ён прымàе, дòбрым слòвам прывітàе, накòрміць, напòіць, чым мàе, чàсам квàсам, а чàсам вадòю, да не бедòю. Паважàюць да кахàюць ягò старцы̀ ўбòгіе да лю̀дзі падару͡ожные, бо лю̀біць увѐсь сьві͡ет лагу͡одны прыві͡ет. Прышòў к яму̀ раз убòгі старэнькі храмѐнькі, пасілкавàўса, пераначавàў да й збірàецца ў дарòгу. — Аддыхàй, бòжы чалаві͡ечэ, — кàжэ яму̀ той сьвяты̀ чалаві͡ек, — даў бу͡ог недзі͡ельку, пу͡ойдзем у цэркву. — Падзя̀куваў той стàрац да й астàўса. Пашлі̀ яны̀ рàзам у цэркву малìцца бòгу, пакỳль бàба згатòвіць абі͡ед. А цэркаў была̀ за ракòю. Ві͡едамо, якіе на ўѐсках масты̀: зімòю бу͡ог мòсьціць, а ў лі͡етку вадà высыхàе, та й бру͡одзькі му͡ожна перайці̀. Падышлі̀ яны̀ к рацы͡э да й спускàюцца з бѐрага к вадзі͡е. Пля̀снуў стàрац па вадзі͡е сваѐю кавенёю, от вадà й расступìласа да сàмага дна. Перайшлі̀ яны̀ па сухòму дну на другì бѐраг, от і пазнàў той сьвя̀ты чалаві͡ек, што гэто не прòсты стàрац, а сьвяты̀ ўгу͡однік бòжы. От ён пакланìўса яму̀ да сàмаі͡е зѐмлі да й кàжэ: — я бàчу, што ты сьвяты̀ угу͡однік бòжы, не стòю я тагò, каб рàзам з табòю йці ў бòжую цэркву. Ідзì ты адзìн, а я хаця̀ пастаю ў дзверàх. — За тòе, што ты такì ціхі пѐрад бòгам і пѐрад людзя̀мі, даў табі͡е бу͡ог му͡оц— сказàў той стàрац і зьнік. Улі͡ез той сьвяты̀ чалаві͡ек у цэркву адзін, памалìўса Бòгу да й хаці͡еў іці̀ да гаспòды, ту͡олькі зірнуў ён у вадзìн вỳгал, аж там стаìць два страшэнных чарту͡оў; трымàюць яны̀ валòвую шкỳру да запісваюць на ёй тых людзѐй, што ў цэркві не мòляцца з шчырым сэрцам, а дỳмаюць пра сваѐ гаспадàрку й тым гры͡эшаць бòгу. Падышòў ён к чарця̀м, а тые як атскòчаць ат ягò, дак чуць не парвàлі тỳю шкỳру. Перахрысціўса ён да й вышаў з цэркві. Ідзѐ ён калà людзѐй, здымàе пѐ

рад ìмі шàпку да ківàе галавòю, як зàўжды вітàўса, алè тые ягò не бàчаць і йдỳць сабі͡е, быццам тут нікòго немàшака. Здзівіўса ён і пашòў к рацы͡э. Падышòў ён к вадзі͡е й хаці͡еў брысьці ўбру͡од, алè нòгі йдуць па вадзі͡е, бы па лёду. Прышòў ён даму͡оў саўсім сухі. Здзівілаcа жу͡онка, чамỳ ён сухі й дзі͡е ён быў, чамỳ не хадзіў у цэркву. Сказàла янà аб ту͡ом сусі͡едцы, а тàя другу͡ой, другàя трэйцюй. Так зàрас даві͡едалаcа ўся ўёска, што святы чалаві͡ек перастàў хадзіць у недзі͡ельку ў цэркву. Прайшлò так мо' ку͡олькі недзі͡ель і пачалі людзі казàць, што мàбыць гэто гры͡эшны чалаві͡ек, калі мы нікòлі не бàчым, каб ён хадзіў у цэркву маліцца бòгу. А ён як хадзіў, так і хòдзіць, ту͡олькі ну͡ог не мòчыць да й ніхтò ягò не бàчыць. От прыхòдзіць гэтак ён у цэркву да й зноў бàчыць, як чэрці запісваюць люцкіе грахі па валòвуй шкỳры. Сьпісàлі яны ўсю валòвую шкỳру, а ўсіх граху͡оў немòгуць зьмі͡есьціць, от давàй яны расцягваць тỳю шкỳру. Учапіліса яны за шкỳру рукàмі й зубàмі да й цягнуць з усіх сіл той к сабі͡е, а той к сабі͡е. Як напьяўса адзін чорт, дак не вытрымаў і зрабіў пшык. Пачуў тòе святы чалаві͡ек да як зірнỳў, як чэрці крыўляюцца, пнỳцца ат натỳгі да аж прысядàюць да залỳпліваюць хвасты, дак такі ягò апанавàў сьмі͡ех, што не вытрымаў да й усьміхнỳўса сабі͡е ў бòраду. Мо' гэто чарты зрабілі знару͡ок, каб спакусіць сьвятòго чалаві͡ека. От ту͡олькі ён усьміхнỳўса, як адзін чорт шамеляг да й запісàў ягò на валòвуй шкỳры. — Ну, — дỳмае святы чалаві͡ек, — такі папàўса на зỳбы гэстуй пòгані. — От вышаў ён з цэркві, пачàў сустракàць знаёмых людзèй да вітàцца з імі, тые здымàюць шàпкі да й пытàюць аб здарòвейку. — А мы цебè, — кàжуць яны, — даўнò не бàчым у цэркві. Мы дỳмалі, што ты захвары͡эў. — От падышòў ён к рацы͡э, пачàў перахòдзіць цèраз яі͡е ўбру͡оцькі да й замачыўса нèмаль па сàмы пòяс. Дагадàўса ён, што гэто саграшыў Бòгу тым сьмі͡ехам. Зірнỳла бàба, што ён увèсь забрындàўса да й дагадàласа, што пèўне хадзіў у цэркаў. Шапнỳла янà аб ту͡ом сусі͡едцы, тàя другòй, другàя трэйцюй і хỳтко нèмаль уся ўёска загаварыла, што святы чалаві͡ек дзесьвіцелно святы, бо зноў хòдзіць у цэркву. Ві͡едамо,

людзі заўжды туолькі тагды лічаць чалавіека сьвятым, як ён са-грашыць, бо сэрцэ чалавіека — пацёмкі, яго совесьці ніхто не бачыць, апрыч бога

Лявуон Лебедзік.

Чудзін.

## 13. Упартая жанчына.

Былі ў бацькі да ў маткі тры дачкі; дзьвіе ўдалыіе да ста-рэнныіе, а трэйцяя хаць гожая як макаў цьвіет, але такая ле-нівая да сварлівая, што мо' такоіе й сьвіет не бачыў. Набраліса зь ею бацькі клопату: ні ў людзі не аддаць, ні ў себе дзержаць. Віедамо, які гэто тавар, што як сьвіежаго не прадаў, та ліепш бы й не маў. Падрасьлі ўдалыіе дзеўчата, дак іх наперабуой пачалі сватаць да й пабралі замуж. А тая ўпартая дачка асталаса се-дзіець у бацькуоў на карку. Але яшчэ гарыэй усяго тое, што зь ею німа ніякаго зладу, што схочэ, тое робіць, а не схочэ, дак бы тая наравістая кабыла, што ні ўзад, ні ўпёрад. Нагараваліса зь ею бацько з маткаю, але нічого не парадзяць, бо, віедамо, сваё дзіця не кацяня, — за плуот не выкінеш. Седзіць яна ў дзіеўках, а ніхто й не думае пасылаць к ёй сватуоў, бо ўсеіе добрэ давіе-даліса, якая гэто цаца. Туолькі ось быў там адзін багаты да вельмі харошы чалавіек. Ён рано аўдавіеў, але не жаніўса другі раз, бо вельмі муоцно кахаў сваю жуонку. Быў у яго адзін-адзі-нюсенькі сын, гэтак дзецюк гадуоў пьятнаццаці, ці мо' буольш. От і думае бацько, — нехай ужэ падрасьцё сын да жэніцца, та й будзе ў нас хаджайка, а я й так дабуду віеку. — Вырас сын, ужэ пара-б яго й жаніць. Гожы хлопец; паслушны, старэнны, да не хочэ маладым жаніцца. Яго равесьнікі туолькі тое й робляць, што дражняцца з дзеўчатамі, а ён туды й не пазірае. А дзеўкі дужа любілі яго, хаць ён іх не чапаў. Пачалі бабы сакатаць, што за таго хлопца пуойдзе самая ліепшая дзіеўка, абы туолькі ён яіе браў. Кепсько жыць без гаспадыні, бо праўду-ж кажуць людзі, што гумно плачэ без гаспадара, а хата без гаспадыні.

І пачаў той чалавіек гаварыць сыну, каб ён наглядаў сабіе дзіеўку. — Я ўжэ даўно наглядзяў, — атказвае сын, — туолькі баюса, што ты, бацько, не схочэш. — А той думаў, што сын выбраў сабіе харошую дзіеўку да й кажэ: — Чаму я не схачў? Табіе, сынок, с жуонкаю жыць і віек векаваць, а не мніе. Выбірай, якая люба, а я цебе змушаць не буду. — Ну, дак от, бацько, пасылай сватуоў к туой дзіеўцы, што ўсіе людзі цураюцца. — Здзівіўса той чалавіек, але німа чаго рабіць, — згадзіўса на выбар сына, але ўсе-ж думае, атгаварыць сына, каб ён не рабіў глупства. — А ты віедаеш, якая яна наравістая? — Віедаю, затым і хочу яіе ўзяць, бо наравістыіе сьвіетам ўладаюць, а пакуорныіе да ціхііе ніколі шчасьця не маюць. — А ці-ж ты з ею саўладаеш? — Людзі й медзьведзя вучаць. — Медзьведзя вучаць, але-ж вельмі мучаць. — Німа чаго больш казаць, пашоў той чалавіек у проведы. Прыходзіць ён к бацьку таіе ўпартаіе дзіеўкі да й кажэ: так і так, муой сын хочэ з ею пабрацца. — Што ты гаворыш, добры чалавіечэ? За твайго дзецюка пуойдзе самая ліепшая дзіеўка, а мая гультайка туолькі такая ўпартая, да наравістая, што з ею ён нічого не парадзіць. Ён малады хлопец, ад бога грыэх яму сьвіет заўязваць. — Калі-ж ён сам таго хочэ. — Мало, што блазны хочуць, а нам імі трэ кіраваць, бо буог нас запытае, які мы дзіецям далі спосаб. — Пачула з-за печку тая дзіеўка да й кажэ: — А я пайду за яго, бо ён гожы хлопец. — Маўчы, дурная! — крыкнуў на дачку бацько да й кажэ таму чалавіеку: — От скажы ты сваиму сыну, што калі ён саўладае з маею наравістаю жарабіцаю, та мо' саўладае й з гэстаю упартаю дзіеўкаю, тагды нехай берэ. — Пашоў той чалавіек і ўсе расказаў сыну. — Добрэ, — кажэ сын, — я спраўлюса з тою жарабіцаю. От пашоў ён к таму чалавіеку, зірнуў на тую жарабіцу, аднож яна стаіць у зрубе без варуот да туолькі храпе да капытамі грабе землю. Ніхто к ёй падступіцца не мажэ, а корм і воду туолькі спускаюць цераз верх. От той хлапец закінуў жарабіцы на шыю петлю, зацёг вербўку да й запруог жарабіцу ў сані. Прывязаў ён на сані млынавы камень, сіеў сам да й па-

пѐр жарабіцу па ралі̀. А дзі͡ело было̀ па лі͡ету. Ры͡эжуць палазы̀ зѐмлю бы паро̀шу, жарабіца несѐ, леціць бы мала̀нка, а хлапѐц яшчэ̀ пу̀гаю паддаѐ ёй ахво̀ты. Насіла яна̀, насіла па ралі̀, спаці͡ела, аж шум з яі͡е куска̀мі па̀дае, нарэ̀шце ста̀ла така̀я мья̀кенькая, што хаць дава̀й дзіця̀ці, дак і то̀е паі͡едзе. — Ну, зду͡олны ты хло̀пец, — ка̀жэ той чалаві͡ек, — дак пѐўне спра̀вісса й з маѐю дачко̀ю. — Пабра̀ліса яны̀, спра̀вілі весі͡елейко, алѐ ось захвары͡эў ба̀цько маладо̀го да праз ты̀дзень і памѐр. Пагарава̀ў сын, патужы̀ў, алѐ з бо̀гам не паспо̀рыш. Ён ві͡едае, што ро̀біць. Пахава̀ў ён ба̀цька да й дава̀й пра̀віць гаспада̀рку адзі̀н з маладо̀ю жу͡онкаю. Клапаціцца ён цы͡элы дзень, ро̀біць за двох, а прыдзѐ да ха̀ты, дак там німа̀ ні абі͡еду, ні куска̀ хлі͡еба, сьмі͡еце не вы̀мецяно, ў пѐчы не па̀ляно, каро̀вы раву̀ць, сьві̀ньне скрыгі̀чуць, хаць беры̀ да й уцека̀й. А жу͡онка седзіць сабі͡е да глядзіцца ў відэ̀лко, ці го̀жая. Маўчы̀ць ён да ўсе ро̀біць сам. А ёй ту͡олькі то̀е й трэ̀ба, — наі͡есца гато̀ваго да й кача̀ецца на палу̀, ці прастары͡экуе з языка̀тымі жанка̀мі. — Кѐпсько, — ду̀мае гаспада̀р, — гэ не бу̀дзе ні̀якаго ладу̀, бо, ві͡едамо, гаспада̀р без гаспады̀ні не чалаві͡ек, а паў чалаві͡ека. — Ї дава̀й ён прывуча̀ць да заахво̀чваць да рабо̀ты гультаева̀тую жу͡онку. Алѐ чаго̀ ён ні рабі̀ў, нішто̀ не памагаѐ, бо жу͡онка не ціка̀віцца гаспада̀ркаю, а ўсе наро̀віць, абы̀ ёй наі͡есьціса да палежа̀ць. Даў бу͡ог недзі͡ельку, от і ка̀жэ гаспада̀р: — хадзі͡ем к ся̀бру ў го̀сьці. — Хадзі͡ем, — адмаўля̀е жу͡онка да й пачына̀е апрата̀ць на себѐ лі͡епшае пла̀цьце. Сабраліса яны̀ да й пашлі̀. Ся̀бер жыў у сусі͡едной вѐсцы мо' за версту͡оў дзьві͡е, або̀ тры. Трэ̀ба было̀ ім іці̀ праз лі͡ес. Уба̀чыла жу͡онка ў лі͡есі я̀гадкі да й пачала̀ іх рваць. Рве да сы̀пле сабі͡е ў рот. Атышліса яны̀ ат даро̀гі ў гушчэ̀чу, жу͡онка й закружы̀ласа да й неві͡едае куды̀ йці. От гаспада̀р пасадзіў яі͡е на муравѐйнік да й ка̀жэ: — паседзі̀ тут, а я пашука̀ю даро̀гі. — Ту͡олькі маладзіца сі͡ела на муравѐйнік, як мура̀шкі налі͡езлі к ёй пад андара̀к да дава̀й ры͡эзаць за што папа̀ло. Яшчэ̀ мо гаспада̀р атышо̀ўса на паўгану͡оў, як яна̀ падняла̀ крык, што бло̀хі куса̀юць. Верну̀ўса ён, залупі̀ў жу͡онцы андара̀к на го̀лаў да й звеза̀ў яго̀

верòўкаю, а канцы̀ верòўкі прывезаў к хвоі. Тўпае жанчы̀на на муравèйніку да яшчэ̀ гары̀эй дра̀жніц мура̀шак, а ты̀іе секўць упа̀ртую ба̀бу да палiва̀юць сваі̀м спiрытўсам. Равè яна̀ ні̀емым гòласам. — Такі̀ й сякі̀, атвяжы̀ менè да ратўй, а то я жы̀ва не бўду! — А ці бўдзеш менè слўхаць да гаспада̀рку дагляда̀ць? — Хачў — бўду, хачў — ні̀е, — атка̀звае яна̀ да крўціць за̀дам. — Цу, та нехай цебè тут мура̀шкі вўчаць, як трэ̀ба дзі̀ело рабіць, каб на сьві̀еці жы̀ць. — А сам атышòўса да й збіра̀е ягадкі. Круці̀ласа яна̀, круці̀ласа, алè нарэ̀шце не мажэ̀ вы̀трымаць да й ка̀жэ, што бўдзе й вары̀ць, і печы̀, пра̀сьці й ткаць, шыць і мыць да й гаспада̀рку дагляда̀ць, а ягò слўхаць да шанава̀ць. От закляла̀са яна̀ да забажы̀ласа, што пакі̀не сваè гультайство да пòраў. Тўолькі тагды̀ атвеза̀ў ён яі̀е ат дзèрава да аслабані̀ў гòлаў. Падаўсі̀ў гэто ён яі̀е к вы̀жару, да й велі̀еў улі̀езьці ў вòду. Ста̀ла жўопка ма̀ккая, хаць ты яі̀е у вўхо ўлажы̀. От абмы̀ла яна̀ мура̀шак, да й пашлі̀ яны̀ да гаспòды. С таі̀е пары̀ людзі не падзівяцца, што гэто ста̀ло з маладзіцаю, што яна̀ й гнўой вòзіць і разьбіва̀е, не то, што жне, алè й кòсіць. Гаспада̀р яшчэ̀ сьпіць, а яна̀ ўжэ карòвы падòіць, у пèчы вы̀паліць, стра̀вы нава̀рыць да й бўдзіць ягò сьні̀едаць. Дачўўса аб тўом яі̀е ба̀цько, прышòў к дачцы̀ ў гòсьці да й дзя̀куе зя̀цю, што навўчы̀ў ягò дачку, як бўог велі̀еў на сьві̀еці жыць.

Даніло Кулі̀еш.

Чудаін.

## 14. Мужы̀к, цыга̀н і жыд.

Жыў сабі̀е адзі̀н мужы̀к. Ён не то, што-б быў вèльмі бага̀ты чалаві̀ек, а так сабі̀е сякі̀-такі̀ гаспада̀р. Гарава̀ў да працава̀ў крўглы гўод, дак і мі̀еў кава̀лак хлі̀еба да й асьмакі̀ на бедў. Не слўхаў ён людзèй, што ты̀іе ка̀жуць: як бўог пашлè напа̀сьць, та грòшы чòрт дасьць. Не слўхаў, а зьбіра̀ў грòшык да грòшыка да й хава̀ў у стры̀эху. Пана̀дзіўса к яму̀ хадзі̀ць цыга̀н. Ві̀едамо, цыгану̀ заўжды̀ мнўого ча̀су, ён кўожны дзень хòдзіць у гòсьці.

Дзі͡е ба̀ба пачасту̀е кавенёю або̀ мі͡ешалкаю, дзі͡е гаспада̀р спе-
ражэ̀ пу̀гаю, або̀ сьві̀сне цы͡эпам, а яму̀ хаць-бы што, — сьле-
пі̀цаю лі͡езе ў во̀чы. — Дай, ба̀тю, са̀ло, каб цебѐ лі̀хо не зна̀ло.
Дай, хаджа̀ячка, круп, каб здаро̀ва была̀, як дуб. — Напры̀крае
до̀брым лю̀дзям, дак ты͡пе, каб атчасну̀цца, й даду̀ць цыгану̀ што-
нѐбудь, а пі͡е, дак ён і сам во̀зьме. — У цебѐ, хаджа̀ячка, мну͡ого,
а ў менѐ ні̀ма. Падзі͡елімса, бо бу͡ог даѐ на ўсіх до̀лю. — Ото-ж
прычапі̀ўса, хвары͡эць тваеі̀ ма̀тары, — крыча̀ць жанкі̀ да й су-
ну̀ць цыгану̀ атчапно̀го блі̀нцу͡оў, ці ала̀дак, а каўбасу̀ да пу͡ол-
мазку ён і сам схо̀піць. Прыхо̀дзіць раз цыга̀н к таму̀ чалаві͡еку
да й ка̀жэ: — От, ба̀тю, я табі͡е прыў͡еў ру͡ой пчу͡ол; абіра̀й да
садзі̀ ў ву̀лей, — нехай бу̀дуць палаві̀чны͡е. — Зірну̀ў чалаві͡ек,
аж сапра̀ўды ў садо̀чку зьві̀ўса ру͡ой пчу͡ол. Не зна̀е таго̀ чала-
ві͡ек, што той ру͡ой вы̀шаў з яго̀ ву̀лья. От абабра̀ў ён ру͡ой да й
пасадзі̀ў яго̀ ў сву͡ой ву̀лей. — Цепѐр мы сябры̀, — ка̀жэ цыга̀н.
— Алѐ-ж сябры̀. — Ну, дак часту̀й, ба̀тю, сябра. — Пачастава̀ў
мужы̀к цыгана̀ раз-другі̀ да й пытае: — А калі-ж ты, сябрэ,
менѐ пачасту̀еш? — Пачака̀й, пачасту̀ю, як вырасту̀ць у менѐ
гро̀шы. — Гамо̀няць яны̀ то̀е, алѐ й не ба̀чаць, што ту̀т ці̀хенько
падышо̀ў жыд да й слу̀хае, бо ў̀чуў, што яны̀ гаво̀раць пра
гро̀шы. — Ну, вазьмі͡еце менѐ ў хаўру̀с. — Чаму̀-ж пі͡е, — ка̀жэ
цыга̀н, — сябра по̀ле, а тва̀е насі͡еньне, а я бу̀ду зьбіра̀ць. Што
заро̀дзіць, та падзі͡елім пару͡оўну. — Рэхт, — ка̀жэ жыд. От пры-
нёс жыд цыгану̀ да мужыку̀ жмѐню асьмаку͡оў. Пабаранава̀ў му-
жы̀к у вагаро̀дзе да й пасі͡еяў ты͡пе асьмакі̀, а цыга̀н і ка̀жэ: —
сябрэ, ці нема̀ ў цебѐ бу͡ольш? — Даста̀ў мужы̀к з страхі̀ сваі͡е
асьмакі̀ да й пасі͡еяў там-жэ ў вагаро̀дзе. Пашо̀ў дож, прыпле-
ска̀ло ты͡пе гро̀шы да вы̀мыло, дак яны̀ й блі̀шчаць. Пазва̀ў цы-
га̀н жы̀да да й пашлі̀ ўсі͡е яны̀ ра̀зам зьбіра̀ць ты͡пе гро̀шы. На-
зьбіра̀лі цы͡элую ша̀пку, прынеслі̀ ў ха̀ту да й пачалі̀ дзелі̀ць.
Ба̀чыць жыд, што яму̀ дастало̀со гро̀шэй бу͡ольш, як тры жмѐні;
загары͡эліса ў яго̀ во̀чы, от так ста̀іць і трасѐцца по̀гань, бы
асі̀на. — Ну, цепѐр зрабі̀лі пра̀хтыку, дава̀йце сі͡еяць бу͡ольш. —
Рад жыд, адда̀ў ты͡пе гро̀шы да прыдубі̀ў яшчэ̀ цы͡элы мешо̀к.

Пасі͡еяў мужык ты͡е грòшы, а цыгàн сі͡еў на агарòдзе варта-вàць іх, каб кỳры не паклевàлі. Пу͡ойдуць лю̀дзі на рабòту, а цыгàн пілнỳе да зьбірàе сабі͡е ты͡е грòшы. Так усі͡е й назьбірàў. Прыбегàе жыд да й пытàе: — Ну, сто, грòсыкі ўзыслі? — Ні͡е, яшчэ̀ не ўзышлі, бо вѐльмі засушы̑ло. Нехàй, ось пру͡ойдзе дож да прыгры͡эе сòнейко, дак яны̀ пу͡ойдуць расьці, бы на дрòжджах. Чакàў, чакàў жыд, пакỳль узы̑дуць грòшы да так і не дачакàўса. Дагадàўса й мужык, што абманỳў ягò цыгàн, надавàў яму̀ ў кàрак да й вы̑гнаў з вагарòда. З тых чàсаў і німà ў мужыкà сябраўствà з цыгано̀м.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 15. Дзі͡еўкі й чорт.

Жыў сабі͡е адзін чалаві͡ек. Ён рàно заўдаві͡еў і астàўса ту͡олькі з малѐнькаю дачкòю. Прыгòжая да здàтная на ўселя̀кую рабòту былà сіру͡отка, алѐ, ві͡едамо, дзіця̀, — не маже ўпрàвіцца ў даму͡оўцы, не то, каб яшчэ̀ даглѐдзяць гаспадàрку. Дỳмаў, дỳмаў чалаві͡ек да й падỳмаўса жанíцца ў другàі͡е. Запрабавàў ён пасвàтаць сабі͡е дзі͡еўку, алѐ кады̀ там, — жу͡одная не хòчэ йці̑ за ўдаўцà. Німà чагò рабіць, пачàў ён шукàць удаву̀. Алѐ бездзі͡ет-ны͡е ўдòвы выбірàюць сабі͡е хлòпцаў да яшчэ̀ жвàвых да гòжых. І ўзя̀ў ён нарэ̀шце адну̀ ўдаву̀ да яшчэ̀ з дачкòю. Па немàлум чàсе пашлà ў ягò хàце калатня̀ да свàрка. Дачкà жу͡онкі былà такàя дзеразà, такàя языкàтая да пагàная, што прòсто бедà. Німà тагò дня, каб янà не скры̑удзіла ягò дачỳхны. Да й жу͡онка не ўзьлю-біла пàччарыцу, пачалà я͡іе зневажàць да папікàць, што янà та то, та сё не так рòбіць, як трэ̀ба. Цісьне да віліць пàччарыцу, і͡есь я͡іе, бы йржà жалі͡езо, а сваю̀ дачкỳ пі͡есьціць да балỳе. Пазірàе той чалаві͡ек, шкòда яму̀ дачỳхны, аж сѐрцэ крòўю аблі-вàецца, алѐ нічòго не парàдзіць з пагàнаю бàбаю. От адзін раз пai͡ехаў ён дзі͡есь далѐко тралявàць на рум дзѐраво да й зама-рỳдзіў там мо з ты̑дзень. Тым чàсам дòма немàшака, на хлі͡еб

мукі̀. От і пасыла̀е та̀я жанчы̀на па̀ччарыцу на вадзяны̀ млын змало̀ць збу͡ожэ. Узвалі̀ла та̀я мешо̀к на плѐчы да й папѐрла ў млын. Ту͡олькі яна̀ засы̀пала збу͡оже ў ку͡ош, як ось і падбега̀е к ёй які̀сь панічо̀к у капелю̀шыку. — Хадзі̀, красу͡отка, к нам на йгры̀шчэ, — про̀сіць ён дзеўчы̀ну. — Як жэ я пайду̀, — атка̀звае яна̀, — калі̀ я бо̀сая. — Я дам чаравікі, — сказа̀ў чорт. А гэто, ба̀чыце, быў чорт і намі͡ерыўса ён загубіць дзі͡еўку. Па̀леці͡еў чорт да й прынёс дзі͡еўцы го̀жыі͡е чаравікі. Абу̀ла яна̀ чаравікі да ўсе пазіра̀е на сваі͡е но̀гі. — Ну, хадзі͡ем на йгры̀шчэ. — Ой, што ты ка̀жэш? Як же я пайду̀ ў чаравіках без панчу͡ох. Гэто-ж менѐ дзеўкі̀ засьмеі̀юць, ска̀жуць: яка̀ясь прастальы̀тка. — Я дам панчо̀хі. — Ї пабі͡ег чорт па панчо̀хі. Паку̀ль ён бі͡егаў, дзі͡еўка й змало̀ла збу͡ожэ да й зсыпала муку̀ ў мі͡ех. Прыно̀сіць чорт панчо̀хі да й падганя̀е дзі͡еўку, каб яна̀ хучы̀эй пераабува̀ласа. А яна̀ пераабува̀ецца, бы мо̀крае гары̀ць да ўсе пазіра̀е, ці ху̀тко дась бу͡ог дзень. Яна̀ дагада̀ласа, які̀ гэто панічо̀к, алѐ ба̀чыць, што папа̀ласа, дак трэ хітрава̀ць. — Ну, цепѐр до̀брэ, хадзі͡ем. — Што, ты кпіш, ці што? Як я пайду̀ ў бесі͡еду, калі̀ ў менѐ спадніца, бы за̀ткалю. — Ну, гэто не беда̀! Ду̀хам прынесу̀ табі͡е спадні̀цу. — Ї пабі͡ег чорт з млына̀. Тым ча̀сам засьпева̀лі пеўні͡е. Ра̀да та̀я дзеўчы̀на. От узвалі̀ла яна̀ на сьпіну муку̀ да чуць не бего̀м папѐрла да гаспо̀ды. Зьдзіві̀ласа ма̀чаха, што па̀ччарыца не загінула на закля̀тум млыні͡е да яшчэ аб таку̀ю по̀ру верну̀ласа даму͡оў. — Ну, што, гу̀псват, змало̀ла збу͡ожэ? — пыта̀е яна̀. — Аджэ змало̀ла, — атка̀звае та̀я. Зірну̀ла тут ма̀чаха на па̀ччарыцу да як уба̀чыла на ёй тако̀е го̀жаі͡е адзі͡еньне, дак аж рука̀мі сплесну̀ла. — Дзі͡е ты ўзела̀ гэстае пла̀це! — кры̀кнула яна̀. Та̀я й расказа̀ла, што на млыні͡е яі͡е пазва̀ў пані̀ч на йгры̀шчэ танцава̀ць да за то̀е падарава̀ў ёй у͡опратку. Сердзі̀та ма̀чаха, бы гадзю̀ка, аж пражэ̀цца, не мажэ̀ дачака̀цца вѐчара. — Ото̀-ж мая̀ дачу̀хна яшчэ не такі͡е даста̀не ша̀ты, — ка̀жэ яна̀ да й пасыла̀е сваю̀ дачку̀ ў той млын мало̀ць збу͡ожэ. Даў бу͡ог вѐчар, і пашла̀ дзеўчы̀на ў вадзяны̀ закляты̀ млын мало̀ць муку̀. Ту͡олькі яна̀ прыпха̀ласа туды̀, як ось і падбега̀е к ёй той са̀мы панічо̀к і завѐ

на йгры̀шчэ з сабо̀ю паскака̀ць. А яна̀ ка̀жэ: — да̀й мні͡е са̀мае го̀жае пла̀цьце да чаравѝкі, та пайду̀. — До̀брэ, дам, — атка̀звае чо̀рт, да й пабі͡ег ў карчму̀, дзі͡е была̀ бага̀тая жыду͡овачка. От ён злупіў з яі͡е у͡опратку да й прынёс ту͡ой дзі͡еўцы. Апрану̀ласа яна̀ да хучы͡эй пашла̀ на йгрышчэ̀. Вы̀веў гэто яі͡е чорт пад ко̀ло, дзі͡е міту̀сіцца вада̀, и здало̀со ёй, што гэто там ска̀чуць панѐнткі, су̀нуласа яна̀ туды̀ да й загібла. Насілу на за̀ўтрэ та̀я ба̀ба пазьбіра̀ла яі͡е ку͡остачкі да шма̀цьце. А па̀ччарыца вы̀брала сабі͡е го̀жаго хло̀пца да й пабра̀ліса яны̀. Мо' й да тых час яны̀ яшчэ̀ жыву̀ць, як усі͡е до̀бры͡іе людзі да хва̀ляць бу͡ога.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 16. Сма̀чно.

Жыў сабі͡е адзін чалаві͡ек. Быў ён не то, каб сказа̀ць вѐльмі бага̀ты, а так сабі͡е заму͡ожны гаспада̀р. Так як усі͡е жыў ён сьці̀сло, а як дась бу͡ог сьвя̀то, та любіў з до̀брымі людзьмѝ сма̀чно паі͡есьці да вы̀піць так, каб іці̀, за плу͡от дзержа̀ўшыса. Адзін раз паі͡ехаў ён у мі͡есто зь якімсь то па̀нам, каму͡орнікам, ці што. Заі͡ехалі яны̀ ў ка̀рчму. Пап улі͡ез у алькі͡ерык і велі͡еў жыду͡ом пада̀ць сабі͡е вы̀піць да закусі̀ць. Ві͡едамо, пан гро̀шэй не шкаду̀е, вы̀піў гары͡элкі, закусіў да й пача̀ў піць гарба̀ту. А про̀сты чалаві͡ек, ві͡едамо, шкаду̀е тра̀ціць гро̀шы да дастаѐ сабі͡е з то̀рбачкі сухі̀ хлі͡еб да кісльі͡е агуркі̀ да й і͡есь. Паба̀чыў пан, што той чалаві͡ек пазіра̀е на яго̀, бы саба̀ка з пад стала̀, да й даў яму̀ шкля̀нку гарба̀ты. Узя̀ў ён гарба̀ту да й хаці͡еў яі͡е вы̀піць о̀бмегам, бы ча̀рку гары͡элкі. Гарба̀та яшчэ̀ была̀ гара̀чая, й ён чуць не спёкса да так пы̀рхнуў, што аж па̀ну забры̀скаў во̀чы, а шкля̀нку кі̀нуў далу͡оў. — Неха̀й яна̀ згары̀ць гэстая гарба̀та, — ка̀жэ ён, як тро̀хі ачу̀хаўса, — гэто до̀брэ пану͡ом, а на̀шаму бра̀ту гарапа̀шніку яна̀ шко̀дзіць. — Усьміхну̀ўса пан да й даў яму̀ чалаві͡еку даеда̀ць абьі͡едкі яко̀есь вѐльмі сма̀чнаі͡е ры̀бкі. Та̀я ры̀бка яму̀ вѐльмі спадаба̀ласа. Ён зьі͡еў яі͡е з ку͡остачкамі,

а самую блешаную каробачку, у якуой яна ляжала, вымазау хлiебам да й вылiзау языком. — Ну, — думае ён, — пачакай-жэ, я зраблю дзiво, — й пашоу ён к жыду да й купiу сабiе каробачку таiе смачнаiе рыбы. — Цераз тыдзень у нас хвэст, дак трэ пачаставаць папа, та мо' ён не будзе лаяцца, як пайду ладзiць весiельле. А ужэ пара даць спосаб майму хлапчуку. Эгэ-ж, пачастую папа. Пеуне ён яшчэ нiколi й не каштавау такоiе смачнаiе рыбы. Ото-ж здзiвяцца людзi!

Прыуёс ён каробачку таiе рыбы да й нiкому й не паказау, чакае сьвята. Ось падышло сьвято; набралi людзi гарыэлкi, наварылi, напеклi да насмажылi уселякаiе уселячыны. Прыехау пуоп з дзяком i началi служыць у цэркві. Паапраталi людзi лiепшую адзежу да й пашлi пад цэркау, хто памалiцца, паставiць сьвiечку да даць папу саракуоуку на абiедню, а хто людзей паглядзiець, цi себе паказаць, або сустрыэць сяброуоу да знаемых i назваць iх к сабе на пачостку. Пашоу у цэркау i той чалавiек, але не малiцца, а тулькi папрасiць папа, каб ён прышоу к яму на пачостку. Пуоп абецау зайцi просто з цэркві. От той чалавiек набiег да гасподы, прынёс у хату туую блешанку, разсiек яiе сакiерою да развернуу долатам, дак аттуль так гожэ запахла рыба, што ён аж пачау аблiзвацца. От накрыла баба стуол да й паставiла на ём уселякаiе уселячыны, а ён на самум покуцi, дзiе седзiць цi пуоп, цi дурэнь, паставiу туую рыбу, а сам зноу пашоу у цэркау. От стаiць ён у цэркві, шэпчэ малiтвы, а сам усе думае пра туую рыбу, думае, якая яна смачная й як спадабаецца папу, як усiе сусiедзi будуць яму завiдуваць да дзiвiцца, скуль ён дастау такую смачную рыбу. Схаменууса ён, пачау хрысьцiцца да атбiваць паклоны, але як ён нi хрысьцiуса, як нi стукауса йлбом аб гразкую да мокрую падлогу, а смачная рыба нiяк не выходзiць з галавы. Што ён нi рабiу, а не муог вытрымаць, каб не зьбiегаць да гасподы. Тут ён нiбыто успаменуу, што яшчэ не усе сказау жуонцы, што трэ' прыгатаваць такому велiкаму госьцю, а тым часам не вытрымау, каб не зiрнуць да не панюхаць вельмi смачнаiе рыбы. От ужэ дзяк зауеу «харуiмы», зрабiу кулькось

выкрутасаў, выцягнуў бы журавель доўгую шыю, стаў на пальчыкі й так увесь падняўса ўгору, бацца хацеў палецець, каб прапець такім тоненькім галаском, як паюць на небе анелы. Людзі пачалі хрысьціцца да кланяцца. Зірнуў той чалавек, што усе моляцца, што на яго не звернуць увагі, дак ён бокам, бокам паўз сьцену да й вышліпчыўса ціхенько з цэркві. Тут ён падумаў, што яго ўжэ ніхто не прыкмеціць, але як на ліхо насустрэк чорт несе кума. Ён хацеў увільнуць ат кума да й павернуў на агароды, але там было вельмі грязко, так што ён мусіў рукамі чапляцца за платы, каб прайці. Затым ён замарудзіў. Тым часам кум мабыць дагадаўса, шалыгнуў шырокім крокам да й загарадзіў яму дарогу.

— Дабрыдзень, куме! — пасілу вымавіў той, выняўшы з зубоў люльку й сплеўваючы, каб пачаць гавуорку.

— Здаруоў быў, куме!

— Куды гэто ты прэсса цераз агароды?

— Хачу збегаць да гасподы. Штось асца сьліну гоніць, — схлусіў ён і пачаў плеваць.

— Брэшэ, — падумаў той да й кажэ:

— От і ў мене штось кала сэрца завіло, — тут ён пачаў рукою круціць на грудзях.

— Хіба хадзем, куме, да заморым чарвъяка, — бо гэто мабыць рабакі, — прыбавіў ён.

— Куды цепер іці? Будуць людзі сьмеяцца.

— Чаго-ж нам, куме, йці ў карчму? Хадзем ліепш ка мне.

— Чаго к табе? Та ўжэ-ж хадзем ліепш ка мне. — Тут ён спомніў пра рыбу й немуог вытрымаць, каб не пахваліцца перад кумам.

— А гарэлка е?

— Трохі е. Хадзем. Я штось табе пакажу.

— Хадзем.

От улезлі яны ў хату як раз тагды, як баба пекла блінцы. От яна накінуласа на гаспадара, чаго ён пашоў з цэркві да й давай яго страміць да зневажаць. Лаецца баба, на чом сьвет

стаіць, а ён маўчыць да ту͡олькі чмыхае но̀сам, ві͡едамо, як ві-
нава̀ты.

— Ось штось сьлі̀ну го̀ніць. Ма̀быць асца̀, — ка̀жэ ён. Тут ба̀ба яшчэ гары͡эй пачала̀ крыча̀ць і крыча̀ла да ла̀яла пату̀ль, паку̀ль аж ахры̀шла, от ту͡олькі тагды̀ замо̀ўкла. От гаспада̀р зняў з палі̀цы пля̀шку гары͡элкі да й налі̀ў до̀брую ча̀рку.

— Дай жэ бо̀жэ за гу͡од дачака̀ць да здаро̀венькім дар бо̀жы спажыва̀ць, — сказа̀ў гаспада̀р, перахрысьці̀ўса й чуць-чуць хлебану̀ў з ча̀ркі, алѐ вы̀цяр рукаво̀м мо̀кры͡е ву̀сы, далі̀ў ча̀рку й даў ку̀му.

— Дай жэ бо̀жэ, каб усѐ было̀ го̀жэ, каб здаро̀вы былі̀ да бага̀ты да гаршко̀м гро̀шы мі͡ералі. Бу̀дзь здаро̀ва кума̀! От ён перахрысьці̀ўса, аберну̀ў у рот ча̀рку да ту͡олькі плю̀нуў, што вѐльмі до̀брэ.

— Алѐ-ж і гары͡элка ў ку̀ма до̀брая, — сказа̀ў ён дзеля хвасо̀ну, падня̀ў палу̀ сьві̀ты да й вы̀цер ву̀сы й бо̀раду.

— Закусі̀, ку̀ме, чым бу͡ог пасла̀ў.

— А што-ж ты хаці͡еў мні͡е паказа̀ць?

— Эгэ̀-ж, а я чуць не запа̀метаваў. Ось гэ̀стую ры̀бку. Ці ба̀чыў ты, кум, таку̀ю, ці ні͡е?

— Не ві͡едаю, ці ба̀чыў. Ось закашту̀ю, — й пача̀ў ён смакава̀ць ту̀ю ры̀бу.

— Ото-ж і сма̀чно, ото-ж і сма̀чно, — гаво̀рыць ён да у̀се і͡есь ту̀ю ры̀бу. Ба̀чыць гаспада̀р, што у̀жэ ху̀тко пану ні̀чого не застанѐцца да й намека̀е ку̀му, каб ён дагада̀ўса й бу͡ольш не і͡еў.

— Бо й до̀раго-ж.

— Зві͡есно, до̀раго, дак зато̀е й сма̀чно. Алѐ от скажы̀, ку̀ме, — гаво̀рыць ён, падста̀віўшы к сабі͡е блеша̀нку з ры̀баю, — чаму яна̀ така̀я сма̀чная?

— Бо й дарага̀я-ж, на яі͡е у̀сѐ ліхо! — чуць не кры̀кнуў гаспада̀р, як уба̀чыў, што кум ужэ даеда̀е ту̀ю ры̀бу.

— От заты̀м то й сма̀чно, што вѐльмі яна̀ дарага̀я, — сказа̀ў кум да й вы̀мазаў начы̀сто каро̀бку.

Даніло Кулі͡еш.

## 17. Не тут, дак там.

Жыў сабіе адзін вѐльмі скупы̀ чалавіек. Ён быў такі̀ скарэ̀да, што не то, каб другі̀м, алѐ й сам сабіе шкадава̀ў даво̀лі наіесьціса. От і прадражні̀лі яго̀ скупердзя̀гаю. Ба̀ло цы̀гае ён на по̀лі бы бу̀сел да зьбіра̀е каласы̀ пз йржы̀шчы. Уба̀чаць яго̀ дзіецi да й крыча̀ць, — лядзі̀, лядзі̀, онь цы̀гае Скупердзя̀га. — Ніхто̀ не віедае, ат каго̀ то̀е пашло̀, ту̀олькі ўсіе пачалі̀ гавары̀ць Скупердзя̀га да й Скупердзя̀га. — Перш ён кі̀даўса на дзецѐй да ла̀яў іх, а по̀тым і прывы̀к. Дась бу̀ог сьвя̀то; зьберу̀цца лю̀дзі дзіе нѐбудзь на ву̀ліцы, заку̀раць люлькі̀ да й гамо̀няць сабіе пра то̀е, пра сѐе, шутку̀юць да ра̀дзяцца, калі̀ што сіеяць, ці зьбіра̀ць, калі̀ начына̀ць касі̀ць, або што друго̀е. А Скупердзя̀га яшчэ̀ да со̀нейка схо̀піць то̀рбу да весло̀, пераліезе цѐраз платы̀, каб ніхто̀ не ўба̀чыў да й сунѐ на рыэку лаві̀ць ры̀бу. Камары̀, ці авады̀ рыэжуць яго̀ бы нажэ̀м, мо̀шкі во̀чы сьліепяць, а ён і не варухнѐцца, седзі̀ць на бѐразі да й не ды̀шэ, каб не спало̀хаць ры̀біну. Паку̀ль лю̀дзі гамо̀няць да ку̀раць люлькі̀, дак Скупердзя̀га націга̀е по̀ўну то̀рбу акунѐў да язѐў. Уба̀чаць лю̀дзі, як ён прэ дамуо̀ў ры̀бу да й пачну̀ць на кпі̀нкі прыстава̀ць, каб даў ім закаштава̀ць таіе ры̀бы, а ён бежы̀ць сагну̀ўшыса й не пазіра̀е на людзѐй, алѐ хучыэй сунѐ да гаспо̀ды, бы воўк у ліес. — Скупердзя̀га, дай хаць яко̀го ні̀будзь бабура̀, або̀ ментуза̀, — чу̀е ён збо̀ку, алѐ прэ мо̀ўчкі й не азіра̀ецца. — Скупердзя̀га, дак скупердзя̀га й есь, — сьмею̀цца лю̀дзі, а ён хаць бы што, маўчы̀ць бы пень. А до̀брэ ён умісу лаві̀ць ры̀бу. Ба̀ло цыэлае ліецячко ло̀віць да су̀шыць, а сабіе шкаду̀е й закашта̀ваць. От вы̀даўса до̀бры гу̀од, налавіў да насушы̀ў Скупердзя̀га ры̀бы цыэлы ву̀оз, запру̀ог кабы̀лку да й паўѐз у міесто прадава̀ць. — Куды̀ ты, Скупердзя̀га? — пыта̀юць лю̀дзі. — У міесто. — Везѐш на про̀даж ры̀бу? — Неха̀й сабіе й так, — ка̀жэ ён да сьцѐбае кабы̀лку пу̀гаю, каб не слу̀хаць, што там гаво̀раць. — Прывезі̀ нам абара̀нкаў, Скупердзя̀га! — лецìць за ім насьміешлівы го̀лас, а ён сьцѐбае кабы̀лку

да ту̀зае лѐйцамі. — Усѐ дай да дай, — мы̀ркае ён саб͡іе пад н͡уос. — На гато̀вае ку͡ожын разява̀е халя̀ву... А ты не выскаля̀й зубу͡оў з маладзіцамі да йдзі сам саб͡іе налаві. Мо тра̀сцу схо̀піш, а не ры̀бу. Ну, старо̀е па̀дло, каб цебѐ ваўкі зар͡ыэзалі, цягвіса ваўкар͡ыэзіна, а то як спераж у̀, да̀к і но̀гі вы̀пруціш, — пужа̀е ён кабы̀лку, а та̀я целю̀хкае памалѐньку цѐраз гаѐк кала̀ ракі, дз͡іе маскалі пабудава̀лі саб͡іе на л͡іето будан ы̀ з палатна̀ да й ду̀жаюцца саб͡іе ці кача̀юцца на трав͡іе. — Здра̀ствуй, хаджа̀ін! Дай агню̀ прыкур ы̀ць саба̀чую н͡уожку, — про̀сіць Скупердзя̀гу адзін маска̀ль. — Здра̀стуй, служ ы̀вы! — атка̀звае ён і супыня̀е кабы̀лку. Абступілі яго̀ маскал͡іе, закур ы̀лі саба̀чые н͡уожкі, гамо̀няць да распыто̀ўваюць, куд ы̀ ён ͡іедзе й што вязѐ на прада̀не. Рад Скупердзя̀га, што такіе ва̀жные маскалі гаво̀рац з ім за па̀не бра̀та да й ву̀шы разьв͡іесіў. Тым ча̀сам адзін маска̀ль штось шапну̀ў другомо̀у. Той павярну̀ўса на падбо̀рах да й паб͡іег к рац͡ыэ. Там ён прывеза̀ў к веро̀ўцы до̀лато да й пача̀ў яго̀ швыра̀ць у во̀ду. — Што гэто ён ро̀біць? — пыта̀е ў маскалѐў Скупердзя̀га. — Ло̀віць ры̀бу, — атка̀зваюць ян ы̀. — Чым-жэ ён ло̀віць? — До̀латам. — Што за дзіво, — ду̀мае Скупердзя̀га, — здаѐцца, я до̀брэ ўм͡іею лавіць ры̀бу, а ніко̀лі не ба̀чыў, як гэто ло̀вяць ры̀бу до̀латам. — І до̀брэ берѐцца? — пыта̀е ён. — Вѐльмі до̀брэ. Ён сего̀дня мн͡уого нало̀віць. — Заціка̀віўса Скупердзя̀га, зл͡іез з во̀за да й пашо̀ў к рац͡ыэ глядз͡іець, як маска̀ль до̀латам ло̀віць ры̀бу. Падхо̀дзіць ён туд ы̀, аж маска̀ль швырнѐ до̀лато ў р͡ыэку да й прыка̀жэ: — бер ы̀са ры̀ба мала̀я й вялікая! — Вы̀цягне ён до̀лато да зірнѐ, што на ём нічо̀го нема̀шака, ато̀йдзецца да̀лей да й там швырнѐ до̀лато ў во̀ду. Вы̀цягне памалѐньку веро̀ўку — пу̀сто, от ён швырнѐ ў другоѐ м͡іейсцо да й ка̀жэ: — не тут, дак там, не тут, дак там! — Вядзѐ ён Скупердзя̀гу паўз р͡ыэку ўсе да̀лей да да̀лей да злу̀е, што не берэ̀цца ры̀ба. — Не пач͡уом! Не тут, дак там... — Кі̀даў, кі̀даў ён до̀лато, паку̀ль над͡аіело. — Н͡іе, ма̀быць зат ы̀м не берэ̀цца, што вѐльмі го̀рачо печэ̀ со̀нцэ, — ка̀жэ маска̀ль, — хіба̀-ж л͡іепш пакупа̀юса. — Раздз͡іеўса маска̀ль да й пал͡іез у во̀ду. Купа̀ецца маска̀ль да пака̀звае, як

бабы плываюць. Пабачыў Скупердзяга тую прахтыку да й вернўўса к возу. Зірнё ён, аж німа маскалёў, німа й яго рыбы. Ён туды, ён сюды, — німашака рыбы, бацца яна ў воду плюхнула.

Даніло Кулеш.

Чудзін.

## 18. Нехай панічуом лагодкі.

Жыў у нас пархаты жыдок. Пакуль ён седзіеў у карчомцы да шынкаваў гарэлку, дак шолудзі ніколі не зходзілі з паганаіе мазгаўні. Але, віедамо, поганъ, — не седзіцца яму ў карчомцы, біегае бы непрытуомны та на уёску, та ў двуор, та да млына, та на рум. Біегаў ён, біегаў, круціўса бы ўюн у рэшаці, нарэсце прычапіўса шапарам у багатаго купца на руме. Пачаў ён там аблічаць вуошчыкаў да круціць людзям плату за работу, дак тым вельмі спадабаўса купцў. От і зрабіў той яго самым старшым шапарам да й паслаў у Кралевец прадаваць ліес. Зарабіў той паршывы жыдок мнуого грошэй, наглядзіеўса, якая карысь з ліесу да й пачаў сам купаваць пушчы. Загубіць адзін ліес, дак хучэй закупляе другі, а праз гадуоў пъяць немаль зьляжыў ліес ва ўсей акрузі. Бачыць поганъ, што буольш німа карысьці з ліесу, от ён і ўзяў арандоваць велікі маентак у аднаго пана, каторы заўжды дзіесь круціўса заграніцаю, ці мо ў Аршаве. Але, віедамо, жыд ніколі гаспадаркі не ўеў, дак і неўміее дагледаць земельку. Папробуваў адно ліецячко гаспадараваць сам, аж трасца яму зрадзіла на полі, а не збуожжэ; от ён на другі гуод ужэ наймае сабіе акамона да й дае яму поўную уладзу рабіць, што зхочэ й як знае, а сам застаўса ў міесьце весьці гандаль. Маентак быў вельмі добры. Акамуон так паўеў дзіело, што ў двары ўсяго мнуого: ўзгадаваў ён гаўядо, развеў уселякіх птушак да сьвіней цэлую чэраду. Іеж, што зхочаш, хаць расперажыса. Дачуўса жыд, што ў туом двары вельмі добрэ жыць улістку й захаціеў ён прывезьці туды на ліето сваю балабосту да бахуруоў, але перш паіехаў сам. Бахуры ўжэ былі нелапые

хло̀пцы й вѐльмі хаці͡елі пажы̀ць лі͡ето ў па̀ньськум маѐнтку, ба̀цэ паніч̀ы. От прыі͡ехаў жыд, аглѐдзяў дву͡ор і вѐльмі яму̀ не спадаба̀ласо, што акаму͡он развѐў там мну͡ого сьвінѐй да ўселя̀кага пта̀ства. Пашо̀ў ён у вагару͡од, аж там якура̀т жу͡онка акамо̀на нарва̀ла цыбу̀лі да й несѐ да ста̀нцаі.—На сто ты рвес цыбу̀льку?— пыта̀е ён. — Ві͡едамо, на што, — атка̀звае та̀я. — От зтаўку̀ да зраблю̀ квас, та бу̀дзем палу̀нуваць, бо бу͡ольш німа̀ чаго̀ і͡есьці.— Пабі͡ег жыд к акамо̀ну да й навалі̀ўса на яго̀, бы жыды̀ на Га̀мана. — Сто ты, сто ты ро̀біс, на сто пазваля̀ес рваць цыбу̀льку? Цаму̀ ты не ры͡эзес гусѐй, інды̀каў? На сто табі͡е сьві̀не? Калі̀ да і͡ес хаць усі͡е, а лаго̀дкі неха̀й, паніцу͡ом. — Які͡іе лаго̀дкі?— пыта̀е акаму͡сн. — Вѐдомо, які͡іе, цыбу̀лька, рэ̀цька да часно̀к. Іес усѐ, а неха̀й лаго̀дкі маі̀м паніцу͡ом.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 19. Цѐсьля.

Сабра̀ўса адзін стары̀ чалаві͡ек будава̀ць сабі͡е ха̀ту.—Я ўжэ не до̀ўго пажыву̀,—ду̀мае ён,—алѐ збуду̀ю до̀брую ха̀ту. Неха̀й менѐ паміна̀юць уну̀кі да пра̀ўнукі. — Наня̀ў ён цѐсьлю да й пача̀ў з ім выбіра̀ць мі͡есто. Аблюбава̀лі яны̀ харо̀шае мі͡есто на ўзгу͡орачку, дзі͡е з да̀ўніх ча̀саў лежа̀ў велі̀кі ка̀мень. Цѐсьля аснава̀ў ха̀ту так, што ка̀мень як ра̀з заста̀ўса на по̀куці пад вугло̀м. От ужэ̀ чуць не саўсім гато̀ва ха̀та, як ось прышо̀ў к таму̀ старо̀му другі̀ малады̀ цѐсьля. Пачалі̀ яны̀ аглядаць ха̀ту. Пазайздро̀сьціў той но̀вы цѐсьля сваймѝ тава̀рышу, што ён вѐльмі до̀брэ збудава̀ў ха̀ту да й пача̀ў дуры̀ць старо̀му го̀лаў, пача̀ў яму̀ гавары̀ць, што то̀е не до̀брэ, то̀е не го̀жэ, ка̀мень не на мі͡есьці да так падбухтэрыў старо̀го, што той і сам пача̀ў ду̀маць: а мо й сапра̀ўды ха̀та кѐньсько пабудо̀вана. — Што тут рабіць?— ду̀мае ён, — малады̀ цѐсьля го̀жэ мѐле языко̀м, алѐ нічо̀го яшчэ̀ не будава̀ў да ма̀быць і неўмі͡ее будава̀ць. А калі̀ ён такі̀ го̀йстры да такі̀ зда̀тны, як сам себѐ хва̀ліць, дак неха̀й памага̀е старо̀му

цѐсьлі, нехай вучыцца да рòбіць, як ліепш. — І папяў ён маладòго цѐсьлю, каб ён памагаў старòму. І пачаў тут малады цѐсьля перараблѧць да псавàць та тòе, та іньшае да ўжэ такуоўськаго парабіў, што брыдко й лю̀дзям паказàць. Бàчыць ён, што кѐньсько да й кінуў тую будòву. Тым чàсам стары чалавіек памёр. Гаспадарòм застàўса ягò малады сын. З гэстым сынам ужэ даўнò таварышавàў той малады цѐсьля. От ён і давай падбухтэрваць маладòго гаспадарà, што трэ хучыэй дабудавàць хàту, алѐ што янà так кѐньсько будòвана, не мàе жуоднаго характвà, што яіе трэ хібà саўсім перарабіць. Слухаў той, слухаў, німà як плюнуць таварышу ў вòчы, але каб атчапіцца, папяў ягò рàзам з старым цѐсьляю дабудавàць тую хàту. От малады цѐсьля перш зьвернуў дах да зрабіў нòвую стрыэху з цàцкамі да з піеўнікамі. Алѐ пачалі лю̀дзі сьмеяцца да казàць, што гэто не хàта, а якàясь будка. От і пачаў ён з рòку ў рук перараблѧць у туой хàці та адну сьціену, та-другую, та вымàць падвалiны, та прасекàць нòвые дзьвѐры, нарэшце вывернуў з-пад вуглà той велікі кàмень. Пахіліласа хàта на адзін бук да так і стаіць на сьміех дòбрым лю̀дзям.—Тут мàло дòбраго матарыялу,—кàжэ вѐльмі разумны малады цѐсьля,—трэба навазіць ліепшаго. — От і пачаў ён выбірàць да вазіць ліепшы матарыял. Навазіў ён ліесу цыэлую гурбу руўно з хàтаю. От выкіпе з сьцяны бервінò, палòжыць туды нòвае, паглядзіць—не гòжэ, зноў вымàе да закладàе нòвае. Так і не дабудавàў ён хàты.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 20. Два камені.

Лежыць на шляху вялізазны кàмень. Хто ні йдзе, та супыніцца калà ягò, пасядзіць, супачыне, а то й пасілкуецца трохі. Мо са ўсяіе акругі знàлі лю̀дзі той кàмень і шанавàлі ягò. Забудавàў сабіе адзін чалавіек млын, алѐ німà дзіе ўзяць каменёў. Паіехаў ён у міесто да й купіў там вѐрхні кàмень, узвалiў ягò

на ву͡оз, запру͡ог па̀ру валу͡оў да й везѐ па шляхў. Падъежджа̀е ён к тамў мі͡ейсцу, дзі͡е лежа̀ў той ка̀мень, ту͡олькі ось прыгры͡эло со̀нейко, напа̀лі на валу͡оў авады̀, сьлепні̀ да здракі̀ да як пачалі̀ іх ры͡эзаць, дак на тых аж шку̀ра ло̀паецца. Мата̀юць валы̀ хваста̀мі да кру̀цяць галава̀мі, аж кульба̀кі да зано̀зы трашча̀ць. Лежы̀ць на во̀зе ка̀мень да ду̀мае: от які̀ я ва̀жны да патрэ̀бны лю̀дзям, што менѐ вязу̀ць як па̀на. Вѐльмі я сла̀ўны да высо̀кі, не такі̀, як ось той, што валя̀ецца онь на шляхў. Набу͡ок з даро̀гі, бо расці̀сну як по̀рхаўку! — Тут валы̀ як закруці̀лі, дак і зачапі̀лі за ка̀мень: ву͡ось злама̀ласа, ву͡оз пахілі̀ўса, га̀рдны ка̀мень шу̀сь далу͡оў да так ры͡эзнуўса аб той ка̀мень, што аж печанцы̀ ў яго̀ тры͡эснулі. Лежы̀ць ён і не варухнѐцца да ту͡олькі злу̀е, што прышло̀со лѐгці ра̀зам з такі̀м бры̀дкім ка̀менем. Пабедава̀ў чалаві͡ек да й пацѐгса з вала̀мі да гаспо̀ды. По̀тым дагада̀ўса ён, што гэ̀то так бу͡ог да̀ў, каб зьверну̀ць яго̀ ува̀гу на той ка̀мень. От назва̀ў ён ма̀йстра, аглѐдзяў той да й вы̀каваў у млын спу͡одні ка̀мень з таго̀ вялі̀занага ка̀меня, што да̀рам валя̀ўса на шляхў. Прыўѐз той чалаві͡ек абу̀два камені̀ да млына̀ да й палажы̀ў іх як трэ̀ ў пу͡од. Лежы̀ць спу͡одні ка̀мень да ту͡олькі ра̀дуецца, што хаць нарэ̀шце дачака̀ўса таго̀, што мажэ̀ паслужы̀ць лю̀дзям, мажэ̀ мало̀ць ім му̀ку, каб яны̀ з яі͡е пеклі̀ сабі͡е дар бо̀жы. А вѐрхні ка̀мень скрыгі̀чэ зуба̀мі ат зло̀сьці да ла̀е спу͡одняго тава̀рыша. — Куды̀ табі͡е да менѐ! Як захачу̀, дак я цебѐ задушу̀. Не ты, а я мелю̀ муку̀ да й мелю̀ ту͡олькі тагды̀, як сам хачу̀. От паба̀чыш, як я замелю̀. — Пры гэ̀тум ён так закруці̀ўса, так зашумі͡еў, што аж распа̀ўса на кускі̀. Пабедава̀ў мѐльнік да й вы̀кінуў ты͡е кускі̀ ў гра̀зь, як ні па ву͡ошто не патрэ̀бные. Купі̀ў чалаві͡ек но̀вы вѐрхні ка̀мень, до̀ўго мало̀ў, алѐ й той змало̀ўса. А спу͡одні ка̀мень папа̀ўса такі̀ до̀бры, што мѐле мо й да тых час.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 21. Стралѐц і рыба̀к.

Пра̀ўду людзі ка̀жуць, што ў стралца̀ дым гу̀сты, да абіед пусты̀, а рыба̀к як памо̀чыцца, та іесьці й нехо̀чэцца. Былі ў ба̀цька два сыны̀. Вы̀расьлі яны̀ як дубы̀, а ба̀цьку ўсе палѐгкі німа̀. Буо̀льшы старэ̀нны быў хло̀пец, алѐ з са̀маго малѐнства туо̀лькі рабіў па̀сткі да ўселякіе лаву̀шкі, а як падруос, дак дастаў сабіе стрэ̀лбу да й пача̀ў з ѐю піестувацца. Людзі йдуць на работу, а ён ускіне стрэ̀лбу на плечо̀ да й шмык у ліес, або̀ ў бало̀то. Цяга̀ецца там увесь дзень, а прыдзе да гаспо̀ды з пусты̀мі рука̀мі да гало̀дны бы воўк. Перш сварыўса на яго̀ ба̀цько, алѐ по̀тым і замаўча̀ў, бо ба̀чыць, што ніч̀ого не пара̀дзіць, калі така̀я ў сына ахво̀та. Цяга̀ецца стралѐц, аж у яго̀ жылы раву̀цца, а прыбы̀тку німа̀ ніякаго, бо ён пук, дзѐсяць грошэй з рук; дым густы̀, а абіед пусты̀. А часа̀мі зло̀віць за̀йца за яйца дак і таго̀ хучы̀эй несѐ па̀ну, каб той даў по̀раху. А мѐньшы сын прыда̀ўса такі гульта̀й, што хаць вазьмі да й вы̀гань вон. Не хо̀чэ ён ні за̀ што ўзяцца ў гаспада̀рцы, туо̀лькі дзень і нуоч седзіць па рацы̀э да ву̀дзіць ры̀бу. Нало̀віць ён ша̀пку бабуруоў ці плуотак, — яка̀я там у хаджа̀йству карысь? Пача̀ў і на яго̀ ба̀цько сварыцца, што туолькі марнатра̀віць час, а не ро̀біць дзіела. Алѐ й меньшы сын не слу̀хае ба̀цька, бо, віедамо, ахво̀та гары̀эй нево̀лі. Як яму̀ рабіць дзіело, калі яго̀ цягне на ры̀эку? Ду̀маў, ду̀маў стары̀, як тут атвучы̀ць сынуоў ат ліхо̀го нало̀гу, алѐ ніч̀ого не мажэ̀ прыду̀маць. Туо̀лькі ось прыхо̀дзіць к яму̀ якісь дзедо̀к да й заста̀ѐцца на̀нач. Жа̀ліцца стары̀ таму̀ дзедку̀ на сваі̀х сынуоў, жа̀ліцца, што нагадава̀ў дзецѐй, а не ма̀е па ста̀расьці падмо̀гі. Вы̀слухаў дзед да й пара̀дзіў яму̀, што зрабіць. От на другі дзень сабраліса сыны̀ ў ха̀ту, сіелі вечэ̀раць да й пачалі раска̀зваць, якіе з імі за дзень былі прыпа̀дкі. Буо̀льшы сын ка̀жэ, што яшчэ̀ з са̀маго ра̀на натра̀піў ён цы̀элую чэ̀раду куоз. Была̀ там каза̀ з казеня̀тамі да стары̀ барада̀ты казёл, алѐ от туо̀лькі ён злажы̀ўса, каб вы̀страліць, аж у казла̀ ў нуоздрах закруціліі во̀сы. Казёл як чмыхнѐ,

як вы̀лецiць з ну͡оздраў цы͡элы ру͡ой ву͡ос да як пачнѐ ры͡эзаць казу̀ з казеня̀тамі, дак яны̀ ўсі͡е й су̀нулі ў гушчэ̀чу. Пашо̀ў ён, ка̀жэ, сачы̀ць па сьлі͡еду да й спатка̀ў ло̀ся да тако̀го рагаля̀, што было̀-б мя̀са на паўго̀да. Прысі͡еў гэто ён за пень да й чака̀е, паку̀ль лу͡ось пады̀дзе бліжы͡эй. Са̀дзіць рага̀ль про̀сто на яго̀, са̀дзіць, аж земля̀ сто̀гне да ту͡олькі рага̀мі алѐшнік ло̀міць. Падышо̀ў ён мо̀о ўжэ на паўго̀ні ці мѐньш, алѐ ось прыгры͡эло со̀нейко, й закруцілі ў яго̀ ў ну͡оздрах шаршнѝ. Трыма̀ўса, трыма̀ўса лу͡ось да як чмыхнѐ, дак і вы̀лецяў з ну͡оздраў цы͡элы ру͡ой шаршнё̀ў. От лу͡ось верць галаво̀ю да й суну̀ў у вы̀жар купа̀цца, каб абагна̀ць шаршнё̀ў. Ён вы̀скачыў з пад ку̀ста да за ім, алѐ куды̀ там дагна̀ць гэстакую цыгла̀тую махі̀ну. Німа̀ чаго̀ рабіць, пашо̀ў ён да̀лей да й хаці͡еў прайцѝ праз алѐс. Ту͡олькі ён прапі̀шчыўса праз гушчэ̀чу да вы̀лез на прага̀ліну,—зірнѐ, аж там стаіць на за̀дніх ла̀пах велізазны, бы ву͡ол медзьві͡едзь, чмы̀хае да абганя̀ецца перы͡эднімі ла̀памі ат чмелё̀ў. Дагада̀ўса ён, што гэто ту͡олькі што чмелё̀ў ру͡ой вы̀шаў з ну͡оздраў медзьвѐдзя, дагада̀ўса, што ў такѝ час медзьві͡едзь вѐльмі драпі͡ежны да й пабая̀ўса страля̀ць, а скары͡эй узлі͡ез на алѐшыну. Дак от, ка̀жэ, й седзі͡еў там мо̀о гадзін пъяць, каб не сустры͡эцца з медзьвѐдзям. А шко̀да, што не стральну̀ў, — до̀брая-б была̀ шку̀ра. Пача̀ў разка̀зваць і мало̀дшы сын, як ён лаві̀ў ры̀бу. От,—ка̀жэ,—от-от хо̀піцца на кручо̀к велізазная ры̀біна, падцягну̀ я яі͡е к бѐрагу, а яна̀ віль хвасто̀м да й адарвѐцца. Адну̀ я ўже чуць не ўхваці̀ў рука̀мі, ту͡олькі не утрыма̀ўса да й шабулды̀х у во̀ду. Насілу вы̀карапкаўса. Слу̀хаў, слу̀хаў ба̀цько да й ка̀же.—Му̀сіць сынкѝ зьверына̀ ў лі͡есі, а ры̀ба ў рацы͡э да не ў руцы͡э. Стралѐц страля̀е, а гаспада̀рка гуля̀е. Рыба̀к ры̀бу ву̀дзіць да ві͡ек ну̀дзіць. А гаспада̀р на сваём агаро̀дзе раўня̀ ваево̀дзе. Я ўже стары̀, мо̀о ско̀ро памру̀. Пара̀ ду̀маць пра сваю ду̀шу, бо сьмерць не за гара̀мі да за плеча̀мі. Жыві͡еце сынкі, як зна̀еце, а я пайду̀ ў сьві͡ет, пакланю̀са сьвятым угу͡однікам да памалю̀са бо̀гу за сваю̀ гры͡эшную ду̀шу.—Сказа̀ўшы то̀е, пача̀ў стары̀ зьбіра̀цца ў даро̀гу. Па нема̀лум ча̀се пашо̀ў стары̀ ат цэ̀ркві да цэ̀ркві, ат про̀шчы

да про̀шчы. Засталіса сыны̀ без ба̀цька, а гаспада̀рка без гаспа-
дара̀, дак ху̀тко ўвесь дву͡ор запусьці͡еў. Не пасьпі͡елі стралѐц
да рыба̀к азірну̀цца, як німа̀ чаго̀ й у рот палажы̀ць. От і па-
чалі̀ яны̀ спрача̀цца, хто віна̀ват. Спрача̀ліса, спрача̀ліса, алѐ
пра̀ўды не дакапа̀ліса. Ту͡олькі ось прыхо̀дзіць к ім той са̀мы
дзедо̀к, што захо̀дзіў к іх ба̀цьку, да й заста̀ўса нанач. Трэ па-
частава̀ць падару͡ожнаго, а тут ні͡ечым. Стралѐц ка̀же бра̀ту, —
нехаѝ-бы ты налові̀ў ры̀бы, каб было̀ чым прыня̀ць бо̀жаго ча-
лаві͡ека. — А рыба̀к адмаўля̀е бра̀ту, — нехаѝ бы ты настраля̀ў
зьверыны̀, каб пачастава̀ць ста̀рца. — Дзя̀куй вам на до̀брум
сло̀ве, — ка̀жэ ста̀рац, — у менѐ е хлі͡еб, што до̀брыі͡е людзі
далі̀. — От даста̀ў ён з то̀рбы хлі͡еба, са̀ла, сы̀ра да яѐц і пача̀ў
частава̀ць стралца̀ да рыбака̀. Як ні со̀рам было̀ ім прыма̀ць па-
чо̀стку ат бі͡еднаго ста̀рца, алѐ го̀лад не сву͡ой брат, забу̀дзеш
і со̀рам. Накі̀нуліса гало̀дныі͡е стралѐц да рыба̀к, дак чуць не ў̀сю
то̀рбу апраста̀лі ў ста̀рца. Наі͡еліса яны̀, дак і пыта̀е іх ста̀рац,
чаму̀ яны̀ такіі͡е бі͡едныі͡е, — хіба̀, — ка̀жэ, — вам бу͡ог даў яко̀е
нешча̀сцье, ці што. Перш со̀рам было̀ ім прызнава̀цца, а нарэ̀шце
такі̀ прызна̀ліса, што ў іх прапа̀ла гаспада̀рка. — А як-жэ вы
ўпѐрад жылі̀? — пыта̀е ста̀рац. — Ба̀цько гаспадарава̀ў, — атка̀-
зваюць яны̀. — А ён малады̀, ці стары̀? — Стары̀. — Дак от ба̀-
чыце, ён стары̀ да гаспада̀ркаю кармі̀ўса сам і кармі̀ў вас, а без
гаспада̀ркі вы й малады̀і͡е да здаро̀выі͡е не мажэцѐ пражы̀ць. —
Дагада̀ліса браты̀, што ні зьверыно̀ю, ні ры̀баю без гаспада̀ркі
ні͡ельга жыць да й узя̀ліса яны̀ за хаджа̀йство. От ху̀тко яны̀ на-
пра̀вілі гаспада̀рку, а тым ча̀сам верну̀ўса стары̀ ба̀цько. Зірну̀ў
ён туды̀-сюды̀ да й пазна̀ў, што яго̀ сыны̀ набра̀ліса ро̀зуму, што
страля̀юць тагды̀, як зьві͡ер набежы̀ць, а ры̀бу ло̀вяць, як яна̀ сама̀
ў ку͡ош лі͡езе. — От ён і ка̀жэ, — цепѐр я спаку͡ойно памру̀, бо
ба̀чу, што маі͡е сыны̀ ні стралцы̀, ні рыбакі̀, а гарапа̀шнікі гас-
падары̀, як і я сам.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 22. Пан і мужы̀к.

Быў адзін вѐльмі до̀бры маёнтак. Землі̀ як во̀ко схва̀ціпь, а земля̀ до̀брая, зраджа̀йная, от здаѐцца, пасадзі̀ дзіця̀, дак і то̀е вы̀расьце. А сенажа̀ці мур͡уо́жные да берагі̀, — с͡іена н͡іекуды дзева̀ць. Дв͡уор кала̀ са̀ма͡іе ракі̀. Будынак — пала̀цы. Дабра̀, аж буд͡уо́уля ло̀міцца. Круго̀м сад, бацпэ ў раю. Така̀я па̀ну жытка, што й памі̀ра̀ць не трэ. Алѐ што паны̀, яны̀ за̀ўжды ат дабра̀ кру̀цяцца. Так і той пан. Пры͡іедзе ба̀ло ў дв͡уор, б͡іегае бы шалёны да крычы̀ць на камыса̀ра, ла̀е дв͡уорню, а ты͡іе жа̀ляцца на на̀шаго бра̀та-мужыка̀. А, в͡іедамо, так за̀ўжды, што калі̀ што не так, дак віна̀ва̀т мужы̀к. — А даць яму̀ сто гара̀чых, — крычы̀ць пан. От таб͡іе і ўся спра̀ва. Т͡уо́лькі тагды̀ тро̀хі супако̀іцца пан, як пры̀дуць к яму̀ ў дв͡уор ты͡іе дзеўкі̀, като̀рых хо̀чуць лю̀дзі браць. Там была̀, ба̀чыце, така̀я павядэ̀нцца, што паку̀ль дз͡іеўка не схо̀дзіць к па̀ну, дату̀ль нем͡уо́жне рабі̀ць вес͡іельля. От ба̀ло пагоняць к па̀ну дзево̀к ц͡ыэлую чэ̀раду бы авѐц, а ён берэ ці к саб͡іе, ці гасьця̀м. От пакру̀ціцца пан з ты̀дзень ці б͡уольш да й зноў па͡іедзе чорт в͡іедае куды̀. Ка̀жуць ён усѐ ͡іездзіў у Арша̀ву, ці за грані̀цу. Яго̀ лёкай раз падвы̀шіў, дак казаў, што ў па̀на быў такі̀ другі̀ маёнтак, алѐ ён прайгра̀ў яго̀ ў ка̀рты. Мо̀о хлусіў, а мо̀о й пра̀ўда. Т͡уо́лькі ось адзін раз вѐльмі до̀ўго не было̀ па̀на. Р͡уо́зно гада̀лі лю̀дзі. Другі͡іе пашлі̀ гамані̀ць, што ужэ̀ саўсім небу̀дзе па̀па, што нас во̀зьмуць у казну̀, ці саўсім пу̀сьцяць на во̀лю. Т͡уо́лькі быў у нас адзін пъяньчу̀жка, дак той пра̀ўду каза̀ў, што бало̀то без чо̀рта не бу̀дзе; адзін загіне, дзѐсяць бу̀дзе. Дак то̀е на пра̀ўду й вы̀шло. От я̀кась пѐрад Сѐмухаю сагна̀лі людзѐй у дв͡уор. Сышлі̀са яны̀ на дзедзі̀нец, седзя̀ць пакурваюць саб͡іе люлькі̀ да гамо̀няць аб т͡уом, аб сѐм. Ужэ со̀нейко паднялось да й пачало̀ каціцца до̀лу, а яны̀ ўсе седзя̀ць да чака̀юць вядамо̀сьці, на што іх сагна̀лі. Усхапі̀ўса той пъяньчу̀шка да й ка̀жэ: хаць-бы далі̀ па ча̀рцы гар͡ыэлкі чарвяка̀ замары̀ць, а то штось кала̀ сѐрца от так і завіло̀. Пачалі̀ лю̀дзі шуткава̀ць

да сьмея̀цца, от дзень і хучы͡эй прайшо̀ў. Зірцулі яны, аж ужэ й со̀нейко нізко, вѐчар блі̀зко. Вы̀шаў камыса̀р да й велі͡еў прыхо̀дзіць на за̀ўтрэ ра̀ненько. — Ото̀-ж да̀рам прапа̀ў дзень, ба̀ццэ сьвіне зьі͡елі, — ка̀жуць людзі да й цягнуцца хто ў ка̀рчму, а хто да гаспо̀ды, бо ўжэ духі надвело̀. Хадзілі так людзі без дайра̀цы мо̀о ку͡олькі дзён, нарэ̀шце ось і прыі͡еxаў асэ̀сар і зь ім які̀сь незнаѐмы пан. Пашлі яны ў пако̀і да й пачалі̀ сабі͡е сілкава̀цца. Ві͡едамо, пану͡ом ча̀су мну͡ого, а што людзі да̀рам петры͡эюць, дак ім кло̀пату ма̀ло. Алѐ ось ужэ пѐрад са̀мым вѐчарам вы̀шаў к людзям асэ̀сар з камыса̀рам і но̀вым па̀нам, перачыта̀ў які̀сь папі͡ерак да й ка̀жэ: От вам но̀вы пан. Слу̀хайце яго̀ да шану̀йце, та й ён не пакіне вас, а бу̀дзе вам як ба̀цько. Тут падалі̀ ко̀пей. Асэ̀сар сі͡еў да й паі͡еxаў, а но̀вы пан забра̀ў камыса̀ра да й пашоў з на̀мі на по̀ле. Ту͡олькі вы̀шлі мы з вару͡от, от і пача̀ў пан аглядаць по̀ле да рахава̀ць, які̀ гату̀нак гру̀нту. А по̀ле было̀ ўзо̀рано там яшчэ̀ аб во̀сень на зяб да так і застало̀со не засі͡еянэ. Ві͡едамо, за̀ зіму раля̀ зраўня̀ласа, ба̀ццэ й не го̀рано. Уско̀чыў пан у сваі̀х ляксава̀ных бо̀тах на кратаві͡ене да й правалі̀ўса па са̀мые ку͡остачкі. — От до̀брая земля̀, — ка̀жэ ён камыса̀ру. — Алѐ до̀брая, — атка̀звае той. Пача̀ў пан пыта̀ць стары̀х людзѐй, яко̀е тут лі͡епш сі͡еяць збу͡ожжэ, а ты̀е ка̀жуць, што як бу͡ог дась, дак уселя̀кае заро̀дзіць. Схілі̀ўса тут пан, узя̀ў у жмѐню зямлі̀ да й палажы̀ў яі͡е ў губу̀, нібы̀то смаку̀е, на яко̀е збу͡ожжэ яі͡е лі͡епш аберну̀ць. Пазіра̀юць людзі, што пан языко̀м выбіра̀е зѐмлю да па сма̀ку про̀буе, што на ёй до̀брэ заро̀дзіць да ту͡олькі сьмею̀цца з дурно̀го па̀на. Яны̀ ду̀мають, што пан ту͡олькі чму̀ціць, нібы̀то па смаку̀ мажэ̀ пазна̀ць до̀брую зѐмлю. От закапітава̀ў пан землі̀ да й зну͡оў пыта̀е людзѐй, яко̀е збу͡ожжэ тут лі͡епш заро̀дзіць. Маўча̀ць людзі, да ту͡олькі пазіра̀юць адзін на друго̀го. Алѐ ось выскачыў той пьяньчу̀жка да й ка̀жэ: Ні͡е, пано̀чку, дарэ̀мная хватыга! Ту͡олькі тагды̀ ат землі̀ пазна̀ць смак мо̀жэш, як на яі͡е . . . . . (гно̀ю) пало̀жыш.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 23. Безногі багатыр.

У ніеякум царстве, ў ніеякум гасударстве жыў-быў каваль да каваліха. Спарадзіла каваліха, на яіе ліха, гожаго хлапчука да безногаго. Расьце хлапчук не на радась, а на горэ. Віедамо, каліека зроду, якая радасьць бацькуом. Гадуецца ён як пакідзішчэ. Управіцца каваліха кала печы да й бежыць у поле, ці ў вагаруод, а хлапчук валяецца па землі да смокчэ скарынку, або жуе парануую картоплю. Кінула яго раз каваліха на дзедзінцы, дак чуць яго сьвіне не зьіелі. Не шкадуе каваліха, на яіе ліха, свайго дзіціяці, бо, — кажэ, — якая зь яго карысьць. Каліека — не памога, а туолькі абуза. Хаць-бы яго буог з сьвіету прыбраў. — А тут ён наперакуор расьце да таусьціее. Вырас ужэ хлапчук нелапы, але не ходзіць, да туолькі поўзае. Карміць яго карміі, а карысьці з яго ніякаіе німа. Яшчэ гарыэй пачала яго праклінаць матка да наракаць на бога, што даў ён сына не на уціеху, як людзям, а на беду. Слухаў, слухаў каваль праклёны дурноіе бабы, але нічого не мажэ нарадзіць. Шкода яму хлопца, але ат бабы жыткі німа. От нарэшце не вытрымаў ён запруог кабылку, пасадзіў на вуоз сына да й паўёз яго ў ліес. Заўёз ён далёко ат вёскі да й хаціеў там пакінуць сына на страту, але ўбачыў у ліесі малёнькую хатку. Уліез ён у хатку, аж там нікого німа. Зірнуў ён туды-сюды, — у хаццы ўсе е, а гаспадыні німа. От ён унёс сына ў хатку да там і пакінуў, а сам сіеў на вуоз да па кабылцы, да па кабылцы. Патарахціеў ён хучыэй, не аглядаючыса, каб ніхто не дагнаў. Седзіць хлапчук адзін у хаццы да разглядае, што там е. Туолькі ось прыходзіць якісь старэнькі дзедок і просіць напіцца. — Рад-бы я даць табіе напіцца, — кажэ хлапчук, — да немагу хадзіць. — Прашкі, — кажэ дзедок, — зачарпні да перш закаштуй сам, ці харошая вада. — А хлапчуку даўно ніць хаціеласо, хлебануў ён да й выдундзіў немаль поўны куорчык. Як выпіў, дак атразу пачуў у сабіе такую сілу, што здаецца ўсю зёмлю пераверпуў-бы, каб туолькі было аб што

ўперціса пагамі. Напіўса дзедок да й кажэ: ні болыш, бо табіе трэ велікая сіла, — да й зьнік, бацца яго й не было. Падзівіўса хлапчук, думаў, што гэто яму прысьніласо, але бачыць, што ў яго здаровые ногі, што ён так ідзе, што пад сабою й землі не чуе. Напіўса ён яшчэ таіе вады, дак і чуецца, што яму німа раўні на ўсём сьвіеці. Хаціеў ён яшчэ болыш наліць вады да як узяўса за збан, дак і разгнеў яго, а вада выліласа. Схапіў ён ведро да й пабіег да крыніцы. Шукаў ён яіе, шукаў, — німа, от бы ў зёмлю праваліласа. Варочаецца ён да хаткі, аж і тая прапала. Ён туды, ён сюды да так заплутаўса у гушчэчы, што не віедае куды йці. Пастаяў ён трохі да й пашоў просто. Ідзе ён, а сьпераду пападзецца тоўстая хвоя, або дуб, як піеч. От схопіць ён адною рукою дзераво, дак тое й хрусьне бы саломіна. Ідзе ён да варочае дзераўлякі, бацца там віхар праленіеў. А ён ломіць ліес дзеля таго, каб зрабіць міетку да ў другае туды не прыйці. Доўго ён так ішоў, навуль вышаў на дарогу. А там наабапал дарогі лежалі велізазные камені, бацца валы. От і пачаў ён перакідаць тое каміеньне на дарогу, бы картоплю. Тулькі ось іедуць багатыры. Падъіехалі яны да й супыніліса, бо ніельга іехаць далей, каміеньне мешае. — Здаруоў, дзецюк, — кажуць багатыры, — што ты робіш? — Граю сабіе, — кажэ той хлапчук. От багатыры зьліезьлі з коней да хаціелі апрастаць дарогу; ўзеліса яны за адзін камень, але немогуць яго й крэнуць. Падышоў тут хлопец да й згруоб тое каміеньне ў руоў. — Паіедзем з намі, — кажуць багатыры. — Як-жэ я паіеду, калі ў мене німа каня, — атказвае хлопец. — Выбірай сабіе каня з нашых. — Пашоў хлапец выбіраць сабіе каня, але тулькі паложыць каню на сьпіну руку, дак той і ўпадзе на перэдніе каліенкі. Перабраў ён так усіх коней, а сабіе не выбраў ні годнаго. От пашоў ён з багатырамі, тые на конях, а ён піешкі. Тулькі ось бачыць ён, што кала дарогі мужык скародзіць поле. Кабылка ў яго худая, маленькая, але жылістая. Палажыў ёй хлопец руку на сьпіну, а яна й не ўхмыліласа. От пачаў ён таргаваць тую кабылку, але мужык не хочэ аддаваць ні за якіе грошы. — На вуошто мніе

грòшы, — кàжэ ён, — яшчэ хто забъè, а без капя̀кі, як я ўпраў-люса з гаспадàркаю. Без капя̀кі й чалаві͡ек не чалаві͡ек. — Паменя̀й сваю кабы̀лку на каня̀, — кàжуць багаты̀ры, — беры̀ сабі͡е на вы̀бар, якòго хòчэш. — Хто меня̀е, ў таго̀ хаму̀т чуля̀е, — кàжэ мужы̀к. Насілу багаты̀ры ўламàлі мужыка̀ да за пàру сàмых лі͡епшых кòней вы̀менялі хлопцу ту̀ю кабы̀лку. Сі͡еў ён на кабы̀лку, й паі͡ехалі яны̀ дàлей. Ту̀олькі ось падъі͡ехалі яны̀ к ту̀ой вѐсцы, дзі͡е жыў хлопца бàцько, да й стàлі кала̀ ку̀зьні кавàць кòвей. Непазнàў кавàль сы̀на, так ён зьменіўса, да падкавàў і яго̀ кабы̀лку. От і прòсіць кавальчу̀к, каб бàцько вы̀кавалў яму булаву̀. Сабрàў кавàль усè залі͡езо да й вы̀каваў таку̀ю булаву̀, што ў трох насілу яі͡е варòчаюць. Узя̀ў кавальчу̀к ту̀ю булаву̀, пакруціў яі͡е аднòю рукòю да як шыбану̀ў угòру, дак яна̀ неві͡едамо дзі͡е й дзі͡еласа. Стая̀ць багаты̀ры да дзівяцца. Алè ось панемàлым чàсі͡е й гудзè тая булава̀, бы гру̀ом грыміць, леціць уніз. Падставіў кавальчу̀к калі͡ено. Уды̀рыласа булава̀ аб калі͡ено да ту̀олькі скрывіласа. Прыбàвіў кавàль яшчэ з пуд залі͡еза да й вы̀каваў мацні͡ейшую булаву̀. Падзя̀куваў кавальчу̀к, узя̀ў ту̀ю булаву̀ да й паі͡ехаў з багатырàмі ў сві͡ет. Прыі͡ехалі яны̀ к аднаму̀ цару̀ й панелісa на слу̀жбу. Па немàлым чàсе абъявіўса там вѐльмі ду̀жы зьмі͡ей і пачàў прылетàць да цягàць к сабі͡е людзѐй. Багàцько пахватàў ён людзѐй да й паі͡еў іх. Нарэшце захаці͡еласо яму̀ цàрськаго мя̀са, от і схапіў ён царэ̀ўну да й запъѐр к сабі͡е ў лѐху, алè не і͡есь, а трымàе на заку̀ску. Абъявіў цар па ўсему̀ цàрству, што дась таму̀ паў цàрства й аддàсь зàмуж царэ̀ўну, хто яі͡е вы̀бавіць ат зьмі͡ея, а яго̀ забъè. Мну̀ого парывàласо сільных багатыро̀ў біцца з тым зьмі͡еям, алè ўсі͡е яны̀ там загубілі сваі͡е ку̀остачкі. Нарэшце вы̀звалісa й ты̀е багаты̀ры, што прыі͡ехалі з кавальчукòм. — Паі͡едзем з нàмі, — кàжуць яны̀ кавальчуку̀. — Ты яшчэ малады̀, парà й табі͡е шукàць слàвы. Паі͡едзем, та мы цебè наву̀чым як біцца. Згадзіўса кавальчу̀к і паі͡ехалі яны̀ рàзам. От і͡едуць яны̀ да і͡едуць і падъі͡езджаюць, аж растапцы̀ па дарòзе й стаіць слуп, а на ём штось напісано. Быў з іх адзін пісьмѐнны, от і пачàў ён чытàць. От і перачытàў ён, што хто

па͡іедзе напра̀во, той дабу̀дзе сабі͡е сла̀ву, хто налі͡ево, зна̀йдзе бага̀тство, а хто про̀сто, таго̀ спатка̀е сьмерць. І пачалі тут багатыры̀ выбіра̀ць, куды̀ хто ахву͡оч і͡ехаць. Вы̀бралі яны̀ ўсі͡е даро̀гу напра̀во й па͡іехалі шука̀ць сла̀вы, ту͡олькі адзін кавальчу̀к ка̀жэ, што ат сьмѐрці не атпѐрці, дак лі͡епш і͡ехаць про̀сто. Як ні адмаўля̀лі багатыры̀, а кавальчу̀к упѐрса да такі адзін па͡іехаў про̀сто. Пра͡іехаў ён тро̀хі да й тра̀піў на ту̀ю са̀мую ха̀тку, куды̀ ягò заўѐз ба̀цько безно̀гаго. Прывезаў ён кабы̀лку да й улі͡ез у ха̀тку. Зірну̀ў ён у кут, аж там у за̀печку седзіць вѐльмі старэ̀нькая ба̀ба. — Здаро̀ва была̀, ба̀бко! — Дзя̀куй табі͡е дзецючо̀к. Куды̀ бу͡ог несѐ? — пыта̀е яна̀. — Па͡іеду, ба̀бко, про̀сто. — Не і͡едзь, дзі͡еткі, бо загінеш. Там зьмі͡ей зъі͡есь. — Ні͡е, ба̀бко, па͡іеду, хаць загі̀ну. — Шко̀да мні͡е цебѐ, дзі͡еткі. Ты быў у ма͡ей ха̀тны, дак ты мні͡е, ба̀цэ ру͡одны ўнук. Дак от-жэ слу̀хай менѐ. Што ты ні сустры̀энеш на даро̀зі, дак не забіва̀й, та яно̀ табі͡е ў даро̀зі да ў бедзі͡е паслу̀жыць. — Падзя̀куваў хло̀пец ба̀бе да й паі͡ехаў да̀лей. Ту͡олькі ён атъі͡ехаў ат ха̀ткі, аж вы̀скачыў за̀яц. Хаці͡еў ён швырну̀ць у ягò булаво̀ю, алѐ той ка̀жэ: не бі менѐ, я табі͡е ў бедзі͡е паслужу̀. Па͡іехаў ён да̀лей, а за̀яц бежы̀ць за ім на̀зіркам. Ту͡олькі ось вы̀скачыў во̀ўк. Ён за булаву̀. А во̀ўк ка̀жэ: не бі менѐ, бу̀ду табі͡е патры̀эбен у бедзі͡е. Апусьці̀ў ён булаву̀ да й па͡іехаў да̀лей. Бежы̀ць во̀ўк на̀зіркам. От падъі͡ехаў ён к камі͡еннуй гары̀. Німа̀ як і͡ехаць да̀лей. Зьлі͡ез ён з кабы̀лкі, пусьці̀ў яі͡е на па̀шу, а сам пашо̀ў шука̀ць даро̀гі. Тым ча̀сам зьмі͡ей вы̀лез з лѐху жырава̀ць да як раз тра̀піў туды̀, дзі͡е была̀ кабы̀лка. Ба̀чыць во̀ўк, што зьмі͡ей зьі͡есь кабы̀лку, от ён як папало̀хаў яі͡е, дак яна̀ й пусьці̀ласа паўцекача̀ сусіх ну͡ог да тым ча̀сам і ўцекла̀ ат зьмі͡ея. Пажырава̀ў зьмі͡ей да й верну̀ўса к сабі͡е ў лѐху. От прыбі͡ег к хло̀пцу за̀яц да й паказа̀ў яму̀ ту̀ю шчы̀ліну, дзі͡е зьмі͡ей зачыні̀ў царэ̀ўну. Пагру̀каў хло̀пец булаво̀ю ў камі͡енную сьці͡ену, от там і наказа̀ласа царэ̀ўна да й ка̀жэ: уцека̀й, бо зьмі͡ей зьі͡есь. А тут хло̀пец размахну̀ўса да як трэ̀сьне булаво̀ю аб сьці͡ену, дак яі͡е й вы̀садзіў. Кі̀нуласа к яму̀ царэ̀ўна на шы̀ю да дава̀й прасі̀ць, каб даўѐз яі͡е к ма̀тцы да к ба̀цьку. Тым ча̀сам

зьмiей высунуў голаў праз шчылiну да й хацiеў зьесьцi таго хлопца. Тут хлопец схваціў булаву да як рызне па галавiе зьмiея, дак з яiе й маскi пацеклi. От атрызаў ён у зьмiея язык да й палажыў яго сабiе ў кайстру. Тым часам зьмiей высунуў другую голаў. Хлопец i тую размажджыў да выразаў язык. Такiм парадкам расквасiў ён зьмiею усiе двананцаць галоў. Рада царэўна, што такi знайшоўса багатыр да й страцiў лiхого зьмiея. Спадабаўса ёй той хлопец i абецала яна, што пуойдзе за яго замуж, як ён завезе яiе к бацьку да к матцы. А што гэто праўда, дак яна разарвала хустачку да й дала хлопцу адну палавiнку. Палажыў хлопец хустачку за пазуху да й лёг спаць, бо вельмi ўтамiўса, пакуль ухадзiў зьмiея. Сьпiць хлопец багатырскiм сном i не чуе, што беда блiзко. Тым часам тые багатыры падъiехалi туды, ўбачылi царэўну да й пачалi яiе пытаць, як тое ўсе было. Расказала яна ўсе, як было да й кажэ, што пуойдзе замуж за таго хлопца. Пазавiдувалi яны хлопцу, падбiеглi к яму соннаму да й забiлi яго. Потым пачалi яны спрачацца, каму павiнна дастацца царэўна. Доўго спрачалiса яны, нарэшце пачалi бiцца, пакуль пазабiвалi адзiн другого. Застаўса туолькi адзiн самы дужы да спрытны. От ён прымусiў царэўну, каб яна сказала бацьку да матцы, што гэты багатыр забiў зьмiея й выбавiў яiе з певолi. Нiма ёй чаго рабiць, трэ згаджацца, бо яiе каханаго хлопца нiма ў жывых. От той багатыр пасадзiў царэўну на свайго каня да й паўёз яiе к цару. Тым часам заяц пабiег да крынiцы, набраў там жывоiе вады ў рот, прынёс да й пырснуў хлопцу ў вочы. Ажыў той да й прахапiўса. Зiрнуў ён, аж царэўны ўжэ нiма. Дагадаўса ён, што тут было лiхо, да чуць не заплакаў ат жалю. Хацiеў ён хучэй бiегцi к цару да расказаць там усю праўду, дак, вiедамо, пiешкi далеко не забежыш хутко. Тым часам воўк пабiег па лiесi да й траniў яго кабылку. Напужаў ён яiе да й прыгнаў туды. Сiеў гэто хлопец на кабылку да й паiехаў хучэй к таму цару. Прыезджае ён туды, аж там ужэ усiе гатовяцца к весiельлю. Пашоў ён к цару да й расказаў яму ўсю праўду. Не мае цар вiеры да й пытае ў дачкi. Але вiедамо, тая кажэ

ту͡ольки тòе, што ёй вел͡іеў казàць той багатыр. От цар вел͡іеў за паклёп пав͡іесіць тагò хлòпца. Тут ту͡ольки пачалì ягò пытàць, хто ён такì. — Я, — кàжэ, — безнòгі багатыр, а бу͡ольш я вам нічòго не скажу̀. От ужэ ведỳць тагò безнòгаго багатырà в͡іе-шаць. А тым чàсам царэ̀ўна пашлà ў сад гулѧ̀ць. Ідзè хлòпец да й бàчыць, што калà плу͡оцьця тул͡іецца зàяц. От ён вы̀няў з-за пàзухі тỳю хỳстачку да й кінуў зайцу. Схапіў зàяц хỳстачку да й прымчàў царэ̀ўне. Зірну̀ла тàя да чуць не абамл͡іела. — Чагò ты, — пытàе цар. Тут янà кінулася царỳ-бàцьку ў нòгі, раска-зàла ўсю прàўду да й пачалà прасіць, каб не в͡іешалі тагò хлòпца, катòры збàвіў ѧ͡іе ат зьм͡іея. От цар вел͡іеў не в͡іешаць тагò хлòпца, а прывесьці ягò ў палàцы. Прышòў ён з сваèю кàйстраю да й стаіць. Пачàў тут цар пытàць ягò, як тòе былò. Расказàў ён усе, як былò. А той багатыр кàжэ, што гэ̀то непрàўда. Тагды̀ безнòгі багатыр вы̀цяг з кàйстры зьмеіны͡іе языкі да й пытàе: а гэ̀то што? Зьмешàўса той багатыр, а царэ̀ўна паказàла бàцьку аб͡іедзьве палавінкі хỳстачкі. Тагды̀ ўс͡іе пав͡іерылі. Тагò ліхòго багатырà пав͡іесілі, а безнòгі багатыр жанìўса з царэ̀ўнаю да й заўладàў палавінаю цàрства. Спрàвілі гỳчнае вес͡іельле. Я там быў і мёд піў, па барадз͡іе цеклò, а ў рот не папàло.

Даніло Кул͡іеш.

Чудзін.

## 24. Мужык дỳрэнь як варòна, а хìцер як чорт.

Былò тòе даўнò, як сьв͡іет яшчэ̀ не быў такì хìтры, як цепèр. Жыў саб͡іе адзін мужык да такì дурны̀, бы варòна. Пакỳль стары̀ бàцько прàвіў, датỳль яшчэ̀ велàся секàя-такàя сьлімазàрная га-спадàрка. Алè ось бàцько занепàў, з ты̀дзень пакачàўса да й аддàў бòгу дỳшу. Застàўса дỳрэнь адзін. Німà ў ягò дроў, от ён па-л͡іез на хàту, паскідàў з страхì дòшкі да й павалачы̀ў іх у хàту цэ̀лы вòрах. Напрэ̀ тых дòшак пòўную п͡іеч да й запàліць. Тыр-чàць дòшкі з пèчы, так што й прайцì н͡іельга. — Чамỳ ты іх не

пасіек, — кàжуць сусіедзі, — гэто-ж ты яшчэ селò спàліш. — Яны й сàмі згарàць, на што іх сіеч, — аткàзвае дўрэнь да награвàе сабіе чэраво пèрад пòламъям. Даў буог вèсну, прыгрыэло сòнейко, пачалò зганàць сьніег, палілàса зьвèрху вадà да так, што дурнòму ніегдзе й схавàцца ў хàці. От ён увалўок у хàту кадушку, палажыў яіе бòкам, да й заліез ў яіе. Сагнàло з пòля сьніег, пачалì людзі лàдзіць сòхі да бòраны, пачалì гатòвіцца абрабляць зèмлю. Пашòў і той дўрэнь рапаравàць сабіе сòху. Бàчыць ён, што ў сасіе астàўса тўолькі адзін рагàч, от ён узліез на дуб, сіеў на галіну да й сечэ яіе. — Што ты рòбіш? — пытàюць людзі, — гэто-ж ты ўпадзѐш. — Аткўль вы знàеце, — аткàзвае дўрэнь да й не кідае сіекці. Сіек, сіек ён, пакўль і грымануў на зèмлю рàзам з галінаю. Зямлà была яшчэ мякая, от ён тўолькі трòхі атсадзіў азàдак. Пашлì людзі арàць да сіеяць. Сабрàўса й дўрэнь. Ён перш пасіеяў, пабаранаваў да давàй тагды арàць. — Дўрэнь, што ты рòбіш? Гэто-ж трэ перш арàць, а пòтым сіеяць. — Не кіям, а пàлкаю, — кàжэ дўрэнь да й рòбіць, як сам хòчэ. — Ты чòрта хрысьці, а ён кàжэ: ў вòду пусьці, — гавòраць людзі да й гòдзі вучыць дурнòго. Алè, віедамо, дўрню сам чорт памагàе. Выдаласо вèльмі сухòе ліето, дак у дўрня па пòлі зрадзіло ліепш як у людзѐй. Нажàў дўрэнь хлиеба паўніосьсенько гумнò, намалаціў збўожа цыэлую кліець. — Цепèр у цебè мнўого хліеба, — кàжуць жанкì, — дак чаму ты, дурны, не жэ̀нісса? — Я чакàю, пакўль жўонка самà менè ажэ̀ніць, — аткàзвае дўрэнь. Пасьмеялìса жанкì да й пашлì раскàзваць, што дўрэнь чакàе, пакўль бàба самà ягò ажэ̀ніць. От была там аднà маладàя ўдавà — бездзіетуха да такàя пагàная бàба, што яіе гаспадàр не вытрымаў да й засілўса. Прышлà тàя бàба к дўрню да й кàжэ: дурны ты, дурны, чагò ты жывѐш бы пень? Давàй пажэ̀німасо. — Гі-гі-гі! А чаму ніе? Жанìса са мнòю, — аткàзвае дўрэнь. Пашлà бàба к папў, назьбірàла людзѐй да й зрабіла лад. Тўолькі пабрàліса яны, як і пачалà бàба піліць дўрня да біць ягò кавепèю. Цèрпіць дўрэнь, дўмае, што так трэ̀ба, віедамо, на тòе-ж ён і гаспадàр, каб былò бàбе на кўом пачасàць рўкі. Зьневажàла ягò, зьневажàла бàба,

біла, біла, а ён хаць бы што, — маўчыць бы пень. Яшчэ гарыэй злуе паганая баба да лупіць яго абіеручкі та міешалкаю, та качаргою. Шкода стало дурному бабу, што яна саўсім атсадзіла сабіе рукі, от і пабіег ён ат яіе наўцекача. А бабе туолькі тое й трэба было. Пабачыла яна, што гаспадар уцекае, дак яна за ім.— Я-ж табіе пакажу сякі-такі, які ты гаспадар, што з сваіе хаты ўцекаеш, я-ж табіе пакажу. — Бежыць баба з-заду да перыэсьціць яго па чуом папало. Пабіег ён цераз агаруод да й пераскочыў цераз стары калодзесь, а баба разагналаса да шусь туды на самае дно. Як леціела яна, так і сіела чорту на карак. Не пасьпіеў той аглèдзецца, як яна давай яго лупіць міешалкаю па чуом папало. Круціўса, круціўса чорт, не віедае, што рабіць з паганаю бабаю, прысіеў на куортачкі, прыгнуў між каліень голаў, каб баба не пазьбівала рагоў, седзіць да аж пішчыць. Зірнуў дурэнь, што баба чорт віедае, куды дзіеласа да й паглядзіеў у стары калодзесь. Нахіліўса ён туды, тым часам баба здаволіласа муштраваць чорта, да глядзіць, як-бы аттуль вылезьці. Убачыў чорт, што дурэнь нахіліўса над калодзісям да й давай яго прасіць, каб адратаваў ат бабы. — Што хочэш дам, — кажэ чорт, — туолькі аслабані ат паганаіе бабы. — Кінуў дурэнь чорту вероўку. Той схапіўса за яіе да й паліез, а баба зноў шамелях яму на карак. Вылез чорт і вынес на сабіе й бабу да як сунè, дак туолькі хвуост зацеляпаўса. Баіцца чорт варочацца ў стары калодзесь да й заліез к пану ў пакоі. Грукае чорт у пакоях усюсеньку нуоч, не дае пануом супакою. Пашла прачутка, што ў пана ў пакоях атубаваўса чорт да й недае пануом жыць. Якое туолькі рады ні даваў пан: ён і прасіў ксендза да сьвяціў пакоі сьвянцонаю вадою, курыў руознымі сьвянцонымі зелкамі, прасіў знахаруоў, — але нічого не памагае, — седзіць чорт да куожную нуоч спраўляе там ігрышчэ. Саўсім выракса пан пакояў. От дурэнь пашоў да пана да й кажэ, што ён уміее, як чарцей выганяць. Рад пан. Абецаў ён заплаціць дурню много грошэй, каб туолькі ён выгнаў чарцей з пакояў. Застаўса дурэнь адзін у пакоях нанач, туолькі ўзяў с сабою вожыка. От падышла глупась,

пачалі зьбірацца чэрці, а дурэнь і кажэ: ой, уцекайце, бо сюды йдзе баба, та задась яна вам перцу. — Дзякуй табе, — кажэ той чорт, — што ты перасьцярог. На-ж табе за тое гасьцінца. — І дае чорт дурню цэлую жменю грошэй. Схаваў дурэнь грошы за пазуху да й кажэ: — чуеш, онь ідзе баба. — А то тупаў да скрубобса вожык. Спужаўса чорт, падагнуў хвост, да й не веідае, як ат бабы ўцекці. — Заплаці мне, як ты абецаў, — кажэ дурэнь, — та я цебе схаваю. — Добрэ, — кажэ чорт, — там і там закопаны грошы, вазьмі іх сабе, тольки схавай мене ат бабы. — Дастаў дурэнь з кішэні ражок з табакою, атчыніў яго да й кажэ: — лезь сюды. — Палез чорт, насілу зьмесьціўса. Зачыніў дурэнь ражок да й палажыў у кішэню. Тым часам убачылі чэрці, што гаспадара німа, дак і сунулі, хто цераз комін, а хто цераз шчыліну да й чорт ведае, куды дзеліса. Заплаціў пан дурню цэлую копу грошэй да яшчэ даў гасьцінца. Пашоў дурэнь да й выкапаў там повен гаршчок срэбла, бы лускі. Забраў ён грошы да гасподы да й захаваў пад печ. Тольки ось зноў зневажае яго баба. От ён атчыніў ражок, а чорт аттуль і выскачыў. Убачыў ён бабу да так спалохаўса, што й акаменеў. А баба спалохаласа чорта да й годзі зневажаць. З тых часаў пачалі яны добрэ жыць да грошы спажываць.

Даніло Кулеш.

Чудзін.

## 25. Дзевочы набуор.

Вы хочэце, каб я вам сьплеў казку, а я от здаецца ўсе казаў, а якіе яшчэ знаю, дак вы гаворыце, што гэто так пісано ў ксенжках. Я чалавек цемны, неўмею ні чытаць, ні пісаць, а тольки змалку наўчыўса хлусіць тое, што сам чуў ат людзей. Дак от бачыце, як разважыць, та я й не хлушу, а тольки кажу тое, што сам чуў, бо то не хлусьня, што мне хлусілі. Але ось сегодначы раскажу вам саўсім праўду, бо гэто было ўжэ за маю

па̀мяць, а мо й вы самі̀ памета̀еце. Эгэ̀-ж, му̀сіць памета̀еце. Гэто было̀ якура̀т по̀сьле таго̀, як змо̀кло сусі͡еднее село̀, бо я тагды̀ жаніў сына. Ён, ба̀чыце, ўзяў сабі͡е жу͡онку з сусі͡едняго села̀. Дак от паслу̀хайце ту͡олькі, як гэто было̀. От гэто я̀кась на Велі̀кдзень, ці што. А мо й ні͡е. От ві͡ечпым пра̀вам забы̀ў. Ста̀расі, ужэ пача̀ў забыва̀ць. Ба̀чыце, не памета̀ю, што я сего̀нячы абі͡едаў, а мо й саўсім нічо̀го не абі͡едаў, бо які̀ цепѐр лі̀ха абі͡ед. От калі̀ падсу̀не неві͡ехна якѐ нѐбудзь бу̀льбы, та й за то̀е дзя̀куй, а калі̀ ні͡е, та й так до̀брэ. Дак ось гэ̀стую неві͡ехну му͡ой сын узяў тагды̀ так шту̀чно, так шту̀чно, што про̀сто сьмі͡ех і лю̀дзям каза̀ць. Дак што-ж гэто я хаці͡еў расказа̀ць? Запа̀метаваў... Эгэ̀-ж, от і ўспо̀мніў. От гэтак седзімо̀ мы на Юръя з ба̀баю, — каб ёй на ту͡ом сьві͡еці лёгенько ікну̀ласо, — седзімо̀ мы на Ю̀ръя. Яна̀ яшчэ̀ навары̀ла чырво̀ных яѐц, каб іці̀ на мо̀гліцы, а ба̀чыце Ю̀рэй быў як раз на Ра̀дуніцу. От седзімо̀ мы, а нябу͡ошчыца й ка̀жэ, — ці не пара̀ нам сваймў Кузёмцы рабіць лад? — А я кажу̀, што ён яшчэ̀ малады̀ хлапчу̀к, што яму̀ яшчэ̀ не запа̀х хвартў̀х, да й нам яшчэ̀ напры̀крае па̀цкацца з неві͡ехнаю. А яна̀ ка̀жэ: Ой, Даніл̀ко, ба̀юса я, каб не было̀ гары͡эй. Да й ка̀жэ ціхенько: хіба̀ж ты не чуў, што ка̀жуць лю̀дзі. А што? — пыта̀ю я, — ма̀ло чаго̀ наплету̀ць лю̀дзі. — Ой гэто ма̀бьщь пра̀ўда, — гаво̀рыць яна̀, — ба̀юса я каб мы не засталі̀са без неві͡ехны. Што ты, ба̀бо, — я ку, — хі̀баш наш сын неўдаль, ці што, што яму дзі͡еўкі не зна̀йдзецца. Гэстаго тава̀ру шмат. — Дак ты не чуў, — ка̀жэ яна̀, — што лю̀дзі гаво̀рать, ба̀цэ бу̀дзе на дзі͡евак набу͡ор. — Да што ты, перахрысціса, каму̀ гэсты͡е дзіра̀вы͡е гаршкі̀ патрэ̀бны? Ось у Сымо̀на аж пъяць, дак пѐўне ён рад, каб іх хаць ра̀зам забра̀лі, алѐ німа̀ такі̀х дурны̀х людзѐй. — От мы гэ пагаманілі да й пашо̀ў я напаі̀ць кабылу, ці што да й вы̀сунуўса на ву̀ліцу пабала̀каць з до̀брымі людзьмі̀. От пача̀ў я заку̀рваць лю̀льку, аж чу̀ю, ўсі͡е як у бу̀бен бъюць, гамо̀няць, што Бі͡елы ру̀ські цар заваява̀ў якоесь чужо̀е ца̀рство, алѐ там усѐ чо̀рные лю̀дзі, ара̀пы, ці што, а мо̀о то й саўсім не лю̀дзі, а па̀лпы, ці якое лі̀хо. От ка̀жуць, каб развесьці̀ там бі͡е-

лых людзѐй, цар велі̑еў зрабіць на дзі̑евак набу̑ор да й насла̀ць туды̀ на прышлу̑од. Але̇ ма̀быць з гэ̀стаго нічо̀го не бу̀дзе, калі̑ не нагоняць туды̀ маскалёў, — шуткуюць дзецюкі. Але̇-ш, ка̀жуць, туды завуць ахву̑отнікаў і з на̀шаго бра̀та. А Мікіта Гаравы̀ й ка̀жэ: я пѐршы пайду ахву̑отнікам. Да пачалі тут дзецюкі шуткава̀ць да сьмеяцца, што Мікіта хо̀чэ быць пад ба̀бамі, бы певу̀н над кура̀мі. Пагаманілі мы, мужчыны да й го̀дзі, а ба̀бы пашлі ляската̀ць, пашлі бо̀жкаць да так напало̀халі дзі̑евак, што ты̑е хо̀дзяць, чуць жывы. От тагды̀ к нам заявілаcа сама̀ сва̀цьця да давай сва̀таць за на̀шаго Кузёмку сваю дачку̀. Яна̀ вѐльмі байласа, каб я̑іе неўзелі ў маскалѐ да не загналі к тым ара̀пам. Не хаці̑еў я, каб Кузёмка маў такую жу̑онку, але̇ небу̑ошчыца, мая̑ ба̀ба, — сьві̑етлы ёй рай, — пачала̀ й так, і сяк гаварыць да й угаварыла. От тагды̀ й зрабілі мы лад. Дак о то кажу̑эце, — наш Кузёмка ўцёк з цэ̀ркв ы, як веньчалі да й схава̀ўса ў лозу. Насілу ягò там тра̀пілі да сілко̀м прыцяглі ў цэ̀ркву. Ту̑олькі гэ̀то мы зрабілі весі̑ельле, як ось і прыежджа̀юць к нам пісар з старшынò ю перапісваць дзевòк. Седзіць пісар да ўсе пішэ, да ўсе пішэ, аж перò скрыпіць, бы зімòю ла̀паць. Ма̀ткі ў слёзы, а дзі̑еўкі ўсі̑е й разбі̑еглiса ў лі̑ес да й нахава̀ліса ў лозу. Седзяць там і ні чхнуць. Пачалі гэ̀то ма̀ткі хадзіць да па̀на пісара да да старшыны, пачалі насіць я̑йца, са̀ло, палатнò, абò што другòе да прасіць, каб не запісвалі іх дзевòк. Нала̀дувалі пісар да старшына дабра̀ два вазы̀ да й паѐхалі сабі̑е. А дзі̑евак насілу з лазы̀ даму̑оў залучылі. Дак от вам не ка̀зка, а пра̀ўда.

Даніло Кулі̑еш.

Чудзін.

## 26. Ціка̀васць.

Жыў сабі̑е адзін чалаві̑ек і была̀ ў ягò вѐльмі гòжая жу̑онка да така̀я пага̀ная, така̀я языка̀тая, што бедà. Ты ёй ска̀жэш аднò слòво, а яна̀ табі̑е дзѐсяць да як пачнѐ сыпаць, пачнѐ верашча̀ць, дак і сьві̑ет не міл, хаць бяры да й тапіса. Ба̀ло маў-

чы̀ць гаспада̀р, бы вады̀ ў рот набра̀ўшы, маўчы̀ць, сцеража̀нца пага̀на͡іе ба̀бы, але̇ не ўмо̀ўчыць, бо, ві͡едамо, ў гаспада̀рцы ўсе трапля̀ецца, трапля̀юцца ру͡озные прыго̀ды да й ба̀ба не ўдѐрціць, слепіцаю ў во̀чы лі͡езе, прыстае̇, чаму гаспада̀р маўчы̀ць. Ка̀жуць-жэ, што ліхо̀му не ўго̀дзіш: маўчы̀ш — ке̇пько, загаво̀рыш — яшчэ̀ гары̀эй. Памучыўса той чалаві͡ек з пага̀наю ба̀баю, да нічо̀го не пара̀дзіш, трэ жыць, як набежы̀ць, трэ церпі͡ець, калі̇ хо̀чэш гаспадарава̀ць. Бо, ві͡едамо, гаспада̀р без ба̀бы не гаспада̀р, а пусто̀го двара̀ за̀тычка. А тут якое ні е, а ўсе такі̇ слімаза̀рнае хаджа̀йство, свая̀ ха̀та, сву͡ой куто̀к, асу̀шак хлі͡еба на сталі͡е, стра̀ва ў пе̇чы. Зірне̇ш па дву͡ор, — там сві̇цка скрытічэ, ку̀рыца куда̀хчэ, ку͡от мя̀ўкае — даму͡оўка, бы ў людзе̇й. А што ба̀ба лапо̀чэ, дак што яі͡е слу̀хаць, — думае той чалаві͡ек, — абы быў абі͡ед, каб ла̀нтух наледава̀ць. — А тут яшчэ̀ ба̀ба го̀жая, румя̀ная, бы кроў з малако̀м. А во̀чы чо̀рные, празры̀стые. Як гля̀не, дак аж у сѐрцэ зако̀ле і зро̀біцца це̇мно ў вачу̀. Што ні вымышля̀е та̀я ліха̀я ба̀ба, а мужы̀к пагне̇цца тро̀хі да такі̇ яі͡е слу̀хае, ро̀біць то̀е што яна̀ зхо̀чэ. Але̇ ось пачалі̇ другі͡е за̀рыцца па ту̀ю ба̀бу, пачалі̇ к ей пры̀ставаць та акаму͡оп, та праванто̀вы пі̇сар, та дзяк. Ві͡едамо, ба̀ба го̀жая, ў саку̀ — заўжды ко̀ле во̀чы тым людзям, у като̀рых ат гульта̀йства шку̀ра пу̀каецца. Але̇ куды̀ там, — ба̀ба бы краме̇нь, ні з яко́го бо̀ку яі͡е не ўку̀сіш. Дала̀ яна̀ атпу͡ор не аднаму̀ малайцу̀: акамо̀на вы̀хрысьціла качаргою̀, праванто̀ваго пі̇сара аблі̇ла намы̀ямі, дзяку̀ вы̀рвала ко̀су, а яму̀ хаць-бы што. От прыстаў, бы смала̀: цяга̀ецца, но̀сіць гасьці̇нцы да гаво̀рыць так го̀жэ, от бы ў ксе̇нжцы чыта̀е. Бу͡ольш усяго̀ спадаба̀ласо ба̀бе, як дзяк пачне̇ благата̀ць да спева̀ць бы ў цэ̀ркві. Спева̀ў, спева̀ў дзяк да й зню̀хаўса з тою жалчы̀наю, ту͡олькі гаспада̀р меша̀е: ўсе апіра̀ецца кала̀ до̀му. От і паду̀маласа ба̀ба, каб ат гаспадара̀ аслабані̇цца да й пасыла̀е яго̀ ў сьвет, прынесьці ей піка̀васць. — Надаі͡ела, — ка̀жэ, — мні͡е така̀я жы̀тка, ніяка͡іе ціка̀васці я не ба̀чу. Сего̀дня то̀е, што ўчо̀рэ, за̀ўтрэ то̀е, што сего̀дня. Дай мні͡е таку̀ю ціка̀васць, яко͡іе я ніко̀лі не ба̀чыла, а то я пайду̀ ў пру͡очкі. —

Німà чагò рабіць, пашòў той чалаві͡ек у сьві͡ет шукàць цікàвасц°. Ці дòўго, ці мàло ён хадзіў, ту͡олькі ўтаміўса, наклàў калè лі͡есу агню̀, сі͡еў і паграваѐцца сабі͡е да падклàдвае дрòвы. Ту͡олькі ось чу̀е, хтось крычыць у лі͡есі. Ускòчыў ён і пабі͡ег на той гук. Прыбегàе да й бàчыць, аж абернуўса цяжкі ву͡оз, а пад ім ле-жыць чалаві͡ек і немажэ з пад ягò вылезці. Узяў гэго ён вагу̀, надвàжыў ву͡оз і аслабаніў тагò чалаві͡ека. — Дзякуе той, абецàе, што памòжэ ў прыгòдзе. От паднелі яны ву͡оз, падъі͡ехалі к агню̀ да й заначавàлі. Пагрэліса яны калà агню̀, от той незнаёлы ча-лаві͡ек і пытàе: куды ты, чалаві͡ечэ йдзѐш? — У сьві͡ет, — адмаў-ляе той. — Чагò-ж ты йдзеш у сьві͡ет? — Тагò й тагò, — кàжэ ён. От мая ліхàя жу͡онка паслàла менѐ ў сьві͡ет, каб я дастàў ёй цікàвасць, якòі͡е янà яшчэ не бàчыла. І кàжэ, калі я не дастàну такòі͡е цікàвасці, та янà пу͡ойдзе ў пру͡очкі. А што я бу̀ду рабіць у гаспадàрцы без бàбы? — Эй, браткò, ві͡едаеш што, хаць цікà-васцей вѐльмі мну͡ого на сві͡еце, ту͡олькі трэба ўмі͡еючы іх шу-кàць. Куды ні зірні, — ўсюды цікàвасць, да не ку͡ожын яі͡е бà-чыць. Ось і я пакажу̀ табі͡е цікàвасць. — Сказàўшы тòе, пашòў ён к вòзу, дастàў з ягò гòршчык, пі͡еўня й прыгаршчы круп. Потым наліў у гòршчык з біклàгі вады, зарэзаў пі͡еўня, аскуб ягò, апаліў на агні, выпатрашыў, абмыў і палажыў у гаршчòк, пасыпаў туды круп і трòхі сòлі да й пры̀стàвіў к агню̀. Па не-мàлум чàсе кру̀пнік зварыўса, тагды ён прынёс дзві͡е лòжкі, да-стàў з варэнькі бòхан хлі͡еба й кàжэ: садзіса, бу̀дам вечэраць. — Павечэралі яны, а ён і кàжэ: ці-ж гэто не цікàвасць? Пагля-дзі͡еў на ягò наш гаспадàр і кàжэ, што ў гэтум ён не бàчыць ні якаі͡е цікàвасці, бо й ягò бàба гэтак сàмо вàрыць кру̀пнік. Тагды той падару͡ожны сабрàў кòсьці пі͡еўня, палажыў іх назàд у гòр-шчык, і аттуль выскачыў жывы пі͡евень. — От гэто цікàвасць! — закрычàў наш мужык. — Хібà-ж то мѐньшая цікàвасць, — адмаў-ляе яму̀ падару͡ожны, — што з яйца выхòдзіць куранѐ? — Аджэ мѐньшая, бо й мая жу͡онка сàдзіць ку̀рыцу на яйца, дак з іх выхòдзяць куранята. — Ну, дòбрэ, — кàжэ той падару͡ожны, — ты менѐ атратавàў ат сьмѐрці, дак за тòе я дам табі͡е гэсты гòр-

шчык і твая̀ жу͡онка сама̀ зро̀біць то̀е, што я рабі̀ў, от ёй і бу̀дзе цікàвасць. — Падзя̀куваў той чалаві͡ек, палажы̀ў го̀ршчык у кàйстрачку да ва ўсю ну͡оч пусціўса хучы͡эй да гаспо̀ды, дàрам, што но̀гі балі͡елі. Бі͡ег ён да бі͡ег. Нахапіўса вѐчар, стàло цѐмно, хоць во̀ко вы̀каль. Ідзѐ ён цѐраз по̀ле, нагàмі даро̀гу мàцае; а круго̀м ціхо, бàццэ у ву̀се. Су̀мно яму̀ аднаму̀ серу͡од по̀ля от і пачàў ён сьвістàць, да ту͡олько сьвіснуў, як чорт ві͡едае атку̀ль узело̀со ўселя̀каі͡е нѐчысці: та янà скавы̀чэ, бы со̀вы, та перагу̀кваецца, от нераўну̀ючы ры̀хтык пу͡оп з дзяко̀м у цэ̀ркві, та верашчы̀ць ці скігі̀чэ ў расліне калà самàі͡е даро̀гі, та здалѐк раго̀ча, бы кабы̀ла, як убàчыць сваѐ жарабъя̀, та плàчэ, сі͡еўшы на йгру̀шы, аж залівàецца. Го̀дзі ён сьвістàць, страх яго̀ апанавàў; хаці͡еў бі͡егці, да но̀гі падкасі̀ліса, а тут валасы̀ на ґалаві͡е стàлі торч, аж шàпку падымàюць. Хаці͡еў ён папрàвіць шàпку, падня̀ў ру̀ку ўго̀ру да лап руко̀ю ў паві͡етры за што̀сь мя̀ккае, бы пух. Яшчэ̀ гары͡эй спужàўса ён і сунуў са ўсіх ну͡ог, сам не ві͡едаючы куды̀. Бі͡ег, бі͡ег і ту͡олькі тагды̀ ўтаймавàўса, як убàчыў, што ўпѐрадзе бліснуў агѐньчык. От ён тро̀хі атды̀хаўса да й пачасàў про̀сто на той агѐньчык. А тут купъѐ да карчы̀. Блу̀таўса ён, блу̀таўса, нарэ̀шце прыцѐгса к хло̀пцам на начлі͡ег, дзі͡е яны̀ пàсьцілі ко̀ней. Разглѐдзяўса ён калà агні̀о, ажно̀ гэ̀то хло̀пцы з яго̀ вѐскі. От ён і пытàе хло̀пцаў, ці не ві͡едаюць яны̀, што ў яго̀ ро̀біцца до̀ма, як там аднà жу͡онка спраўля̀ецца з гаспадàркаю. — А яко̀е ёй ліхо, — кàжуць хло̀пцы, — як цебѐ не было̀, дак дзяк зрабі̀ў там пі͡ечкі й лàўкі. — Кѐпськая спрàва, — ду̀мае сабі͡е ён, — пачакàй-жэ, правучу̀ я гэ̀стаго даўгагры̀ваго. — От ляглі̀ яны̀ ўсе спаць круго̀м агню̀ да й рàзам захраплі̀, а яму̀ не спі̀цца. Усхапіўса ён чуць сьві͡ет, узя̀ў сваю кайстрачку да й сунуў да гаспо̀ды. Прыбегàе ў вѐску, аж яшчэ̀ ўсі͡е спяць. Падышо̀ў да сваі͡е хàткі, — аго̀нь сві͡еціцца, а нічо̀го не чувàць. — Дай, — ду̀мае, — папілну̀ю, ці невы̀дзе хто з хàты. — От зня̀ў ён з себѐ кàйстрачку, вы̀няў з яі͡е той го̀ршчык, наві͡есіў яго̀ калà дзверэ̀й на плу͡от, а сам пашо̀ў у гумно̀, лёг на сало̀му да й ціку̀е, ці не вы̀дзе хто з хàты. Праз недо̀ўгі час вы̀скачыла да ві͡етру яго̀ жо̀нка, зірну̀ла на плу͡от

да й убачыла незнаёмы горшчык. І падумаласо ёй, што гэто хлопцы прыгатавалі горшчык, каб ім грукнуць у сцену і спужаць, як яна ляжэ спаць з дзяком. Схапіла яна той горшчык і хацела закінуць яго ў вагаруод, дак куды там, — рука к горшчыку й прырасла. Забыла яна й асцерогу да як закрычыць ат страху, аж дзяк спужаўся. Выскачыў ён і хацеў атарваць ат яіе той горшчык, да туолькі ўзяўса, як і яго рукі прырасли. Збегліса тут на крык людзі да хто хопіцца, дак і прырасце. На рэшце падышоў і сам гаспадар. Атчапіў ён усіх, апрыч дзяка, да давай лупцаваць та жуонку, та дзяка да прыказваць: от гэто цікавасць, дак цікавасць. Датуль луніў, пакуль здаволіўса, тагды атняў іх рукі.

Даніло Кулеш.

Чудзін.

## 27. Першы бровар.

От так, як цепер, яшчэ за даўнейшые часы людзі забылі бога й так грашылі, што буог абазліўса да й задумаў загубіць людзей патопам. З усіх людзей аставаўса туолькі адзін праўдзівы чалавек, Ной. Ён баяўса бога й чыніў яго волю. Буог любіў Ноя за яго пакуорнась і велеў яму збудаваць каўчэгу. Туолькі буог велеў Ною рабіць гэто ціхенько, каб ніхто не знаў і не зрабіў сабе гэстакаіе каўчэгі. От Ной, як настане дзень, возьме сабе за пояс сакерку да й пуойдзе ў лес будаваць каўчэгу. Зацікавілася жонка Ноя да й пытае яго, куды гэто ён усё ходзіць. Але Ной чыніць божую волю й нічого не гаворыць жуонцы, а куожны дзень ходзіць сабе з сакеркаю ў лес. Не ўкрыласо гэто ат чорта. Дагадаўса ён, што праўдзівы Ной штось замышляе, але чаго ён ні рабіў, ні як не мажэ давiедацца. От і падкаціўса ён к Ноявуй жуонцы да й намаўляе яіе так і сяк выпытаць у Ноя, куды ён ходзіць і што ён там робіць. Папробувала жуонка Ноя яшчэ раз папытаць яго, куды ён ходзіць і што робіць, але Ной саўсім замоўк і нічого не гаварыў. Жуонка ў слёзы, давай упікаць Ноя, што ён ходзіць к другім жанчынам, што ўжэ даўно яіе не любіць,

а ту͡олькі надмàньвае. Слепіцаю бàба лі͡езе ў вòчы, лàецца, крычы̀ць, кі̀даецца біцца, алè нічòго не памагàе, — маўчы̀ць Ной, бы р͡ыба. А як ужэ̀ вѐльмі захòдзіцца жу͡онка, та Ной вòзьме сакі͡ерку да й у лі͡ес. Шукàй ягò там. Бі͡егае, бі͡егае бàба, лàзіць, лàзіць церàз каладзьѐ, утòміцца да й з плàчам варòчаецца да хàты. Ду̀маў, ду̀маў чорт, што тут зрабіць, вы̀пятраў як сухàр, нічòго немажэ̀ парàдзіць з зацятым чалаві͡екам. Ужэ̀ не так ён ду̀мае аб ту͡ом, каб распазнàць, што рòбіць Ной, як аб ту͡ом, каб застàвіць ягò гавары̀ць. Ві͡едамо, калì чалаві͡ек мну͡ого гавòрыць, та й прагавòрыцца. От і прыду̀маў чорт яшчэ̀ адзін спòсаб, як зрабіць, каб чалаві͡ек мну͡ого гавары̀ў. Падкасну̀ўса ён к Нòявуй жу͡онцы яшчэ̀ раз і прòсіць, спрабавàць нòвы спòсаб. А тую й прасіць не трэ, бо яі͡е такàя злòсць узялà на Ноя, што янà гатòва й чòрту ду̀шу запрадàць, абы настàвіць на сваём. Рад чорт, што бàба ўсімі спòсабамі гатòва памагàць яму̀, рад, аж хвастòм кру̀ціць бы сабàка да капы̀т аб капы̀т насту̀квае, бы гусàр шпòрамі. — Што-ж ты прыду̀маў, — пытàе янà чорта, — каб зламàць упартàсць майгò гаспадарà? — А ось што, — кажэ чорт, нахілі̀ўшыса к сàмаму яі͡е ву̀ху. — Слу̀хай да рабі, як я бу̀ду табі͡е казàць. Бàчыш, якàя сіла ў хлі͡ебе. Хлі͡еб усему̀ галавà. Як чалаві͡ек галòдны, та ён маўчы̀ць, а як наі͡есца хлі͡еба, та й язык у ягò развя̀жэцца. Гэто такàя е сіла ў хлі͡ебе, ту͡олькі трэ̀ба гэтую сілу згусціць. — А як-жэ яі͡е згусціць? — Пачакàй, не спешы̀ на шыбеніцу ўперу͡од бàцька, бо хто спешы̀ць, той людзѐй насмешы̀ць. Гэстая сіла льѐцца ў цебѐ з нòса, як ты мі͡есіш хлі͡еб. — От началà жу͡онка Нòя месіць хлі͡еб, а чорт падстàвіў ёй пад ну͡ос пасу̀дзіну, дак туды̀ па кàпельцы нацеклò якòесь вады̀ чуць не пòўная пасу̀дзіна. — Што-ж гэто такòе? — пытàе бàба. — Гары͡элка, — аткàзвае чорт, — яна так называ̀ецца заты̀м, што з гары̀ пàдае да й за тым, што хто яі͡е мнòго вы̀пъе, та згары̀ць. Яна ў хлі͡ебе ры͡эдкая, а ў жанчы̀н густàя, му͡оцная. От заты̀м, калì мужчы̀на паседзіць калà жанчы̀ны, та ху̀тко апъяні͡ее, як ат хмѐлю. От ты напу͡ой свайгò гаспадарà гары͡элкаю, та ён як апъяні͡се, пачнѐ гавары̀ць і скàжэ табі͡е, куду̀ ён хòдзіць і што

там ро̀бінь. — А гэто яму̀ не зашко̀дзіць? — пытàе баба. — А хіба̀-ж ты яму̀ шко̀дзіш? — атказвае чорт, выскаліўшы зубы. Палецieў чорт па сваиму̀ дзieлу, а жуонка Ноя нагато̀віла до̀браie стравы разам з гарыэлкаю да й начала частава̀ць свайго̀ гаспадара̀ як ён вернуўса з рабо̀ты. Сама̀ сieла насупрацiў да усе угаварвае: ieж, муой голубе, ieж, ты-ж так утаміўса да прагаладаўса... Наieўса Ной і чуецца, што апъянieў: от так і чэшэцца язык, каб пагаварыць з жуонкаю, туолькі ба̀чыць ён, што ззаду яie хтось хава̀ецца бы цieнь. Дагадаўса ён, што гэто чорт прычапіўса да ба̀бы, каб яie да й яго̀ разам спакусіць. От ён павечэраў да хучыэй мо̀ўчкі лёг спаць. На заўтра яшчэ чуць свieт узяў ён сакieрку да й пашоў у лieс. Падхо̀дзіць к каўчэзі, аж ба̀чыць, — мышы папраеда̀лі дзіркі у днie, і вада̀ у каўчэгу прасачыласа. Зірнуў ён у тыe дзіркі, аж ба̀чыць, — туды пазала̀зілі жабы, каб сабо̀ю заткнуць дзіркі. Дагадаўса Ной, што буог яго̀ нерасцерагае, каб не піў гарыэлкі да й нічо̀го не каза̀ў жуонцы. Ба̀чыць чорт, што нічо̀го не збро̀біць з Но̀ям, от ён навучыў жуонку Ноя й яго̀ сынуоў, як з хлieба гнаць гарыэлку. До̀уго Ной не піў гарыэлкі, баяўса бо̀га, але̇ усе такі раз неўтрымаўса. Было̀ гэто тагды, як ко̀нчыўса пато̀п, Ной вышаў з каўчэгі да як паглядзieў на зе̇млю, як на ёй усе го̀жэ, як ра̀дасно свieціць со̀нейко, як яно̀ атбіва̀ецца у расінках, дак яму̀ так ра̀досно зрабіласо на се̇рцы, што ён пачаў спевацьі скака̀ць. Але̇ старыe но̀гі нехацieлі служыць яму̀, а жуонка ка̀жэ: вышi да вышi, та памаладзieеш. Выпіў ён да не до̀ўго паскака̀ў і звалiўса у кана̀ву, а сын Ноя хаць і больш напіўса, але̇ яшчэ дзержаўса на нага̀х. Уба̀чыў ён пъяного ба̀цька й дава̀й смеяцца з яго̀ да каза̀ваць братуом, які ба̀цько пъяніца. А чо̀рту гэто й трэба. Рад ён, што такі спакусіў праўдзівого Ноя. І пачаў чорт з таie пары памага̀ць людзям гнаць гарыэлку. Навучыў іх, як будава̀ць бро̀вар і як гнаць гарыэлку, каб яна̀ была̀ муоцная. Дак от хто выдумаў пе̇ршы бро̀вар.

Даніло Кулieш.

Чудзін.

## 28. Дурная жонка.

У аднаго беднаго гаспадара была вельмі дурная жонка. Як ён ні стараўса, як ні гараваў, нічого не мажэ зрабіць, каб завезці якое ні на ест слімазарнае хаджайство. Даглєдзіць гаспадарку, та ў хаце нічого німа, бо ведамо, што гаспадарка плачэ без гаспадара, а хата без гаспадыні. А тут яго дурная жонка такая гаспадыня, што лепш, каб яе саўсім не было, бо яна не то што зробіць якое небудзь дзело, а й то, што е, псуе. Не разарвецца гаспадар: та на гумне, та ў хаце, та ў хлеве, — ўсюды трэ саміму даглєдзяць. От прышло жніво. Пашлі ўсе людзі жаць. Пашла ў поле й тая дурная жонка жаць жыто, да забыла ўзяць серп. Смеюцца з яе людзі, шуткуюць, а яна хаць бы што, — сама смеецца. Поле далеко ат вескі, не варто йці па серп. Злітаваласа тут адна маладзіца да й дала дурной жонцы свой запасны серп. Нажала тая тры спапкі, паставіла іх да й легла ў ценьку адпыхаць. Жнуць людзі, бы метуць свае постапі, аж пот градам льецца да паюць песні, каб веселей было рабіць. А дурная жонка храпе на ўсе застаўкі. Ужэ сонейко нізко, пара канчаць работу, а яна спіць сабе, бы медзьведзь у кутле. Убачылі яе хлопцы-пастушкі пад спапамі да й захацелі пасмеяцца. От яны ўкралі на смалярні рыэдкае смалы, спусьцілі з тае дурное жонкі сарочку да й вымазалі ўсе цело смалою, а зверху абсыпалі мелкімі вуглямі. Спіць баба, бы зарызапая. Але ось падходзіць к ёй тая маладзіца па свой серп, зірнула да й ачум не верыць, насілу яе пазнала. Разкатурхала яна тую бабу. Насілу яна ачухаласа, зірнула на себе да й не ведае, ці гэто яна, ці не. От усхапіласа яна да й бежыць па полі. Убачылі людзі, спужаліса й думалі, што гэто ці чорт, ці ведзьма. А баба бежыць да ўсе пытае: ці гэто я, ці не? Доўго яна бегала па полі, ўжэ сцемнело, нарэшце пашла да гасподы. Прыходзіць яна ў веску да й лічыць хаты па палцах на руках. А яе хата была дзісятая з аднаго канца. От палічыла яна дзесяць, па-

дышла̀ к вакнў й пыта̀е: ці жу͡онка до̀ма? А гаспада̀р, каб пра-вуча̀ць дурну̀ю жу͡онку, адмаўля̀е, што до̀ма. Пама̀цала яна̀ сѐбе да й пыта̀е: ці гэто я, ці ні͡е да й пабі͡егла ў канѐц удру̀гае лі-чыць ха̀ты. Пераліча̀ла яна̀ дзѐсяць і зноў пыта̀е ў свайго̀ гас-падара̀, ці до̀ма жу͡онка. Той зноў атка̀звае, што до̀ма. — Ма̀быць я не з таго̀ канца̀ прышла̀, — ду̀мае яна̀ да й пабі͡егла ў другі̀ канѐц шука̀ць сваі͡е ха̀ты. Бі͡егала яна̀, бі͡егала та ў вадзі̀н ка-нѐц, та ў другі̀, нарэ̀шце гаспада̀р сказаў, што жу͡онкі ні̀ма до̀ма. От яна̀ ўбі͡егла ў ха̀ту да й пыта̀е гаспадара̀: ці гэто я, ці ні͡е? А той як убачыў, дак і пакаціўса са сьмі͡еху да й пыта̀е: да дзі͡е-ж гэто цѐбе чэ̀рці так аздо̀білі? Хіба̀-ж ты на смаля̀рні ў чу͡он з смало̀ю ўваліласа. — Не ві̀едаю, мо й уваліласа, алѐ ці гэто я, ці ні͡е? — пыта̀е яна̀, пазіра̀ючы на сваю аздо̀бу. Запаліў гэто гаспада̀р у пѐчы, нагры͡эў вады̀ да насілу адмы̀ў збу͡ольшаго сваю̀ дурну̀ю жу͡онку. Ско̀ро падышоў саракѐвы дзень, як памѐр ба̀цько гаспадара̀ й трэ̀ба было̀ спраўля̀ць памі̀нкі. От закупіў гаспада̀р, што трэ̀ба да й велі͡еў жу͡онцы прыгато̀віць усѐ, як ро̀бляць людзі на памі̀нках, а сам заказаў абі͡едню й запрасіў на памі̀нкі папа̀, дзяка̀, ру͡одных і знаё̀мых. Пашоў гэто гаспада̀р у цэ̀ркаў, а яго̀ дурна̀я жу͡онка смеша̀ла ра̀зам усі͡е прыпа̀сы да й звары̀ла ўсе ў адну͡ом сагані͡е. Прышоў напѐрад гаспада̀р з цэ̀ркві да як зірнўў, чаго̀ жу͡онка навычвара̀ла, дак аж рука̀мі сплеснуў. — Ой, мая̀-ж гу͡оркая часіна, — заскавыта̀ў ён, — што-ж я бу̀ду цепѐр рабіць?! Як я бу̀ду вача̀мі сьвеціць пѐрад гасця̀мі! — Пабі͡ег ён хучы͡эй наза̀д да дава̀й перапраша̀ць гас-цѐй, каб не гні͡еваліса, што нема̀шака пачо̀сткі. Пахлусіў ім, што зрабіласо сякѐе-такѐе нешча̀сце. Ці паві͡ерылі ты̀е, ці мо й не-далі̀ ві͡еры, алѐ ні̀ма чаго̀ рабіць, аблізаліса, як саба̀ка пѐрад ячменю да й пасу̀нуліса да гаспо̀ды. Пры̀кро гаспадару̀ седзі͡ець до̀ма да пазіра̀ць на то̀е дабро̀, што жу͡онка напсава̀ла (змарна-тра̀віла), от і пашоў ён капа̀ць на абмі͡ежку хры͡эн, каб пашма-рава̀ць ім скары̀нку хлі͡еба да зъі͡есці, бо быў яшчэ̀ на̀тшча. Ту͡олькі ён убіў за̀ступ, як штось зазвіні͡ело. Раскапаў ён, аж там по̀вен го̀ршчычак гро̀шэй, от так бы луска̀ й сьплюцца.

Абернỳў ён палòю той гòршчычак, прынёс у хàту да й закапàў пад пі͡еч. — Што ты там зхавàў? — пытàе жу͡онка. — Не чапàй, — аткàзвае ён жу͡онцы, — гэто злы̀дні. Я закапàў іх, каб у нàшуй гаспадàрцы нія̀каго лìха не былò. — От жывỳць яны̀ сабі͡е дàлей. Алè ось пашòў гаспадàр арàць, а дурнàя жу͡онка асталàса дòма аднà, аж прыхòдзіць у хàту цыгàн, на галаві͡е сагàн, у рукàх пỳшка-жывỳжка да й дакòло пазірàе, штоб укрàсці выбірàе. — Дай мні͡е гаспады̀нька кусòк сàла, каб свінка не прапàла, лы̀чко каўбàс і я пайдỳ ат вас, — прыгавòрвае цыгàн да тòхціць ён крỳпы ў сагàн. — Німà ў нас ні сàла, ні каўбàс, ту͡олькі ў падпі͡ечку злы̀дні седзя̀ць ужэ̀ тры дні, — кàжэ дурнàя бàба. Дагадàўса цыгàн да палі͡ез пад пі͡еч і дастàў аттỳль грòшы. — Гэто-ж злы̀дні, — кàжэ бàба. — Дòбрэ, — кàжэ цыгàн, — я вазьмỳ гэтые злы̀дні да й утаплю̀ ў вòду, та вам лìха не бỳдзе. — Забрàў цыгàн пад палỳ грòшы да наўцекачà, каб чàсам гаспадàр не нахапіўса. Тым чàсам ось на вỳліцы сабàкі апанавàлі тагò цыганà. От і пачàў ён махàць кругòм себè пỳжкаю-жывỳжкаю, махàе, а грòшы памалèньку сы̀плюцца да сы̀плюцца з гаршкà да так усі͡е й вы̀сыпаліса. Насілу ўцёк цыгàн ат сабàк да хучы͡эй пабі͡ег у лі͡ес. Алè ось якрàз па том слі͡еду цыганà йдзе той гаспадàр. Прыглядàецца ён, аж гỳсьценько раскіданы грòшы. От сабрàў ён тые ўсі͡е грòшы за пàзуху да й прыхòдзіць да гаспòды. А тут ягò стракàе жу͡онка да й кàжэ: быў цыгàн, на галаві͡е сагàн, у рукàх пỳшка-жывỳшка. Прасіў сàла й каўбàс, а я кажỳ, — німà ў нас. І забрàў ён злы̀дні, што пад пі͡ечкам седзі͡елі тры дні. Алè гаспадàр прамаўчàў і бу͡ольш жу͡онцы нічòго не казàў. З таі͡е пары̀ стàло пòўно на двары̀, стàлі яны̀ дòбрэ жыць.

Даніло Кулі͡еш.

Чудзін.

## 29. Прàўда й крыўда.

Жылì два браты̀. Адзін быў вèльмі праўдзівы чалаві͡ек і ягò называ̀лі Прàўдаю, а другì завìсны да лìхі, дак ягò празвàлі Кры̀ўдаю. Прàўда як ні старàўса, як ні гаравàў, а ўсе-ж жыў

у велікуй нѐндзы й беднаці͡е, бо ка̀жуць лю̀дзі, што пра̀ўдаю жыць, дабра̀ не нажы̀ць. А Кры̀ўда нічо̀го сам не рабіў, а ту͡олькі галаво̀ю круціў да каго̀ му͡ог кры̀ўдзіў, дак ён сабра̀ў бага̀тство і жыў сабі͡е як пап. Німа̀шака ў Пра̀ўды хлі͡еба, німа̀ за што рук заця̀ць і пашо̀ў ён к бра̀ту прасіць, каб пазы̀чыў мі͡ерку хлі͡еба. А той, ві͡едамо, кры̀ўда да й ка̀жэ: дай я вы̀калю табі͡е едно̀ во̀ко, каб ты не ўсю пра̀ўду ба̀чыў, тагды̀ пазы̀чу. — Німа̀ чаго̀ рабіць, го̀лад не сву͡ой брат, а тут пла̀чэ жу͡онка да папіка̀е пра̀ўдаю, — і згадзіўса ён аста̀цца без во̀ка, абылѐп не галада̀ць. Не на до̀ўго хапіло таі͡е мі͡еркі хлі͡еба, й зноў ідзѐ той бі͡едны к бага̀таму бра̀ту прасіць яшчэ̀ хлі͡еба. Ту͡олькі той згаджа̀ецца на тых вару̀нках, каб Пра̀ўда вы̀калаў сабі͡е апу͡ошняе во̀ко. Прасіў, прасіў Пра̀ўда, каб брат забра̀ў што нѐбуць друго̀е, а заста̀віў яму̀ во̀ко, бо без яго̀ ён не ўба̀чыць пра̀ўды, алѐ той заця̀ўса бы крамі͡ень і слу̀хаць не хо̀чэ. Шко̀да во̀ка, а тут жыву͡от падвело̀, хаць сам себѐ грызі. — На ву͡ошто мні͡е во̀ко, калі я, жу͡онка й дзі͡еткі паміра̀юць з го̀ладу. — Згадзіўса бі͡едны брат і спрэсу аста̀ўса слепы̀м, за то̀е жу͡онка й дзі͡еткі вы̀жылі, дачака̀ўшы но̀ваго зраджа̀ю. Прышла̀ рабо̀чая пара̀, ўсі͡е лю̀дзі йду̀ць на сенажа̀ць касіць сі͡ено, ці на по̀ле жаць хлі͡еб, ту͡олькі бі͡едны Пра̀ўда седзіць до̀ма без дзі͡ела. Пачала̀ яго̀ жу͡онка ўпіка̀ць да называ̀ць дармаі͡едам, дак яму̀ так гу͡орно зрабіласо, што ён не мог бу͡ольш вы̀церпі͡ець да й пашо̀ў жабрава̀ць. Узя̀ў ён сабі͡е кі͡ечак, ма̀цае ім даро̀гу да йдзе паціхеньку ўпѐрад. Ішо̀ў ён, ішо̀ў, надышо̀ў к ду̀бу да й сі͡еў супачы̀ць. Седзіць ён ціхенько да бо̀га хва̀ліць, што хаць жыў аста̀ўса, не памѐр з го̀ладу, алѐ чуе, што хто̀сь на ду̀бе гамо̀ніць. Пача̀ў ён прыслухо̀ўвацца, а ві͡едамо, ў слепо̀го за̀ўжды до̀брае чу̀це. Ось і чу̀е ён, што на ду̀бе седзя̀ць нѐчысцікі да й ка̀жуць, дзе ў землі гро̀шы захо̀ваны. Закмі͡еціў ён то̀е мі͡ейсцо, паседзі͡еў яшчэ̀ тро̀хі, атды̀хаў да й пашо̀ў туды̀, дзі͡е былі захо̀ваны ты̀е гро̀шы. Прышо̀ў ён да таго̀ мі͡ейсца да й пача̀ў кі͡ечкам разграба̀ць песо̀к. Капну̀ў ён два-тры ра̀зы да й абма̀цаў там цы̀элы кацёл гро̀шэй. Налядава̀ў ён то̀рбу гро̀шэй, як панесці да й пашо̀ў да гаспо̀ды. Уба̀чыла жу͡онка

тые гро̀шы, го̀дзі ўжэ ўпіка̀ць свайму̀ гаспадару̀ да скары͡эй па-б͡іегла к бага̀тому Кры̀ўдзе пазы̀чыць м͡іерку, каб пам͡іераць тые гро̀шы. Той пазы̀чыў. Зм͡іералі яны̀ гро̀шы, жанчы̀на й атно̀сіць ту̀ю м͡іерку наза̀д. Узела̀ завіснаго Кры̀ўду ціка̀васць, якое-такое збу͡ожэ яны̀ м͡іералі, калі̀ лю̀дзі яшчэ̀ не намалаці́лі. Узяў ён ту̀ю м͡іерку да й дава̀й я͡іе трасці̀, каб з пад абручу͡оў вы̀калаціць зерн͡ята, аж аттў̀ль і пасы̀паліса асьмакі̀. — Дак гэто-ж яны̀ м͡іералі гро̀шы, — прамо̀віў сам да себѐ Кры̀ўда да аж затру͡осса ат хці̀-васці. Не вы̀трываў ён і хучэ̀й пабі͡ег к бра̀ту пыта̀ць, аткў̀ль ён узяў так мну͡ого гро̀шэй, што аж м͡іеркаю м͡іерыў іх. В͡іедамо, праў̀дзівы брат і разказаў яму̀ ўсю пра̀ўду, як то̀е было, як яму̀ гу͡орно было̀ слепо̀му седз͡іець до̀ма, як ён пашо̀ў жабрава̀ць, як падышо̀ў пад дуб, як пачу̀ў, што нѐчысцікі ка̀жуць, дз͡іе схо̀ваны гро̀шы, як пашо̀ў туды да й вы̀капаў іх. От жывѐ Пра̀ўда па пра̀ўдзе да бо̀га хва̀ліць, што яму̀ й сл͡іепо̀му жабраку̀ пасла̀ў спо̀саб да жы̀ця. А бага̀ты Кры̀ўда й м͡іейсца саб͡іе не нахо̀дзіць, так яго̀ распаля̀е за̀йздрась. Церп͡іеў ён, церп͡іеў да й не ўцерп͡іеў. Хо̀чэцца яму̀ пайці̀ гро̀шэй яшчэ̀ бу͡ольш, як у бра̀та. От ён вы̀калаў саб͡іе во̀чы да й пашо̀ў жабрава̀ць. Алѐ ніхто̀ нічо̀го не даѐ, бо ўс͡іе яго̀ пазна̀лі да й в͡іедаюць, што ён і так вѐльмі ба-га̀ты. Насі̀лу ён дац͡ёгса гало̀дны да таго̀ ду̀ба, с͡іеў пад ім да й прыслухо̀ўваецца, што гаво̀рацъ на ду̀бе нѐчысцікі. Алѐ ось адзін і ка̀жэ, што ма̀быць хтось іх падслу̀хаў, як яны̀ каза̀лі, дз͡іе схо̀-ваны гро̀шы, да й забраў. А другі̀ й ка̀жэ: гэто ма̀быць той жа-бра̀к, што седз͡іеў пад ду̀бом як мы гамані́лі. — Алѐ-ж гэто ён. Да ось ён і цепѐр тут седзіць, — сказаў адзін нѐчысціць, зір-ну̀ўшы ўніз. Кі́нуліса нѐчысцікі на таго̀ хці̀ваго багача̀ да й ра-зарва̀лі яго̀ на кава̀лкі. Пра̀ўду ка̀жуць, што кры̀ўдаю св͡іет про̀й-дзеш, да наза̀д не вѐрнесса. От і астала̀са с та͡іе пары̀ пра̀ўда па сьв͡іеце без ачу͡оў і нічо̀го яна̀ не ба̀чыць.

Даніло Кул͡іеш.

Чудзін.

## 30. Палешукі й палевікі.

Было ў бацька двананцаць сыноў да ўсіе яны былі вельмі ўдалые хлопцы. Жылі яны ў цёмнум ліесе, дзіе вадзіласо мнуого ўселякаго зверъя, пасцілі сваё гаўядо да лавілі зверыну. Сусіедзі жылі далёко й рыэдко рабілі ім шкоду, бо баяліса ўдалых хлопцаў, каб не нагрыэлі ім па затылку. Жылі яны разам і слухалі старого бацька, а ён ужэ сівенькі бы лунь, седзіеў сабіе ў кажушку й па ліету да камендуваў. І быў у іх лад і ўсім было добрэ. — Яны ўсіе пажавіліса, й было ў іх мнуого дзецей, але ўсіе слухалі старого й куожын рабіў сваё дзіело. Туолькі ось памёр стары бацько й пачалі жанкі сварыцца па між сабою, пачалі калаціцца да падбухтэрваць сваіх гаспадаруоў. І такая ў іх пашла калатня, што й жыткі німа. Віедамо, калі бабы чаго захочуць, та й сам чорт іх не перастэвіць. А тут яны ў вадзін голас крычаць: дзеліцца да дзеліцца. Пачалі браты дзеліцца. Калаціліса, калаціліса яны накуль дзелілі гаўядо да ўсе дабро, а як пашлі дзеліць зёмлю, дак так пачалі біцца, што чуць адзін другого не пазабівалі да так і не падзелілі мо да тых час. Калоцяцца браты па між сабою за зёмлю, захватваюць чужые дзелянкі й ніколі ў іх німаш спакою. Туолькі два малодшые браты жылі па між сабою вельмі згуодно: куды адзін, туды й другі. Не захаціелі яны калаціцца з братамі, кінулі сваю бацькаўшчыну да й пашлі ў сьвіет шукаць сабіе землі. От занялі да й пагналі яны свуой статак, зрабілі з двух дубуоў з карыэнямі велізные сані, запраглі двананцаць пар валуоў, наклалі ўселякаго дабра да яшчэ пасадзілі жанок з дзецьмі да й паіехалі па песку. Працяглі трохі валы да й сталі, не могуць цягці сані па песку. От буольшы брат давай падкладваць упонерак пад палазы круглые калуодкі. Коцяцца калуодкі, і сані паўзуць уперад. Надаіело меньшаму брату падкладваць калодкі пад палазы, от ён і кажэ: давай, братко, зробім такую прыладу, каб калодкі цонгле круціліса пад палазамі, — да й зрабілі яны колы. Лёгко пацяглі валы, так што

яшчэ й яны̀ сàмі сіелі на вуоз. Іедуць яны̀ да іедуць і падъіез-джàюць к велікуй рацыэ. Шукàлі яны̀, шукàлі, нідзіе не знайшлі̀ плыткаго міейсца, каб пераіехаць у бруод. А тут захадзіласа ве-лікая бу̀ра. Ліес равѐ бы звіер. Віецер ло̀міць дзераўля̀кі, бы бàба кастрыцу да й кі̀дае на зѐмлю й у рыэку. Плывѐ па вадзіе дзѐраво бы плыты̀. Зірну̀ў на то̀е мало̀дшы брат да й дагадàўса, як перабрàцца цѐраз рыэку. От давàй яны̀ з брàтам лавіць на рацыэ дзѐраво да звя̀зваць яго̀ рàзам, навязàлі да й зрабі̀лі плыт. От суня̀лàса бу̀ра, падагнàлі яны̀ той плыт пічы̀лно да бѐрага ракі̀, запраглі̀ валуоў да й узвезлі̀ вуоз на плыт. Стая̀ць яны̀ на плы̀це да кіру̀юць до̀ўгімі жардкàмі, а плыт і сам плывѐ з ва-до̀ю. Аднесло̀ плыт далѐко з вадо̀ю, алѐ ось ён і прыстàў к дру-го̀му бѐрагу. Пабàчыло го̀вядо, што валы̀ паплылі̀ на рацыэ да й вышло на другі̀ буок, кі̀нуласо яно̀ ў во̀ду да й пераплыло̀ цѐраз рыэку. Паіехалі яны̀ дàлей і забрàліса ў такі̀ ліес, што й канца̀ яму немàшака. Немо̀гуць дàлей іехаць, — ліес мешàе. Началі̀ яны̀ церабіць даро̀гу да масціць грэблі. Алѐ дзіе там, чым дàлей, тым ліес усе гусціее, а ў ём стаіць такàя тхлань да нѐтра, што й выбрацца ніельга. От і кàжэ буольшы брат: астанўса я тут, бо немагу̀ выбрацца з ліесу. І астàўса ён серуод таго̀ ліесу. І назвàлі яго̀ й дзецѐй яго̀ палешукàмі. Мало̀дшы-ж брат пра-церэбліваў даро̀гу, масціў грэблі да клаў клàдкі й іехаў усѐ дà-лей. Мо й да тых час па паліесі яшчэ е тые прасіекі да грэблі, што парабіў той чалавіек. Не до̀ўго яны іехалі на сваіх ко̀лах, як убàчылі, што ліес пачàў радзіець, пачалі̀ трапля̀цца врагà-ліны, паля̀нкі да паля̀, дак яны̀ атаўбавàліса там і пачалі̀ раз-рабля̀ць по̀ле, за тым-то й назвàліса яны̀ палевікàмі. По̀тым раз-мнуожыліса як палешукі̀, так і палевікі̀, занелі пусты̀ ліес да й пачалі̀ жыць адны̀ калà другіх рàдам. Праз немàлы час у пале-шукуоў і палевікуоў развело̀со мнуого гаўя̀да да й уселя̀каго зверъя̀ ў іх лясо̀х было̀ буольш, чым у туом міейсцы, дзіе атаў-бавàліса тые дзѐсяць братуоў. От яны̀ пашкадавàлі, што пусціліі сюды̀ мѐньшых братуоў і што далі̀ ім мнуого гаўя̀да, пашкада-вàлі да й узду̀малі атабрàць назад. Давіедаліса палешукі̀ й пале-

вікі, што тые падходзяць к ім з разбоям, нарабілі ў лiесе завалаў да накапалі глыбокіх ямаў да й зацеценілі іх мохам, а самі пахаваліса ў гушчэчы да й цікуюць, што будзе далей. Але ось надышлі тые разбуойнікі — да й началі падаць у ямы, а ў іх была вада. Адны патапіліса, а другіе заплуталиса ў засiеках да й загінулі ў нетры без яды. От атагналі ануошніх разбуойнікаў палешукі й палевікі да й давай выхваляцца адны перад другімі. Палешукі кажуць, што гэто яны сваімі засiекамі ў лiесе загубілі разбуойнікаў, а палевікі кажуць, што разбуойнікі загінулі ў тых ямах, што палевікі выкапалі. Пашлі яны выхваляцца да спрачацца. Спрачаліса, спрачаліса да за чубы, да за калы... І пашла тут такая перапалка, што гарыэй як ат разбуойнікаў. Бъюцца палешукі з палевікамі, паляць вескі, нішчаць дабро да парываюцца спрэсу загубіць адны другіх, гарыэй як самые лютые варагі. Доўго біліса яны, але немогуць адалiець адны другіх, туольки што далей, та ўсе буольш і буольш слабiеюць як тые, так і другіе. Дачуліса варагі, што палешукі й палевікі калоцяцца па між сабою, што яны не бароняць сваiе рубежы, от яны зноў сабралі велікае вуойсько да й пашлі паліць вескі да забіваць як палешукуоў, так і палевікуоў. Ачухаліса палешукі й палевікі, годзі калапіцца самі з сабою, давай біцца з ворагам. Біліса яны, біліса, мо ўжэ палавіна іх палягло, а нічого не могуць зрабіць, бо варагі лiезуць усе новые й новые. Мнуого палягло й варагуоў у чыстом полі, мнуого заблудзіласо ў лiесе да ў балотах і там загінуло ат голаду, ат холаду, ці патапіласо ў гразі, але ящчэ мнуого асталосо. Лiезуць яны як свіне ў вагаруод, лiезуць да забіраюць палешукуоў і палевікуоў у палуон, забіраюць іх землю, гаўядо й усе дабро, а старых і малых забіваюць, ці травяць сабакамі. Забілі яны ў калуодкі ўсіх палешукуоў і палевікуоў да й велiелі сабiе служыць. Нічого не парадзіш. Служаць палешукі й палевікі тым варагуом, бо не сваiя воля, служаць гуод, служаць два, а можэ й буольш. Працуюць яны на варагуоў бы чорны вуол і ніякаiе палегкі не маюць, працуюць, гаруюць да праклінаюць сваю жытку. А варагі пануюць да здзiекуюцца з простых

людзѐй, а тые рады, што хаць засталіса жывымі. Бачаць паны, што простые людзі смірыліса, от і скінулі з іх калодкі. Рады простые людзі, дзякуюць богу й за тое. І пачалі яны працаваць на пануоў так шчыро, як самі сабіе. А пануом тое туолькі й трэба. Працуюць простые людзі, а паны туолькі камендуюць да падганяюць. І атучыліса паны ат уселякаіе работы, да так атучыліса, што без простых людзей не могуць і жыць, бы тая птушка, як яіе выпусцяць з кліеткі на волю. Бачаць тое простые людзі да туолькі смеюцца з пануоў. Яны смеюцца, а паны хаць бы што, балююць сабіе да яшчэ буольш прыбаўляюць работы. — Бо яны, — каа, — рагочуць бы жарабцы затым, што мало дзіела. — Яшчэ гарыэй стало людзям і пачалі яны рабіць пануом зэмсту: та свіран спаляць ці гумно, та каруоў заганяць у такую тхлань, што яны там і пагінуць, та свіней патопяць, але ат таго й самі не маюць чаго іесці, бо, віедамо, жывуць на ардынаръі: пана чорт не бера, — ён у сусіеда дастане, а людзі падыхаюць да пухнуць з голаду. Што тут рабіць, што парадзіць? Ні з якого боку ніельга пазбавіцца ат тых пануоў. Але ось прыходзіць туды якісь старэнькі дзедок да й кажэ: — людзі, людзі, вас мнуого, а пануоў жменя і гэтая жменя здзіекуецца да іездзіць у вас на карку. Ці гэто-ж вы людзі, а не авечкі. — Пагаманіў ён гэ ў ваднуом міейцы да ў другуом, от і схаменуліса людзі да й пачалі варушыцца. Знайшліса ўдалые хлопцы, сабралі сабіе шайку добрых малайцуоў да й пашлі перыэсціць да месіць тых пануоў. Бачаць тые, што гэто не перэліўкі да й пусціліса наўпекача: хто ў ліес, а хто ў чужыіе краі. От аслабаніліса палешукі й палевікі свуой край ат тых варагуоў, але не віедаюць, як ім жыць, бо куожын хочэ быць буольшым, ніхто не хочэ гараваць, а куожын пнецца панаваць. І стала ў іх жытка гарыэй як пад панамі. Што тут рабіць, розуму не прылoжаць. Зъявіліса тут жыды з уселякаю ўсячынаю да й пачалі яны крычаць як на кірмашы: «мі купцы з міеста слаўнаго Брэста, маем тавары, — на чарцы гары, руозные зелкі, стужкі да гуолкі; што хто захочэ возьме за клочэ. Возьмем мы смушкі, збуожэ з кадушкі, дак вам за тое плацім мі

ўдвое пѐрцам, імбѐрцам, гарыэлкаю, чэрцам» — Аступілі бабы жыдуоў, цягнуць з хаты да з клѐці ўселякае дабро да беруць сабіе голкі, каснікі, жуковіны, чэрвец да руознае зіельле. А мужыкі як наваліліса на гарыэлку, дак гатовы й апошнюю сермягу з себе зняць, абы яшчэ кварту дастаць. От с таіе пары атаўбаваліса жыды ў куожнуй вѐсцы да й збудавалі сабіе карчмы да круомкі. От жывуць сабіе жыды да і кажуць: от цепѐр ві будзеце ўсіе бы паны, бо мі так зробім, сто вам усім будзе вѐсело й работа не будзе карціець. Пъюць мужыкі да весѐляцца, а пра работу й забылі. Тым часам аглѐдзеліса паны да рум назад. Схаменуліса людзі да ўжэ пуозно. Падзякувалі яны жыдуом, што тые памаглі ім вернуцца ў сваіе двары да зноў угібаць у сваіе рукі пъяных мужыкуоў, падзякувалі да й абецалі, што заўжды будуць жыць з жыдамі ў згодзе й нічого не будуць рабіць без іх рады. От з таіе пары мо й да тых час паны й жыды разам седзяць у тых палешукуоў і палевікуоў на карку, мучаць іх як сваѐ гаўядо да яшчэ й плакаць не даюць. Я там быў, жыдуом служыў, пануом падслужваўса. Алѐ пана груом забіў, а жыда чорт ухапіў. Я пачуў волю, шукаю долю; аттуль сам прышоў к вам і што сам знаю, тое й баю.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 31. Шчодрая й скупая жанчына.

Паслухайце, што было даўніей, як яшчэ Хрыстос і Божая Маці хадзілі па землі да вучылі людзей. Моо гэто было й не далѐко атсюль, бо вось пад Тычынамі [1] й цепѐр яшчэ лежыць камень з сліедам Буоскаіе Маткі. У куожную пѐршую недзіельку туды збіраюцца людзі, моляцца богу й даюць па хвалу буоскую

---

[1] У Слуцкум павіеце мніе знаѐмы тры такіе прошчы, дзіе лежыць вѐлізны камень, а на ѐм ямачка, катарую людзі лічаць за сліед Багародзіцы. Гэто кала Вызны, пад Тычынамі і пад Узбіскім Борам.

хто свѣчку, хто лён або воўну, хто грошы, а дзѣўкі да маладзіцы прыносяць ручнікі або палатно. От ідзе раз Хрыстос з Божаю Маткаю праз адну вёску. Яны йдуць босые бы старцы й просяць пад вуокнамі. Падышлі к аднуой хаце. Убачыла старцуоў шчодрая жанчына да й кінуласа шукаць хлѣба, каб хучэй даць ім. Зірнула яна на стуол, аж там лежыць туолькі невелічкі акрайчык. От яна й кажэ: — начакайце трохі, я збѣгаю ў стопку па хлѣб. Пабѣгла яна з хаты на двор, аж бачыць, што свіня цягае на дзедзінцы палатно, што яна праслала беліць. Схапіла яна борджэй тое палатно, забѣгла ў стопку, ўзела бохан хлѣба да й прынесла ў хату. От аткроіла яна велікі акраяц да й дае старцам. А Хрыстос і кажэ:—Насіць табѣ, не перанасіць,— а сам і пашоў. От тая жанчына давай насіць у хату палатно й хлѣб, насіла яна, насіла, ужэ запоўніла ўсю хату пад самую стуоль, а ўсе не мажэ перанасіць усяго палатна з дзедзінца й хлѣба з стопкі, бо покуль яна вернецца, та там ужэ зноў е. Забѣгла к ёй адна сусѣдка. Яна была вельмі завідушчая жанчына. Пабачыла яна, куолькі палатна й хлѣба ў тае шчодрае маладзіцы да й пытае, аткуль яна ўзела. А тая й расказала, як тое было. — Пачакай-жэ, — думае яна, — зраблю й я шчэ лѣпш. — Падзівіласа яна цуду да й пабѣгла дамуоў. Але ось на немалум часе Хрыстос з Божаю Маткаю прыходзяць і к туой жанчыне. А яна як раз саджала ў пѣч хлѣб. Зірнула яна на старцуоў да й кажэ: начакайце, ось я спеку вам свѣжаго хлѣба, бо той ужэ чорствы. — А на сталѣ лежыць велізны бохан хлѣба, але жанчына пашкадавала добраго хлѣба, а паскрабла ў дзежы да й пасадзіла ў пѣч поскрабак, каб яго аддаць старцом. От атслаціла тая жанчына пѣч, аж пуодскрабак вырас больш усіх бахануоў. Пашкадавала яна даваць той пуодскрабак атрэзала ат яго акраец да бачыць, што ён вельмі гарачы, вѣдамо туолькі з печы, от і ўздумала яна перш абліць яго халоднаю вадою. Зірнула, аж у ведры німаш вады. От яна й пабѣгла ў калодзесь на воду. Прынесла яна вады, абліла акраец і падае. А Хрыстос і кажэ: насіць табѣ й не перанасіць, — да й пашоў далей. От і пачала

тая скупая жанчына насіць у хату воду. Нанасіла ужэ па самые вўокна, а ўсе перестаць не мажэ, пакуль не прышоў гаспадар да не атабраў ат яіе ведро. Дак от як пакараў Хрыстос тую скупую жанчыну.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 32. Як Хрыстос вучыў людзей.

Перш людзі былі вельмі дурные; нічого не ўміелі рабіць. От Хрыстос хадзіў з Бўоскаю Маткаю па землі да й навучаў іх, як на свіеце жыць, як абрабляць зємлю, каб кўожная рэч ішла на патрэбу чалавіеку. Ось як тое было. Ідзе гэтак Хрыстос пераз поле да й бачыць, што чалавіек сукам калупае зємлю. От Хрыстос прыўеў таго чалавіека ў сувараты, паказаў яму рагач да й зрабіў з яго соху. — Цепер, — кажэ, — залыгай пару валўоў, прывежы да рагача да й ары. — Пашоў Хрыстос далей, а чалавіек злавіў пару валўоў, звезаў ім хвасты да й зачапіў за рагач, а сам злыгаў валўоў за рогі да й ведзе па полі. А дзень быў ясны; сонейко грые, аж печэ. Напалі на валўоў овады да здракі, от тые як закруцяць хвастамі да чмыхануць, дак чалавіек тўолькі скачэ бы скўочка, а саха да землі й не дакранецца. Вырваліса валы да й пабіегли сабіе ў кусты абціраць авадўоў, а чалавіек стаіць кала сахі да чуць не плачэ. Але ось жўонка прынесла яму абіед да й пытае, чаму ён нічого не ўзараў. А ён кажэ, што так і так, уздрачыліса валы да й пабіеглі ў валес. — Гэй, дурны ты, — кажэ яна, — я сама пацягну гэстую соху. — Схапіла за рагач да й цягне. От чалавіек запрўог яіе ў соху, сам папірае да й арэ. Але ось надходзіць туды зноў Хрыстос да й бачыць, што чалавіек арэ жанчынаю, от ён і пытае: — што ты робіш, чалавіечэ? па што ты мучыш жанчыну? — Мніе не важко, — адмаўляе яна, — бо куды вам мужчынам да нас жанок. — Гэто сказала, каб пахваліцца, што вельмі дужая. От Хрыстос і кажэ: з гэтых час будзеш ты рабіць, як чорны вўол і твая праца не

бу̀дзе прыкмѣтна. Ты будзѐш хвата̀цца не за своѐ дзѣло, алѐ наро̀біш гэ, як сяго̀нячы наара̀ла. — От і цепѐр жанчы̀на працу̀е ад ра̀нку аж да по̀ўначы, алѐ яѣ рабо̀ты ніхто̀ не ба̀чыць. Заўжды яна̀ берэцца не за сваѐ дзѣло, а наро̀біць, бы ку̀от напла̀чэ. От паказа̀ў Хрысто̀с чалавѣку, як зрабіць му̀оцнае ярмо̀, каб валы̀ не злама̀лі яго̀, да як іх прызвыча̀іць да рабо̀ты. Падзя̀куваў той чалавѣк да й пача̀ў до̀брэ араць і абрабля̀ць по̀ле. Зарадзі̀ў у яго̀ хлѣб на по̀лі як ні ў ко̀го. Сабра̀ў ён хлѣб да й дава̀й яго мяць нага̀мі, каб вы̀церці зерня̀та. Ту̀олькі ось ідзѐ Хрысто̀с да й пытае, на што ён то̀пчэ бо̀жы дар. — Малачу̀, — атка̀звае той. — Ці-ж гэ малаціць? — Ї Хрысто̀с звеза̀ў дзвѣ па̀лкі, зрабі̀ў цы̀эп да й навучы̀ў чалавѣка, як малаціць. Падзя̀куваў чалавѣк, а Хрысто̀с пашо̀ў да̀лей. Алѐ ось ішоў ён цѐраз лѣс і вѐльмі далѐко не было̀ ніяка̀е вѐскі. Вѣдамо, на палѣсі ры̀эдко напада̀юцца вѐскі. Прагалада̀ў Хрысто̀с і велѣў, каб сухі̀ бу̀ор і нізкае ўзмо̀шэ й уселякая мейсцо̀вась у лѣсе радзіла я̀гады на патрэ̀бу чалавѣку. Зарадзіла я̀гада, што хаць грабі̀. Назбіра̀ў Хрысто̀с я̀гад, алѐ не так сам пасілкава̀ўса, як да̀ў Бу̀оскуй Ма̀тцы, каб яна̀ прагна̀ла смагу. Пашлі̀ яны̀ да̀лей, алѐ ось прыхо̀дзяць у вѐску да й просяць хлѣба. Алѐ тут жылі̀ такѣ скупы̀е людзі, такѣ безбу̀ожные, што й бо̀га не бая̀ліса да й людзѐй не саро̀меліса. Не пазна̀лі яны̀, што гэто не про̀стые старцы̀э да й пачалі̀ ўпіка̀ць, што да̀рам цяга̀юцца па свѣту, а не хо̀чуць рабіць дзѣла. — Ось, — ка̀жуць, — хлѣб на по̀лі нерастая̀ўса, а рабіць нѣкаму. От наняліса-б жаць, дак і ѣлі-б хлѣб. — Ї нічо̀го не далі̀ ты̀е пага̀ные людзі. Пашо̀ў Хрысто̀с да̀лей. Ідуць яны̀ цѐраз по̀ле, а тут тако̀е зрадзіло збу̀ожэ, што каласы̀ начына̀юцца ат са̀маѣ землі̀. Пача̀ў тут Хрысто̀с зрыва̀ць каласы̀. Хацѣў ён, каб спрэ̀су загубіць збу̀ожэ тых пага̀ных людзѐй, алѐ Бу̀оская Ма̀тка заступіласа за іх да й пачала̀ прасіць Хрыста̀, каб ён зміл̀уваўса. От Хрысто̀с і ка̀жэ: с тых час не бу̀дзе тако̀го зраджа̀ю, та̀гды пазна̀юць людзі, што бу̀ог на нѐбе. — От з таѣ пары̀ збу̀ожэ кѐпсько ро̀дзіць і даѐ ту̀олькі каро̀ценькіѣ каласкі̀ да й то ча̀сам саўсім пусты̀е. По̀тым дагада̀ліса людзі, якіѣ гэто былі̀ старцэ̀, дагада̀-

ліса да нічого не парадзіш. Саграшылі богу, дак трэ церпіець, бо на тое буоская воля. Ягò й воля, яго й цуоц. Туолькі ўжэ с таіе пары заўжды даюць старцуом па кавалку хліеба, нікому не атказкуць і нікого не ўпікнуць, а як прыдзе Спас да Зіелная, дак і несуць у цэркву съвепіць збуожэ да маліцца богу, каб паслаў ліепшы зраджай.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 33. Валачашчыса парабак ці служачы хліеб сабачы.

Быў сабіе адзін валачашчыса парабак. Ён не маў сваіе дамуоўкі, а ўсе парабкаваў. Алè дзіе ён не застанецца, та ўсюды яму не добрэ, не мажэ ён ужыцца да й валачэцца далей, шукаць ліепшаго прытулку. Панаўса ён у двары служыць пану. Думае сабіе, што дзіе-ж ліепш служыць, як не ў пана. Пан багаты, ўсяго ў яго мнуого, — будзе й па яго долю. Служыць ён пану віерно, шчыро працуе, а пан усе частуе яго куожын дзень:— гультай, пся крэў! Нèмаш тобе лозы! — Віедамо-ж, праўду кажуць людзі, што служы пану віерне, та ён табіе віердне, бо ў пана ляска па паруог. Пан дурны, работы не знае да туолькі панукае. Яму не трэ добрэ рабіць, а як ён веліць. Кінуў той парабак пана, — агідло яму глядзіець, што ўсе робіцца не на карысць, а на паказ, і пашоў шукаць ліепшаіе гаспадаркі. Доўго ён пягаўса без дзіела да й зайшоў у карчму атдыхаць да людзей распытаць, ці не трэ каму парабка. А тые кажуць, што ў куожнаго работы мнуого, але якая з валачашчагоса парабка карысь, віедамо — чужы. Ї ніхто не хочэ яго браць. — От ідзі хіба-ж к папу, — кажуць нарэшце, — бо ў папа якое дзіело. Паблагатаў, паблагатаў да й спажывай, што люд даў. — Пашоў той парабак да й панаўса к папу. Алè віедамо нуоп, быў ён вельмі скупы да завідны. Бачыць ён, што людзі завіхаюцца, стараюцца сабіе буольш зрабіць і што ў іх усяго мнуого, от і хочэцца яму, каб

па̀рабак згурава̀ў людзѐй і нарабіў бо̀льш, як свуой семенін. Стара̀ўса, стара̀ўса па̀рабак, а папу̀ ўсе ма̀ло; от і застаўля̀е той яго̀, кабустава̀ў до̀ сьвета, як запаѐ піевень да забрэшэ саба̀ка да йшоў у гумно̀ малаціць. — Лю̀дзі, — ка̀жэ, — ўсе памалацілі, а ў нас стаіць у то̀рпе. Гульта̀й ты, а не па̀рабак. — Гуорно па̀рабку. Ён стара̀ецца ліепш, як сабіе, пнѐцца су сіх сіл, а папу̀ не ўго̀дзіш. Да яшчэ не так папу̀, як пападзі̀, бо апрыч сваіе парабкуоўськаіе рабо̀ты, трэ зрабіць усе за на̀ймічку, бо віедамо, што ў папа̀ за̀ўжды дурна̀я да гультаява̀тая на̀ймічка, яко̀е-нѐбудзь пакі̀дзішчэ, што нічо̀го не ро̀біць. — Лю̀дзі памалацілі, — гаво̀рыць ён сам сабіе, — памалацілі, бо небыло̀ чаго̀ малаціць. Яка̀я там лава. Як гра̀дка, а ў папа̀ на паўпаліетка. Налядава̀ў по̀ўнае гумно̀, што й да каляды̀ не змалаціць. — Алѐ ўстаѐ па̀рабак до̀сьветкі, пне жылы да мало̀ціць. Нарэ̀шце надаіело яму̀ чуць не да̀рам рабіць папу̀ да яшчэ ўстава̀ць так ра̀но й дава̀й ён прыслухо̀ўвацца, які̀ гэто піевень паѐ так ра̀но й чаму̀ з ім не абзыва̀юцца другіе пеўні̀. Пацікава̀ў ён, аж гэто паѐ сам пуоп; запаѐ ён піеўнем да раскату̀рхае саба̀ку, пачнѐ яго̀ біць да цкава̀ць ім нібы̀то во̀ўка. Саба̀ка й забрэшэ. На другі дзень па̀рабак укінуў саба̀ку ў пусты̀ кало̀дзесь да й спіць сабіе, паку̀ль со̀нейко ўзышло̀, а пѐўня не слу̀хае. Піеў, піеў пуоп, аж яму̀ го̀рло апу̀хло, — не ўстае па̀рабак; шука̀ў ён, шука̀ў саба̀ку, — німа̀. От пуоп плюнуў да й пашо̀ў спаць. На за̀ўтра дава̀й ла̀яць да сварыцца на па̀рабка. А той ка̀жэ, што ніхто̀ яго̀ не пабудзіў, затым ён і заспа̀ўса. Ба̀чыць пуоп, што з такім па̀рабкам піва не зва̀рыш, і хо̀чэ ён, каб не плаціць, а каб па̀рабак ці загіб, ці сам пакінуў слу̀жбу. А ў папа̀ было̀ вѐльмі велізных да драпіежных пяць вапрукуоў. От і веліць ён па̀рабку закало̀ць аднаго̀ вапрука̀ на каўба̀сы. Ду̀мае пуоп, што як па̀рабак начнѐ кало̀ць аднаго̀ вапрука̀, та другіе кінуцца бараніць яго̀ да й разарву̀ць па̀рабка. — Што тут рабіць, — ду̀мае па̀рабак, — ніельга кало̀ць аднаго̀ вапрука̀. От ён папрасіў дзецюко̀ў да ра̀зам і закало̀лі яны̀ ўсіх вапруко̀ў. Пасварыўса пуоп, алѐ нічо̀го не пара̀дзіць, трэ рабіць каўба̀сы да ўжыва̀ць, бо са̀ло й мя̀со сапсуѐцца. —

От е каўбàсы, а німà хліеба, — кàжэ пуоп да й пасылàе пàрабка ў пустты млін, дзіе аблюбавàлі сабіе прытулак чэрці да ўселякая нèчысь, каб ён там намалоў мукì з мекіны й руознае бузы. Паўёз пàрабак тую лабазу к чартуом у млін малоць. Туолькі ён падъіехаў, як тут на сустрыэк выскачылі чэрці, памаглì яму знесці мешкі, змалòлі сваю сàмую ліепшую пшаніцу да й насыпалі ў мешкі таму пàрабку за тòе, што ён пèршы прыіехаў к ім у млін малоць. Прывòзіць пàрабак муку, а пуоп як убачыў, дак аж сплеснуў рукàмі, бо ён дзіву дàуса, што пàрабак не туолькі не загіб у туом млыне, алè яшчэ й намалоў мукì. Спужàўса пуоп, заплаціў пàрабку ўсю ардынàръю нават упèрад да яшчэ атдаў і тую муку, абы ён ішоў сабіе, куды зхòчэ. Забрàў пàрабак тòе дабрò да й пачàў сабіе гаспадараваць, — бо, — кàжэ, — служачы хліеб сабачы.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 34. Як браты дзеліліса.

Было ў бàцька два сыны. Адзін вèльмі ўпрàўны да скупы, а другі такі ціхі, што й вады не замуціць. Памèр стары бàцько, от і пачалі браты дзеліцца. Алè-ж кàжуць: хто дужшы, той і прутшы. Забрàў сабіе той упрàўны брат нèмаль усè бàцькаво дабрò, а брàту пакінуў туолькі голые сціены да даў адну карòву. От упрàўны брат стаў багачòм, а ціхі хутко саўсім абедніеў, так што німà чагò і ў рот палажыць ні сабіе, ні жуонцы з дробнымі дзіеткамі. Німà чаго рабіць, парàдзіўса з жуонкаю да й паўеў на прòдаж апуошнюю карòву. Прышлòсо яму весьці карòву цèраз ліес. Бàчыць ён, што людзі злавілі якогось злòдзея да й цягнуць ягò віешаць. Той прòсіцца так і сяць, клінèцца на прамілы буог, што ён невінен, што гэта на ягò паклèп. Куды там, тые й слухаць не хòчуць. Нагнулі берэзіну, прывезàлі за вèрх вероўку да ўжэ й петлю зашмаргнулі. Шкòда стàло таму біеднаму злòдзея, от і атдаў ён тым людзям сваю карòву, абы яны не віешалі злòдзея. Тые згадзіліса да й перарызалі верòўку.

Усхапіўса злòдзей да так з петлёю на шы̀і бы зàяц супу̀ў у лі͡ес. Вернуўса той бі͡едны да гаспòды без грòшэй і без карòвы да й раскàзвае жу͡онцы, як тòе былò. Гу͡орно мàцеры, што дзі͡еці плà-чуць, і͡есці хòчуць, алѐ як пачу̀ла янà, што гаспадàр вы̀бавіў ат смѐрці чалаві͡ека, дак янà абнялà да пацалавàла перш гаспадарà, пòтым дзецѐй да хаць галòдная, алѐ рàдасная леглà спаць. Спяць яны̀, дак ось жу͡онцы прыснìўса такì гòжы сон, што янà аж пра-хапìласа да й забы̀ла, што снìла, ту͡олькі й паметàе, што вѐльмі пàхло. Павелà янà нòсам, аж сапрàўды ў хàце штось дòбрэ пàхне. Засвеціла янà агонь, аж той разбу͡ойнік ім дабрà прыўёз пòвен ву͡оз да й злажы̀ў у сі͡енечках. Аттỳль пах пашòў аж у хàту. От пачалì яны̀ спажывàць тòе дабрò, накармìлі дзецѐй да й далì ім яшчэ̀ салòдзенькіх пі͡ернікаў. Ві͡едамо, дзі͡еці, пабі͡еглі яны̀ на дву͡ор гуля̀ць з дзецьмì багàтаго дзя̀цькі. Убàчылі багàтые ў дзе-цѐй пі͡ернікі, пазавìдувалі бі͡едным да й хòчэцца ім даві͡едацца, скуль узелòсо ў тагò бі͡еднаго ўселя̀кое дабрò, што ён дзецѐй кòр-міць пі͡ернікамі. Пачалì яны̀ распытòўваць у дзецѐй, алѐ тые ма-лые, нічòго не знàюць. Што тут рабіць, як разві͡едаць, аткỳль у бі͡еднаго брàта ўзялòсо дабрò. От чэ̀шча й кàжэ: от як сьцем-ні͡ее, я пайдỳ к ім у сі͡енечкі да аттỳль і падслỳхаю, што яны̀ бу̀-дуць гаманіць, та мо што й разузнàю. — Як сказàла бàба, так зрабіла, забрàласа ў сі͡енячкі да там і прытаìласа. Ту͡олькі, ві͡е-дамо, старàя, пачалà янà кàшляць. Пачу̀ў тòе разбу͡ойнік да й па-дỳмаў, што гэто тые лю̀дзі зноў прышлì ягò ві͡ешаць, вы̀скачыў ён у сі͡енячкі да як рàз і аседлàў бàбу—да давàй яі͡е перыэсціць. А ў таі͡е й духі вы̀перло, бо ку͡олькі стару͡ой трэ̀ба. Аглѐдзяўса ён, узя̀ў тỳю бàбу да й завалòк к багàтаму пад дзьвѐры. Пабòж-калі багàтые да й пахавàлі тỳю бàбу. От злòдзей ну͡очу пашòў на мòгліцы, вы̀капаў тỳю бàбу, прынѐс к багàтаму пад вакнò, пабрàскаў у абалòнку да й кàжэ зменìўшы гòлас: аддàй бі͡еднаму брàту карòвы й валы̀, бо я на ту͡ом сві͡еці не мàю супакòю. — Спужàліса багачы̀, усю̀сеньку ну͡очку перакалацìліса бы асіна. На зàўтра яшчэ̀ рàненько вы̀сунуўса багàты брат з хàты, зір-нỳў, аж чэ̀шча лежы̀ць пад вакнòм. Пабі͡ег ён к папỳ да й кàжэ:

так і так, бацюшко, нуочу прышла з мòгліц чэшча да й казала, каб я аддаў брату каруоў і валуоў, а то яіе на той сьвіет не прымàюць, — да от і лежыць над вакнòм. Нехай бàцюшко, калі ляска, яшчэ раз яіе схавàе. — Пачуў тòе нуоп да й веліеў яму аддàць брàту каруоў і валуоў, а чэшчу абецаў пахавàць. Аддаў багàты брат біеднаму каруоў і валуоў і пахаваў бàбу. Алè на другую нуоч зноў брàскае бàба ў абалòнку да кàжэ, што яшчэ не аддаў кòней, свінèй да авèц і руознаго дабрà. Назаўтра багàты аддаў брату ўсе, як мàе быць, пахаваў зноў чэшчу да й прыбіў яіе асінавым калòм, каб больш не хадзіла. З таіе пары супакòілася бàба. А біедны чалавіек стаў жыць да пажываць да дабрà нажываць, а злодзей пашоў сабіе сваèю дарòгаю. Дак от як браты дзеліліся.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 35. Хітры мужык.

Даўніей яшчэ за пàньшчынаю жыў адзін мужык. Быў ён хіцер, алè прыкідваўся дурням. Рабіць ён нічòго не рабіў, бо быў гультай да дзіела, а толькі каго ашукàе, дак з таго й жывіўса. Абарвè дзіе грòшэй, так зàраз да кàрчмы да й крычыць, — эй, Шлемка, гарыэлкі да аселèнец. — От ён раз дзіесь апарваў шмат асьмакоў. Усіх не прапіў, а хòдзіць па вèсцы, саўгаецца пьяны ат плота да плота да выхваляецца. — Мàю шмат асьмакоў да німà чаго купіць, бо ўсè гальшы. — Віедамо, мужыкі біедные, ўсе хаджайство, што аднà безхвòстая каруоўка да паршывая сьвінка. Дòбрэ, ў каго дзьвіе-тры авечкі, або каза. Што тут прадасі? Алè ось ведзè жыд старòго каня прадавàць на шкуру. Сустракàе таго жыда Сымон — так дражнілі таго дуракавàтаго мужыкà. — Куды Шмуль ведзèш каня? — пытàе Сымон. — Куды? — Лупіць скуру. — Прадай каня мніе. — А хібо ў цебè ест грòшы? — Гэ, пагàны пархуцько, ў менè толькі грòшэй, што не то, каб што, алè куплю пàру кòней і тваю пархàтую мазгаўню. — А аткуль ты ўзяў грòшы? — Аткуль узяў, та ўзяў,

а цебѐ не пытаў. — А куольки ты дасі? — А куольки ты хочэш за каня̀? — Дваццаць рублеў. — Хіба̀-ж з тваімі патрахамі. Гавары сэнс. — Ну, давай петнанцаць. — Што петнанцаць за дыхліну. От шэсь рублеў дам, калі хочэш. — Ну, давай дзесяць да й спажывай на здарове. — Доўго яны цапава̀ліса, нарэшце Сымуон купіў каня за сем рублеў. От прывеў ён каня ў сваю ста̀йню. А ста̀йня яго ўжэ даўно абернуласа, туолькі яшчэ тырчыць адно шуло. Прывезаў Сымуон каня да таго шула, падставіў над хвуост цаберык; а як куонь туды нарабіў, дак Сымуон накідаў у цаберык грошэй. Ідуць жыды да й бачаць, што Сымуон ішто робіць пад хвастом у каня. А віедамо, жыды вельмі цікавые. Падходзяць яны бліжыэй і пытаюць — што ты робіш, Сымуонка? — Што раблю, — кажэ Сымуон, — хіба-ж вы слепые, што не бачыце, што раблю? — А сам тым часам вымае з цаберка куолькісь залатуовак. Убачылі тое жыды дак аж затрасліса, бы іх трасца калоціць. Паднелі тут жыды такі гармідар, што Сымуон аж спужаўса, ён думаў, што тут якогось жыда чорт ухапіў. От пакрычалі, пакрычалі жыды, паг(g)ерг(g)еталі самі праміж сабою да й кажуць Сымону. — Слухай, Шымуонка. На сто табе такі куонь? Ты нікуды не іездзіс, а каня есцэ трэба карміць да дагледаць. Ну, от лепш ужэ прадай нам. — А што вы дасьце? — Сто, ну, хоцэс дваццаць рублі. — От пархуцько чаго захапеў. Да мніе куонь за адзін дзень вырабіць дваццаць рублеў, туолькі я яго добрэ накармлю. — Ну, а куолькі ты хоцэс? — прыстаюць жыды бы смала. Сымуон запрасіў чуць не тысчу. Спужа̀ліса жыды, але ўчапіліса, бы кліешч і ўсе таргуюцца. Таргава̀ліса яны, таргава̀ліса, але нарэшце мусілі заплаціць Сымону трыста рублеў. Павелі жыды каня, а Сымуон узяў гроши да й пашоў хучыэй у карчму. Датуль Сымуон не вылазіў з карчмы, пакуль усіх грошэй не прапіў. Прайшло мо содзьве недзіелі, ачухаўса Сымуон і пацёгса ў местэчко. А жыды тым часам кормяць каня сіенам да аўсом і ўсе калупаюць пад хвастом, але грошэй німа-ш.

От прышоў Сымуон у местэчко ранепько, яшчэ да ўсхода сонца. Местачковые людзі яшчэ спалі. Віедамо, ў местэчку рано

німа̀ чаго̀ рабіць, дак ну͡озна сьпяць. От Сыму͡он прышоў на рынак, вы̀капаў там я̀мку, насы̀паў туды̀ жа̀ру, прысы̀паў звѐрху тро̀хі по̀пелам да землёю, пастаа̀віў туды̀ го̀ршчык з ва̀рываю, сі͡еў калѐ яго̀ да й чака̀е, по̀куль зберу̀цца жыды̀. Го̀ршчык кіпіць, аж з яго̀ па̀ра клу̀бам ва̀ліць. А Сыму͡он седзіць сабі͡е калѐ го̀ршчыка да люлячу паку̀рвае. От ушчу̀халіса жыды̀, бегу̀ць на рынак: хто кра̀мкі атмыка̀е, хто людзѐй перайма̀е, каб уперш што вы̀дурыць, хто на ры̀нку раскла̀двае ру͡озные тава̀ры. Ба̀чаць тут жыды̀, што ў Сыму͡она го̀ршчык без агню̀ кіпіць і ва̀рыць стра̀ву. Ніко̀лі яны̀ тако̀го дзіва не ба̀чылі. Збіліса яны̀ ў ку̀чу, патраслі пэйсамі, наг(g)ерг(g)еталі да й ка̀жуць Сымо̀ну.— Цу̀ес, Сыму͡онко, на сто табі͡е го̀ршчык? — А ў чо̀м жэ я бу̀ду стра̀ву вары̀ць? — Купі сабі͡е другі, а гэты прада̀й нам, мы до̀брэ запла̀цім. — Тут прыбі͡еглі тые жыды̀, што купілі ў Сыму͡она старо̀га каня̀. От дава̀й яны̀ крыча̀ць на Сыму͡она, што ён абману̀ў іх, бо ку͡онь наза̀ўтрэ здох і пія̀кіх гро̀шэй не даў.—Адберу͡ом,— крыча̀ць жыды̀, — го̀ршчык за то̀е, што ты нас падману̀ў. — От жэ я вам лупа̀тые бі͡ельма кінетко̀м вы̀смалю, зачапі͡еце ту͡олькі, дак я вам усі͡е пэйсы павырыва̀ю, хварэць ва̀шуй ма̀тары. Вон, пранцава̀тые пархуцькі, каб вас халѐра ўзяла̀! — Ба̀чаць жыды̀, што гру͡озьбаю з Сымо̀нам нічо̀го не пара̀дзіш, дава̀й яны̀ прасіць яго̀, каб прада̀ў ім сву͡ой го̀ршчык, су̀ляць за яго̀ пяць рублёў. Алѐ Сыму͡он уперса: от дава̀й яму̀ дзѐсяць рублёў; хаць што хо̀чэш, тапі͡ей не аддаѐ. Шко̀да жыду͡ом гро̀шэй, алѐ не магу̀ць Сымо̀на абдуры̀ць.—Ну, Сыму͡онко, тра̀сца тваёй ма̀тары, ты й так нас абшука̀ў, беры̀ шэсьць рублі. Ну, што з табо̀ю рабіць, беры̀ сі͡ем. — Да хава̀й бо̀жэ, й адного̀ шэлега не скіну; плаці͡еце дзѐсяць. Гэтакая начы͡эніна. Да яна̀ сто рублёў ва̀рта. Не трэ̀ба табі͡е ні дроў, ні пѐчы... вары̀ сабі͡е г(g)уг(g)ель хаць у су̀тачках.—Ну, беры̀ ву͡осім рублі. — Не трэ̀ба мні͡е ва̀шых гро̀шэй; я сваі͡е ма̀ю асьмакі. — Ī сто з табо̀ю рабіць, Сыму͡онко, вазьмі ўжэ дзѐсяць рублі да дава̀й нам го̀ршчык. — Да ўжэш лічэце асьмакі; што з ва̀мі робіць? Прыста̀лі, бы смала̀ да аза̀дку. — От заплацілі жыды̀ Сымо̀ну дзѐсяць рублёў і забра̀лі гара̀чы го̀ршчык.

—Пачака̀йце тро̀хі,—крычы̀ць Сымуон,—я забы̀ўса, што ў го̀ршчыку ва̀рацца тараны̀.—Павыця̀гваў тут Сымуон з го̀ршчыка тараны̀, завіну̀ў іх у капу̀сны ліст, палажы̀ў за па̀зуху да й пашо̀ў у ка̀рчму. Тут ён за̀рас патрэ̀бўваў гарэ̀лкі, вы̀піў і дава̀й тарана̀мі заку̀сваць. Пату̀ль седзіеў Сымуон у карчміе, паку̀ль не прапіў усіе гро̀шы. Тым ча̀сам аглядзіеліса жыды̀, што Сымуон іх абшука̀ў і пашлі̀ к па̀ну жа̀ліцца на Сымо̀на. Пасыла̀е пан парабкуоў па Сымо̀на. Пашлі̀ ты̀е шука̀ць Сымо̀на. До̀ўго яны̀ шука̀лі, нарэ̀шце знайшлі̀ ў качміе пад ла̀ваю. Лежы̀ць Сымуон пъя̀ны, бы пласт. От яны̀ вы̀лілі на яго̀ мо вѐдзер з дзэ̀сяць хало̀днаіе ва̀ды. Тагды̀ ту̀олькі Сымуон тро̀хі ачу̀хаўса. Тым ча̀сам парабкі̀ падхапілі̀ яго̀ да й пя̀гнуць к па̀ну на распра̀ву.—Дайце пахмелі̀цца,—ка̀жэ Сымуон,—та я й сам пайду̀.—Тут прыбіеглі жыды̀, паста̀вілі Сымо̀ну ква̀рту, да̀лі аселѐнец да лу̀сту хліеба, а жыду̀оўка прынесла̀ кі̀слых агуркуоў. Часту̀юць жыды̀ Сымо̀на, каб ту̀олькі ён ішо̀ў да па̀па. Напі̀ўса Сымуон, наіеўса, аж по̀яс распераза̀ў да й пашо̀ў да па̀на. От прывелі̀ Сымо̀на й дава̀й на яго̀ жа̀ліцца. Вы̀слухаў пан жыдуоў, распыта̀ў Сымо̀на, алѐ той пъя̀ны, нічо̀го не атка̀звае. Ду̀маў тут, ду̀маў пан і не віедае, што тут рабі̀ць з Сымо̀нам і адда̀ў яго̀ жыдуом, каб яны̀ са̀мі рабі̀лі, што хзо̀чуць. Павалаклі̀ тут жыды̀ Сымо̀на на ры̀нак. Збіеглас0 сюды̀ жыдуоў цьма-цьму̀шчая: нѐмаль усіе з мястэ̀чка, стары̀е й малы̀е. Крыча̀ць, г(g)ерг(g)ѐчуць і паднелі̀ такі̀ гармі̀дар, як на Га̀мана. Крыча̀лі яны̀, крыча̀лі й парашы̀лі Сымо̀на ўтапі̀ць, ці павіесіць. Перш яны̀ замо̀ўклі, алѐ по̀тым зноў пача̀лі крыча̀ць. Адны̀ ка̀жуць—атарвѐцца, другі̀е ка̀жуць—ўсплывѐ. Зноў пача̀лі жыды̀ крыча̀ць, спо̀рыць. Адны̀ хо̀чуць павіесіць, другі̀е—ўтапі̀ць. До̀ўго яны̀ крыча̀лі, аж ахры̀плі, нарэ̀шце пыта̀юць само̀го Сымо̀на, як ён хо̀чэ: ці каб павіесілі, ці каб утапілі.—Э, хварэ̀ць ва̀шуй ма̀тары, пархатые недавіеркі,—ка̀жэ Сымуон,—рабіеце, як ліепш.—От паг(g)ерг(g)ета̀лі жыды̀ да й згадзі̀ліса праміж сабо̀ю, што трэ Сымо̀на лепіей утапі̀ць. От пасадзілі̀ яны̀ яго̀ ў міех, завеза̀лі лы̀чкам і занеслі̀ к рацы̀э. Алѐ тут узду̀малі, што не спыта̀лі ра̀біна. Кі̀нулі яны̀ міех з Сымо-

нам на дарòзе калà ракì да й пабi͡еглi пытàць рàбiна. Пакýль рà-
бiн седзi͡еў над бýбляю да мысляваў, вы̀ехаў пан з местэ̀чка к су-
сi͡еду ў гòсьцi. I͡едзе пан калà ракì да й бàчыць, што лежыць
мi͡ех, а ў ём хтòсь варўшыцца. Як пачýў Сымýон, што хтось
i͡едзе, што гэ̀то мàбыць пан, бо хурмàн пàліць з бiчà, от ён да-
вàй крычàць, — ратýйце дòбрые лю̀дзi! Не ўмi͡ею нi чытàць, нi
пiсàць, а за каралỳ везýць. — Учýў тòе пан i захацi͡еласо яму̀
зрабiцца каралём. Велi͡еў ён хурманỳ супыніць кòней, злi͡ез з ка-
чòбрыка, падыпшòў к Сымòну, развезàў мi͡ех да й кàжэ: «я ўмi͡ею
чытàць i пiсàць, з менè дòбры бýдзе карýоль. Давàй я ўлi͡езу
ў мi͡ех, а ты менè завежы̀». Улi͡ез гэ̀то пан у мi͡ех. Сымýон
мýоцно ягò завезàў, а сам сi͡еў на качòбрык да й паi͡ехаў у маён-
так панавàць зàмяст пàна. Тым чàсам жыды̀ вернýлiса ат рàбiна
да й укiнулi пàна ў ракỳ. Тýолькi забулбатàў пан i пашòў на дно,
бы кàмень. А Сымýон з таi͡е пары̀ зажы̀ў пàнам. Бо кàжуць жэ
лю̀дзi, што калi шанцýе, та й у лàпцях танцýе. Калi шчàсьце,
та й з мi͡еха вылезе.

Данiло Кулi͡еш.

Чудзiн.

## 36. Завýоцкiе кòнi.

Былi ў аднагò чалавi͡ека вèльмi дòбрые кòнi. Кудỳ ён нi на-
i͡едзе, та ўсю̀дых абстýпяць жыды̀ да ўсе пытàюць, дзi͡е ён узяў
такiе кòнi. Напры̀крыло яму̀ кýождаму пàрху спаведàцца, от i
пачàў ён шуткавàць да гаварыць на кiнкi. Чагò тýолькi ён не
выдумòўваў, як не чмуцiў да не смеяўса з дурны̀х жыдýоў. От
раз сабрàўса ён у мi͡есто на ры̀нак, запрýог сваi͡е кòнi, а каб не
i͡ехаць улèгды, ўскiнуў на вýоз з паўдзiся̀тка гарбузýоў. А той
гýод глàдкiе да велiзазные зрадзiлi ў ягò гарбузы̀. Тýолькi ён
супыні́ў на ры̀нку кòней, як ось атусю̀ль збi͡еглiса жыдэ̀, акру-
жы̀лi вýоз да й пытàюць:

— Ну, цýес, цýес, чы̀i͡е гэ̀то ў цебè кòнi?

— Чы̀i͡е? Вèдомо чыi͡е. Маi͡е.

— Алѐ-с вѐльмі дѐбрые кѐні.

— Аджэ-ж дѐбрые, бо завуоцкіе.

— Якіе завуоцкіе? Сто ты кàзэс?

— Што ты чуеш. Завуоцкіе, бо сам заўеў.

— Як заўеў?

— Да хварыэць вàшуй мàтары, не віедаеце, як кѐней завѐдзяць дѐбрые людзі. Звіесно, сіеў, як кўрыца на яйца да й высядзеў жарабят. От і кѐні да яшчэ якіе!

— Ну, а дзіе ты ўзяў яйца? — пытàюць жыды. Бàчыць той чалавіек, што жыдэ й праўда думаюць, што кѐней высіеджваюць па яйцах да й давай яшчэ буольш шуткавàць. От ён ім і аткàзвае:

— Хіба-ж вам вѐчы павылàзілі, што небàчыце. А гэто-ж на вѐзе лежàць. — Зірнулі жыдэ на вуоз да й хапіліса мàцаць тые гарбузы.

— Прэч, пагàные недавіеркі, бо яшчэ, напсуеце яйца, дак не выдуць жарабята! — Да й пачàў сербàць жыдуоў пугаю, каб атагнàць іх ат вѐза. Разагнàў ён збуольшаго жыдуоў да й хаціеў іці па свайму дзіелу, алѐ ось адзін жыд, мàбыць сам цѐдык, бо вѐльмо з дѐугімі пэйсамі, прыстàў, бы смала — прадай да прадай тые яйца.

— Чаму не прадàць? Купі. Я-ж на тѐе й прыуез, каб прадàць. А куолькі-ж ты дасі?

— А куолькі ты хѐцэс?

— Куолькі? Давай па двàдцать пъяць рублеў.

— Ну, сто так дѐраго? Казі сэнс.

— Якѐе дѐраго? Ты зірні, якіе кѐні. Бàчыш, завуоцкіе.

— Ну, німà цагѐ казàць. Кѐні дѐбрые, алѐ й грѐсы дѐбрые. Ну, а куолькі ты ўступіс?

— Нічѐго не ўступлю. Гэто я прадаю, што самѐму ніекалі седзіець, а трэ збуожэ малаціць.

— Ну, ўступі трѐхі, та я ўсіе заберу.

— Хіба-ж так. Ну, што з табѐю рабіць, беры ўжэ ўсіе за сто рублеў.

Заплаціў жыд грошы, забраў тые гарбузы да й пытае, як гэто трэба на іх седзіець.

— Ты завезі іх у хмызнік, — вучыць той жыда, — дзіе мнуого ялуоўцу, насечы з яго віетак, зрабі кубельцэ да й седзі, покуль выседзіш. Туолькі скінь плюоцдры, бо нічого не будзе, — дабавіў той да й паіехаў з рынка, каб у крамках закупіць усе, што трэ ў гаспадарцы.

От змовіўса жыд з сваею Хайкаю, каб яна пасіла яму абіед, а сам зрабіў, як яго вучыў той чалавіек да й седзіць на тых гарбузуох. Седзіеў ён, седзіеў, ужэ весь вынетраў да й скуочкі да мурашкі яго заіелі, а нічого німа. Памацае ён тые гарбузы, паверне на другі буок да й зноў седзіць. Прыходзіць Хайка да й кажэ: ну, ты іх трохі пабаўтай. Марьяна казала, што трэба баўтаць, туолькі не мнуого, бо будуць баўтуны. — Пакалаціў жыд гарбузы, сіеў да мыслюе сабіе, як ён будзе іездзіць на завуоцкіх конях, як ён з іх зробіць добры г(g)ішэфт. Падходзіць шабас. Седзіць жыд бы прыкованы да мармычэ сабіе пад нуос. — Шабас муой не дзівуй. Я седжу, бо коней хачу. — Праседзіеў ён мо недзіелі со тры, але ось і бачыць, што з пад куста кала самаго яго выскачылі два зайчыкі да й паскакалі. Думае жыд, што гэто вылупіліса жарабьятка, павернуўса ён, каб біегці за імі да й раздушыў гнілые гарбузы. Схапіўса тут жыд да так без плюондраў і пусціўса дагавяць тых зайцуоў. Бежыць да крычыць: — косея, косея, маіе конікі, дам аброку! — Сустракае ён людзей да й просіць: — Ой галубцікі, ой, руодненькіе, лавіеце маіх жарабьят, бо уцекуць. Гэто-ж завуоцкіе коні. — Апаліеў жыд, — кажуць людзі, — без парток біегае за зайцамі.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 37. У бабы чортава галава.

Сатварыў буог сьвіет да й пашоў з Міколаю да Петром аглядаць, ці усе добрэ зроблено. Ідуць яны да радзяцца, што трэба

зні̀шчыць, што перарабі̀ць, каб усѐ было̀ до̀брэ. Вайхо̀дзяць яны̀ ў адну̀ ўѐску да й чу̀юць які̀сь крык да праклё̀н. — Схадзі̀, — ка̀жэ бу͡ог Міко̀ле, — пабача̀, што там ро̀біцца да папра̀ў, калі̀ кѐпсько. — Падхо̀дзіць Міко̀ла да й ба̀чыць, аж над карытам седзі̀ць жанчы̀на, шару̀е песко̀м да хвашча̀нкаю сваю̀ мо̀рду да крычы̀ць, кліпѐ сваю̀ до̀лю, што ку͡олькі яна̀ ні мые, а мо̀рда ўсе чырво̀ная. Ї пытае яі͡е Міко̀ла, чаго̀ яна̀ хо̀чэ. — Я гу͡оркая да нешча̀сная, — з пла̀чам жа̀ліцца яна̀, — па што менѐ бу͡ог на сві͡ет пусціў, калі̀ не даў мні͡е до̀лі, не даў мні͡е хараства̀.

— Яко̀го-ж ты хо̀чэш хараства̀?

— Я й сама̀ не ві͡едаю. Ой мая̀ бі͡едная галу͡оўка! Лі͡епш-бы менѐ ма̀тачка не радзі̀ла, ці малу̀ю задушы̀ла, як мні͡е жыць, як усі͡е жыву̀ць! — Паслу̀хаў Міко̀ла й зрабі̀ў так, што жанчы̀на меня̀ецца ку͡ожную часі̀ну, як на со̀нейку палыску̀ецца й меня̀ецца гадзю̀ка. Схілі̀ласа жанчы̀на над карытам з вадо̀ю, зірну̀ла на себѐ да й ра̀да. От пачала̀ яна̀ чапля̀ць на себѐ ўселя̀кую ўселя̀чыну, каб стаць іна̀кшаю, як лю̀дзі. Пашлі̀ яны̀ да̀лей, а па нема̀лум ча̀се чу̀юць, што зноў крычы̀ць ба̀ба. На гэты раз бу͡ог пасыла̀е Петра̀, каб ён паба̀чыў, што там ро̀біцца. Падхо̀дзіць ён, аж ба̀ба бъѐцца з чо̀ртам. Ба̀ба схапі̀ла ві̀лы, а чорт о̀жаг. Лу̀піць ба̀ба чо̀рта ві̀ламі па чу͡ом папа̀ло. Чорт круці̀ўса, круці̀ўса да й ка̀жэ: — от велі̀кая ры͡эч, што ты бъёшса, бо ў цебѐ ні͡ельга пацэ̀ліць о̀жагам. Пры гэтум ён пераско̀чыў за плу͡от. — Меня̀ймасо, — ка̀жэ ба̀ба. От паменя̀ліса яны̀. Чорт даў ба̀бе о̀жаг, а яна̀ перакі̀нула яму̀ цѐраз плу͡от ві̀лы. Ї пачалі̀ яны̀ зноў бі̀цца. Пырнѐ чорт ба̀бу ві̀ламі, дак яны̀ й захра̀снуць у пло̀це, а ба̀ба што пырнѐ, та зро̀біць у чо̀рта дзі̀рку. Зрашаці̀ла яна̀ чо̀рта так, то мо не застало̀со радзі̀маго мі͡есца. Алѐ чо̀рт не здаѐцца; кі̀нуў ён ві̀лы, пераско̀чыў наза̀д цѐраз плу͡от да й схапі̀ў ба̀бу за̀грудкі. Во̀дзяцца яны̀ бы пъя̀ные, патамі̀ліса або̀е, алѐ не здаю̀цца, ку͡ожнае хо̀чэ паста̀віць на сваё̀м. Паглядзі͡еў на то̀е Петро̀ да й пашо̀ў к бо̀гу. От бу͡ог пасыла̀е яго̀, каб развёў ба̀бу з чо̀ртам. Прышо̀ў Петро̀, расцяга̀ў іх, расцяга̀ў, алѐ нічо̀го не пара̀дзіць, бо так яны̀ сплелі̀са, што й вадо̀ю не разлі̀ць. Прышо̀ў Петро̀

назад пі з чым. Алѐ бог зноў пасылае, каб ён іх развёў. Абазліўса Петро̀, што праз іх ягò бог турбуе па старасці, папро̀буваў іх разцягці, алѐ ніяк не мажэ. От сцяў ім го̀ловы да й давай расцягàць. Алѐ баба так сашчаміла рукі, што й без галавы, а чорта не пускае. Рашчаміў ён у бабы рукі, раскідаў іх да й пашоў к богу. — А што, развёў? — пытае бог. — Ніе, го̀спадзі, я ім сцяў го̀лавы. — Не до̀брэ зрабіў, — кажэ бог, — ідзі, прыстаў ім го̀лавы, та яны ажывуць. — Пашоў яшчэ раз Петро̀ да са злосьці хучэй прыставіў ім го̀лавы, тольк і абмыліўса да го̀лаў чорта прылажыў бабе. От з тых часаў і засталаса баба з хітраю чортаваю галавою. Мо затым яна й го̀лаў закрывае, каб не відны былі ро̀гі. А чорт так і застаўса з галавою бабы, бо так яму лаучэй зводзіць до̀брых людзей.

Даніло Куліеш.

Чудзін.

## 38. Пъяніца.

На дарам людзі кажуць — састуні пьянаму з дарогі, та бог віеку прыбавіць. Мо затым до̀брые людзі заўжды пьянаго абхо̀дзяць, не чапаюць, нехай праспіцца. Бо пьяны гарэй чорта. Жыў тут ко̀лісь вельмі велікі пьяніца. Што з ім не рабіў пан, мо не раз спушчаў яму ўсю шкуру да абліваў пісухі гарэлкаю. А ён хаць бы што. Ягò лупяць на стайні, а ён кажэ: не бузуйце дарам божаго дару, не разлівайце гарэлкі, а ліепш дайце мніе, та я вып'ю. — Пасыпце яму па хвост со̀лі, — крычыць пан. — А ён кажэ — дзякуй паночку й за тое. — Німа чагò рабіць, кінуць ягò пало̀суваць, а ён, калі не напьецца, дак ці што ўпечэ, ці паньськім коням хвасты паабрэзвае, ці воду з става вышусьціць, або ўдзерэ яшчэ якую небудзь штуку, што й сміех людзям сказаць. Злаваў, злаваў пан, а парэшце й атказнуўса ат ліхого. От напіўса той пьяніца да й пачаў іграць з чарцямі. Выдумо̀ўваў ён уселякіе штукі да так хвацько забаўляў іх, што яны жыўцом забралі ягò к сабіе ў пекло. Алѐ мабыць і ў пекле ніельга пра-

жыць без пра̀цы адно̀ю гульнё̀ю. Прачу̀хаўса тро̀хі пъя̀ніца да й крычыць на ўсе пѐкло — дава̀йце гарыэлкі, а то ўсе пѐкло разверну̀! — Німа̀ чаго̀ рабіць, далі̀ чэ̀рці яму̀ гарыэлкі мо два, ці тры разы̀, да й шко̀да ім ста̀ло да̀рам бузава̀ць гарыэлку, калі̀ яна̀ па зямлі̀ так до̀брэ зво̀дзіць людзѐй да ведзѐ іх у пѐкло. Ту̀олькі пераста̀лі чэ̀рці дава̀ць яму̀ гарыэлку, дак ён так разбушава̀ўса, што аж пѐкло трашчыць. Разбѐгліса чэ̀рці чорт вѐдае куды̀, а ён пача̀ў зрыва̀ць з катлу̀оў замкі̀ да вышушча̀ць з гарача̀е смалы̀ грыэшные ду̀шы. Атчыні̀ў ён адзін капѐл, аж там седзя̀ць усе жыды̀. Выскачылі яны̀ да й про̀сяць, каб ён аслабані̀ў усіх жыду̀оў. — А гарыэлкі дасцѐ, пага̀ная ва̀ша душа̀? — Ой, паму̀ ніе, ту̀олькі ты ўзэ зрабі мі̀ласць, аслабані̀ на̀сых балабо̀стаў. — Вѐдамо, праны̀ры жыды̀, яны̀ й у пѐкле за̀рас даста̀лі пля̀шку гарыэлкі. Глыну̀ў ён тро̀хі дзѐля разо̀ну да й сарва̀ў вѐко яшчэ̀ з аднаго̀ катла̀. Павыла̀зілі аттуль жыду̀оўкі да жыду̀овачкі да й паднялі̀ такі̀ гармі̀дар, што аж пѐкло правалі̀ласо. Пасыпа̀ліса жыды̀ з пѐкла бы град да про̀сто ў наш край. От заты̀м іх по̀гані у нас так мну̀ого, што хаць гаць гаці̀. Выпі̀ў пъя̀ніца апу̀ошнюю гарыэлку й тро̀хі супако̀іўса. Пачалі̀ тут збіра̀цца чэ̀рці да як убачылі, чаго̀ ён тут навычвара̀ў, дак дава̀й рахава̀цца, што тут рабіць. — Гэто-ж ён — ка̀жуць, — усіе ду̀шы павыпуска̀е. — Намо̀віліса яны̀ да й вы̀кінулі пъя̀ніцу з пѐкла. Праспа̀ўса ён у раўчуку̀ пад пло̀там, прадзѐр во̀чы, алѐ ба̀чыць — што̀сь незнаёмы край. Усцѐгса ён, алѐ кала̀ сэ̀рца так печэ̀, што немо̀ўжне й вытрымаць, трэ пахмеліцца. От і пашо̀ў ён шука̀ць ка̀рчмы. Хадзі̀ў, хадзі̀ў, — нідзіе німа̀. — Дзіе-ж гэто я, — ду̀мае ён, — ні па зямлі̀, ні ў пѐкле, бо й там і там му̀сіць быць гарыэлка. Вѐдамо — без гарыэлкі па сьвѐці не пражы̀ць да й у пѐкло не папа̀сці. — Падхо̀дзіць ён к бра̀ме й пачына̀е сту̀каць у дзьвѐры. — Хто там? — пыта̀юць аттуль. — Я. — А хто ты такі̀? — Звіесно хто. Пъя̀ніца. А ты хто? — Я сьвяты̀ Пятро̀. Ідзі̀ сабіе, го̀лубе, бо ў рай пъя̀ніц не пры̀ма̀юць. — А, гэто той са̀мы Пятро̀, што ат Хрыста̀ атру̀окса. Дак ба̀чыш яго, як угіба̀ў ат ра̀я ключы̀, дак ніко̀го й не пуска̀е. Пачака̀й-жэ, я й па цебѐ

спра̀ву знайду̀. — Німа̀ чаго̀ Петру̀ каза̀ць, завѐ ён Па̀ўла, каб той пагаманіў з пъя̀ніцаю. — Хто там? — пыта̀е Па̀ўло. — Я. — Хто ты такі̀? — Пъя̀ніца. А ты хто? — Я Па̀ўло. — А, гэто той са̀мы Па̀ўло, што ганя̀ўса да лавіў Хрыста̀. — Дак чаго̀ таб͡іе трэ? — Атчыні̀ дзьвѐры. — Тут німа̀ м͡іейсца пъя̀ніцам. Ідзі саб͡іе да̀лей. — Дак от які̀ ты? Хрыста̀ ганя̀еш, а менѐ не пушча̀еш. Я як вы̀пъю ча̀рачку, дак за̀ўжды скажу̀: дзя̀куй таб͡іе Го̀спадзі. — Німа̀ чаго̀ каза̀ць, пашо̀ў Па̀ўло да й пазва̀ў Іва̀на Еваналіста. Прыхо̀дзіць той, а пъя̀ніца гру̀кае ў дзьвѐры, аж рай дрыжы̀пь. — Хто там? — пыта̀е Еваналіст Іван. — Я. — Хто ты такі̀? — Пъя̀ніца. — Чаго̀ таб͡іе трэ? — От пусці̀, калі̀ сту̀каюць. — Тут пъя̀ніц не пушча̀юць. — А ты хто? — Я Еваналіст Іва̀н. — От і бачно̀, яка̀я ў цебѐ пра̀ўда. Ты сам напіса̀ў, што калі̀ бу̀дзеш сту̀каць, та атчы̀няць, а калі̀ ста̀неш шука̀ць, та зна̀йдзеш. Я от ужэ̀ мо паў гадзіны гру̀каюса, а ты ўсе не атчыня̀еш. Сяго̀нячы ўвесь дзень шука̀ю гар͡ыэлкі, а я͡іе німа̀ш і ка̀пелькі. Дак от як ты на̀шаго бра̀та ашуко̀ўваеш. — Німа̀ чаго̀ рабіць, пусціў той пъя̀ніцу ў рай да яшчэ̀ й напаіў яго̀ га͡рыэлкаю, каб т͡уолькі маўча̀ў.

Даніло Кул͡іеш.

Чудзін.

## 39. Хітр͡ыэй сьв͡іету не бу̀дзеш.

Пра̀ўду ка̀жуць стары̀е лю̀дзі: хітры̀, не хітры̀, а хітр͡ыэй сьв͡іету не бу̀дзеш. А як пачнѐш вѐльмі хітрава̀ць, та й перахітры̀цца. Чу̀ла я ат аднаго̀ старо̀го чалав͡іека, што тут дз͡іесь недалѐчко жыла̀ адна̀ вѐльмі хітрая ба̀ба. Яна̀ была̀ така̀я хітрая, што мо хітр͡ыэй само̀го чо̀рта. У я͡іе была̀ дачка̀ адны̀м адзініца. Алѐ то кажы̀эце, была̀ яна̀ така̀я-ж хітрая, як і ма̀тка. Жывѐ саб͡іе хітрая ба̀ба, ліханька не зна̀е. Лю̀дзі гару̀юць, працу̀юць, зарабля̀юць кусо̀к хл͡іеба. А ба̀ба й так саб͡іе ця̀гне, што ні запарвѐ. Я, — ка̀жэ, — мірська̀я і ўсе мірсько̀е, дак мн͡іе м͡уожна й браць. — А як трэ̀ба што аддава̀ць, та яна̀ крычы̀ць, галасу̀е,

што бу͡ог не велі͡еў крыўдзіць бі͡едную удаву̀ з сіру͡откаю. Не чапа̀лі яі͡е до̀брые лю̀дзі. Ка̀жуць: неха̀й ёй лі̀хо й беда̀. Ты яі͡е па̀лцам крэ̀неш, дак і не атчы͡эпішса, бы ат лі̀хо͡іе скулы̀. Ужэ̀ рыхтава̀ліса на̀шы дзецюкі̀ правучы̀ць стару̀ю ві͡едзьму, каб яна̀ не хітры̀ла да людзѐй не звадзі̀ла, да ту͡олькі бая̀ліса бо̀га. От падрасла̀ дачка̀-таі͡е ба̀бы да й ста̀ла ўжэ нелапа̀я дзі͡еўка, алѐ як і ма̀тка нічо̀го не хо̀чэ рабі̀ць, а ту͡олькі седзі̀ць да прыхаро̀-шваецца. Ужэ трэ̀ба гатава̀ць ручнікі̀ да лядава̀ць ку̀бел, бо не загара̀мі прыдуць і сваты̀, а дзі͡еўка не то, каб што, алѐ й ла̀ткі сабі͡е не зала̀піць. А, ві͡едамо, ў гаспада̀рцы трэ ўсе ўмі͡ець ра-біць, бо ка̀жуць-жэ лю̀дзі: дай бо̀жэ ўсе ўмі͡ець, да не ўсе рабі̀ць. От хітрая ба̀ба пашла̀ на кірма̀ш, накупі̀ла там ру͡ознаі͡е жано̀чаі͡е рухамо̀сьці, пака̀звае то̀е лю̀дзям да ка̀жэ, што гэ̀то нарабі̀ла яі͡е дачка̀. І пашла̀ прачу̀тка, што ба̀біна дачка̀ така̀я зда̀тная да ра-бо̀ты, што ніхто̀ таго̀ не зро̀біць, што яна̀ навычвара̀ла. От по̀сьле Каля̀д і пачалі̀ к ёй хадзі̀ць сваты̀. Дак куды̀ там, ба̀ба й слу̀хаць нехо̀чэ, а дзі͡еўка ко̀жнаму хло̀пцу даѐ рэ̀куз; нѐмаль зрэкузава̀ла ўсіх хло̀пцаў ва ўсёй акру̀зе. Со̀рам лю̀дзям, алѐ нема̀ чаго̀ ра-біць. Перабіра̀ла яна̀, перабіра̀ла, алѐ за перабіра̀чку даѐ бу͡ог гара̀чку. Так тра̀пілаcо й з то̀ю дзі͡еўкаю: пахадзілі̀ сваты̀ да й кінулі. От прайшо̀ў гу͡од, другі̀, а к ёй ніхто̀ й по̀са не пака̀жэ. Ба̀чыць ба̀ба, што перахітры̀ла, што дачка̀ мажэ̀ саўсім заста̀цца ў дзі͡еўках, от і пачала̀ яна̀ крупі̀ць да падбіва̀ць жано̀к, каб тые падмаўля̀лі людзѐй браць яі͡е дачку̀. Дачу̀ліса аб ту͡ом дзеўкі̀ да й пачалі̀ абхо̀дзіць ба̀біну дачку̀, бы ліху̀ю, а хло̀пцы дава̀й к ёй прыстава̀ць нібы̀то каха̀юць, алѐ прыстаю̀ць ту͡олькі, каб накпі̀ць. Ра̀да хітрая дзі͡еўка, што яі͡е хло̀пцы каха̀юць і к ку͡ожнаму яна̀ хі̀ліцца, нібы̀то й сама̀ каха̀е, а тым ча̀сам выбіра̀е сабі͡е хло̀пца са̀маго бага̀таго да ўда̀лаго. Сьмею̀цца хло̀пцы, а свату͡оў не за-сыла̀юць. Нарэ̀шце дагада̀ласа хітрая дзі͡еўка, што гэ̀то кпінкі да й го̀дзі карагодзі̀цца з хло̀пцамі, не хо̀чэ з імі й гавары̀ць, не то, каб што. От быў там адзін плюга̀вы хло̀пец. Ён яшчэ̀ з ма-лѐнства та па̀сьціў у папа̀ сьвіне, та служы̀ў у жыду͡оў, та дзі͡есь цяга̀ўса па сьві͡ету да так разбэ̀сьціўса, што яго̀ до̀брые лю̀дзі

й к саб͡іе не прыма̀лі. Пача̀ў той хло̀пец піць да кра̀сьці. Злаві̀лі яго̀ лю̀дзі, навучы̀лі тро̀хі да й пусьці̀лі. От і пача̀ў ён вѐльмі см͡уолно прыстава̀ць к т͡уой хітруй дз͡іеўцы, алѐ куды̀ там, та̀я й слу̀хаць не хо̀чэ, дз͡іе яна̀ п͡уойдзе за тако̀го пъянчу̀жку-валацу̀гу. От той хлапѐц і пача̀ў хітрава̀ць. Пашла̀ раз та̀я хітрая дз͡іеўка ў л͡іес па я̀гады, а той хлапѐц за ѐю на̀зіркам. Падышла̀ яна̀ к паля̀нцы да й рве саб͡іе малі̀ны. На паля̀нцы расьцѐ про̀со, а каб яго̀ не пілі̀ пту̀шкі, дак гаспада̀р зрабіў апу̀дало: пав͡іесіў рва̀ны жыд͡уоўські лапсарда̀к да дзіра̀вы капелю̀ш, бы рэшато да й падапъёр то̀ўстым дручко̀м. Стаіць апу̀дало, целепа̀ецца ат в͡іетру да пужа̀е не то што пту̀шак, алѐ й людзѐй. Ба̀чыць хло̀пец, што дз͡іеўка заахво̀цілася рваць малі̀ны, от ён скінуў сваю̀ в͡уопратку, зняў з апу̀дала лапсарда̀к да капелю̀ш, адз͡іеўся разб͡уойнікам, узя̀ў той дручо̀к да й кінуўся з гушчэ̀чы к т͡уой дз͡іеўцы. Спужа̀ласа яна̀ да й ка̀жэ: рабі̀, што хо̀чэш, то̀лькі не губі̀ душы̀. Тым ча̀сам ужэ̀ быў змр͡уок. Пастушкі̀ гна̀лі го̀вядо да й пачалі̀ галѐкаць. Кі̀нуўся разб͡уойнік наўцекача̀ ў гушчэ̀чу, скінуў там жыд͡уоўські лахма̀н да капелю̀ш, апрану̀ўся ў сваю̀ в͡уопратку да бего̀м к т͡уой дз͡іеўцы, нібы̀то ратава̀ць я͡іе ат разб͡уойніка. Ра̀да дз͡іеўка, што застала̀са жыво̀ю, дзя̀куе таму̀ хло̀пцу да й згаджа̀ецца з ім пабра̀цца. Пакруці̀ла тро̀хі ба̀ба, алѐ нарэ̀шце дагада̀ласа, што хітр͡ыэй сьв͡іету не бу̀дзеш да й аддала̀ дачку̀ за таго̀ пъяньчу̀жку-валацу̀гу.

Матруна Бохмачыха.

Чудзін.

## 40. Пѐршае яѐчко.

Хадзіў дз͡іед на ахво̀ту, м͡іеў ён мн͡уого клапо̀ту: сам уто̀міцца, аж сло̀ва не прамо̀віць, а зьверыны̀ не нало̀віць. Ба̀ба дз͡іеда ла̀е, што ён да̀рам гуля̀е. Пашо̀ў дз͡іед у алёс да ба̀бе ку̀рку прынёс. Ра̀да ба̀ба, ска̀чэ, а ку̀рка куда̀хчэ. С͡іела ку̀рка на в͡іечко да й знесла̀ яѐчко. Б͡іегла мы̀шка пад скры̀нку, цягла̀ саб͡іе скары̀нку, хвасто̀м вільну̀ла, яѐчко сапхну̀ла. Вінава̀то в͡іечко, што разбіласо яѐчко. Запла̀кала ба̀ба, аж завы̀ла да з жа̀лю ўс͡іе гаршкі̀

пабі̀ла. Дзіед як абазьлі̀ўса, дак і засілі̀ўса. Ба̀ба ру̀кі паламà̀ла да пад плòтам і скана̀ла. Пашлі̀ ба̀бы па вòду, пабачылі ту̀ю прыгòду, началі̀ сакатà̀ць да людзѐй ззывà̀ць. Збіегліса лю̀дзі за ўсяіе ўѐскі, не пагасілі цѐскі. Паку̀ль разважà̀лі тòе дзіело, дак селò й згарыэло. Лю̀дзі пад нѐбам начу̀юць да ха̀ты буду̀юць, рòбляць як пту̀шкі гнезьдзѐчко, каб ку̀рка знесла̀ ім яѐчко. Ку̀рка знесла̀ ім яѐчко другòе, янò-ж не такòе, бо пѐршае дарагòе, другòе-ж ліхòе.

Матруна Бохмачыха.

Чудзін.

## 41. Агòнь у сѐрцу, а рòзум у галавіе.

Дау̀нò тòе былò, бо я яшчэ̀ была̀ блазніцаю, як нам гаварыла старэ̀нькая ба̀ба ўселя̀кііе кà̀зкі да ба̀йкі, а яна̀, кà̀жэ, чу̀ла тые ба̀йкі ат свайгò небуожчыка дзіеда, як яшчэ̀ была̀ дзіеўкаю. Мнуого яна̀ каза̀ла кà̀зак, да такі̀х харòшых, што туолькі заслу̀хацца. Алѐ я пазабыва̀ла, бо, дзіеткі, дòўго жыву̀, мо ху̀тко бу̀дзе дзевятдзіся̀т гадкòў. Ба̀чыце, як менѐ сагну̀ло ў сучòк, а дау̀ніей была̀ маладзіца, як кроў з малакòм, а як гуля̀ла дзіеўкаю, дак каса̀ аб лытки біласа. От седзімо мы быва̀ло чуць не ўсю нуоч пры лучы̀не да прадуом у двуор та̀лькі да такі̀е тòненькіе, каб сарачня̀ па̀сам праліезла праз перс̧цё̀нак. Седзімò мы, а ба̀ба су̀сліць зрыэбе да кà̀жэ кà̀зкі, каб мы не засну̀лі. От, дай бòжэ па̀мець, і ўспамену̀ла адну̀ кà̀зку. Дак слу̀хайце, як тòе былò. Жыў сабіе адзін чалавіек. Быў ён вѐльмі цікà̀вы й хаціеў усе знаць. Куды̀ ні гля̀не, што ні ўба̀чыць, та ўсе пыта̀е, што гэто такòе, зачы̀м янò да на вуошто? Каза̀лі яму̀, каза̀лі лю̀дзі, нарэ̀шце ўба̀чылі, што й са̀мі не зна̀юць да й кà̀жуць яму̀: — дзіва̀чны ты чалавіек, куолькі не пыта̀й, та ду̀рням памрэ̀ш, бо ўсягò не пазна̀еш. — Не слу̀хае ён людзѐй, кі̀нуў гаспада̀рку да й пашòў у свіет. — Пайду̀, — кà̀жэ, — к я̀снаму сòнейку, янò ўсю̀ды свіеціць, усѐ ба̀чыць, дак усѐ зна̀е. Запыта̀ю ў ягò, чаму̀ так рòбіцца на сьвіеці. — От і̀дзе ён да йдзе, ба̀чыць — седзіць кала̀ дарòгі на

камені чалавѣк да ўсе крычыць, пытае: дакуль я буду седзѣць? І просіць ён, каб запытаў у сонейка, калі ён устане. Пашоў далей да й бачыць, што якісь чалавѣк падпірае тын. Зірнуў ён, але невѣдае, што гэто ён робіць. Ідзе ён далей, аж дзвѣ жанчыны пераліваюць у рацэ воду. Зацікавіўса ён, але невѣдае, што яны гэто робяць да й пашоў далей. Мо ўжэ саўсім блізко падышоў ён к сонейку, дзѣ яно з-за землі ўсходзіць на нѣбо, да й бачыць, што чалавѣк пераграбае сьмѣце. Пашоў ён далей да як зірнуў праз лѣс, дак аж вочы зажмурыў, такі там бляск. Падышоў ён бліжэй, аж гэто сонейка палацы блішчаць у золаце, бы вагонь гарыць. Насілу вайшоў ён туды, чуць не аслѣп ат бляску да й сустракае там сонейка матку. Тая й пытае, чаго ён прышоў? — Прышоў, — ён кажэ, — да сонейка, каб запытаць, зачым так робіцца на сьвѣці? — А тая й атказвае, што сонейко паднялосо на нѣбо аглядаць аттуль землю. — Пачакай, яно хутко вернецца. — От ён наклаў сабѣ агеньчыку, седзіць, грэецца да смажыць сало на ражэньчыку. Наѣўса сала с хлѣбам. Захацѣласо яму піць. Пашоў ён к рацэ, каб напіцца. Туольки ён схіліўса к вадзѣ, аж аттуль выплыла вельмі гожая паненка да як зірнула на яго, дак ён і стаў бы ўкопаны. Стаіць, пазірае да й ачу не мажэ атарваць ат яѣ. Спадабаўса ён туой паненцы, от яна й кажэ яму: не пі вады з ракі, бо тагды сонейко цебе спаліць. — Да й павела яго пад стары дуб, дзѣ была крыніца. Схіліўса ён да й пачаў піць тую чыстую да халодную воду. Куолькі ён ні пье дак усе буольш хочэцца й немажэ ніяк напіцца. — Годзі ты піць, — кажэ тая паненка, — бо ўсе добрэ ўмѣру. От ты хочэш усе знаць, зачым яно гэ, а не йнак, а не вѣдаеш таго, што хучэй выпіць усю воду, чым усе знаць. От ты трохі напіўса, та й будзеш жыў, трохі сьвѣту набачыў, та й будзеш знаць пра патрэбу. — Зірнуў ён, аж сонейко апускаецца з нѣба ў сваѣ палацы. Трэ йці туды, але не мажэ ён атарваць ачу ат таѣ паненкі. А яна й кажэ: от муой бацько вернуўса да гасподы. Лядзі, нічого не кажы яму, што ты пазнаў і што мене бачыў. — Тут яна ўзнелаўса ўгору да й заблішчала аттуль гожаю зуоркаю.

Пашо̀ў ён да со̀нейка ў пала̀цы. Уба̀чыло яно̀, што чалаві͡ек асьмі͡елі̀ўса прыці̀ да яго̀, да як пачнѐ смалі̀ць яго̀ да пякці̀, дак аж мур круго̀м трашчы̀ць, а ён як напі̀ўса хало̀днаі͡е вады̀, дак і ні па̀нкі. Абазлі̀ласо со̀нейко, дава̀й яшчэ̀ гары͡эй пекці̀, а ён ша̀пку насу̀нуў на во̀чы да й падхо̀дзіць блі̀жы͡эй. Ба̀чыць яно̀, што нічо̀го не пара̀дзіць з упа̀ртым чалаві͡екам, от і пыта̀е яго̀, што яму̀ трэ. Расказа̀ў ён со̀нейку, чаго̀ прышо̀ў, а то̀е й ка̀жэ: як бу̀дзеш усѐ знаць, та ху̀тко памрэ̀ш, — і блі̀снуло яму̀ со̀нейко ў го̀лаў. От і пачу̀ў ён, што мну͡ого зна̀е, алѐ галава̀ гары̀ць, а ў сѐрцы хо̀ладно бы лёд. Вы̀шаў ён ат со̀нейка да й сустрака̀е со̀нейка ма̀тку. От та̀я й ка̀жэ: памрэ̀ш ты, чалаві͡ечэ, калі̀ не согры͡эеш сѐрца, бо без сѐрца галава̀ згары̀ць. — Дагада̀ўса ён, як нагры͡эць сѐрцэ да й пашо̀ў шука̀ць ту̀ю панѐнку да зваць яі͡е з нѐба. Пачу̀ла яна̀, ху̀тко пакаці̀ласа з нѐба я̀снаго зу͡оркаю да й ста̀ла кала̀ яго̀ то̀ю го̀жаю панѐнкаю. От і загары͡эласо ў яго̀ ў сѐрцы да й пачу̀ў ён, што паку̀ль бу̀дзе там гары͡эць, пату̀ль ён бу̀дзе знаць, чаму̀ так усѐ ро̀біцца на сьві͡еці. От пабра̀ліса яны̀ да й пашлі̀ ў яго̀ край. От падхо̀дзяць яны̀ к таму̀ мі͡ейсцу, дзі͡е чалаві͡ек пераграба̀е сьмі͡еце. — Ой, чалаві͡ечэ, — ка̀жэ ён, — ты ў сьмі͡еці шука̀еш згу̀бленые гро̀шы да да̀рам тра̀ціш час. І̀дзі ты рабі̀ць дзі͡ело, та хучы͡эй заро̀біш бу͡ольш тых гро̀шэй. Пазна̀ў той чалаві͡ек сваю амы̀лку да й пашо̀ў гарава̀ць да працава̀ць — дак і нажы̀ў гаспада̀рку й гро̀шы на патрэ̀бу. І̀дуць яны̀ да̀лей, аж ты̀е жанкі̀ ўсе пераліва̀юць во̀ду. І̀ растлума̀чыў ён ім, што ку͡олькі-б яны̀ не перaліва̀лі, та вада̀ вадо̀ю бу̀дзе, як ку͡олькі-б яны̀ не гавары̀лі, та нічо̀го не вы̀гавараць. І̀дуць да̀лей, аж чалаві͡ек падпіра̀е тын. От ён і ка̀жэ яму̀: не падпіра̀й у жы̀ццю гніло̀е, бо яно̀ ўсеру͡оўно ўпадзѐ. Нарэ̀шце надышлі̀ яны̀ к таму̀ чалаві͡еку, што ўсе седзі̀ць на ка̀мені, да пашлі̀ мі̀мо яго̀. Атышлі̀са тро̀хі, от ён і ка̀жэ здалѐка: Пату̀ль ты седзі̀ш, паку̀ль другі̀ тут ся̀дзе, бо ў жы̀ццю ку͡ожын займа̀е сваѐ мі͡ейсцо. От прышлі̀ яны̀ ў яго̀ край, пашлі̀ ту̀ю ўёску, дзі͡е ён жыў, алѐ там ужэ̀ без гаспадара̀ й ха̀тка яго̀ аберну̀ласа да яі͡е хло̀пцы расцяга̀лі на ваго̀нь. Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, трэ жыць, як набежы̀ць. І па-

чаў ён будаваць сабе харомы да заводзіць гаспадарку. Па немалум часе абрабіліса яны да й началі жыць да нажываць да дабра нажываць. Ї дзівіліса людзі, што яны жывуць і ніколі не тужаць. Пачалі яго пытаць, чаму яны так добрэ жывуць, а ён і кажэ: затым мы добрэ жывуом, што ў нас вагонь у серцу, а розум у галаве.

Матруна Бохмачыха.

Чудзін.

## 42. Аткуль узяласа сьвіньня?

Перш не было сьвіней. От паслухайце, я вам раскажу, аткуль узяласа гэтая брудная скаціна, што есь усё паганае да не чыстае. Было гэто даўно, яшчэ тагды, як жыды Хрыста мучылі. Сьмеяліса паганые жыды да рузно зьдзекуваліса з Суса Хрыста, заўязвалі яму вочы й білі, а потым пыталі яго, каб ён згадаў, хто яго біў. Маўчыць Хрыстус, а тульки як зірне на таго, хто яго біў, дак у таго й атсохне рука. Спалохаліса жыды, пакінулі яго біць да й кажуць: от калі ты згадаеш, хто седзіць у скрыні, та мы цебе выпусьцім. — А тым часам жыды пасадзілі ў скрыню сваю матку да й чакаюць, што Хрыстус скажэ. Знае Хрыстус, што ў скрыні седзіць тоўстая да брудная бы сьвіньня жыдуоўка да й кажэ туой погані: — Была там жыдуоўка, а цепер — сьвіньня. — Зарагаталі жыды бы коні. — От-жэ такі не згадаў, — кажуць яны да й атчыняюць веко скрыні. Тульки яны прачынілі, як ось і высунула аттуль сваё рыло тоўстая сьвіньня. Жыды ачуом сваім не вераць, а сьвіньня рох, рох! да от так і лезе к ім. Спалохаліса жыды да ў рассыпную, бы рудые мышы як сунуць, дак тульки пейсы мітусяцца. Рохкае сьвіньня да бежыць з імі. Застаўса тулько Хрыстус да тые жыды, у катoрых атсохлі рукі. Ї пачалі яны маліцца Хрысту да казаць: веруем, Госпадзі! Памажы нам. — Сжаліўса Хрыстус і сцаліў ім рукі. А сьвіньня так і засталаса. От чаму жыды не едзяць сьвініны, бо сьвіньня — іх матка. Выракліса жыды сваіе маткі да так яіе неузьлюбілі, што калі убачаць сьвіньню ў хаці, як моляцца,

та кідаюць маліцца да просяць, каб людзі выгналі з хаты сьвіньню. Тульки раз яны памінаюць сьвіньню, гэто тагды, як прысягаюць у рабіна. Тут яны становяцца на сьвіную шкуру да й прысягаюць богу да й кажуць: прысягаю табіе Аданай, прысягаю табіе Щадой, што гэто праўда, як праўда то, што гэто мая матка. — Як ні кляпецца жыд, та заўжды брэшэ, тульки тагды ён скажэ праўду пад харайман, як стаіць на сьвіной шкуры.

Бохмат.

Чудзін.

## 43. Не любіць.

Стрыэліса кала калодзіся дзвіе маладзіцы да й загаварылі.

— Агапа, хто гэто табіе скрываві морду? Гаспадар, ці што?

— Ніе, мая руодная, гаспадар у мене такі ціхі, як целя. От ужэ чацьвортае ліецячко, як мы пабраліса, а ён не то, каб што, але нават ніколі прыкраго слова не прамовіў. Я й так, я й сяк знарок зневажаю яго, або кліну, а ён хаць бы што: маўчыць, бы вады ў рот набраўшы.

— Ціхі ў цебе гаспадар. Ён нікого й палцам не зачапіў. Бачно, што вы жывеце ў згодзе.

— Ніе, мая руодная, не любіць мене гаспадар, от затым і не лае і не бъе, як іньшые мужыкі. Ліхая мая доля з маім гаспадаром. Які гэто мужык, калі ён жуонку не бъе. Не мажэ наша сестра жыць без таго, каб еіе мужык не ўшчуваў.

— Дак гэто-ж і добрэ, калі гаспадар не бъецца. От пажыла-б ты з маім расколам. Зірні, што ён нарабіў. Бачыш, — усе цело ў сінякуох. Ой, мая руодная, найдзе на яго якаясь хвароба, дак ён табіе дыхнуць не дась: та бъе, та ўшчыпне, та лаецца, та зневажае на чуом сьвіет стаіць, хаць бежы — тапіса.

— Бо ён цебе любіць, дак і чубіць, а муой ціхі, бы целя, мене не любіць, от затым і не чапае. Ой, каб ты віедала, мая руодная, кульки я выплакала, кульки я слезак выліла. Чаго тульки я не рабіла, каб ён, як другіе гаспадары, хаць разок

менѐ дòбрэ пабіў, абò хаць палàяў. Дак куды там, — маўчыць зубы сцяўшы, а не то, штоб біць, дак нікòлі нàват пàлцам не зачапіў. Пачнў я лàяць да зневажàць, а ён муоўчкі насўне шàпку да й папрэцца с хàты. Пòтым прыдзе й не гнієваецца, бàццэ я й не лàяла. Ён хòрашо загавòрыць да менѐ, а мніе яшчэ гарыэй гуорно, от так калѐ сѐрца й заўѐ. Ой, нешчàсная мая жытка. Лепѐй бы менѐ мàтачка пахавàла, чым за такую куцьцю зàмуж атдавàла.

— Ну, не плач, руодная, не ўбівàйса! Вы яшчэ маладые. Пажывецѐ, пасвàрыцеса, а мо ён яшчэ й пабъѐ цебѐ да й не раз, туольк ты рабі яму ўсе на перакуор.

— Дзякуй табіе, мая руодная, маѐ сòнейко, дзякуй табіе за дòбрую рàду. Бўду рабіць так, як ты кàжаш, да сьлепіцаю ліезці ў вòчы, мо дась бòг і пабъе.

— А хто-ж гэто цебѐ цепѐр пабіў?

— Наш пісар, хварыэць ягò мàтары. Ён даўнò ўсе ка мніе чапляецца.

— За што-ж ён цебѐ біў?

— Да з дòбраго рàю.

— Мàбыць ты яму спадабàласа.

— А ліхіе ягò віедаюць. Дак пебàчыла я такòго смаркачà.

— Чамуж ты не жàлішса?

— Камўж мніе жàліцца на пісара?

— А зѐмськаму?

— Хіба-ж зѐмськаму. Дак калі-ж ягò тут убàчыш.

— А от туольк што прыіехаў. Я самà бàчыла. Хадзіем у вòлась.

— Хадзіем, алѐ я баюса...

— Чаго-ж ты пужàешса? Хіба ты баішса, каб і зѐмськи не біўса?

— Ніе, баюса, што пап за пàпа цягне.

— Хадзіем, а там пабàчым, хто за кагò цягне.

— Хадзіем.

Прыхòдзяць маладзіцы ў вòласць к зѐмскаму жàліцца на пі-

сара. А ў пісара ўжэ й хміель з галавы выскачыў, як убачыў, што прыехаў земські, дарма, што быў пъяны, хаць выкруць.

— Вам што, маладзіцы? Падыдзіеце бліжыэй да кажыэце, што вам трэба.

— Паночак дарагенькі, мене пісар пабіў.

— За што-ж ён цебе біў?

— Ні за што, паночак. Проста з добраго раю.

— Хіба-ж ён быў пъяны, што біў маладзіцу. Маладзіц трэ не біць, а любіць.

— Што ён пъяны, паночку, дак на тое ён пісар, але за што-ж ён бъецца?

— Ось я яго пазаву, нехай пакажэ, як ён цебе біў. Маладзіцы, маладзіцы, куды-ж вы? Пачакайце. — А тые як сунуць у збўорню да вон з воласці.

— Дзержы іх, дзержы! — крычыць смеючыса земські. А тые шамелях цераз паркан да ў канопля, толькі кумпякі замітусіліса.

Д. Кулага.

Чудзін.

## 44. Упарты хахол.

Жыў адзін чалавіек. Ён быў хахол і як усіе хахлы быў такі упарты, што з ім ніхто не муог зрабіць ніякаго ладу. Вазіў ён на продаж гаршкі. Зіма й ліето накладзе гаршкуоў і руознаіе палівы повен велізазны вуоз, запражэ пару сівых валуоў да й плішчыць ат вескі да ўескі. Ліето — япчэ туды-сюды — з рана да пад вечар валы ціхенько плішчаць вуоз да туолькі абмахваюцца хвастамі, але як прыгрыэе сонейко да нападуць на валуоў авады, здруок да ўселякі гнюс, от тые як закруцяць галавамі, падымуць хвасты да сунуць у кусты, або ў балото, дак гаршкі туолькі трашчаць, а вуоз скрыпіць, бы ў совеснаго чалавіека. — О цэ бэ, о цэ бэ! — крычыць упарты хахол да ціркае валуоў аснож, а тые й без таго пруць, аж вуоз разкідаецца. — Чаго цебе нечыстая сіла несе ў такую спеку? — пытаюць яго людзі, — нехай бы ты пачакаў, пакуль спадзе гнюс. — А ён хаць бы што, маўчыць да

пакурвае сабіе люльку. — Гэто-ж яны табіе ўсіе гаршкіператаўкуць да й ярòм злòмяць. — Нехай таўкуць, — атказвае упàрты хахòл да й пыркае валуоў аснòм. Алè от прыдзè зімà, навàліць сніегу на мòкрую зèмлю, разміесяць па дарòзе гразь да гліну, што й нуог не вышягні, а ўпàрты хахòл везè гаршкі на кòлах; зрòбіцца кòлесо бы тачыло, валы насілу цягнуць, а ён такі прэцца, хаць у такую нèгаць дòбры гаспадàр і сабàку не выганіць з хàты. Прыпхàўся ён раз у вèску. Сыпаліса бàбы, абступілі вуоз, бы вараньè пàдло, выбірàюць да таргуюць гаршкі. Тàя трымàе запàзухаю яйца, тàя насыпала ў прыпуол круп, ці якòго збожа, тàя прынеслà палуоўку йлну, абò пучòк шчаціны, дак куды там, — запяўся ўпàрты хахòл да й хаць-бы што, — плаціеце яму грòшы. А дзіе ўзяць грòшы, калі іх немàшака мо ў ва ўсèй вèсцы. Сакатàлі, сакатàлі бàбы, а ён маўчыць да курыць сабіе люльку. Не прадàў ён ні гòднаго гаршкà, а тут ужэ сòнейко нізко, віедамо, зімòю япò не ўспіе падняцца над ліесам, як ужэ парà зноў спускàцца на супачынак. От хаціеў ён тут паначавàць, самòму пасілкавàцца да супачыць да й валуоў пакарміць. Алè бàбы абазліліса, да й ніхтò не прымàе нàпач. Валы галòдные, аж сніег хапàюць да ліжуць на вуліцы пуовалач. Немà чагò рабіць, упàрты хахòл не трàціць гумару, — пхнèцца дàлей. Адъехаў ён мо з версту, ці буольш ліетнікам да й варòчае на зімнік. Тут сустракàюцца людзі да й кàжуць: не іедзь, чалавіечэ, зімнікам, бо ўправіш у балòто вуоз, та яшчэ жыуёло загубіш. — Не слухае ўпàрты хахòл, іедзе дàлей. От прапхàўся ён гануоў з двоі, як пад вòзам затрашчàў лёд, кòлесо правалілaсо. Пачàў ён парòць аснòм валуоў, а тые як рвануць, вуоз абернуўса, гаршкі пасыпаліса бы гарòх, а валы праламàлі лёд да й увязлі ў гразі па сàмые рòгі. Хаціеў хахол выпрагчі валуоў, да й сам усунуўса ў палòнку па сàмые вушы. Пачàў тут ён крычàць да зваць людзèй на ратунак. Пачулі тые людзі, вернуліса да насілу выратавалі тагò упàртаго хахлà да валуоў, а вуоз і гаршкі так і загінулі. Дак от якіе хахлы упàртые.

Чудзін. Савіцкі.

## 45. Разу̀мны й ду̀рэнь.

Былі̀ ў ба̀цька два сыны̀, адзін разу̀мны, а другі̀ дурны̀. Паку̀ль ба̀цько ўзду̀жаў, дак ён сам пра̀віў гаспада̀ркаю, а сыны̀ ту͡ольки рабілі дзі͡ело; а як ба̀цько пастарэ͡эў да ўжэ неўзду̀жаў прыганя̀ць сыну͡оў да рабо̀ты, та разу̀мны сын пача̀ў агіна̀цца, пача̀ў увільваць ат рабо̀ты да ўсе ця̀жкае дзі͡ело ўзва̀льваць на ду̀рня. А той, ві͡едамо, як дурны̀, запру͡огса, бы чо̀рны ву͡ол у со̀ху да й не ба̀чыць прасьві͡етлаі͡е гадзіны. Разу̀мны та ў людзі, та ў ка̀рчму, та ў во̀лась, ці куды̀, а ду̀рэнь, як уста̀не з са̀маго ра̀на, дак да пу͡эзнаі͡е но̀чы таўчэ̀цца ў гаспада̀рцы да так ро̀біць, што аж жы̀лы ў яго̀ трашча̀ць. Камѐндуе разу̀мны брат ду̀рням, да̀рам, што старэ̀нькі ба̀цько пазіра̀е на то̀е падслі͡епаватымі вача̀мі да ту͡ольки галаво̀ю кру̀ціць, нічо̀го не пара̀дзіць, бо-ж ка̀жуць людзі, што трэ тагды̀ вучы̀ць дзецѐй, як яны̀ кала̀ ла̀вы хо̀дзяць, бо як вы̀растуць, та яны̀ цебѐ наву̀чаць да паму̀чаць. Седзіць старэ̀нькі ба̀цько ў за̀печку да ту͡ольки ўздыха̀е. Рад ён і таму̀, што хаць неві͡естка не го̀ніць яго̀ з ха̀ты, а то куды̀ там яшчэ̀ разу̀мнаго сы̀на ўшчува̀ць. І пача̀ў разу̀мны сын цягну̀ць сабі͡е з гаспада̀ркі дабро̀ да заво̀дзіць ата̀рыцу. Ён цягне, а жу͡онка памага̀е. Яшчэ̀ за жыву͡оце ба̀цька нажыліса яны̀, сабра̀лі гро̀шы, спра̀вілі сабі͡е ву͡опратку, алѐ не дзеліліса, бо шко̀да было̀ астава̀цца без дурно̀го рабу͡оцька, што хадзіў цѐмны да чо̀рны, бы ко̀мін, а дзі͡ело рабіў за ўсіх. Алѐ ось памѐр стары̀ ба̀цько, й пача̀лі браты̀ дзеліць спа̀дкі. Разу̀мны брат, як вѐльмі ўпра̀ўны, забра̀ў сабі͡е ўсе, што лі͡епшае, а ду̀рню заставіў старэ̀нькую ха̀тку да ку̀чу смі͡еця. Узя̀ў сабі͡е разу̀мны па̀рабка, вы̀будаваў но̀вую хату да й жывѐ бы пан, а ду̀рэнь не ві͡едае за што й узя̀цца. Даў яму̀ брат адну̀ кару͡оўку, дак ён і ту̀ю не ві͡едае, як даглѐдзяць: стаіць каро̀ва ў за̀гарадцы, равѐ гало̀дная да бъѐцца, аж плу͡от раскіда̀е. Пачу̀ў разу̀мны, як равѐ каро̀ва да й ка̀жэ: — неха̀й бы ты вы̀гнаў яі͡е на па̀шу. — Заня̀ў ду̀рэнь каро̀ву, вы̀гнаў яі͡е на яравы̀ палі͡етак, — та̀я й пасѐцца ў збу͡ожы, а ён

сіеў сабіе на межы кала дарогі, зрабіў з саломіны дудачку да й граe так гожэ, што аж жаваранкі заціхлі ў нёбе да й слухаюць. Алe ось пабачылі людзі, што дурэнь нарабіў шкоды да й давай яго лупцаваць да вучыць розуму. Дак што ты з дурням зробіш,— яны яго лупяць, а ён смеецца да кажэ: ото-ж дзякуй вам, браткі, што вы трохі пабілі вошы да пачасалі мніе плечы. — Плюнулі тые людзі, выгналі з збужжа карову да й пашлі кужжын за сваім дзіелам. Прыгнаў ён дамуоў карову да й пашоў к брату пытацца, што яму рабіць. От разумны й дае яму злыгач прывезаць карову, каб яна не ламала плоту да не ліезла ў вагаруд. А дурэнь думаў, што брат даў яму злыгач, везці карову на продаж. От ён залыгаў і паўёў. Ведзе ён да ведзе праз ліес, аж чуе — рыпае дзерава, наваліўшыся на другое й здалосо яму, што яно кажэ: прадай карову. От ён прывезаў к таму дзераву карову да й пытае: а калі-ж заплаціш грошы? — Рып, рып! — Прыходзь заўтрэ. — Пашоў дурэнь да гасподы да й хваліца брату, што прадаў карову. — А дзіе-ж грошы? — пытае той. — Вёлено прыйці заўтрэ, — кажэ дурэнь. На заўтра яшчэ чуць сьвіет пашоў дурэнь у ліес па грошы. Прыходзіць туды, аж ат каровы асталіса тулькі ружкі да нужкі, а за нуоч яіе ваўкі ўсю растрыбушылі да тулькі шкуру вылушчылі. — Давай грошы! — крычыць дурэнь на ўвесь ліес, а дзерава маўчыць бы пень, бо на той час сьціх віецер. Заплакаў дурэнь ат жалю, так яму шкода, што дарам аддаў карову, да й пашоў жаліцца брату. А той й кажэ: прывядзі таго сюды, каму ты аддаў карову. — Пабіег дурэнь зноў у ліес, аж бачыць, што кала таго дзерава стаіць жыд да абрыэзвае шкуру. — Аддай за карову грошы! — крычыць на жыда дурэнь. — Якіе, гросі, якіе гросі? — атказвае той, — гэтош падло. — Схапіў гэто дурэнь жыда загрудкі, грыманўў яго на зёмлю да завезаў повадам за шыю так муоцно, што аж у таго вочы з ылба выперло. Пацёг дурэнь жыда ў вёску к разумнаму брату. Бачыць жыд, што ат дурня не выкруцішса, йдзе, тулькі бокі пачухвае. Убачыў тое разумны брат да й наваліўса на жыда, каб заплаціў грошы за карову. Круціўса, круціўса жыд, але мусіў аддаць грошы,

бо ягò кабы́лка там асталàса да й шкỳру ён ужэ палажы́ў к сабіе на вуоз. От дỳрэнь узяў грòшы, разгрòб кỳчу сміетнiку да й пасіеяў iх, каб буолш вырасло. Хòдзiць дỳрэнь да куожны дзень палiвàе смiетнiк, а грòшы не растỳць. Пачалì з ягò смеяцца лю̀дзi, пачалì вòчы выбiрàць. Гуорно яму̀ стàло, што што-б ён нi зрабiў, дак усè кèпсько, за ўсе яго лю̀дзi лàюць, бэсцяць да завỳць дỳрням. Мòташно на сэ̀рцы, хаць ты рỳкi налажы́. От узяў ён злыгач да й пашòў у лiес, каб там засiлiцца. Iдзè ён цèраз пòле, а там дзiецi пасỳць авèчкi да паюць пiеснi. Падышòў ён блiжэ̀й, каб паслỳхаць, як яны́ паюць да грàюць, а ты́е, як убàчылi ягò, дак i пачалì крычàць: — Онь iдзè дỳрэнь, нехàй ён нам пайграе.— Абступiлi ягò дiецi да й пачалì тỳзаць атусю̀ль, каб ён пайгрàў. Дастàў дỳрэнь з-за пàзухi дỳдачку да й пачàў iграць. Заслỳхалiса дзiецi, прыцiхлi бы квiеткi, а вуочкi ў iх свiецяцца, бàццэ зуоркi. I забы́ў ён, кудьí йшоў да давàй iграць з дзэ̀цьмi да рабiць iм цацкi. Пачапляліса на ягò дзiецi да на перабуой крычàць: — дзяцько, дзяцько, павазì менè! — Яны́ забы́лi, што гэ̀то дỳрэнь, а ён забы́ў усè на свiеце, ўсю сваю̀ плягу. От ужэ сòнейко заходзiць, а дỳрэнь усè грае з дзэ̀цьмi. Туолькi, як сьцемнiело, прыцèгса ён дамуоў. Туолькi ён улiез у хàту да пачàў шукàць, каб што-нèбудзь зъiесцi, бо вèльмi агалòдаў, аж прыхòдзiць к яму̀ старэ̀нькi дзедòк да й кàжэ: от за тòе, што ты забаўляў маiх дзiетак, я прынèс табiе iесцi. — Да й пачàў ён выклàдваць з тòрбы ўселякую ўсячыну. Наiеўса дỳрэнь да й забы́ў падзя̀куваць, а той дзедòк i кàжэ: — пашукàй ты на смiетнiку, там твуой бàцько схавàў табiе грòшы, — а сам i знiк. Пашòў дỳрэнь па смiетнiк да як карпануў, дак i вы́вернуў гаршчòк грòшэй. I пачàў ён з таiе пары́ дòбрэ жыць. I то сказàць, аткỳль у ягò й рòзум узяўса? Алè, вiедамо, багàты, дак i разумнiей ад усiх. Туолькi дзiетак ён не забывàў i заўжды зь iмi граў.

Iван Куцько.

Чудзiн.

## 46. Медзьві͡едзь.

Даўнò тòе былò. Алè мàбыць і тагды̀ лю̀дзі гаравàлі, працавàлі, каб зарабі̀ць крыху̀ хлі͡еба да ўзгадавàць дзі͡етак. Ві͡едамо, марку͡отно ку͡ожын дзень ат сàмых пеўнèў да аж да змрòку цягнуць ярòм бы ву͡ол, што табі͡е аж вòчы выпірàе. Зірнèш на бòжы сьві͡ет, дак дакòла так гòжэ: птýшачкі вèсело паю̀ць да рàдасно шчабèчуць на зелèных ві͡етках. Не трэ ім клапаці̀цца, каб у дòбрую пòру паарàць, ці пасі͡еяць; не трэ ім пасьпешàць, каб за пагòду пажàць да звезці з пòля збу͡ожэ; нічòго не трэ, бо бу͡ог ім дàе гатòвы корм. А зірнèш, якàя ў іх ýпратка, што ку͡олькі ты ні гару̀й, такòі͡е ты й праз сон не ўбàчыш. Зірнèш на бу͡ольшых птàхаў, як яны̀ смі͡ело ўздымàюцца ўгòру пад сàмае нèбо, к я̀снаму сòнейку да як яны̀ кружàцца да купàюцца ў паві͡етры, дак так зрòбіцца зайздрòсно, так кàла сэ̀рца заўè, што от здàецца, пакі̀нуў-бы сваю̀ слімазàрную гаспадàрку да чòрную хàтку, падні̀ўса-б угòру да й палеці͡еў-бы над лі͡есам зелèным, над жòўтымі гу͡оркамі, над цèмнымі ўèскамі туды̀ далèко к я̀снаму сòнейку, к дру͡обненькім зу͡орачкам, палеці͡еў-бы к бòгу на скàрг(g)у, каб там гу͡оркімі слèзкамі вы̀плакаць сваю̀ лі̀хую дòлю, вы̀плакаць тòе гòрэ, што гнецè да тòчыць табі͡е сэ̀рцэ на зямлі цы͡элую жы̀тку. Алè бу͡ог крылàў не дàў, а велі͡еў усю̀ жы̀тку лàзіць у грàзі чòрным да цèмным і немà табі͡е нікòлі супачы̀нку, немà рàдасці. От як палі͡езе ў гòлаў дýмка, што мо шчаслі̀вейшы ат цебè той кàмень, катòраго таўкýць да перакідàюць па дарòзі, дак кі̀неш дзі͡ело, кі̀неш дýмкі да й напъèшса так, як мо й у нèбе не трàпяць. Вы̀пъеш адну̀-другую кватэ̀ру й пабежы̀ць якàясь сі̀ла па жы̀лах, загудзè ў галаві͡е, бы вагòнь у пèчы й здàецца табі͡е, што от, каб упèрса ў што нèбузь, та-б і зèмлю перавернýў, такая ў табі͡е чу͡ецца му͡оц. Вы̀пъеш яшчэ̀, дак нòгі сàмі так і хòдзяць, так і тýпаюць, бàццэ ў тагò пàньськаго жарабцà, рýкі махàюць, бы кры̀ла ў ветракý й здàецца, што гэ̀то не рýкі, а кры̀ла, што ім не дзі͡ело рабі̀ць, а ту͡олькі летàць да кружы̀цца. І пі͡есно стàне

табі͡е ў чòрнуй хàцны, вылецiш на шырòкi бòжы съві͡ет да так табі͡е зрòбiцца вèсело на сэ̀рцы, што ту͡олькi паèш да паèш. Ї хò-чэцца табі͡е, каб усі͡е лю̀дзi з таббю пі͡елi да скакàлi, бы на ве-сі͡ельлi. Дак от што рòбiць гэ̀стая жывàя вадà. Ї не дзiво, чаму̀ наш брат, гарапàшнiк рòбiць, рòбiць як чòрны ву͡ол, клапацiцца, клапацiцца, а як ужэ̀ пі͡ельга бу͡ольш вытрымаць, дак i лыкнè жывòі͡е вады̀ да й забу̀дзе сваю̀ гу͡оркую жытку. От, кàжуць, быў у нас такi адзiн чалаві͡ек, што ён не мі͡еў налòгу да гары͡элкi й не любiў яі͡е пiць ку͡ожын дзень, а ту͡олькi прымàў тагды̀, як душа з ці͡ела вылàзiла да прагла̀са рàдасці да лі͡епшаго жыцьця. Ужэ̀ ку͡олькi раз ён чуць не засiлiўса, хаці͡еў прадàць чòрту ду̀шу, каб ту͡олькi ён даў гары͡элкi, алè мàбыць дрэ̀нная былà ў ягò душа, калi за яі͡е й сам чорт не зхаці͡еў даць кварту сваі͡е гàры. Немà гары͡элкi й немà за што купiць, дак ён валі͡ецца бы ка-лòда да сьпiць, каб хацà прысні͡ўса рàдасны сон, бо жытка гары͡эй ат пèкла. Гэ спаў ён мо пажыткi, аж бòкi атлèжаў. Ї кàжуць яму̀ лю̀дзi: чагò ты валі͡ешса, абiбу͡ок, гэ̀то-ж ат людзèй смі͡ех i ат бòга гры͡эх. — За што-ж мні͡е гры͡эх, — аткàзвае ён, — не-хàй таму̀ гры͡эх i смі͡ех, хто не даè мні͡е гары͡элкi, а без гэ̀стаі͡е жыву̀чкi я нi на што не гу͡ож. — Да гэ̀то-ж ты апусьці͡ўса, бы мòкрая ку̀рыца. — Мàбыць так бу͡ог даў, — мыркнуў ён да й су̀нуўса зноў у берлу͡ог. — Дзецюкi, — кàжэ адзiн чалаві͡ек, — давàйце, ку̀пiмо яму̀ гары͡элкi, та мо ён сваiмi шту̀камi й у нас крыху̀ атгòнiць плі͡ягу, а то от так калà сэ̀рца i ўс, аж мòташно.— Дòбрэ, — кàжуць тые. От яны̀ злажылiса, прынеслi дзьві͡е пляшкi гары͡элкi, далi таму̀ чалаві͡еку такi дòбрэ выпiць, а сàмi ту͡олькi ду̀шу падражнiлi. Выпiў той мо з пляшку да й пачàў вычварàць ру͡озные шту̀кi. Алè ось iду̀ць якiясь старцы͡э. Пабàчыў той пъянiца, апрану̀ўса ў кажу̀х, вывернуўшы ягò ўверх шэ̀рсцью, да й пабі͡ег пужàць тых убòгiх. Алè то былi не прòстые старцы͡э, а сам бу͡ог з анèламi. Зiрнуў бу͡ог на тагò чалаві͡ека да й аберну̀ў ягò ў медзьвèдзя. Пашлi старцы͡э дàлей, а ён папрòбуваў расправу̀цца, дак куды̀ там — кажу̀х i прыру͡ос. Су̀нуўса ён к лю̀дзям, алè тые спалòхалiса да й пахавàлiса, хто куды̀ трàпiў.

От і пацёгса ён у лі͡ес да там і да тых час жывѐ. Улі͡етку цяга̀ецца да пужа̀е людзѐй, а ўзімку сьпіць да сьсѐ сваю̀ ла̀пу. От затым у медзьвѐдзя чалаві͡ечые нӧгі і ён вѐльмі лю̀біць гары͡элку да сало̀дзенькі медо̀к.

Кажан.

Чудзін.

## 47. Аўся̀ная дво̀рня.

Сьпла̀са ўся дву͡орня й жа̀ліцца, што пан ко̀рміць іх ту͡олькі адным аўсо̀м.

— Даніло, братко̀! Ты ўсім нам галава̀. Дай ты нам ра̀ду, што тут рабіць з па̀пам? Замо̀рыць ён нас гэстым аўсо̀м.

— Эй, Сьцепа̀не, не табі͡е гэто каза̀ць: ты быва̀ў у сьві͡еце, му͡ого ба̀чыў, му͡ого чуў. А я нічо̀го не зна̀ю. Яку̀ю я тут дам ра̀ду!

— Пра̀ўду ка̀жэ Даніло. Калі ты, Сьцепа̀не, не пара̀дзіш, та ўсі͡е мы паздыха̀ем ат гэстаго аўса̀.

— Што я пара̀джу, калі пан ка̀жэ — ба̀чіш, які̀е ду̀жые ко̀ні ат а̀ўса. От така̀я ду̀жая мая̀ дву͡орня, бо яна̀ аўся̀ная.

— Ой, мы гу͡оркіе! Што тут рабіць, што пача̀ць? Гэсты аўёс уже нам кішкі пера̀іеў.

— Да што кішкі... Опь у мепѐ кірдзю̀к на языку̀.

— До̀брэ табі͡е каза̀ць, калі ў цебѐ кішкі бы халява. Я ба̀чыў, як ты і͡еў ершы̀ ў ку̀ма на радзінах. От, маі͡е браткі̀, кі̀дае ў го̀рло адзін за другім сухі̀е ершы̀, бы ў пру͡орву. Мо ат таго̀ ў цебѐ й кірдзю̀к на языпэ̀.

— Талку̀й, ат таго̀. Ершы̀ я кі̀даю ўпѐрад галаво̀ю... Ні͡е, гэто, ат аўса̀. Ат гэстаго аўса̀ мы ско̀ро саўсім абѐрнемса ў ко̀ней.

— Ой, рату̀й, Сьцепа̀нко, калі ў бо̀га ві͡ерыш. Не хачу̀ я быць кабы̀лаю.

— Ну, чаго заскуліла? Хіба̀-ж спало̀халаса, што кабы̀ла ту͡олько адзін раз у гаду̀ гуля̀е?

— А табі͡е абы зу̀бы вышчара̀ць.

— Вышчарыш і ты, як абернешса ў кабылу.

— Ну, Сьцепане, чаго к маладзіцы прычапіўса?

Бачыш, што й ей ат аўса жыцьця нема. От лепей пакруці галавою да парадзь, што тут рабіць.

— Што я параджу? От хіба нам хурман Нічыпар парадзіць, што рабіць з паганым папам. Нічыпар мае дачыненне да коней...

— Хіба-ж мы ўжэ коні?

— Да чаго ты прыплеў тут коні?

— Онь нашы коні ніколі аўса й не бачаць.

— Аўес, аўес!.. Людзі заўжды з аўса гатовяць блінцы, робляць талакно.

— Онь салдатка Рыпіна з аўса варыць крупнік і не нахваліцца, як смачно.

— Я ку, што Нічыпар ездзіць з панамі на конях, дак ен лепшэй знае коней, лепшэй знае, што паны гавораць і што думаюць...

— Да неплеці ты лапці, не чмуці. Мы самі з вусамі.

— Я не плету, а праўду кажу. Не мая праўда, Нічыпар?

— Ужэ-ш праўда. Я чую, што паны гавораць, знаю, што яны думаюць: я бачу іх навылет.

— Ой, Нічыпарко, саколік, памажы ты нам у бедзе.

— А што вы мне дасьце? Калі паставіце г(g)арнец гарэлкі, дак не ўбачыце аўса, як сваіх вушэй.

— Не тульки г(g)арнец, а нават два, тульки памажы нам, Нічыпарко, атверні гэстую плягу.

— Ну, так хадзем-тко на дзедзінец, да рабеце тое, што я скажу.

— Камендуй, камендуй, Нічыпарко, будамо рабіць, што ты завеліш.

— Дак от пакуль я схаджу па гарапнік, вы ззавеце сюды ўсю двуорню да й чакайце мене. Як я прыду да пачну смаліць гарапнікам, дак вы бегайце да ржэце, бы коні. К пану назезжаласо мнуого гасьцей, я ўсе расталкую пану пры гасьцях. Пану будзе сорам ат гасьцей.

— Рабі, Нічыпарко, як добрэ. Ты лепіей нас знаеш.

— Нічыпар, Нічыпар! Чэго там тэ галганы пазбіралысе на дзедзінец? Распэньдзь іх бічэм.

— Да я ўжэ разганяў, напочку, тульскі ены ешчэ гарыэй ржуць, от баццэ коні.

— А ты задай ім пад фэ.

— Гэй, каб вас так і сяк! Чаго пазбіраліса.

— І-га-га-га! І-га-га-га!

— Але цо то ест? Г(g)осьці бардзо зацікаўёны сон.

— Што? Бачыце, што людзі ў коней абернуліса.

— З чэг(g)о-ш то?

— З чаго? Віедамо — з аўса.

— З якег(g)о овса?

— А пан жэ веліеў усю двуорню карміць усе аўсом. От кармілі, кармілі да й выкармілі на адзін буок.

— Цо-ж тэрас робіць?

— Што? Віедамо, што рабіць. Трэ й дваровых карміць уселякаю стравою, а не аўсом, як коней. От нехай пан спытае ў паньськіх гасьцей, што явы скажуць, праўду я ку, ці ніе.

— С тых час каж іх карміць выысткім, цо ест і цо готуён до мэг(g)о стола.

С. Корчык.

Чудзін.

### 48. Здатны палешук.

Жыў сабіе адзін вельмі здатны палешук. Мнуого ён хадзіў па сьвіету, мо на сіем міль у акрузе, мнуого ўселякаго дзіва бачыў. Дзівіліса людзі, як яго галава зносіць, як яно там міесьціцца. Разумны быў ён і да ўсяго здатны. Бало, калі ўжэ ніхто не зробіць, та бегуць к яму. Ён пакруціць галавою да калі нічого не зробіць, дак ужэ ніхто не парадзіць. А, віедамо, ў гаспадарцы заўжды мае быць прыгода, дак нічого й не парадзіш, калі немашака здатнаго чалавіека, хаць седзі да й плач, ці бежы к таму палешуку, чапкуй да прасі, каб памуог. Але нема чаго казаць,

ён быў добры чалавіек, бало папросіш, дак ніколі не атка̀жэ, памо̀жэ ў бедзіе. От раз адзін чалавіек пашо̀ў ара̀ць на грэчку. Гэто было̀ якась по̀сле Сёмухі. І напа̀лі на валуоў авады̀ да здракі̀. Круціўса ён, круціўса, нічо̀го не мажэ̀ пара̀дзіць, валы̀ кру̀цяць та па занозу, та на кульба̀ку. — Ну, — ду̀мае, — беда̀! Яшчэ̀ задратую валуоў, — а тут трэ даара̀ць, хаць ты лунь. Зада̀ў ён валуо̀м дыхту да й арэ̀, алѐ ось адзін вуол як закру̀ціць на кульба̀ку, дак та̀я трыэсь і злама̀ласа. Што тут рабіць! Была̀ ў яго̀ сакіерка, а ў сувара̀тах як ра̀з стаяў, каржакава̀ты дуб, да, ба̀чыце, авады̀ да здракі̀ так рыжуць вала̀, што ён кру̀ціцца бы ўюн у рэ̀шаце, — нѐльга ўзяць міеркі. Стаіць той чалавіек, ру̀кі сашчаві̀ўшы, чуць не пла̀чэ, не віедае, што рабіць. Аж ось на шча̀сце буог пасла̀ў таго̀ зда̀тнаго палешука̀. — Чаго̀ ты, — ка, — сябрэ, бедуеш? Гэто-ж муожне зрабіць кульба̀ку. — Да зрабіць муожне, — атка̀звае той, — алѐ як паміераць. — Гэ! Які̀ ты дзіўны̀, — ка̀жэ палешу̀к, — от наба̀чыш, як я ху̀тко паміераю. — От завеза̀ў ён валу̀ на ка̀рак злыга̀ч, закінуў яго̀ другі̀ канец на то̀ўстае ра̀ло ду̀ба, схапіліса яны̀ абу̀два абіеручкі за ту̀ю веро̀ўку да й цягнуць вала̀ на дуб, каб там паміераць крыву̀ю галіну на кульба̀ку. Чуць не задушылі вала̀, алѐ такі̀ зрабілі кульба̀ку. — От-жэ дзя̀куй табіе, сябрэ, што навучыў менѐ да памуог, як ратава̀цца ў бедзіе, а то-б я й глузду не прыла̀жыў. — Другі̀ раз зда̀тны палешу̀к вѐльмі ціка̀во паказа̀ў сваёй ба̀бе, як мыць дзераўля̀ные місы да каўшы̀, бо, віедамо, што ат ту̀ку на іх гра̀зі на па̀лац. Ба̀ба скрабѐ нажо̀м да шару̀е хвашча̀нкаю, алѐ нічо̀го ніельга зрабіць, бо са̀ло ўеда̀ецца ў дзѐраво паскру̀ось. — Гэ, дурна̀я ба̀ба, — ка̀жэ ён, — ты ўсіе кінці папрыдзіра̀ла, — ось я табіе хіба̀ пакажу̀, як чысціць уселя̀кую пасу̀дзіну. Я ба̀чыў, як жыды̀ на Пейсах кашыэраць рандэ̀лкі. — От узяў ён усіе сваіе дзераўля̀ные місы, каўшы̀ да таўчы̀эйкі да й паўкіда̀ў у піеч на жар да яшчэ̀ й піеч засланіў за̀сланкаю. — Ось яны̀ там агнём вы̀гараць да не то, што бу̀дуць чы̀стые, бы шкля̀нка, алѐ па̀ват кашыэ̀рные, хаць ты жыду̀ом дава̀й на сьвя̀та. — Па нема̀лум часе атчыніла ба̀ба піеч, аж там ту̀олькі вугалькі̀ асталіса.

Схапіла яна̀ кавеню̀ да дава̀й перыэсціць таго̀ здатнаго палешука̀ да прыгаворваць: от жэ табіе, хварыэць тваёй ма̀тары, як у ба̀бськае дзіело мешанца! Ты-б дагледаў свайго̀ гумна̀, што там павуціене да гразь, што ніельга й уліезці, а не пазіра̀ць на маіе міси. — Насілу палешу̀к вы̀бег з ха̀ты да пача̀ў пачу̀хваць патыліцу да спіну. Ачу̀хаўса тро̀хі ён да й пацёгса ў гумно̀. Зірнуў ён, аж пра̀ўду каза̀ла ба̀ба, што там гразь да павуціене так навісло пад страхо̀ю, што яіе аж саўсім не зуорко. — От жэ, — ду̀мае, — я вы̀смалю гэстую по̀шкудзь да зраблю̀ гумно̀ бы ля̀льку. — Вы̀красаў ён агню̀, зрабіў з соло̀мы зу̀блепку да дава̀й памало̀ньку апа̀льваць, пад страхо̀ю па̀вуць. Страха̀ была сухая, як по̀рах. Ту̀лькі ён запаліў па̀вуць, а по̀ламъе як шыбанѐ, як пабежыць, як зо̀ймецца адразу ўся страха̀ да пацеру̀ха, дак ён насілу вы̀бег з гумна̀ да дава̀й крыча̀ць, зваць людзѐй па ратунак. Паку̀ль збіегліса лю̀дзі, страха̀ й правалі̀лася, а гумно̀ гарыць, бы сьвіечка. Ба̀чаць лю̀дзі, што ўжэ ніельга нічо̀го пара̀дзіць, от яны й ка̀жуць: ты чалавіек здатны, ху̀тко пабудуеш но̀вае, яшчэ ліепшае гумно̀, а гэтае нехай ідзѐ на хва̀лу бо̀жую. Згарыэло гумно̀ да зва̀ньня. Пашоў той здатны палешу̀к у ліес пушча̀ць дзѐраво на гумно̀. Назсіекаў ён дзераўля̀к да й дава̀й іх вазіць у вѐску: прывяжэ дзераўля̀ку валу за хвуост, да й го̀ніць таго̀ пу̀гаю. Вуол як рванѐцца, дак і адарвѐ хвуост. Паадрыва̀ў ён сваім валуом хвасты, а нігодпаго дзераўля̀кі не прыўёз у вѐску. Уба̀чыла то̀е ба̀ба да як пачала̀ яго̀ дуба̀сіць, пачала̀ яго̀ піерыць міешалкаю, дак ён кінуў гаспада̀рку да й уцёк у ліес. Бежыць да й чуе, што дзяцел крычыць: цэх, цэх! І здаецца яму̀, што гэто яму̀ гро̀зіць ба̀ба. Ён да̀лей прэ с усіх лапатак, а тут скрыпіць дзѐраво: рып, рып. А яму̀ здаѐцца, што гэто ба̀ба ка̀жэ: дам, дам! Забіўса ён у бало̀то да так і седзіць там да тых час.

Семён Корчык.

Чудзін.

## 49. Аткуль узялiса грыбы.

Гэто было яшчэ тагды, як сам буог хадзiў па землi, бо даўнiей людзi яшчэ не грашылi, як цепер, i буог любiў iх, навучаў i наказваў, як жыць на сьвiеце, каб усiм было добрэ. От раз iшоў буог з сваiмi святымi людзьмi па вескам; iшлi яны, як простые жабракi. З богам былi Петро, Iлья, Барыс i Мiкола. Добрые людзi прымалi iх, частавалi, чым буог паслаў i яшчэ давалi на дарогу. Вiедамо, часам вескi вельмi далеко адна ат другоiе, а на дарозе нiчого нема. А Петро, заўжды любiў наладаваць свуой трыбух. От раз яны доўго цягнулiса праз лiес, а кругом i дымам не пахне. Прагаладаўса Петро, аж яму пад дыхавiцу закалоло. Пазiрае ён па абапал дарогi, цi нема дзiе якiх нéбузь ягад, але нема, бо справа была кале Мiколы Вiешняго. Туолькi ось схаменуўса ён, як убачыў, што Барыс прэ за плечамi торбу кускуоў хлiеба. Барыс iшоў ззаду, вiедамо з клункам важко йцi. От Петро супынiўса, нiбыто дзеля таго, каб завязаць аборы па нагах. Барыс пашоў уперад. Тагды Петро хуценько дагнаў яго да й падкраўшыса на пальчыках украў з торбы кусок хлiеба. Барыс i не пачуў, так той здуолно залiез у торбу. Iдзе сабiе Петро да беззубым ротам жуе сухi хлiеб. Набраў ён повен рот, а тым часам буог знаў тое да й запытаў Петра, цi неўтамiўса ён, цi не трэ яму атдыхаць. Немажэ Петро адмаўляць богу, бо ў роце хлiеб мешае. От ён нiбы кашляе да пацiхеньку выплеўвае хлiеб, каб буог не закмiеў. Але буог i кажэ: «не выплеўвай на зéмлю,— гэто-ж божы дар. Нехай з яго вырастуць грыбы на патрэбу людзям». От з таiе пары й пашлi ў лiесе расцi грыбы, каторымi й цепер карыстаюць людзi.

Круглiк.

Чудзiн.

## 50. Дурэнь.

Даўно тое было, мо яшчэ нашых прапрадзедаў не было па сьвiецi. Жыў сабiе адзiн багаты чалавiек; ён знаўса з лiхiмi;

затым у ягò было мнӯого ӯселякаго дабрà, а грòшэй як трыэсак. Віедамо, ат сваіе прàцы багàт не бӯдзеш, бо як ні працӯй, як ні гарӯй, а тут табіе чорт дзірку знайдзе: не пасьпіееш азірнӯцца, як туды-сюды ӯсе й разòйдзецца. А той багàты чалавіек тӯолькі пахаджàӯ сабіе да дагдядàӯ парабкӯоӯ да наймічак, а гаспадàрка раслà бы грыбы. Лю̀дзі працӯюць дзень і нӯоч, нікòлі не бàчаць прасьвіетлаіе часіны, а тут прыпàдкі адзін па другӯом да нашчàтку знішчаць ім гаспадàрку. Та зьвіер нападзè да зарыэжэ сàмае ліепшае гаӯядо, та янò самò змітрэнжыцца, та ӯсхòдзіцца навальніца да грàдам у адзін мòмант загубіць усè збӯожжэ, та з дòбраго рàю прычыэпіцца хварòба да пачнè цебè гнесьці да ламàць так, што аж жытка не міла. Зірнèш і дзівісса, чамӯ гэто багàтаго чорт не берэ, чамӯ гэто ӯ ягò гаӯядо цыэло, чамӯ гэто град дòйдзе да ягò рыэза да й закрӯціць назàд, ні зьвèрне ӯбӯок. Алè зьвіесно, чамӯ так, бо багàтаму чэрці дзецèй калышуць, чэрці намагàюць ямӯ на гэтум сьвіеці, дак за тòе на тӯом сьвіеці вòзьмуць сабіе ягò дӯшу на расплàту. Так і той багàч ні якаго ліха не знаӯ, жыӯ сабіе ӯ дастàтку да раскòшы, пакӯль такі падышòӯ тэрмін і трэба было аддàць чарцям дӯшу. Не хаціеласо ямӯ пакідàць багàтство, дòӯго ён круціӯ та так, та сяк, алè-ж кàжуць, круці, не круці, а трэ ӯмерці. Наскòчылі на ягò чэрці зненàцку, як ён тагò саӯсім не чакàӯ, да рàптам і задушылі. Не насьпіеӯ ён нàват сказàць, дзіе ӯ ягò схòваны грòшы. Па сьмèрці багàтаго засталіса тры сыны, два разӯмные, а трэйці дӯрэнь. Пахавàлі яны бàцька да й кàжуць: — У бàцька было мнӯого грòшэй, алè ён не сказàӯ нам, дзіе яны захòваны. Пèӯне ён цепèр нам скàжэ, як мы спрàвім памінкі. — От спрàвілі яны памінкі да й сгаварыліса тры нòчы па чарзіе начавàць на мòгліцах калà магілы бàцька й слӯхаць, што ён скàжэ. Падышòӯ вèчар. Прышлòсо йці на мòгліцы бӯольшаму брàту. Пабаяӯса ён іці на мòгліцы да й прòсіць дӯрня, каб ён за ягò там папачавàӯ. Згадзіӯса дӯрэнь. Віедамо, дурнòму ӯсе рӯоӯно, дзіе ні начавàць. От лèг ён калà сьвіежаіе магілы да й захрӯоп. Тӯолькі ось праз сон чӯе, што ягò хтось бӯдзіць. Прахапіӯса ён да й пытàе: хто тут? —

Я, тву͡ой ба̀цько, — адмаўля̀е з магі̀лы. Ну͡оч была̀ цё̀мная. Невазна̀ў мерцьвѐц, като̀ры гэто сын да й пыта̀е: — Ты бу͡ольшы? — Эгэ-ж, — атка̀звае ду̀рэнь. — Пакапа̀й пад сьвіро̀нкам, там я закапа̀ў табі͡е мну͡ого гро̀шэй. — Сказа̀ў то̀е да й замо̀ўк. На за̀ўтрэ яшчэ до̀сьвета прыхо̀дзіць ду̀рэнь у вё̀ску, аж тут кала̀ са̀маі͡е ако̀ліцы сустрака̀е яго̀ чорт да й ка̀жэ: ты̀е гро̀шы заклятые, не дам табі͡е, калі̀ ты не абяца̀еш, што бу̀дзеш спажыва̀ць ту͡олькі ў сваё̀й вё̀сцы. — Ду̀рэнь на ўсе згаджа̀ецца й выда̀е чо̀рту ро̀спіску, алѐ падпі̀свае на ёй імя̀ бу͡ольшаго бра̀та. Улі͡ез ду̀рэнь у ха̀ту, от братэ̀ й пыта̀юць, што яму̀ каза̀ў ба̀цько. А ду̀рэнь атка̀звае, што ба̀цько яго̀ абля̀яў, а аб грашу͡ох нічо̀го не сказа̀ў. На другі̀ дзень трэ йці селеду͡оршаму бра̀ту. Бая̀ўса ён іці̀ на мо̀гліцы да й пасыла̀е й ён ду̀рня. Пашо̀ў ду̀рэнь і на другу̀ю ну͡оч. У са̀мую глу̀пась зноў пыта̀е ба̀цько, ці гэто селеду͡оршы сын, а ду̀рэнь атка̀звае, што алѐ-ж селеду͡оршы. — Табі͡е я закапа̀ў пад ігру̀шаю такі̀ персьцё̀нак, што як бу̀дзеш яго̀ насі̀ць на руцэ̀, — ка̀жэ мерцьвѐц, — та цебѐ пакаха̀е пѐршая красу͡отка на сьві͡еці, хаць бы то была̀ царэ̀ўна. — Сказа̀ў то̀е й замо̀ўк. Ту͡олькі хаці͡еў ду̀рэнь іці̀ да гаспо̀ды, як зноў прычапі̀ўса да яго чорт. — Заклят ы̀ — ка̀жэ — той персьцё̀нак, я табі͡е яго̀ не дам. — Му̀сіў ду̀рэнь і гэстаму чо̀рту даць ро̀спіску, што апры̀ч сваі͡е ўё̀скі ніку̀ды не панесѐ таго̀ персьцё̀нка й сам не пу͡ойдзе. Зноў ду̀рэнь падпіса̀ўса, нібы̀то селеду͡оршы брат. Зноў пыта̀юць яго̀ братэ̀, што каза̀ў ба̀цько. На гэты раз ду̀рэнь ка̀жэ, што ба̀цько агры͡эў яго̀ па̀пліскаю. На трэ̀йцюю ну͡оч пашо̀ў ду̀рэнь на мо̀гліцы сам за себѐ. На гэты раз мерцьвѐц пыта̀е, ці гэто мѐньшы сын. — Алѐ-ж, — атка̀звае ду̀рэнь. — Табі͡е я заста̀віў стару̀ю то̀рбачку, — ка̀жэ ба̀цько, — ты ў ёй за̀ўжды зна̀йдзеш яду̀, каб пасілкава̀цца. — Замаўча̀ў мерцьвѐц, а ду̀рэнь пашо̀ў да гаспо̀ды. Падслухо̀ўваў чорт, што яму̀ ска̀жэ мерцьвѐц, алѐ не сустрака̀ў бу͡ольш ду̀рня, бо чо̀рту така̀я то̀рбачка не трэ̀ба. Прышо̀ў ду̀рэнь да гаспо̀ды, а браты̀ пыта̀юць, што яму̀ каза̀ў ба̀цько. — Ба̀цько каза̀ў, — адмаўля̀е той, — што мні͡е даѐ ось гэстую стару̀ю то̀рбачку. — Пасьмея̀ліса братэ̀ з ду̀рня да й ка̀жуць у вадзі̀н

го̀лас. — Бѐры̀, бѐры̀, як пу͡ойдзеш жабрава̀ць, та прыга-
дзіцца. —

Узяў сабі͡е ду̀рэнь тую то̀рбачку, выкапа̀ў гро̀шы да персцѐ-
нак і пашо̀ў у сьві͡ет, бо ві͡едамо, з велікімі грашы̀ма да з зача-
ро̀ваным персцѐнкам нема̀ чаго̀ жыць у цѐмнуй вѐсцы. Браты̀ не
спынялі яго̀, бо, ві͡едамо, яка̀я ў гаспада̀рцы з дурно̀го карысць,—
ту͡олькі трэ дарма̀ хлі͡ебам карміць да апрана̀ць. Пашо̀ў сабі͡е ду̀-
рэнь у мі͡есто да й зажы̀ў там па̀нам. Ві͡едамо, ця̀жко прывы̀кнуць
гарава̀ць да працава̀ць, а панава̀ць ку͡ожын мажэ̀. Ху̀тко пашла̀
прачу̀тка па ўсёй акру̀зе, што зьявіўса такі̀ бага̀ч, што мо тако̀го
й на сьві͡еці друго̀го нема̀. Пачалі̀ тут князі̀, грапы̀ да ру͡озные
паны̀ сва̀тацць яму̀ сваі̀х дачо̀к да небо̀г. Ку͡ожнаму хо̀чэцца мі͡ець
бага̀таго зя̀ця. А тут ён як ускладзѐ на па̀лац той персцѐнак, дак
усі͡е панѐнткі аж прагу̀цца. Алѐ, куды̀ там, ён не хо̀чэ на іх і па-
зіра̀ць. Ї чым бу͡ольш к яму̀ прыстаю̀ць панѐнткі, тым бу͡ольш
яму̀ хо̀чэцца ўзяць са̀мую харашы͡эйшую краса̀віцу на сьві͡еці.
Дачу̀ліса браты̀, што ў мі͡есьці жывѐ такі̀ велікі бага̀ч, што ні-
ко̀му не атка̀звае, а без ліку даѐ гро̀шы, от і пашлі̀ яны̀ туды̀,
каб і ім пажывіцца ат дурно̀го па̀на. Ту͡олькі яны̀ вы̀шлі з вѐскі,
як атку̀ль ні ўзя̀ўса чорт да й схапіў іх жыўцо̀м да й павалу͡ок
у пѐкло. Яны̀ бажы̀цца, яны̀ хрысьціцца, што жу͡одных ро̀спісак
не дава̀лі. Чорт не слу̀хае, валачэ̀. Прыцѐг ён іх к старшо̀му.
Дава̀й яны̀ жа̀ліцца яму̀ на чо̀рта. Разглѐдзяў той ро̀спіскі да й
аслабаніў іх, а чо̀рту велі͡еў за то̀е служы̀ць ім тры гады̀. Нема̀
чаго̀ рабіць, падгіндзіў чорт хву͡ост і паўёў іх да гаспо̀ды. —
Ма̀быць мужы̀к хітры͡эй чо̀рта, — ка̀жэ ён, — калі̀ й менѐ пера-
хітры̀ў. — Слу̀жыць чорт, працу̀е, аж на ём шку̀ра ло̀паецца.
Даву͡олны браты̀, панука̀юць чо̀ртам, а са̀мі нічо̀го не ро̀бляць, бо
ён і без іх адзін упра̀віцца. Абгульта̀іліса браты̀ за тры гады̀
так, што на̀ват са̀мі себѐ не мо̀гуць ахя̀яць, — напру̀цца да й ва-
ля̀юцца ў берлагу̀ бы сьвіньне. Тым ча̀сам ду̀рэнь ат дабра̀ не
ві͡едае, куды̀ дзі͡ецца. Спры̀крала яму̀ така̀я жы̀тка ў мі͡есьці га-
ры͡эй, як у вѐсцы, бо не чу̀е ў сабі͡е таго̀ сло̀дычу, які̀ чуў там.
Тут панѐнтак хаць гаць гаці̀, са̀мі яму̀ чапля̀юцца на ка̀рак, алѐ

ў яго з душы верне, а там бало па ўесцы, як ушчыпне ён якую небуць дзеўчыну, дак ат слодычу аж у вачу зробіцца цемно. Пакінуў ён місто, паіехаў у веску, — дак і там нема яму жуоднаго слодычу. Ходзіць дурэнь без дзіела, сланяецца, бы ў воду апушчаны, сам не віедае, што з сабою рабіць, хаць беры да й засіліса. Нарэшце дачуўса ён, што е такая знахуорка, каторая мажэ ў бедзіе парадзіць. Пашоў ён да таіе знахуоркі. — Бабко, лебъедко, ты добрэ знаеш, добрэ памагаеш людзям, — просіць ён знахуорку, — памажы й мніе. — А чаго ты хочэш? — Нічого, бабко, я не хачу, бо ўсе маю. — Дак чаго-ж ты, муой соколе, прыйшоў? Да мене прыходзяць людзі ў бедзіе, або хворые, дак я ім і памагаю. Ты здаруоў і ўсе маеш, ніякаіе беды ў цебе немашака. А зрабіць табіе ліхо я неуміею, бо нікому не раблю ліха. Мене матачка як канала навучыла туолькі лечыць людзей да памагаць ім у бедзіе. А ў цебе якая беда? — У мене, бабко, тое ліхо, што беды нема. — Э, муой голубе, беда не за гарамі, а за плечамі. — Ратуй, бабко, а то я засілюса. — Што ты гаворыш. Перахрысьціса. Гэто мабыць ліхі падкаспуўса. Ось пачакай, я дам зіельля, та можэ й паможэ. — Наварыла знахуорка якогось зіельля да й дала дурню піць. Выпіў ён раз-другі да й зноў прыходзіць да бабы. — Ну, што, голубе, ці памагло? — Памагло, бабко, ой, як памагло! Было ліхо да й пагуоршало. То нічого не хаціелосо, а цепер я жыць не буду, калі не дастану сабіе самаіе ліепшаіе красавіцы па сьвіеці. — Ой, муой соколе ясны, не турбуйса, бо гэто вельмі цяжко зрабіць. Самая ліепшая на сьвіеці красуотка жыве за гарамі, за марамі ў тры-дзесятум царстве, да там яіе пілнуе зьміей. Ты яго не адаліееш. — Нічого, бабко, пайду шукаць, хаць загіну. — От баба паўчыла яго, як найці тую самую гожую дзеўчыну. — Як будзеш іці, — вучыць яна, — та нікола не рабі таго, што людзі лічаць ліхім, та ўсе табіе будуць памагаць. — Падзякуваў дурэнь і пашоў шукаць таіе гожаіе дзеўчыны. Ідзе ён да йдзе, аж бачыць, кала дарогі стаіць карчомка. Зайшоў ён туды аддыхаць да пасілкавацца. Віедамо, ў карчме заўжды людзей шмат. Сіеў сабіе ён у куточку да й прыслухоўваецца, што людзі

гаворàць. Ту͡олькі ось чу̀е ён, што ўсіе ў вадзін го̀лас жа̀ляцца да бедую̀ць, алѐ нія̀к ён не разпало̀пае, чаго̀. Пачаў ён распыто̀ўваць, от иму̀ й ка̀жуць, што зьявіўса пага̀ны гад, схапіў ён у царà дачку̀, а янà былà са̀мая харашы͡эйшая на сьвіецi, а цепѐр лѐтае ўсю̀ды да хапàе ў людзѐй го̀жых дзіевак. Схо̀піць, завалачэ̀ к сабіе да там і заста̀віць, велі̀ць услуго̀ўваць царэ̀уне, ці ціешыць, каб янà не журбава̀ласа без айцà да без ма̀ткі. Пахватаў ужэ збу͡ольш са̀мых го̀жых дзіевак. Дачу̀ўса аб ту͡ом ду̀рэнь да й пашо̀ў к цару̀. Прышо̀ў пад цàрськіје пала̀цы, алѐ нія̀к не мажэ̀ даступі̀цца да царà, бо паны̀ не пушча̀юць. Віедамо, калà царà заўжды стаі̀ць ва̀рта. От ду̀рэнь пасу̀нуў сабіе на па̀лац персьцѐнак да й пахаджа̀е калà ва̀рты. Вы̀шла тут дачка̀ са̀маго старшо̀го пагуля̀ць да й уба̀чыла ду̀рня. Як уба̀чыла, дак ён так спадаба̀ўса ёй, што янà й вы̀трымаць не мажэ̀, каб яго̀ не ба̀чыць. От янà падышлà да ва̀рты да й правелà ду̀рня ў пала̀цы к цару̀. Пачаў тут цар пытàць ду̀рня, чаго̀ ён прышо̀ў, а той адмаўля̀е, што берэ̀цца вы̀зваліць ад га̀да царэ̀уну, калі̀ царь дась лю̀дзям слабо̀ду, каб паны̀ з іх не зьдзіекуваліса. Згаджа̀ецца цар даць лю̀дзям не ту͡олькі слабо̀ду, алѐ й зѐмлю, каб ту͡олькі ён аслабаніў яго̀ дачку̀. Алѐ ду̀рэнь упіра̀ецца да й ка̀жэ, што паку̀ль лю̀дзі не ма̀юць слабо̀ды, датуль ён не мажэ̀ аслабаніць царэ̀уны. Немà чаго̀ рабіць, вы̀даў цар маніхвэ̀ст, што даѐ лю̀дзям слабо̀ду й зѐмлю. Падзя̀куваў ду̀рэнь цару̀, пакланіўса аж да землі̀, узяў маніхвэ̀ст за па̀зуху да й пашо̀ў. Алѐ, віедамо, не спадаба̀ласо пану͡ом, што цар даў лю̀дзям слабо̀ду, от яны̀ й схава̀лі ца̀рські маніхвэ̀ст да яшчэ̀ гары͡эй пачалі̀ ціснуць хрысьция̀н. Ідзѐ ду̀рэнь да й ба̀чыць, аж веду̀ць мужыка̀ да ста̀йні лупцава̀ць. Заступі̀ўса ду̀рэнь за мужыка̀, падышо̀ў к лю̀дзям да й паказа̀ў ца̀рські маніхвэ̀ст. Загаманіў нару͡од, кі̀нуўса на па̀ньськіх слуг да й атабра̀ў таго̀ мужыка̀. Падзя̀куваў той ду̀рню да й пашо̀ў з ім ра̀зам. Уба̀чылі то̀е дзецюкі̀, дак і яны̀ абра̀ліса памага̀ць ду̀рню. От гэ набрало̀со ў ду̀рня малайцо̀ў шмат. Ідуць яны̀, пака̀зваюць маніхвэ̀ст да падбухтэ̀рваюць людзѐй, а ты̀пе ўсе прыстаю̀ць да ду̀рня. Пабрало̀со ў яго̀ малайцо̀ў мо̀о ці̀сяч дзѐсяць ці бу͡ольш. От падхо̀дзяць

яны̀ туды̀, дзіе зьміей запъёр ца̀рськую дачку̀. Напа̀лі тут малайцы̀ да дава̀й лама̀ць да паліць га̀да пала̀цы, алѐ бу̀льш усіх завіха̀еццa сам ду̀рэнь. Перабілі яны̀ ўсе вуойсько зьміея да ўже падбіра̀юцца да ягò самòго. От ён і заліез у такую зямлянку, каб ніхтò не трапіў. Аслабаніў ду̀рэнь царэўну да ўсіх дзіевак, алѐ немажэ супакòіцца, бо не віедае, куды̀ схава̀ўса пага̀ны гад. От дава̀й ён трасьці да шука̀ць зьміея па ўсіх кутуох. Ператрасьлі яны̀ ўсе, аблазілі ўсюды, а зьміея пема̀, от бы ў зѐмлю праваліўса. От сабра̀ў ду̀рэнь усіх дзіевак да й дава̀й балява̀ць да гасьцева̀ць. Была̀ тут адна̀ дзіеўка з чужòго ца̀рства. Гэто была̀ дачка̀ вѐльмі велікаіе віедзьмы. Яна̀ абваражы̀ла зьміея да й рабіла ў ягò, што сама̀ хаціела. Усіе яіе слу̀халі, апрыч аднаіе царэўны. От та̀я дзіеўка вѐльмі незлюбіла царэўны да хаціела яіе загубіць, ту̀лькі не магла̀, бо зьміей аберага̀ў царэўну, як са̀мую гòжую на ўсём сьвіеці. Та̀я дзіеўка зна̀ла, дзіе зьміей, алѐ маўча̀ла. Яна̀ хаціела, як усіе бу̀дуць пъяные, загубіць ду̀рня з ягò малайца̀мі да ра̀зам і царэўну. От пъюць да вясѐляцца малайцы̀, а дзіеўкі ска̀чуць да паюць піесьні. Пачала̀ скака̀ць і та̀я дзіеўка да так спадаба̀ласа яна̀ ду̀рню, што ён і ачу немажэ з яіе зьвесьці. Зірнѐ ён та на царэўну, та на яіе, алѐ яму̀ здаѐцца, што не царэўна, а та̀я дзіеўка са̀мая гòжая на сьвіеці. Бо віедамо, як спадаба̀еццa, та здаѐцца, што такòіе другòіе нема̀шака й на сьвіеці. А тут царэўна так закаха̀ласа, так ёй спадаба̀ўса ду̀рэнь, меньш яна̀ ра̀да слабòдзе, меньш ра̀да пабачыць айца̀ да ма̀тку, чым пазіра̀ць на ду̀рня. От уба̀чыла царэўна, што ду̀рэнь усѐ пазіра̀е на ту̀ю ліху̀ю дзіеўку, да так засмуціласа, што й вытрымаць не мажэ. Зірну̀ў на яіе ду̀рэнь да й дагада̀ўса, што гэто яна̀ ат любòшчаў так зменіласа. Гòдзі ён піць, гòдзі забаўляцца, дава̀й у дарòгу зьбіра̀цца. Тым ча̀сам та̀я пага̀ная дзіеўка сказа̀ла зьміею, што пара̀ з малайца̀мі распра̀віцца, а сама̀ падбіегла к ду̀рню да й ка̀жэ: — Хучэй уцека̀ймо, бо зьміей блізко. — Ду̀рэнь надзіеў на па̀лац персьцёнак да й пытае: — А дзіе той пага̀ны гад? — Улюбіласа та̀я пага̀ная дзіеўка так, што не мажэ таіцца да й ка̀жэ: — А онь там у пòграбе. Кінуўса

дурэнь хучэй да поґраба да й наклау у дзьверах агню. Разгарэуса агонь, от і веліеу ён буольш класьці віецьце да мокрую салому, а сьверху памахваць, каб дым ішоу у пограб. Круціуса, круціуса там пагань гад да й затохса ат дыму. Біегае тая дзіеука кала агню да туольки рукі ломіць. Дагадауса дурэнь, якая гэто прыяцелька, забрау хучэй царэуну, папрашчауса з малайцамі да й паіехау к цару. Рады цар з царыцаю, што вернулаcа царэуна й абецаюць яіе аддаць замуж за дурня. Тым часам абазліласа тая пагеная дзіеука да й кінуласа за дурням сьліедам. Бежыць яна да па дарозі падмауляе пануоу, каб яны не здавалісa да умаулялі цара, што дурэнь загубіць усе царство, як мужыкі будуць міець вуолнась. А пануом туольки тое й трэ. Пашлі яны к цару да давай яго дурыць. Дурылі, дурылі, пакуль той і здауса. Віедамо, як утапае, та сакіерку обецае, а як вылезе, та й тапарышчэ адбірае, бо за добрае злым заплата. От так і той цар хутко зьменіу свае слово, атвернууса ат дурня, а мужыкуоу зноу аддау пануом. І стало людзям яшчэ гарэй, як было. Схапілі паны дурня да й выдалі таму чорту, катораго ён абшукау. Бо віедамо, дурэнь ніколі не зробіць добрэ.

Круглік.

Чудзін.

## 51. Валасны суд.

Да усяго быу Янко вельмі здатны. Бало на што ні зірне, та й зробіць сам да яшчэ штучніей, як у людзей. За тое яго паважалі не то, што наш брат мужык, але нават і дваровые. Ужэ што вам казаць, які быу гарды панські хурман Міна, да й той, як што небуць парвецца, дак бежыць да Янка да бы сабака віляе хвастом. — Янaчко, руодненькі, выратуй з беды, парапаруй набедрыкі, бо як убачыць пан, та зъiесь. — Але што я кжау хурман, калі раз сам пан наслау на Янка, каб яму прыладзіу стрэлбу, ці што. Той туольки дзьмухнуу у рулю, дак стрэлба й стала, як мае быць. І веліеу пан даць Янку шклянку гарбаты. Схапіу Янко шклянку да й хаціеу бы гарэлку выпіць обмегам

за па̀ньськае здару͡оўе. От ён абернуў шкля̀нку ў сваю халя̀ву да як пы̀рхне, дак чуць па̀на не сьпъёк то̀ю гарба̀таю. — Неха̀й, яна̀, пано̀чку, спра̀хне гэ̀стая гарба̀та! Усі͡е печанцы̀ гара̀ць. Лі͡епш, неха̀й пан дась мні͡е мужы̀цкаго тру̀нку, бо куды̀ мні͡е, лапцюжніку па̀ньськая гарба̀та. — Засмея̀ўса пан і велі͡еў даць Я̀нку до̀брую ча̀рку гары͡элкі. От з тых ча̀саў і піча̀ў пан пасыла̀ць Я̀нка туды̀-сюды̀ на рабо̀ту, та ў дву͡ор, та ў хвальва̀рак, та на бро̀вар. Ві͡едамо, ў велікуй гаспада̀рцы заўжды зро̀біцца яка̀я нѐбудзь прыго̀да. Саўсім занеха̀яў Я̀нко сваю гаспада̀рку, — нѐмаль ку͡ожын дзѐнь седзіць у двары̀; калі̀ на рабо̀це, а калі̀ й так. А з гаспада̀ркаю ўпраўля̀ецца Я̀нкава малада̀я жу͡онка. Яна̀ абро̀біцца ў ха̀це да даглѐдзіць гаўя̀да й яшчэ̀ нема̀ куды̀ ча̀су дзева̀ць. От яна̀ вы̀скачыць на ву̀ліцу да й вышчара̀е зу̀бы з дзецюка̀мі, або сако̀чэ з маладзіцамі. А тым ча̀сам Янка ўсе часці͡ей і часці͡ей пачалі̀ звацьу дву͡ор та то̀е, та сѐе рапарава̀ць ці перарабля̀ць. Ї так усла̀віўса ён, што ба̀ло пан ка̀жэ: Я̀начко, што захо̀чэ, ўсе зро̀біць. От дачу̀ласа аб ту͡ом па̀ні да й пазва̀ла яго̀ к сабі͡е, каб ён зрабіў ёй яку̀юсь рапара̀цю. Зрабіў Я̀нко, што трэ̀ба, злажы̀ў сва̀е пажэ̀ндзе да й хаці͡еў іці̀ да гаспо̀ды, алѐ па̀ні ма̀быць вѐльмі спадаба̀ласа яго̀ рабо̀та, от яна̀ велі͡ела яму̀ яшчэ̀ заста̀цца. До̀ўго Я̀нко там рапарава̀ў, аж увесь спаці͡еў. Вы̀шаў ён ат па̀ні нѐмаль змро̀кам да й прыхо̀дзіць да гаспо̀ды. От жу͡онка й пыта̀е яго̀, дзі͡е ён так до̀ўго забаўля̀ўса. — Ві͡едамо дзі͡е, ў дварѣ, — атка̀звае ён да й маўчы̀ць. Чу̀е жу͡онка, што ат яго̀ штось тро̀нціць, бы ат па̀ні, хо̀чэцца ёй даві͡едацца, што там тако̀е ён рабіў, да неві͡едае, з яко̀го бо̀ку падыці̀. От і пачала̀ яна̀ ла̀шчыцца, а ён і ў той бу͡ок не пазіра̀е. От яна й ка̀жэ: Ой, Я̀начко, я-ж і забы̀ласа, што каня̀ка ў хлеві͡е гало̀дная зуба̀мі звоніць. Неха̀й-бы ты звадзіў ялі͡е на начлі͡ег. — Я штось занепа̀ў, — ка̀жэ ён. — Ну, дак хіба-ж я сама̀ паведу̀. — Ну, чаго̀ табі͡е турбава̀цца? Каня̀ка за ну͡оч не здо̀хне, а ра̀ненько я прыпну̀ ялі͡е на прыгумѐчы. — Упѐрласа маладзіца й хаць-бы што, — паведу̀ да й паведу̀! — От апрану̀ла яна̀ кажушо̀к, за-

крудила хустку да й павела капяку на лужок. Тульке яна выехала за уёску, аж сустракае дзецюка. Той радзіць везці коней на паньськую капюшыну, што расце кала весковаго ауса. От папуталі яны коней, а самі ціхенько леглі на межы да й грыэюцца адно кала другого. Качаюцца яны да цешацца на межы, а тым часам коні паскакалі з капюшыны да ў Янкаў аўес. Аўес быў тульки ў пучкух. Не так коні зъелі, як папсавалі. Тым часам прыбегаюць з двара па Янку, каб ён ішоў папраміны буог туды, бо там у калодзесь ускочыў паньські выжал і ніхто не веидае, як яго аттуль дастаць. Насілу ўскатурхалі Янка, так ён папрацаваўса ў пані, што спаў бы зарыэзаны. Пралупіў ён вочы, ўзяў папліску да й пашоў. Туольки падышоў к сваіму рыэзу, аж бачыць — у яго аўсіе пасуцца коні. Ён туды да й пасунуўса на жуонку з тым дзяцюком. От ён ціхенько падышоў бліжыэй да як закміеў, што яны робяць, дак давай іх перыэсціць папліскаю. Было яшчэ цёмно. Не пазнаў дзецюк Янка, ўсхапіўса да й схапіў яго загрудкі. Па немалум часе дзецюк падгібаў Янка пад себе да й давай яго месіць каліенками. Усхапіласа й жуонка да давай памагаць дзецюку. Схапіла гэто яна за бораду да й цягне, каб пераверпуць дагары да тут і пазнала, што гэто гаспадар. Нарабіла яна крыку, збіегліса людзі да й атбарапілі Янка. Насілу жуонка прывела яго да гасподы, так яго пабіў той дзецюк. Прайшло мо недзіель з пяток, пакуль ён вычухаўса. От сабраў ён свіетак да й пажаліўса па таго дзецюка ў валасны суд, што стравіў яго аўес. От прышлі па суд. Выслухалі судзьі яго скарг(g)у, дапрасілі таго дзецюка й сьвіетак да папятых, сказалі паміріцца да й вышлі ў другую станцаю па раду. Адзін кажэ, што Янко вінават, на што пускаў жуонку на начліег. Другі кажэ, што яіе дзецюк падмовіў пусціць коней у капюшыну. Трэйці кажэ, што Янко перша пачаў іх біць. Першы кажэ: ён біў, бо яны грыэліса пад адным кажушком, дак ён іх і абагрыэў папліскаю. — Другі кажэ, што іх двое, а ён адзін. Трэйцы кажэ, што яго муоцно пабілі. Першы кажэ, што ён не жаліцца на пабоі, а жа-

ліцца, што дзецю̀к страві̀ў аўѐс, а што аўѐс патапта̀ла й ягò каня̀ка. Другі̀ ка̀жэ, што дзецю̀к віпава̀т, бо пе то, што гры͡эўса з маладзі̀цаю да яшчэ̀ й ко̀пей папа̀сьціў у аўсі͡е. Трэйці ка̀жэ, што й сам ра̀бін не разберэ̀ гэ̀стаго дзі͡ела, хіба̀ трэ̀ба пазва̀ць старшыпу̀ й пі̀сара. От пазва̀лі яны̀ старшыну̀ й пі̀сара, до̀ўго яшчэ̀ ра̀дзіліса, нарэ̀шце стары̀ судзья̀ й пытàе: ты як, Ні̀чыпар? — Туды. — А ты Гаўры̀ло? — Туды. — Ну, дак і я ра̀зам туды. А вы, па̀не старшыно̀, як?—Калі̀ вы туды, дак і я туды.— Мы ўсі͡е туды, а як вы, па̀не пі̀сар?—Там вас даво̀лі й без менѐ,— атказвае той.

Болбат.

Чудзін.

## 52. Хармазо̀нскіе гро̀шы.

Гэ̀то было̀ кала̀ Зажэ̀віч, ці што. Яшчэ̀ майго ся̀бра туды̀ ганя̀лі з хурма̀нкамі к па̀ну ў дву͡ор на тру̀бы на бро̀вар. Дак ён мні͡е сам раска̀зваў, што чуў там ат адпаго̀ старо̀го чалаві͡ека, като̀ры сам то̀е ба̀чыў. Жыў, ка̀жэ, ў нас у Пагібѐльцы, ці мо ў Убіба̀цьках, — от до̀брэ не памета̀ю, не хачу̀ хлусіць, — жыў, ка̀жэ, адзін вѐльмі бі͡едны чалаві͡ек. Працава̀ў ён як чо̀рны ву͡ол, ні ў бу̀дзень, ні ў сьвя̀то не мі͡еў ён супачы̀нку, алѐ от так яму̀ не шанцава̀ло, так ні̀шчылася ягò гаспада̀рка, што нічо̀го не пара̀дзіць. Перш прапа̀лі ўсі͡е сві̀ньне, по̀тым кабы̀ла кача̀ючыса перэвярну̀ласа ў я̀му да, скажы̀ ты, пакуль ён аглѐдзяўса, дак яна̀ й но̀гі вы̀пруціла. Нарэ̀шце пастушкі̀ па̀сцілі ў лі͡есі гаўя̀до да тра̀пілі на медзьвѐдзіцу. Му̀сіць быкі̀ зачапілі медзьведзепя̀так, ці што да й пачалі̀ раўці̀, ту͡олькі ось вы̀скачыла медзьвѐдзіца, схапі̀ла друк да й пасса̀джвала гаўя̀ду клубы̀. Пастушкі̀, ві͡едамо блазно̀та, кі̀нуліса ўцека̀ць да й паўзла̀зілі па дзѐраво. Разбі͡еглася гаўя̀до па лі͡есі, а па̀ру валу͡оў і тры каро̀вы таго̀ чалаві͡ека засталі̀са хто без клу̀ба, хто з перабі̀таю спі̀паю. Паму̀чыласо то̀е гаўя̀до да ўсе й прапа̀ло. Астала̀са ў таго̀ чалаві͡ека ту͡олькі адна̀ целіца да й ту̀ю ваўкі̀ зары̀эзалі. Са̀мі ві͡едаеце, яка̀я гаспада̀рка без гаўя̀да. Паму̀чыўса, пабі̀ўса тро̀хі той чалаві͡ек, алѐ

нічо̀го не пара̀дзіць, бо ў со̀ху жу͡онку не запражэш. От і ка̀жэ ён сваёй маладзіцы: чу̀еш, мая̀ галу̀бко, ма̀быць за грахі̀ нас бу͡ог пакара̀ў. Яго̀ свята̀я во̀ля. А мы кі̀ньмо гэ̀стую слімаза̀рную гаспада̀рку да хадзѐм у сьві͡ет, та мо дзі͡е натра̀пім сваю̀ до̀лю. — А дзецѐй у іх не было̀, бо яшчэ̀ неда̀ўно ту͡олькі пабра̀ліса. Кі̀нулі яны̀ ха̀ту, накла̀лі то̀рбы да й пашлі̀. Пры̀дуць у вѐску, ста̀нуць к лю̀дзям на рабо̀ту, та ты̀е нако̀рмяць да яшчэ̀ даду̀ць на даро̀гу. От дзі͡есь на палі͡есі за Старо̀бінам зайшлі̀ яны̀ к аднаму̀ вѐльмі бага̀таму гаспадару̀ на̀нач да й засталі̀са ў яго̀ на рабо̀ту. А было̀ гэто ўжэ пад канѐц лі͡ета, як лю̀дзі ка̀жуць, што калі̀ прайшо̀ў бага̀ч, накіда̀й рага̀ч да бѐры севѐньку да й сі͡ей памалѐньку. От той чалаві͡ек пасі͡еяў багачу̀ жы̀то, а яго̀ жу͡онка капа̀ла бу̀льбу. Яшчэ̀ со̀нейко высо̀ко, а ён ужэ̀ забаранава̀ў жы̀то, пусці̀ў ко̀ней на па̀шу, а сам пашо̀ў жу͡онцы падко̀пваць карто̀плю. У гэты час бага̀таго гаспадара̀ не было̀ до̀ма, бо ён быў вѐльмі велікі ведзьма̀р, дак яго̀ за̀ўжды лю̀дзі прасілі к сабі͡е, каб ён атрабі̀ў, яко̀е трапля̀ецца ліхо. Ві͡едамо, ў гаспада̀рцы трапля̀ецца не то̀е, та друго̀е ліхо, ці які̀ прыпа̀дак. Бо ка̀жуць: хто ма̀е ста̀так, та му̀сіць мі͡ець і прыпа̀дак. Захвары̀эе хто, бегу̀ць к ведзьмару̀, каб ён пашапта̀ў ці даў яко̀го зелья̀. Прападзѐ ў лі͡есі го̀вядо, заву̀ць ведзьмара̀, каб ён засі͡ек ат зві͡ера. Зро̀біць во̀раг у збу͡ожы ку̀клу, зноў іду̀ць к ведзьмару̀, часту̀юць да пла̀цяць яму̀, каб атрабі̀ў да вы̀рваў ту̀ю ку̀клу. А калі̀ нема̀ й нія̀каго прыпа̀дку, дак і так го̀дзяць ведзьмару̀, бо ві͡едамо, калі̀ хо̀чэш на сві͡еце жыць, та й бу͡ога хвалі̀ да й чо̀рта не гневі̀. От пача̀ў той бі͡едны чалаві͡ек падко̀пваць карто̀плю да й капану̀ў кала̀ самаі͡е межы̀. Чу̀е, штось зазвіні͡ело. Пракапа̀ў ён там бу͡ольш да й даста̀ў атту̀ль гаршчо̀к гро̀шэй. Пачалі̀ яны̀ ра̀дзіцца, што тут рабіць, ці забра̀ць гэ̀тые гро̀шы сабі͡е, ці адда̀ць гаспадару̀. Жу͡онка ка̀жэ, што гэто на̀шы гро̀шы, бо мы іх знайшлі̀, а чалаві͡ек ка̀жэ, што мы капа̀ем гаспадару̀ й вы̀капалі гро̀шы на яго̀ землі̀, дак гэ̀тые гро̀шы трэ адда̀ць яму̀. До̀ўго яны̀ спрача̀ліса да й неўба̀чылі, як зза̀ду падышо̀ў той ведзьма̀р да й ка̀жэ: гэто гро̀шы маі͡е, бо я іх закля̀ў. Забра̀ў ён ты̀е гро̀шы ра̀зам

з гаршкòм у хàту, палічы̀ў іх да й схава̀ў, а тым лю̀дзям даў тỳолькі па аднỳом рублю̀. Падзя̀кувалі яны̀ ведзьмару̀, перапачава̀лі да й пашлі̀ да̀лей. Дòўго йшлі яны̀, от і захацѣ̀ласо ім ѣсці. А ведзьма̀р быў скупы̀ чалавѣк і нічòго не даў ім на даро̀гу. Алѐ ба̀чаць яны̀ пры даро̀зе — карчòмка. Зайшлі̀ яны̀ туды̀, ўзелі ў жы̀да хлѣба, аселѐнца да агуркỳоў, пасілкава̀ліса да й даю̀ць той рубѐль, што ведзьма̀р вы̀дзеліў. Даў жыд ім рэ̀шты. От яны̀ й пашлі̀ да̀лей. Адышлі̀ яны̀ мо верстỳоў пъяць, мацнỳў той чалавѣк у кішэ̀ні, аж там лежы̀ць той са̀мы рубѐль. Ён дỳмаў, што гэ̀то жỳонка палажы̀ла яму̀ ў кішэ̀ню свỳой рубѐль і пашлі̀ яны̀ да̀лей. Захòдзяць на̀нач у другу̀ю ка̀рчму. Пасілкава̀ліса яны̀ тро̀хі на̀нач, пашлі̀ ў бакỳоўку да й пакла̀ліса спаць. Тым ча̀сам хапі̀ўса той ланда̀р, катòраму яны̀ далі̀ хармазòнскі рубѐль, аж нема̀ грòшэй. Ён туды̀, ён сюды̀, ён пыта̀ць сваю̀ балабòсту, ці не бра̀ла яна̀, — нема̀ таго̀ рубля̀, от бы скрỳось зѐмлю правалі̀ўса. Дагада̀ўса по̀гань, што гэ̀то ма̀быць хармазòнскіе грòшы да й узела̀ яго̀ хці̀вась, як-бы вы̀дурыць той рубѐль сабѣ. Запрỳог гэто ён кабы̀лку, сѣў да й пусці̀ўса даганя̀ць тых людзѐй. Гòніць ён каня̀ку ўчвал, аж з таѣ пѣ̀па ва̀ліць да пыта̀е ўсіх стры̀эчных, ці не йшлі тут ты̀е лю̀дзі. От ужэ пачало̀ світа̀ць, як ён дабѣг да таѣ карчмы̀, паг(g)ерг(g)етаў з жыда̀мі да й чака̀е, паку̀ль уста̀нуць ты̀е бѣдные лю̀дзі. Ужэ сòнейко паднялòсо высòко, як яны̀ прачу̀халіса. Уста̀лі яны̀, памы̀ліса да памалі̀ліса бòгу, а по̀тым сѣлі спѣдаць. Уѐцца кала̀ іх той жыд, ба̀цэ му̀ха кала̀ мѐду, та распыто̀ўвае, атку̀ль і куды̀ яны̀ йдуць, та што яны̀ ро̀бляць да й завѐ к сабѣ, нібы̀то на рабо̀ту. От паспѣдалі яны̀ да й даю̀ць таму̀ ландару̀ рубѐль за начлѣг і за спѣданьне. Не вытрымаў той жыд, схапі̀ў рубѐль да й ка̀жэ: прада̀й яго̀ мнѣ, я табѣ заплачу̀ пъяць рублі̀. Здзіві̀ўса той чалавѣк, нашто̀ жы̀ду гэ̀сты рубѐль, а жỳонка й шэ̀пчэ: прадава̀й, у менѐ ѐсьцека свỳой. Ї яна̀ развеза̀ла ху̀стачку да й даста̀ла атту̀ль сваѣ грòшы. Дагада̀ўса тагды̀ чалавѣк, што яго̀ рубѐль хармазòнскі да й ка̀жэ жы̀ду, што такѣй, як сто рублѐў ён яго̀ не атда̀сь. Кру̀ці̀ўса, кру̀ці̀ўса жыд, нарэ̀шце заплаці̀ў грòшы да й паѣхаў дамỳоў. —

Рэхт, — ду̀мае ён, — фара̀н маса̀нскі г(g)елт, — і як ма̀е сілы ту̀зае лейчы̀шамі да бъе кабы̀лку, го̀ніць барджджыэй, каб паказа̀ць гро̀шыкі сваѐй балабо̀сце. — Ё, ё! каб цебѐ воўк зарыэзаў, сто ты кру̀ціс хвасто̀м, — крычы̀ць жыд, а той рубѐль сашчаміў і трыма̀е ў жмѐні. От прышло̀со яму̀ іехаць па грэбельцы да цѐраз бруод. Пагна̀ў ён кабы̀лку, а та̀я як тузанѐ, дак жыд чуць з драбінак не вы̀скачыў да й упусціў рубѐль у бруод. А бруод, віедамо, глыбо̀кі да такі̀ гра̀зкі, што й нуог не вы̀цягці. Скінуў жыд бо̀ты да плюндры, падняў свуой лапсарда̀к да й паліез у во̀ду шука̀ць гро̀шы. Месіў ён, месіў там гразь, аж ужэ цы̀цалі зрабіліса чо̀рные ат руды̀, а гро̀шэй нема̀. Ла̀зіць ён па гразі̀ да рве на сабіе пѐйсы да бо̀раду. Алѐ ось ідуць па кла̀дках кала̀ бро̀ду людзі, смеюцца з жы̀да да й пыта̀юць, што ён ро̀біць у гразі̀. — Ой, маіе ві каха̀ненькіе, — адмаўля̀е ён, — я згубіў тут гро̀сікі, не про̀стые гро̀сікі, а хармазо̀нскіе. — Які̀-ж ты дурны̀, — ка̀жуць тые. — Калі̀ гэто хармазо̀нскіе гро̀шы, та яны̀ пашлі̀ к таму̀, ат каго̀ ты іх даста̀ў, дак табіе й нема̀ чаго̀ шмарава̀ць тут абра̀занец. — Чуе жыд, што людзі ка̀жуць сэнс, нема̀ чаго̀ рабіць, узліез на драбінкі да й паіехаў дамуоў, вы̀мазаўшыса бы чорт. Тым ча̀сам тые людзі купілі сабіе до̀браго каня̀ да ко̀лы, сіелі сабіе бы паны̀ на вуоз да й іездзяць ат вѐскі да ўескі. Ці доўго, ці ма̀ло яны̀ іездзілі, а гро̀шы ў іх усѐ растуць і растуць, нарэшце прыіехалі яны̀ ў тую вѐску, дзіе жыў той ведзьма̀р да й заіехалі к яму̀ на̀пач. Пазна̀ў іх ведзьма̀р да й пыта̀е: скуль яны̀ так разбагаціелі, а той чалавіек і расказа̀ў яму̀ ўсе, як было̀. — Ты, — ка, — даў нам тагды̀ хармазо̀нскіе гро̀шы. — А мніе тые гро̀шы не пашлі ў карысь. С тых ча̀саў звело̀со ў менѐ гаўядо, захварыэла жуонка да й сам я хаджу̀ бы ціень. Вазьміеце сабіе тые заклятые гро̀шы, бо яны̀ налѐжаць вам. — Адда̀ў ён гаршчо̀чак з ты̀мі грашы̀ма, от яны̀ й паіехалі к сабіе дамуоў да й пачалі̀ до̀брэ жыць, туолькі тые гро̀шы ўжэ буольш к ім не варо̀чаліса. Дак от яка̀я была̀ спра̀ва.

Болбат.

Чудзін.

## 53. Бага̀ты й бі͡едны.

Жылі̀ ў адну͡ой вѐсцы пòмеж два мужыкі̀, адзі̀н вѐльмі багàты, а другі̀ такі̀ бі͡едны, што немà за што й рук запя̀ць. Багàты жывѐ, як пан, усягò ў ягò мну͡ого, а грашу͡ом і лі̀ку немà. А ў бі͡еднаго ўсе ягò багàцье, гэто тòе лàпікло, што на ём да ў кішэ̀ні тры грòшы валя̀юцца, каб іх му͡ожна быль̀ патрасьці̀, як пачỳе пѐршы раз зеўзю̀лю. Ку͡ожын гу͡од, як зеўзюля закукỳе, трàсе бі͡едны сваі͡е грòшыкі, алѐ яны̀ не прыбаўля̀юцца. Надаі͡ело ямỳ насі̀ць тые сьлімазàрные грòшы, алѐ не ві͡едае, камỳ іх аддàць, а кі̀нуць на зѐмлю без дай рàцы, бацца грахỳ. От раз пашòў багàты ў цэ̀ркву. А тут ось калà крыжà седзі̀ць сьлепы̀ й прòсіць мі̀ластыньку. Не пазі̀рае багàты да йдзе мі̀мо, задрàўшы ўверх гòлаў. Ззàду, апусьці̀ўшы гòлаву да дòлу йшòў бі͡едны. Убàчыў ён сьлепòго да й даў ямỳ грòшык. І пачàў той малі̀цца да дзя̀куваць. Пачỳў багàты й сòрам ямỳ стàло, што бі͡едны ягò згуравàў. Палі͡ез ён у калітỳ, алѐ там немà дру͡обных грòшэй.— Пазы̀ч мні͡е дру͡обных! — кàжэ ён бі͡еднаму. Той пазы̀чыў ямỳ апу͡ошніі͡е двà грòшыкі. — Я табі͡е зàўтрэ аддàм — бỳркцуў багàты да й пашòў у цэ̀ркву па сàмы перу͡од да й стаў там на пѐршум мі͡ейсцы. Стаі̀ць ён да хры̀сьціцца, бàццэ абганя̀е мỳхі. А бі͡едны, ві͡едамо, ў сваём дзіравў͡ом лàпіклу, сарòмеецца лю̀дзей у цэ̀ркві, дак стаі̀ць у кутòчку бабі̀нца да шчы̀ро мòліцца бòгу. На другі̀ дзень пашòў бі͡едны к багàтаму па сваі͡е грòшы, а той кàжэ: немà дру͡обных. Прыдзі̀ зàўтрэ. Пачасàў бі͡едны паты̀ліцу да й пашòў да гаспòды. Ідзѐ ён калà старòі͡е дупленàтаі͡е лі̀пы, аж якурàт закукавàла пѐршы раз зеўзю̀ля. Што тут рабі̀ць, грòшэй немà. Схапі̀ў ён лі̀пу да давàй яі͡е калапі̀ць. Калòціць ён да й чỳе, — штось там усерэ̀дзіне забрашчàло. — Мàбыць парахня̀ ўпàла, — дỳмае ён. На другі̀ дзень зноў пашòў ён к багàтаму па грòшы. Раскрычàўса той: — чагò ты лàзіш! Які͡е гэто грòшы! Ты ўжэ папры̀краў мні͡е, гары͡эй гу͡оркаі͡е рэ̀цькі. Кажỳ табі͡е, што немà дру͡обных. Давàй рэ̀шты з десяці̀ рублёў, ці пры-

ходзь цераз тыдзень. — Куды там бедному дапь гэтульки рэшты. У яго мо зроду не было туольки грошэй. От цераз тыдзень зноў ідзе ён к багатаму. Ужэ не так яму трэ тые грошыкі, як хочэцца напрыкрыць багатаму да ўпікнуць яму, што не аддае доўгу. Зірнуў багаты, што бедны падходзіць к хаце да й лёг на лаву, нібыто памёр, а яго жуонка грыэе ў печы чагун вады да галосіць. Улез бедны ў хату. — Чаго ты прышоў? — пытае яго жуонка багача. — Па свае грошы, — кажэ бедны. — Ой, голубе, прапалі твае грошы. Бачыш, гаспадар памёр. — Буоская воля, — кажэ бедны, — усе пад богам ходзім. Дак от я хаць яго памыю. — Схапіў гэто ён з печы чагун гарачае вады, наліў у ночвы да давай кіетком мыць багатаго. Нема чаго рабіць, маўчыць той, зубы сашчапіўшы, хаць бедны яму кіетком чуць шкуру не зняў. От сышліса людзі, палажылі багатаго ў труну да й вынеслі ў цэркаў. — Ну, — кажэ бедны, — скруціў ты мае грошы, дак я з таго не прападу, але ось яшчэ пастаўлю табе сьвечку да пачытаю псалтыр. — І застаўса бедны ў цэркві чытаць псалтыр. Нахапіласа нуоч; пашлі людзі да гасподы, туолькі адзін бедны папраўляе сьвечкі да чытае. Туолькі ось прышлі ў цэркву зладзіеі да й пазіраюць, ці нема чаго ўкрасьці. Але цэрква бедная, нічого нема. От стаяць яны да слухаюць, як бедны чытае. Тым часам усхадзіласа такая бура, што цэрква аж трашчыць. Стаялі, стаялі зладзіеі да й пачалі спрачацца, хто з іх сьмеліейшы. Адзін кажэ, што ён нікого й нічого не баіцца. А другі кажэ, што неправуда, мерцьвеца й ён баіцца. — Я баюса мерцьвеца? — кажэ той злодзей, — нічутачкі не баюса. От хочэш, я сакіераю адразу атсеку голаў гэстаму мерцьвецу. — Спалохаўса бедны, не мажэ чытаць, так яму горло сьціснуло, а багаты як учуў тое, дак годзі прыкідвацца мерцьвецом да як ускочыць з труны да пусьціцца наўцекача, дак зладзіеі так спужаліса, што немогуць і дзверэй знайці. Кінулі яны й сакіеры, кінулі свае клункі да й сунулі вон з цэркві. Узваліў на себе бедны зладзіейськіе клункі, ўзяў сакіеру да й пашоў да гасподы. Ідзе ён кала тае дупленатае ліпы, аж бачыць, — яе зламала бура. І ўспамянуў ён, што

ў туо̑й лiпе штось брашча̀ло. От секану̀ў ён раз-другi гнiлы
пень, дак атту̀ль гро̀шы й пасы̀палiса бы боб. Забра̀ў ён тые
гро̀шы да й пача̀ў з таiȇ пары̀ до̀брэ жыць. А бага̀ты так спа-
ло̀хаўса зладзiȇяў, што хвары̑эў мо цы̑элы гуо̑д. Насiлу яго̀ ба̀бы
атхадзiлi. А пакуль ён хвары̑эў, гаспада̀рка занепа̀ла, й стаў ён
саўсiм бiȇдны, алѐ нiхто̀ таму̀ не дава̀ў вiеры й не памага̀ў яму̀.

Болбат.

Чудзiн.

### 54. Слепы̀, глухi̇̀ й безно̀гi.

У вѐсцы былi слепы̀, глухi̇̀ й безно̀гi. Нахапiласа там вайна̀.
Варагi̇̀ падышлi̇̀ к вѐсцы. Зачу̀лi лю̀дзi, што нѐпрыяцель блi̇̀зко,
схапiлi свае̇̀ дабро̀ да й пахава̀лiса: хто ў лiȇс уцёк, а хто за-
бi̇̀ўса ў бало̀то цi на берагi̇̀ ў лозу, туо̑лькi засталiса ў вѐсцы
слепы̀, глухi̇̀ да безно̀гi. Слепы̀ чу̀е, што ста̀так стукацi̇̀ць па
ву̀лiцы, калѐсы грукаця̀ць на масткуо̑х, лю̀дзi крычàць да куды̀сь
бегу̀ць, алѐ нi̇̀чо̀го не ба̀чыць i невiȇдае, куды̀ йцi. Так i заста̀ўса
ён на ўѐсцы. Глухi̇̀ седзiць сабiȇ на загумѐчы ў халадку̀ пад лi̇̀-
паю да плецѐ ла̀пцi. Ён ба̀чыць, што ў по̀лi падыя̀ўса пыл да й
ду̀мае, што гэто ма̀быць кру̀цiць вi̇̀хар. І печу̀ў ён, што лю̀дзi
пакi̇̀нулi ўѐску. Безно̀гi чу̀е, што нѐпрыяцель блi̇̀зко, ба̀чыць што
лю̀дзi ўцека̀юць, хто куды̀, алѐ, вiȇдамо, без нуо̑г, седзi̇̀ць бы пень
да абганя̀ецца ат мух. Тым ча̀сам нахапi̇̀ўса во̀раг, ператруо̑с усю̀
ўѐску, забра̀ў хлiȇб, забра̀ў усе, што было̀, а ўѐску падпалi̇̀ў
с усiх канцуо̑ў. Гары̀ць вѐска бы сухо̀е сiȇно й нема̀ каму̀ ратa-
ва̀ць. Куды̀ нi су̀пецца слепы̀, та ўсе наткнѐцца на вагон̀ь. Па-
ча̀ў ён крыча̀ць, зваць людзѐй на рату̀нак, алѐ нiхто̀ не памага̀е,
бо лю̀дзi кi̇̀нулi ўѐску, а нѐпрыяцель, зрабi̇̀ўшы свае̇̀ лi̇̀хое дзiȇло,
не ма̀е ўва̀гi на слепо̀го, а хучы̑эй iдзѐ да̀лей. Глухi̇̀ муо̑г-бы па-
магцi̇̀ слепо̀му, да не чу̀е, што той про̀сiць рату̀нку. Безно̀гi чу̀е
й ба̀чыць, што ро̀бiцца да не мажэ̀ хадзiць. От так i гi̇̀нуць яны̀
куо̑жын сам па сабiȇ й нема̀ iм жуо̑днаго рату̀нку. Ужэ̀ атусю̀ль
печэ̀ агон̀ь слепо̀го й безно̀гаго бы ў пѐчы, а нiхто̀ iх не чу̀е.

Алѐ ось пача̀ў безно̀гі паўзьці̀ з агню̀ на загумѐчэ. Падпо̀ўз ён к глухо̀му да й дава̀й яго̀ шчыпа̀ць. Хапі̀ўса глухі̀, зірну̀ў на по̀жар, алѐ не ві͡едае, што рабіць, не ві͡едае, чаго̀ хо̀чэ безно̀гі, й што ён ма̀е сказа̀ць. Лу̀пае вачы̀ма глухі̀ бы сава̀, а на по̀жары пі͡емым го̀ласам про̀сіць слепы̀ — рату̀йце, хто ў бо̀га ві͡еруе! Гару̀! — Пача̀ў тут безно̀гі пака̀зваць глухо̀му на мігі, што гіне чалаві͡ек. Зразумі͡еў той мігі, ўсхапі̀ў безно̀гаго сабі͡е на плѐчы да й папёр у по̀жар. Несѐ безно̀гаго, а той ім кіру̀е. Пашлі̀ яны̀ на го̀лас памі̀ж агню̀ да й вывелі атту̀ль слепо̀го. От атышлі̀са яны̀ ат по̀жару, сі͡елі пад крыжо̀м да й не ві͡едаюць, што рабі̀ць, седзя̀ць да пла̀чуць. Змо̀кла ўѐска, бы яі͡е хто языко̀м злізаў, ту͡олькі ку̀рацца ўшу̀лы да дагара̀юць галавѐшкі. Нема̀ ні яды̀, ні начлі͡егу; круго̀м ні даму͡о̀укі, ні людзѐй. І пачалі̀ яны̀ ра̀дзіцца, як тут да̀лей жыць на сві͡еці. І паду̀малі̀са яны̀ не пакіда̀ць адзі̀н друго̀го да са̀маі͡е сьмѐрці, а рабі̀ць усѐ, бы адзі̀н чалаві͡ек. От пашо̀ў глухі̀ да й прыу̀ёз перадо̀к. Пераблу̀талі яны̀ ві͡ецем агло̀блі, пасадзілі на перадо̀к безно̀гаго да й павезлі̀. Слепы̀ й глухі̀ везу̀ць перадо̀к, а безно̀гі седзіць да кіру̀е. І і͡едуць яны̀, як ма̀е быць: дзі͡е я̀ма, там пака̀жэ глухі̀, дзі͡е вы̀юць гало̀дныя ваўкі̀, там перасцеражэ̀ слепы̀, а дзі͡е трэ ўба̀чыць стры͡эчнаго да запыта̀ць у яго̀ даро̀гі, там памо̀жэ безно̀гі. Прыцяглі̀са яны̀ так у яку̀юсь вѐску. Аста̀ўса безно̀гі на сваём во̀зе, а слепы̀ й глу̀хі пашлі̀ шука̀ць еды̀ да вады̀. Чу̀е слепы̀, што бурчы̀ць вада̀, шту̀рх ён глухо̀го, а той і ўбачыў крыні̀цу пад дзѐравам да й набра̀ў вады̀. Ба̀чыць глухі̀, што кала̀ адпаі͡е ха̀ты штось лета̀е мно̀го вару͡оп да сару͡ок. Падышлі̀ яны̀ туды̀, аж у клі͡ецці по̀ўно сы̀раў. Забра̀лі яны̀ сы̀ры да й хаці͡елі верну̀цца назад, аж ось слепы̀ чу̀е, што ў хлеўчуку̀ пішча̀ць да скрыгі̀чуць парася̀та. Штурхану̀ў ён глухо̀го, а той і ўба̀чыў мо паўту̀зіна парася̀т. Так знайшлі̀ яны̀ хлі͡еба, яѐц і друго̀і͡е жыу̀насці да й засталі̀са там жыць, по̀кі не вѐрнуцца лю̀дзі. На̀нач залі͡езуць на гумні͡е ў сало̀му, каб не знайшо̀ў ліхі̀ чалаві͡ек, ці не напа̀ў драпі͡ежны зві͡ер, а ў дзень вы̀лезуць на со̀нейко да й гры͡эюцца. Ві͡едамо, слепы̀ не ба̀чыць, дак за то̀е так до̀брэ чу̀е, што к ім не падкра̀-

дзецца ані звіер, ані злодзей. Глухі не чуе, але ён бачыць, бы арол і віетрыць носам, бы сабака. От закміецяць яны якую небудзь мітрэнг(g)у, схопяць безногага да й схаваюцца ў пограб. Раз якось і там знайшлі іх якіесь абдзіранцы да й хаціелі набіць, але безногі як пачаў з імі жупіць, пачаў ім давodзіць, што з тагo не будзе ім жуоднаіе карысці, дак і тые не зачапілі каліек. Так пражылі яны да тых часаў, пакуль скончылася вайна, й людзі вернуліся назад у сваіе дамуоукі. Знайшлі іх людзі да й дзівіліся, як гэто яны маглі, будучы каліекамі, пражыць такі ліхі час. — Нам усе было ніштo, — атказваюць каліекі, — бо мы былі ў згодзе, бы адзін чалавіек.

Болбат.

Чудзін.

## 55. Калі-б старшынoю.

Было тое ў Пілінаўку перад самымі калядамі. Як водзіцца, пуоп іездзіў па малітве. От зайшоў ён у вадну хату, паблагатаў трохі да й сіеў на лаву кала стала, каб крыху пагрыэцца, бо на дварэі быў велікі траскун і пуоп такі добрэ прамерз. У хаці апрыч жанчыны да падшпаркаў-дзецей нікого не было. Бачыць жанчына, што пуоп разсіеўса кала стала, нема чаго рабіць, пачала шукаць пачосткі. Тым часам пуоп седзіць да круціць галавою:назірае ён, ці нема ў хаці чагo нeбудзь здатнаго, каб узяць сабіе. Але нема нічoго, бо трапіласа хата вельмі біедная. Цікаваў, цікаваў пуоп, аж яму цемно ў вачў стало, — нема нічoго да й туолькі. Але ось нарэшце закміеў даўгагрывы штось за бальками. — Што там тырчыць? — пытае ён у жанчыны.

— Нічoго, бацюшко, а мое хлапчука якіе шматы.

Саскочыў пуоп з лавы да бегом туды, выхваціў з-за бальки жмак чорнаго паціеру, што яго прусакі ўчарнілі, да й давай разглядаць. Кусочкі паліеру былі спісаны ў мітуськi і так замазаны, што пуоп насілу трохі разабраў тое пісаньне.

— Хто гэто у вас так пішэ? — пытае ён у жанчыны.

Гэто мабыць хлапчу̀к, што хо̀дзіць у школу, — атка̀звае та̀я.

Тым ча̀сам ба̀чаць мужчыны, што пуоп штось замару̀дзіуса ў ха̀ці, от пачалі й яны туды зьбіра̀цца. Перш уліез у ха̀ту ста̀раста, за ста̀растаю пасу̀нулі бра̀ччыкі, нарэшце папха̀уса й гаспада̀р. А пуоп тым ча̀сам усѐ пазіра̀е на тые папіеры да ўсе мыркае сабіе пад нуос: ці ба̀чыш яго… эгэ… ото-ж… Нарэшце закміеў ён гаспадара̀ да й ка̀жэ: до̀брэ, до̀брэ пішэ твуой хлапчу̀к. Учы, учы яго да̀лей, адуку̀й, та ён папо̀м бу̀дзе. Пачулі то̀е гаспада̀р і гаспадыня да бы змо̀віўшыса, ў вадзін го̀лас і атка̀зваюць: эй, ба̀цюшко, пуоп….. От калі-б старшыно̀ю! Прыкусіў пуоп язык да й сунўў з ха̀ты, бы яго саба̀камі чвалящь. А мужчыны крычаць паўздагуон: пра̀ўда, пра̀ўда, ба̀цюшко, што пуоп! От каб старшыно̀ю!

Болбат.

Чудзін.

## 56. Шчаслівы пасту̀х.

Быў адзін вѐльмі разу̀мны пан. Маў ён велікі маѐнтак, харо̀шую па̀ню да сьвіет уселя̀каго дабра̀. Алѐ як ні до̀брэ ямў жыло̀со, дак усе хаціеласо яшчэ ліепшаіе жыткі. Кінуў ён маѐнтак і пашо̀ў у сьвіет, пыта̀ць людзѐй, ці не пака̀жуць ямў шчасьліваго чалавіека. До̀ўго хадзіў ён, мо абышо̀ў тры ца̀рства, алѐ нідзіе не мажэ тра̀піць тако̀го чалавіека, каб ён быў усім даву̀олан і ніч̀ого буо̀льш не хаціеў. Сустрака̀ў ён бага̀тых людзѐй, алѐ яны хаціелі яшчэ буо̀льш разбагаціець да так клапаціліса, што былі гарыэй нешча̀сныіе, чым апуошніе бедня̀кі. Той бага̀т, да хво̀ры; той здару̀оў і бага̀т, алѐ нешча̀сны за̀тым, што на яго̀ ніхто̀ не зваро̀чвае ўва̀гі. Той сла̀вен, да лю̀дзі яго не каха̀юць; таго̀ каха̀юць, да не ба̀яцца. Дак от так, куды ён ні прыдзе, на каго̀ ні зірнѐ, куо̀жын ма̀е сваю̀ пля̀гу, што яго грызэ. От ішо̀ў ён раз праз ліес да й патра̀піў там старо̀го пастуха̀. Хо̀дзіць гаўѐдо да шчыпле траву̀, а пасту̀х седзіць сабіе на пеньку̀ да гра̀е на ду̀дацы да так го̀жэ, што аж ліес разлега̀ецца. Падышо̀ў

к яму̀ той пан да й пытàе, ці давуо̄лан ён свае̄ю жыткаю. — А то-ж якòго ражнà мніе̄ трэ? Але̄-ж давуо̄лан, — аткàзвае шчаслìвы пасту̀х. — Вазьмì мене̄ к сабіе̄, — прòсіцца пан. — Заставàйса, калì хòчэш. Мніе̄ у̀се руо̄у̀но, ці ты бу̀дзеш, ці ніе. — Здзіві̇у̀са пан і паду̀мау̀, што пѐршага стракàе такòго чалавіе̄ка, катòраму у̀се руо̄у̀но. От застàу̀са пан у тагò шчаслìваго пастухà падпàсычам. Пасу̀ць яны̀ гòвядо да размау̀лѧюць праміж сабòю. Пан распытòу̀вае, а пасту̀х ву̀чыць ягò ву̀му-рòзуму. Расказàу̀ тут пан пастуху̀, чагò ён пашòу̀ у сьвіе̄т, як ён дòу̀го хадзі̇у̀ і што траплѧу̀. Вы̀слухау̀ стары̀ да й кàжэ: — неу̀міе̄юць лю̀дзі жыць на сьвіе̄ці, от заты̀м яны̀ й нешчàсные. Што лю̀дзі лìчаць шчàсьцем? Здаруо̄у̀е, багàцье, слàву, пòчасьці, абò у̀лась? Ці-ж гэто шчàсьце? Зірнì, я у̀весь дзень гулѧю у̀ буо̄жум рàю, хто-ж мажэ̀ быць здаравіе̄й ат мене̄? На мніе̄ у̀се мае̄ багàцье й нічòго буо̄льш мніе̄ не трэ й ніхтò у̀ мене̄ гэ̀тага не атберэ̀. Я сàмы багàты чалавіе̄к на сьвіе̄ці. Бàчыш, якàя мàе быць мніе̄ слàва ат майгò гау̀ѧда, бо ні аднò янò са мнòю не зрау̀няецца. А хто мàе такуо̀ю слàву? Паглядзі, як мене̄ шану̀е муо̄й лы̀ско й якуо̀ю у̀лàдзу я тут мàю над гау̀ѧдам? А ці-ж не у̀се руо̄у̀но, хто цебе̄ слу̀хае, ці гòвядо, ці лю̀дзі? Пры гэ̀тум лёг сабіе̄ шчаслìвы пасту̀х на му̀раву да й зайграу̀ на свае̄й ду̀дацці. Дòу̀го йграу̀ ён, а пан усе̄ слу̀хау̀ да у̀се ду̀мау̀. Зірну̀у̀ ён на пастухà й убàчыу̀ у ягò у̀ вачу̀ такòе шчàсьце, таку̀ю рàдась, чагò ён не бàчыу̀ ні у̀ кàго. І пазнàу̀ ён, што туо̄лькі той шчасьлівы чалавіе̄к, хто давуо̄лан тым, што ён е й што мàе. Падзѧкувау̀ ён шчасьлìваму пастуху̀ за наву̀ку да й верну̀у̀са дамуо̄у̀. От з таіе̄ пары̀ мо й да тых час ён шчасьлìво жыве̄ на сьвіе̄ці да рàдуецца, пазірàючы на бòжы сьвіе̄т.

Стары дзіе̄д Савіцкі.

Бохаво.

## 57. Цікàвая жуо̄нка.

Не у̀се руо̄у̀но, дзіе̄-б тòе ні былò, туо̄лькі ось былà у̀ аднагò чалавіе̄ка вѐльмі цікàвая жуо̄нка. Усе̄ то ей раскажы̀, у̀се ей па-

кажы̀, от такàя цікàвая, такàя цікàвая, бы ўсі͡е жанкі̀. А, ві͡едамо, ўсе казàць, та варагу͡оў нажывàць; алѐ нічо̀го не парàдзіш, трэ ўсе расказàць жу͡онцы, бо калі̀ янà чагò не ві͡едае, та аж шкỳра на ёй лòпаецца, хòдзіць бы непрыту͡омная, ці хвары͡эе, што не наберэ̀сса ні варажбіту͡оў, ні дахтуру͡оў. А ві͡едамо, скàжы̀ жу͡онцы, та янà кумі͡е, кумà сусі͡едцы, сусі͡едка дзя̀нне, а там усі͡е як у бỳбен бъюць. От раз штось зрабіласо тамỳ чалаві͡еку. Быў, бàццэ, саўсім здару͡оў, а назàўтрэ й дух вон. Памёр чалаві͡ек з дòбраго рàю да й ту͡олькі. Плàчэ жòнка, аж разлівàецца ат слёз, не ві͡едае, што рабіць. Збі͡егліса бàбы, сышлі̀са лю̀дзі, пагаманілі, да нічо̀го не парàдзіш, трэ паку͡ойніка хавàць. От памы̀лі ягò, адзі͡елі ў чы̀стае плàцце, палажы̀лі на лàву да й пачалі̀ рабіць дамавіну. Лежы̀ць той чалаві͡ек дзень, два, тры бы жывы̀. Перш бая̀ліса лю̀дзі ягò хавàць, дỳмалі, што ён ту͡олькі абмёр, алѐ як тут дзержàць мерцьвецà ў хàці? На чацьвòрты дзень пазвàлі папà, каб ён пахавàў. Пачàў пу͡оп сьпевàць, пачалі̀ бàбы плàкаць. Ну, зрабілі ўсе, як трэ да й налажы̀лі на дамавіну ві͡еко. Ту͡олькі ось рàптам той мерцьвѐц прахапіўса, скінуў ві͡еко да й сі͡еў у дамавіне. — Ого-ж я му͡оцно спаў, — кàжэ ён. А лю̀дзі спужàліса да ўсі͡е ў рассыпнỳю. Сам пу͡оп з хàты вы̀скачыў да давàй крычàць, бàццэ ягò ры͡эжуць. Алѐ ось памалѐньку аглѐдзеліса лю̀дзі да й вернỳліса ў хàту. Устàў чалаві͡ек да давàй шукàць яды̀. Ві͡едамо, на памінкі ўжэ ўсе былò прыгатòўлено, от ён вы̀кінуў дамавіну вон, пазвàў папà да дòбрых людзѐй і сі͡елі яны̀ за сту͡ол балявàць. Вы̀пілі па адну͡ой-другу͡ой чàрцы гары͡элкі, закусілі салòдкімі патàпцамі да канунòм, разгавары̀ліса да й пачалі̀ распытòўваць тагò чалаві͡ека, што ён бàчыў на ту͡ом сьві͡еці. Ві͡едамо, ку͡ожнаму цікàво знаць, што рòбіцца там, аткỳль ніхтò не варòчаецца. Раскàзвае той чалаві͡ек усѐ, што там бàчыў, ту͡олькі кàжэ, што аднагò не мажэ̀ сказàць, бо ямỳ велі͡елі не казàць, калі̀-ж ён не паслỳхае да скàжэ, та тагды̀-ж памрэ̀. Паслỳхалі тагò лю̀дзі да й кінулі дапытòўвацца, ві͡едаюць, што нікòму не хòчэцца памірàць.

От разышлі̀са лю̀дзі да й узялі̀са ку͡ожын за сваѐ дзі͡ело. Алѐ

от прыста̀ла к таму̀ чалаві͡еку жу͡онка бы смала̀, скажы̀ да скажы̀ ўсе, што там ба̀чыў і чуў на ту͡ом сьві͡еці. Адмаўля̀еща чалаві͡ек, ка̀жэ, што памрэ̀, як ска̀жэ. Куды̀ там, ціка̀вая жу͡онка й слу̀хаць не хо̀чэ, сьлепіцаю лі͡езе ў во̀чы да ка̀жэ, што ён яі͡е не лю̀біць, што каха̀е другу̀ю, яку̀ю нѐбудзь патаску̀шку, калі̀ не хо̀чэ ёй сказа̀ць на̀ват аднаго̀ слаўца̀. — Ты мну͡ого не гавары̀, — ка̀жэ яна̀, — а ту͡олькі намекні̀, я сама̀ дагада̀юса. — Круці̀ўса, круці̀ўса той чалаві͡ек, алѐ ні̀як не мажэ̀ атмаўча̀цца, бо, ві͡едамо, як ба̀ба прыста̀не, та ўжэ̀ ты ні̀як ат яі͡е не аткаспѐсса, ні крыжо̀м, ні кадзі̀лам, гары͡эй, як ат чо̀рта. Што тут рабі̀ць? Не сказа̀ць ба̀бе, та не бу̀дзе жы̀ткі, бо яна̀ пачнѐ пілі̀ць да і͡есьці, бы йржа̀ жалі͡езо. Сказа̀ць, та трэ папрашча̀цца з жы̀ткаю, а тут так на сьві͡еці го̀жэ, так ра̀дасно сьві͡еціць со̀нейко, што хо̀чэцца хаць крыху̀ яшчэ̀ пажы̀ць, пакрасава̀цца. Ї дава̀й ён прасі̀ць жу͡онку, каб яна̀ не прастава̀ла, каб дала̀ яму̀ яшчэ̀ хаць тро̀хі пажы̀ць на сьві͡еці. Замо̀ўкла яна̀ мо на дзень, ці два, хо̀дзіць бы цё̀мная хма̀ра, а там зноў пачала̀ прыстава̀ць да так, што хаць жывы̀ лі͡езь у зѐмлю. Не вы̀церпі͡еў ён па рэ̀шце да й ка̀жэ: — ну, дава̀й мні͡е на сьмѐрць чы̀стае пла̀цце, та ўжэ скажу̀. Прынесла̀ яна̀ пла̀цце, ўзлажы̀ў ён яго̀ да й лёг на ла̀ву пáміра̀ць. А жу͡онка стаі̀ць над ім кру̀кам, во̀чы блішча̀ць, бы спу͡онкі, стаі̀ць і аж дрыжы̀ць, така̀я яі͡е берэ̀ ціка̀васьць. Ту͡олькі ён хаці͡еў раскры̀ць рот і сказа̀ць ёй, што яго̀ наўчы̀лі на ту͡ом сьві͡еці разумі͡еўь мо̀ву жыўѐла, як тут якра̀с пі͡евень і ка̀жэ: — «Я сі͡емь жу͡он ма̀ю, да ўсіх суні̀ма̀ю, а ты ёй патвара̀еш да наміра̀еш». — Пачу̀ў ён то̀е, ўсхапі̀ўса з ла̀вы да як пача̀ў яі͡е цяга̀ць за̀ касы да пача̀ў лупі̀ць па чу͡ом папа̀ло, дак го̀дзі яна̀ з тых ча̀саў лі͡езці гаспадару̀ ў во̀чы. Закляла̀са яна̀ да забажы̀ласа, што да сьмѐрці не бу̀дзе таго̀ пыта̀ць. Алѐ не ві͡едамо, ці вы̀церпела яна̀, ці ні͡е.[1]

Стары̀ дзі͡ед Савіцкі.

Бохаво.

[1] Адменьнік у В. Н. Добровольского. Смоленскій Этногр. Сборнік, ч. I, Спб., 1891, стр. 354—355.

## 58. Пъя̀тніца.

Гэ̀то цепѐр ста̀лі лю̀дзі хітры͡е да вѐльмі разу̀мны͡е. Усѐ яны̀ зна̀юць, на ву͡оштто яно̀ й зачы̀м гэ, а не йнак. А даўні͡ей лю̀дзі былі̀ про̀сты͡е, працава̀лі да гарава̀лі, дак бу͡ог ім усѐ дава̀ў. Ра̀дасно яны̀ сустрака̀лі со̀нейко, як яно̀ падыма̀ецца з-за землі̀ да агляда̀е, ці ўсе на сваём мі͡ейсцы, ці накормлено да расо̀ю напо̀яно, ці сагры͡это да памы̀то. Ра̀дасно бра̀ліса за дзі͡ело, шчы̀ро працава̀лі, як бу͡ог велі͡еў па ўсіх до̀лю да сабі͡е на кары̀сь. Ра̀дасно-ж і праваджа̀лі я̀сное со̀нейко на супаку͡ой да й са̀мі, пасілкава̀ўшыса, чым бу͡ог насла̀ў, лажы̀ліса аддыха̀ць. — Дзякуваць бо̀гу, парабі̀ўса за дзенёчак, насьці̀ўса, а цепѐр і аддыха̀ю. Нічо̀го мні͡е бу͡ольш не трэ. — Гэ каза̀лі даўні͡ей лю̀дзі, дак і до̀брэ жыло̀со ім на сьві͡еці. А як пашлі̀ вѐльмі разу̀мны͡е да пача̀лі вымышля̀ць, пача̀лі й бо̀га вучы̀ць, дак наста̀ла така̀я жы̀тка, што хаць ты жыўцо̀м лі͡езь у зѐмлю, або̀ засілі̀са да прада̀й чо̀рту ду̀шу. Ку͡олькі ты ні працу̀й, ку͡олькі не стара̀йса, як ні збіра̀й дабро̀, а на яго̀ чорт мі͡ех шые. Запхнѐш адну̀ дзірку, а тут табі͡е дзѐсяць, — усіх не ната̀ліш, бо-ж ка̀жуць, што адзін рабу͡оч, да не бага̀т. От была̀ адна̀ маладзі̀ца. Яна̀ не слу̀хала стары̀х людзѐй, бо, ві͡едамо, малада̀я, дак вѐльмі разу̀мная. Яна̀ й свя̀та не сьвяткава̀ла, й пъя̀тніцы не шанава̀ла. Жанкі̀ быва̀ло, яшчэ̀ со̀нейко не схава̀ецца за лі͡есам, а ўжэ зло̀жаць сваі͡е ручайкі да верацёны, вы̀несуць у камо̀ру або̀ на го̀ру кудзѐлі да пра̀сніцы да й сустрака̀юць недзі̀ельку, або̀ друго̀е сьвя̀то. А яна̀ прадзѐ мо да по̀ўначы пѐрад сьвя̀там і з по̀ўначы па сьвя̀ту, а ў пъя̀тніцу ўсе ро̀біць, бы ў бу̀дзень. Бы̀ў раз у чацьвѐр свя̀ты Міко̀ла. Усхапі̀лаcа яна̀ на заў̀трэ ў пъя̀тніцу з пѐршымі пеўня̀мі, сі͡ела на пра̀сніцу, схапі̀ла верацёно да дава̀й пасука̀ць, дава̀й круці̀ць, так што то̀е аж гудзѐ. Алѐ ось чу̀е яна̀, што хтось бра̀знуў у вакно̀. Зірну̀ла яна̀ туды̀, аж пад вакно̀м ста̀іць старэ̀нькая ба̀ба да така̀я старэ̀нькая, што чуць-чуць на нага̀х тры̀маецца. І пыта̀е яна̀ ту̀ю маладзі̀цу, чаму̀ яна̀ так ра̀но прадзѐ да яшчэ̀

ў святу̀ю пъятніцу. Змеша̀ласа маладзіца, не віедае, што каза̀ць. — Гэто-ж сьвя̀то, — ка̀жэ старэнькая ба̀ба. — Эй, ба̀бко, грыэх ленава̀цца, а рабіць не грыэх, — ка̀жэ маладзіца. — А хто̀ж табіе гэто сказа̀ў? — Ніхто̀. Я сама̀ віедаю. — Дак наш табіе ось гэстыпе верацёны, а на іх напрадзі ты мніе сяго̀пячы да вѐчара. Я зайду̀. — Су̀пула ба̀ба праз вакно̀ мо з ко̀пу верацёп, а сама̀ й зні̀кла, от бы ў зѐмлю правалі̀ласа. Спужа̀ласа маладзіца, не віедае, што рабіць. Зірну̀ла на тыпе верацёны да й ду̀мае, што трэ цыэлы ты̀дзень, каб іх напра̀сьці. Не паслу̀хаць-жэ ба̀бу стра̀шно, бо бачно̀, што гэсто не про̀стая ба̀ба, а ці свята̀я, ці ліха̀я. А, віедамо, лю̀дзі ка̀жуць, што бо̀га хвалі̀ да й чо̀рта не гневі̀, бо як прыдзѐцца, та атрыгнѐцца. Седзіць маладзіца, чуць не пла̀чэ. Алѐ ось і ўхо̀дзіць у ха̀ту сівенькі-прасівенькі дзедо̀к. Зірну̀ла на яго̀ маладзіца да й пачала̀ ўспаміна̀ць, дзіе-б гэто яна̀ ба̀чыла яго̀. Яіе не здзівіло то̀е, што дзедо̀к не бра̀скаў ні ў вакно̀, ні ў дзвѐры, а яны̀ былі̀ на засу̀боўцы да й зава̀лены кало̀м. — Дзень до̀бры! — ка̀жэ дзедо̀к. — Здаро̀венек быў! — Памага̀й буог! — Дзя̀куў за до̀брае сло̀во. Садзіса да супачы̀нь. — Дзя̀куй! — Не садзіцца дзедо̀к да ўсе пазіра̀е на тыпе верацёны, а по̀тым і пыта̀е, — на вуо̀што табіе, дзіеткі, так бага̀цько верацёп? — Гэто не маіе, дзіеду. — І расказа̀ла тут маладзіца, як пѐрад ім падхо̀дзіла к вакну̀ яка̀ясь ба̀бка й што яна̀ заста̀віла гэстыпе верацёны да веліела ў вадзіп дзень усіе напра̀сьці. — Што мніе рабіць, дзіеду з гэстаю ба̀баю? — пыта̀е нарэшце маладзіца. — А ты паслу̀хай менѐ. Наві̀ з клубка̀ па гэстыпе верацёны па крысіе пра̀жы да скажы̀, што напра̀ла. — Сказа̀ў то̀е сівенькі дзедо̀к да й зпік. Ту̀олькі тагды̀ ўспо̀мніла маладзіца, што ўчо̀рэ ба̀чыла яго̀ ў цэ̀ркві, як пѐрад яго̀ во̀бразам ста̀віла сьвіечку. — Дзя̀куй-жэ табіе, сьвяты̀ Міко̀ла Чудатвуо̀рац, што паўчы̀ў менѐ, як вы̀бавіцца з беды̀, — памалі̀ласа маладзіца да й абеца̀ла яшчэ̀ паста̀віць Міко̀ле сьвіечку. От намата̀ла яна̀ з клубка̀ гато̀ваіе пра̀жы на ўсіе верацёны да й чака̀е таіе ба̀бы. Ту̀олькі сьцемніело, як ось і бра̀скае яна̀ ў вакно̀. Атчыніла маладзіца вакно̀, а ба̀ба й пыта̀е: — А што, напра̀ла маіе вера-

цѣны? — Напрала, — кажэ маладзіца да й падаè тые ручайкі. — Ну, шчасьце тваè, што ты дагадàласа, як зрабіць, а тоб я скруціла цебе, як вероўку. — За што-ж мене карàць? — пытàе маладзіца. — За тое, што ты святоіе пъятніцы не наважаеш да япчэ досьветкі прадзеш. — Зьнікла тая баба, зьнікли й ручайкі, а маладзіца стаіць кала акна й не віедае, ці гэто было сапраўды, ці ў васьніе. Дачакала яна сьвятоіе недзіелькі, вышаліла ранецько ў печы да зготовіла абіед, а потым хучыэй пабіегла ў цэркву да й паставіла Міколе тоўстую сьвіечку. Выходзіць яна з цэркві, абернуласа, перахрысьціласа да й зірнула япчэ разок на св. Мікалая. А ён як убачыў яіе, дак ківаè галавою да трасе сівою барадою. — Ну, — думае, — ўблагатварыла сьвятого Мікалая, дак і пъятніцы не баюса. — Расказала яна аб тым жанкам, от з тых часаў людзі ў пъятніцу не прадуць і не ўюць, каб не прагневіць сьвятоіе пъятніцы.[1]

Стары дзіед Савіцкі.

Бохаво.

## 59. Недапад.

Што-ж мніе вам расказаць? От здаецца, я ўжэ ўсе расказаў, што знаю. А мо што й забыў. Віедамо, жыву на сьвіеці мо ўжэ восьмы дзісятак. Дак от хібаш раскажу вам гэтакае-ж здарэне з адным кухарам, як ён немуог прыдумаць адпаіе патравы. Туольки гэто не казка, але саусім праўда. А як устарыэе, та мо будзе й казка. Бо тое, што я колісь бачыў і чуў, дак вам здаецца байкаю, адно-ж яно было праўдаю. Бо дауніей былі не такіе людзі, як цепер, да й сьвіет быў іньшы. Бываляшніе паны не нашым рубуня: такіе пушныіе да груозныіе, што ты й не падступіса, бацпэ наравістая кабыла. Каб іх часам не палічылі людзьмі, дак яны не гаварылі, як буог даў, як гаворадь усіе людзі, а гугнявілі, шапелявілі, балбаталі ці заікаліса да цягнулі

[1] Адменьнік. П. В. Шейнъ. Бѣлорусскія народныя пѣсни. СПб., 1874, стр. 425.

ку͡ожнае сло̀во ці вынушча̀лі праз зўбы да лічы̀лі, што яно̀ да-
ражы͡эй зо̀лата. Ка̀жуць жэ, што па̀ньскае сло̀во гры͡эе. Яно̀ як
пагры͡эе, та й го̀лы ў мару͡оз пабежы̀ш на ўцекача̀. А прыдзе
ба̀ло па̀ну ў го̀лаў якѐе-нѐбудзь лі̀хо, дак дава̀й яму̀, хаць радзі̀,
дастава̀й і тагды̀, хаць-бы на надву͡оръі з нѐба сы̀палася ка-
мі͡еньне. Эгэ-ж, упа̀ртыі͡е да пўшныі͡е былі̀ даўні͡ей паны̀. Дак
от яшчэ̀ пры па̀ньшчыні͡е жыў такі̀ пан, што не знахо̀дзіў сабі͡е
ру͡оўні й хаці͡еў, каб у яго̀ ўсе было̀ не па-лю̀дску. Апавесьціў
ён па ўсёй акрўзе, што дась мну͡ого гро̀шэй тако̀му кўхару, ка-
то̀ры цы͡элы гу͡од ку͡ожын дзѐнь бўдзе гато̀віць яму̀ но̀вую стра̀ву.
Алѐ, хто во̀зьмецца, да не дацягне да тэ̀рміну, ці не прыдўмае
но̀ваі͡е стра̀вы, таму̀ пан ніч҆о̀го не запла̀ціць, а ту͡олькі дась сто
бізуну͡оў. Ніхто̀ не берэ̀цца, не хо̀чэ й гро̀шэй, абы̀ не закаш-
тава̀ць бізуну͡оў. А ў таго̀ па̀на быў такі̀ хурма̀н, што ба̀ло як
смалянѐ, дак аж па̀ра пу͡ойдзе. Алѐ жыў там адзін пъяньчўшка.
Ён хаць піў, як у халя̀ву ліў, алѐ да ўсяго̀ быў вѐльмі зда̀тны
да такі̀ штука̀р, так ён вычвара̀ў, што ніхто̀ таго̀ не зро̀біць.
Ба̀ло нема̀ за што вы̀піць, бо ўжэ апу͡ошняе лайно̀ прапіў, а на-
паві͡ер жыды̀ не даюць, дак ён і пачнѐ рабіць уселя̀кіі͡е штўкі,
пачнѐ тако̀е вычвара̀ць, што сьмі͡ех і до̀брым лю̀дзям каза̀ць, дак
падзівяцца лю̀дзі да й дадўць яму̀ кватэ̀ру або̀ дзьві͡е, а натра̀піць
на яко̀го дурно̀го па̀на, дак той сыпанѐ й жмѐню гро̀шэй. От да-
чўуса той пъяньчўшка да й пашо̀ў найма̀цца к таму̀ па̀ну за кў-
хара. Наня̀уса ён да й пача̀ў ку͡ожын дзень прыдумо̀ўваць усе
но̀вую да но̀вую стра̀ву. Прыдўмае да згато̀віць якўю-нѐбудзь
но̀вую патра̀ўку да й закарбўе сабі͡е на кіѐчку. Ї чаго̀ ту͡олькі ён
не гато̀віў, якім ту͡олькі брўдам не карміў пану͡оў. Алѐ, ві͡едамо,
паны̀ не саба̀кі — ўсе зъедзя̀ць да яшчэ̀ аблі̀жуцца. Рабіў ён
каўба̀сы з давальдрэ̀ку, вужо̀вую яѐчню, верашча̀ку з мышы̀ных
хвасту͡оў, каша̀чых вантру͡об да жа̀бячых клю̀шаняк; пъёк пе-
чэ̀пю з пацуку͡оў да чарапа̀х, гато̀віў галярэ̀ту з жабуры͡эня, або̀
з шаршнёваі͡е чарвы̀, рабіў чарвяко̀вае ма̀сло да вашы̀ную за-
таўку. Ку͡ожын дзень усе но̀вае да но̀вае гато̀віць ён па̀ну, а той
і͡есь да ту͡олькі хва̀ліць. Як ужэ вѐльмі хі̀трае прыдўмае кўхар,

дак пан атусю̀ль назьбіра̀е гасьцѐй, часту̀е ён іх да хва̀ліца, што такі̀х патра̀вак нідзі͡е нема̀, апры̀ч у ягò. От так выдумòўваў, выдумòўваў той пъяньчу̀шка да ўсе карбава̀ў кій, нарэ̀шце ўжэ нічòго не мажэ̀ прыду̀маць. От узя̀ў ён кій да й пача̀ў лічы̀ць зару̀бкі, налічы̀ў трысто, кòпу й пъяць. — Ну, — ду̀мае, — от і гу͡од. — Хаці̀еў ён ужэ йці к па̀ну па пѐньсью да яшчэ̀ запыта̀ў людзѐй, ці ўжэ гу͡од, ці ні͡е. А ты̀ні͡е ка̀жуць, што на ягò нешча̀сьцье вы̀даўса прыбышòвы гу͡од. Абла̀яў пъяньчу̀шка Касья̀на, што той яму̀ зрабіў здра̀ду, алѐ нема̀ чагò рабіць, трэ цягці̀ да канца̀. Алѐ ку͡олькі ён ні ду̀маў, як ні круці̀ў галавòю, от хаць ты што, — нічòго не прыду̀мае. А тут к па̀ну атусю̀ль назъезджа̀ласо пану͡оў, па̀няў да панѐнак бы гнòю, хаць ты гаць гаці̀. Паха̀джаюць яны̀ да чака̀юць, што такòе сма̀чнае прыду̀мае штука̀р-ку̀хар. Бі͡егаў, бі͡егаў пъяньчу̀шка з палумі̀скам у руцы͡э, нічòго не прыду̀мае да й пабі͡ег ён яшчэ̀ раз у пòграб, ці нема̀ там чагò такòго, каб зь ягò згатòвіць нòвую патра̀ўку, ці яку̀ю нѐбуць стра̀ву. А тут ужэ̀ й сòнейко пачалò падыма̀цца ў гòру, пара̀ гатòвіць сьні͡едане. Вы̀бег ён на дзедзі̀нец. От ужэ пасту̀х сабра̀ўса выганя̀ць на па̀шу гаўя̀до. Паднялòсо тòе, пацяга̀еца да угнòйвае дву͡ор. Зірну̀ў пъяньчу̀шка, штось прыду̀маў да й падста̀віў карòве палумі̀сак. — Не ўпа̀ло далу͡оў, — сказа̀ў ён сам сабі͡е, — дак гэто бу̀дзе недапа̀д. Навару̀ да насма̀жу сягòднячы пану͡ом так сма̀чно, што яны̀ па̀лцы пааблі̀зваюць. — Пабі͡ег ён барджджы͡ээй гатòвіць недапа̀д — ту̀ю апу͡ошнюю стра̀ву. От згатòвіў ён. Пача̀ў лёкай да накаёўкі захаджа̀цца кала̀ стала̀. Пыта̀е лёкай, яка̀я ў ягò чаргòвая патра̀ва. — Недапа̀д, — адмаўля̀е ку̀хар, — гэто такі̀ смак, што мо ты яшчэ̀ нікòлі такòго не каштава̀ў. Скажы̀ пану͡ом, каб яны̀, як бу̀дуць і͡есьці, трыма̀лі му͡оцно языкі̀, а то праглыну̀ць. — Прышла̀ пара̀, пачалі̀ паны̀ абі͡едаць, алѐ не ядзя̀ць да ўсе чака̀юць, паку̀ль прынесу̀ць ту̀ю сма̀чную чаргòвую патра̀ву. Нарэ̀шце лёкай прынёс недапа̀д. Накі̀нуліса на ягò паны̀, бы сабакі̀ на кòсьці, абò сьві̀ньне на мякі̀ну. Лòпаюць яны̀ да мнуць, аж за вуша̀мі трашчы̀ць. — Ну, — ка̀жуць, — яшчэ̀ такòго сма̀чнаго нікòлі не былò. — Чмы̀хае пан

ат гонару да тульки носам водзіць, бы крутагалуоу. — А пазваць сюды кухара! — кажэ ён. Усупуўса пъяньчушка да й стаў пры парозе бы слуп, чакое, што скажэ пан. — З чаго ты згатовіў гэты недапад? — пытае пан, — скажы, та дам гасьціпца тры дукаты. — Немужне, паночку, — кажэ кухар, — бо сапсуецца. Немужне казаць, пакуль пан не разьлічыць мене, бо ўжэ мніе коньчыуса тэрмін. — От пан заплаціў пъяньчушцы як абецаў мнуого грошэй да яшчэ даў гасьціица тры дукаты. Насыпалі тут яму яшчэ паньскіе госьці грошэй поўну шапку, от тульки тагды сказаў ён пану да тут і ўсім гасьцям, з чаго згатовіў недапад, а сам і супуў наўцекача да просто ў карчму. Пачулі паны, — да пачне іх нудзіць да вярнуць з душы, дак насілу вычухаліса. А што было з панамі да паненкамі, дак аж брыдко казаць. От якое было здарэне.

Стары дзіед Савіцкі.

Бохаво.

## 60. Сьвятое падрыгваньне.

Пашлі нашы людзі ў зарабуоткі дзіесь вельмі далеко да й папалі там расколаў. Віедамо, ў будзенные дні жылі сабіе ў ліесі, пушчалі дзэраво, да рабілі клепку, а ў педзіельку пашлі ў веску, паглядзіець, як там жывуць людзі. Прышлі яны раненько дай паглядваюць сюды-туды. Веска, як веска. Шырокая вуліца, наабапал хаты, а на канцы стаіць вялізазная хата з крыжам на даху. Пачалі туды зьбірацца таманьніе людзі да й кажуць, што гэто цэрква. Прышоў якісь сівы дзіед, атчыніў цэркву, вынес аттуль заліезную штабу, павіесіў яіе на гвуозд да й давай па ёй лупіць малатком. Зьвініць штаба, аж глушыць, а людзі здымають шапкі да хрысьцяцца. Дагадаліса нашы дзяцюкі, што гэто ў іх такі звуон. Уліезлі яны ў цэркву. У цэркві ўсе як трэ: канастас, пратэсы, абразы. Прышоў поп да й кажэ: дзіелайце тое, што я буду дзіелаць. От пачаў ён хрысьціцца да атбіваць паклоны. Хрысьцяцца й людзі да грукають ілбамі аб памуост. За-

пі̑еў пу̑оп. Падхвацілі то̀е й лю̀дзі да й паюць, ба̀цца ў лі̑есі пастухі галё̀каюць. Нарэ̀шце ўзяў пу̑оп чарапо̀к з жа̀рам, насы̀паў туды̀ ла̀дуну да й пача̀ў кадзіць. Кадзі̑ў ён, кадзі̑ў, аж ану̀чы на нага̀х закуры̀ліса. Ва̀ліць дым ат напа̀, ба̀цца з ко̀міна. Пазіра̀юць людзі да гру̀каюць ілба̀мі аб паму̑ост. Тым ча̀сам пу̑оп кі̀нуў з рук чарапо̀к да дава̀й ту̀пацць, тушы̀ць аго̀нь. Уба̀чылі то̀е лю̀дзі да як пачалі ўсі̑е ту̀пацць, дак аж цэ̀рква трасѐцца. Алѐ ось перабіра̀ў, перабіра̀ў нага̀мі пу̑оп, нарэ̀шце не вы̀трымаў, ма̀быць яму̀ такі до̀брэ прыпекло̀, от ён пакаці̑уса до̀лу да дава̀й дры̀гацць нага̀мі. Зірну̀лі лю̀дзі да ўсі̑е ра̀птам грым на паму̑ост да дава̀й дры̀гацць нага̀мі. Паскіда̀ў пу̑оп з пу̑ог ла̀пці да ану̀чы, забра̀ў іх у аха̀пку да тым і ко̀нчыў слу̀жбу. Пачалі лю̀дзі расхо̀дзіцца з цэ̀ркві, от наш чалаві̑ек і пытае та̀машнаго старо̀го, што гэ̀то ў іх за сьвя̀то й што гэ̀то яны̀ рабілі ў цэ̀ркві. А той і ка̀жэ: со̀дня сьвято̀го Дрыгуна̀, от мы й рабілі сьвято̀е падры̀гваньне. Падзівіліса на̀шы лю̀дзі да й ду̀маюць: што край, та абыча̀й, што сяло̀, та но̀раў, а што галава̀, та ро̀зум.

Стары дзі̑ед Савіцкі.

Бохаво.

## 61. Во̀ко на па̀лцы.

Быў адзін мужы̀к да такі здаро̀вы як дуб. Ні я̀кае лі̀хо к яму̀ не прыстава̀ло, ні я̀кая хваро̀ба не магла̀ падступі̀цца. — Якая-така̀я хваро̀ба, — ка̀жэ ён, — я жу̑одна̑е не зна̀ю. От неха̀й пры̀дзе, дак ящчэ̀ паба̀чым, хто каго̀ зло̀міць. — Выхваля̀уса ён, выхваля̀уса, а нарэ̀шце й к яму̀ лі̀хо падкаціласо. Быў здару̑оў, а тут ра̀птам пача̀ў кача̀цца жывато̀м. От так з до̀браго ра̀ю схапіло ра̀птам, што ён аж равѐ ні̑емым го̀ласам. Перш ду̀малі, што гэ̀то прыстры̑эк, што на другі дзень само̀ пру̑ойдзе. Алѐ равѐ ён дзень, равѐ другі, а палёгкі нема̀. Ужэ̀ пачарні̑еў ён бы зямля̀. Пазьбіра̀ліса ба̀бы, пачалі яны̀ шапта̀ць, кінулі на чэ̀раво гаршчо̀к, паілі яго̀ ўселя̀кімі зельями, — от нічо̀го не памагае. Паміра̀е чалаві̑ек да й ту̑олькі. Ба̀чыць жу̑онка, што гэ̀то не пе-

рэ̀ліўкі да й пачала̀ яна̀ прасіць му̑оцнаго ведзьмара̀, каб ён атрабіў, бо гэ̀то ма̀быць было̀ ўдзі̑еяно. Прышо̀ў ведзьма̀р, аглѐдзяў ён ўсю ха̀ту, вы̀лазіў пад ла̀вамі, пад пало̀м, зірну̀ў у падпі̑ечак да й ка̀жэ, што ўдзі̑еяно. Пачала̀ тут жанчы̀на яго̀ прасіць да блага̀ць, каб ён злі̀туваўса да атрабі̀ў.—Не бу̑ойцеса, атраблю̀,—ка̀жэ ведзьма̀р. От узя̀ў ён з семі̀ кало̀дзісяў вады̀, палі̀ў яі̑е ў пляшку, насы̀паў туды̀ по̀пелу, папха̀ў вуглѐў да й яшчэ̀ якоесь шля̀гі да й пача̀ў шапта̀ць. Шапта̀ў, шапта̀ў ён пѐўне з гадзі̀ну да й даў ту̀ю во̀ду хво̀раму піць. Напі̀ўса той, алѐ яшчэ̀ гары̑эй пача̀ў раўці̀. Пашо̀ў ведзьма̀р да гаспо̀ды, а хво̀раму так падпѐрло пад гру̀дзі, што й ды̀хаць ні̑ельга. Равѐ ён так, што аж на ву̀ліцы чува̀ць. Дзівяцца лю̀дзі, што гэ̀то ста̀ласо з тым здаравѐнным чалаві̑екам. Пamipàе такі̀ здараўя̀ка й ніхто̀ нічо̀го не мажэ̀ пара̀дзіць. Ту̑олькі ось на яго̀ шча̀сьце якура̀т ї̑едзе до̀хтур. Параўня̀уса ён з то̀ю ха̀таю, дзі̑е быў хво̀ры, пачу̀ў, што там хтось равѐ да й пыта̀е, што гэ̀то тако̀е. Расказа̀лі лю̀дзі до̀хтару ўсе, як было̀. От ён схапі̀уса з во̀за, ўлі̑ез у ха̀ту да й піча̀ў лечыць таго̀ чалаві̑ека. Нарэшце даў яму̀ яко̀гось зѐлья да й наї̑ехаў у дву̑ор к хво̀руй панѐнцы. Дак от кажы̑эце, на за̀ўтрэ бы рука̀мі зняў. Здару̑оў чалаві̑ек, бы нічо̀го й не было̀. Пра̀шкі лю̀дзі ба̀юць, што дохтурэ̀ не памага̀юць. Той до̀хтур до̀брэ паму̑ог да яшчэ̀ як! От дачу̀уса той чалаві̑ек, што до̀хтур яшчэ̀ го̀сьціць у па̀на да й пашо̀ў яму̀ падзя̀куваць. От узя̀ў ён за па̀зуху дзіся̀так яѐц да й прышо̀ў у дву̑ор. Тым ча̀сам до̀хтур ра̀зам з пана̀мі вы̀шаў у сад і сі̑елі яны̀ там у ценьку̀ пад лі̀паю піць гарба̀ту. Седзя̀ць сабі̑е паны̀ да панѐнкі, пъюць, заку̀сваюць марцыпа̀намі да гамо̀няць з до̀хтурам. Зня̀ў той чалаві̑ек ша̀пку, падышо̀ў бліжы̑эй да целю̀х до̀хтару ў по̀гі. — Чаго̀ табі̑е, чалаві̑ечэ? — пыта̀е до̀хтур. — Дзя̀куй табі̑е, пано̀чку, што мѐнѐ адратава̀ў. — Тут до̀хтур пазна̀ў таго̀ чалаві̑ека да й ка̀жэ: а, гэ̀то ты так учо̀рэ крычаў. Ну, до̀брэ. Цепѐр сьцеражы̀са, та бу̀дзеш здару̑оў. — Я здару̑оў, пано̀чку, дзя̀куваць бо̀гу да й табі̑е. Ось я прынѐс табі̑е гасьці̀нца. — І пача̀ў ён дастава̀ць з-за па̀зухі я̀йца. — Не трэ, не трэ, — замаха̀ў до̀хтур рука̀мі, — лі̑епш

аддай сваі̀м дзіецям. — Тым ча̀сам зацікавіласа па̀ні да й начала пыта̀ць до̀хтура, што тако̀е было̀ з тым чалавіекам. От до̀хтур пачаў раска̀званць па̀ні, што ў таго̀ чалавіека было̀ ў серэдзіне, з чаго̀ ён так крычаў, што ён пачуў аж на ву̀ліцы. Зачуў той чалавіек, што до̀хтур раска̀звае па̀ні, што было ў ём усерэдзіне да й про̀сіць яго̀, каб ён паказаў сваіе ру̀кі. Зьдзівіўса до̀хтур да й ка̀жэ: на паглядзі, калі̀ такі̀ цікавы. — Ру̀кі, як ру̀кі, — ка̀жэ мужы̀к, — от каб табіе да яшчэ во̀ко на па̀льцы, дак яшчэ не такі̀м быў-бы ты до̀хтурам. — Чаму? — пыта̀юць усіе. — А зьвіесно, калі̀ пан до̀хтур цепѐр віедае, што ро̀біцца ў чалавіека ўсерэдзіне, дак тагды̀ ўлажы̀ў-бы па̀лац з во̀кам у сра̀ку да й пабачыў-бы ўсе, што там дзіеецца. — Ту̀лькі гэто мужы̀к прамо̀віў, як усхапіўса пан да й хаціеў яго̀ біць, алѐ не было̀ ча̀су, бо як пачала̀ па̀ні да панѐнкі блева̀ць да рыга̀ць, дак адзін до̀хтур не му̀ог іх ратава̀ць, а пазваў і па̀на.

Стары дзіед Савіцкі.

Бохаво.

## 62. Хто меняе, ў таго̀ хаму̀т гуляе.

Жыў тут недалѐко кала̀ Сѐмежава, а̀ мо й за Сѐмежавам адзін бага̀ты чалавіек. Ён не то, каб быў вѐльмі бага̀ты, а так сабіе до̀бры, заму̀жны гаспада̀р. Гараваў, працаваў, а жыў сьцісло, дак і міеў сабіе не лапу̀ю гаспада̀рку да й асьмаку̀ў на патрэбу. А, віедамо, ў на̀шум ста̀не, калі̀ е хліеб, ведзѐцца гаўядо да пра ліхую беду̀ лежы̀ць дзіе нѐбудзь у шчы̀ліне які̀ зло̀маны гру̀ош, дак ужэ й лі̀чаць бага̀тым чалавіекам. А якое там лі̀хо бага̀цье! Пра̀ўда, ў таго̀ чалавіека велі̀са до̀брые ко̀ні. От ужэ пѐрад сьмѐрцью выгадаваў ён тако̀го каня̀, што про̀сто як ля̀лька, глядзі̀ й не наглѐдзісса. Паіехаў ён на ту̀ом кані̀ да Капы̀ля на кірма̀ш, дак адбо̀ю не было̀ ат людзѐй, агарну̀лі яны̀ каня̀ су сі̀х баку̀ў да й стая̀ць, дзівяцца, бо зро̀ду не ба̀чылі тако̀го каня̀. Дак не ту̀лькі лю̀дзі, а то кажы̀, што й паны̀ да жыды̀ паразяўля̀лі пы̀скі да й дзівяцца, як гэто мужы̀к іездзіць на гэстаку̀ом

кані̀, як ён не растрасѐ яго̀ драбі̀нак. Пачалі̀ тут паны̀ да жыды̀ сму͡олно прыставàць к таму̀ чалаві͡еку — прадàй да прадàй свайго̀ каня̀, беры̀ які͡іе хо̀чэш гро̀шы. — Хіба̀-ж я пайду̀ да гаспо̀ды пі͡ешкі, — атка̀звае той чалаві͡ек, — гэто-ж лю̀дзі засьмею̀ць, а ба̀ба й во̀чы вы̀берэ. — Насілу ён атчапі̀ўса ат іх да хучы͡эй купі̀ў со̀лі, тарану͡оў да ба̀бе абара̀нкаў, ці яшчэ̀ што, падабра̀ў ву͡ожкі, зьвёў з гары̀, сі͡еў на ву͡оз да як палеці͡еў, дак бы мала̀нка. Алѐ не до̀ўго красава̀ўса. Гэто было̀ на Ро̀ха, а пѐрад Бага̀тнікам ён цяга̀ў з бало̀та ата̀ву да вѐльмі спаці͡еў, а тут пад грудко̀м была̀ крыні̀ца, а ў ёй вада̀ чы̀стая, бы сьлеза̀, алѐ халу͡одная, ба̀цэ лёд. От ён як напі̀ўса таі͡е вады̀, дак і занепа̀ў. Жу͡онка туды̀-сюды̀, дава̀й шука̀ць людзѐй. Што яны̀ ні рабілі, які̀х зельёў не дава̀лі, нічо̀го не памагло̀. На пъяты дзень ён і адда̀ў бо̀гу ду̀шу. Застала̀са жу͡онка да сын, ужэ не лапы̀ хло̀пец гэтак гаду͡оў два̀ццаць, а мо й бу͡ольш. Алѐ, ві͡едамо, малады̀, дак яшчэ̀ дурны̀. Які̀ з яго̀ гаспада̀р. За ба̀цькаваю галаво̀ю, дак і ён быў разу̀мны, а як ба̀цько памёр, дак ён не ві͡едае, што й рабі̀ць. А ма̀тка, ві͡едамо, жанчы̀на, кала̀ пѐчы ўмі̀ее захаджа̀нца, а не пра̀віць гаспада̀ркаю. От заты̀м па сьмѐрці старо̀го я̀кась ра̀зам пашла̀ гаспада̀рка на ўпа̀дак: та воўк зары͡эзаў са̀мую лі͡епшую каро̀ву, та сі͡ено зазімава̀ло на бало̀ці, дак не было̀ чым карміць гаўя̀до, так што яно̀ яшчэ̀ да Каля̀д вы̀петрало бы шчы͡эпкі да павычы͡эсвало ўсю шэрсьць, та збу͡ожжэ сту̀хло ў засі͡еку, дак ніхто̀ яго̀ не хаці͡еў купава̀ць. А малады̀ гаспада̀р усѐ ду̀маў, што ён вѐльмі бага̀ты, дак і не ру̀піўса даглядàць гаспада̀рку да зарабля̀ць гро̀шы. Ту͡олькі вясно̀ю, як прышло̀со плаці̀ць пада̀ткі, аглѐдзяўса ён, што гро̀шэй нема̀ да й прада̀ць пі͡ечаго. Аста̀ўса адзін той вѐльмі го̀жы ку͡онь, да й той ужэ не такі̀ гла̀дкі, як быў за жы̀цьце ба̀цька. Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, трэ прадава̀ць каня̀. Алѐ як у гаспада̀рцы жыць без каня̀кі. От і наду̀маўса хлопѐц паменя̀ць каня̀ да ўзяць сабі͡е велікі прыда̀так, та бу̀дзе й ку͡онь і гро̀шы. Пара̀дзіўса ён з сусі͡едам, а той і ка̀жэ: ні͡е, го̀лубе, не меня̀й, бо хто меня̀е, та ў таго̀ хаму̀т гуля̀е. Лі͡епш прада̀й каня̀, вазьмі̀ до̀брые гро̀шы, а на гру͡ош ку̀піш сабі͡е каня̀ку, яка̀я спадаба̀ецца. — Не паслу̀хаў

малады̀ гаспада̀р, паў͡еў каня̀ на кірма̀ш і вы̀мепяў сабі͡е вялізазнаго каня̀ да й узя̀ў яшчэ сто рублѐў прыда̀тку. Рад хлопец. Пака̀звае лю̀дзям каня̀. Зірнулі тые ў зу̀бы, аж таму̀ каню̀ ўжэ пад тры̀ццаць гаду͡оў. Наступілі яму̀ на нѳгу, дак ён чуць не ўпаў. — Абшука̀лі цебѐ канавѳды, хвары̀͡эць іх ма̀тары, — ка̀жуць лю̀дзі, — гэтѳ-ж саўсім дыхліна, хаць ты вы̀кінь за плот. — Цѐраз ты̀дзень паў͡еў хлопец меня̀ць таго̀ каня̀ да й вы̀меняў сабі͡е маладѳго. Рад ён, хаць і даў піддзісят рублѐў прыда̀тку. Зноў пака̀звае нѳвага каня̀ лю̀дзям. Абышлі ты̀͡е кругѳм, паглядзі͡елі ў зу̀бы, пама̀цалі ака̀рак, наступілі на нѳгу, нарэ̀шце давалі махаць пѐрад ачу̀, — хаць бы што, ку͡онь стаіць і не ўхмыля̀ецца. — Дак гэтож ён сьлепы̀, — ка̀жуць лю̀дзі ў вадзін гѳлас. Пусьцілі ягѳ на дзедзінцы да ры̀͡эзнулі пу̀гаю, дак ён прѳсто й су̀нуўса ў сьці͡ену. Нема̀ чаго̀ рабіць, зноў паў͡еў хлопец меня̀ць і тагѳ каня̀. Так дату̀ль ён меняў, пѳкі вы̀меняў таку̀ю каня̀ку, што не пры̀͡ехаў на ёй і да гаспѳды, бо яна̀ ўпа̀ла пасеру͡од дарѳгі да й нѳгі вы̀працілa. Зняў ён хаму̀т, палажы̀ў ягѳ на драбінкі да так самату̀гам і прывалу͡ок іх даму͡оў. І заста̀ўса ён без каня̀кі. А хаму̀т мо й да тых час да̀рам гуля̀е.

Стары дзі͡ед Савіцкі.

Бохаво.

## 63. Князь Радзівіл Каха̀нко.

Жыў даўні͡ей у Нясьвіжу адзін князь Радзівіл. У яго было̀ мну͡ого маёнткаў па ўсёй Случы̀зне. Усі͡е паны̀ яму̀ служы̀лі, бо ён быў над пана̀мі пан. А зь людзямі ён хѳрашо абхѳдзіўса. Бало̀ з кім не загавѳрыць, та за ку͡ожным слѳвам ка̀жэ: каха̀нку, каха̀нку. От за тѳе й прадражнілі ягѳ Каха̀нко. Дѳбры быў князь Каха̀нко, ту͡ольки ён вѐльмі любіў шуткава̀ць да вычвара̀ць ру͡озны̀͡е шту̀кі. Ось раз абъявілі ўсѳды, што князь Каха̀нко зьбіра̀е к сабі͡е атусю̀ль усіх краў͡цу͡оў. Сабра̀ліса краў͡цы̀͡э да й пашлі на тэ̀рмін да Нясьвіжа. Назьбіра̀ласо іх там така̀я сіла, што загрузілі ўсе мі͡есто. Седзя̀ць яны̀ на землі кала̀ пала̀цу, седзя̀ць

дзень, седзя̀ць два, чака̀юць, поку̀ль вы̀дзе князь Каха̀нко да дась ім гасьцінец. Ту͡ольки ось на трэйці дзень чу̀юць яны̀, аж раву̀ць медзьвѐдзі. Пачалі̀ яны̀ азіра̀цца та ў той, та ў другі̀ бу͡ок, аж ба̀чаць, і͡едзе князь Каха̀нко шасьцерыко̀м на медзьвѐдзях, аж пыл курьі̀ць, падкаціў про̀сто к пала̀цам. От і ка̀жуць яму̀ слу̀гі, што его̀ ўжэ трэці дзень чака̀юць краўцэ̀. — А, та до̀брэ, каха̀нку, о, та я за̀рас, — ка̀жэ ён да й наказа̀ўса праз вакно̀. Падышлі̀ краўцэ̀ пад вакно̀, стая̀ць без ша̀пак да чака̀юць, што ска̀жэ князь. — Вы краўцы̀? — пыта̀е князь, — а, та до̀брэ. Краўцы̀ вѐльмі патрэ̀бны лю̀дзям. Дак от што я вам пара̀джу. Вы як бу̀дзеце шыць, та заўя̀звайце ву̀зел. Гаспада̀р бу̀дзе вам дзя̀куваць і дабро̀м вас паміна̀ць.—Пры гэтых сло̀вах ён паверну̀ўса да й пашо̀ў сабі͡е. Пацяглі̀са краўцы͡э на̀за̀д, бы мы̀ла зьі͡еўшы. А князь Каха̀нко зноў куды̀сь паі͡ехаў. А і͡езьдзіў ён за̀ўжды не палю̀цку: аб лі͡ету на са̀нях, а ў зімку на ко̀лах. От я̀кась былі̀ жыду͡оўськіі͡е сьвя̀та. Назьбіра̀ласо жыду͡оў, жыду͡овак да жыдзеня̀т по̀ўна грэ̀бля, так што нема̀ дзі͡е й паверну̀цца. А ві͡едаеце, яка̀я там до̀ўгая грэ̀бля цѐраз во̀зеро. Гуля̀юць жыды͡э, бімкаюць сабі͡е пад ну͡ос. Алѐ ось атку̀ль ні вазьмі̀са, й ко̀ціць Каха̀нко шасьцерыко̀м на медзьвѐдзях да про̀сто на грэ̀блі. Спало̀халіса жыды̀, кінуліса ў бу͡ок да й ырну̀лі ў во̀ду. Насілу іх атту̀ль павыця̀гвалі, а мо като̀ры й залі̀ўса. Не любіў князь Каха̀нко гэстаі͡е по̀гані. Ось як то адзін раз ён гасьціў у сусі͡еда. Пашлі̀ яны̀ на палява̀не. Пача̀ў тут круціцца адзін жыдо̀к, каб падкаціцца к князю да зрабіць які̀ нѐбудь гішэфт. Закмі͡еціў то̀е Каха̀нко да як пыльну̀ў нібы̀то не наро̀кам, дак той жыдо̀к і пакаці̀ўса. — А, шко̀да, шко̀да, — ка̀жэ ён, — я нарабіў шко̀ды, а пэ̀ўне, гэто быў пажо̀ндны жыдэк, хаць ку͡ожды са̀мы пажо̀ндны жыдэк, шыбеніцы варт, алѐ я нарабіў шко̀ды, дак я прышлю па̀ну за то̀е бу͡ольш жыду͡оў. — Паі͡ехаў ён, а на другі̀ дзень велі͡еў налядава̀ць цы͡элы ву͡оз жыду͡оў пад рубѐль да й завезці̀ таму̀ па̀ну. Пішча̀ць жыды̀ пад рублѐм, чуць жывы, а хурма̀н го̀ніць ко̀ней да прэ̀ пархуцькаў у дву͡ор к таму̀ па̀ну. Не любіў Каха̀нко жыду͡оў за то̀е, што яны̀ вѐльмі ла̀сы на гро̀шы, што за

грошы пархі гатовы прадаць бацька й матку. От раз абъявіў ён жыдўом, што будзе плаціць па тры рублie таму, хто залieзе па дзэраво да закукуе бы зеўзюля. Пазарыліса жыды на грошы, пазалазілі ў саду на лiпы да давай кукаваць. Вышаў тут князь Каханко ў сад з дубальтуоўкаю да давай смаліць жыдуоў на ліпах драбамі солі. Забіць не забъе, а туолькі солі насыпле за шкуру. Крычаць жыды нieмым голасам, а ён смаліць да смаліць. Пазвальваліса пархатыie далуоў да туолькі чухаюць азадкі. Заплаціў ён ім па тры рублie да й кажэ: — гэто вам навука, не за сваё дзieло не брацца. Зеўзюля дарма кукуе да людзям грошы гатуе. — Гэто ён намекнуў на тое, што людзі кажуць, — як пачуеш першы раз зеўзюлю, та трэ пакалаціць грошы, каб яны ўвесь гуод вадзіліса ў кішэні.

Дак от які то быў князь Каханко гучны да штучны. Дачуласа аб ём царыца Кацерына. Яна абъезджала сваё царство да й захацieла пабачыць яго. Паслала яна к яму сваіх япаралаў сказаць, што заiедзе к яму да туолькі чакае, пакуль паправяць дарогі, бо яны вельмі трасуць. А гэто было па лieту. От князь Каханко велieў высыпаць дарогу цукрам да й паслаў па царыцу свуой шасьцерык медзьвeдзей, каторыie былі запрэжаны ў сані. Пабаяласа царыца Кацерына iехаць на медзьвeдзях. От тагды князь Каханко прыiехаў к ёй на сустрыэк верхом на лосю. Як пабачыла тое царыца Кацерына дак і сieла на сані да й паiехала на медзьвeдзях па цукру, бы па сьнiегу аж да самых палацаў. Бачыць ён, што царыцы спадабаліса тыie медзьвeдзі, от ён і падараваў іх ёй. За тое яна даравала яму залатую табакieрку з дъямантам. Сьвieціць ён у пуочы, бы вагонь гарыць. Носіць князь Каханко тую табакieрку заўжды пры сабie ў кішэні, а як выме яie поўначы, дак яна й сьвieціць замест ліхтарні. Пазьбіраліса паны мо атусюль да дзівуюцца на тую табакieрку, бо такоie й зроду не бачылі. Дачуўса аб туом каруоль да й велieў, каб князь Каханко прыуёз яму тую табакieрку на паказ. Велieў князь Каханко запрагці ў сані вуосім медзьвeдзей, сieў да й паiехаў да караля. Прыезджае ён да Аршавы, ці што да й садзіць просто

да каралѝ ў палàцы. Як убàчылі там медзьвѐдзей дурньі͡е ляхі̀ да як спалòхаюцца да пабегýць, дак кару͡оль адзін і астàўса. Паказàў князь Кахàнко ямỳ табакі͡ерку, а той і з рук не выпушчàе, так янà ямỳ спадабàласа. Ї начàў кару͡оль прасіць, каб ён уступі̀ў ямỳ тỳю табакі͡ерку. — Берьі, — кàжэ, — што хòчэш, ту͡олькі аддàй. — Дòбрэ, — кàжэ, — вàшае каралѐўскае вялічаство, аддàм я гэ̀стую табакі͡ерку, ту͡олькі вы мні͡е дàйце ту͡олькі землі̀, ку͡олькі я абъѐду за тыдзень. — Кару͡оль згадзі̀ўса па тòе. От князь Кахàнко сі͡еў на сваі̀х медзьвѐдзей да й памчàўса. Абъі͡ехаў ён за тыдзень нѐмаль усѐ каралѐўство да й заўладàў усѐю там землѐю зь людзя̀мі да сусі̀мі маѐнткамі. От чамỳ ў князя Радзівіла так мну͡ого землѝ.

Стары дзі͡ед Савіцкі.

Бохаво.

## 64. Дзеўчына.

Гэто ту͡олькі цепѐр так нарòду намну͡ожыласо, што як ту͡олькі іх землѝ паднімàе. А даўні͡ей людзѐй былò мàло, а землѝ ку͡олькі хòчэш. Зѐмлю мàло абраблѝлі, а бу͡ольш жывілі̀са людзі калà лі͡есу. Лясьі былі̀ такі͡е, што й канцà ім не былò. Людзі селіліса дзі͡ені͡егдзе калà рьі͡эк да на ўзгу͡орачках, разчышчàлі калà хàтак трòхі земѐльку да карпàлі ялі͡е як нѐбудзь. А кругòм шумі͡еў бòжы гай да стаяў з ві͡еку такі̀ густьі да цѐмны, што й нòса не вабъѐш. Людзі хадзілі ў лі͡ес шукàць сьлѐпата да забірàць салòдзенькі медòк. Ідзѐ чалаві͡ек у лі͡ес да ўсе залысвае дзераўля̀кі, ці заўя̀звае кỳклы, каб зрабіць прыкмі͡ету, кудòю вернỳцца назàд, бо без прыкмі͡еты ў такỳой нѐтры адрàзу заблỳдзіш і прападзѐш у лі͡есіні за панìох табàкі. Адньі ту͡олькі разбу͡ойнікі не баяліса цѐмнаго лі͡есу, алѐ й тьіе бу͡ольш рабілі сабі͡е курані ці буданьі дзі͡е нѐбудзь не далѐко ат вѐскі. Яшчэ̀ я быў падшпàркам гэтак гадòў мòжэ дзѐсяці. От раз мы пàсьцілі гаўя̀до. Грыбу͡оў былò вѐльмі шмàт, дак гаўя̀до й разбі͡егласо па лі͡есе. Бі͡егалі мы, бі͡егалі да й загубілі целі̀цу. Пабі͡еглі гэто мы, шукàючы целі̀цу цѐраз ба-

лу͡оцця на астраво̀к да як пралі͡езьлі праз густы̀ і͡ельнік, дак і ба̀чым, аж там стаі̀ць малѐнькая ха̀тка, а бу͡ольш нічо̀го. Улі͡езьлі мы ў ха̀тку, аж там ніко̀го нема̀, ту͡олькі бачно̀, што там хто̀сь жыў. Спало̀халіса мы да наўцекача̀. Расказа̀лі мы бу͡ольшым, от ты̀е аглѐдзялі да й ка̀жуць, што там жылі̀ разбу͡ойнікі, алѐ ма̀быць іх палаві̀лі, ці дзі͡е загі̀блі ўжэ даўно̀, бо стра̀ва ў гаршку͡ох зацьвіла̀, а кала̀ паро̀га зарасло̀ зі͡ельем. Тагды̀ яшчэ̀ быў у жы̀цю му͡ой дзі͡ед. От і прычапі̀ліса мы к яму̀, каб ён расказа̀ў нам пра разбу͡ойнікаў. Му͡ой дзі͡ед вѐльмі до̀брэ раска̀зваў ка̀зкі, ту͡олькі не любі̀ў, калі̀ яго̀ не слу̀хаюць. Ба̀ло пачнѐ ён раска̀зваць, а як ту͡олькі хто загаво̀рыць, або̀ ўста̀не закуры̀ць лю̀льку, дак і кі̀не раска̀зваць. Дак от які̀ быў му͡ой дзі͡ед. Эгэ̀-ж. Дак от прычапі̀ліса мы к дзі͡еду, каб ён расказа̀ў нам пра разбу͡ойнікаў. Перш не хаці͡еў дзі͡ед раска̀зваць нам — падшпа̀ркам, ду̀маў, што мы, ві͡едамо, дзі͡еці, не бу̀дам слу̀хаць, алѐ як мы забажы̀ліса да закляліса, што бу̀дам слу̀хаць, дак ён згадзі̀ўса, закуры̀ў лю̀льку да й пача̀ў раска̀зваць. Гавары̀ў ён паву͡олно; ска̀жэ два-тры сло̀ва, сплю̀не да й зноў ска̀жэ ку͡олькі слу͡оў, паку̀ль зака̀шляе. Дзі͡ед ка̀шляе, а мы седзімо̀ й неварухну͡омса, а ўсе слу̀хаем, — так ён ціка̀во раска̀зваў. Я так неўмі͡ею да й забы̀ўса, бо то̀е было̀ вѐльмі даўно̀. Ба̀чыце, я ўжэ зрабі̀ўса сівы, а тагды̀ от гэ, бы й вы ла̀зіў на дзераўля̀кі да спо̀рваў кубѐльца. Пту̀шачкі пішча̀ць, бъю̀цца пад но̀гі, а мы, пага̀ные хло̀пцы ло̀вім да му̀чым бі͡едных птушаня̀так. Дак от слу̀хайце да не меша̀йце, та я мо й успамяну̀ да й раскажу̀ вам адно̀ здарэ̀не, яко̀е было̀ тут недалѐко. Дзі͡ед на̀ват каза̀ў, дзі͡е то̀е было̀, алѐ я забы̀ўса. От з галавы̀ вы̀скачыло да й ту͡олькі. Алѐ ўсе ру͡оўно. Тун недалѐко пасеру͡од пу̀шчы была̀ малѐнькая ўѐска, гэтак мо дыму͡оў пъяць, ці шы͡эсь. Жылі̀ сабі͡е там лю̀дзі, на лі͡ес гля̀дзячы, ніхто̀ іх не чапа̀ў, ніхто̀ ім ні̀якаі͡е беды̀ не рабі̀ў, бо мо круго̀м на сарачню̀, або̀ ко̀пу версту͡оў не было̀ ні ўѐскі, ні жу͡однаі͡е селі̀бы. Жылі̀ там лю̀дзі ву͡олно, як пту̀шкі. Ту͡олькі ось раз пабі͡еглі хлапчукі̀ ў гушчэ̀чу да й падглѐдзялі, што там хава̀юцца разбу͡ойнікі. Сказа̀лі яны̀ аб ту͡ом бацьку͡ом. Ты̀е дава̀й сачы̀ць і дазна̀ліса, што

гэто там жыву̀ць ліхі͡іе лю̀дзі. Падглѐдзялі яны̀, што ты̀е ліхі͡іе лю̀дзі нічо̀го не ро̀бяць, не гаду̀юць і гаўя̀да, а ўсе ма̀юць, бо ці кра̀дуць у людзѐй, ці гра̀бяць у дваро̀х да на даро̀гах. От і ду̀маюць сабі͡е ты̀е лю̀дзі, трэ даць га̀сла пану͡ом да нача̀лству. Тым ча̀сам разбу͡ойнікі закмі͡еціл̀і, што лю̀дзі з вѐскі вы̀сачылі іх, алѐ сьмі͡ело жыву̀ць там на мі͡ейсцы, бо ду̀маюць, што лю̀дзі не зро̀бляць ім шко̀ды, бо нема̀ за што рабі̀ць ліха, калі̀ яны̀ ніко̀лі ў вѐсцы не рабілі нічо̀го кѐпськаго. Алѐ зрабілі памы̀лку, бо лю̀дзі заўжды ро̀бляць лі̀хо другому ні за што, а так сабі͡е. Жыву̀ць разбу͡ойнікі ціхо й нечака̀юць лі̀ха. А тут паны̀ да нача̀лство сагна̀лі людзѐй са ўсеі͡е акру̀гі, прыгна̀лі маскалѐў да казаку͡оў. Акружы̀лі ты̀е ўвесь о̀ступ да дава̀й калаці̀ць. Ба̀чаць разбу͡ойнікі, што хо̀чуць іх палаві̀ць, от яны̀ й схава̀ліса ў землянку да там і седзя̀ць ціхенько, ба̀ццэ іх і нема̀. Бѐгаюць маскалі͡е да казакі̀ па ўсяму̀ лі͡есу, по̀руцца ў кусту͡ох, а ў лу͡ом да каладзьѐ, дзі͡е была̀ землянка, й не паглядзі͡елі. Перапаро̀лі яны̀ нѐмаль увесь лі͡ес — нема̀ разбу͡ойнікаў, ба̀ццэ яны̀ ў зѐмлю правалі̀ліса, ці схава̀ліса ў во̀ду. А яны̀ вы̀лезлі сабі͡е з землянкі да пазіра̀юць праз лу͡ом, пазіра̀юць да мата̀юць на вус, што маскалѐў да казако̀ў во̀дзяць па лі͡есу ты̀е лю̀дзі, што жыву̀ць у маленьку͡ой вѐсцы. — Пагадзі͡еце-ж, хвары͡эць ва̀шуй ма̀тары, — ду̀маюць разбу͡ойнікі, — мы-ж вам адрыгну͡омса, неха̀й ту͡олькі пу͡ойдуць атсю̀ль маскалі͡е да казакі̀. — Так і было̀. Пахадзілі, пахадзілі маскалі͡е да казакі̀ дармо̀ па лі͡есі, пала̀зілі па гушчэ̀чы да й пашлі сабі͡е да̀лей, куды̀ ім трэ. Абслу̀халіса разбу͡ойнікі, вы̀лезлі з землянкі да й кінуліса на ўѐску. Яшчэ̀ мо маскалі͡е да казакі̀ атышлі̀са версту͡оў пъяць або̀ шы͡эсь, як разбу͡ойнікі спалілі ту̀ю ўѐску, а людзѐй усі̀х перабілі, апры̀ч мало̀і͡е дзі͡евачкі, што тагды̀ ў лі͡есі па̀сьціла гаўя̀до. Варо̀чаюцца разбу͡ойнікі к сабі͡е ў лі͡ес да й сустрака̀юць ту̀ю дзі͡евачку. А яна̀ была̀ хаць і мала̀я, алѐ така̀я го̀жая, што от глядзі͡еў-бы заўжды да й не нагледзісса. І̀ду̀ць разбу͡ойнікі к ёй, а яна̀ седзі̀ць сабі͡е на пеньку̀, плецѐ вено̀к з кві͡етак да паѐ пі͡есьні. Яна̀ паѐ, а гаўя̀до ву̀шы разві͡есіло, слу̀хае, стаі̀ць, бы ўко̀панае. На̀ват птушкі пазлета̀ліса, седзя̀ць

кругѐм на дзѐраве да слу̀хаюць, як паѐ дзеўчы̀на. Паслу̀халі разбу͡ойнікі да й не магу̀ць варухну̀цца, ба̀цэ яна̀ закалдава̀ла іх сваё̀ю пі͡есьняю. Замо̀ўкла дзеўчы̀на да й пачала̀ гнаць гаўя̀до даму͡оў. Пагна̀ла яна̀ гаўя̀до, а разбу͡ойнікі йдуць за ѐю, бо немагу̀ць от яі͡е атарва̀ць (ачу͡оў) ачу̀. Прыгна̀ла яна̀ гаўя̀до на то̀е мі͡ейсцо, дзі͡е была̀ ўѐска, да ту͡олькі сьплеснула рука̀мі. Нема̀ ўѐскі, ту͡олькі яшчэ̀ дагара̀юць галавѐшкі. Падышла̀ яна̀ туды̀, дзі͡е была̀ ха̀тка, аж там валя̀юцца забітьі͡е ба̀цько з ма̀ткаю. Пачала̀ яна̀ пла̀каць да ўбіва̀цца. Пла̀чэ яна̀ да прычыта̀е. — Ой, ма̀тачка-ж мая̀ зеўзю̀лечка, на каго̀-ж ты менѐ пакінула? Ці-ж цебѐ зьві͡ер задра̀ў, ці цебѐ ліхі̀ чалаві͡ек забі̀ў? Ой, бацю̀хно ру͡одненькі, сако̀ле му͡ой я̀сны, чаму̀-ж ты маўчыш, нічо̀го не адмаўля̀еш, менѐ сірату̀ не прыгалу̀біш? На каго̀-ж ты менѐ пакінуў без ладу̀, без спо̀сабу? Ой, ма̀тачка ру͡одненькая, хто-ж мні͡е галу͡оўку намы̀е, хто-ж мні͡е кудзѐркі разчэ̀шэ, хто-ж мні͡е ку͡оску заплецѐ?.. Так пла̀кала да прычыта̀ла та̀я дзі͡евачка, а разбу͡ойнікі стая̀лі да слу̀халі. І мо пѐршы раз закало̀ло ім у сѐрцы; мо пѐршы раз пака̀яліса яны̀, што пабілі тых людзѐй. Вы̀плакаласа дзеўчы̀на да ба̀цэ акамені͡ела, седзіць кала̀ халодні͡е ма̀ткі да пазіра̀е, бы непрыту͡омная. От разбу͡ойнікі пахава̀лі тых людзѐй, забра̀лі дзеўчы̀ну, занялі гаўя̀до да й пагна̀лі ў лі͡ес. До̀ўго прадзіра̀ліса яны̀ праз гушчэ̀чу, нарэ̀шце атаўба̀валіса на прага̀ліне, дзе ў іх была̀ друга̀я ха̀тка. Тут яны̀ пасла̀лі пасьці͡ель да й палажы̀лі ту̀ю дзі͡евачку спаць, а са̀мі сі͡елі ціхенько кала̀ ха̀ткі да так му͡оўчкі й праседзі͡елі цалю̀сьсенькую ну͡оч. Прахапіласа дзі͡евачка, азірну̀ласа да як успамену̀ла пра ма̀тку да ба̀цька, дак і зну͡оў дава̀й пла̀каць да прычыта̀ць. Алѐ як яна̀ ні пла̀кала, як ні ўбіва̀ласа, му̀сіла прывыка̀ць к жы̀цці ў разбу͡ойнікаў. А разбу͡ойнікі з тых ча̀саў саўсім пераменіліса. Го̀дзі яны̀ кра̀сьці да разбіва̀ць. Дава̀й яны̀ лавіць зьверыну̀ да рыбу, дава̀й пасьці да даглядаць то̀е гаўя̀до. Нарэ̀шце пачалі яны̀ рабіць буду͡оўлю да як умі͡елі карпа̀ць зѐмлю, каб зарабіць сабі͡е хлі͡еб. Расьцѐ та̀я дзеўчы̀на да ўсе харашы͡эе й ста̀ла яна̀ така̀я го̀жая, што мо тако̀і͡е нема̀ на ўсём сьві͡еці. Слу̀хаюць яі͡е

ўсіе разбуойнікі, робляць усе, што яна скажэ, робяць затым, што немогуць не рабіць, немогуць неслухаць яіе. От здаецца, каб яна сказала ліезьці ў вагонь, та-б і ў вагні было-б ім не горачо, а так добрэ, як у (раю) небе. Туолькі не доуго міелі разбуойнікі такое шчасьцье, каб пазіраць на туую дзеўчыну. Раз пашла яна ў ліес да й не вернулася. Як ні шукалі разбуойнікі, не маглі яіе знайці. Бацщэ зайшло ім сонейко й сталі яны хадзіць не ў дзень, а ў нуочы, так ім маркуотно было без дзеўчыны. А яна тым часам вышла к рацыэ. Там людзі лавілі рыбу да як убачылі такую гожую дзеўчыну, дак забылі ўсе на сьвіеці, туолькі пазіраюць на яіе. І здаецца ім, што варто мучыцца ўвесь віек, каб туолькі хаць раз зірнуць у тыіе вуочкі, што бы сонейко паляць серцэ, паляць, шчыпаюць, але такі даюць слодыч, якого буольш нема на сьвіеці. Пазірае дзеўчына, а людзям здаецца, што на сьвіеці ўсе так гожэ, так радасно сьвіеціць сонейко, так добрэ жыць, што ліепшаго нічого й не трэ. От пакінулі рыбакі сваё нажэндзе, пасадзілі дзеўчыну ў човен да й павезлі яіе ў веску. Зірнулі людзі на дзеўчыну да й дзякуюць богу, што прыўеў іх хаць раз у жыццю пазнаць слодыч шчасьцья, пазнаць, што на сьвіеці ўсего мілейш небескі погляд гожаіе дзеўчыны. Дачууса царэвіч, што там такая гожая дзеўчына, прыіехаў туды, ўзяў яіе к бацьку да мацци, каб там зрабіць лад. Але дзеўчына дарогаю занепала да й памерла. Налажылі тагды жалобу па ўсе царство. Прайшло мнуого часу, а такоіе дзеўчыны буольш нема, бо мабыць небескі погляд дзеўчыны буог судзіў бачыць туолькі адзін раз у жыццю.

Стары дзіед Савіцкі.

Бохаво.

## 65. Ведзьмар.

Жыла адна маскоўка да вельмі распусная баба. Чаго туолькі яна не вычварала. Не доуго яна пажыла з сваім гаспадаром, як яго забрылі да й здалі ў маскалі. Здалі яго й загналі так далеко, што можэ буольш, як двадцаць гадоў не было аб ём ні якаіе чуткі.

Ужэ̀ ду̀мэла маско̀ўка, што яго̀ й на сві͡еце нема̀шака, што мо
яго̀ й ко̀сці пагнілі̀. Тым ча̀сам прыдба̀ла яна̀ сабі͡е дачку̀. І ў ма-
лѐнстве была̀ яна̀ го̀жая дзі͡евачка, а як падрасла̀, дак ста̀ла та-
ко̀ю харо̀шаю, што ту͡ольки ў ка̀сцы сказа̀ць. Хаць і каза̀лі лю̀дзі,
што я̀блычко ат я̀блыньки далѐко не ко̀ціцца, што дачка̀ бу̀дзе
така̀я-ж распу̀сніца, як і ма̀тка, алѐ за то̀ю дзеўчы̀паю ўвіва̀ліса
нѐмаль усі͡е хло̀пцы з цы͡элаі͡е акру̀гі, така̀я яна̀ была̀ го̀жая да
ўда̀лая. Алѐ яна̀ ніко̀го к сабі͡е не подпуска̀ла. Дзіві̀ліса лю̀дзі да
й пачалі̀ гавары̀ць, што гэ̀то ма̀быць які̀сь вы̀радак, а не дзі͡еўка.
Ту͡ольки ось зъявіўса там на ўѐсцы які̀сь вѐльмі ўда̀лы й го̀жы
хло̀пец і наня̀ўса ў жы̀да ландара̀ па̀рабкам. Ніхто̀ не ві͡едаў, хто
ён такі̀ й атку̀ль ён прышо̀ў. Ту͡ольки пашла̀ паму͡оўка, што ён
ніко̀лі не хры̀сціцца й не хо̀дзіць у цэ̀ркаў. Алѐ другі̀е каза̀лі,
што жыду͡оўськаму па̀рабку й ні͡екалі хадзіць у цэ̀ркаў, калі̀ та̀-
мака й папу͡оў па̀рабак ніко̀лі не быва̀е. Пагаманілі да й за-
мо̀ўклі. Ту͡ольки ось і зпазна̀ласа дачка̀ маско̀ўкі з тым жыду͡оў-
ськім па̀рабкам. Алѐ ві͡едамо, нема̀ як ім пабра̀цца, бо ні ў яго̀,
ні ў яі͡е нічагу̀сенько нема̀шака; ён слу̀жыць у жыду͡оў па̀рабкам,
а ў яі͡е ма̀тцы ту͡ольки адна̀, як ку͡ол старэ̀нькая ха̀тка, што от-
от асу̀пецца. Ні͡ельга ім бра̀цца, алѐ ві͡едамо маладо̀сь, яны так
лю̀бяцца, што й жыць не мо̀гуць ні аднаго̀ дня, як не пабачаць
адно̀ друго̀го. Ту͡ольки ось дачу̀ўса аб ту͡ом малады̀ пан, а ён ужэ̀
даўно̀, дабіра̀ўса да таі͡е дзеўчы̀ны. Была̀ памоўка, што перш той
пан вѐльмі ўчашча̀ў да маско̀ўкі, як яі͡е дачка̀ была̀ яшчэ̀ малѐнь-
кая. Ба̀бы саката̀лі на̀ват, што мо й дзі͡евачка яго̀. Ніхто̀ таго̀
до̀брэ не зна̀ў, алѐ-ж ка̀жуць, што на ба̀бськіе языкі̀ пры̀вязі
нема̀ш. Пача̀ў тут пан сму͡олпо пры̀става̀ць да таі͡е дзеўчы̀ны та
гру͡озьбаю, та про̀сьбаю; алѐ та̀я ка̀жэ: ці цебѐ атручу̀, ці сама̀
засілю̀са, а з табо̀ю жыць не бу̀ду. — Што ні рабі̀ў пан, нічо̀го
не пара̀дзіць з упа̀ртаю дзі͡еўкаю й ду̀мае ён, што гэ̀то яі͡е пад-
бухтэ̀рвае каха̀нак — той уда̀лы парабчу̀к, што слу̀жыць у жы̀да.
От і дава̀й пан дабіра̀цца да таго̀ хлапчука̀. Тут якра̀з падышлі̀
ў жыду͡оў асѐньніе свя̀та. Сабрало̀со ў ту̀ю карчму̀, дзі͡е служы̀ў
уда̀лы хло̀пец, вѐльмі мну͡ого жыду͡оў са ўсеі͡е акру̀гі рабі̀ць ку̀чкі.

Ві͡едамо, жыды̀ ба̀яцца, каб іх чорт не ўхапіў і за̀ўжды наймàюць
сабі͡е хрышчòнаго чалаві͡ека на сьвя̀та, каб ён абараня̀ў іх ат чар-
цѐй. Сабралі̀са жыды̀ да й мыслю̀юць, што цепѐр ім немà чагò ба-
я̀цца чарцѐй, бо ў іх е хрышчòны чалаві͡ек. А яны̀ не ві͡едалі
тагò, што той пàрабак не то, што не хрышчòны, алѐ й сам з лі-
хімі знàецца. Дак от настàла стрàшная ну͡оч, ці як кàжуць ха-
пу̀н. Дрыжàць жыды̀, бы барану͡оў хву͡ост, ба̀яцца, каб кагò чорт
неўхапіў. — Цу̀ес, дзецюцòк, — прòсяць жыды̀ таго парабчукà, —
ты ўзэ нікỳды ад нас не адхòзь і і͡ез сабі͡е г(g)уг(g)ель і ру͡озные
прыпрàўкі да бе͡ры лагòдкі, ту͡олькі пільну̀й нас. — Не зважàйце,
калі̀ не сỳджано, та чорт не ўхòпіць, — кàжэ пàрабак да і͡есь
сабі͡е ўселя̀кіе прысмàкі. Ту͡олькі ось прыбегàе к ямỳ маскòўка
да й кàжэ: — ой, мой гòлубе, ці немà ў цебѐ крыхỳ гары͡элкі?
Жыду͡ом свя̀то, — не прадаю̀ць. Дай хаця кàпельку. — Да што
табі͡е так захаці͡еласо гары͡элкі? Хібо на маладòе ці што. — Па-
шуткавàў парабчỳк. — Ой, злы̀дзень, як табі͡е не гры͡эх смея̀цца
з бі͡еднаі͡е ўдавы̀. — Яна, бàчыце, ўжэ даўнò лічы̀ла себѐ ўдавòю,
бо аб гаспадарỳ не былò ніякаі͡е чỳткі. — Тут кроў вòчы залівàе,
а ён яшчэ смеѐцца. — А што-ж мні͡е плàкаць, што гàрная ма-
скòўка зажадàла гары͡элкі? — Зноў пашуткавàў парабчỳк да й
ушчыпнуў маскòўку за кумпъя̀к. — Аткасні̀са, паршы̀вец, бо я
табі͡е й бі͡ельма павымàю, — закрычàла жанчы̀на, нібѝто абаз-
ліўшыса на парабчукà. — Дак дасі гары͡элкі? — пытàе янà
зноў. — Скажы̀, кагò хòчэш частавàць, та дам. — Саўсім не ля
пачòсткі, а трэ гары͡элка ў зельѐ. — Хібà хòчэш любіспік вары̀ць
да хлòпцаў паіць, каб цебѐ кахàлі. — Маўчы̀, хвары͡эць тваѐй
мàтары! бо бàчу, што ты й без любісніку ўмỳрзаўса па сàмые
вушы. — А хаць і так, да не ў цебѐ. — Ой, глядзі̀, ліхо табі͡е
бỳдзе з тваім кахàнем, бо тòчаць на цебѐ зỳбы. — Хто? — Ві͡е-
дамо, хто. — Пан і ландàр. — Чаго-ж ландàр? — Пакаёўка шап-
пу̀ла мні͡е сягòднячы, што пан прызвàў к сабі͡е ландарà да й ве-
лі͡еў ямỳ найці̀ спòсаб, каб цебѐ ці атдàць у маскалі̀, ці згнаіць
у вастрòзе. — Пачакàй, яж ім, хвары͡эць да стагнàць іх мàтары,
яж ім пакажỳ, як менѐ чапàць, — захадзіўса тут той парабчỳк. —

Дак прыхо̀дзь, — шапну̀ла маско̀ўка, — да ту͡олькі, каб ніхто̀ не ба̀чыў, бо пан нас з гаўно̀м зъі͡есь. — І яна кінуласа бі͡егці да гаспо̀ды. — А гары͡элка, — крычы̀ць хлапчу̀к. — Вы̀пі сам за яі͡е здаро̀вейко. — І маско̀ўкі ту͡олько ху̀стка мігну̀ласа за абу͡озняю. Дагада̀ўса парабчу̀к, хто гэто яна̀, ухмылі̀ўса сабі͡е пад ну͡ос да й пашо̀ў прыслуго̀ўваць жыду͡ом, ту͡олькі ось сустрака̀е яго ланда̀р да й ка̀жэ: ой, до̀бры ты, га̀рны хло̀пец, ту͡олькі кѐпско ро̀біш, што йдзеш про̀ціў вады! — Яко̀і͡е вады̀? Я-ж панасіў вады̀ на цы͡элы ты̀дзень. — Ну, не аб ту͡ом я гавару̀. Я гавару̀, што калі̀ чалаві͡ек ідзѐ з ві͡етрам, та яму̀ лёгко йці, а калі̀ про̀ціў ві͡етру, та ві͡ецер яго̀ валя̀е. — Што ты плецѐш? Кажы̀ про̀сто. — Ты зна̀еш, што ганча̀р не ланда̀р, што хлапѐц маладзѐц, а паніч свіны̀ лыч, да ўсе-ж паніч панічо̀м, яму ўсе непачу͡ом, а хло̀пец як ні пні̀са, а з панічо̀м не бары̀са. Ты до̀бры хло̀пец. Наплю̀й ты на гэтую дзі͡еўку да й разатры̀. — Чаго ты прыста̀ў? Яку̀ю дзі͡еўку? — Ну, — сказа̀ў жыд і падня̀ў уверх плѐчы, аж пѐйсы затраслі̀са, — калі̀ так, калі̀ ты менѐ паслу̀хаес, та й табі͡е бу̀дзе до̀брэ, і ёй бу̀дзе до̀брэ. — Плю̀нуў парабчу̀к і пашо̀ў па сваймỳ дзі͡елу. — Ну, пачака̀йце, хвары͡эць ва̀шуй ма̀тары, — мырчы̀ць ён сабі͡е пад ну͡ос, — да̀мса я вам у знак, як жыду͡ом, так пану͡ом. — От у стра̀шную ну͡оч вы̀мазаўса ён са̀жаю бы чорт, набра̀ў у рот гало̀вак сі͡ернікаў і так разжава̀ў іх, што з ро̀та бы по̀ламъе шыба̀е, патушы̀ў жыду͡оўськіе смарка̀чыкі да й цяга̀е жыду͡оў аднаго̀ за другі̀м, а ты̀е спужа̀ліса, маўча̀ць, ні пі̀снуць, бо яны̀ ду̀малі, што гэто чорт. Схапі̀ў ён перш ландара̀, зацёг яго̀ к азеро̀ду да й запъёр серэ̀дзінаю памі̀ж жардо̀к. Пішчы̀ць жыд, а вы̀лезці не мажэ̀. Схапі̀ў япчэ̀ двух-трох жыду͡оў і пазацяга̀ў іх, каго̀ ў са̀жалку, каго ў стаў кала̀ млына̀, а каго̀ запъёр на бало̀це ў вы̀жар. Разпаўзлі̀са апу͡ошніе жыды̀, бы ра̀кі ў траві͡е, хто куды̀ му͡ог да й пахава̀ліса. А ён пабі͡ег тым ча̀сам у дву͡ор да й усмалі̀ў па̀ньськіі͡е пако̀і, а сам прыбі͡ег у карчмỳ да збіра̀е жыду͡оў. Вы̀цягне жы̀да з пад ла̀вы, сперажэ̀ яго̀ па̀лкаю да й ка̀жэ: адзін жыд. Паку̀ль ён лічы̀ў жыду͡оў, дак ат пако̀яў заняла̀са ахвіцы̀на, ат ахвіцы̀ны пека̀рня, ат пека̀рні ка-

нюшня, вазуоўня, абора, свіран да гумно разам з адрынаю. Пакуль збегліса людзі, дак і тушыць нема чаго: зчысціло двуор, бы языком злізало. Сам пан ці бо наніч насілу выскачыў з агню без парток. Дагадаўса ён, чыя гэто работа, але немашака свіетак. Але праўду кажуць людзі, што пан і тагды праў, як свіетак чорт маў. Дак і той пан веліеў схапіць таго нарабка, каб пасадзіць у вастругог. От сабраў ключвуойт сваіх пахолкаў, да яшчэ й пан наслаў сваю двуорню на памогу, каб схапіць жыдоўськаго нарабка. Акружылі гэто яны карчму су сіх бакуоў да й началі калаціць да шукаць нарабка. А ён тым часам адзіеўса ў жыдуоўськую вуопратку, прычапіў бораду й пейсы, вымазаўса сажаю да й вышаў з карчмы, так што яго ніхто й не пазнаў. Ускочыў гэто ён на ключвуойтаваго каня да й духам прыскакаў да лазні, дзіе атаўбаваўса пан. Зірнуў ён, аш у двары нікого немашака, атчыніў ён лазню да давай піерыць, да давай перыэсціць пана ключвуойтавым канчуком. Лупіць пана да прыгаворвае: от гэто-ж табіе к дзіеўкам прыставаць да людзям жыць не даваць. Перш пан крычаў, а потым і замаўчаў. Збіў ён пана на гуоркае яблыко, садраў з яго персцёнак з печаткаю да й кінуў чуць жывого. Ператраслі ўсю карчму, а нарабка й сліед прастыў. Шукай віетра ў полі, а чалавіека ў ліесі. Тым часам нарабчук прадаў таго каня да на тые грошы справіў сабіе вуопратку,назбіраў руозных зельеў да й ходзіць сабіе па сьвіету да ліечыць людзей. Дзіе зіелье не памагае, там ён нашэпчэ, пахукае, та й паможэ, а не паможэ, та й так будзе гожэ. Куды ні прыдзе та заўжды знайдзе мнуого хворых. От прышоў ён і ў тую веску, дзіе жыў той пан. Ніхто не пазнаў яго, й хворые на перабуой запрашалі к сабіе. Пачуў аб том пан, што на ўесцы такі слаўны знахар і папрасіў яго к сабіе, бо яшчэ да тых часуоў не ачухаўса ат таіе пачосткі, якую яму даў жыдуоўські нарабак. Прышоў той знахар к пану, аглёдзяў яго, дастаў з торбачкі якоесь зіельле, разтоўк яго з салам да й добрэ вышмараваў ім пана з галавы да нуог. Заплаціў яму пан добрые грошы. От знахуор узіў грошы да веліеў пану тры дні не змываць таго зелья, а сам і пашоў далей да й знік,

бы ў во̀ду ка̀нуў. На другі̀ дзень пан зару͡оў ро̀вам, бо з ягò злі͡езла ўся шку̀ра й ці͡ело пакры̀ласо струна̀мі, як у шалу̀дзька. Што ён ні рабіў, к які̀м дахтару͡ом не і͡ездзіў, ніхтò не памага̀е. Так і згніў той малады̀ пан, бы разлі͡езлы грыб. Тым ча̀сам дачка̀ маскòўкі жджэ-паджджэ свайгò каха̀нка, не мажэ ягò дажда̀цца, а тут чу̀е, што пад сѐрцэм штось трапѐчэцца. Доўго маўчала яна̀, а нарэ̀шце прызна̀ласа ма̀тцы Та̀я наўчы̀ла, як зрабі̀ць, каб людзі не даві͡едаліса. От нібы хвары̀эе та̀я дзі͡еўка да й нікуды ачу͡оў не ка̀жэ. Ту͡олькі ось і радзіўса ў яі͡е хлапчу̀к з доўгім хвастòм і з капыта̀мі на нага̀х. Дагада̀ліса тагды̀ ма̀тка й дачка̀, што той га̀рны хлопец быў не хто другі̀, як òбарацень; затым ад ягò й радзіласо такòе плюга̀ўство. Ї задумала маскòўка стра̀ціць тòе дзіця̀. Алѐ дачка̀ пашкадава̀ла ягò забіва̀ць. Ві͡едамо, ку͡ожнуй ма̀цы шкòда свайгò дзіця̀ці. От атнесла̀ яна̀ тòе дзіця̀ ў глухі̀ лі͡ес і там палажы̀ла ягò, а сама̀ хуцѐнько пашла̀ да гаспòды да й сустрака̀е свайгò каха̀нка. Спужа̀ласа яна̀ й усе каха̀не разлеці͡еласо як дым. Перахрысці̀ласа яна̀ да дава̀й бу͡ог нòгі. Чу̀е яна̀, аж той яі͡е каха̀нак зарагата̀ў, бы жарабѐц, да па лі͡есу й разсы̀паўса. Прышла̀ яна̀ даму͡оў ні жыва̀я, ні зма̀рлая, алѐ як памі͡ешаная. Тым ча̀сам аб ту̀ю пòру вернууса з маскалѐў гаспада̀р яі͡е ма̀ткі. Убачы̀ў ён такòю гòжаю тую дзеўчы̀ну й шкòда яму̀ ста̀ло яі͡е. От і дава̀й ён распытòўваць у сваі͡е жòнкі, з ча̀го-б гэто так зрабіласо з тою дзеўчы̀наю. Нема̀ чагò рабіць, му̀сіла жу͡онка расказа̀ць яму̀ ўсе, як было. — От, — ка̀жэ, — яна̀ занесла̀ ў лі͡ес на стра̀ту тòе дзіця̀, дак цепѐр з жа̀лю й ста̀ла непрыту͡омнаю. — Пачу̀ўшы тòе, маска̀ль хуцѐнько пашòў у лі͡ес, знайшòў тòе дзіця̀ да й прынѐс ягò дамòў. Уба̀чыла ма̀тка сваѐ дзіця̀тко й ху̀тко вы̀здараві͡ела. Расцѐ дзіця̀ як грыб, і вы̀рас ху̀тко гòжы хлòпец. Гуля̀е ён з дзецьмі, ту͡олькі нікòлі гòлы нікòму не пака̀зваецца, а нòгі хава̀е ў ла̀пці. Узру͡ос той хлòпец і не было̀ яму̀ ру͡оўні. Такі̀ ён быў зду͡олны да спры̀тны да ўсягò. Ба̀ло, за што не вòзьмецца, та ўсе зрòбіць, усему̀ дась ра̀ду. Ту͡олькі памі̀ж людзѐй седзіць сабі̀е да слу̀хае, а сам маўчы̀ць, а калі̀ ўжэ прамòвіць слòво, дак янò такòе му͡оцнае да шчы-

рае, што аж пах ідзѐ. От пача̀ў ён збіра̀цца ў велікую даро̀гу, хадзіць па сьвіету да ро̀зуму набіра̀цца. Узя̀ў ён кіёчак да пусту̀ю то̀рбачку й пашо̀ў сабіе вандрава̀ць па сьвіету. Куды̀ ні прыдзе, ўсіе разглѐдзіць, разціку̀е да й да̀лей. Дзіе ўба̀чыць, што лю̀дзі не віедаюць, як ім жыць, от ён і раска̀жэ ім, як жыву̀ць у другіх міейсцах. Ба̀чыць шата̀н, што той чалавіек навуча̀е людзѐй, як на свіеце жыць, што ён перасцерага̀е, каб лю̀дзі сцераглі̀са ліхо̀го, дак і дава̀й ён спакуша̀ць яго̀. До̀ўго хадзіў шата̀н ра̀зам з тым чалавіекам, алѐ нічо̀го не муог зрабіць. Перш скінуўса ён вѐльмі го̀жаю дзіеўкаю да й пача̀ў яго̀ залуча̀ць к сабіе. Алѐ той чалавіек і ў той буок не глядзіць. — Што мніе, — ка̀жэ, — дзіеўка? У жанчы̀ны во̀лас до̀ўгі, да вум каро̀ткі. — Паказа̀ў яму̀ шата̀н мнуого гро̀шэй, каб ён паза̀рыўса на іх. Паглядзіеў той на гро̀шы да й ка̀жэ: ма̀быць гро̀шы чорт вы̀думаў, бо з-за іх уся̀ беда̀ на сьвіеце. Бачно̀, што ліхі̀ сабра̀ў усѐ ліхо̀е да й злепіў гро̀шы. А хто віедае, што я ў пустуом міейсцы чуць не памёр без яды̀, хаць і міеў гро̀шы ў кішэ̀ні. Тагды̀ шата̀н скінуўса вѐльмі до̀брым чалавіекам да й пача̀ў намаўля̀ць яго̀ на ўсе до̀брае да й ка̀жэ: от ты са̀мы разумніейшы чалавіек, а шля̀ешса без дзіела. Чаму-б табіе не вучы̀ць людзѐй, каб яны̀ ўсіе роуно былі̀ шчаслівые. Зрабі гэ і ты бу̀дзеш са̀мым сла̀ўным чалавіекам на ўсём свіеце. — Спадаба̀ласо гэто таму̀ чалавіеку, от ён і пыта̀е шатана̀: што ля таго̀ трэ̀ба, каб усіе лю̀дзі былі̀ руоўные да ўсіе руоўно былі̀ шчаслі̀вымі. — А я цебѐ нау̀чу̀ да й сам бу̀ду табіе памага̀ць, туолькі ты дай мніе ро̀спіску, што бу̀дзеш менѐ слу̀хаць і тут і там. — Зго̀да, — ка̀жэ той чалавіек. От шата̀н даста̀ў папіерак і напіса̀ў карталю̀шку да й дае падпіса̀ць. А той ка̀жэ, што не ўміее. — Ну, гэто не біеда̀. Прарыэж ру̀ку да сваё̀ю кро̀ўю й зрабі̀ знак, які хо̀чэш. Той чалавіек так і зрабіў, пракало̀ў нажо̀м шку̀ру на сваё̀й руцыэ да кро̀ўю нама̀заў сваю міетку. Тагды̀ шата̀н даў яму̀ сваю муоц і зрабіў яго̀ велікім ведзьмаро̀м, якіх яшчэ̀ не было̀ на сьвіеце. От і пашо̀ў ведзьма̀р усе перарабля̀ць так, як ён сам ду̀маў, што так найліепш, а шата̀н яму̀ памага̀е й ду̀хам усѐ ро̀біць, што ведзьма̀р хо̀чэ. От і

пашлі яны раўняць людзей: аднаго падрыэжуць, астатак прыложаць другому. Зраўнялі яны ўсіх людзей пад адну мерку, тульки зірнуць, аж самі не падходзяць пад тую мерку. От шатан і кажэ: трэ й нам з усімі зраўняцца. А ведзьмар адмаўляе: а хто-ж будзе людзей вучыць да раўняць, як мы будзем такіе, як і яны. І асталіса яны такімі, як і былі да й пашлі пытаць людзей, шчасліўые яны, ці ніе. От ідуць яны да разглядваюць, як жывуць людзі да й бачаць, што куды яны ні прыдуць, людзі тое тульки й робляць, што падрызваюць адных да надтачваюць другіх. І пытаюць яны ў людзей, ці яны шчасліўы, ці ніе. А людзі й кажуць: той шчасліўы, хто лічыць себе шчасліўым, а мы не можэм себе лічыць, бо за нас лічыце нас вы, а не мы самі. Дагадаўса тагды ведзьмар, што хаціеў шчасця тульки сабіе, а ўсіх людзей зрабіў нешчаснымі, пазнаў ён тое да й годзі слухаць шатана, але той паказаў росписку, схапіў яго крукам пад рабро да й пацёг у пекло. Да тых час, а мо й навіекі віечные будзе той ведзьмар седзіець у смаліе. А людзі як жылі, так і зноў пачалі жыць.

Стары дзіед Савіцкі.

Бохаво.

## 66. Як гожэ.

Гэто было тагды, як паганые жыдэ схапілі Суса Хрыста да й пачалі яго мучыць да зьдзіекувацца. Віедамо, погань. Дзіе яны возьмуць верх, дак ужэ там такое выдумляюць, каб зрабіць як гарыэй. Мучылі яны, мучылі, але нарэшце не віедаюць, якую зрабіць Хрысту сьмерць. Доўго яны г(g)ерг(g)еталі, доўго радзіліса, але нічого не прыдумалі. От і павелі яны Хрыста да самаго старшаго рабіна. А ён быў ужэ самы навучны да самы разумны, бо ўсе па біблі седзіеў. Чытаў ён, чытаў, думаў-думаў да й кажэ, што трэ запытаць хіба самого Хрыста. Куды там, не згаджаюцца паганые жыды пытаць Хрыста, а вядуць яго к другому рабіну да й пытаюць таго, якую даць сьмерць Хрысту. Па-

чаў і той рабін чытаць да думаць. Мысьлеваў ён, мысьлеваў, чытаў-чытаў да й кажэ: калі ўтапіць, та ён выплыве, бо хадзіў па вадзіе й нуог не абмачыў; калі павіесіць, та ён абарвецца. — Пакруціў ён галавою, патруос барадою да й мауляў, што нічого не парадзіць, пакуль не спытае самого Хрыста. Нема чаго рабіць, трэ папытаць. От сабраліса ўсіе паганые жыдэ да й пытаюць Хрыста, якую яму даць сьмерць. Выслухаў Хрыстуос да й кажэ паганым жыдуом: рабіеце, як гожэ. А яны не віедаюць, што гожэ, а што не гожэ, але куолькі яны больш ні пыталі Хрыста, ён ім нічого не атказаў. От тут жыдэ схапілі Хрыста да й укрыжавалі, а рукі й ногі прыбілі гваздамі.

Сакалуоўські.

Бохаво.

## 67. Марцыпаны.

Добрае было ліето: почачы йшоў цёплы дождждык, а ў дзень лаг(g)уодпо прыгравало сонейко, й такое было павіетрэ, што паведзі языком — здаецца бы мёд. Зрадзіло ўсе, як ніколі: цыбуля ў вагароде бы лаза, ў жыце с канём схаваешса, а пшаніца дак аж сплелаcа, хаць ты борапу прыстаў. Такі даў буох зражай, што нема куды й дзеваць. Пазбіралі людзі збуольшаго с поля, наледавалі пуоўны гумна, намалапілі хліеба на дзесяць гадуоў, насыпалі пуоўны засіекі да ешчэ ў ваўсіе кадушкі да кадаўбы. — Ну, — кажуць — даў буох дабра, туолькі каб было каму спажываць. — Віедамо, калі людзям добрэ, та яны баяцца, дрыжаць, каб не было якое беды. Нашаму брату, гарапашніку заўжды е якое нөбудзь ліхо. Праўду-ж кажуць, што чорт ліхо збудзе, адно згіне, дзесяць будзе. От як трохі добрэ, та ўжэ й чакай бы вуол добні гарыэйшаго ліха. Ніхто так, як бабы. Яны ўжэ голасам галосяць, баяцца таіе беды, якоіе яшчэ й не бачно. Бо самы страшны той страх, якого мы яшчэ не бачылі. Дак от галасілі-галасілі бабы, дрыжалі-дрыжалі людзі ат страху, а беды ніякаіе нема-ш; от і давай яны спажываць дабро да вазіць у местэчко

на про̀даж. Куожын дзень, як дась буог ра̀нак, дак ключо̀м цяг-нуцца по̀ўныя ху̀ры хлieба ў местэ̀чко. Туды̀ iедуць цiхо, ту̀олькi вазы̀ скрыпя̀ць, а як варо̀чаюцца наза̀д, дак тагды̀ ўсю̀ды чува̀ць весѐлы го̀ман да пieсьнi. Бачно̀, што лю̀дзi варо̀чаюцца с кiрмашу̀. Адны̀ тро̀хi вы̀пiлi, та набра̀лiса разо̀ну, другìе чу̀юць у мага-лieйцы. А што̀ нi гавары̀, гро̀шы мно̀го даю̀ць разо̀ну. Як нема̀ асьмакуоў, та от так кала̀ сѐрца й завìвае, а як чу̀еш у кiшэ̀нi, та й на сѐрцу веселieй. Гро̀шы не музы̀ка, а як яны̀ зайгра̀юць, та й скака̀ць хо̀чэцца. Заты̀м то с кармашу̀ варо̀чаюцца лю̀дзi весѐлые: паю̀ць пieсьнi да смею̀цца, рагочуць бы падпiпа̀ркi. От гэ было̀ вѐсело на сѐрцу Паўлюку̀, як ён прада̀ў у местэ̀чку цы̀элы вуоз пшанìцы да набра̀ў гро̀шэй по̀ўну кiшэ̀ню. Дай, ду̀мае Паў-лю̀к, куплю̀ то̀е сма̀чшае, што паны̀ едзя̀ць, да й сам зъiėм. От захо̀дзiць ён у кра̀мку, алѐ ба̀чыць, што там не жыдуоўка тар-гу̀е, а якìсь пан цi мо панìч. А ў кра̀мцы такì пах, што нюха̀ў бы дзень й нуоч. Пакруцìў Паўлю̀к но̀сам, ду̀мае, што не туды̀ па-па̀ў, i хацieў су̀нуцца з кра̀мкi, алѐ ось пан пыта̀е, што трэ. — Мнie трэ купìць марцыпа̀наў — ка̀жэ Паўлю̀к. — До̀брэ, — ка̀жэ аптака̀р, — пачака̀й тро̀хi. — Ба̀чыце, Паўлю̀к, зайшо̀ў у апцѐку. От заплацìў Паўлю̀к аптэ̀кару тры рублì, а той пада̀ў яму̀ штось, завiну̀ўшы ў папieр. Паўлю̀к ду̀маў, што за тры рублie аптака̀р дась яму̀ марцыпа̀наў цы̀элае берѐмя, адно̀-ж той даў ту̀олькi, што й у жмѐнi схава̀ецца. Пакруцìў-пакруцìў Паўлю̀к марцы-па̀ны пѐрад ачу̀, паглядзѐў на сваю̀ велìзазную ка̀йстру, ў като̀-рую ду̀маў схава̀ць марцыпа̀ны, панюха̀ў свуой тава̀р — чу̀е, што до̀брэ па̀хне, да й пасу̀нуўса к во̀зу. От напаìў ён кабы̀лу, па-дабра̀ў раскìданы муруог, усхапìўса на драбìнкi да й патарахцieў да гаспо̀ды. От вы̀ехаў ён за местэ̀чко да ўсе спѐбае, паганяе кабы̀лу: вѐльмi хо̀чецца худчы̀эй прыieхаць да гаспо̀ды да па-про̀буваць марцыпа̀ны. От тарахцìць ён да ўсе сплю̀ўвае, бо слìна от так i цэ̀чэ, — вѐльмi хо̀чэцца папро̀буваць марцыпа̀ны. От да-ста̀ў ён з кiшэ̀нi марцыпа̀ны, панюха̀ў, сплю̀нуў слìну да й зноў палажы̀ў сма̀чны гасцìнец у кiшэ̀ню. Яшчэ̀ гарчэ̀й пача̀ў спѐ-баць кабы̀лу да гìкаць на ўсе го̀рло. Та̀я ту̀олькi хвасто̀м кру̀цiць

да пасцыквае, а шпаркасці ніякаіе немаш. От церпіеў-церпіеў Паўлюк да й у другае дастаў марцыпаны. Перш ён панюхаў іх, а потым давай памаленьку лізаць. Лізаў-лізаў, аж пачала піена з роту падаць, бы с кабылы, як яна доўго й хутко прабежыць. Запіеніўса Паўлюк марцыпанамі да й не бачыць, што сусіедзі ззаду нагналі. От параўняліса яны, а адзін сусіед да й пытае:

— Паўлюк, што ты есі?

— Марцыпаны — атмаўляе той і апцірае рукавом піену.

— Якіе табіе марцыпаны, — гэто-ж мыло.

— Было-б і табіе міло, каб даў тры рублè, — атказвае Паўлюк да жумрыць мыло, аж за вушамі трашчыць, бо не то міло, што міло, а то міло, што дораго.

Калеснік.

Перэвалака.

## 68. Дабро й ліхо.

Праўду кажуць людзі, што ніколі не згадаеш, дзіе ліхо, дзіе дабро спаткаеш. От так і ходзіш усю жытку бы ў пацёмках, ходзіш і не віедаеш, што цебе сустрэне. Адзін кажэ, што дабро зьяе бы сонцэ, што мы любім яго сьвіет, але жмурым вочы, бо яго ніельга вытрымаць. Другі кажэ, што дабру людзі вочы выкалалі, дак яно цепер і не ходзіць па сьвіету, а седзіць сабіе на нёбе да ціешыцца, што яму добрэ. Дак за тое ліхо бы ціень ходзіць за чалавіекам да цікуе, каб яго ўкусіць. А што праўда, што крыўда — багі яго віедаюць, бо часам лепшыэй праўда спаліць, чым ліхо пахваліць. От раскажу вам, якое колісь было здарэньне. Жыў сабіе адзін біедны чалавіек. Быў ён такі ціхі, што й вады не замуціць. Працаваў за двох, а гараваў за трох. Мо ліхо ніколі яго не пакідало, а ён ціхенько робіць сваè дзіело да ўсе церпіць. Мо за тое й прадражнілі яго Ціхонам. Жыве сабіе Ціхон у сваёй старэнькуй хатацпы да маўчыць, зубы сцяўшы, хаць часамі нема за што рук заціяць. Дзівяцца людзі, як гэто Ціхон такі біедны, такі нешчасліві, а маўчыць бы трава, ні

ла̀еццa, ні праклінае сваіе до̀лі, ні заві̀дуе людзям. Тые пыта̀юць: як ты жывѐш, Ціхуон? Гэтож у цебе нічо̀го нема̀! — От жыву̀, як буог даў, — атка̀жэ ён да й маўчыць. Алѐ людзі любілі Ціхо̀на, бо віедалі, што ён до̀бры чалавіек, туолькі лічылі, што яму̀ не даў буог до̀браіе до̀лі. А віедамо, калі е до̀бры чалавіек, та чорт ні на крок не атсту̀піцца ат яго̀, дзень і нуоч цікуе, каб як яго̀ спакусіць. От біегаў, біегаў чорт за Ціхо̀нам мо куолькі гадуоў, ужэ збіегаўса бы хо̀рт, а нічо̀го не мо̀жэ пара̀дзіць, — маўчыць Ціхуон да жывѐ, як буог веліць. От чорт і ду̀мае, чым-бы спакусіць Ціхо̀на. — Ось я забе́ру̀ ў яго̀ апу̀ошніе, — ду̀мае чорт, — от тагды ён бу̀дзе нарака̀ць на бо̀га. — Была̀ ў Ціхо̀на адна̀ каруоўка да й тая безхво̀стая. От чорт загна̀ў яіе ў бало̀то, дак яна̀ там і заліла̀са. Пабачыў то̀е Ціхуон, перахрысціўса да й ка̀жэ: бо̀жая во̀ля. Атско̀чыў чорт ат Ціхо̀на мо на цыэлые го̀ны да й невіедае, што рабіць. Палеціеў ён у пѐкло, а там чэрці з яго̀ смеюцца да кепку̀юць, што Ціхо̀на не мажэ̀ спакусіць. Уцёк чорт з пѐкла да й агіна̀еццa ў раю, хо̀чэ там разню̀хаць, чаму̀ бываюць праўдзівые людзі. Туолькі ось убачыў яго̀ буог да й пыта̀е, ці зна̀е ён праўдзіваго Ціхо̀на. Схлусіў чорт і ка̀жэ, што не зна̀е, бо яму̀ вѐльмі со̀рам было̀ прызна̀ццa. І про̀сіць ён бо̀га, каб пазво̀ліў яму̀ зрабіць над Ціхо̀нам пра̀хтыку, які ён праўдзівы чалавіек. Буог пазво̀ліў. Палеціеў чорт на зѐмлю да й падъюдзіў жыдуоў, каб яны абакра̀лі цэркву. Заліезлі жыды нуочч у цэркву да й забра̀лі там гро̀шы, алѐ пабаяліса несці к сабіе, каб ча̀сам не знайшлі, а захава̀лі іх у дуплена̀тую вербу, што схіліласа над пло̀там Ціхо̀на. Туолькі адзін зло̀дзей узяў сабіе срэбны крыж да й замурава̀ў яго ў ко̀мін у ка̀рчме. Агледзіеліса людзі, пачалі шука̀ць зладзіеяў, — нема̀, бы ў во̀ду ка̀нулі. Тым ча̀сам чорт падняў такі віхар, што аж ха̀ты пазваро̀чвало да пала̀мало дзераўлякі. Злама̀ло й ту̀ю вербу. Пашоў Ціхуон сіекці ту̀ю вербу на дро̀ва да зірнѐ, аж там у дуплі гро̀шы. Палічыў ён тые гро̀шы да й пашоў пытаць у папа̀, ці не яны ўкра̀дзены ў цэркві. Зірнуў пуоп да й пазна̀ў тые гро̀шы да й ка̀жэ Ціхо̀ну: давай падзіелімасо, та я ніко̀му не скажу̀, што ты ўкраў. — Я не

краў, — кажэ Ціхуон, — а грошы гэто божые, трэ аддаць у цэркву. — Абазліўса пуоп да й сказаў людзям, што гэто Ціхуон абакраў цэркву, але совесь замучыла, дак прынёс назад грошы. Схапілі Ціхона, звезалі яму рукі, забілі ў калуодкі ногі да й пасадзілі ў ваструог. — Ну, — думае чорт, — яшчэ гарыэй я нарабіў. Цепер Ціхуон саусім святы. А я-ж думаў, што ён возьме грошы сабіе да разбагаціее, дак тагды не важко яго спакусіць. — Тым часам тая бура раскідала старую карчму да й абернула комін. А ў жыдуоў была вескова дзіеўка за наймічку. Убачыла яна ў коміне крыж да думала што гэто цуд, пабіегла яна скарыэй у цэркву да й сказала людзям. От веліеў пуоп забраць пратэсы да абразы, й пашлі яны ў тую карчму. Зірнуць яны, аж гэто той крыж, што зладзіеі ўкралі ў царкві. От тагды схапілі тых жыдуоў да й насадзілі ў ваструог, а Ціхона аслабанілі. Туолькі, віедамо, жыды, падмазалі яны каго трэба да й аслабаніліса з астрогу. Сердзіты яны на Ціхона, што ён знайшоў тые грошы; от узелі яны да й падпалілі Ціхонавую хатку. А Ціхона не было дома, бо ён пачуў, што якісь чалавіек за ракою гукае, просіцца на прамілы бог, каб яго перавезлі цераз рыэку. Віедамо, куожын глядзіць свайго дзіела, — ніхто й не варухнуўса, каб перавезці таго чалавіека. Шкода яго стало Ціхону, от ён сіеў на човен да й папхаўса. Рака была шырокая, пакуль ён перапхаўса на другі буок да пасадзіў таго чалавіека, зірнё на ўеску, аж яго хатка гарыць бы свіечка. — Воля божая, — думае ён да ціхенько грабе веслом, каб не затапіць дзіравы човен. Пакуль яны перабхаліса, дак ат Ціхонаваіе хаткі туолькі вуглі да галавешачкі засталіса. А людзі стаяць кала пожару да кажуць: што яіе тушыць, калі яна ўжэ так згніла, што засталаса адна парахня. От падышоў Ціхуон з тым чалавіекам к пожару да й кажэ: ну, браткo, нема чым цебе частаваць, нема дзіе й сапачыць табіе з дарогі, хіба ось цебе возьмуць к сабіе добрые людзі. Прыміеце, браткі, падаруожнага чалавіека, — кажэ ён людзям. Павелі яны таго чалавіека к сабіе на начліег, а Ціхуон так адзін і застаўса без вечэры кала вуогнішча. Атышліса людзі ат пожару, а той

чалавіек і кàжэ пра Ціхòна: от браткì, бòжы чалавіек. Хатà ў яго гарыць, а ён ціхенько менè перавòзіць цèраз рыэку, каб не замачыць. Мо немàшака такòго дòбраго чалавіека па свіеце.— Але-ж, — згаджàюцца людзі, — дòбры, праўдзівы чалавіек Ціхуон, туолькі ліхўю яму даў буог дòлю. А ты-ж скуль, чалавіечэ?— З далèка, маіе лèбедзікі, — кàжэ ён. Пачалì тут людзі прызірàцца да й пазнàлі, што гэто той канакрàд, што мо ў ваўсёй акрўзе крàдзе кòні. Куолькі раз ягò лавілі да саджàлі ў вастрўог, а ён хаць-бы што? Заплàціць там камў трэ да й знòў цягàе кòні. Пазнàлі ягò людзі да й звезàлі, бо ён яшчэ педàўно ўкрàў тут пàру кòней. За ім гнàліса да немаглì злавіць, бо ён ускòчыў на канія, падлажыў ямў пад хвуост верàўчыну з вузлàмі да як пачàў шмаргàць, дак куонь так хўтко пабіег, што ніхтò не дагнàў.— Э, ён вèльмі хвàліць Ціхòна, — кàжуць людзі, — мàбыць яны ў хаўрўсе крàдуць кòні. Да бачнò, прàўду казàў пуоп, што Ціхуон абакрàў цэркву. Бàчыце-ж жыдуоў пусцілі, пашлì, што яны не вінавàты. — От і пачалì Ціхòна зноў цягàць, цягàць за тòе, што ягò пахвалiў злòдзей. Дòбрэ яшчэ, што знашòўса адзін чалавіек, што ён з Ціхòнам усю тую нуочку, як абакрàлі цэркву, рàзам лавіў рыбу. От ён стаў свіедкаю да й памуог Ціхòну аслабаніцца. Вернўўса Ціхуон на сваè папелішчэ да й стаў перагрыбàць пòпел, каб тут на старуом міейсцы збудавàць сабіе нòвую хàтку. Пераграбàў ён пòпел да й знайшòў там мнуого грòшэй. Хаціеў ён аддàць іх на цэркаў, алè буог яму веліеў самòму спажывàць. І стаў з тых чàсаў Ціхуон дòбрэ жыць да бòга хвалìць. Дак, бàчыце, нікòлі не згадàеш, што дабрò, а што лìхо, бо часàмі ліепш вòраг спалìць, чым злòдзей хвàліць. Цягàўса, цягàўса за Ціхòнам чорт, нарэшце плюнуў да й палеціеў у пèкло, бо так задурыўса, што й сам не разберэ, што лìхо, а што дабрò.

Калеснік.

Перэвалака.

## 69. Платун казак.

У дванаццатум гаду падняўса на біелаго руськаго пара францу́з Напальён. Нагнаў ён сюды вуойська бы цёмная хмара да й пачаў паліць вёскі, гарады да забіваць людзей. Пахаваліса людзі, хто паспіеў у ліес, ці за балото, загналі туды ўвесь свуой статак, а дабро закапалі ў зёмлю. Знішчылі французы ўвесь край, змарнавалі ўсе дабро, так што й самі пачалі надыхаць з голаду. Пераіелі паганые сабак да катуоў, палавілі мышэй да пацукуоў, пастралялі ўсіх варун да й паіелі ўселякую поганъ. Сам цар Напальён ходзіць сабіе па балоце да ловіць жабы або чарапахі, каб пасілкавацца, бо голад не свуой брат, куожнаго як засмокчэ, дак гатуоў сам сабіе руку адгрызці. Соваюцца галуодные французы бы сонные мухі да збіраюць чарвякуоў, жукуоў да ўселякіх слізнякуоў, каб хаць гэстаю пошкудзью набіць сабіе лантух. От і пачалі людзі памаленьку вылазіць з ліесу да дабіваць тых гадаў. Зберуцца яны дзіе-нёбудь грыэцца ў хату, а тут бы з землі вынырне Платун казак да й запаліць атусіоль тую хату. Пекуцца французы бы картопля ў прыску, пекуцца, а вылезці з хаты не могуць, бо дзьвёры калом падпёрты. Гуляе Платун казак та тут, та там і ніяк яго не могуць злавіць французы. Абецаў Напальён вялікі гасцінец таму, хто зловіць Платона казака, ці хаць скажэ, дзіе ён. Але ніхто не мажэ таго сказаць, бо Платун казак летае бы арол, плывае бы шчупак, біегае бы хорт. От перэадзіеўса ён за купца да й прыіехаў к Напальёну, нібыто прадаваць хліеб. Прымае яго Напальён да й пытае: — ой ты слаўны купец-маладзец, ты ўсюды па сьвіету бываеш, усе бачыш, усе знаеш, мо Платона дзіе стракаеш? — Ну, нема таіць чаго, — добрэ знаю я яго. — Цар тут разам схаменуўса, на Платуона азірнуўса. Дак казак той не дурак, паказаў яму канчак. Замахнуўшыса з плеча, рызнуў трэйко з гарача, аж зваліласа карона; сам ускочыў у стрымёна да й крычыць: — лаві Платона. — От які то быў казак, што французам даўса ў знак. Ён па полю

разъезжджа̀е, страх на ва̀рмъю наганя̀е, па̀ліць яняра̀лаў ха̀ты да берэ̀ ат іх гарма̀ты; забега̀е на даро̀зі, то̀піць ву͡ойсько ў Беро̀зі. От адзін стаў Напальён, хаць прыўӗў да нас мільён. От і͡едзе той каза̀к па по̀лю, смі͡ело даў каня̀цы во̀лю. Жы̀то по̀руч каласіцца, крыж за гу͡оркаю ласніцца. Со̀нцо гр͡ыэе, аж печэ̀, ту͡олькі пу͡от с ылба цечэ̀. От ён ша̀пачку здыма̀е, бо̀га шчы̀ро праслаўля̀е, што паму͡ог пранцу̀за раць з кра̀я ру͡однаго прагна̀ць. Ту͡олькі ў жы̀це зашумі͡ело, ра̀птам сэрцэ бы згар͡ыэло. Ту͡олькі ён перахрысці̀ўса да й на карак да каня̀ схілі̀ўса. Казаку͡оў падбі͡егло дво̀е. — Ма̀быць мі͡есто тут ліхо̀е. — Перш пранцу̀за тут забі̀лі, а Рама̀нава местэ̀чко на жало̀бу запалі̀лі. Бы сві͡еча̀ дамы̀ пала̀юць, — то Плато̀на паміна̀юць. Слёзанькі з вачэ̀й цеку̀ць, пі͡есню-ж казакі̀ паю̀ць, як велі̀кі той каза̀к згінуў да̀рам небара̀к.

Калеснік.

Перэвалака.

## 70. Цыга̀н.

Валачы̀ўса па сві͡ету цыга̀н. Сам ён не ві͡едаў, дзі͡е ён радзі̀ўса, дзі͡е ён хрысці̀ўса. Валачы̀ўса ён да ўсе распыто̀ўваў у людзэ̀й, ці была̀ ў яго̀ ма̀тка, ці ні͡е, а пра ба̀цька й не пыта̀ўса, бо ўперу͡од дазна̀ўса, што ў ваўсіх цыгану͡оў нема̀шака бацьку͡оў. І пача̀ў той цыга̀н усіх жанчы̀н называ̀ць ма̀ткамі, а ку͡ожнаго мушчы̀ну ба̀цькам. Куды̀ ні пры̀дзе цыга̀н, та й про̀сіць: дай мні͡е, мату̀лька, кусо̀чак са̀ла, каб табі͡е жы̀тка лі͡епшая ста̀ла, дай яѐчак да лы̀чко каўба̀с, та й бу̀дзе з нас. Сустр͡ыэне гаспадара̀, дак і ка̀жэ: дабры̀дзень, ба̀тю, вам! Ці ра̀ды вы нам? Чаго̀, ба̀тю, зажуры̀ўся, што так ра̀но ажані̀ўся? Не журы̀ся, не турбу̀й, дру͡обных дзі͡етачак гаду̀й. Дзі͡еткі падрасту̀ць, — стракача̀ даду̀ць, а ты, ба̀тю, не гару̀й да гаду̀й, гаду̀й. Ча̀сам та̀я «мату̀лька» за̀мест са̀ла да каўба̀с дась цыгану̀ на квас, а тут гаспада̀р падаспі͡ее да «сыно̀чка» абагр͡ыэе — цы̀эпам ці яко̀ю кацюбо̀ю. Дак ат «ла̀скі» не прапа̀сці. Ён наро̀віць, штоб укра̀сці. Так вало̀чыцца цыга̀н бес клапо̀ту, ба̀цэ пан. Раз яго̀ пачаста-

ва̀лі, — чуць касцѐй не паламà̀лі. З клѐці кѝнулі за плу͡от. Дак цыга̀н жыву̀ч бы ку͡от: тро̀хі до̀ле атлежа̀ўса да й у лі͡ес папхаўса. Там сустры͡эў дзеўчы̀ну маладу̀ю да прыго̀жую таку̀ю, што не ба̀чыў сьві͡ет мо праз сотню лі͡ет. Блѝснуў тут цыга̀н вача̀мі, ба̀цпэ зъі͡еў бы з патраха̀мі. Ту͡олькі дзі͡еўка та̀я — ві͡едзьма хѝтрая стара̀я, цыгана̀ к сабі͡е наймàе, — мі͡ех чырву͡опцаў абецàе, як ён дзень рабо̀ту паро̀біць да по̀ту. Дак не так ён зо̀лата жадàе, як на дзі͡еўку пазірàе. Ї служы̀ць гату͡оў без пла̀ты, бо яго̀ не вы̀ганіш і з ха̀ты, дзі͡е дзеўчы̀на малада̀я ву͡очкамі бліскàе. От згадзі̀ліса на пла̀ту да й пашо̀ў цыга̀н у ха̀ту. Дзі͡еўка ў сту̀пу во̀ду палівàе да яго̀ пытàе, ці таўкці̀ ваду̀ умі͡ее, ці да вѐчара паспі͡ее сту̀пу вы̀сушыць да дна, бо хаць ка̀пелька адна̀ вады̀ зро̀біць мно̀го тут беды̀. Той цыга̀н калі̀ наня̀ўса, дак ён ба̀цпэ запрада̀ўса, стаў абі͡еручкі таўкці̀, ба̀цпэ кру̀пы ля куці̀. Ту͡олькі, ві͡едамо, вада̀, — бры̀ські ска̀чуць, аж беда̀. Кѝнуў на дзеўчы̀ну во̀кам, — ма̀быць закаха̀ўса не нарòкам. Дзі͡е дзеўчы̀па, сам не знàе да дако̀ла пазірàе, аж на до̀ле ка̀ла сту̀пы гро̀шэй ку̀пы. От цыга̀н у мі͡ех зграбàе да хупѐнько уцекàе. Со̀нцо па̀ліць, со̀нцо гры͡эе, ві͡етрык жа̀рам ві͡ее. К вѐсцы цягнецца цыга̀н. — Буду, — ду̀мае, — я пан. Што схачу̀, — куплю̀ за гро̀шы, — бу͡ольш не бу̀дуць гры̀зці во̀шы. — Со̀нцо па̀ліць, со̀нцо гры͡эе, ві͡етрык жа̀рам ві͡ее. Сма̀га то̀міць, сма̀га па̀ліць, аж яго̀ да до̀лу ва̀ліць. — Ба̀тю, дай вадзі̀цы да хало̀днаі͡е з крыні̀цы. — Про̀сіць той цыга̀н. — Не велі̀кі пан, — ка̀жуць ра̀зам мужыкі̀, — вонь цягні̀са да ракі̀. Ко̀ней кра̀сці, дак умі͡ееш, та й напі̀цца там пасьпі͡ееш. — Батю, дай вадзі̀цы, заплачу̀. — Хармазо̀нськіх гро̀шэй не хачу̀. — От нажы̀ў цыга̀н беды̀, што з грашы̀ма без вады̀ да без яды̀! Хо̀дзіць з мі͡ехам за плеча̀мі, ту͡олькі лу̀пае вача̀мі. Ця̀жко гро̀шы валачы̀ць, як на іх і хлі͡еба не купі̀ць, лѐпі͡ей і не жыць. Скі̀нуў мі͡ех цыга̀н на пень, сі͡еў і пла̀чэ цы͡элы дзень. Ту͡олькі вось чарцю̀к падхо̀дзіць і таку̀ю ры͡эч заво̀дзіць — мно̀го ты па сві͡ету шля̀ўса, а вума̀, бра, не набра̀ўса. Ма̀еш зо̀лата мешо̀к, ба̀цпэ жо̀ўценькі песок, да неумі͡ееш, як спажы̀ць, дак хадзі̀ ка мні͡е служы̀ць, навучу̀ на сві͡еце жыць. Ту͡олькі ты зрабі̀ ра-

боту, пакасі дзенёк да поту. — Тут цыган з землі схапіўса, кінуў грошы да й пусціўса біегці па шырокум полі да шукаць сваіе ён долі, каб нікому не служыць да без дзіела віек пражыць.

Тычына.

Пешчанка.

## 71. Цыган музыка.

Быў адзін цыган да якісь шалапаваты, не ўміеў ён красці, бо баяўса прапасці, не ўміеў коней лечыць, а хаціеў так сабіе жыць. Нічого ён не дбаў, тульки на скрышачцы играў. Была ў яго скрыпачка маленькая да дарагенькая. Аткуль ён яіе дастаў, дак і сам не знаў. Тая скрыпка так іграе, так выразно вымаўляе, што здаецца душа з піелам растаецца. Іграў цыган у пануоў, іграў у жыдуоў, іграў на весельлі да на ігрышчах, дзіе людзі прасілі, дзіе грошы плацілі. Што цыган захочэ, скрыпка плачэ, пі рагочэ. От здаецца, скуль і голас той берэцца. Грае цыган, грае да нарэшце заспевае. — Хвацько, — кажуць, — ён іграе, бо такую скрыпку мае, — што гаворыць і спевае. — Дак ніхто не знаў пра то, як цыган часамі граў над ставам за вербамі, як ён душу атвадзіў, што без мілаіе нудзіў. От седзіць цыган на зрмоку. Стаў шырокі збоку. Вербы віетачкі спусцілі. Зуоркі гожэ засьвецілі. Заіграў ён ціхо, ціхо, аж спалохаласо ліхо. Жабы крумкаць перасталі. Лісцікі з вербы упалі. Не лісточкі, а дукаты. Чуе голас: — будзь багаты. Куолькі хочэш забірай, туолькі скрыпку мніе прадай. — І выходзіць з става гідкая праява, — чорцік невелічкі, жвавы, нуос гарбаты, лоб каравы; над вушамі мабыць руожкі, з капытамі нуожкі; між нагамі хвуост сагнуўса. Той музыка схаменуўса. — Скрыпку, — кажэ, — я прадам, туолькі перш пайграю сам. — Згода. — Чорт на знак вільнуў хвастом да й сагнуўса пад кустом. От музыка смыкам цягне, аж даліна зьвягне, палцамі перабірае, аж на сэрцы грае. Ліес прыціх, прыціхлі квіеткі, засмуціліса паліеткі. Нёбо плачэ, слёзы льюцца; камары буольш не таўкуцца. Стаў тут чорт хвастом

крупіць да ў кула̀к трубіць. От цыга̀н суня̀ўса да й з ігрòю папрашча̀ўса. Скры̆пку ён патру͡ос бы гру̀шу да з грудзѐй і вы̆няў ду̀шу. Чорт грашмі̀ ягò абсы̆паў, скры̆пку ўзяў да чуць зарыпаў. Рад, што й так іграе. От цыга̀н у мі͡ех збіра̀е грòшы, мі͡ех кладзѐ на плѐчы, каб схава̀цца ат пусьцѐчы. Пра̀шкі! Ат ліхòі͡е сілы не схава̀ешса, му͡ой мі̀лы. Чорт тры дні смыкòм цяга̀е, скры̆пка свішчэ, да не гра̀е. — Ні͡е, хаць скры̆пка дòбрэ гра̀е, да душы̆ яна̀ не ма̀е, сэрца не шчыпа̀е,—дагада̀ўса чòрцік жва̀вы.— Я купіў не ля заба̀вы. — Чорт схапіў яі͡е пад па̀ху да й даў ма̀ху, ху̀тко пòле й лі͡ес прайшòў, пòкі цыгана̀ найшòў. — Ба̀чыш, скры̆пка без душы̆. На-ж ігра̀й і мні͡е служы̆. — От з тых час цыга̀н іграе, ту͡олькі чòрта пацеша̀е, бо ў ігры̆ нема̀ душы̆, хаць на бòга ты брашы̆.

Тычына.

Пешчанка.

## 72. Бу͡ог ві͡едае, што ро̀біць.

Жылі̀ сабі͡е двòе малады̆х. Яны̆ ту͡олькі яшчэ̀ неда̀ўно пабра̀ліса, як гаспада̀р пашòў у лі͡ес пушча̀ць дзѐраво да знена̀цку паслізну̀ўса кала̀ пня да й папа̀ў пад калòду. Дзѐраво так прыціс̀ло ягò, што й дух вон. Застала̀са маладзіца ўдавòю да яшчэ̀ й тòўстая. Што тут рабіць, як тут адну͡ой жыць, як упраўляцца з гаспада̀ркаю? Была̀ яна̀ вѐльмі гòжая да ўда̀лая жанчы̆на, алѐ ві͡едамо, тòўстая, — ніхтò не паква̀піцца ху̀тко ўзяць за̀муж. От упраўля̀ецца яна̀ адна̀ з гаспада̀ркаю да чака̀е пары̆. Па нема̀лум ча̀се падышла̀ пара̀, й радзіўса ў яі͡е гòжы хлапчу̀к. Сышлі̀са ба̀бы, даю̀ць ёй рату̀нак да ба̀бяць дзіця̀. А ві͡едамо, як чалаві͡ек рòдзіцца, бу͡ог пасыла̀е яму̀ а̀нела. От бу͡ог прызва̀ў аднагò а̀нела да й пасыла̀е, каб ён пашòў да таі͡е маладзі̀цы да й узяў у яі͡е ду̀шу, а сам застаўса з дзіцем. Прылеціеў а̀нел к ту͡ой жанчы̆не, зірну̀ў на малѐнькае дзіця̀тко й шкòда яму̀ ста̀ло рабіць ягò так ра̀но сіратòю. — Не дòбрэ рòбіць бу͡ог, — паду̀маў ён, — як бу̀дзе жыць гэ̀стае дзіця̀ без айца̀ й без ма̀ткі. — Ї не паслу̀хаў ён

бо̀га, хаці͡еласо яму̀ зрабіць лі͡епш. І̀ заста̀віў ён ту̀ю жанчы̀ну ў жы̀цю. Прагні͡еваўса бу͡ог на таго̀ а̀няла, атабра̀ў у яго̀ кры̀ла да й велі͡еў служы̀ць лю̀дзям, а к таму̀ дзіця̀ці прыста̀віў друго̀го а̀няла. От той пѐршы а̀нял аста̀ўса ў ту͡ой вѐсцы й паня̀ўса к папу̀ па̀рабкам. Вы̀здаравела та̀я маладзіца да ста̀ла яшчэ̀ харашы͡эй як была̀. Пачалі̀ к ёй сва̀тацца харо̀шые да бага̀тые жаніхі̀ лі͡епш як к дзі͡еўцы, да̀рам, што ўдава̀. Кру̀ціць яна̀ хвасто̀м да ту͡олькі падма̀ньвае та аднаго̀, та друго̀го. І̀ набрало̀со ў яі͡е такі̀м пара̀дкам жаніху͡оў мо цы͡элы ту̀зін. Абрабля̀юць яны̀ ёй по̀ле, дагляда̀юць гаспада̀рку да адзі̀н пѐрад другі̀м услуго̀ўваюць да но̀сяць ёй ру͡озные падару̀нкі. А яна̀ ціхенько зню̀халаса з сусі͡едам да адбіва̀е яго̀ ат маладо̀і͡е жу͡онкі да ат дру͡обных дзі͡етак. Жывѐ маладая ўдава̀, бы сыр у ма̀сле кача̀ецца да пі͡есьціць свайго̀ хлапчука̀. А той падру͡ос і ніко̀го не слу̀хае. І̀ пачалі̀ ты̀е жаніхі̀ адзін пѐрад другі̀м насі̀ць таму̀ хлапчуку̀ ру͡озные падару̀нкі, каб хаць тым спадаба̀цца ту͡ой удаві͡е. Пі͡есьціць ма̀тка да пі͡есьцяць яі͡е жаніхі̀, от яны̀ так распі͡есьцілі таго̀ хлапчука̀, што ён стаў ні к чо̀рту не варт. Як ту͡олькі ён тро̀хі падру͡ос, так дава̀й ла̀зіць у чужы̀е сады̀ да агаро̀ды. Ма̀тка, за̀мест таго̀, каб ушчува̀ць, дак яшчэ̀ гары͡эй пі͡есьціць свайго̀ сынка̀ да гла̀дзіць яго̀ па галу͡оўцы. І̀ вы̀рас з яго̀ такі̀ ўрві̀с да зло̀дзей, што ту͡олькі ў сьві͡еце пашука̀ць. Залі͡ез ён раз к папу̀ ў і̀сьцёпку да й пакра̀ў там каўба̀сы да палендвіцы. Накла̀ў ён дабра̀ по̀ўную ка̀йстру да чуць плі̀шчыць на загумѐчэ, дзі͡е яго̀ чака̀лі таварышы̀, такіе-ж зладзейчукі̀ як і ён. Тым ча̀сам той а̀нял у гумні͡е маладзіў да й закмі͡еў зло̀дзея. Вы̀скачыў гэто ён з гумна̀ з цы͡эпам да й замахну͡ўса, каб напужа̀ць. Кі̀нуў зладзейчу̀к ту͡орбу, выхапіў канча̀ты пу͡ож да й кі̀нуўса на папо̀ваго па̀рабка, алѐ як пырнуў ён нажэ̀м, так і заста̀ўса на мі͡есьце бы ўко̀паны. Падышо̀ў тут пу͡оп да дава̀й яго̀ страмі̀ць да ла̀яць. От атпусьціў а̀нял зло̀дзея й дарава̀ў яму̀ то̀е на пѐршы раз, ту͡олькі заказа̀ў, каб бу͡ольш ён нічо̀го не краў. Абазлі̀ўса зладзейчу̀к да й падпалі̀ў ну͡очу папу͡оўські͡е харо̀мы, а сам і пабі͡ег у по̀ле. Збі͡егліса лю̀дзі на по̀жар да насі̀лу патушы̀лі, чуць уся̀ ўѐска не згары͡эла. От даў

бу͡ог сьві͡ет, і пашо̀ў папу͡оўські па̀рабак сачы̀ць, хто гэто падпа-лі̀ў харо̀мы. Ба̀чыць ён на расі͡е слі͡ед. Пашо̀ў ён па таму̀ сьлі͡еду да й вы̀сачы таго̀ зладзейчука̀, алѐ ніко̀му не сказа̀ў. Ту͡олькі тагды̀ дагада̀ўса а̀нял, што саграшы̀ў бо̀гу, як пашкадава̀ў таго̀ дзіця̀ці да яго̀ ма̀ткі. Дагада̀ўса, што бу͡ог зна̀ў, што рабі̀ў, калі̀ вѐлі͡еў узя̀ць ду̀шу ў таі͡е жанчы̀ны, каб яна̀ сама̀ не грашы̀ла да й сына не пі͡еступала да не бэсьціла. От пача̀ў ён хадзі̀ць у цэркаў, пача̀ў ка̀яцца да прасі̀ць бо̀га, каб дарава̀ў яму̀ грахі̀. Прыдзе той а̀нял ў цэркаў да й мо̀ліцца, паку̀ль пачну̀ць пі͡ець харуві̀мы, а по̀тым ху̀ценько выла̀зіць з цэркві. Дзівяцца лю̀дзі, чаму̀ гэто папу͡оў па̀рабак ніко̀лі не дастаі̀ць да канца̀. Сказа̀лі яны̀ аб ту͡ом папу̀. Пазва̀ў пу͡оп па̀рабка к сабі͡е да й пытае яго̀, чаму̀ ён стаі̀ць у цэркві ту͡олькі да харуі̀мськаі͡е пі͡есьні, а по̀тым ху̀ценько выхо̀дзіць з цэркві. А па̀рабак адмаўля̀е, што так бу͡ог вѐлі͡еў. Нема̀ чаго̀ яму̀ каза̀ць, бо ён сам за̀ўжды гаво̀рыць лю̀-дзям, што то̀е, ці сѐе бу͡ог вѐлі͡еў. Алѐ зацікаві̀ўса такі̀ пу͡оп, што-б гэто за ён такі̀ быў гэсты па̀рабак і чаму̀ ён не такі̀, як усі͡е лю̀дзі. От вѐлі͡еў ён ста̀расьце наглядаць за тым па̀рабкам, што ён ро̀біць, як вы̀дзе з цэркві. От якра̀з быў там хвэст. Сы-шло̀со й зьі͡ехаласо мну͡ого людзѐй да цэркві, сьцегліса туды̀ са ўсяі͡е акру̀гі старцы̀ й убо̀гіі͡е. Напха̀ласо людзѐй по̀ўна цэрква да й неміі͡есьцяцца, стаяць на цьвінта̀ру. Яшчэ̀ з са̀мага ра̀на ўлі͡ез у цэркву й папу͡оў па̀рабак, памалі̀ўса бо̀гу, а як засьпе-ва̀лі харуі̀мы, от ён ра̀птам праці̀снуўса праз людзѐй да й вы̀шаў на цьвінта̀р. Пашо̀ў з ім і ста̀раста. Зірну̀ў па̀рабак уверх на крыж, нахапа̀ў камѐння да дава̀й шыба̀ць угбру на цэркву да на крыж. Падзіві̀ўса ста̀раста, алѐ маўчы̀ць, чака̀е, што бу̀дзе да̀-лей. Падхо̀дзіць па̀рабак к старцу͡ом, а там іх цы̀элая чарада̀; пасі͡елі ў два рады̀ да на ру͡озные галасы̀ про̀сяць да паюць Ла̀-зара. Алѐ гары͡эй усіх ва ўсе го̀рло крычы̀ць адзін стары̀ дзі͡ед: — падайце міластыньку, до̀брыі͡е лю̀дзі, бі͡еднаму старо̀му. Вам бу͡ог запла̀ціць на ту͡ом сьві͡еці прасьві͡етлым ра̀ям. — Зірну̀ў на яго̀ папу͡оў па̀рабак, схапі̀ў лама̀чыну да дава̀й перы͡эсьціць таго̀ ста̀рца. Кі̀нуліса туды̀ лю̀дзі да й заслані̀лі сабо̀ю старо̀го, а па̀-

рабку ка̀жуць, што немо͡ўжне чапа̀ць бо̀жаго чалаві͡ека. Атышо̀ўса тро̀хі па̀рабак да й сустрака̀е якого̀сь маладо̀го, здаравѐннаго хло̀пца да й даѐ яму̀ ўсі͡е сваі͡е гро̀шы. Ля̀дзіць ста̀раста да ту͡ўлькі дзіву̀ецца, чаму̀ ён так ро̀біць, чаму̀ дае таму̀, хто мажэ сабі͡е зарабіць гро̀шы, а бъе старо̀го жабрака̀. Тым ча̀сам па̀рабак вы̀шаў за плу͡ўт у по̀ле, зірну̀ў увѐрх на со̀нейко да стаў такі̀ весёлы да ра̀дасны, ба̀цэ й не ві͡едама што. Вярну̀ўса ста̀раста к папу̀ да й расказа̀ў усѐ, што рабі̀ў той па̀рабак. — Ма̀быць ён, ба̀цюшко, які̀сь шалапава̀ты, ці не ў сваём вумі͡е, — ка̀жэ ста̀раста. — Ні͡е, гэто не то̀е, — сказа̀ў пу͡оп і велі͡еў пазва̀ць к сабі͡е па̀рабка. Той прышо̀ў. — Скажы̀ мні͡е, — запыта̀ў пу͡оп па̀рабка, — на што ты шыба̀ў камі͡енем у крыж на цэ̀ркві? — А як жэ, ба̀цюшко, не шыба̀ць, калі̀ там кала̀ крыжа̀ ўѐцца цы̀элая чарада̀ чарцей, ба̀цэ мо̀шкі мак таўку̀ць. Я як сьві̀снуў камі͡енем, дак мо з ту̀зін палажы̀ў на мі͡ейсцы, а рэ̀шта разлеці͡еласа чорт ві͡едае куды̀. — А за што ты біў таго̀ старо̀го жабрака̀, што прасі̀ў у людзей мі̀ласьцінкі? — Ба̀цюшко, як-жэ яго̀ не біць, калі̀ ён у сваём лайні͡е зашы̀ў цы̀элую ку̀чу гро̀шэй, а яшчэ про̀сіць бу͡ўльш? Наву͡ўшто яму̀ гэ̀стые гро̀шы, калі̀ ён сам не спажыва̀е й лю̀дзям не даѐ, бы той саба̀ка на сі͡ене, што сам не і͡есь й кару͡ўў не падпуска̀е. — Пачака̀й, я разві͡едаю, ці гэто пра̀ўда — сказа̀ў пу͡оп і пазва̀ў таго̀ ста̀рца. — У цебѐ зашы̀ты ў лайні͡е гро̀шы? — пыта̀е пу͡оп ста̀рца. Той мнѐцца да мъя̀мліць: — зашы̀ты, ба̀цюшко. — Пакажы̀. — Зашы̀ты, ба̀цюшко. — Распары̀. — Нема̀шака нажа̀. — Пу͡оп схапі̀ў з яго̀ лайно̀ да й дава̀й разрыва̀ць рука̀мі ла̀ткі да разгрыза̀ць зуба̀мі. Разгры̀з, а сры̀эбло атту̀ль так і пасы̀палас. Накрыча̀ў тут пу͡оп на ста̀рца да й прагна̀ў яго̀, а гро̀шы пазбіра̀ў да й суну̀ў у кішэню. — А чаму̀ж ты таму̀ маладо̀му да здаро̀ваму хло̀пцу даў гро̀шы? — пыта̀е ён да̀лей па̀рабка. — Я яму̀ заты̀м даў, што ён ужэ даўно̀ без рабо̀ты вало̀чыцца па сьві͡еце й нема̀е чаго̀ і͡есьці. — Ну, а чаму̀ ты ніко̀лі не дастаі̀ш у цэ̀ркві да канца̀ слу̀жбы? — Я ўжэ гавары̀ў ба̀цюшку, што так бу͡ог велі͡еў. — Ты каза̀ў, алѐ-ж я ўсе такі̀ не магу̀ ўразумі͡ець, хто ты такі̀

й чаму̀ ты не слу̀хаеш таго̀, што нам бу͡ог веліць? — Памаўча̀ў тро̀хі той па̀рабак, паглядзі͡еў у вакно̀, да як уба̀чыў, што на дварьі зляці͡еліса анёлы да пачалі̀ пі͡ець харуі̀мськіі͡е пі͡есьні, дак і дагада̀ўса, што бу͡ог прасьціў яму̀. По̀тым і ка̀жэ: — я бо̀жы а̀нял. Менѐ бу͡ог пасла̀ў узя̀ць ду̀шу ў таі͡е ўдавьі, што распі͡есьціла сваі̀го сына, узя̀ць тагдьі, як ён ту͡олькі радзі̀ўса. Я пашкада̀ваў дзіця̀ці, хаці͡еў зрабіць лі͡епш ат бо̀га, а тым ча̀сам зрабі̀ў амы̀лку. Каб яго̀ ма̀тка памѐрла, як ён быў малѐнькі, та й яна̀ не грашы̀ла-б бо̀гу, да й ён не распі͡есьціўса-б, а быў-бы, як усі͡е лю̀дзі. Бу͡ог ві͡едае, што ро̀біць. Я не паслу̀хаў бо̀га і нёс ка̀ру, а цепѐр бу͡ог мні͡е дарава̀ў грахі̀. — Пры гэстых слава̀х папу͡оўські па̀рабак стаў анёлам і замахну̀ў кры̀ламі да й палеці͡еў к сваёй бра̀цьці. Пачу̀лі пу͡оп з ста̀растаю, што ў нёбе паю̀ць да хва̀ляць бо̀га святы̀е анёлы, арханёлы да харуі̀мы, алѐ не ба̀чаць іх. От яны̀ й ка̀жуць: велі̀кі бу͡ог, велі̀кая яго̀ мі̀лась. Ён зна̀е, што ро̀біць.[1]

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 73. Камі͡ене.

Мо̀жэ ба̀чылі часа̀мі, па дубру͡оўцы паўз даро̀гу чэ̀раду камі͡еня. Ба̀чылі, да, бада̀й, не чу̀лі, зку̀ль яны̀ ўзялі̀са. Дак паслу̀хайце старо̀го. Ён вам ска̀жэ не на кпінкі. Ён вам ска̀жэ то̀е дзіво, што даўні͡ей было̀ на сьві͡еці. Там расту̀ць дубы̀ ажно̀ пад нёбо. Адны̀ вырасьлі, згнілі̀ ўсеро̀дку, ці перу̀н разбі̀ў ім бо̀кі, што звалі̀ліса да до̀лу. За̀мяст тых расту̀ць другі̀е. Таўшчыня̀ бы пі͡еч, вышыня̀ — злета̀е ша̀пка. А ў землі̀ лежа̀ць кало̀ды і знад бѐрага круто̀го па рацы͡э на дні͡е глыбо̀ко, пачарні͡еўшы бы вуго̀лье, не гнію̀ць з тых ча̀саў да̀ўніх. От дубъё ў землі̀, пні дубъя̀ навѐрсе, а між іх лежы̀ць ад ві͡еку чарада̀ камі͡еня, бы валу͡оў на па̀шы. Хто да скуль прыці̀с таку̀ю цѐнжар і па бѐразе

---

[1] Адменьнік у В. Н. Добровольскаго. Смоленскій Этнографическій Сборникъ, ч. I, СПб. 1891, стр. 323—325.

раскінуў, бы картòплю ў вагарòдзе? Як вадà цечэ ў ры͡эццы праз лесы̆, балòта, так прайшлì дзенькì да нòчы, зìмы й лі͡еты, так прахòдзяць ві͡ек за ві͡екам і нікòлі не вертàюць. Як зьмепи͡яецца расліна, так зьменяюцца й людзі: рòдзяцца, жывўць, клапòцяць, пòтым памірàюць. Зàмяст іх раджàюцца другìе. Пакрасўюцца на сьві͡еці, прагарўюць жы̆цьце да й прахòдзяць па калі͡ейцы, бàццэ чэргу атбывàюць. Так усè зьменяецца ад ві͡еку. Ту͡олькі ціхенько ў дубру͡оўцы чарадà камі͡еньня сьціць па між дубàмі да чакàе цўду, ці тагò, як бу͡ог пазвòліць стаць і ёй на чэргу, атбывàць калі͡ейку, бàццэ ўсе па сьві͡еці. Дак якòе-ж то камі͡еие і за што янò ат ві͡еку не меняецца як лю̀дзі? То не прòстае камі͡еве і лежы̆ць тут на пакўту, што зрабіло пèрад бòгам гры͡эх велìкі. Як цепèр, мо спрàку ві͡еку тут жылì якіясь лю̀дзі. Сі͡еклі лі͡ес, рабілі пòле да лавілі ў ры͡эццы ры̆бу, а праву͡орпы͡е мужчы̆ны звіера білі ў лі͡есі. Як цепèр мо гаравàлі, працавàлі, даставàлі, як умі͡елі дру͡обным дзі͡еткам жы̆ўнасьць. Раз прышòў туды̆ дзедòк старэнькі, занепàў ён у дарòзі да й пачàў прасìцца пàнач. Не пускàюць ты̆е лю̀дзі. Дзі͡ед пакінуў вèску, сі͡еў у лі͡есі пад дубòчкам да й чакàе сьмèрці. Ту͡олькі ось аднà дзеўчы̆на ціхенько прышòсіць дзі͡еду хлі͡еба сьві͡ежаго паў бўлкі да вады̆ гаршчòчак. Дзі͡ед падзя̀куваў дзеўчы̆не, хлі͡ебам ён пасілкавàўса да й запіў вадòю. — Пращчавàй, галўбко! — дзі͡ед сказàў дзеўчы̆не, — тут жывўць ліхіе лю̀дзі. Бу͡ог іх хўтко пакарàе, бо яны̆ забы̆лі бòга да й жывўць гары͡эй гаўя̀да. Дзі͡е тву͡ой бàцько? — Я не знàю бàцька, — дзі͡еўка адмаўля̀е. — Старшы брат тву͡ой бàцько, а сестрà — брацìха. Сьвет велìкі, ён без крàя. Усюды сьві͡еціць сòнцо, а пад ім е лю̀дзі. Там цебè сустры͡эне шчàсьце, бàццэ шчу͡олку кві͡ешка. Уцекàй хучы͡эй ты з вèскі, каб не стры͡эло ліхо. Уцекàй, не азірàйса. — Плàчэ бі͡едная дзеўчы̆на, а дзедòк, бы дым расплы̆ўса. Што рабіць, самà не знàе, стàла калà дўба, рўкі бі͡елы͡е ламàе. Як ёй кінуць ру͡одны вўгал?! Там сестрà да мàтка па вечэру мо чакàюць. Брат вернўўса з лі͡есу, палавіўшы зьві͡ера. Як пакінуць хàтку, дзі͡е янà аткры̆ла вòчы! Дòбрэ йці ў чужы̆е людзі, як у пàры мìлы, што ведзè за рўчку, бы дзіця̀тко мàтка.

Дòбрэ шчàсьце за гарàмі, як ягò сустрыэнеш, цяжко-ж у дарòзі дзіеўцы без падмòгі. Плàчэ біедная дзеўчына, жàласно галòсіць, аж па ліесі віецер гòлас яіе нòсіць. Азірнўласа на ўёску, не паслўхала старòго, аж немà там хàтак, дзіе яны стаялі, туолькі рад каміеня, бы валы на пàшы. Крыкнула дзеўчына да й закукавàла. Што за дзìво! — зàмяст рўчак — крыла. От з тых чàсаў мо праз віекі рад лежыць каміеня, а зеўзюленька над імі жàласно кукўе да радні шукàе. Не паслўхала старòго, азірнўласа на ўёску дзіеўка, дак зеўзюлей стàла да й праз цыэло жыцце не стракàе шчàсьця, бо не ўе сабіе гнезьдзèчка — мілаіе да муоўкі, туолькі плàчэ да кукўе на высòкум дўбе. А каміеня чўюць, што зеўзюля плàчэ да сказàць не мòгуць, бо акаменіелі.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 74. Вòўчае куотло.

Ліес — бòжы гай. Буог даў ягò людзям на патрэбу. Даўніей ніхтò табіе не бараніў, хадзі па ўсёй пўшчы да й карыстàй усім, што табіе любо. І людзі карыстàлі: лавілі ўселякаго звіера, брàлі ў дупленàтых дзераўляках ат сьлèпата мёд і вуоск, наглядàлі да сіеклі сабіе здàтнае дзèраво, пàсьцілі гаўядо да выраблялі сенажàці, ці выпàльвалі да расчышчàлі ліес на пòле. Куожын абраблÿў зèмлю, дзіе хаціеў. Бо людзі бòжые й земля бòжая. Зèмлю буог аддàў людзям, каб яны працавàлі да зараблялі сабіе жыўнасць. А, віедамо, дзіе буольш жыўнасці, як не ў ліесі. Тут табіе грыбы й ягады, веснòю птўшкі нанесўць яец, хаць ты ў куош грабі, а ўселякаіе жыўёлы так багàцько, што хаць у хліеў заганяй; не трэ ні пасьці, ні карміць, а туолькі лаві, ці страляй. Дòбрэ тагды жылòсо людзям, пòкі не прышлі варагі да не забрàлі зèмлю сабіе. Яны, не то што зèмлю да ліес, алè й балòто да ўселякую пèтру захапілі, наміералі да панасыпàлі капцы. Куды ні сўнса, та межà; ўсе, кàжуць, чужòе. А дзіе-ж нàшэ? Хібà-ж мы не бòжыіе людзі, што нам буог не даў земèлькі?

Пра̀шкі, бу͡ог даў зѐмлю й лі͡ес па ўсіх до̀лю. Алѐ, што ты зро̀біш. Усю̀ды пастаўля̀лі стражнікy͡оў; яны̀ табі͡е й дыхаць не даю̀ць. Ось быў адзі̀н стра̀жнік. Дась бу͡ог сьвято. Ві͡едамо, ў сьвя̀то, сьвято̀е й дзі͡ело. Пу͡ойдуць на̀шы ба̀бы ў лі͡ес па грыбы̀, ці рваць я̀гады, дак ось атку̀ль ні во̀зьмецца той стра̀жнік да не то, што атберэ̀ грыбы̀, ці я̀гады, алѐ й ху̀сткі пазьдзіра̀е да яшчэ̀ назьдзі͡екуецца. Ужэ̀ не раз зьбіра̀ліса на̀шы дзецюкі̀ атсадзіць яму̀ печанцы̀, да ніякім пра̀вам не мо̀гуць яго̀ злавіць, бо ён, зло̀дзей, вѐльмі хі̀тры. Перш ён жыў адзі̀н. Лю̀дзі ду̀малі, што затым ён такі̀ пага̀ны, што адзі̀н, алѐ ашука̀ліса, бо ён як ажаніўса, дак стаў яшчэ̀ гарыэй. Алѐ то кажы̀, й жу͡онку сабі͡е падабра̀ў, таку̀ю-ж ліху̀ю, як і сам. Напладзі̀лі яны̀ дзецѐй. Усі͡е хло̀пцы, бы разбу͡ойнікі, ту͡олькі адна̀ дзеўчы̀на да й та̀я са̀мая мѐньшая. Ху̀тко яны̀ вы̀раслі, на лі͡ес глядзячы, да так пашлі̀ вычвара̀ць, што нему͡ожна й лю̀дзям сказа̀ць, про̀сто, во̀ўчае ку͡отло, да й го̀дзі. А грыэх каза̀ць, здатные былі̀ хло̀пцы, алѐ зда̀тные на ўсе ліхо̀е. Яшчэ̀ ба̀цько здару͡оў як дуб, адзі̀н мажэ̀ ўпра̀віцца, а чаго̀ ім усім стражніка̀ваць? І пашо̀ў адзі̀н сын стра̀жніка ў сьві͡ет шука̀ць сабі͡е шча̀сьця. Зайшо̀ў ён дзі͡есь у велікае мі͡есто да й наня̀ўса служы̀ць у бага̀тага купца̀. Паслужы̀ў ён там мо ку͡олько гаду͡оў і нажы̀ў гро̀шэй, мо бу͡ольш, як у купца̀, да й пача̀ў сам таргава̀ць. Натаргава̀ў ён мну͡ого гро̀шэй да й пача̀ў скупа̀ць у пану͡оў лі͡ес. Ку̀піць пу̀шчу, спля̀жыць дзѐраво, заго̀ніць яго̀ да Кралѐўца, прада̀сь там, заро̀біць мну͡ого гро̀шэй да й зноў купу̀е другу̀ю пу̀шчу. От купі̀ў ён і ту̀ю пу̀шчу, дзі͡е ба̀цько стражнікава̀ў. Пры͡ехаў ён туды̀ да й атубава̀ўса ў бацьку͡оў, нібы̀ то купѐц, алѐ не сказа̀ў ім, хто ён такі̀. Яму̀ хаці͡еласо пабачыць, як жыву̀ць бацькі̀ да браты̀ да як паміна̀юць аб ён. От жывѐ ён у бацьку͡оў, ба̀цца чужаніца да прыгля̀дваецца й прыслухо̀ўваецца. Пражы̀ў ён так мо недзі͡елю або̀ дзьві͡е. Не пазна̀лі яны̀, што гэто сын, бо ду̀малі, што той ужэ̀ даўно̀ загі̀б, ці згні̀ў у вастро̀зе; яны̀ до̀брэ ві͡едалі, які̀ ён быў раску͡ол да зло̀дзей. Ту͡олькі пазна̀ла яго̀ адна̀ ваяско̀вая дзі͡еўка. Ён ко̀лісь вѐльмі кала̀ яі͡е ўвіва̀ўса. Ма̀быць му͡оцно яі͡е каха̀ў і на̀ват ха-

ціеў ажаніцца, алѐ бацькі не пазволілі брàцца з мужычкаю. Янà пòтым служыла у двары пакаеўкаю да там і бачыла ў пàна тагò купцà. Ці пазнаў ён яіе, ці ніе, а мо й пазнàў, да нехаціеў прызнавàцца, бо, віеламо, разбагаціеў, дак куды там яму мужычка, хаць янà й пакаеўка. Ён ужэ на панёнак пазірàе. Там-жэ ў дворы служыла й дачкà стрàжніка. От тàя дзіеўка й шапнула ёй, што ў яіе бàцька жывѐ не хто другі, а яіе буольшы брат. Тым чàсам стрàжнік намòвіўса з жуонкаю да з сынàмі забіць багàтаго купцà да забрàць ягò грòшы. От выдаўса такі ліхі дзень, што, як кàжуць людзі, нàват сабàку не выганіш з хàты, такая там кўдаса. Цалюсьсенькі дзень круціць да мецѐ кўдаса, што й сьвіету бòжаго невідàць, а к нòчы захадзіласа яшчэ гаршэй, бàццэ веліки грыэшнік засіліўса. От яшчэ змрòкам у стрàжніка павечэралі да й палеглі спаць. Равѐ бўра ў кòміне да сьвішчэ за вуглàмі. Штось не сьпіць малады купèц да ўсе варòчаецца па лàве. Пòтым ён задрамаў. Туолькі стрàжнік закміеў, што купèц сьпіць, узяў сакіеру да й секануў ягò абіеручку, алѐ ў пòцемку не папàў, а туолькі ўдырыў тапарышчэм. Прахапіўса купèц, забыў з прасòня дзіе ён да дўмаў, што на ягò напàлі разбуойнікі, выхапіў ён з-пад галавы немèцкі пісталіет да давай паліць. Тым чàсам мàтка кінуласа на ягò з нажэм да й усадзіла ў гòрло. Стралие ён куды папàло, а тут на ягò накінуліса бацькі й браты да й рыэжуць у пацèмках адзін другòго. Тым чàсам як пачўла ат пакаеўкі стрàжніка дачкà, што дòма яіе брат, а не чужы купèц, дак насілу дачакàла вèчара, не паглядзіела й па ліхое надвуорʼе да хучэй пабіегла к бацькуом, бàццэ прачувàла тòе ліхо. Прыбегàе янà пад хàту, зірнѐ ў вакнò, аж цёмно. Пачалà янà стўкаць у дзьвèры — ніхтò не атчыние. Абмàцала гэто янà ў страсіе ключ да й атсўпула зàсаўку. Убіегла ў хàту да й спаткнўласа ў пацёмку на мàтку, бо тàя лежàла калà сàмаго пароѓа. Звàла, звàла дзеўчына, алѐ ніхтò не абзывàецца. Спалòхаласа янà да давай дзьмўхаць агòнь. Уздўла янà лучыну да як зірнѐ, аж уся хàта й плывàе ў крыві. Памàцала янà, аж бàцько, мàтка й усіе браты яшчэ цèплые, алѐ лежàць пòкатам дòле, туолькі ку-

пѐц не зваліу̇са з ла̀вы да так і лежы̀ць, аткі̀нуу̇шы го̀лау̇, а у̇ го̀рле тырчы̀ць канча̀ты ну͡ож, като̀рым ма̀тка крышы̀ла бу- ракі̀. Кі̀нуласа яна̀ з ха̀ты на у̇ѐску звац̀ь людзѐй. Сышлі̀са лю̀дзі, паглядзі͡елі да й ка̀жуць: ото̀-ж во̀учае ку͡отло, така̀я яму̀ й сьмѐрць.

Ры̀эдкі.

В. Рожан.

## 75. Канакра̀д.

У ні͡еякум ца̀рстві͡е, у̇ ні͡еякум гасуда̀рстві͡е, а мо у̇ ту͡ом, дзі͡е мы жыву͡ом, быу̇ такі̀ пага̀ны канакра̀д, што от ні̀якім пра̀вам не у̇пілну͡еш, хац̀ь ты зубамі̀ дзержы̀. Крадзѐ ён ко̀ней гары̀эй цыгана̀, крадзѐ от про̀сто з рук, а ні̀як не зло̀віш. А по̀тым вы- хваля̀ецца да яшчэ̀ пачнѐ кпіць да сьмея̀цца. — Ото̀, — ка̀а, — глусцы̀, ты у̇ іх з-пад но̀са беры̀, а яны̀ хаць-бы што. — Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, трэ церпі͡ець, бо лі̀хо̀го не перамо̀жэш. От церпі͡елі, церпі͡елі лю̀дзі, парэ̀шце дагада̀ліса лі͡еш лі̀ху гадзі̀ць, абы̀ было̀ ці̀хо лі̀хо. От змо̀віліса лю̀дзі да й пачалі̀ ку͡ожын гу͡од плаці̀ць таму̀ канакра̀ду арэ̀нду, каб ён ту͡олькі не крау̇ ко̀ней. Бо, ві͡е- дамо, без каня̀кі, яка̀я табі͡е лі̀хо гаспада̀рка, пусто̀го хлева̀ за̀- тычка. І то кажы̀, як пачалі̀ плаці̀ць ту̀ю арэ̀нду, дак ні у̇ ко̀го ко̀ні не прапада̀юць, а як часамі̀ й прападу̀ць, дак зноу̇ зна̀йдуцца. Лі̀хо яго̀ ві͡едае, што ён рабі̀у̇. Лю̀дзі каза̀лі, што ён ма̀быць з ліхі̀мі зна̀у̇са. Ту͡олькі от раз тра̀ніласо тако̀е здарэ̀ньне, што у̇ нас мо лю̀дзі ніко̀лі не забу̀дуць. Гэ̀то было̀ я̀кась у лі͡етку. Быу̇ які̀сь сьвято̀к, алѐ які̀, от запа̀мятавау̇ ві͡ечным пра̀вам. Ну, алѐ у̇се ру͡оуно. Сьвято̀к, дак сьвято̀к. Была̀ вѐльмі вялі̀кая су̀ша, а тут яшчэ̀ у̇сха̀пі̀у̇са такі̀ ві͡ецер, што аж будынкі вѐрне. Па- зрыва̀у̇ ён да напсава̀у̇ стры̀эхі. От адзі̀н чалаві͡ек пашо̀у̇ у лі͡ес драц̀ь луб, каб пала̀дзіць стры̀эху на сьвіро̀нку, да й замару̀дзіу̇ там да са̀маго змро̀ку. От ту͡олькі вы̀шау̇ ён з лі͡есу на даро̀гу, да й сустрака̀е сябра̀.

— Дабры̀вечар, ся̀брэ!

— Дабрывечар!

— Аткуль бог несе?

— Да з гасподы, а от ты скуль пхаешса?

— З лiесу, сябрэ. Хацiеў знайцi трохi лубкуоў, да нема. Сусiедзi павыдзiралi, на яго ўссе лiхо. А ты куды працi почы?

— Да от трэ схадзiць у мястэчко, купiць у жыдуоў солi. Халадком лiепш.

— Што-ж ты пхнешса пiешкi? Блiзкi сьвiет цягцiса. Хiба шкадуеш кабылы?

— Эгэ-ж, сябрэ, от на старасьцi давелосо пiешкi хадзiць.

— Дзiе-ш твая кабыла? Хiба прадаў?

— Дзiе там прадаў... укралi, братко, от з пад самаго носа.

— Да што ты кажэш? Дзiе ўкралi?

— Выпусьцiў тубылькi на пругмiень папасьцiса да замарудзiў у хацi от як люльку закурыць, потым зiрнуў на пругмiень, аж кабылы й нема. Я туды-сюды, нема, от бы ў зямлю правалiласа.

— Хiба-ж ты не плацiў страхуоўкi?

— Усiе гады плацiў таму гаду па пъяць злотых, а селята зыскаўса дамуоў Сёмко да й не велiеў плацiць.—Гэто—кажэ,—грабiеж, беззаконьне!.. Не плацi, бацько, дармо паганаму канакраду.

— Эй, сябрэ, нашоў каго слухаць. Кепсько, калi яйца курэй вучаць. Мо там па пiсьменнаму й гэ, але ты чуў, што людзi кажуць: бога хвалi, да й чорта не дражнi. Выбачай, — твой сын разумны хлопец, пiсьменны, але ў нашум мужыцкуом дзiеле яшчэ нiчого не знае, бо, вiедамо, блазан.

— Так, братко, так. Ён хаць прачытае, што на карчме нaпiсано, а от, што я буду рабiць без канякi?

— Папытай шчасьцьця, пагаманi з гэстым гадам.

— Гаманiў.

— І што-ж ён кажэ?

— А тое кажэ, што трэ, — каа, — было плацiць страхуоўку, а цепер i за пъяцьдзесят рублеў мо нiельга знайцi кабылу.

— Наплюй яму ў вочы, сябрэ. Гэто тўолькі зьдзіекуецца гад. Чагò там шукàць, калì ён знàецца са ўсėю гэстаю хèўраю, калì не сам украў. Алè пèўне ён. Задавìць мàло гàда! Трэ перш жыўцòм шкўру злупìць, каб дзісятаму заказаў, як крàсьці кòні. Отò кажы, й хуртòвіны па ягò немà...

— Да не дачакàпе ягò, — прыдзè й на ягò гòлаў пагібель... Знàеш, сябрэ, як убàчыў я, што немà каняки, дак такàя менè апанавàла жàлась, так завілò калà сèрца, што хаць жывы лiезь у дамавìну, ці запрадàй чòрту дўшу. І што мніе рабіць, што мніе начàць, мая біедная галўоўка! Грашоў, бàчыш, немà заплацìць гàду. Дзіе тут узяць гэстакую пруорву асьмакуоў, а тут і падàткі не за гарàмі...

— От што, сябрэ, ты слўхай менè. Купì сьвіечку, пастàў яіе ў цэркві пèрад Юръям, памалìса перш бòгу, а пòтым зламì тўю сьвіечку да й павернì агнèм унiз, дак гэсты гад ці прыбежыць перапрашàць да вèрне кабылу, ці выпруціцца бы ражòн.

— Грыэх гэтае рабìць, сябрэ, алè нехàй буог выбачàе, бо нам без каняки немуожне жыць.

— Гэ, сябрэ, кàжэш грыэх! Грыэх у міех, а спасеньне ў тòрбу. Хто скàжэ — грыэх, лупì ў мòрду. Ці-ж за такòго гàда грыэх?

— Ой, баюса я, браткò, баюса грахў, баюса, каб на туом сьвіеці не смàжылі чàрці ў гарàчуй смаліе. Алè гэто мàбыць чорт от так і падъюджвае, от так і шэпчэ ў вўшы — задавì гэстаго гàда, та буог віеку прыбàвіць. От я, браткò, перахрышчўса, дак пèчысь і аткаснèцца.

— Дак што-ж ты яму дарўеш?

— Бàчыш, ён хаць канакрàд, алè ўсе-ж чалавіек, усе-ж бòжае стварэпе. Тўолькі не вытрымаю я, такì настàўлю сьвіечку, як ты кàжэш, да й то баюса, каб не былò грыэх.

— Зірнì, сябрэ, што гэто там, бàцпэ пòжар, ці што?

— Алè-ж здаèцца пòжар. Чўеш, крычàць людзі.

— Бежыэм, браткò, мо сапрàўды якòе лiхо.

— Бежыэм ратавàць.

Бегуць мужыкі, засапліса, чуць духі пераводзяць. От падбіеглі яны трохі, выскачылі за гаек да зірнуць, аж праўда — пожар: от так дым і валіць, поламъе шыбае аж пад небо.

— Лядзі, лядзі, сябрэ, гэто-ж гарыць канакрад. От такі нарваўса. Пакараў буог за люцкіе слёзы.

— Ой божухно, бацюхно! Отò-ж нешчасьце! А ў яго-ж куча дзецей.

— Ну, пашоў каго шкадаваць! Які воўк, такіе й ваўчанята.

— Грыэх табіе будзе, сябрэ! Дзіеці — божыіе янгелятка. Чаго яны будуць пакутаваць за бацькоў?

Падбегаюць мужыкі бліжыэй да й бачаць, адно-ж там зьбіеглíса людзі, але стаяць кала агню насупіўшыса, а пожару не тушаць.

— Чаго вы стаіцè, хварыэць вашуй матары, — крычыць той мужык, у якого ўкралі кабылу, — чаму не тушыце пожару? Бачыце, які віецер усхадзіўса?

— Ну, чаго, сябрэ, лаешса? Нехай гад гіне.

— А ў хаці нікого нема? — пытае ўсе той мужык.

— Чаму нема? Сам ён ось вадзіўса загрудкі з якімсь жыдам, мабыць такім канакрадам як і сам, вадзіўса да распраўляўса нажом. Але ў таго нуож яшчэ даўжыэйшы. От і вырупіліса яны тут абудва. А дзіеці мабыць у хаці.

Зірнуў той мужык, да й бачыць, што канакрад і зубы вышчарыў да й валяецца бы падло, пераскочыў ён цераз яго, не ўсьпіелі людзі й ахнуць, як ён сунуў у самы агонь.

— Праваў чалавіек ні за панюх табакі, — кажуць людзі, тым часам мужык выскачыў з агню, акрыўшыса колдраю да й вынес з хаты малое дзіця канакрада. Пакуль людзі стаялі да ціешыліса, што загіб канакрад, дак усхадзіўса такі віхар, што заняласа ўся вёска да й змокла. От бы языком зьлізало. Асталаса туолькі будуоўля таго чалавіека, што баяўса граху. Дак гэто мабыць так буог даў.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 76. Любо̀шчы.

У ві͡еякум ца̀рстве, ў ні͡еякум гасударстве, за даўні͡ейшы час, як яшчэ̀ не было̀ нас, жыў сабі͡е адзін кару͡оль да ві͡едзьма-караліха, па яі͡е ліха. Не было̀ ў іх дзецѐй. І пача̀ў кару͡оль турбава̀цца, што нема̀ каму̀ пакінуць свайго̀ ца̀рства. Пача̀ў ён турбава̀цца да пача̀ў ду̀маць, каб прагна̀ць ці стра̀ціць ту̀ю караліху, а ўзяць сабі͡е другу̀ю жу͡онку, дак мо ат таі͡е бу̀дзе сын. Праню̀хала аб ту͡ом караліха да й наду̀малася абшука̀ць таго̀ караля̀, ту͡олькі-б ёй заста̀цца караліхаю. От і ка̀жэ яна̀ каралю̀, што нарэ̀шце ста̀ла то̀ўстаю. Абра̀дуваўся кару͡оль, беражэ̀ ён жу͡онку, бы во̀ко да чака̀е, паку̀ль пры̀дзе той час, што яна̀ обрадзіцца. Тым ча̀сам сама̀ намо̀вілася з ба̀бамі, каб яны̀ даста̀лі ёй чужо̀го малѐнькаго хло̀пчыка. Не до̀ўго ба̀бам трэ было̀ клапаціцца, ві͡едамо, гэтаго дабра̀ мну͡ого, абы̀ было̀ каму̀ гадава̀ць, а раджа̀ць не шту̀ка. Да й ку͡ожная ма̀тка не во̀раг свайго̀ дзіця̀тка, ра̀да, каб сыно̀к быў каралѐм. От наглѐдзялі ба̀бы то̀ўстых жано̀к да дзі͡евак і чака̀юць, паку̀ль яны̀ обрадзіняцца. Ту͡олькі от ліхо, — яка̀я ні абрадзіціцца, дак усе прыво̀дзіць дзі͡еўку. Спало̀халіса ба̀бы, неві͡едаюць, што рабіць, бо ўжэ падхо̀дзіць пара̀, а хло̀пчыка нема̀. Ту͡олькі ось іду̀ць яны̀ раз кала̀ са̀жалкі да й ба̀чаць, што па вадзі͡е штось плыва̀е. Узелі̀ яны̀ лама̀чыну да й дава̀й яго̀ падганя̀ць к бѐрагу. Ту͡олькі як таўкну̀ць, дак то̀е яшчэ̀ да̀лей атхо̀дзіць ат бѐрага. Хаці͡елі яны̀ ўжэ плюнуць да йці па свайму̀ дзі͡елу, аж чу̀юць, што там запішча̀ло дзіця̀. Схамену̀ліса ба̀бы да ўжэ хаці͡елі лі͡езці ў во̀ду. Папро̀бавалі яны̀, аж глыбо̀ко. Хаці͡елі яны̀ пазва̀ць людзѐй, да пабая̀ліса, каб аб ту͡ом не дайшла̀ чу̀тка да караля̀. Ту͡олькі ось ідзѐ яка̀ясь вѐльмі бі͡едная дзі͡еўка. А гэто была̀ ма̀тка таго̀ дзіця̀ці. Яна̀ ціхенько седзі͡ела ў кусто̀х да пазіра̀ла, што бу̀дзе з яі͡е міленькім сыно̀чкам, като̀раго сама̀ не магла̀ гадава̀ць, каб лю̀дзі не сьмея̀ліса да не зьдзі͡екуваліса. От падхо̀дзіць яна̀ к ба̀бам да й ка̀жэ, што даста̀не з вады̀ начо̀ўкі. Паку̀ль ба̀бы ра̀дзіліса, што ім зрабіць, та̀я дзеў-

чына шабулдых у воду ва ўсём як стаяла, чуць не ўтапілаася, але такі дастала начоўкі на бераг. Раскідалі бабы пелёнкі, аж там лежыць маленькі хлапчучок да такі гожы, такі зг(g)рабны, што й у казцы не сказаць. Забралі бабы таго хлапчука да й панесьлі яго ціхенько ў палацы да каралiхі. Пабачыла тая дзіеўка, што яiе дзіця панесьлі ў палацы, абрадавалася, настаяла яшчэ, наглядзiела, перахрысьцілася да й пашла да гасподы з радасьцю, бы на сьвiет нарадзiлася. От i абъявiла каралiха, што ў яiе радзіўся сын. Рад каруоль. Велiеў зрабiць пiр на ўвесь мiр. Расьцё сабiе той хлапчук за каралевіча, але ўсе цягне к простым людзям. І вельмі яму спадабаласо хадзіць да адпаiе бiеднаiе жанчыны, каторая яго любiла да ласкала буольш як матка вiедзьма-каралiха. Ён не знаў, што то не простая жанчына, а яго руодная матка. А яна добрэ вiедала да плакала ат радасьці, пiестуючы яго. Вырас каралевiч i стаў харашыэйшы ат усiх людзей. Пачалі бацькі сватаць яму гожую царэўну, але ён не хочэ й слухаць, бо яму вельмі спадабаласа адна вельмі гожая дзiеўка, туольки яна была дачка купца. Вiедамо, хаць купец i багаты, але ўсеж просты чалавiек. Дзiе гэто вiдано, каб каралевiч да браў за себе простую дзiеўку. Як нi прыставалi каруоль з каралiхаю, каб царэвiч жанiўса з царэўнаю, ён сказаў, што рукi на себе наложыць, а iх не паслухае. Абазлiласа вiедзьма-каралiха, на яiе лiха, да й начала разнюхоўваць, чаму гэто каралевiч не слухае нi яiе, нi караля. Знайшлiса лiхiе людзi да й сказалi, што каралевiч любiць другую простую дзiеўку, туольки не маглi дазнацца якую. Узъiеласа вiедзьма-каралiха да й заклела каралевiча так, што ў яго вiд зрабiўса, бы сьвiньi лыч. Убачыў тое каруоль, абазлiўса на сына да й пасадзiў яго на востраў пасеруод мора. Тым часам каралевiч яшчэ перад гэтым узяў у каралiхi люсьцерко, а ў караля палку. Гэто не простые былi рэчы. Глянуў ён у люсьцерко ў той час, як думаў аб сваей дзеўчыне, дак i ўбачыў яiе, як жывую. Стукнуў ён палкаю аб землю, дак перад iм бы выраз з землi добры маладзец да й пытае, што яму трэба. Велiеў яму каралевiч зрабiць сабiе хатку да дапь iесьцi.

Дўхам зьявіласа хàтка хаць малèнькая, алè гòжая, бàцэ з землì вырас стол, а на ём уселякіе патрàвы да напіткі, бы ў каралèўськіх палàцах. Хòдзіць сабіе каралèвіч калà мòра, зьбірàе квіеткі да так жàласно пàе, што аж птўшкі заціхлі да слухаюць ягò піесьню. Знўдзіцца каралèвіч, выме свае люсьцèрко, пазірàе, што рòбіць ягò дзеўчына да тўолькі лòміць рўкі. Успаменуў ён аб тўой дòбруй жанчыне, што ягò піестувала, глянуў у люсьцèрко да й бàчыць, што тàя плàчэ, аж залівàецца. І захоціеласо яму пазнàць, чагò янà плàчэ, хто яіе зкрыўдзіў. От пазвàў ён малайцà да й кàжэ яму — прывезі сюды ка мніе тўю й тўю жанчыну. — Не вèлено, — кàжэ той. — Сюды мòжэ прыіехаць тўолькі той, хто сам хòчэ. — Засмуціўса каралèвіч да й пашоў садзіць да даглядàць квіеткі, каб не так было нўдно да цяжко на сèрцы. Тым чàсам бàцько таіе дзіеўкі, што любіў каралèвіч, зьбірàецца іехаць у чужыя зèмлі па замўорскія тавàры. От і пытàе ён сваіх дачòк, якого гасьцінца ім прывезьці. Бўольшая прòсіць, каб бàцько прыўёз ёй сàмую гòжую адзежу. Седулўоршая прòсіць прывезьці ёй такія гўсьлі, каб яны сàмі грàлі; а мèньшая, катòрую любіў каралèвіч, прòсіць прывезьці ёй замўорськую квіетку рòжы. Янà загадàла, што калі рòжа не заўяне, та каралèвіч яшчэ жыў і дўмае пра яіе. Сіеў купèц на карàб да й паплыў у замўорськія зèмлі. Ці дòўго, ці малò ён там быў, тўолькі накупіў шмат рўозных дарагіх замўорськіх тавàраў, накупіў гасьцінцаў сваім дачўхнам да й паплыў назàд. Тўолькі ось узхадзіласа шўра-бўра, разламàла ягò карàб да й затапіла са ўсім дабрòм. Учапіўса купèц за якўюсь дòшку да й паплыў. Дòўго ягò насіло па мòру, дòўго пеклò на сòнейку, пакўль нарэшце выкінуло па бèраг. Насілу падняўса ён на нòгі, алè немажэ хадзіць, сіеў на кàмень да й седзіць, бы акаменіеўшы. Дòўго ён так седзіеў, нарэшце апòмніўса й вèльмі яму захаціеласо іесьці. Падняўса ён да й пашоў паўз бèраг шукàць людзèй. Абышоў ён кругòм да й дагадàўса, што ягò выкінуло на астравòк, дзіе нікого немà. А гэто быў той астравòк, куды саслàлі каралèвіча. Пашоў купèц шукàць, ці немà грыбўоў, абò ягад, каб хаць трòхі

пасілкавàцца. Ї цяжко яму̂ стàло, як узду̂маў, што прапàлі ў̂сіе тавàры, алѐ бу̂ольш усягò шкòда, што правàлі тые гасьцінцы, што ён въёз свайм дачу̂хнам. Тут ён убàчыў квіеткі ро̀жы яшчѐ харашыэйшыя ат тых заму̂орських. Забы̂ў ён і гòлад да й ду̂мае, — отò-ж нарву̂ квіетак ро̀жы сваѐй любімуй дачу̂шцы, а бу̂ольшым ужэ як сабіе хо̀чэ, мо дастàну й ў сваём краю, як даберу̂са да гаспòды. — Ту̂олькі ён хаціеў сарвàць квіетку ро̀жы, як ось і нахапіу̂са якісь страшэ̀нны чалавіек з сьвіным лычом зàмяст віду. Спалòхаўса купѐц, дрыжы̂ць бы асіва. — Не лякайса, — кàжэ той, — ту̂олькі скажы, хто ты такі, аткуль узяу̂са й нашто табіе мая ро̀жа? — Расказàў купѐц усѐ як былò, расказàў шчы̂рую прàўду да й прыбàвіў, што ро̀жу хапіеў сарвàць сваѐй любімуй дачу̂хне, каб яіе хаць чым нѐбудзь парàдуваць, а то янà чагòсь усе плàчэ да хòдзіць вѐльмі сму̂тная. — Дагадàўса каралѐвіч, што дзеўчына па ём плàчэ да й пазвàў купцà ў сваю хатку. Ён адрàзу пазнàў купцà, а той ягò не мог пазнàць бо нікòлі не бàчыў таім страшэ̀нным да плюгàвым. От пакарміў каралѐвіч купцà да й кàжэ: — я дам табіе квіетак, ку̂олькі хо̀чэш, атпрàўлю цебѐ да гаспòды, ту̂олькі ты павінен прыслàць сюды сваю мѐньшую дачку̂. А калі янà не зхо̀чэ прыіехаць сюды ка мніе ў гòсьці ахву̂отно, та вы ў̂сіе да й ў прападу̂ом. — Немà чагò рабіць, згадзіу̂са купѐц па тòе. От каралѐвіч прызвàў малайцà да й веліеў яму дастàць ру̂озных тавàраў, якіх ту̂олькі купѐц зхо̀чэ, дастàць на гасьцінец дзеу̂кам сàмую гòжую адзѐжу, такія гу̂сьлі, што сàмі грàюць, і адвезьці купцà да гаспòды, а квіетак ро̀жы назрывàў цы̂элае берэме, сплёў з іх венòк да й кàжэ: — а от гэ̀стыя квіеткі аддàй сваѐй мѐньшуй дачу̂хне ат менѐ. — Забрàў купѐц усѐ дабрò да й паплы̂ў да гаспòды. Рàды дòма, што ён верну̂уса, алѐ як ён усе расказàў, дак жу̂онка й бу̂ольшыя дзеу̂кі пачалі галасіць і ўгавàрваць мѐньшую дзіеўку, каб янà не іехала. А тàя як зірну̂ла, што ро̀жа так гòжэ цьвіцѐ, бàццэ ту̂олькі што з агару̂одчыка, дак рàда, сьмеѐцца да ў далòві ляскае. Янà ду̂мае сабіе, што гэто мàбыць ужэ такàя яіе судзьбà, такàя дòля, што трэ перш пагаравàць, панудзіць, каб пòтым, як убàчыць ка-

ралѐвіча, глядзі͡ець яму̀ ў во̀чы да ра̀дувацца. Зна̀е яна̀, што ёй так су̀джано, што каралѐвіч жыў й што яна̀ ўба̀чыць яго̀, от затым яна̀ сьмі͡ело хо̀чэ і͡ехаць у го̀сьці к таму̀ страшэнниаму чалаві͡еку. — А мо ён і не такая пачвѐра — ду̀мае яна̀ сабі͡е, — трэ паглядзі͡ець. А мо гэто так су̀джано. От надышо̀ў тэ̀рмін. Як ні ўмаўля̀лі яі͡е бацькі да сѐстры, нікого не слу̀хае,—отож наі͡еду,—ка̀жэ яна̀ — да й ту͡олькі. Не хачу̀ я, каб праз мепѐ да нам усім было̀ кѐпсько, каб мы ўсі͡е загінулі. А мо гэ лі͡епш, мо гэ су̀джано, мо ўжэ так мні͡е на раду̀ назна̀чано. А што су̀джано, таго̀ ні абойдзеш, ні адъі͡едзеш. — Ніч̀ого не пара̀дзяць бацькі̀, му̀сілі яны̀ згадзіцца, як ні цяжко было̀ ім атпраўляць сваѐ каха̀нае дзіця̀ неві͡едамо куды да яшчэ да тако̀е пачвѐры, што й на чалаві͡ека не нахо̀дзіць. От вы̀ладавалі бацькі̀ сваю̀ мѐньшую дачку̀ ў даро̀гу, напла̀калі, бы право̀дзілі на мо̀гліцы. Сі͡ела яна̀ на кара̀б, каторы ўжэ даўно̀ чака̀ў яі͡е, да й паплыла̀ на той во̀страў. Тым ча̀сам ру͡одная ма̀тка каралѐвіча даві͡едалася, чаму̀ гэто яі͡е каха̀ны сыно̀к бу͡ольш не прыхо̀дзіць к ёй, даві͡едалася, што гру͡озны кару͡оль да ві͡едзьма-каралі̀ха, на яі͡е ўсе лі̀ха дзі͡есь схава̀лі ненагля̀днаго сыно̀чка, ці мо̀жэ й саўсім страціл. Ві͡едамо, ма̀тчыно сэ̀рцэ заўжды баліць па сваі̀му дзіця̀ці. Пла̀кала яна̀, пла̀кала, гарава̀ла-гарава̀ла, алѐ бу͡ольш не магла̀ вы̀трымаць да й пашла̀ ў сьві͡ет шука̀ць каралѐвіча. За ѐю якась увеза̀ўса саба̀чка, каторы так ла̀шчыўса да любі̀ў каралѐвіча, як ён прыхо̀дзіў да ма̀ткі. Пра̀ўду ка̀жуць, што саба̀ка зна̀е, хто сву͡ой, хто друг, а хто во̀раг. До̀браго чалаві͡ека саба̀кі не чапа̀юць, а ліхо̀го гато̀вы загры̀зьці. Дак от гэ й той саба̀чка, як пры̀дзе каралѐвіч, дак ска̀чэ на яго̀, лі̀жэ яму̀ ру̀кі, лі͡езе цалава̀ць, вішчы̀ць, да кру̀ціць хвасто̀м з ра̀дасьці. За то̀е не ту͡олькі цыга̀н, або̀ жыд не магу̀ць прайні̀ ці праі͡ехаць аж па ву̀ліцы, алѐ й на̀ват ліхі̀ сусі͡ед без кі̀я не сьмі͡елі падыні̀ бліско к двару̀. Чуць хто пака̀жэцца, як ось аткуль ні во̀зьмецца той саба̀чка, ко̀ціцца бы ку̀ля, брэшэ, аж ахры̀пне да сьлепіцаю лі͡езе, пакуль та̀я жапчы̀на не абаро̀ніць сама̀ да не ска̀жэ: «пашо̀ў вон!» От ідзѐ яна̀, а саба̀чка бежы̀ць у пѐрадзе да пака̀звае ёй даро̀гу. Уто̀-

міцца, ля̀жэ адды̀хаць, а саба̀чка не сьпіць, віетрыць но̀сам да настаўля̀е ву̀шы та ў вадзін, та ў другі буок, — прыслухо̀ўваецца, ці не кра̀дзецца які̀ нѐбудзь во̀раг. От так хадзіла яна̀, хадзіла з сваі̀м саба̀чкаю па сьвіету, распыто̀ўвала до̀брых людзѐй, ці не ба̀чылі, ці не чу̀лі яны̀ аб яіе дарагѐнькум сынку̀. Ужэ̀ нуожкі прытупіліса, а ўсіе ў вадзін го̀лас ка̀жуць, што ба̀чыць не ба̀чылі й віедаць не віедаюць, дзіе яіе сын. Абхадзіла яна̀ ўсе каралѐўство — нідзіе нема̀. Нарэ̀шце пара̀дзіла ёй адна̀ старэ̀нькая ба̀ба, каб яна̀ папро̀бувала пайці̀ ў чужы̀я зѐмлі, ў чужы̀я ца̀рства, к чужы̀м лю̀дзям. — Мо ён, — ка̀жэ, — там. — Падзя̀кувала та̀я жанчы̀на до̀бруй ба̀бе да й хаціела йці ў чужы̀я зѐмлі, туолькі давіедаласа, што яны̀ дзіесь за глыбо̀кімі да шыро̀кімі мара̀мі, што туды̀ ніельга йці, а трэ плысьці̀ на караблѐх. Падышла̀ яна̀ к мо̀ру, хаціела сіесьці на кара̀б, дак яіе туды̀ не пуска̀юць. — Куды̀ ты, — ка̀жуць, — ба̀ба ліезеш? Тут іезьдзяць туолькі князі̀, грапы̀ да жыды̀. — Запла̀кала яна̀ да й пашла̀ да друго̀го карабля̀. Дава̀й там прасі̀ць, дава̀й блага̀ць, кла̀няецца ў но̀гі да ло̀віць цалава̀ць ру̀кі. Нарэ̀шце знайшлі̀са до̀брыя лю̀дзі, зга-джа̀юцца яіе пусьціць на кара̀б, алѐ саба̀чку не прыма̀юць. — Куды̀, — ка̀жуць, — гэ̀стая по̀шкудзь, яшчэ̀ кара̀б зага̀дзіць. — Шко̀да ёй растава̀цца з саба̀чкам, з такі̀м віерным слуго̀ю, запла̀кала яна̀ да й пашла̀ да̀лей. Саба̀чка, ба̀цэ знаў, што пра яго̀ гавары̀лі тыіе лю̀дзі, кі̀даецца з ра̀дасьці к ёй на шы̀ю да лі̀жэ язы̀ко̀м. От ідзѐ яна̀ да йдзе з сваі̀м саба̀чкам да й падхо̀дзіць к таму̀ караблю̀, на като̀рум му̀сіла плысьці̀ дачка̀ купца̀. Падышла̀ яна̀ да й про̀сіцца, каб прынялі̀ яіе на кара̀б. — Хадзі̀, хадзі̀, ба̀бко, — ка̀жуць тыіе, — нам вѐлено браць усі̀х, хто туолькі сам хо̀чэ. — Пашла̀ яна̀ на кара̀б, а саба̀чка бы мала̀нка туолькі замітусі̀ўса сьпѐраду. Кара̀б велі̀зазны бы харо̀мы. Заліезла яна̀ ў са̀мы ву̀гал да й седзіць ціхенько, а ў нага̀х лёг саба̀чка да туолькі ву̀шкі наста̀віў. Па нема̀лум ча̀се сіела на кара̀б і купѐцкая дачка̀, алѐ яна̀ не ба̀чыла таіе жанчы̀ны. Прайшла̀ мо гадзіна ці буольш, як кара̀б плыў па мо̀ру да й супя̀ўса кала̀ бѐрагу. Падхо̀дзіць к жанчы̀не які̀сь чалавіек да й ка̀жэ:—

выхòдзь, бàбка, ўжэ прыі͡ехалі. Забрàла янà свуо͡й клўначак, вы̀шла на бèраг да й пашлà, куды̀ вòчы глядзя̀ць, ці куды̀ ведзè сабàчка. От злі͡езла й купèцкая дачкà да й пашлà к хàтцы каралèвіча. Убàчыў яі͡е каралèвіч да так абрàдуваўса, што аж не мажэ̀ вы̀гаварыць ні слòва. Жывè там купèцкая дачкà ў раскòшы: піць, і͡есьці ўсегò мнуо͡го, чагò туо͡лькі душà хòчэ. Уселя̀каі͡е дарагòі͡е сàмаі͡е гòжаі͡е адзѐжы туо͡лькі, што хòпіць на ўсе жы̀цьце. Нічòго янà не рòбіць, туо͡лькі гуля̀е сабі͡е паміж кві͡етак да плецè венкі̀. Сплецè з рòжы венòк, узлòжыць ягò на гòлаў, зірнè ў люсцѐрко да й зальèцца гуо͡рькімі слѐзкамі. — На што мні͡е, — кàжэ, — маè хараствò, калі̀ ні͡екаму ягò паказàць, калі̀ тут апры̀ч гэстаі͡е пачвѐры з сьвіны̀м лычòм нікагўсьсенько мемà. — Што ні рабіў каралèвіч, які̀х гасьці̀нцаў ёй не давàў, нічòго не памагàе, ніяк не мажэ̀ яі͡е павернўць да себè. Ві͡едамо, пачвѐра з сьвіны̀м лычòм, а не чалаві͡ек. На ягò туо͡лькі зірнўць, дак з душы̀ вèрне, а не то, каб што. Засмуці̀ўса каралèвіч, ні пъе, ні і͡есь, кінуў дагляда̀ць і сваі͡е кві͡еткі да ўвесь дзень хòдзіць па лі͡есі ці па беражкў мòра да ні то плàчэ, ні то паè пі͡есьні, алè такіі͡е жàласныі͡е пі͡есьні, што хто ні ўчўе, дак сѐрпэ бы хто кібдзюрàмі скрабè, а слѐзкі так і цекўць з вачуо͡ў бы ў бабрà. Пашлà раз купèцкая дачкà гуля̀ць на бèраг мòра, зачўла, што хтось паè да й заслўхаласа; слўхае, плàчэ, а самà й не варухнèцца да так і прастая̀ла, пòкі сòнейко зайшлò за вòду й зрабіласо саўсі̀м цѐмно. Ужэ̀ даўнò ат пі͡есьні па лі͡есу заці̀х апуо͡шні пòшчак, а янà стаіць, бы закамені͡ела. Тым чàсам каралèвіч вернўўса да гаспòды, зірнўў туды̀-сюды̀, аж немà ягò кахàнаі͡е дзеўчы̀ны. От ён і пабі͡ег яі͡е шукàць. Бі͡егаў ён бі͡егаў, нарэ̀шце трàпіў яі͡е на бèразе мòра да й паўёў да хàты. Цѐмно, дарòгі немà. Што ні стўпіць дзеўчы̀на, та й пàдае. Бàчыць каралèвіч, што янà саўсі̀м набъèпца, схапі̀ў яі͡е на берэ̀ме да й панёс. Несè лёгèнько бы перцò да так лаг(g)уо͡дно размаўля̀е, што дзеўчы̀на нàват забы̀ла пра ягò сьвіны̀ лыч. І здаèцца ёй, што гэто гавòрыць хтось другі̀, той замуо͡рськi каралèвіч, аб катòрум янà дўмала кòлісь у дòўгіі͡е нуо͡чкі, як лежàла на мя̀гкіх перы̀нах руо͡д-

наіе матачкі, што гэто ён, яіе каханы каралевіч цудам пашоў яіе да й несе на сваіх сільных руках да шэпчэ ёй салодкіе слаўна да прыціскае да сваіх багатырскіх грудзей. І так добрэ ёй, так радасно бъецца сэрцэ, што от здаецца, ўсю-б жытку пралежала-б на руках свайго міленькаго да ўсеб слухала яго мілую мову, яго дарагі галасок. Унес ён яіе ў хату да й просіць вечэраць. Але яна падзякувала да так, не засьвецўшы агню й легла на насьціель, каб не атагнаць тых салодкіх думак, каб лежаць і ўсе думаць і думаць да чуць голас свайго міленькаго каралевіча. Не спала яна ўсю ноўчку, а ўсе гарэла бы ў вагні. Але от даў бог дзень, думкі разлецеліса бы дым. Успомніла яна, што каралевіча нема, дак бы голкамі закалоло ў сэрцэ, а слезкі так і паліліса. Не хочэ яна ні іесьці, ні піць да так уткнуўшыса галавою ў падушку й праплакала ўвесь дзень. А як надышоў вечар, яна зноў пашла на бераг мора. Зноў пачула, што хтось пае, тульки гэто так гожэ, так радасно, што й ёй легко стало на сэрцы. Зноў заслухаласа яна, пакуль сьцемніело; зноў прышоў на яіе каралевіч і зноў на берэмі панес да гасподы. Зноў ёй было так радасно па сэрцы, так соладко кружыласа галава, што яна ўсю ноўчку прадумала пра свайго міленькаго. Але на трэйці дзень яна сустрэла ў вагароднчыку пачверу з сьвіным лычом, як ён зрываў ёй квіеткі рожы, зірнула на яго да й загаласіла. Пачаў той угаворваць, дак куды там, — яна яшчэ гарэй плачэ да рве на сабіе валасы. Нарэшце прагнала яго, каб і на вочы не наказваўса, а сама пабіегла па бераг мора, каб паслухаць таго цудоўнаго сьпіеву. Але ніхто не сьпеваў, тульки шаптаўса ліес да раўло морэ, узьбегаючы на бераг. Доўго седзіела яна там і так ёй стало цяжко на сэрцу, так моташно, што дарам прападае маладая жытка, што німа ніякаіе надзіеі, каб злучыцца з сваім міленькім каралевічам, што нарэшце не вытрымала да й кінуласа ў мора. Тым часам аткуль ні ўзяўса сабачка таіе жанчыны, раптам шамелях ён у воду да й цягне яіе да берага. Убачыла тое тая жанчына да й выцягла ўтопленіцу на бераг. От туды-сюды патрасла жанчына ўтопленіцу, дак тая й ачнуласа да як зірнула,

што кала̀ яі͡е знаёмая жанчы̀на, дак тро̀хі й легчы͡эй ста̀ло на сѐрцы. Пагавары̀лі яны̀ тро̀хі са̀мі з сабо̀ю да й пашлі ра̀зам да ха̀ты. Паку̀ль яны̀ йшлі, дак і расказа̀лі адна̀ другу͡ой усе, як было̀, і як яны̀ даста̀ліса сюды̀. Прыхо̀дзяць яны̀ да ха̀ты, аж там беда̀. Засмуці̀ўса каралѐвіч, як купѐцкая дачка̀ прагна̀ла яго̀ з ва̀чэй, засмуці̀ўса так, як ніко̀лі. Ё̀н усѐ ду̀маў, што дзеўчы̀на палю̀біць яго̀ за до̀брае сѐрцэ, за ла̀ску да за лаг(g)у͡одныі͡е сло̀вы, а тут уба̀чыў, што нема̀ надзі͡еі. Даста̀ў ён цудо̀унае люсцѐрко, каб паба̀чыць сваю̀ мі̀лую дзеўчы̀ну, аж тут яна̀ якра̀с кі̀нуласа ў мо̀рэ да й патапу̀ла і так ця̀жко яму̀ ста̀ло, так закало̀ло яму̀ ў сѐрцы, што ён упа̀ў на зѐмлю да й згубі̀ў прыту͡омнасьць, ле- жы̀ць, ба̀цэ не жыў. Узьбі͡егаліса тут слу̀гі, не ві͡едаюць, што рабіць. У гэ̀ты са̀мы час і падышлі купѐцкая дачка̀ з то̀ю жан- чы̀наю туды̀ Ві͡едамо, саба̀чка заўжды̀ бежы̀ць спѐраду. От і на гэ̀ты раз падбі͡ег ён да каралѐвіча да як нюхну̀ў яго̀ да як пачнѐ віджа̀ць, віля̀ць хвасто̀м да ліза̀ць каралѐвіча ру̀кі да сьві̀ны лыч, дак жанчы̀на й дагада̀ласа, што гэ̀то яі͡е сын, ту͡олькі, што ён ма̀бысь закляты̀. — Ой, закляты̀ гэ̀то чалаві͡ек, — ка̀жэ яна̀. Шко̀да ста̀ло дзі͡еўцы, гэ̀таго нешча̀снаго чалаві͡ека, схі̀ліласа яна̀ к яму̀ да дава̀й яго̀ гла̀дзіць, дава̀й ласка̀ць да шапта̀ць мі̀- лыя слаўцы̀. Ачну̀ўса каралѐвіч да ба̀чыць, што кала̀ яго̀ стая̀ць на калі͡енях дзеўчы̀на й та̀я до̀брая жанчы̀на, като̀рую ён так лю- бі̀ў, і лѐгко яму̀ ста̀ло на душы̀. Падня̀ўса ён, падзя̀куваў ім за ла̀ску да дава̀й іх частава̀ць. А саба̀чка ат яго̀ й не атхо̀дзіць да ўсе ла̀шчыцца. Праседзі͡елі яны̀ за стало̀м чуць не да вѐчара. Ста̀ла жанчы̀на прыла̀джваць сабі͡е мі͡ейсцо, дзі͡е папачава̀ць, а дзеўчы̀на з пачвѐраю з сьві̀ным лычо̀м пашлі гуля̀ць. Вѐчар быў го̀жы: цѐпло, ці̀хо, бы ў ву̀сі. Со̀нейко даўно зайшло̀, ту͡олькі яшчэ̀ чырвані͡елі хма̀ркі. І̀ пача̀ў пачвѐра з сьві̀ным лычо̀м пі͡ець пі͡есьні, пача̀ў пі͡ець так го̀жэ, што от го̀лас лі͡езе аж у са̀мую ду̀шу й ра̀зам хо̀чацца пла̀каць і сьмея̀цца. І̀ ду̀маецца дзеўчы̀не, што от так слу̀хала-б усѐ жы̀цьцё й нічо̀го-б бу͡ольш не хаці͡ела. От ужэ̀ сьцемні͡ело; заблішча̀лі на нѐбе я̀сныя зу͡оркі да ту͡олькі міга̀юць мі̀лымі ву͡очкамі да ба̀цэ шэ̀пчуць: го̀жы сьві͡ет, до̀брэ на

ён жыць да любіць. Любі, дак усё адалееш. А ён усе пае да пае да з такімі любошчамі, што затапіў у дзеўчыны й голаў, і сэрцэ. Сама не ведамо зачым схапіла яна страшэннаго чалавека за голаў да й пацалавала. У той момант абернуўса ён у гожаго каралевіча, схапіў яе на берэме да й панёс да гасподы, дзе ўжэ яго чакала рўодная матка. Радасьці не было канца. І сталі яны жыць да пажываць да бедных людзей не забываць.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 77. Гўслі.

Жыў колісь круглы сірата Іваньчык. Яшчэ маленькі астаўса ён без айца й без маткі. Узела яго к сабе хрышчоная маці, падгадавала трохі да й аддала ў людзі пасці гусі. Пасе ён гусі да разглядвае божы свет, а кругом так гожэ, так радасно. Яснае сонейко свеціць і хукае, бы на дзіцятко рўодная матка. Ветрык ціхенько калышэ зеленае веце на вербах. Рака блішчыць праз рыэдкіе кусты алешніку, бы тое люстэрко, што дзядько купіў сваей дачцэ Ганне; а ў затоне атбіваюцца тоўстые, старые дубы, курыэнь дзеда Ахрыэма кала перавозу, стуог летапняго сена з плотам кругом і наватъ каровы суседніе вескі, што пасуцца на беразе. Тўолькі ўсе гэто дагары нагамі. Задумаўса настушок Іваньчык, чаму гэто ў вадзе адбіваецца ўсе дагары нагамі, задумаўса, але не на доўго, бо ў той самы момант гусак выцягнуў шыю, крыкнуў і перасцерўог гусей, што враг блізко. Зірнуў Іваньчык на небо, аж там хутко плыве велізазны шуляк да пазірае на яго гусенята. Закрычаў Іваньчык і памахаў хварасцінаю. Схаваўса шуляк за высокім лесам, а Іваньчык усе стаіць да пазірае на небо, да так пазірае, што забыўса й рот закрыць. І захацелосо яму летаць на небу, як той шуляк, замахаў ён рукамі да й пабег па зеленўй траве, па кветках, што так гожэ раслі на поплаве. Доўго бегаў Іваньчык, растапырыўшы рукі, бегаў, кружыўса, бы птушкі ў небе, нарэшце ўтаміўса й

лёг на траву̀ дагары̀ вачамі̀ й ўсе глядзѐў на нѐбо, як там пу-
ду͡оўне гожэ ціхенько плылі̀ лёгкіе бі͡елые хмуркі, бы гусіны
пух, як яны̀ сустракаліса з ясным сонейкам, цалавалі ягò й плылі̀
далей. Разглядаў Іваньчык, як гожэ й прамудро зроблен божы
сьві͡ет. Сѐрцэ ягò радасно біласо ў грудзях, ву͡очкі блішчалі, бы
два дьяманты, яму̀ так было̀ лёгко, так вѐсело тут на поплаве,
на зелёнуй траўцы, пасеру͡од сві͡ежых, ру͡озных калёраў кві͡етак,
што ён нават забыў той час, калі̀ трэба было̀ йці да дому абі͡е-
даць, бо дзянна была̀ сердзітая жанчына, вела̀ сву͡ой парадак і
не любіла, калі̀ хто пазніўса на абі͡ед. Усхапіўса ён, зірнуў на
сонейко, аж янò ўжэ схіляецца к захаду. — Ужэ паабі͡едалі, —
думае пастушок і гуляе да вѐчара не і͡еўшы. Так той Іваньчык
перш пасьціў гусі, потым памагаў аўчару̀, а нарэшце, як вырас,
пачаў пасьціць гаўядо. Тут ён навучыўса размаўляць з гаўядам,
разумі͡еў мову ўселякаі͡е жыўёлы й нават расліны. Яму̀ здаваласо,
што птушкі паюць ягò пі͡есьні, што мушкі да полуднічкі жаласно
гудуць, дак гэто яны̀ плачуць над ягò гу͡оркаю, пастуховаю до-
ляю, што гаўядо пазірае на ягò да й хочэ яму̀ сказаць: бі͡едны
пастух! ніколі не быць табі͡е гаспадаром... Кінь-гэты край да
йдзі ў сьві͡ет шукаць шчасьця. — Яму здаваласо, што лі͡ес ківае яму̀
ві͡ецем, што траўка й кві͡еткі яму̀ шэпчуць ціхенько: йдзі ў сві͡ет. —
Паслухаў іх наш Іваньчык і пашоў у сьві͡ет шукаць шчасця. Ха-
дзіў, хадзіў, алѐ куды̀ ні прыдзе, ўсюды гары͡эй як там, дзі͡е быў
упѐрад. Кіне ён тое мі͡ейсцо да йдзе далей. Дахадзіўса нарэшце
да тагò, што й сьві͡ет не міл. От падышоў ён к рацы͡э да й хаці͡еў
утапіцца. Ту͡олькі ён ступіў на воду, аж тая зрабіласа цьвордая,
бы лёд. І пашоў наш Іваньчык па вадзі͡е, бы па суху. Сустракае
ягò якісь панічык да й кажэ: наймісa ка мні͡е на службу. —
А чаму̀-ж ні͡е, — адмаўляе наш Іваньчык, — якому чорту ні слу-
жыць — усе ру͡оўно. — А пачу͡ом ты знаеш, што я чорт? — Сьпе-
вай пі͡есню павам, а чорт бачан па халявам. — Бачу, што з цебѐ
будзе добры слуга̀, — кажэ чорт, — я-ж табі͡е заплачу̀ за тое ха-
рошые грошы. — Дзі͡е грошы там і вошы, — адмаўляе наш
Іваньчык. — А чагò-ж ты хочэш? — Ты тагò не маеш, хаць

менè служы́ць наймàеш. Да што нам таргавàцца, лі́епш хучы́эй за дзі́ело брàцца. Бу́ду служы́ць хаць у пèкле, абы́ было̀ пèкне.— Згадзі̀ліса яны́ на ту́ом. Зняў чорт сву́ой капелю̀шык і махнўў ім трэ̀йко. Тагды́ наш Івàньчык сапрàўды ўбàчыў у чо̀рта ро̀гі й па абàпал плі́еч чо̀рные кры́ла, бы ў кажанà. Зняў і наш Івàньчык сваю̀ рвàную кучо̀мку, памахàў ею̀ трэ̀йко й вы̀раслі ў ягò кры́ла, бы ў шулякà. От узнялі̀са яны́ да й палеці́елі, да ту́олькі не ўго̀ру, не к я̀снаму со̀нейку, а чорт ві́едае куды́, палеці́елі ў якую̀сь про̀пасць усе ўніз і ўніз. До̀ўго леці́елі яны́, агарну̀ла іх кругòм цèмень, хаць ты во̀ко вы̀каль. Алè ось па немàлум чàсе спèраду штось заблі̀шчàло. Ху̀тко янò разрасло̀со, бы сухім лі́етам у лі́есе по̀жар. Падлетàюць яны́ блі̀жы́эй, аж там стая̀ць велі̀заные катлы́, а ў іх гарыць смалà. По̀ламъе шыбàе, а смалà кіпіць, аж бўлбаткі падскàкваюць. Дагадàўса наш Івàньчык, што гэ̀то пèкло. Алè немà чаго̀ рабі̀ць, калі̀ наня̀ўса, та як запрадàўса, трэ служы́ць. Азірнўўса ён, а тут як шыбанўло по̀ламъе, дак ягò кры́ла й згары́элі. Астàўса там Івàньчык. І велі́еў ямў чорт до̀ўгаю залі́езнаю качаргòю ў катлу́ох смалў памі́ешваць. Павернўў ён качаргòю, аж там у смалі́е мўчацца гры́эшные дўшы. Варо̀чае ён качаргòю да разгля̀двае ты́е гры́эшные дўшы. Кагò ту́олькі там не было̀. Перш-нà-перш вы̀нырнула лы̀сая галавà ксендзà, а по̀руч з ею̀ кіпі́елі ў смалі́е до̀ўгіе кўдлы папà. Павернўў ён качаргòю, дак рàзам вы̀скачылі з смалы́ маладзèнькая панèнка, абня̀ўшыса з стары́м пàнам, старàя пàні, хурмàн з бізунòм, лèкай з пля̀шкаю ў го̀рле, камысàр з ксèнжкаю пад пàхаю, пакаèўка, ку̀хар, акаму́он, ці̀вун і мно̀го другі̀х дваро̀вых людзèй. Павернўў ён яшчэ̀ раз качаргòю, дак тут ужэ̀ былі̀ ўсе жыды́: сам ландàр з Со̀ркаю, рàбін з бі̀бляю, цо̀дык з то̀раю, малàмед з ксèнжкаю, кавàль, шавèц, кравèц, крамàр і крамàрка, шàпар, нàват анўчнік, і той вы̀сунуў з смалы́ сваю̀ го̀лаў і патру́ос пèйсамі, алè яны́ злі̀піса й гары́элі, бы зўблепка. Пашо̀ў Івàньчык да другòго катлà, павернўў у ём качаргòю, дак тут ужэ̀ паказàліса нàшы браты́ хрысьція̀не й усè бу́ольш сàмые набўжные лю̀дзі да такі̀е, які̀х лі̀чылі пры жы́цю чуць не сьвяты́мі. Пабàчыў

то̀е наш І̀ва̀ньчык да й ду̀мае сабі͡е: ні͡е, ма̀быць ку͡ожнаму чалаві͡еку пры̀дзецца закаштава̀ць гара̀чаі͡е смалы̀. Хаці͡еў ён іщ̀і да̀лей, да зірк, аж тут і яго̀ хру͡остная ма̀ці. Уба̀чыла яна̀ яго̀ да й ка̀жэ: ой, му͡ой сыно̀чак, пакі̀нула я цебѐ малѐнькаго, дак за то̀е тут му̀чуса. — Не справядлі̀вы суд, мая̀ ма̀тачка, — адмо̀віў ёй І̀ва̀ньчык, — несправедлі̀вы за тым, што я ту͡олькі тагды̀ й быў шчаслі̀вы, як ты менѐ атдала̀ пасці̀ гу̀сі. — Ту͡олькі ён гэтае прамо̀віў, як яго̀ хро̀стная ма̀тка вы̀шла з катла̀ ўся ў бі͡елум убра̀ні, бы сні͡ег і ста̀ла по̀руч з ім. — Дзя̀куй табі͡е, му͡ой сыно̀чак, — ка̀жэ яна̀, — што аслабані̀ў менѐ ат гэ̀стаі͡е му̀кі. Уцека̀й ты атсю̀ль, бо чэ̀рці яшчэ̀ жыўцо̀м укі̀нуць цебѐ ў смалу̀. Я памагу̀ табі͡е, як атсю̀ль вы̀брацца. — От і павела̀ яна̀ свайго̀ сынка̀ з пѐкла вон. До̀ўго яны̀ йшлі па між катлу͡оў з гара̀чаю смало̀ю, яко̀і͡е му̀кі яны̀ там не ба̀чылі, які̀х ѐнкаў не наслу̀халіса, нарэ̀шце падышлі̀ к кра̀ю пѐкла. Хро̀стная ма̀ці ра̀зам і зні̀кла, а наш І̀ва̀ньчык пакруці̀ў трэ̀йко сваѐю кучо̀мкаю, дак і выра̀слі ў яго̀ кры̀ла. От узня̀ўса ён і палеці͡еў усе ўго̀ру да ўго̀ру. Леці̀ць, аж ві͡ецер свішчы̀ць, хму̀ркі міна̀юць, ту͡олькі міга̀юць. Далеці͡еў ён да землі̀, вѐльмі ўтамі̀ўса да й лёг сапачы̀ць. Алѐ ось прышо̀ў Хрысто̀с, а мо̀жэ гэто яму̀ прысні̀ласо, да й даў яму̀ гу̀слі. — На, — ка̀жэ, — ў гэ̀стых гу̀слях усѐ тваѐ шча̀сце. — Да й зні̀к. Уста̀ў І̀ва̀ньчык, узя̀ў ты̀е гу̀слі да й зноў пашо̀ў у сьві͡ет. Не до̀ўго ён хадзі̀ў да й наня̀ўса ў жы̀да пахцера̀ па̀сьціць каро̀вы. От вы̀ганіць ён каро̀вы на па̀шу, ся̀дзе сабі͡е на ку̀піну да як пачнѐ йграць на гу̀слях, дак і пу̀сьціцца ўсе скака̀ць. Ска̀чуць жыду͡оўськіе каро̀вы ўвесь дзень, а малако̀ з цы̀цак цыр-цыр! і вылі̀ва̀ецца. Прыго̀ніць ён каро̀вы даму͡оў, пачну̀ць іх даі̀ць, а малака̀ ні̀ма̀-ш. Дзіву̀ецца пахця̀р, яко̀е-б гэто лі̀хо зрабі̀ласо, да ні̀чо̀го не прыду̀мае. Пашо̀ў ён к ра̀біну на ра̀ду, расказа̀ў сваю̀ беду̀. Той чыта̀ў, чыта̀ў бі̀блю да й ка̀жэ: гэто еля̀к ссе тваі͡е каро̀вы. — І̀ ра̀дзіць ра̀бін пахцяру̀ ўзяць ат усі̀х кару͡оў патро̀ху таго̀, што да̀рам вылі̀ва̀ецца, налі̀ць у каш͡ыэрны гаршчо̀к, у пя̀тніцу зварыць, а ў ша̀бас ужыва̀ць ра̀зам з г(g)у̀г(g)елям, а што астанѐцца, дак тым вы̀шмараваць у кару͡оў вы̀мъе. Падзя̀куваў пахця̀р ра-

біцу, зрабіў рыхтык так, як ён радзіў, але нічого не памагае. Каровы не то, што не даюць малака, але й самі началі худзіець, пятрець, от бы на іх якая хвароба прышла. Ходзіць жыд бы шалёны, не віедае, што рабіць, што парадзіць. Сустракае яго адзін пъянчужка, што называўса кавалём, а тым часам заўжды седзіеў у карчміе. Той і радзіць жыду, знайсці такого знахара, каб ён пазнаў, хто гэто прырабіў, што каровы не даюць малака. — А хто-ж будзе ліепшы знахар ат цебе? — А гэты пъянчужка сапраўды знахараваў. — Цуес, — прыстае к яму жыд, — я віедаю, сто ты добры цалавіек, віедаю, сто ты ліепс ат усіх знаесса. Зробі ласку. Я ўзэ дам табіе кварту гарыэлкі. — Што кварта, — ўпіраецца той пъянчужка. — Дасі тры кварты, дак усе скажу, як мае быць. — Таргаваўса, таргаваўса жыд, але мусіў згадзіцца на трох квартах. — Але-ж ты мніе цепер дай кварту, та пагляджу на зоры, хто гэто ўдзіеяў. — Даў жыд яму кварту гарыэлкі, от ён выпіў да й пацёгса на пашу цікаваць, як гэто наш Іваньчык пасе жыдуоўськіе каровы. Падходзіць ён, аж пастух іграе на гуслях, а каровы скачуць, аж з іх піена валіць. Дагадаўса той пъянчужка, чаму каровы не даюць малака да й павернуў, каб іці да карчмы, туолькі ось яму так захаціеласо скакаць, што от так самі ногі й ходзяць. Але, віедамо, якіе скокі пъянаго. Паскакаў ён покуль іграў Іваньчык да й сунуўса ў канаву. На другі дзень прышоў ён к пахцяру да й кажэ: — ну, віедаю, хто гэто ўдзіеяў. Давай гарыэлку, та скажу. — Даў жыд яму дзьвіе кварты гарыэлкі да аселёнец на закуску. От той пъянчужка й кажэ, што ваўсём вінен пастух. Немае жыд віеры. — Ну, дак спраканайса сам, — кажэ пъянчужка, — схадзі на пашу да паглядзі, як тваіе каровы пасуцца. — Схадзіў жыд да як пачуў тую ігру, дак сам падняў лапсардак да як пусціўса скакаць, дак аж пейсы трасуцца. Скачэ, да думае, што каб тое ўбачыла Сорка, та падумала-б, што ён ашаліеў. Скакаў той жыд разам з сваімі каровамі датуль, пакуль Іваньчык здаволіўса да й палажыў тые гуслі. Нема чаго рабіць, заскаржыў той жыд на Іваньчыка ў суд. Разабраў суд справу да за такое ведзьмарство прысудзіў

Іваньчыка павіесіць. От схапілі яго й ведуць на шыбеніцу. Ідзе ён і трымае гуслі пад пахаю. А тут сабралосо людзей, як на кірмашы, каб паглядзіець, як будуць віешаць ведзьмара. Бабы галосяць, дзецюкі шуткуюць, а іньшые кажуць, што калі гэсто ведзьмар, та яго не павіесяць. От ужэ кат падаўеў Іваньчыка к шыбеніцы да й хапіеў накласці яму на шыю веровку, але той вышяў з пад пахі гуслі да як зайграе, дак усіе й пусціліса скакаць, бацца гарох на гарачуй скаварадзіе. Скачэ кат, абняўшы шыбеніцу, скачэ судзья з паперам у руках, скачэ пуоп з крыжам перад носам, скачуць мужыкі й бабы, аж пуот з іх валіць, скачэ ўсе міесто, бы мошкі мак таўкуць. Іграў, іграў Іваньчык да ўсе далей атходзіў ат шыбеніцы, нарэшце саўсім зьнік. Схаменуліса ўсіе, разінулі рот да й стаяць, як дурні, а нашаго Іваньчыка й сліед прастыў. Пачалі яго шукаць, каб злавіць, але-ж кажуць, што не лёгко злавіць віецер у полі, да яшчэ гарыэй злавіць таго музыку, каторы прымушае ўсіх скакаць. Пашоў наш Іваньчык у тры-дзесятае царство к Біеламу Руськаму цару да й пачаў яго ціешыць сваімі гуслямі. Як зберуцца заморськіе госьці да цары да пачнуць выхваляцца куожын сваімі штукамі, дак Біелы Руські цар і веліць Іваньчыку зайграць на гуслях. Іваньчык іграе, а ўсіе скачуць. Паскачуць пад гуслі таго Іваньчыка да й годзі выхваляцца, бо заўжды мусяць скакаць пад гуслі Біелаго цара. Дак от якіе то былі гуслі.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 78. Як чорт тапіў пануоў.

Жыў сабіе адзін чалавіек і была ў яго дужа гожая жуонка. Дак от на яіе ліхо, куожная гожая жанчына заўжды круціць хвастом, заўжды кала яіе труцца мужчыны, бы сабакі кала сукі. Туолькі чалавіек з хаты, дак госці к жуонцы ў хату як піць дацьзбіраюцца. Сабраўса раз той чалавіек у вялікую дарогу, насыпаў у міех коням аўса, напхаў велізазную дзеругу самаго ліеп-

шаго муруожнаго сіена, палажыу у тѐрбу цыэлы бѐхан хліеба да кусѐк сàла, насыпаў у мешэ̀чак круп да сѐлі, кìнуў на вуоз чагунѐц, нібы̀то збірàецца ў дарѐгу на цыэлы ты̀дзень. От наказàў ён жуонцы, каб янà шчы̀лно даглядàла гаспадàрку да й паіехаў паціхеньку, нібы̀то аберагàе кѐні, каб яны̀ не патамìліса ў велìкуй дарѐзе. Папхàўса ён, а жуонка дỳмае, што цепѐр не хỳтко вѐрнецца да гаспѐды. Сказàла янà сусіедцы, а тàя другуой, другàя трэ̀йцюй. Праз часіну ўся вѐска давіедаласа, што той чалавіек паіехаў у велìкую дарѐгу. І пачалì збірàцца к туой гѐжуй маладзіцы яіе кахàнкі. Яшчэ̀ на змрѐку прыбіег к ёй вѐльмі гарàчы малады̀ панìчык. Туольхі ён ускѐчыў у хàту, як хтось стỳкае ў дзвѐры. Куды̀ тут дзевàцца... І ўліез ён у піеч. Атчыніла маладзіца дзвѐры, аж там другì пан. Чуць туолькі янà ўпусціла ягѐ, як знѐў хтось стỳкае ў дзвѐры. Пашлà янà атчынàць, а пан шамелàх у піеч. Чỳе, што там хтось е, алѐ немà чагѐ рабіць, лежы̀ць мѐўчкі, бы тхуор. Уліез у хàту малады̀ купѐц і пачàў захажàцца калà маладзіцы. Туолькі рàптам хтось знѐў стỳкае ў дзвѐры. Спужàліса яны̀, не віедаюць, што рабіць. Маладзіца дагадàласа, што гэто мàбыць вернỳўса гаспадàр. — Ліезь хучыэй у піеч, — камѐндуе янà купцỳ, — бо як цебѐ тут застàне муой гаспадàр, та палѐміць табѐ нѐгі да адрыэжэ вỳшы ці яшчэ̀ што нѐбудзь. — Пакỳль янà атчынàла дзвѐры, купѐц і ўплішчыўса ў піеч, дармѐ, што там ужэ̀ лежàло двѐе. Цìснуць яны̀ адзін другѐго, да нічѐго не парàдзіш, бо ў стрàха вѐчы веліkіе. Тым чàсам іехаў, іехаў той чалавіек да й сустрыэў свайгѐ тавàрыша, з катѐрым кѐлісь яшчэ̀ хлапчукѐм пàсціў кѐні. З гэ̀стым тавàрышам яны̀ вѐльмі дѐбрэ жылì: нѐмаль датỳль таварышавàлі, пакỳль ён і ажаніўса. У вадзін руок яны̀ пабрàліса, а тагѐ тавàрыша забрàлі ў маскалì. Цепѐр ён атслужыўса ў маскалёх і вертàўса да гаспѐды. Маскàль вѐльмі прыстàў у дарѐзе й не здѐлеў дàлей іці. От наш чалавіек пасадзіў ягѐ на вуоз да й паўёз да гаспѐды. Такім рàзам неўзначàй вернỳўса да гаспѐды той гаспадàр да яшчэ̀ з маскалём. Чуць яны̀ ўліезлі ў хàту, а гаспадàр і кàжэ жуонцы, каб янà хучыэй запалìла ў пѐчы да гатѐвіла

вечэ̀рацьдарагѐнькаму го̀сьцю. Маладзіца тым ча̀сам усѐ агінаецца. От гаспада̀р сам схапіўся з ла̀вы, напѐр у піеч сухіх дроў да й запаліў. Круцілiса ў піечы, круцілiса тые малайцы да й задо̀хлiса з дыму. От гаспада̀р пасыла̀е жуонку ў ка̀рчму купіць ква̀рту гарыэлкі на пачо̀стку сваймỳ тава̀рышу. А тут маска̀ль ка̀жэ, што ліепш ён по̀йдзе па гарыэлку, бо по̀цемку жанчыну яшчэ што нѐбудзь спужа̀е. Пашо̀ў маска̀ль у ка̀рчму па гарыэлку да, віедамо, пакỳль растỳрхаў серуод но̀чы ландара̀ да купіў гарыэлкі, дак тро̀хі й замарỳдзіў. Пакỳль яго̀ не было̀ ў ха̀це, жуонка кінуласа ў но̀гі гаспада̀рў, прызна̀ласа ямỳ ва ўсём да й ка̀жэ: — што-ж ты нарабіў! гэто-ж лю̀дзі ў пѐчы, — ты-ж іх ма̀быць спаліў. Прапа̀лі мы цепѐр. — Да дава̀й галасіць, аж рỳкі ло̀міць да валасы на сабіе рве перапало̀ханая маладзіца. — Ціхо, дурна̀я ба̀ба! — сыкнуў на яіе гаспада̀р. От узяў ён ведро̀ вады да шабуўх у піеч. Разгруоб гэто ён галавѐшкі да дава̀й выця̀гваць з пѐчы малайцуоў, выцягне аднаго̀, запрэ̀ да й паста̀віць у сіенцах. Выцяг гэто ён апуошняго, запѐр яго̀ на двуор да й паста̀віў кала̀ камо̀ры. Тым ча̀сам варо̀чаецца з карчмы маска̀ль. Ба̀чыць ён, што хто̀сь стаіць кала̀ хаджа̀йськаіе камо̀ры й падỳмаласо ямỳ, што гэто ма̀быць зло̀дзей. От ён падышо̀ў ціхенько да як цюкне яго̀ пля̀жкаю па мазгаўні, дак той і сỳнуўса на зѐмлю. Уліез маска̀ль у ха̀ту да й раска̀звае тава̀рышу, яка̀я ямỳ прыго̀да тра̀піласа. — Ну, неха̀й чэшэ патылíцу, — ка̀жэ гаспада̀р, — а ты, ба̀бо, падава̀й на стуол. — От выпілі яны пля̀шку гарыэлкі, закусілі, чым буог пасла̀ў і збіра̀юцца лажыцца спаць. Вышаў гэто маска̀ль да віетру да зірнуў у той буок, дзіе ён пачастава̀ў зло̀дзея, аж ба̀чыць, што той лежыць і не варухнѐцца. Падышо̀ў ён, пама̀цаў, аж зло̀дзей ужэ й ахало̀даў. Прыбіег маска̀ль у ха̀ту біелы як палатнуо да й ка̀жэ, якое нешча̀сце зрабіласо. Пагаварылі яны паміж сабо̀ю, парадзіліса, што тут рабіць і намеркава̀ліса, пакỳль цѐмно, зацягні мерцьвеца̀ да й укінуць у во̀ду. От схапіў маска̀ль таго̀ мерцьвеца̀ да й напѐр. Сустрака̀юць яго вартаўнікі. — Ты хто? — пыта̀юць яны. — Чорт. — Атка̀звае маска̀ль. — Каго̀ несѐш? — Па̀на. —

Куды. — Тапіць. — Несі, несі хучыэй, — кажуць вартаўнікі й пашлі ў другі бок. Укінуў маскаль мерцьвеца ў воду да йдзе дамоў. Тым часам гаспадар выцяг з сенец другого мерцьвеца да й палажыў яго на дварі кала парога. Прышоў салдат (маскаль) да й бачыць, што мерцьвец зноў вернууса на старое мiейсцэ, от ён схапіў яго й зноў папёр тапіць. Але зноў сустракае вартаўнікоў, дак тые бачаць, што чорт прэ пана тапіць, от яны заворнуліса й пашлі ў другі бок. Укінуў маскаль мерцьвеца ў воду да й пахнуў яго на дно пастырчаком. Прыходзіць да гасподы, аж гаспадар прыгатовіў яму трэйцяго мерцьвеца да яшчэ абліў яго вадою. — А, — кажэ маскаль, — ты зноў вылiез з вады, дак я-ж к табiе прывежу камень. І зноў папёр ён трэйцяго мерцьвеца, прывезаў да яго цяжкі камень і укінуў у воду. Ідзе ён да дому да й сустракае вартаўнікоў. У той час іедзе сабiе вёрхам якісь пан. От вартаўнікі й крычаць маскалю: — чорт, чорт, бачыш, той пан вылез з вады да па каню ўцекае. — Пусціўса гэто маскаль за тым панам, звалок яго з седла, запёр к рацэ да й укінуў у воду. — Ото-ж, дзякуй богу, — думаюць вартаўнікі, — адным панам меньш.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 79. Усе і ў галавiе не змiесціцца.

Жылі багатые людзі, было ў іх уселякаго дабра, тулькі ат іх ніхто не мieў дабра. Быў у іх адным-адзін сын. Не хацiеласо яму спажываць бацькаўськае дабро, а цягло яго ў сьвiет, каб усе знаць, што там робіцца. Ужэ кулькі раз парываўса ён кінуць старых бацька й матку да й вандраваць па сьвieту, тулькі не хацiеў, каб яны на старасці аб ём гаравалі. Але ось паміраe матка. Бацько й кажэ: от твая матка памерла, а скоро й я памру, дак ты як пахаваеш мене, так прыдзе к табе пёршы старац, ты й дай яму цыэлы бохан хлiеба да ось гэты горшчык грошэй. — І даў ён сыну невелічкі горшчык, завязаны анучкаю. Скоро

бàцько памёр і заставіў сыну мну͡ого ўселякаго дабрà. От пахаваў ён бàцька рàдам з мàткаю, спрàвіў памінкі да й збірàецца йиці ў сьві͡ет. Алè ось захòдзіць к яму стàрац, сівенькі дзедòк. А гэто быў сам бу͡ог. Даў гэто той чалаві͡ек стàрцу цыэлы бòхан хлі͡еба, а аб грашу͡ох і запàмятаваў. Падзякуваў стàрац да й пашòў. Хòдзіць той чалаві͡ек да ўсе чагòсь шукàе, а чагò — й сам не ві͡едае. Хапіўся да й успаменуў, што не даў стàрцу грòшэй. От пабі͡ег ён даганяць тагò стàрца. Нагнаў ягò да й атдаè гòршчык грòшэй. А дзедòк сівенькі да й пытàе: ці ты ві͡едаеш, што ў гэстум гòршчыку? — Ні͡е, не ві͡едаю. — А як жэ ты хòчэш знаць усе на сві͡еце, калі не ві͡едаеш і тагò, што ў цебè нèрад вачàмі? Усè ў галаві͡е не змі͡есціцца, — дабàвіў дзедòк. Здзівіўса той чалаві͡ек, аткуль гэто стàрац знàе ягò дўмкі, здзівіўса да й дагадàўса, што мàбыць гэто не прòсты стàрaць. От ён і прòсіць ягò паказàць дарòгу ў сьві͡ет, каб там павучыцца хаць таму, як жывуць людзі. — Ідзі ка мні͡е служыць, — кàжэ сівенькі дзедòк, — та мну͡ого навучышса. — Здзівіўса ён, алè пашòў. — Пачакàй трòхі тут, я прышлю табі͡е каня, ён цебè давезè. Ту͡олькі ты не пужàйса, што ён трòхі дзіўны. — Сказàў гэто да й зпік. Стаіць той чалаві͡ек, чакàе, аж чуе, штось гудзè, бы дзі͡есь пàдае град. Азірнуўса ён, а тут і стаў нèрад ім ку͡онь з залатымі крылàмі. Скòчыў ён на тагò каня да й панёсса як віхар. Атдзеліўса ку͡онь ат землі да й палеціеў усè вышэ да й вышэ. От ужэ бàчыць ён, што ў вёсцы людзі хòдзяць па вўліцы малèнькіе, бы мўхі, а высòкі лі͡ес здаецца яму мурòжнаю травòю на сенажàці. Скòро ўбàчыў ён усю зèмлю са ўсімі марàмі, гарàмі да палямі, ўбàчыў усі͡е царства, гарады й вёскі. Алè скòро й земля зрабілаcа малèнькаю, як блінèц, а пòтым і саўсім зпікла. Падняў ягò ку͡онь пад сàмае сòнейко да й завёз на нèбо; злі͡ез ён з каня, каб атдыхаць, бо вèльмі ўтаміўса, а той і зпік. Супачыў трòхі той чалаві͡ек да пашòў аглядàць, што там рòбіцца. Аж бàчыць, стаіць велізная хàта, а ў ёй хтось крычыць: ой, ці͡есно! Вайшòў ён у тўю хàту, аж там ту͡олькі адзін чалаві͡ек і ён крычыць, што яму ці͡есно. Падзівіўса ён і незнàе, што-б гэто было такòе. Да

й пашоў далей. Ідзè ён цèраз пòплаў, а там густàя харòшая травà да квіеткі, хаць касі. На туом пòплаву пасýцца авèчкі да такіе худые, што чуць кòсці не разсыплюцца. Падзівіўса ён да й пашоў цèраз гаёк. Выхòдзіць на пòле, дзіе нема-ш нігòднае травінкі, алè бачыць, што там пасýцца такіе тлýстые авèчкі, што чуць хòдзяць ат лòю. Дзіўно яму стàло, алè невіедае, што гэто такòе. Пашоў ён у другі гаёк, бàчыць, аж там чалавіек лòвіць птýшачку, а янà ўсе пералетàе з аднагò гнездзèчка у другòе, і нiяк піельга яие злавіць. — Закрый, — кàжэ ён, — аднòю рукòю гнездзèчко. — Той закрыў, а тут зàмест двух, стàло чатыры гнездзèчка, дак яшчэ труднiей злавіць тýю птýшачку. Пашоў ён далей да й падхòдзіць к варòтам рàя. Бàчыць праз частакуол, што там цьвітýць руознные квіеткі, летàюць да паюць птушкі, стаяць гòжые палàцы, што аж зяхацяць ат зòлата, а тут калà сàмых варуот валяецца якòесь пàдло, чэрві ў ём аж кішàць і ад ягò йдзе такі смуруод, што аж нуос вèрне. Плюнуў ён на тòе пàдло да й пашоў у рай. Сустракàе ягò àнял да й паўеў к буогу. Прышлі яны к буогу, àнял закрыў свуой твàр крыламі да й вòчы панурыў. А ён зірнуў на бòга да й бàчыц пèрад сабòю тагò сàмаго сівенькаго дзедка, што прыхòдзіў к яму стàрцам. От буог і кàжэ: — прайшлà тваіе жыткі пèршая палавіна. Ты быў вèльмі цікàвы, хацiеў усе знаць, алè ўсе і ў галавіе не змiесціцца, давòлі й тагò, што я табіе растлумàчу. Слýхай. Той чалавіек, што крычыць у хàце, нібыто яму ціесно, за жыце павыганяў з хàты усіх братуоў. Авèчкі тлýстые й худые, гэто дòбрые й грызшные дýшы людзèй, птýшачку лòвіць чалавіек, гэто ён лòвіць сваю дýшу. Ты хацiеў яму памагчі, да зрабіў яшчэ гарызй. Ты плюнуў на пàдло да й саграшыў, бо то твуой бàцько ведзьмàр і мàтка віедзьма. Ось паглядзі, што ў туом гòршчыку, што ты мніе даў. Развезàў буог гòршчык, аж там кроў, слёзы й пуот людзèй. — От што людзі называюць грашàмі, от янò зòлато, што твуой бàцько й мàтка сабрàлі ў людзèй. Яны хацiелі пакàяцца й атдалі мніе ўсе, што за жытку награбілі ў біедных людзèй. Цепèр ты мнуого знаеш, алè не ўсе, бо ўсе і ў галавіе не змiесціцца. — І па-

прасіў той чалаві͡ек, каб бу͡ог пазво̀ліў яму̀ паглядзі͡ець гры͡эшных душ. Бу͡ог пазво̀ліў. Вы̀шаў ён з рая̀ да й пача̀ў абхо̀дзіць ты̀е катлы̀ з смало̀ю, дзі͡е му̀чыліса гры͡эшные ду̀шы, алѐ не му͡ог до̀ўго глядзі͡ець, бо яму̀ было̀ вѐльмі шко̀да тых людзѐй. Бо чым яны̀ віна̀ва̀ты, што іх такі̀мі бу͡ог сатвары̀ў і так ім нараду̀ назна̀чыў. — Ні͡е, — ду̀мае ён, — бу͡ог дару̀е ім грахі̀, бо ён до̀бры, міласѐрды, дак несхо̀чэ, каб то̀е, што ён зрабі̀ў, да ста̀ласо ліхі̀м. — Ту͡олькі ён гэто паду̀маў, як паатчыня̀ліса катлы̀ да й вы̀шлі атту̀ль гры͡эшные ду̀шы да й пашлі̀ хваліць бо̀га. Ра̀дасно яму̀ ста̀ло на сѐрцы. Аглядзі͡еўса ён аж тро̀е рву̀ць то̀ненькае дзераў̀цо̀ да не мо̀гуць яго̀ вы̀рваць. А гэто была̀ яго̀ жы̀тка. Не знаў ён таго̀, рвану̀ў то̀е дзераў̀цо̀ да ра̀зам і вы̀рваў. Тут упа̀ў да й памёр, бо нему͡ожна чалаві͡еку ўсе знаць.

Ры͡эдкі.

В. Рожан.

## 80. Два браты̀, беда̀ да до̀ля.

Ці блізко, ці далѐко жылі̀ ко̀лісь два ру͡одные браты̀. Былі̀ яны̀ аднаі͡е ма̀ткі, аднаго̀ ба̀цька, да не ру͡оўную даў ім бу͡ог до̀лю. Аднаму̀ до̀ля спрыя̀е, дак яму̀ ві͡ецер дзецѐй калы̀шэ, до̀жджык мы̀е, а со̀нцэ гры͡эе; а другого̀ до̀ля ледашчы̀ца па сві͡еце гуля̀е, аб дзі͡етках не дба̀е. Їх ві͡ецер халодзіць, до̀жджык не даго̀дзіць, со̀нейко сма̀ліць, аж ліхо іх ва̀ліць. Адзін брат бага̀ты, за што ні вазмѐцца, ўсе до̀брэ ймѐцца. Другі̀ брат без до̀лі, не ма̀е карысці ніко̀лі. Што зро̀біць старэ̀нно, ўсе гіне штодзѐнно. Зві͡ер ры͡эжэ целу̀шкі, шчур бу̀рыць каду̀шкі, негры͡эе як трэ̀ба штось пі͡ечка, буду͡оўлю спаліла спрэс сві͡ечка. Беда̀ за бедо̀ю, хлі͡еб з лебедо̀ю, не стра̀ва, — вадзіца. Ой, до̀ля, ледашчы̀ца. Нарэ̀шце на Ўшэсця хваро̀ба кару͡оўку сустры͡эла. Жанчы̀на ёй зёлак са̀гры͡эла. — Ой, го̀рэ, ты-ж дзі͡еткам пажы̀ва!.. — Кару͡оўка не хо̀дзіць, чу̀ць жы̀ва. Сплесну̀ла жанчы̀на рука̀мі. — Дзі͡етак загу̀бім мы са̀мі. — Берэ̀ш ты кару͡оўку, беры̀ш і веру͡оўку. — І бі͡едны дары͡эзаў кару͡оўку. З каро̀вы ён шку̀ру здыма̀е да

ў жа̀лю ўздыха̀е. Падхо̀дзіць стара̀я жабра̀чка, пыта̀е, ці бу̀дзе пада̀чка. — Усе ру͡оўно прыдзѐцца памѐрці . . . — Атры͡эзаў наш бі͡едны паў чвѐрці, даѐ ён ту͡ой ба̀бе паўчвѐрці, а ба̀ба не здо̀ляе пѐрці. — Да хто ты, стара̀я? — Ён ба̀бу пыта̀е. — Беда̀ я, сако̀лік. Ці е ў цебѐ во̀лік? — Схапіў ён тут ба̀бу пад клі͡ешні бы жа̀бу да ў вы̀жар глыбо̀кі заціснуў пад бо̀кі. Прайшла̀ знаць часіна ліха̀я; прыго̀да даму͡оўку міна̀е. Падня̀ўса наш бі͡едны на но̀гі, — засі͡еяў абмі͡ежкі да ло̀гі. Зрадзіла пшаніца й друга̀я пашніца. Не ма̀е мітрэн(g)гі і ста̀так; у ха̀це зъявіўса даста̀так. Дак хто-ж з нас не зна̀е, што ў шча̀сцю нас ку͡ожын пыта̀е: як вашэ̀ здаро̀ве, маі͡е вы пано̀ве. Так брат той бага̀ты, захо̀дзіць да бі͡еднаго ха̀ты, пібы̀то здару͡оўе пыта̀е да со̀чыць, атку̀ль ён то ма̀е, што ў ха̀ці да ў сі͡енцах ускры̀ші, ў вабо̀рах да ў сві̀рні, ў вадры̀ні. — Зайшо̀ў я, брато̀чак да ха̀ты да й ба̀чу, што стаў ты бага̀ты. Не ту͡ойса, скажы̀ мні͡е, як бра̀ту, як мог ты збагаціць сам ха̀ту? — У вы̀жары, бра̀це, ў бало̀це е до̀ля, што хо̀дзіць у зло̀це. — І про̀сіць бага̀ты паво̀лі: звадзі̀ менѐ, братко̀, да до̀лі. — Брат бі͡едны шука̀ць там не ра̀дзіць, — бо, — кажэ̀ ён, — мо̀жэ зава̀дзіць. — Не слу̀хаў яго̀ той бага̀ты, да ху̀ценько вы̀шаў ён з ха̀ты. Дак чуць ён беду̀ там з бало̀та даўѐў сабі͡е ху̀тко да пло̀та, яна̀ па гало̀дные зу̀бы схапіла бага̀таго ў гу̀бы, схапіла ў даму͡оўцы бага̀цье да й знішчыла самае шма̀цьце. Дак гэ̀так за хці̀васць бага̀ты заста̀ўса пад ста̀расць без ха̀ты. І на̀крыж паві͡есіўшы клу̀нкі ён хо̀дзіць, жабру̀е без жу͡онкі. Не ма̀е прыту̀лку ніко̀лі, бо да̀рам шука̀е ён до̀лі. А до̀ля з бедо̀ю сако̀чэ, бо заўжды так зро̀біць, як зхо̀чэ.

Ры͡эдкі.

В. Рожан.

### 81. Хто вы̀думаў гро̀шы.

Быў сабі͡е адзін чалаві͡ек да такі̀ скупы̀, што шкадава̀ў на̀ват даць лю̀дзям напіцца. У яго̀ ўсего̀ было̀ мну͡ого: по̀ўны хлевы̀ гаўя̀да, а ён трасѐцца, як здо̀хне паршы̀вае парася̀тко; сві̀ран ло̀міцца ат хлі͡еба, а яму̀ ўсе ма̀ло, — кру̀кам ві̀сіць над ку͡ожным

зерня̀ткам і нікѐму не дась і панюхаць. Сваѐ гніѐ ў засі͡еках, а ён завідуе, калі̀ ўба̀чыць у людзѐй якую-нѐбудзь слімаза̀рную пашніцу. Ат хціва̀сці вы̀сах як ражѐн, а ні штѐ ягѐ не ната̀ліць. От ён пача̀ў ужэ і͡есці ту͡олькі адзін раз у дзень да й то бу̀льбу, абѐ мякіну намі͡есіць з бу̀льбаю, спечэ̀ на вугѐлі да й і͡есь з халѐднаю вадѐю, а каб было̀ смачні͡ей, дак яшчэ̀ пасы̀пле пѐпелам. Смеюцца лю̀дзі з таго дурнѐго чалаві͡ека, што й сабі͡е шкаду̀е хлі͡еба, да і͡есь мекіну. І празва̀лі ягѐ Мекіннікам. Трасѐцца Мекіннік над сваі̀м дабрѐм да пражэ̀цца, каб нажы̀ць яшчэ̀ бу͡ольш. Алѐ ві͡едамо, з працы рук мну͡ого не нажывѐш, бо ў гаспада̀рцы аднѐ прыбыва̀е, а другѐе ўбыва̀е, от бы вада̀ ў рацы͡э. Скупы̀ збіра̀е, трасѐцца, а чорт з ягѐ смеѐцца, заханча̀е да ў мі͡ех забіра̀е. Не мажэ̀ Мекіннік вы̀трымаць, аж пу̀каецца, так яму̀ хѐчэцца ўсе бу͡ольш і бу͡ольш. Дачу̀ўса ён ат людзѐй, што каб чалаві͡ек знайшѐў цві͡ет па̀пераці, дак тагды̀ ўселя̀кае дабрѐ паўзлѐ-б к яму̀ самѐ. Пача̀ў ён распытѐўваць людзѐй, а ты̀е ка̀жуць, што па̀пераць цьвіцѐ ту͡олькі аднэ̀йко ў ру͡ок на купа̀ло, алѐ што той цьві͡ет вѐльмі тру̀дно ўзяць, бо ягѐ сцерагу̀ць чэ̀рці да ўселя̀кая нѐчысь. Пражэ̀цца Мекіннік, каб мі͡ець бу͡ольш дабра̀, так пражэ̀цца, што й страхаў не баі̀цца, бо не мажэ̀ вы̀трымаць, така̀я апанава̀ла ягѐ хцівась. Па нема̀лум ча̀се прыхѐдзіць Купа̀ло. Яшчэ̀ сѐнейко не зайшлѐ, а Мекіннік узя̀ў тѐрбачку да й пашѐў у лі͡ес. От сѐнейко схава̀ласо за зѐмлю; на нѐбе заблішча̀лі зу͡оркі, да ту͡олько там іх, што й ліку нема̀. І ду̀мае Мекіннік, што так мну͡ого на сві͡еце ўселя̀каго дабра̀. І гары͡эй ягѐ берэ̀ хцівась, каб заўлада̀ць тым дабрѐм. Сцемні͡ело ў лі͡есі, бы ў мешку̀, ту͡олькі дзі͡е-ні͡едзе праз ві͡еткі блішча̀ць зу͡оркі. — Мо так блішчы̀ць цьві͡ет па̀пераці, — ду̀мае Мекіннік і прыгляда̀ецца на па̀пераць пад густы̀мі ла̀памі галья̀. Ла̀зіў ён, ла̀зіў у гушчэ̀чы, чуць вѐчы сабі͡е не павыдзіра̀ў, зайшѐў у глухі̀ лі͡ес, так што й вы̀брацца не мажэ̀. Пача̀ў ён прыслухѐўвацца, ці не забрэ̀шэ дзі͡е саба̀ка, алѐ нічѐго не чува̀ць. Сі͡еў ён на пні̀ да й неві͡едае, куды̀ йці. Алѐ ось па лі͡есі штось загулѐ, затрашча̀ло, аж у ягѐ марѐз пабі͡ег па шку̀ры. Куды̀ ён не зірнѐ, дак ба̀чыць, аж чэ̀рці ска̀чуць

з вiедзьмамi абнлушыса, а уселякая нечысь стаiць вокала да у ладкi нлешчэ, тульки вочы блiшчаць бы жар да зубы ляскаяць. Спалохауса ён да нема чаго рабiць, седзiць да трасецца, бы сабака на марозе. Тульки ось убачыу ён, што непадалечку у наперацi штось блiшчыць, от бы зурачка. Дагадауса ён, што гэто цвiет наперацi да й кiнууса туды. Але куды там! Не паспiеу ён i два-тры разы ступiць, як уселякая нечысь з крыкам i пiскам налецiела туды да й засланiла яму дарогу. Стау ён, стаiць i не варухнецца, тульки зубы ляскочуць, бы яго траспа трасе. Перш хацiеу ён перахрысцiцца, але падумау, што багацье туды йдзе, дзiе нема крыжа. — Ну, — думае, — серуоуно прападаць, чорту душу запрадау-бы, каб тульки было за што. — Тульки ён гэтак падумау, як адзiн чорцiк тут як тут. Падбiег к яму да й кажэ: ты звау менее? Я тут. Дам табiе багатство, якое тульки ты зхочэш, а ты мнiе дасi тую сваю плюгавую душу, што яна табiе саусiм не патрэбна, бо часамi тульки iесь да скрабе табiе сэрцэ. — Згадзiуса Мекiннiк аддаць чорту душу за багатство да й пытае тульки, якi тэрмiн ён будзе спажываць тое багатство. — Яно заужды будзе твае, — кажэ чорт, — бо цебе людзi нiколi не забудуць, пакуль i свiет будзе стаяць, та будуць казаць, што усе багатство — твае. — I пачалi яны таргавацца, кульки гадоу чорт дась яму жыць. Нарэшце старгавалiса, i чорт узяу з Мекiннiка росписку, каторую ён напiсау сваею кроую з мiезенаго палца. От чорт дау Мекiннiку цьвiет наперацi да й научыу, як яго ужываць. С тых часау пашлыло к Мекiннiку уселякае дабро, як вада у рацэ; хутко у яго сабралосо тульки багатства, што й мiеста яму нема. Бачыць Мекiннiк, што нiельга яму сабраць багатства са усяго свiету, бо яно вельмi мнуого займае мiеисца да й такое цяжкае, што яго й земля не выдзержыць, от i заве ён к сабiе таго чорта. А той i кажэ: — добрэ, я дам табiе такое зiелье, што яно зберэ к табiе усе багатство й мало будзе займаць мiеисца. — От назбiрау чорт нету, слёз да крывi людзей, налiу у кацёл, варыу-варыу да й выварыу золато. Зiрнуу Мекiннiк на золато да й кажэ: давай сюды, бо

ў менѐ яшчэ нема̀ такоіе бліскӯчаіе рэчы.—Ніе,—ка̀жэ чорт,— мы яго̀ перш пўспім у лю̀дзі; яно̀ там заберэ ўсе бага̀тство й по̀тым прыдзе к табіе. — І выдумаў чорт гро̀шы да й пусціў іх па свіету гуля̀ць да людзѐй абіра̀ць. Па нема̀лум ча̀се сабрало̀со ў Мекі̀нніка вѐльмі мнўого грошэй, так мнўого, што ён мўог купі̀ць увѐсь сьвіет з усім бага̀тствам і з усімі людзьмі. Алѐ ба̀чыць Мекіннік, што ско̀ро канча̀еціа тэ̀рмін і што прыдзецца памі-ра̀ць. Папро̀бував ён падкупі̀ць смерць, алѐ та̀я тўолькі зарага-та̀ла з дурно̀го чалавіека, так што аж усіе кўостачкі яіе забраш-ча̀лі. Папро̀буваў ён падкупі̀ць знахарўоў да дахтурўоў, каб ат смѐрці атпѐрці, алѐ тые ў вадзі̀н го̀лас ба̀юць, што ўсіе лю̀дзі намі̀раюць. Ба̀чыць ён, што ніельга выкруці̀цца дак і пусціўса на хі̀трась. От зсыпаў ён зо̀лато ў по̀граб, набра̀ў сабіе ўселя̀-каіе стра̀вы да й седзі̀ць там, хава̀ецца от чо̀рта. Алѐ ось пры-хо̀дзіць смерць да й ка̀жэ: — чым было̀, тым і стань, — як яна̀ гэто прамо̀віла, дак усе зо̀лато разліло̀со ў пўот, слёзы й кроў людзѐй да й заліло̀ по̀граб аж давѐрху й утапі̀ло таго̀ хці̀ваго Мекі̀нніка. Тут якура̀т зъявіўса чорт па яго̀ дўшу, схапіў яіе да й ка̀жэ: пакўль маѐ сьвіет стая̀ць, датўль бўдуць цебѐ намі̀наць, што ўсіх дурыў, по̀там, слё̀зкамі да кро̀ўю жыў.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 82. Сўджано.

Жыў сабіе малы хлапчўк да вѐльмі ён любіў слўхаць ка̀зкі да рўозные ба̀йкі. Куды ні збіра̀юнца лю̀дзі, дак, віедамо, пажў-ня̀ць тро̀хі аб тўом, аб сём, а нарэ̀шце знайдзецца памі̀ж іх хто-нібудь да й пачнѐ хлусі̀ць, пачнѐ плесці̀, што было̀, й чаго не было̀, бо пра̀ўду ка̀жуць лю̀дзі, што ўселя̀кая хлусня̀, як устарыэе, та бўдзе й пра̀ўда. От той хло̀пец падкра̀дзецца ці̀хенько да й слўхае. Мо ўжэ ён знаў усіе ка̀зкі, алѐ ўсе слўхае да слўхае. І пача̀ў ён жыць на сьвіеце, бы ў ка̀зцы. Куды не зірнѐ, та яму̀ зда̀ецца, што га̀ўядо гаво̀рыць памі̀ж сабо̀ю, што кусты й дзе-раўля̀кі шэ̀пчуцца от так, бы й лю̀дзі. Уба̀чыць ён пчўолку, як

тàя на квіетках збірàе медòк, дак ён і пытàе яіе, што яму̀ су̀джано, ці якàя ягò бу̀дзе дòля. Бзын! пчу̀олка палеціць, а яму̀ здаèцца, што янà сказàла — лìхо. Сустрыэне яу̀ёрку, як янà грызè арыэшкі, падòйдзе к ёй бліжэй, каб запытàць аб сваёй дòлі, а тàя задзерэ хву̀ост, пабежыць угòру на дзèраве да ту̀олькі цмок-цмок-цмок! І здаèцца яму̀, што яу̀ёрка кàжэ: лìхо табіе, лìхо! Біегае хлапчу̀к да прыслухòу̀вaецца, а чу̀ом шэпчэцца віетрык з я̀варам, што так гòжэ у̀здымàецца аж у сàмае нèбо, прыслухòу̀вaецца к стрàшнаму рòву цёмнаго ліесу, як ён у бу̀ру матàе галавàмі, размàхвае віеткамі бы чалавіек рукàмі да камусь грòзіцца, каму̀сь выстау̀ляе кулакі, бàцэ хòчэ атагнàць лìху̀ю дòлю да паду̀жацца з сàмаю смèрцью. Прыслухòу̀вaецца й яму̀ здаèцца, што й ліес, і ракà, й сàмае каміене — усе жывè, у̀се ду̀мае, мàе сваю гаву̀орку, ту̀олькі людзі яіе не разуміеюць, хібà адзін дзіед Грышко, што у̀се знàе да так гòжэ бàе кàзкі, што ягò слу̀хау̀-бы дзень і ну̀оч. Пабіег той хлапчу̀к к старòму Грышку на пчальнік, каб абà у̀сём распытàць ягò. Да як к яму̀ падступіцца? Грышко хаць і дòбрэ бàе кàзкі, да такі ён гру̀озны, такі разу̀мны, што хлапчу̀к баіцца з ім і загаварыць. Падбіег хлапчу̀к, зірну̀у̀ праз плу̀от, аж дзіед Грышко, у̀жэ у̀весь сівенькі, як сусіеда кабыла, з дòу̀гаю, дòу̀гаю барадòю па сàмы пòяс, седзіць на калòдачцы да плецè лàпці. Ускòчыу̀ хлапчу̀к у пчальнік нібыто не нарòкам да й пачàу̀ хватàцца за сваю гіру, от як бы там пчалà заплу̀талася.

— А ты, дзіеткі, не бу̀ойса, — гэто бòжая слугà. Янà не у̀ку̀сіць, — кàжэ дзіед. Хлапчу̀к трòхі пасмеліеу̀ да й памалèньку бліжэй падышòу̀ к дзіеду. Віедамо, старòму хаціеласо пагаманіць і ён падазвàу̀ к сабіе хлапчукà, паглàдзіу̀ ягò па галу̀оу̀цы да й кàжэ: пчу̀олка, дзіеткі, нòсіць нам медòк, а бòгу вашчòк. Гэто светòе ствàрэне.

— А янà у̀міее гаварыць?

— Уміее, дзіеткі. Ку̀ожнае ствàрэне у̀міее гаварыць, ту̀олькі мы не разуміеем, бо так бу̀ог веліеу̀, каб мы не знàлі, што бу̀дзе у̀пèрад.

— А пчу͡олка ві͡едае, што з нàмі бỳдзе?

— Ві͡едае, му͡ой гòлубе, ві͡едае, штò нам сỳджано й якỳю дòлю нам бу͡ог прызнàчыў.

— А янà мні͡е кàжэ, што мая̀ дòля ліхàя.

— Гэто, дзі͡еткі, як бу͡ог дась. Што сỳджано, тòе й бỳдзе.

— А я, дзі͡еду, нехачỳ слỳхаць, што так сỳджано, а бỳду дỳжацца, бỳду біцца з ліхòю дòляю. — І̂ хлапчỳк аж пачырвані͡еў да й сашчапіў сваі͡е кулачкі. Паківаў дзі͡ед галавòю да патру͡ос барадòю. Бàчыць, што гэсты хлапчỳк не абы які, а што вèльмі жвàвы да цікàвы. І̂ доўго стары Грышко размаўляў з тым хлапчукòм, вучыў ягò, як на сьві͡еце жыць, як ліхо абхадзіць, ту͡олькі аднò казаў, каб ён дòлі не чапаў, бо сỳджанаго ні абòйдзеш, ні канèм не объі͡едзеш, што сỳджано, тòе й бỳдзе. Яшчэ стары не пасьпі͡еў усяго сказàць таму хлапчуку, як чỳе, што на вỳліцы якісь крык. Падняўса ён з калòдачкі да, апіраючыса на кі͡ечак, вышягса туды, аж сусі͡едзі кàжуць, што ўпаў азеру͡од да й на сьмèрць забіў бацьку͡оў тагò хлапчукà. Астаўса хлапчỳк круглаю сіратòю, от бы віцінка ў пòлі. Немажэ ён малы гаспадаравàць і нема ніякаі͡е радні. Сабраўса схо͡од, абсудзіў дзі͡ело да й раздаў гаспадàрку хлапчукà людзям, пòкі ён падрасьцэ, а ягò самòго прыняў сусі͡ед, бо ў ягò небыло дзецèй. Жывè там хлапчỳк да пасè гусі. Прахòдзіць год, а мо й бу͡ольш, ту͡олькі ось затаўсьцні͡ела жу͡онка тагò гаспадарà, ў якòго ён жыў. Падхòдзіць ёй парà раджàць. Паслàлі тагò хлòпца пасьціць кòні. А ён заўе͡ў кòні на лужòк, там папутаў іх, а сам вернуўса даму͡оў, ціхенько лёг на палàці да й прытаіўса там, нібыто сьпіць да ўсе назірàе, як гэто маладзіца бỳдзе раджàць. Алè ось бàчыць, што прышлі ў хàту перш сьмèрць з касòю, пòтым яшчэ дзьві͡е маладзі͡е жанчыны. Зірнула сьмèрць на тỳю маладзіцу да й кàжэ: вазьмỳ я яі͡е. — Яшчэ не парà, — кàжэ маладàя жанчына да й затуліла яі͡е ат сьмèрці. Пакяскала сьмерць зубàмі да й кàжэ: я вазьмỳ хаця̀ дзіця̀. — Тут выступіла другàя жанчына да й кàжэ: я ягò дòля. Тым чàсам радзілаcа дзі͡евачка да як убàчыла сьмерць, дак пачалà крычàць с усіх сіл. Алè дòля засланіла дзіця̀ ат сьмèрці. Пабàчыла

сьмерць, што ёй тут немà чагò рабіць, паля̀скала зубàмі, пабрàзкала касьця̀мі, закінула кòсу на плèчы да й зьнікла. Асталìса ты̀е дзьвіе малады̀е жанчы̀ны да й пачалì размау̀ля̀ць, якàя жытка бу̀дзе тагò дзіця̀ці. Дòля кàжэ, — харòшая. — Бу̀дзе гэто вèльмі гòжая дзіевачка, а як вы̀расце, дак пуойдзе зàмуж за тагò цікàваго хлапчукà, што живè ў яіе бàцька. Яны̀ бу̀дуць жыць вèльмі згуодно да хòрашэнько. — А другàя жанчы̀на, а то былà судзьбà, зірну̀ла на дзіця̀ да й кàжэ: — алè яіе ўку̀сіць свіньня̀, дак янà з тагò й памрэ̀. — Зьнікліі ты̀е жанчы̀ны, а хлапчу̀к зірну̀ў на ту̀ю дзіевачку, а янà чырвòная, змòршчаная бы жàба й вèльмі яму̀ неспадабàласа. — Отò-ж не дачакàне тваѐ, — ду̀мае той хлапчу̀к, — каб я з табòю пажаніу̀са. — Расцè тàя дзіевачка, алè віедамо, малòе дзіця̀, якòе там харàствò. Пазірàе на яіе хлапчу̀к да от так і задушы̀ў бы яіе як жàбу, каб прыміеў. Алè ось адзін раз пашлà куды̀сь маладзіца, а хлòпцу веліела пакалыхàць ту̀ю дзіевачку, як ачнèцца да бу̀дзе крычàць. Ачну̀ласа дзіевачка, зірну̀ла на хлòпца да пачалà так крычàць, што аж захòдзіцца. Калыхàў, калыхàў хлòпец, нічòго не памагàе, крычы̀ць дзіця̀, аж пу̀каецца. Пабàчыў хлòпец, што дзіевачка ат плàчу стàла такàя бры̀дкая, што аж зірну̀ць на яіе гідко да й ду̀мае: — і гэто яшчэ̀ мàе быць мніе жу̀онка! Да не дачакàне тваѐ! — Тут ён як шалёны схапіў на сталіе капчàты нуож, пырну̀ў ім раз дзіевачку, а кроў так і пасачы̀ласа. Убàчыў ён крòў, спалòхаўса, схапіўса за валасы̀ да чуць іх сусім не вы̀драў. — Што-ж я нарабіў! Яж зарыэзаў дзіця̀, — закрычàў ён да кінуўса бегòм з хàты й уцёк у ліес. Дòўго ён там скітàўса, іеў ту̀олькі грыбы̀, я̀гады да арыэхі, а пòтым, як стàло халадніей, пацёгса па сьвіету жабравàць. Тым чàсам прышлà мàтка ў хàту да як убàчыла, што дзіця̀ ў крывì, дак пачалà галасіць, аж галавòю біцца аб сьціепу. Збіегліса лю̀дзі, аглёдзелі дзіця̀ да й пачалì ягò ратавàць, бо рàна хаць былà велікая, алè янà не глыбòкая. Мàбыць нуож ту̀олькі збòку абрыэзаў шку̀ру да чуць крэ̀нуў мя̀са. Знеслì бàбы су сёй вёскі ўселя̀кае зіелье да як пачалì, як пачалì, дак і атхадзілі ту̀ю дзіевачку. Пашукàлі, пашукàлі тагò хлòпца, нідзіе не знайшлì

да й кажуць: мабыць спужаўса да ат страху й сунуўса ў воду.

Расце дзіевачка да ўсе харашыэе, туолькі велізпы шрам астаўса на баку. От вырасла яна велікая й стала такая ўдалая да гожая, што людзі не могуць надзівіцца. Убачыла яіе пані да й узела к сабіе ў двуор. Спадабаласа яна пані да й жыве там бы панёнка. Тым часам той хлапчук шляўса, шляўса па сьвіету, надаіело яму ў чужых краёх вуглы абціраць і захаціеласо хаць адным вокам зірнуць на сваю руодную ўеску. От і пашоў ён туды. Прыходзіць у двуор, дзіе была тая дзеўчына ў пані, да й просіцца на службу. Вырас ён за той час да стаў вельмі гожым да ўдалым хлопцам, так што ніхто й не пазнаў яго. Спадабаўса ён пану да й напяўса служыць наміесьнікам. Ці доўго, ці мало ён праслужыў, туолькі ось сустракае раз туую гожую дзеўчыну. Да як убачыў, так і не жыў! З першаго пагляду так закахаўса, што й жыць без яіе не мажэ. Дак і дзеўчыне ён вельмі спадабаўса, але, віедамо, дзеўчына, — маўчыць да ціхенько плачэ. Застала яіе заплаканую раз пані да й давай дапытоўвацца, чаго яна плачэ. Заціраласа, заціраласа дзіеўка, а парэшце й прызналаса, што вельмі кахае маладого да гожаго наміесьніка. — А ён што? — пытаецца пані. — Не віедаю, — адмаўляе заплаканая дзеўчына. — Не плач, мая куотка, — кажэ пані, — ты такая гожая, што ён не мажэ цебе не кахаць. Туолькі ты не плач, бо выплачэш сваіе ясныіе вуочкі. — Спалохаласа дзеўчына да й годзі плакаць. От зрабіла пані так, што наміесьнік шбы не нарокам сустракае туую дзеўчыну. А яму тое й трэба. Сустрыэліса яны да як глянулі адно на другого, дак і без слуоў дагадаліса, што вельмі кахаюцца. Хутко яны пабраліса, а тут пан зрабіў маладого акамонам, от і пашлі яны кахаючыса жыць да бога хваліць. Раз убачыў ён у жуонкі на баку пісух да й запытаў, што гэто такое, з чаго яно зрабіласо. Яна й расказала яму ўсе, што чула ат нябуожчыцы маткі. Дагадаўса ён, хто яна такая, дагадаўса да й падумаў: — ці-ж ат судзьбы ніельга ніздзіе схавацца? — Успаменуў ён, што казала судзьба, да аж сэрцо аблі-

лосо кроўю, так яму страшно стало, каб тое не збылосо, што кахануй жўонцы напісано па раду. От пачаў ён берагці сваю жўонку, больш як сваё воко й казаў ёй, каб яна берагласа сьвінёй. Жывё сабіе тая жанчына, як у бога за пазухаю, ўсе ў ліе е, ні якаго клопату не мае. От даў бўог ім дзіеткі на радась да на ўціеху. І забыўса ён на тое, што чуў ат судзьбы. — А мо, — думае, — гэто ўсе пранікі. — От ужэ надпеліса на ногі дзіеткі да бы залатые калёса тарахняць на падлодзы. Любуюцца бацько з маткаю на іх глядзячы, да радуюцца, што бўог наслаў такую жытку, такое шчасьце, што не трэба й памірапь. Тўолькі ось уздумаў пан паіехаць на палеване да й узяў з сабою таго акамона. Напалевалі яны мнўого зверыны. Акамўон быў удалы стралец і забіў ён двух дзікўоў. От прывезлі тую зверыну ў двўор, разлажылі на дзедзінцы да й сабраліса ўсіе разглядаць да любавацца. Выйшла з пакояў і жўонка акамона. От і паўеў ён ліе пакязваць тых дзікўоў, што сам застрэліў. Падыйшла яна туды, пагладзіла цьвордую бы дрот шчаціну на спіне дзіка да й дзівіцца, якіие ў яго доўгіие да войстрыие іклы. Тым часам таго дзіка не сусім застрэлілі, а тўолькі аглушылі. Ачухауса ён да як ускочыць раптам да як марськанё лычом, дак зачапіў іклом акамона жўонку па самых ляшках, так што чуць саусім нўог не атпяў. Пакуль людзі хапіліса за стрэльбы, дак ён так сунуў у ліес, што ніхто й не дагнаў. А жўонка акамона яшчэ памучыласа трохі да й кончыласа. Не плакаў акамон, бо пазнаў, што ат судзьбы ніздзіе не схавяешса, а што яго пасціглo такое нешчасьце затым, што яго доля такая ліхая.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 83. Не сіла, а сміеласць.

Была ў адной вёсцы маленькая ростам дзіеўка. Мо ў ліе й сіла была як у камара. Смеяліса зь ліе дзеўчата. Кажуць, што хлопец дзьмухне, дак яна й палепіць бы пух. Але яна была вельмі сміелая, што нічого й нікого не баяласа. — Чаго я буду

бая̆цца, — ча̀сам шутку̀е яна̀, — бо̀гу не трэба, а лі̀хі не во̀зьме, бо й ён па менѐ не пазà̀рыцца; ві͡едамо тà̀я, што ат ві͡етру хі-стàе. — Ту͡олькі ось кà̀жуць дзеўкі̀, што яна̀ не такà̀я смі͡елая, як гаво̀рыць, бо по̀ўначы пабаіцца адна̀ сходзіць на мо̀гліцы. Спрачàецца яна̀, што схо̀дзіць, алѐ тые кà̀жуць, што не даю̀ць ві͡еры. Зло̀сць узела̀ ту̀ю дзі͡еўку, а яна̀ хаць была̀ малѐнькая, да злосці по̀ўны ко̀сці. — Ото̀ж пайду̀, — кà̀жэ яна̀. — Гэто ты пу͡ойдзеш, бо вѐльмі ўпà̀ртая, а ў саму͡ой душа̀ ў пъяткі схавà̀ецца, як убà̀чыш пень, — смею̀цца дзеўкі̀. — Ото-ж пайду̀, — піснула яна̀, ту̀пнула бы каза̀ нагòю да й пабі͡егла на мо̀гліцы, бежы̀ць і не азірà̀ецца. Падбі͡егла к мо̀гліцам, супыні̀ласа да й пашла̀ ціхо, а каб не было̀ стра̀шно, запі͡ела пі͡есню, йдзе да паѐ. Тым ча̀сам зладзі͡еі абакрà̀лі пà̀на да й но̀сяць то̀е дабро̀ кала̀ каплі̀чкі на ву͡оз. Пачу̀лі яны̀ пі͡есню, спужà̀ліса людзѐй да й пабі͡еглі ў лі͡ес. Падхо̀дзіць яна̀ к каплі̀чцы да й ба̀чыць, што там стая̆ць запрэ̀жаные ко̀ні. Запытà̀ла яна̀, хто гэто, алѐ ніхто̀ не абзы-вà̀ецца. Памà̀цала яна̀ на во̀зе, аж там мно̀го ўселя̀кага дабра̀. От яна̀ атвезà̀ла ко̀ней, сі͡ела на ву͡оз да й паі͡ехала да гаспо̀ды. Пагнà̀ліса зладзі͡еі за то̀ю дзі͡еўкаю, алѐ немаглі̀ дагнà̀ць, ту͡олькі пацікавà̀лі, куды̀ яна̀ паі͡ехала. Верну̀ла яна̀ пà̀ну ко̀ней і ўсе дабро̀, дак той даў ёй гасьцінца мну͡ого гро̀шэй. Жывѐ тà̀я дзі͡еўка да спажывà̀е пà̀ньскіі͡е гро̀шы, а дзі͡еўкі ту͡олькі аблі̀зваюцца да за-ві̀дуюць ёй. Шко̀да зладзі͡еям таго̀ дабра̀, алѐ яшчэ̀ гары͡эй со̀-рам ім, што такà̀я невелі̀чкая дзі͡еўка не пабая̆ласа, а яны̀ раз-бі͡егліса от яі͡е бы зайцы̀. От і наду̀малі яны̀ замсьціцца. Па не-мà̀лум ча̀сі͡е прыхо̀дзіць адзін зло̀дзей к ёй у сваты̀. Яна̀ не зга-джà̀ецца, паку̀ль не пабà̀чыць, як ён жывѐ. А таму̀ то̀е ту͡олькі й трэ. От і расказà̀ў зло̀дзей ёй, як яго̀ знайці̀. От і збірà̀ецца яна̀ і͡ехаць к таму̀ зло̀дзею. Мà̀тка давà̀й атгаво̀рваць да не пу-шчà̀ць. Куды̀ там, дзі͡еўка стаіць на сваём. Нема̀ чаго̀ рабіць з упà̀ртаю дачко̀ю, — прэ̀цца бы свіньня̀ ў вагару͡од. От запраглà̀ яна̀ сваю̀ паршы̀вую кабы̀лку, сі͡ела да й паі͡ехала цѐраз по̀ле. Ось падъежджà̀е яна̀ к лі͡есу, бà̀чыць збо̀ку — пу͡оваратка, а калà̀ яі͡е на кусьцѐ закру̀чана ку̀кла. Ду̀мае яна̀, што гэто зладзі͡еі зра-

білі прыкмієту, каб не заблудзіць. Звернула яна на пуоваратку да й паіехала ліесам. Праіехала мо верстуоў пъяць з хвастом да ўсе варочае на пуовараткі, дзіе е прыкміеты. Падъіехала к балуоццу, аж і кончылаеа даруожка да пашоў такі густы ліес, што й воса не ўбіць. Прывезала яна к берэзіне сваю кабылку да й паліезла ў той ліес у самую гушчэчу. Разгортае яна абіеручкі калючые віеткі да ціхенько ліезе праз гушчарню. Праліезла яна мо з гоны, аж там прасьвіечваецца якаясь хатка. Падкраласа яна к туой хаццы, аж бачыць, што там зладзіеяў цыэлая шайка. Яны дзіеляць праміж сабою накрадзенае, а мо й награбленэ дабро. Дзіеляць да лаюцца, крычаць, бъюцца, чуць не нажамі пыраюць адзін другого. Зірнула яна, аж тут і яіе жаніх. — Мабыць ён буольшы, — думае яна, — бо стаіць, размахвае велізазным нажом да разнімае другіх. Выглядзела яна, што там робіцца, прытаіласа ў кусце да й чакае, пакуль яны супакояцца. Але ось старшы й кажэ: сонцэ нізко, вечар блізко. Хлопцы, за дзіело, пакуль не сцемніело. Час да касцёла нам памаліцца. Заўтра дзеліцца з ранку мы будзем, як грошэй дабудзем. Туолькі ён гэто прамовіў, як усіе зладзіеі хуценько забралі сваё нажэндзе да й пашлі ў гушчэчу. Дагадаласа яна, што зладзіеі пашлі, каб нуочу абакрасці косцел. Пачакала яна трохі, вылезла з куста, зайшла ў тую хатку, аж там поўно крадзенаго дабра. Кінула яна тую хатку, выскачыла на двуор да й хаціела хучыэй біегці да сваіе кабылкі, каб не спазніцца перасьцерагці ксендза, што зладзіеі хочуць абакрасці косцел. Кінуласа яна ў кусты да й не заціміла, што паляначка зацецёнена віеткамі да ймхом. Туолькі яна ступіла на муох, як і шабоўсь у яму да такую глыбокую, што ў ёй саўсім цёмно. Папробувала вылезьці, дак немуожне, бо сьціены гладкіе. Пачала яна мацаць, што там на дніе, аж гэто лежаць забітые людзі. Схапіла яна аднаго да другого, аткуль і сіла ўзеласа, да давай іх складваць у кучу кала сьцены, наверх яшчэ пасадзіла аднаго, а сама стала яму на плечы да й схапіласа рукамі за віеткі. Але віетка абламаласа й тая дзеўчына грымануласа на мерцьвецуоў. Але як яна зачапіла віеткі, дак сверху ўпаў у яму

му͡оцны сук. Схапіла янà той сук, стàла на мерцьвецà да давàй карпàць зѐмлю да забівàць у песо̀к той сук; забіла ягò ў сьці͡ену, памацавàла, — вы̀трымае, — дўмае сабі͡е, стàла на сук нагòю да й схапіласа абі͡еручкі за край. От вы̀лезла янà з таі͡е я̀мы, азірнўласа да й пашлà абі͡еручкі расхіля̀ць густы͡іе ві͡еткі да лі͡езці праз тўю нѐтру. Плішчыласа янà, плішчыласа да й заблудзіласа ў гушчэ̀чы. Янà туды̀, янà сюды̀, немà кабы̀лкі да й шабàш. Бі͡егае, рўкі лòміць, чуць не плàчэ, што не мажэ̀ перасцерагці̀, каб зладзі͡еі не абакрàлі кòсцел. От вы̀бегла янà на паля̀начку, а тут тыц ёй на сустры͡эк два ваўкі̀ да такіе здаравѐнные, от бы пу͡од-целкі. Стàлі яны̀ да ту͡ольки зубàмі ля̀скаюць. — Ну, — дўмае янà, — зъі͡елі яны̀ маю кабы̀лку. — Узелà гэто яі͡е злòсць, кіну-ласа янà з гòлымі рукàмі на тых ваўку͡оў, от тые й спалòхаліса смі͡еласьці да й супўлі ў лі͡ес. Ідзѐ янà дàлей; а тут ужэ̀ й сòнейко зайшлò, стàло цемні͡ець; птушкі заціхлі, ту͡ольки пугàч крычы̀ць сваѐ пў-гу! да савà падлетàе к ёй на сваіх мя̀гкіх кры̀лах, чуць не садзіцца па гòлаў, а як атлеціць да пачнѐ выгукòўваць, да пачнѐ плàкаць бы малòе дзіця̀, дак аж пòшчак ідзѐ па лі͡есу. Ту͡ольки ось зірнўла янà ўбу͡ок, аж па яі͡е кабы̀лцы і͡едзе якісь чалаві͡ек. Прыглядàецца янà, аж гэто сусі͡ед маскàль. Хадзіў ён у лі͡есі з сакі͡еркаю, ці не трàпіцца знаду͡обная дзераўля̀ка, натрàпіў на кабы̀лку да давàй гукàць, звàць гаспадарà, алѐ не дагукàўса, бо ві͡едамо ў лі͡есі ат ві͡етру шуміць і нічòго не чувàць. — Мàбыць зладзі͡еі, — дўмае маскàль, — укрàлі кабы̀лку сусі͡еда з драбінкамі да й схавàлі яі͡е ў лі͡есі. — От ён атвезàў кабы̀лку, сі͡еў на драбінкі да й папхàўса да гаспòды. Зірнўў ён, што з лі͡есу якурàт ідзѐ ямў на перары͡эз якàясь пачвѐра й прышлò ямў ў гòлаў, што гэто мàбыць русàлка, ці якàя марà. Ён на кабы̀лцы, а дзі͡еўка бежы̀ць на перары͡эз да крычы̀ць: — дзя̀цько маскàль, дзя̀цько маскàль, пасту͡ой! Гэтò-ж мая̀ кабы̀лка. — Бàчыць маскàль, што ямў на кабы̀лцы ні͡ельга ўцечы̀ ат гэстаі͡е мары̀, саскòчыў ён з вòза, схапіў сваю сакі͡ерку да давàй бу͡ог нòгі, так супўў, што ту͡ольки пъяты замітусіліса. Сі͡ела дзеўчы̀на на ву͡оз да й завѐ сусі͡еда к сабі͡е. — Дзя̀цько маскàль, гэто-ж я, хібà-ж ты

менѐ не пазнаў? — Азірнуўса ён, перахрысьціўса да й пытае:
— калі̀ гэто ты, дак чаму̀-ж у цебѐ ко̀сы распу̀шчаны бы ў руса̀лкі.
— Тут ту̑олькі дзеўчына аглѐдзеласа, што ў яі̑е ў гушчэчы зверну̑уло
хустку да й распусці̀ло ко̀сы. — Не лека̀йса, — ка̀жэ яна̀, — ба̀-
чыш, я перахрысьціласа. — Тагды ту̑олькі ён павіерыў да й падыш-
шоў к ей. Сі̑еў ён на ву̑оз да й паі̑ехалі яны̀ хучы̑эй к таму̀ кас-
цѐлу. Паку̀ль яны̀ даі̑ехалі, дак ужэ пѐўне была̀ са̀мая глу̀пась.
Падышла̀ дзі̑еўка к касцѐлу, аж зладзі̑еі атчынілі дзьвѐры да й
шастаюць там. Зачыніла гэто яна̀ дзьвѐры да й кало̀м надпѐрла,
а зладзі̑еі там засталіса да й вы̀лезці не мо̀гуць. Збі̑егліса лю̀дзі,
палавілі іх да й забілі ў кало̀дкі. На другі̀ дзень павѐла дзеўчына
людзѐй у лі̑ес да й паказа̀ла, што там навычвара̀лі гэтые зладзі̑еі.
Дак пра̀ўду ка̀жуць, што берэ̀ не сіла, а сьмі̑еласць.

Рыэдкі.

В. Рожан.

## 84. Маска̀ль.

Ідзѐ маска̀ль шля̀хом да чуць но̑гі цягне, утамі̀ўса да й у жы-
ваці̑е бурчы̀ць, ба̀цнэ там бу̀бняць на трывогу. Шляг шыро̀кі,
паабапал прыса̀ды стаяць, бы маскалі̀ на вучэ̀ні, а па трахту̀ ні-
кагу̀сьсенько не зу̑орко, ба̀цнэ ўсі̑е вы̀мерлі, ці паі̑ехалі на кірмаш.
Ту̑олькі ба̀чыць ён, што со̀нейко спусьціласо саўсім нізко, а тут
нема̀ ні̀якаі̑е ўѐскі. Лаецца маска̀ль да ўжэ чуць дыбае да̀лей.
— Ото̀-ж стару̑онка! — бурчы̀ць ён сабі̑е пад ну̑ос, — хаць ты ла-
жы̀са да й памі̀рай. От табі̑е ві̑ераю й пра̀ўдаю служы̀ў бо̀гу й
цару̀ чуць не два̀дцаць пьяць гаду̑оў да й даслужы̀ўса, што це-
пѐр серу̑од по̀ля здыха̀й з го̀ладу. — Хапі̑еў ён сі̑есці, каб тро̀хі
атдыхаць, да пабая̀ўса, што, бада̀й, як ся̀дзе, та й не ўста̀не. От
закуры̀ў ён лю̀льку да й пасу̀нуўса да̀лей. Алѐ ось ту̑олькі ўзы-
шоў на ўзгу̑орачак да зірнуў у бу̑ок, аж ба̀чыць там яку̀юсь
вѐску. Абра̀дуваўса да хапі̑еў іці туды̀ на цэнькі, алѐ ўсьпо̀мняў,
што лю̀дзі ка̀жуць: цэнькі зво̀дзяць дзенькі да й пашоў шука̀ць
ну̑овараткі. Прайшоў ён мо гану̑оў дві, аж пра̀ўда, кала̀ крыжа̀

растанцы, і маленькая даруожка паўз балуопцо праз хмызнік ідзе ў туую уеску. Насілу перабраўса ён цераз грэблю да цераз бруод па бервам і кладкам, на расоху апіраючыса, пакуль ускарабкаўса на пешчаную гуорку да прышоў у маленькую уеску. А тут ужэ й сонейко зайшло. Пастухі гоняць дамуоў статак да ляскаюць пугамі, бацэ з пісталиета. Зайшоў ён у вадну хату, каб папрасіцца на нач, аж там бабы галосяць пад пакуойнікам. Сунуўса ён у другую, — там хворая удава з друобпымі дзіеткамі, што піекаму й вады надаць. Нема чаго рабіць, пашоў шукаць ліепшаіе хаты. От бачыць, перад хатаю зроблен агаруодчык, а ў ём растуць гожые квіеткі. — Папытаюса тут, — думае маскаль да й пашоў у хату прасіцца папач. Уліез туды, аж там маладая гаспадыня печэ аладкі. — Дабрывечар! — Здаровепек быў, служывенькі! — Пусьці, хаджаечка, папачаваць! — Я-б і рада, муой саколіку, да ў мене такі паганы гаспадар, што як прыдзе пъяны, дак ён пабъе мене й цебе. — Непачуом, хаджаечка, — мніе не такіе трапляліса. — Як знаеш, — кажэ маладзіца, — мніе вугла не шкода. — От і астаўса тут маскаль начаваць. Накарміла яго гаспадыня аладкамі, спекла яму яечню, прымасціла на лаве да й укладвае спаць. Туолькі ўжэ маскаль хаціеў легці да расправіць ногі, як ось ліезе ў хату пъяны гаспадар, а пад пахаю трымае скрыпачку. А ён быў музыка да ўсе йграў на весіельлях. — От добрэ, — кажэ ён, убачыўшы маскаля, — што ты прышоў к нам. Я буду йграць, а ты будзеш скакаць. — Пачаў маскаль атказвацца, што ў яго ногі баляць, бо ўвесь дзень скакаў на шляху да на грэблі, покі сюды даскочыў. Куды там, музыка й слухаць не хочэ: скачы да скачы. Зайграў музыка на сваей скрыпачцы, пішчыць, бы парася ў плоце, віедамо, як пъяны да й струны на весіельлі парваліса. — Скачы, такі-сякі, — крычыць ён, па маскаля, — а то пабъю да й выкіну за плот! — Нема чаго рабіць, папробуваў маскаль шыбы скакаць, да куды там, — ногі не служаць. Схапіў музыка таўкач да к маскалю. Насілу той схапіў свой клунак да давай буог ногі. Выскачыў з хаты да й не віедае, куды дзевацца. Сцемніело. Людзі

пакла̀ліса спаць. Куды̀ тут іці? Пастаяў ён, пастаяў на ву̀ліцы да й пацёгса на гу̀мна. Ба̀чыць — гумно̀ прачы̀шчано. Зайшоў туды̀, зірнуў у сто̀рапу, аж там свіежае сіено. — Ото-ж до̀брэ бу̀дзе спаць! — І паліез маска̀ль на сіено. Чуе, што там лежы̀ць адзѐжа. — Ніе, — ду̀мае маска̀ль, — тут хтось спіць. — А над сіенам угары̀ зро̀блены вы̀шкі, а на іх пакі̀дано сіена. Заліез маска̀ль на вы̀шкі да й лёг сабіе, бы пан на пеpы̀не. От ужэ пача̀ў маска̀ль драма̀ць, як прыцшла̀ дзеўчы̀на да й легла̀ на сіене. На нема̀лум ча̀се, скры̀пнулі варо̀ты да й прышоў к дзеўчы̀не на̀нач малады̀ хло̀пец. Лежа̀ць яны̀ сабіе абня̀ўшыса да жарту̀юць, а маскаля̀ й сон не берэ̀, — прыслухо̀ўваецца, як маладо̀сь ціешыцца. Хло̀пец прынёс з сабо̀ю ква̀рту гарыэлкі да піернікаў і цукѐркаў на заку̀ску; вы̀піў ён сам ля разо̀ну да й дае дзіеўцы. Та̀я лыкану̀ла тро̀хі з пля̀шкі да й запіерхаласа. От і пача̀ў хло̀пец жартава̀ць да прыстава̀ць к дзіеўцы, а та̀я ка̀жэ: — атча̀піса, мара̀! Я баю̀са, бо япчэ̀ бу̀дуць дзіеці, дак хто іх ста̀пе гадава̀ць? — А той, што пад на̀мі, — адмаўля̀е хло̀пец. Ён хаціеў сказа̀ць, што дзецѐй бу̀ог вы̀гадуе. Зачу̀ў то̀е маска̀ль да як кры̀кне: — А, хвары̀эць-жэ ва̀шуй ма̀тары! Ці-ж гэто я бу̀ду гадава̀ць ва̀шых байстрыку̀оў? — Спужа̀ліса ты̀е да ў но̀гі. Зліез маска̀ль, забра̀ў гарыэлку да прысма̀кі, забра̀ў свуо̀й клу̀нак да й пашо̀ў да̀лей. Дак ужэ мо дабра̀ўса да гаспо̀ды.

Мікіта Варабей.

В. Рожан.

## 85. Тры ксендзы.

Даўніей ксендзы̀ валачы̀ліса па сьвіету да дуры̀лі людзѐй, каб яны̀ слу̀халі папу̀оў, шчы̀ро рабілі да дава̀лі на хва̀лу бо̀жую. А дзіе там то̀е бу̀ог ба̀чыў. Лю̀дзі даду̀ць, а ксендзы̀ да паны̀ сажру̀ць. От раз сы̀шліса ра̀зам тры ксендзы̀: язуі̀та, барнады̀н да капуцы̀н. Блі̀зко не было̀ двара̀, каб наіесціса да паві̀цца ў па̀на. Віедамо, паны̀ заўжды̀ ксендзу̀оў паважа̀лі да частава̀лі. Нема̀ чаго̀ рабіць, трэ пацерпіець. Пашлі̀ яны̀ ра̀зам да й захо̀дзяць

пасілкава̀цца ў адну̀ карчо̀мку. Зайшлі ў алькіерык да й казалі сабіе даць гарыэлкі да закускі. Карчма̀р быў жыдо̀к біедны да на той час апрыч гарыэлкі ў яго̀ нічо̀го не было̀. Бо, віедамо, ў малых карчо̀мках заўжды нічо̀го нема̀. Мужыкі пьюць гарыэлку да заку̀сваюць языко̀м, а хто хо̀чэ капѐшне закусіць, та з до̀му прынесе з сабо̀ю ў кішэні, ці запа̀зухаю галуоўку кіслаіе капу̀сты, акра̀яц хліеба, тара̀н, угуро̀к або̀ абы што. От ксендзы лыкну̀лі мо па адну̀ой ці па другу̀ой ча̀рцы, а закусіць піечым. Ба̀чаць яны, аж па двары кала̀ абуозьні хо̀дзіць ку̀рыца. Дава̀й яны яіе лавіць. Біегаюць ксендзы, падпя̀ушы по̀лы, а ку̀рыцы не мо̀гуць злавіць. Біегала яна̀, біегала туды-сюды, а за ѐю ксендзы, нарэшце згубіла яйцо̀ да й заліезла дзіесь пад абуозьню. Схапілі ксендзы то̀е яйцо̀ да й веліелі жыдуоўцы яго̀ зварыць. Зварыла да падала̀ жыдуоўка яйцэ. Не віедаюць ксендзы, як яго̀ падзеліць. Рыхтавалі яны, рыхтавалі, алѐ нічо̀го не ўра̀дзяць. Нарэшце атаўбавалі̀са на туом, што той зьіесь яйцэ, хто ліепш другіх прыка̀жэ. Узяў перш капуцын яйцо̀, пачаў яго̀ лупіц да й прыка̀звае: ачысь яго̀ ат шкарлу̀пы непра̀ўды. Туольki ѐн хаціеў палажыць то̀е яйцэ ў рот да праглыну̀ць, як ось з яго̀ рук берэ барнады̀н. От узяў ѐн яйцэ, пасыпа̀е яго̀ суолью да прыка̀звае: і пасалі яго̀ суолью му̀драсьці. Сказа̀ўшы то̀е, хаціеў ѐн палажыць яйцэ ў ро̀т да зьіесьці. Алѐ ось берэ то̀е яйцэ ў яго̀ з рук апуошні ксёндз язуіта. Ён зірпу̀ў па сваіх таварышуоў да й ка̀жэ: ачысьцу̀са ат шкарлу̀пы непра̀ўды, абсыпа̀уса суолью му̀драсьці, дак увайдзі да хва̀лы тваіго̀ па̀на. Пры гэтых сло̀вах язуіта ўнёс яйцэ ў рот да й праглынуў. От з тых ча̀саў го̀дзі капуцыны й барнадыны таварышава̀ць з язуітамі.

Ясіньські.

В. Рожан.

## 86. Сьвіно̀е рыло.

У піеякум ца̀рстве, ў піеякум гасуда̀рстве жыў-быў адзін Бо̀ртнік. У яго̀ была̀ малая гаспада̀рка: старэнькая ха̀тка да адна̀ каруоўка да й та̀я безхво̀стая. Туольki даў буог яму̀ мнуого пчуо-

лак. Тые насілі яму̀ салòдзенькі медòк да збіра̀лі вуоск на хва̀лу бòжую. Зра̀на й да вѐчара даглядаў Бòртнік сваіх пчуолак, рабіў ім ву̀лы да сперуог, каб жоўны не клева̀лі да мышы не ла̀зілі, або̀ каб часа̀мі на па̀секу не забра̀ўса медзьвіедзь, ці які̀ ліхі чалавіек. Быў ён ужэ ў серыэднюм віеку, а жыў адзін бы куол. Ужэ пагавòрвалі сусіедзі, што ён якісь шалапава̀ты, бо жывѐ не так, як лю̀дзі. І пачалі ягò сусіедзі цура̀цца да абхòдзіць, бы ліхòго чалавіека. Туольки жыла̀ там дзіевачка-сіруотка. Засталàса яна̀ з маленства без айца̀ да без ма̀ткі да так і гадава̀ласа невіедамо ў кагò і як. Мо ўжэ ёй было̀ гадуоў шыэсь, як пачала̀ яна̀ па̀сьціць гу̀сі. От загòніць яна̀ гу̀сі на рыэчку, а сама̀ забежыць к Бòртніку па па̀секу, назрывае там квіетак да й плецѐ сабіе венòк, або̀ слу̀хае дзяцька Бòртніка, як ён ка̀жэ ка̀зкі. Нѐмаль з ра̀на й да вѐчара куожын дзень седзіць яна̀ на па̀сецы да дзівіцца, як пчуолкі нòсяць медòк. І так палюбіў яіе Бòртнік, што як яна̀ седзіць на па̀сецы, та яму̀ здаецца, што й не трэба ліепшаго жыцця. Падрасла̀ яна̀ да й ста̀ла гòжаю дзеўчынаю, а Бòртніка не забывае. Равѐсніцы цягнуць яіе з сабòю на ігрышчэ, або̀ на весіелье, а яна̀ бежыць па па̀секу да рве там квіеткі бы мала̀я блазніца. І пачалі кала̀ яіе ўвіва̀цца хлòпцы, пачалі да яіе сва̀тацца, алѐ яна̀ й слу̀хаць не хòчэ, ка̀жэ, што яна̀ любіць туольки квіеткі да бòжые пчуолкі. Залеца̀ліса, залеца̀ліса хлòпцы, парэшце абазліліса да й ка̀жуць, што гэто той шалапава̀ты Бòртнік здурыў ту̀ю дзеўчыну, што пеўне й яна̀ така̀я-ж шалапава̀тая, як і ён. Аткаспу̀ліса ат яіе хлòпцы, як ат пакі̀дзішча, а яна̀ й ра̀да: плецѐ сабіе з квіетак венкі да паѐ піесні. А піела яна̀ бы салавей. Слу̀хае Бòртнік і здаецца яму̀, што ён не на па̀сецы, а што ў ягò вырасліі крыла і што ён бы бòжая пчуолка лецíць куды хòчэ, купаецца ў квіетках да пье салòдзенькі медòк. Алѐ ось яна̀ запаѐ пра сваю̀ гуоркую сіруочую дòлю, запае так жа̀лесліво, што ў ягò са̀мі слезы льюцца бы з лісця раса̀, і ўба̀чыць ён усю сваю̀ адзінòкую жытку й так цяжко яму̀ ста̀не па сэрцы, ба̀цца сам себе пахава̀ў. Не ра̀дуюць ягò й бòжые пчуолкі, не ра̀дуе й ясне сòнейко. Седзіць Бòртнік, павіесіўшы гòлаў да

ўсе слу̀хае да ўсе пла̀чэ. Заціхне яна̀, нало̀жыць на яго̀ вено̀к да й ка̀жэ: — ты му͡ой царэ̀віч, што я чу̀ла ў ка̀зцы. — Падні̀ме ён во̀чы, зірнѐ на я͡іе, й здаѐцца яму̀, што гэто не сіру͡отка, а та̀я прекра̀сная царэ̀ўна, што ка̀жуць у ка̀зках. От так міла̀валіса яны̀ да любава̀ліса ўсе лі͡ецечко, паку̀ль цьвето̀чкі заўя̀лі, лісткі̀ нажу͡оўклі да пчу͡олкі насі̀ць медо̀к пераста̀лі. Прыйшла̀ во̀сень з до̀жджыкам да з тумано̀м. Павіѐяў хало̀дны ві͡етрык. І пахаладзі͡ело ў іх на сэ̀рцы да й зрабі̀ласо я̀кась марку͡отно. Седзі̀ць Бо̀ртнік у сваё̀й старэ̀нькуй ха̀це, слу̀хае, як ві͡ецер сьві̀шчэ за вугла̀мі да пла̀чэ ў ко̀міне і ўспамі̀нае ён як праз сон кра̀снае лі͡ецечко, я̀снае со̀нейко, да го̀жые кві͡етачкі, як на іх пчу͡олкі збіра̀юць медо̀к, алѐ бу͡ольш усяго̀ ўспамі̀нае ту̀ю дзеўчы̀ну, што так го̀жэ пі͡ела да так со̀ладко глядзі͡ела ў во̀чы. Сту̀кае сэ̀рцэ, як не вы̀скачыць у яго̀ з грудзѐй; і так захо̀чэцца яму̀ ўспо̀мніць тва̀р дзеўчы̀ны, што аж не ма̀жэ вы̀трымаць, алѐ пі͡есні чу̀е, а я͡іе ні̀як не ба̀чыць, от расплыва̀ецца, бы ў вадзі͡е, як яна̀ лелі͡ее. Усхо̀піцца ён і бежы̀ць шука̀ць сваі͡е дзеўчы̀ны. А яна̀ прадзѐ, а ёй здаѐцца, што гэто не верацено̀ гу̀дзе, а пяюць бо̀жые пчу͡олкі, збіра̀ючы з кві͡етак пахучы медо̀к. Пазіра̀е яна̀ на кудзѐлю, а ёй здаѐцца, што гэто ку͡оскі Бо̀ртніка. І пачнѐ яна̀ ўспаміна̀ць кра̀снае лі͡ецячко, я̀сные дзенькі̀ да го̀жые кві͡еткі. Алѐ бу͡ольш усяго ўспамі̀нае Бо̀ртніка да так заду̀маецца, што й неўба̀чыць, як ён увойдзе ў ха̀ту. Зірнѐ яна̀, й ра̀зам загары̀цца бы ма̀каў цві͡ет. До̀ўго гэ яны̀ ўздыха̀лі, нарэ̀шце дагада̀ліса да й пабра̀ліса. Жывуць яны̀ ў беднацѐ, алѐ ў ла̀сцы да й згодзе бы ў раю̀. Дачака̀ліса яны̀ кра̀снаго лі͡ецечка да дава̀й заво̀дзіць гаспада̀рку. Не надзіві̀цца лю̀дзі, як гэто шалапава̀ты Бо̀ртнік і яго̀ жу͡онка старэ̀нно да до̀брэ дагляда̀юць сваю̀ гаспада̀рку. І пачалі̀ яны̀ жыць як усі͡е до̀брые лю̀дзі. Разжы̀ліса яны̀, а тут ось бу͡ог даў ім сынка̀ да тако̀го го̀жаго, тако̀го ўда̀лаго, што лю̀дзі не мо̀гуць надзіві̀цца. Ба̀бы ту͡олькі а̀хкаюць да пыта̀юць адна̀ ў другоі͡е: — ці ты, ру͡одная ба̀чыла, яко̀го хлапчука̀ прывела̀ Бо̀ртнічыха? Такі̀ го̀жы, такі̀ го̀жы, што мо тако̀го нема̀ й на ўсё̀м сьві͡еце. — Не нара̀дуюцца бацькі̀ з таго̀ хлапчука̀. А ён расцѐ бы на драж-

джа̀х да ўсе харашы͡эе. Расцѐ хло̀пец на падзі̀ў усему̀ сьві͡ету. Хто яго̀ ні ўбачыць, та не мажэ̀ атарва̀ць ачу̀. І пашла̀ далѐко прачу̀тка аб харастві͡е таго̀ хло̀пца. Дайшла̀ яна̀ аж да цары̀цы, ма̀тулькі Кацяры̀ны. Хо̀чэцца ёй уба̀чыць таго̀ харо̀шага хло̀пца, алѐ не му͡ожна яго̀ патрэ̀буваць к сабі͡е, бо ён у другу͡ом ца̀р-стве. От насла̀ла яна̀ к таму̀ цару̀ пасланцо̀ў, каб яны̀ купілі таго̀ хло̀пца да й прывезлі̀ к ёй. Прыі͡ехалі пасланцы̀, прывезлі̀ з сабо̀ю мну͡ого зо̀лата й ро̀зных пада̀ркаў, далі̀ таму̀ цару̀ да й про̀сяць, каб цар даў іх цары̀цы таго̀ го̀жага хлапчука̀. Цар велі͡еў ім абажда̀ць, а сам насла̀ў прыка̀з Бо̀ртніку, каб даста̀віў свайго̀ сы̀на. Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, трэ слу̀хаць ца̀рськага прыка̀зу. От запру͡ог Бо̀ртнік сваю̀ кабы̀лку, пасадзі̀ў сы̀на да й паўѐз. Збі͡егліса ба̀бы, маладзі̀цы й дзі͡еўкі̀ са ўсяго̀ села̀ да й пла̀чуць, бы таго̀ хло̀пца хава̀юць, ці везу̀ць у нѐкруты. Лі͡езуць жанкі̀ да дзі͡еўкі̀, каб яшчэ̀ хаць разо̀к зірну̀ць на харо̀шага хло̀пца, а той не ві͡едае куды̀ ад іх схава̀цца, бо так яны̀ напры̀крылі, што прыстаю̀ць бы смала̀ жывіца, што лі͡епш-бы на іх і не пазіра̀ў. Рад ён, што вы̀рваўса ад жано̀к да й про̀сіць ба̀цька, каб паганя̀ў кабы̀лку. Алѐ му̀сіць ужэ так бу͡ог даў, што го̀жаму хло̀пцу нідзі͡е нема̀ спако̀ю ат жанчы̀н. Куды̀ ён ні прыі͡едзе, дак за̀раз жанчы̀ны адна̀ пѐрад друго̀ю акру̀жаць яго̀ атусю̀ль да так прыстаю̀ць, што й ды̀хаць не му͡ожна. Заму̀чылі яго̀ ба̀бы, бы жыды̀ Хрыста̀, паку̀ль ён дабра̀ўса да цара̀. Алѐ ось пашла̀ чу̀тка, што к цару̀ прывезлі̀ тако̀го го̀жага хло̀пца, яко̀го й сьві͡ет не ба̀чыў. Дачу̀ласа й цары̀ца. Адзі͡еласа гэто яна̀ ў са̀мую лі͡епшую адзѐжу і велі͡ела таго̀ хло̀пца прывезці̀ к сабі͡е. Зірну̀ла яна̀ да й не жыва̀, так ёй спадаба̀ўса той хло̀пец. Зірну̀ў на яі͡е цар да й ка̀жэ, што гэстаго хло̀пца про̀сіць сабі͡е цары̀ца Кацяры̀на. — Трэ̀ба, — ка̀жэ, — яго̀ адда̀ць ёй. — Дак куды̀ там, цары̀ца й слу̀хаць не хо̀чэ. — Не дам да й ту͡ольки, — кры̀кнула яна̀, — да й ту̀пнула наго̀ю. Ві͡едамо, жанчы̀на, му͡ой бо̀жэ, за̀ўжды перамо̀жэ. Спужа̀ўса цар і не ві͡едае, што ра̀біць. І жу͡онкі баіцца да й баіцца цары̀цу Кацяры̀ну прагневі̀ць. От пача̀ў ён ра̀дзіцца з пана̀мі да баярамі, што тут рабі̀ць. І пара̀дзілі яны̀, каб цар сам паі͡ехаў

к царыцы Кацярыне да й расказаў усю справу. Паехаў цар к царыцы Кацярыне нібыто ў госьці. Пакуль ён ехаў, тым часам царыца пачала прыставаць к таму харошаму хлопцу. Уцёк ён ат царыцы да праклінае сваю долю, да чуць не паракае на бога, што даў яму такое харастство. І пачаў ён плакаць да убівацца. Але, чым болып плачэ, тым харашэйшы робіцца. Лезуць к яму жанчыны бы мухі на мёд. І пачаў ён прасіць бога, каб узяў у яго харастство. Тым часам царыца Кацярына выслухала цара да й дагадаласа, што тая царыца праціўіцца, от яна затрымала цара ў себе, нібыто ён ей вельмі спадабаўса, а тым часам веліела сваіму вуойську забраць тое царство, а таго гожаго хлопца прывезці к ей. Пашлі людзі ваяваць, пашлі кроў праліваць, пашлі царыцы гожаго хлопца дабываць. Ці дуго, ці мало яны ваявалі, ўескі палілі, людзей забівалі, тульки нарэшце тое царство забралі. Пакуль ішла вайна, буог учуў малітву таго хлопца, убачыў яго слёзы да й узяў у яго харастство. От ужэ непрыяцельскае вуойсько забрало сталіцу да й уходзіць у царські палацы. А царыца ні на чого не ўважае, абы тульки ей абняць таго гожаго хлопца. От веліела яна, й прывелі яго к ей. Тульки яна хацела яго абняць да пацалаваць, аж зірне— яго твар аберпуўса ў сьвінове рыло. Крыкнула тут царыца, а з ие й дух вон выперло. Забрало вуойсько царські палацы, і пачалі шукаць таго харошаго хлопца, ператраслі ўсе царство, а яго нема. Пасадзіў Бортнік сына сьвінове рыло на вуоз да й паехалі яны да гасподы. Зірнула матка да пазнала тулькі вуочкі сваіго сынка. І пашоў ён у лес да й зрабіў сабе землянку. Дуго ящэ жыў там, маліўса богу да вучыў і лечыў людзей. І пачалі ўсе казаць:—сьвяты ён чалавек, дарма што сьвінове рыло.—Кажуць людзі, што на туом міесцы, дзе яго была землянка, й цепер ящэ стаіць каплічка, а ў ей абразок таго святого з сьвіным рылам.

Р. Кухталь.

В. Рожан.

## 87. Іньшы сон як у руку дась.

Быў сабіе адзін пуоп да вѐльмі біедны. Прыхуод малѐнькі, людзі біедные, — немàшака з іх нія̀кагo прыхòду. Хундушòвая зямля̀ — адзін песòк жòўценькі бы зòлато. Трымàў ён сабіе пàрабка, гуоркаго пъя̀ніцу Сьцепàна Штукарà. Ягò дражнілі Штукарòм за тым, што гэ̀сты дòхлы пъя̀ніца часàмі такіе вычварàў штукі, што й не прыдумаць. Жывѐ сабіе Штукàр у папà да гòладам падыхàе, бо пуоп хаць біедны, алѐ дзецѐй мàе як бòбу. Яны хаць друобные, алѐ ядзя̀ць бы саранчà. Што пуоп ні зарòбіць, як хавàе кагò, абò хрысціць, дзіецi адрàзу зъядзя̀ць і не абліжуцца. А тут непадалѐчку паабàпал папà жывуць сабіе да таўсціеюць вѐльмі багàтые пан і карчмàр. Віедамо, калі людзі бедніеюць, та пан і карчмàр заўжды багаціеюць. Чагò туолькі ў пàна немà, хіба мо птушачаго малакà. Да што й казàць! Віедамо, як у пàна ў багàтум двары. Аднагò сàла мо дзѐсяць кублуоў. Іеж, хаць падавіса. У ландарà сàла саўсім немàшака, хібà гусіны шмàлац, дак затòе ў ягò абарàнкаў цэ̀лае вясло, аселѐнцаў пòўная бòчка да гарэ̀лкі, хаць захлѐбніса. Падòйдзе Сьцепàн Штукàр у двуор, паглядзіць на пàньскае дабрò да туолькі сліну каўтàе. І так у ягò калà сѐрца заўѐ, так яму зрòбіцца мòташно, што ён прòсто з двара й пабежыць у кàрчму. Туолькі як лыкнѐ кручòк ці два, дак трòхі палѐгчае. Ужэ не раз Штукàр зàрыўса ўкрàсці ў двары што-нѐбудь, да ўсе баяўса, бо куды ты дзіенеш, калі немàшака нія̀кагo прытулку. От раз вѐльмі яму захаціеласо іесці, от ён прышòў да папà да й кàжэ: — бàцюшко, ці віедаеш, што я прыдумаў. Пан багàты, ўселя̀кагo ў ягò дабрà мнуого, аж з гòрла прэ, а нам немà чагò, каб душу паднѐрці. Дзіе-ж прàўда? — Раскірàчыў Штукàр нòгі, растапырыў пàлцы да так пазірàе, што пуоп аж зарагатàў. — Не сміейса, бàцюшко! Немà прàўды на сьвіеце. — Прàўда ест, да мы яіе не бàчым, бо сьвіет грэ̀шны, дак буог нас карàе. — Ніе, бàцюшко! Немà прàўды, калі ў аднагò з гòрла ліезе, а другі дòхне з гòладу. Чаму пан багàты, а мы

біедные?— Бо так буог даў. Ён віедае, што ро̀біць. Яго̀ пуці ніхто̀ не зна̀е. — І пашоў пуоп вучыць Штукара̀, пашоў яму̀ гаварыць цыэлае казаньне да й ко̀нчыў на туо̀м, што бага̀тые на том сьвіеце бу̀дуць у пекле сма̀жыцца ў смаліе, а біедные пуойдуць у рай. Слу̀хаў, слу̀хаў Штука̀р, нарэшце й ка̀жэ: — сам буог казаў выцягці з калодзіся казла̀, а мы, ба̀цюшко, выцягнем у па̀на вала̀. — Што ты ка̀жэж? Якого вала̀? — Гладкаго, ба̀цюшко, вала̀. — Не разуміею тваіе гавуоркі. — Укра̀дзьмо у па̀на вала̀, та й бу̀дзе што іесці. — Гэто-ж грыэх. — Які грыэх? У па̀на кра̀сці не грыэх, бо пан бага̀ты. Ён у нас накраў, а мы сваѐ дабро̀ во̀зьмем наза̀д. Дак гэто-ж не грыэх. — До̀уго адгаво̀рваў пуоп Штукара̀, каб ён нічо̀го не краў у па̀на, нарэшце махнуў рукою да й ка̀жэ: — рабі як зна̀еш. — Пачаса̀ў Штука̀р патыліцу да й вышаў. Ту̀олькі ось ухо̀дзіць да папа̀ мату̀лька да ўжэ з са̀маго паро̀га пачына̀е крыча̀ць да ла̀яцца, што пуоп седзіць до̀ма, нічо̀го не ро̀біць, а тут дзіеці гало̀дные, ў ха̀це ні круошкі хліеба й нема̀ чаго̀ ў гаршчо̀к палажыць. Заткнуў пуоп ву̀шы да бего̀м з ха̀ты, аж тут якраз сустрака̀е Штукара̀. Ха̀піеў ён насла̀ць яго̀ на ўеску, каб пазычыць хліеба да закра̀сы, алѐ той не даў і вымавіць да й пытае: — Дак што-ж, ба̀цюшко, во̀зьмем вала̀? — Во̀зьмем, во̀зьмем, — адмаўля̀е пуоп бы шалёны. От Штука̀р заўеў папа̀ ў адрыну, падвезаў яму̀ до̀ўгіе ку̀длы, падабраў ра̀ску, а звѐрху надзіеў сваѐ ла̀пікло, да й пашлі яны ў хмызнік, дзіе насло̀со скарбо̀вае гаўя̀до, занялі там са̀маго гладкаго вала̀, загналі ў ліес да й зарыэзалі. Нема̀ чаго̀ рабіць, завіха̀ецца пуоп кала̀ вала̀, а Штука̀р ту̀олькі камѐндуе. От злупілі яны з вала̀ шкуру, павіесілі яіе на галіну сушыцца, а мя̀со пачвертавалі, закапалі ў зѐмлю да й засыпалі трухою з сухо̀го бало̀та. Свѐрху завалілі каладзьём, а са̀мые ліепшые кускі прынеслі дамуоў да й давай спажыва̀ць. Аглядзеліса ў двары, што німа̀ш са̀маго ліепшаго вала̀, от яны туды-сюды, біегалі, біегалі, — от бы скруось зѐмлю праваліўса. Ну, ду̀маюць, ма̀быць дзіе адбіўса ат гаўя̀да, дак ваўкі зарыэзалі. Алѐ па̀ну шко̀да до̀браго вала̀, от ён веліеў пазва̀ць знахаруоў, каб яны навара-

жылі̀ да сказа̀лі яму̀, дзі͡е той ву͡ол. Прыхо̀дзяць знахары̀, варо̀жаць, алѐ ку͡ожын гаво̀рыць іна̀к. Адзі͡н ка̀жэ, што ву͡ол заплу̀таўса ў лі͡есе й не мажэ̀ вы̀брацца з бало̀та; другі̀ гаво̀рыць, што ваўкі̀ зары̀͡эзалі, трэ̀йці плецѐ, што цыганы̀ ўкра̀лі, алѐ ніхто̀ даскана̀ло не ска̀жэ, дзі͡е ягò найці̀. Тым ча̀сам Штука̀р седзі̀ць сабі͡е ў карчмі͡е пъя̀ненькі да пахваля̀ецца, што ён ві͡едае, куды̀ дзі͡еўса па̀ньські ву͡ол. Пачу̀ў тое ланда̀р да й пабі͡ег казаць аб ту͡ом па̀ну. Паку̀ль ланда̀р збі͡егаў к па̀ну, Штука̀р даста̀ў з кішэ̀ні дзьві͡е па̀лачкі, вы̀пяў з верэ̀нькі збано̀к, прылажы̀ў тые па̀лачкі к дну ку̀пы з гары̀͡элкаю, да як упѐрса калі͡енам пасерэ̀дзіне ў тые па̀лачкі, яны̀ вы̀правіліса, да так распѐрлі клепчы̀ны, што цѐраз уто̀ры й забурча̀ла гары̀͡элка. Нападзі̀ў ён сабі͡е по̀вен збан да й пацѐгса даму͡оў. — Дзі͡е ты быў? — пыта̀е пу͡оп, като̀раму яшчэ̀ ву͡ол вѐльмі карці̀ць. — У карчмѐ, ба̀цюшко, — атка̀звае пъя̀ны Штука̀р. — Ось прынѐс гары̀͡элкі на магары̀ч ба̀цюшку за то̀е, што вѐльмі сма̀чнае мя̀со. — Пу͡оп скрыві̀ўса, аж яму̀ во̀чы пад лоб заверну̀ло, алѐ ўсе-такі̀ пералѝў гары̀͡элку ў пля̀шкі да й схава̀ў. — Нема̀ калі̀ мні͡е з табо̀ю дуры̀цца, — ка̀жэ пу͡оп. От ён адзі͡еў лі͡епшую ра̀ску, прычаса̀ў збу͡ольшаго ку̀длы да й пашо̀ў к па̀ну, каб і яму̀ сказа̀ць таму̀ прыѐмнае слаўцо̀ ў пешча̀сьці. Прыхо̀дзіць пу͡оп, аж там ужэ̀ мну͡ого сабрало̀со ў па̀на гасцѐй. Седзя̀ць яны̀, пъюць, ядзя̀ць да размаўля̀юць аб ту͡ом, як цепѐр кѐпсько жыць на сьві͡еце, як мну͡ого ўселя̀кіх прыпа̀дкаў; як напры̀клад прыпа̀дак па̀ну з вало̀м гаво̀рыць і пу͡оп да яшчэ̀ складні͡ей ад усі̀х. Ківа̀е яму̀ пан галаво̀ю, сам паліва̀е яму̀ віна̀ да гары̀͡элкі, часту̀е до̀браго гаваруна̀ да падкла̀двае яму̀ лі͡епшые кускі̀. Жу̀мрыць пу͡оп, ту͡олькі барада̀ трасѐцца бы ў казла̀. Тым ча̀сам пасла̀ў пан па таго̀ Штукара̀, каб ён сказа̀ў, што ён зна̀е пра вала̀. Прышо̀ў Штука̀р, раскіра̀чыў но̀гі, растапы̀рыў па̀льцы да й стаіць сабі͡е ў паро̀зе. — А што ска̀жэш, каха̀ны? — пыта̀е пан. — Усе до̀брае, пано̀чку. — А па до̀брум што? — Дачу̀ўса я, што ў па̀на прапа̀ў ву͡ол. — Прапа̀ў. — А до̀бры ву͡ол? — До̀бры. — І з рага̀мі? — З рага̀мі. — І з хвасто̀м? — Ну, вядо̀мо, з хвасто̀м, — ка̀жэ з нецерпѐньнем пан, ка-

то̀раму ўжэ надаі͡ело слу̀хаць пъя̀нага мужыка̀. — Дак пѐўне-ж
гэто той са̀мы ву͡ол, — кры̀кнуў на ўсі͡е пако̀і Штука̀р і спле-
спу̀ў рука̀мі. — Які̀ той са̀мы? — пыта̀е пан, када̀рага ўжэ ўзяла̀
ціка̀васць. — Да той, што я ба̀чыў. — Да дзі͡е-ж ты ба̀чыў? —
На по̀плаве кала̀ хмы̀зніку. — Калі̀-ж ты ба̀чыў? — От гэто
до̀брэ неві͡едаю, пано̀чку, ці ўчо̀рэ, ці заўчо̀рэ, а мо й пазаўчо̀рэ,
ту͡ольки до̀брэ памята̀ю, што то̀е было ў до̀сьветкі. — Дак што-ж
было̀ з тым вало̀м? — Нічо̀го, пано̀чку. От стаіць сабі͡е ву͡ол да
такі̀ рага̀ты, што хаць ты вілы з ру͡ог рабі, стаіць сабі͡е да траву̀
языко̀м ко̀сіць, от ба̀цца касо̀ю. Алѐ-ж у па̀на й трава̀ на по̀плаве.
Далібошго, му͡ожна касіць. — Дак куды̀ш пашо̀ў ву͡ол? — з не-
церпѐньнем пыта̀е пан. — Ніку̀ды не пашо̀ў, пано̀чку. Гэто я сам
ад яго̀ пашо̀ў, пано̀чку. — Куды̀-ж ты пашо̀ў? — Ой, ві͡едамо-ж,
пано̀чку, хто ма̀е даму͡оўку, той ідзѐ да гаспо̀ды, а ў менѐ яі͡е
нема̀ш, дак я пацягса к папу̀. Ду̀маю, ось мату̀лька дась яко̀і͡е
нѐбуць бу̀льбы ла̀нтух наледава̀ць. — Цо ты ду̀рню плѐцеш, —
закрыча̀ў пан да ўжэ хаці͡еў і прагна̀ць пъя̀ніцу. — Пан кры-
чы̀ць на менѐ, а я-ж ду̀маў, што пан хо̀чэ ві͡едаць, дзі͡е прапа̀ў
ву͡ол. — Дак кажы̀, што зна̀еш. — Ту͡ольки неха̀й пан не пера-
біва̀е да не крычы̀ць, бо я й забу̀дуса. — Ну, кажы̀. — Дак от
паглядзі͡еў я на па̀ньськага вала̀, які ён гла̀дкі да го̀жы да й ду̀-
маю: от каб мні͡е такім быць. Што валу͡ом, ма̀быць па̀ньськім
саба̀кам лі͡епшая жы̀тка, як па̀ша. Дзі͡е-ж та̀я праўда на сьві͡еце.
Што-ж гэто бу͡ог ро̀біць!? І прыпамяну̀ў я, што наш ба̀цюшко
ўсе ка̀жэ: бу͡ог ві͡едае, што ро̀біць. От я ўзяў ба̀цюшку да й па-
шлі мы аглядаць таго̀ вала̀. Вѐльмі спадаба̀ўса ён нам. От мы
яго̀ загна̀лі ў хмы̀знік да там і зары͡эзалі. Ба̀цюшко злупі̀ў
шку̀ру. — Тут усі͡е азірну̀ліса на папа̀, а ён не седзіць, а ўсе
кру̀ціцца бы на калу̀ да та пачырвані͡ее, та пабелі͡ее, кру̀ціцца,
аж пот з яго̀ ва̀ліць, ба̀цца ту͡ольки што вы̀шаў з ла̀зні. — Эгэ-ж,
дай бо̀жэ па̀мець. От і забы̀ўса, што да̀лей. Ага̀! От ба̀цюшко й
пыта̀е, куды̀ дзева̀ць шку̀ру? А я кажу̀: паві͡есім на галіну, не-
ха̀й су̀шыцца. От паві͡есілі мы шку̀ру, пачвартава̀лі мя̀со, па-
дзелілі, по̀тым пачалі кішкі дзеліць. Ухапіліса мы за кішку ра̀-

зам. Я цягнў к сабі͡е, а ба̀цюшко к сабі͡е, я к сабі͡е, ба̀цюшко к сабі͡е, кі̀шка й парва̀ласа, а гну͡ой з яі͡е як сьві̀сне нам у во̀чы, дак я й прахапі̆ўса. — Дак гэто ты сніў? — Алѐж сніў, пано̀чку. Алѐ хаць сон гразь, ту͡олькі іншы як у рўку дась.

Сасну͡оўські.

В. Рожан.

## 88. Кравѐц з таго̀ сьві͡ету.

Даўні͡ей людзі яшчѐ не былі̀ такі͡е хітрыі͡е, як цепер. Жылі̀ яны̀ про̀сто, як бу͡ог паказа̀ў; ніхто̀ ніко̀го не крыўдзіў, бо бая̆ўса грахў; ніхто̀ ніко̀го не ашуко̀ўваў, каб і ягѐ людзі не ашука̀лі. Затым усі̀м і до̀брэ было̀ жыць на сьві͡еці. Ту͡олькі вось зьявіліся такія людзі, што захапі͡елі забагаці͡ець, от і пачалі̀ яны̀ ашуко̀ўваць да крыўдзіць людзѐй. Дак за то̀е й іх пачалі̀ ашуко̀ўваць жыды̀ да цыганы̀, або̀ часа̀мі й сву͡ой брат, які̀-нѐбудзь круці͡ель. І нарэ̀шце пашло̀ на сьві͡еці тако̀е круці͡ельство, што ку͡ожын адзін друго̀го ашуко̀ўвае да ту͡олькі наро̀віць, каб яму̀ было̀ до̀брэ. Алѐ тра̀сца яму̀ ў зубы, а не дабро̀, бо заўжды зна̀йдзецца яшчѐ хітрыэйшы, што й ягѐ ашука̀е, або̀ гары͡эй скрыўдзіць. От жыў сабі͡е адзін бі͡едны кравѐц. Ві͡едамо, з пра̀цы рук мну͡ого не заро̀біш. Ку͡олькі ні працўй, та й то хва̀ла бо̀гу, калі̀ заро̀біш кавалак хлі͡еба да які̀ злама̀ны гру͡ош на патрэбу. А часа̀мі й нічо̀го нема̀, хаць ідзі ў старцы̀. Гэ й той кравѐц, як ён ні стара̀ўса, як ні працава̀ў, а не мажэ̀ дзі͡етак пракарміць. От пача̀ў ён шыць ву͡опратку да прадава̀ць па кірмашы̀. Раз не было̀ яму̀ часу самому̀ йці на кірма̀ш, дак ён насла̀ў жу͡онку, каб яна̀ прадала̀ ту̀ю ву͡опратку. — А ку͡олькі-ж прасіць за гэстую ву͡опратку? — пыта̀е ягѐ жу͡онка. — А як на то̀рзі, — атка̀звае ён. Несѐ жанчына ву͡опратку, а людзі пыта̀юць яі͡е, ку͡олькі яна̀ хо̀чэ. — А як на то̀рзі, — адмаўля̀е яна̀. От прышлі̀ яны̀ на кірма̀ш. Людзѐй сьві͡ет, от бы на хвэ̀сьці. Усі͡е крыча̀ць, ла̀юцца, таргўюцца да бо̀жацца, аж глўшаць. Пыта̀юць і ту̀ю жанчыну, ку͡олькі яна̀ хо̀чэ за ву͡опратку, а яна̀ ўсе адно̀ атка̀звае, што як на то̀рзі. Паслу-

халі людзі да паду̀малі, што гэто ма̀быць якаясь шалапава̀тая ці саўсі̀м дурна̀я. От якіесь мешчаньчукі̀ дава̀й шуткава̀ць да кпіць з тае̑ жанчы̀ны, а яна̀ гаво̀рыць ім усѐ адно̀, што як на то̀рзі. —Ба̀чыш, маладзі̀ца, — ка̀жуць яны̀,—па то̀рзі патаргу̀юцца, патаргу̀юцца да й беру̀ць уселякіе̑ рэ̀чы. От і мы у̀жэ даво̀лі патаргава̀ліса. — І забра̀лі яны̀ ту̀ю вуопратку ат жанчы̀ны без гро̀шэй да й пашлі̀ сабе̑. Паста̀йла, паста̀йла та̀я жанчы̀на да й пашла̀ да гаспо̀ды. Ці ра̀но, ці пуо̀зно прыхо̀дзіць яна̀ дамуо̀ў і без вуопраткі, й без гро̀шэй. Распыта̀ўса кравѐц, як яна̀ прадава̀ла вуопратку да й дагада̀ўса, што гэто яіе абшука̀лі. Абла̀яў ён жуо̀нку, абазлава̀ўса на ашука̀нцаў да й го̀дзі жыць па бо̀жаму, го̀дзі гавары̀ць пра̀ўду.—Пачака̀й жэш,—кры̀кнуў ён,— цѐпер каго̀ ні стры̀эну, та ашука̀ю, паку̀ль за сває̀ вазьму̀.— От узя̀ў ён сваю̀ краўцо̀ўськую спа̀сьць, а вѐдамо, яка̀я ў краўца̀ спасьць, го̀лкі ў па̀зусі, напъѐрстак у кішэ̀ні да прас на кіѐчку, на като̀рум пары̀эзаны ло̀кці да аршы̀ны, да й пашо̀ў у сьвіе̑т. Прыхо̀дзіць ён у міесто да й гука̀е, што вѐльмі до̀бры кравѐц, з таго̀ сьвіету. Прыслу̀халаса адна̀ па̀ні, пазва̀ла к сабе̑ да й пытае, што ро̀біцца на туом сьвіеці. А ў яіе, ба̀чыце, нeда̀ўно памѐрла го̀жая дачка̀. — Чаго̀, на туом сьвіеці вѐльмі до̀брэ,— ка̀жэ кравѐц, — туолькі адзіене ху̀тко псуѐцца, бо ў землі тро̀хі ві̀льгаць.—А ці не ба̀чыў ты там маіе Анѐлькі?—пыта̀е па̀ні.— Чаму̀ ніе, ба̀чыў. Ой, яка̀я го̀жая панѐнка, дак мо̀о ў ваусѐм нѐбе нема̀ ёй ра̀ўні, туолькі, прапраша̀ючы па̀ню, сукѐнка парва̀ласа да тро̀хі, да тро̀хі ззаду сьвіеціцца. — Ой муой мі̀ленькі, ці не мо̀жэш ты занесьці̀ ёй но̀вую вуопратку? — Чаму̀ ніе, занесу̀. — Пачастава̀ла па̀ні краўца̀, напха̀ла яму̀ по̀ўны мешо̀к руо̀знаго адзіеня да яшчэ̀ дала̀ й гро̀шэй на даро̀гу. Ускі̀нуў ён клу̀нак на плѐчы да й пашо̀ў. Тым ча̀сам прышо̀ў дамуо̀й гаспада̀р тае̑ па̀ні. От яна̀ й пачала̀ каза̀ць яму̀, як захо̀дзіў кравѐц з таго̀ сьвіету, што ён каза̀ў аб іх дацьці̀ да й прызна̀ласа, што пасла̀ла на той сьвіет до̀брую вуопратку. Дагада̀ўса той чалавіек, што кравѐц накпі̀ў з яго̀ жуонкі, распыта̀ў, куды ён пашо̀ў, сіеў хучэ̀й на каня̀ да й пусьці̀ўса наўздагуо̀н. Чу̀е кравѐц, што хтось

гоніцца ззаду, кінуў хучэй мешок у кусты, а сам пашоў пасустрэк. Тольк ось сустракае яго той гаспадар да й пытае, ні не сустрэў ён краўца з клункам за плечамі. — Як жэ, — атказвае кравец, — сустрэў такого от тут саусім блізенько, толькі ён пашоў у кусты. Пеўне ты яго не трапіш. От хіба-ж дай мне свайго каня, та я духам яго дагоню, ато, бачыш, у мене ногі штось падбіліса. От той гаспадар зліез з каня да й седзіць на дарозі, чакае, пакуль вернецца той кравец. А кравец тым часам сіеў сабіе на каня, ускінуў на яго клунак з адзежаю да й паіехаў да господы. — Ну, — думае ён, — будзе з мене за тое, што маю жонку людзі ашукалі. — Седзіеў, седзіеў той чалавіек на дарозі, чакаў, чакаў краўца да так і не дачакаўса. Толькі ось іедуць людзі да й кажуць, што сустрэлі такого чалавіека, алѐ што ён цепер ужэ вельмі далеко, бо гнаў каня звуса. Дагадаўса той гаспадар, што кравец і яго ашукаў, пашоў дамуой піешкі да й кажэ жонцы, — дагнаў я таго краўца, сам распытаўса, як на туом сьвіеці вашуй Анельці да яшчэ паслаў ёй каня, каб піешкі не падбівала сваіх ножак. — Я заўжды знаю й кажу, што ты такі добры, такі харошы, якіх і па сьвіеці нема. — А ты ў мене такая разумная да добрая гаспадыня, што штоб ты ні рабіла, та мудрэй ат усіх людзей.

Саснуоўські.

В. Рожан.

## 89. Хараство — сіла.

У ніеякуом царстве, ў ніеякуом государстве колісь жыў адзін цар і задумаў ён жаніцца. От сабралі к яму самых гожых дзіевак са ўсяго царства на пагляд. Аглядаў, аглядаў цар тых дзіевак, алѐ ніякая яму не спадабаласа. Князі да міністры не віедалі, што рабіць і давай яны шукаць гожых дзіевак у чужых краёх. Назьбіраласо к цару самых гожых дзіевак са ўсяго сьвіету цьма-цьмушчая, алѐ ніякая яму не спадабаласа. — Нема, — кажэ ён, — такоіе гожаіе дзіеўкі, каб яна была мніе па сэрцу, дак я сам пашукаю. — От пераадзіеўса ён па просту да й пашоў у сьвіет

наглядаць сабіе дзіеўку. Хадзіў, хадзіў, алѐ ўсюды так мнуого гòжых дзевòк, што ніяк ён не мажэ вы̀браць, якая ад іх харашы̀эйшая. Нарэшце плюнуў ён на хараствѐ, да давай выбіраць сабіе такую жуонку, каб яна̀ ліепш усіх умиела рабіць дзіело.— От, — думае сабіе, — каб мніе знайці такую, каб яна̀ з салòмы да з сіена прала залатыіе да едвабные ніткі. — Давай ён расцытоўваць у баб, алѐ тыіе ка̀жуць, што дзеўкі вѐльмі гòжэ прадуць лён, гòжэ ткуць палòтна да рушнікі, гòжэ нашываюць сабіе ўселякіе цацкі на сарòчках да хвартухуох, туольки такіх, каб яны̀ пралі салòму да сіено, тутачкі не чуваць. Дачуласа аб туом адна̀ біедная ўдава̀ да й запрасіла цара̀ к сабіе. А ў яіе была̀ вѐльмі гòжая дзіеўка, да такая гультайка, што нічòго не хаціела рабіць; затым яіе ніхто̀ не хаціеў браць замуж. Віедамо, ў хаджайстве нема̀ чаго̀ пазіраць на хараствѐ, а трэ дзіело рабіць. От уліез цар у ха̀ту, а дзіеўка агінаецца бы сабака да туольки папраўляіе сабіе кòсы. От ма̀тка й крычыць на яіе: — чаму ты не прадзеш.— Нема̀ кудзѐлі, — атка̀звае яна̀ да й набіегла з ха̀ты гуляць з дзеўка̀мі на загумѐчы. — Ото-ж беда̀, — жаліцца тая ўдава̀ цару,— дзіеўка папрала ўсіе кудзѐлі, папрала ўсю салòму да сіено, цепѐр хіба̀ трэ зрываць апуошнюю салòму з ха̀ты. — Пачуў тòе цар да й узяў тую дзіеўку к сабіе ў палацы. Тут ён прыста̀віў к ёй тры старыіе ба̀бы, каб яны̀ даглядалі, як тая дзіеўка прадзѐ салòму да сіено. Ба̀чаць ба̀бы, што прòстая мужычка бўдзе царыцаю да давай ёй памагаць. От дасталі яны̀ са̀маго ліепшаго кужалю да й папралі шмат такіх нітак, што мòо таніей вòласу. Паглядзіеў цар на тую рабòту да й узяў тую дзіеўку. Жывѐ сабіе яна̀ царыцаю, нічòго не рòбіць да туольки камѐндуе, камѐндуе князямі да міністрамі, а буольш усяго̀ царòм. А тым старыім, змòршчаным ба̀бам у царыцы такая жытка, што й наміраць не трэ. От раз цар і пытае царыцу, чаму яна̀ не прадзѐ. А царыца атка̀звае, — а хіба̀-ж ты хòчаш, каб твая жуонка, твая царыца да была̀ такая змòршчаная, як ось гэстыіе ба̀бы, што пралі ўсю жытку. — Зірнуў цар да й ка̀жэ: — нехай бўдзе па твуойму, бо ма̀быць на сьвіеці хараствѐ — сіла.

В. Рожан. Саспуоўські.

## 90. Воўчая доля.

Даўно была тая справа, як буог зтварыў сьвіет і кужду̂й рэчы даў звычайнае назначэньне. Рыба паплыла ў вадзіе, зверы пабіегли па землі, шукаючы сабіе міейсца. Адны зрабілі сабіе норы, другіе выкачалі куотла, або заліезлі ў нетры пад вывараць̂е, трэйціе ўбіліса ў гушчэчу, ці схаваліса ў луом, іншые ўзліезлі на дзерава да й прытаіліса ў густых віетках, або заліезлі ў дупленатые дзераўлякі. Птушкі пачулі сваю здольнасць, пырх і палеціелі ў нёбо высоко пад землёю. Доўго яны кружыліса ў нёбе, падніміліса аж к самаму сонейку, але апалілі сабіе крылца да й мусілі спусціцца на зёмлю, каб адпыхаць і пасілкавацца. Спусціліса птушкі ўніз і пачалі віць сабіе гнездзечка, пачалі жыраваць. Сталохаліса перш чэрві, жучкі, матылькі, потым спалохаліса яшчаркі, жабы, гады і руознае малое стварэне. Спалохаліса яны і пабіегли, папаўзлі, паскакалі, палеціелі да й пахаваліса, хто куды муог: хто ў зёмлю, хто ў воду, хто заліез на расліпу, або куды, а хто пачаў абаранціца жалам, зубамі, ці гойстрымі калючкамі. Як узрухаліса малые зверкі, дак затым узрухаліса й буольшые зверы й жыўёло. Спужаліса яны адзін другого да й пачалі біцца й кусацца, а хто не дужы, той уцекаў і хаваўса, куды муог. Ліс і барсук выкапалі сабіе норы, буобер і выдра схаваліса ў воду да й спалохалі там рыбу. Рыба пачала ўцекаць, пачала хватаць адна другую. Ментуз і ўюн заліезлі ў грязь, рак падоўз у норы, окунь паставіў сваіе калючкі, туолькі адна шчука пачала сміело гуляць па глыбі да хватаць маленькую рыбку. Біегало, біегало тое жыўёло, што не мае муоцных зубуоў, каб абараняцца ат варагуоў і прыбіегло к чалавіеку. Узяў яго чалавіек к сабіе на паслугі да на карысць і пачаў яго ратаваць ат драпіежнаго зверъя. От так пачало жыць разам з людзямі говядо, пачало служыць людзям, працаваць на людзей, каб яны аберагалі ат ваўкуоў, медзьвёдзей і руознаго зверъя. Пэршым прыбіег к чалавіеку сабака да й пачаў лашчыцца, прасіць, каб

той укрыў ягò ат сваіх братоў-ваўкоў. Вiедамо, што свой гарыэй чужòго. Прылàшчыў чалавiек сабàку, за гэто той стаў сàмым вiерным таварышам чалавiека, а сàмым заклятым вòрагам свайгò брàта-вòўка. Брэшэ сабàка на вòўка, брэшэ, не даè яму супакòю. Куды нi сунецца вòук, усiоды ён стрыэпе сабàчы брыэх, а вiедамо, не так воук баiцца сабàкi, як ягò звягу. Бiегаў, бiегаў вòук без прытулку, надаiело яму бiегаць, бàцнэ жыду без пàчпарта i пашòў ён да бòга жàлiцца на сваю дòлю i пытàць, чаму ён баiцца чалавiека, хаць той i не мàе такiх моцных зубоў, як у вòўка. От стаў воук пèрад бòгам i злажыў сваю скàрг(g)у. Вы̀слухаў бог вòўка да й кàжэ: я даў табiе моцные зу̀бы, каб iмi ты мог даставàць сабiе жыўнасць; даў табiе лèгкiе нòгi, каб ты мог уцекàць ат дужыэйшых за цебè варагоў. А чалавiека табiе немà чагò баяцца, — не рабi яму шкòды, та й ён цебè не зачыэпiць. Пакланiўса воук бòгу да й пашòў у сьвiет. Хадзiў ён, хадзiў, врагаладàўса бы воук, а тут куды нi сунецца, на якòе жыуèло не зхòчэ напàсьцi, то япò цi палецiць, цi так хутко пабежыць, або схавàецца у вòду, а то саўèцца у клубòчак, як вòжык да й наставiць сваiе гòйстрые гòлкi. Тòлькi тое жыуèло лèгко адалiець, катòрае живè рàзам з чалавiекам. Церпiеў, церпiеў воук да й давàй рыэзаць i тое жыуèло, што живè пад апèкаю чалавiека. Абазлiўса чалавiек да й пачàў ганяць да бiць вòўка. I немà яму з тых час нiдзè супакòю, бо ягò гòняць па сьвiету чалавiек i гòлад. I бiегае ён, бы з вòўчым пàчпартам, бо такàя ягò дòля.

Саснoўcькi.

В. Рожан.

## 91. Упàртая бàба.

Былà аднà вèльмi упàртая дзèўка. Янà нiкòлi не згаджàласа з тым, што ёй гаварылi. Бàло ўсе рòбiць уперак. На пакутавалiса з èю бацькi, алè нiчòго не зрòбяць, вiедамо, не выкiнеш воп, бо ўсе-ж сваè дзiця, — хаць паганае, алè й пагàнаго шкòда. Расьцè тàя дзèўка да з кожным днём станòвiцца ўсе гарыэй да

гары͡эй. Перш прыхòдзілі сусі͡едзі жàліцца, што янà абіждàе ма-
лы͡х дзеўчàт, а пòтым давàй лàяцца, што янà й хлòпцам выдзірàе
вòчы. Ві͡едамо, хлòпцы, хаць яны̀ й упраўні͡ей, алѐ паддаю̀цца,
бо не хòчуць кры͡ўдзіць дзѐўку. А ту͡ой ту͡олькі тòе й трэ̀ба, чуць
ту͡олькі янà закмі͡еціць, што ёй даю̀ць палѐгку, дак янà лі͡езе
к табі͡е, бы асà ў вòчы. Янà дýмае, што гэ̀то янà такàя му͡оцная.

От вы̀расла тàя дзі͡еўка; парà й чакàць свату͡оў. А тут усі͡е
бы змòвіліса, ніхтò й пàлкі не пакàжэ. Бацькі̀ й так і сяк, началі̀
загàдкамі да намѐкамі жýпіць та аднамý, та другòму, началі̀ чуць
не сàмі свàтаць свàю дачкý, а ўсі͡е маўчàць, зýбы зця̀ўшы, бы
ваду̀ ў рот набрàлі. Нічòго не зрòбяць, гэстым тавàрам не на-
бъѐсса, маўчы̀ да чакàй, пòкуль знàйдзецца купѐц-маладзѐц.
А тут чым дàлей, тым гары͡эй, бо залежàлаго тавàру саўсім не
хòчуць купавàць. Ужэ бацькі̀ дýмалі, што тàя пагàная дачкà за-
ставѐцца ў дзеўкàх, як ось знайшòўса адзін парабчýк, што за
ягò ніхтò не хаці͡еў іці, да й узя̀ў упàртую дзі͡еўку. Прàўда, гэ̀то
булà такàя-ж цапà, як і тàя дзі͡еўка, — ён ні ў кòго не му͡ог да-
жы̀ць гòду, бо быў такі̀ гультàй, што й себѐ не хаці͡еў даглѐ-
дзяць, а такі̀ задзірàка, што ягò абхòдзілі ўсі͡е дòбрые лю̀дзі. Алѐ
бацькі̀ рàды, што збылі̀ дачкý з рук, што хаць такі̀ знашòўса.
От пабрàліса яны̀, алѐ жывýць не палю̀дску, бо к ёй гаспадàр не-
мажэ̀ й падступі̀цца, бы к ту͡ой наравісту͡ой кабы̀лі. Маўчы̀ць
гаспадàр, церпі̀ць, бы гэ̀то так і трэ̀ба. От жылі̀ яны̀ так мòо
гу͡од ці бу͡ольш, парэ̀шце я̀кась лю̀дзі даві͡едаліса да й началі̀ кеп-
кавàць з тагò гаспадарà, началі̀ ямý вы̀бірàць вòчы да гавары̀ць,
што ён мàбыць і сам бàба, калі̀ ямý бàба не трэ. Усе му͡ог сьцер-
пі͡ець ён, алѐ сьцерпі͡ець, што назвàлі ягò бàбаю, ніякім прàвам
не му͡ог і наставі͡ў сабі͡е зламàць упàртасьць пагàнае бàбы. От раз
кàжэ ён жу͡опцы, што хòчэ зъі͡ездзіць к я̀іе бацьку͡ом у гòсьці. —
Отож і я паі̀еду, — кàжэ упàртая бàба. А тамý тòе й трэ̀ба. От
запру͡ог ён жарабіцу ў драбі̀нкі, вы̀масьці͡ў іх салòмаю аж павѐрх
аглабін, пасадзі͡ў жу͡опку да й папхàўса ў гòсьці. Цесь жыў
у другу͡ой вѐсцы. Туды̀ і͡ехаць трэ было̀ цѐраз ліхýю, вѐльмі
трýскую грэ̀блю да цѐраз лі͡ес. От узъі͡ехалі яны̀ на грэ̀блю да

на каладзяны̀ му́ост, дак драбінкі ска̀чуць, бы здатны хло́пец казачка̀. Трыма̀ласа, трыма̀ласа пага̀ная ба̀ба, але̇ ніякім пра̀вам утрыма̀цца не мажэ. — Пацìху, — крычы̀ць яна̀, — бо ўпаду̀. — А ён яшчэ пагання̀ жарабіцу. Церпі͡ела ба̀ба, церпі͡ела, а нарэшце давай зневажа̀ць гаспадара̀, што ён неўмі͡ее па̀ват у го̀сьці і͡езьдзіць. — Чаму̀ неўмі͡ею? Я до̀брэ ві͡едаю, што тут усі͡е до̀брые людзі прывязваюцца к во̀зу, каб не зваліцца, але̇ я знаю, што ты не зхо̀чэш прывязвацца. — Чаму̀ ні͡е? Отож прывежуса, ту́олькі ў цебе нема̀ веро̀ўкі. — Нема̀ веро̀ўкі, та е по̀яс. — Дак прывежы̀. — От ён распераза̀ў по̀яс да й прывеза̀ў яі͡е ўдо̀ўшкі к дробінкам. Лежы̀ць пага̀ная ба̀ба на сало̀мі, бы на перынах дагары̀ да ла̀е гаспадара̀, што ён сам не дагада̀уса яі͡е ўпѐрад прывеза̀ць. Маўчы̀ць ён да пагання̀ жарабіцу. От пераі͡ехалі яны̀ грэблю да й уі͡ехалі ў лі͡ес. — Давай развежу, — ка̀жэ ён. — Отож нехачу̀, — нехай людзі ба̀чаць, які ты гаспада̀р. — До̀брэ, нехай ба̀чаць, што я гаспада̀р. — От ён тро̀хі зьвярну́ў з даро̀гі да й захадзіўса кала̀ пага̀нае ба̀бы. Та̀я крыча̀ць, зьневажа̀ць, але̇ ніхто̀ не чу̀е. Тым ча̀сам жарабіца як пачу̀ла, што ву́ожкі навісьлі, дак зачапіла за гнілы̀ пень бяро̀зіны да як абярну̀ла яго̀ да спало̀халаса да пабежы̀ць, дак чуць не аберну̀ла ву́оз. Скаці́уса гаспада̀р з во̀за, а жарабіца так і пацѐрла пага̀ную ба̀бу па ўе̇ску. Гледзя̀ць людзі да ту́олькі сьмеюцца, што й упа̀ртая ба̀ба на свайго̀ наско̀чыла.

Саспу́оўські.

В. Рожан.

## 92. Цьві͡ет па̀пераці.

Гэто ўжэ пра̀ўда. Ка̀жуць было̀ ў Гаўры̀льчычах ці што. Мні͡е каза̀ў му́ой сябер, што ён сам зна̀е таго̀ чалаві͡ека. От ён — ка̀а — нашо̀ў раз на Купа̀ло ў лі͡ес шука̀ць здатнага дзѐрава па ко̀рбы ля пра̀сьніцы віць веро̀ўкі. Дзень бы̀ў хму̀рны. Со̀нейка не было̀ з са̀мага ра̀на. Ён ма̀быць пу́озно пашу́оў у лі͡ес да й там пахадзі̀ў якую́сь часі̀ну. Зірне ён, аж ужэ й цемні͡ее. Ён

барджэй пабі͡ег да гаспо̀ды. Алѐ як пача̀ў хучы͡эй абхо̀дзіць выварацьѐ да кало̀ды, зава̀лы ці яко̀е-нѐбуць ламà̀чъе, дак саўсім заплу̀таўса й неві͡едае ў які̀ бу͡ок іці̀. Хадзі̀ў ён, хадзі̀ў, а тут ужэ й саўсім сьцемні͡ело да зрабі̀ласо так, што хаць ты во̀ко вы̀каль. Ба̀чыць ён, што нічо̀го не бу̀дзе, што яму̀ по̀цемку не вы̀лезці з лі͡есу, от ён і заначава̀ў там. Ві͡едамо, палі͡ескі чалаві͡ек у лі͡есі, бы до̀ма, нічо̀го не баіцца. А ён і забы̀ўса, што гэто было̀ на Купа̀ло. А на Купа̀ло ку͡ожнаму я̀кась су̀мно. Ці пра̀ўда, ці ні͡е, што ба̀юць лю̀дзі, нібы̀то на Купа̀ло пра̀віць ша̀бас уселя̀кая нѐчысь, алѐ лі͡епш начава̀ць до̀ма, спакайні͡ей, чым у лі͡есі. От накла̀ў ён агню̀ да тут і ўспамяну̀ў, што гэто Купа̀ло. Як успамяну̀ў, дак бы мару͡оз так і пача̀ў шчы̀паць плѐчы, а ша̀пка на галаві͡е й падняла̀са. Пачаса̀ў ён плѐчы, нахлабу̀чыў ша̀пку да й седзіць сабі͡е кала̀ агѐньчыку. Хаць ну͡оч і так цѐплая, аж па̀рыць, алѐ кала̀ агѐньчыку я̀кась сьмелі͡ей. От ён паламà̀ў ві͡ецьця, пасла̀ў яго̀ кала̀ агѐньчыку да й прылёг. Ці до̀ўго, ці ма̀ло ён лежа̀ў, ту͡олькі кры̀ху прыкархну̀ў, як ось чуе, што хтось ту̀пае, от ба̀цэ капыта̀мі. Падня̀ў ён го̀лаў, зірну̀ў та ўвадзін бу͡ок, та ўдругі̀, — нікого̀ нема̀, ту͡олькі агѐньчык патуха̀е, бо дро̀вы згары͡элі. От ён падня̀ўса да й пашо̀ў зьбіра̀ць ламà̀чъе. Атышо̀ўса ён ат агню̀ мо̀о з паўгану͡оў, а тут круго̀м па̀пераць па са̀мые па̀хі. Зірнѐ ён, аж яна̀ цьвіцѐ, бы агнѐм гары̀ць. Хаці͡еў ён сарва̀ць той цьві͡ет, да ту͡олькі працягну̀ў ру̀ку, дак ось, маі͡е вы каха̀ненькіі͡е, атку̀ль то̀е ўзело̀со, якоі͡е ту͡олькі плягі на яго̀ не кі̀нуласо. От так атусю̀сь тырчко̀м у во̀чы й суѐ яму̀ ўселя̀кая нѐчысь што папа̀ло. Схапі̀ў ён хучы͡эй аха̀пку ламà̀чъя да бего̀м к агню̀. Бежы̀ць, ту͡олькі па̀пераць ло̀міцца. Зірнѐ ён, аж у ла̀пці набі̀ласо по̀ўно цьві͡ету па̀пераці, аж ён гары̀ць, бы зу͡оркі сі̀ненькім агѐньчыкам. Ускі̀нуў ён на аго̀нь ламà̀чъя, ўзяў галавѐшку да й абчарці̀ў ею̀ круго̀м, от і зацѝхло ў лі͡есі, бы ў ву̀сі. Ту͡олько ось падхо̀дзіць к яму̀ які̀сь панічо̀к у капелю̀шыку да й про̀сіць паменя̀ць ла̀пці на но̀венькіе бо̀ты да япчэ̀ даѐ прыда̀тку. Паменя̀ў ён ла̀пці на бо̀ты да ра̀зам з ла̀пцямі атда̀ў і цьві͡ет па̀пераці, а нѐчысьці ту͡олькі то̀е й трэ̀ба было̀.

Лёг ён да й праспаў да дня. Прахапіўса, аж нема ні ботаў, ні лапцей, тульки засталіса галавешкі. Дак от якая справа.

Саснуоўські.

В. Рожан.

### 93. Отож добрая пасудзіна.

Жыў сабіе адзін чалавіек. Было ў яго двое сыноў. Адзін просты, шчыры да работы хлопец, а другі якісь шарахвуост. Ён многго шляўса па сьвіету, дзіесь быў у міесьці, дак лічыў себе вельмі разумным і нехапіеў рабіць простаго мужыцкаго дзіела. Перш бацько сварыўса, але бачыць, што нічого не памагае, дак плюнуў да й думае сабіе, — ну, нехай тульки чорны вуол наступіць на ногу, та ён кіне сваё вымышлянные да будзе, як усіе людзі. — От па немалум часе ажаніўса той гультаеваты хлопец і ўзяў сабіе жуонку да цуг(g)у такую-ж як і сам. Нема чаго рабіць, жуонка старого даўно памерла, стала маладзіца поўнаю гаспадыняю ў хаці. Але яна, што запарвё, та ўсе цягне сабіе, ні сваиму гаспадару, а стары да працавіты дзевер як сабіе хочэ, нехай жывуць абыяк. Віедамо, людзі заўжды садзяцца за стуол куожын на сваё міейсцо. От так раз і тые людзі сіелі абіедаць. Стары сіеў на куціе ў канцы стала, кала старого на зэдліку сіеў старэнны сын, а кала другого канца стала жанаты сын. Кала яго прысіела жуонка. Яна та сядзе, та ўстане да прынесе другую страву. Нарэшце прыносіць яна поўну місу кашы; прынесла, паставіла посеруд стала, а сама падсіела к гаспадару. Узеліса мужчыны за ложкі да давай аплетаць кашу. Жанаты сын з жуонкаю ядзяць да тульки аблізваюнца, а стары да яго старэнны сын насілу глытаюць пуосную кашу. Дагадаўса тут старэнны сын, што мабыць братавая зрабіла якіесь кпінкі, от ён узяў місу з кашаю да давай яіе круціць. — Ото-ж добрая пасудзіна, — кажэ ён, — дзіе тульки яна зроблена. — Мабыць у Капылі, — кажэ стары, — бо там робляць добрую паліву. — Пахвалілі яны місу да й пакруцілі яіе так, што к ім аберпуласа

каша з маслам, а к жанатаму сыну — пуосная. Папробувала жанчына кашы да й ложку палажыла. — Іеж, галубко, — кажэ стары, — каша смачная, з маслам. — Годзі яна з тые пары падаваць на стул не руоуную страву.

Саспуоуські.

В. Рожан.

## 94. Тварышы.

Дауно тое было, моо яшчэ дзедуоу і прадзедау ваших не было на сьвіеці, жылі-былі два хлапцы, два удалые малайцы. Яны вельмі муоцно таварышавалі адзін з другім і не было на сьвіеці нічого такого, каб яно магло разлучыць іх таварыство. Жылі яны так душа у душу, што ніколі не жывуць так і руодные браты. А была там вельмі гожая дзеучына, якое й на сьвіеці буольш не найці. Спадабаласа яна ім вельмі муоцно, але не віедаюць яны, каторому яна мае дастацца. От парадзіліса яны па між сабою да й парашылі, што той яіе возьме, каго яна выберэ. Пашлі яны к туой дзеучыні да й пытаюць віе. Але яна сама не віедае, каторого яна больш кахае, бо абудва ей вельмі спадабаліса. Прыхіліцца яна к аднаму, та к другому цягне; прыхіліцца яна к таму, та к першаму цягне. От так ніоднаго й не мажэ так пакахаць, каб аб другуом не баліело сэрцэ. Зсушыла яна тых хлопцау, да й сама высахла, ходзіць, бы непрытуомная да та сьмеецца, та плачэ. Думалі, думалі хлопцы, што тут рабіць да й парашылі йці у сьвіет, моо там хто стрэне другую дзеучыну, а мо дзіе загіне, та дась дарогу другому. Як парашылі, так і зрабілі; папрашчаліса яны з каханаю дзіеукаю да й пашлі. Адзін пашоу направо, а другі на ліево. Яшчэ й да тых час на растанцуох лежыць велізазны камень, на каторум яны седзіелі, як прашчаліса з дзеучынаю й між сабою. Яны тут так рашылі, што хто першы вернецца цераз тры гады, таго й будзе тая дзеучына. От пашлі яны й не было аб іх ніякаіе чуткі. А яны тым часам сталі пажываць грошы, каб зрабіць дзіеуцы самы ліепшы

да са̀мы даро̀шшы пада̀рак. Адзін пача̀ў таргава̀ць, а другі̀ — купцу͡оў разбіва̀ць. Цѐраз тры гады̀ нажылі̀ яны̀ шмат бага̀тства. Ту͡олькі ось разбу͡ойніка й зла̀вілі да й прысудзілі на шыбеніцу. От атусю̀ль сагна̀лі людзѐй глядзі͡ець, як яго̀ бу̀дуць ві͡ешаць. Пры͡ехаў і той купѐц, до̀бры маладзѐц зірну̀ць на ту̀ю ціка̀васьць, як паві͡есяць разбу͡ойніка, што забіва̀ў купцу͡оў. Ён не знаў, што гэто яго̀ тава̀рыш. Прыгна̀лі туды̀ й ту̀ю іх каха̀ную дзеўчы̀ну. От зрабілі шыбеніцу, да й прывелі̀ таго̀ разбу͡ойніка. Дзі̀вяцца лю̀дзі, што разбу͡ойнік стаіць пад шыбеніцаю ба̀цэ на кірма̀шы, ба̀цэ ён і неві͡едае, што гэто шыбеніца, а ўсе пазіра̀е на людзѐй, ба̀цэ каго̀ шука̀е ачыма. Ту͡олькі ось ра̀зам закрыча̀лі двое людзѐй да й кінуліса к шыбеніцы. З аднаго̀ бо̀ку кінуўса той тава̀рыш-купѐц, а з друго̀го та̀я дзеўчы̀на. Яны̀ ра̀зам пазна̀лі, хто гэто такі̀ той разбу͡ойнік і кінуліса, каб яго̀ аслабаніць. І дабі͡еглі яны̀ да шыбеніцы ў вадзін мо̀мант. Дзеўчы̀на кінуласа разбу͡ойніку на шыю да й пацалава̀ла яго̀. А зьві͡есно, што быў такі̀ звычай, што калі̀ дзі͡еўка пакаха̀е разбу͡ойніка, та яго̀ аслабаня̀юць ат сьмѐрці. Алѐ яна̀ пад шыбеніцаю ра̀зам з разбу͡ойнікам уба̀чыла й яго̀ тава̀рыша. От аслабанілі таго̀ разбу͡ойніка да й адда̀лі яго̀ дзеўчыне. Пачалі̀ лю̀дзі зьбіра̀ць ім гро̀шы й назьбіра̀лі цы͡элую ша̀пку. Пасадзіў іх купѐц на сву͡ой качо̀брык да й паўёз да гаспо̀ды. Пры͡ехалі яны̀ да й неві͡едаюць, што рабіць, каму̀ паві̀нна даста̀цца та̀я дзеўчы̀на. Ду̀малі яны̀, ду̀малі да так нічо̀го й не прыду̀малі, а пачалі̀ ра̀зам жыць да пажыва̀ць да дабра̀ нажыва̀ць.

Сасну͡оўські.

В. Рожап.

## 95. Што бу͡ог злучыў, таго не разлуча̀й.

Ці ві͡едаеце вы, як лі̀хо жыць на сьві͡еці, калі̀ ўсю жы̀тку трэ служы̀ць другім лю̀дзям і ніко̀лі нема̀ табі͡е слабо̀ды, нема̀ сваго̀ вугла̀. Хаць ты служы̀ ў пала̀цах, да яны̀ чужы̀е, а ха̀тка хаць ку̀рная да бру̀дная, да сва̀я. Пра̀ўду лю̀дзі ка̀жуць, што як

ві͡ек служ̀ыць, та лепі͡ей не жыць. Ѧкі б там ні быў до̀бры хаджа̀ін, та ці хаджа̀йка ліха̀я, ці яго̀ дзі͡еці, або̀ радня̀, дак ніко̀лі нема̀ табі͡е супако̀ю. Як ты ні рабі, як ні стара̀йса, та лю̀дзі ўсе-ж ска̀жуць, што ві͡едамо па̀рабак, яка̀я ат яго̀ кар̀ысь. От быў такі̀ нешча̀сны адзін чалаві͡ек, што яму̀ ўсе прыхо̀дзіласо парабкава̀ць. Як ні стара̀ўса ён вы̀біцца на сваю̀ гаспада̀рку, ні͡ельга ніякім пра̀вам, бо як тут гаспадарава̀ць, калі̀ ў цебѐ ні кала̀, ні двара̀, калі̀ нема̀ за што рук заня̀ць. Перш ён ча̀сто меня̀ў гаспадару͡оў, алѐ нарэ̀шце пазна̀ў, што гэто гар͡ыэй, чым жыць у аднаго̀. Бо ўсім гадзіць, усім рабіць шчы̀ро да до̀брэ, та й сілы не хо̀піць (хваціць); а жывучы̀ ў аднаго̀, та му͡ожна яму̀ парабіць шмат так, што е чым пахваліцца. От так і служ̀ыў ён у ваднаго̀ гаспадара̀, служ̀ыў ві͡ерно, шчы̀ро працава̀ў, дак і гаспада̀р як-бы лічы̀ў яго̀ сваім семенінам. От прышлі̀ Ко̀леды, накало̀лі лю̀дзі сьвінѐй, нарабілі каўба̀с да й балю̀юць. А той па̀рабак пазіра̀е, паку̀ль даду̀ць, да яшчэ̀ мо̀о й не далу̀ць. Дак ось як раз на то̀е й вы̀шло. Напрагла̀ гаспады̀ня на скаварадзі͡е са̀ла, палаж̀ыла туды̀ ц͡ыэлае лычко каўба̀с да й падаѐ на сту͡ол. Каўбаса̀ была̀ пар͡ыэзана на кускі̀, алѐ яны̀ не саўсім атр͡ыэзаны. Дзеўбану̀ў гаспада̀р кусо̀к каўбасы̀ да так усю̀ й пацё̀г к сабі͡е. — Прытрыма̀й, — ка̀жэ ён жу͡онцы, а та̀я адмаўля̀е, — што бу͡ог злучы̀ў, таго̀ не разлуча̀й. — Упра̀віў гаспада̀р адзін усю каўбасу̀, а па̀рабак ту͡олькі аблізаўса, да̀рам, што ра̀зам седзі͡еў пры сталі͡е. От на сьвя̀та пашла̀ гаспады̀ня ў го̀сьці, там тро̀хі падпіла̀ да й замару̀дзіла. Вернуўса з карчмы̀ гаспада̀р да й дава̀й ла̀яць жу͡онку, а та̀я як пачала̀ яго̀ зьневажа̀ць, дак яны̀ сло̀во-за-сло̀во да й сплеліса біцца. Седзіць па̀рабак на ла̀ве да ту͡олькі пазіра̀е. Го̀рачо прышло̀со жанчы̀не, от яна̀ й про̀сіць па̀рабка, каб ён іх разьвѐў. А той і ка̀жэ: — што бу͡ог злучы̀ў, таго̀ не разлуча̀й. — От з тых час кінуў ён парабкава̀ць да пача̀ў сам гаспадарава̀ць. Перш зрабіў буда̀н, по̀тым кур͡ыэнь, а нарэ̀шце й ха̀тку, хаць малѐнькую, да дарагѐнькую.

Сасну͡оўські.

В. Рожан.

## 96. Аткуль пашлі грыбы.[1]

Кажуць, што добры казляк лепш кепськаго мяса. А ў пуост і квас не квасам, калі ў ём нема казлякуоў. Без казлякуоў, ці як кажуць грыбуоў людзі не маглі-б пасьціць Петруоўку. Моо затым у Петруоўку буольш усего едзяць грыбы, што яны й пашлі з таго, як сьвяты Петро ўкраў у Хрыста хлеб. От як гэто было. Хадзіў Хрыстос з Петром па землі да вучыў людзей, як жыць на сьвеці. Хадзілі яны ата ўескі да ўескі. Часам іх кармілі добрые людзі, а часам паганые й не прымалі. От гэтак адзін раз ішлі яны цераз велікае поле. Доуго не было ніякае ўескі. Петро любіў добрэ ўжываць, а тут у яго саусім кала сэрца завіло, бо вельмі прагаладаўса. Было ў іх трохі хлеба. Петро нёс яго ў торбачцы, за плечамі. Ідуць яны да йдуць. Хрыстос сьпераду, а Петро ззаду. Кончыласо поле, вайшлі яны ў лес. Не вытрымаў Петро, ўшчыпнуў крыху хлеба да й есь. Пазнаў Хрыстос, што робіць Петро да й пытае яго, што зрабіць людзям на патрэбу. Хацеў Петро атказаць да не мажэ, бо повен рот набіў хлебам; от ён выплюнуў, а з таго й пашлі расьці грыбы. Зірнуў Хрыстос да й кажэ: нехай гэто будзе на патрэбу людзям. І пашлі грыбы на патрэбу людзям.

Саспуоўські.

В. Рожан.

## 97. Цыганскае таварыство.

Прыходзяць два цыганы ў веску да й бачаць, аж мужык закалоў кормнаго вапрука да й смаліць яго на агародзе. — Давай, батю, памагуом, — кажуць цыганы. — Ат вашаіе памогі нема занамогі, — кажэ мужык. — Не хочэце сьвіней гадаваць да карміць, дак не чакайце й спажыць. — Эй, батю, буог дае на ўсіх долю, — кажуць цыганы. — Але-ж дае, — атказвае мужык, —

[1] Гл. № 49.

і воўку дае, бо й ён жывіцца. — Праўду кажэш, батю! От затым і мы хочэм пажывіцца. — Воўк жывіцца ў ліесі. От і вы там жывіецеса. Ў ліесі буог даў на ўсіх долю. — Бачаць цыганы, што не на такуоўськаго трапілі, от яны аблізаліса да й пашлі далей. — А што, моо й праўду бае мужык, — кажэ адзін, — што ў ліесі муожна пажывіцца. Хадзіем у ліес. — Хадзіем, — атказвае другі. От прышлі цыганы ў ліес да й бачаць, што там ваўерка скачэ па дзераву. — От бачыш, які зьвіер, — кажэ адзін цыган. — Ён маленькі, да так хутко скачэ, а я буольшы, дак яшчэ не так скакану. Ты хучыэй зьбіегай да прынесі кацел, а я тут налаўлю гэстых зьверкуоў, от у нас і будзе сьвежына. — Пашоў адзін цыган па кацел, а другі ўзліез на дзераво, дзіе была ваўерка да й хапіеў яіе злавіць за хвуост. Туолькі ён сунуўса к ёй бліжыэй, як яна цмок, цмок! да й пераскочыла на другое дзераво. Цыган не доўго думаючы да як скокне за ею, дак і палеціеў долу бы камень. Урыэзаўса цыган аб зямлю так, што й зубы вышчарыў. Лежыць ён саўсім не прытуомны да чуць дышэ. Тым часам вернуўса таварыш з велізазным катлом да як убачыў, што той цыган лежыць, дак вельмі абазьліўса на яго, выразаў барждж҃ыэй папліску да давай яго перыэсьціць да прыгаворваць: — а, от гэто табіе за тое, што ты такі таварыш — сам паіеўса да й лежыш, а пра таварыша й забыўса. Дак я табіе прыпамену. Ось табіе, ось табіе прыпамін... — Лупіць цыган таварыша, а с таго й так чуць духі не выскачаць. Прышлі туды ў кусты нашы дзецюкі рваць арыэхі да й убачылі тых цыгануоў. Насілу яны атратавалі таго цыгана. От с таіе пары годзі цыганы таварышаваць, а пачалі яны па аднуом красьці да абманваць людзей і тым жывіцца.

Саснуоўські.

В. Рожан.

## 98. Самая разумная.

Жыў сабіе адзін чалавіек не то, каб багач, а так сабіе добры гаспадар. Ён, як жэ кажуць людзі, небаяўса, што ў Петруоўку

выпадзе снiег, бо заўжды мі͡еў пра запас берэме сі͡ена. Быў у ягò сын — уда̀лы да̀ працавіты хлопец, алѐ на сву͡ой ві͡ек мо̀о ўжэ вѐльмі разумны. Ба̀ло яшчэ зма̀лку не хо̀чэ йгра̀ць ці сваво̀ліць с тавары̀шамі, а ўсе трэ̀цца кала̀ бу͡ольшых да прыслухо̀ўваецца, што яны̀ гаво̀раць. А як стаў нелапны̀м хлапчуко̀м, дак ужэ тако̀га набра̀ўса ро̀зуму, што пача̀ў і ста̀ршых вучыць. Упіка̀лі часа̀мі яму̀ лю̀дзі, ка̀жучы, што яйпа курэ̀й ву̀чаць, алѐ ён не слу̀хаў. От прышо̀ў ужэ час, што пара̀ ягò й жаніць. Пачалі̀ бацькі̀ наглядаць яму̀ гаспада̀рлівую да го̀жую дзі͡еўку. Ві͡едамо, ў на̀шум ста̀не ту͡олькі на тòе пазіра̀юць, каб жанчы̀на была̀ до̀брая гаспадыня, каб умі͡ела зпекці̀ хлі͡еб да зварыць страву, а ў зімку паста̀віць кро̀сна да абшыць гаспадара̀ да дзецѐй, каб не сьвеці̀лі ці͡елам. А той хло̀пец шука̀ў сабі͡е жу͡онку са̀мую разумні͡ейшую, каб яна̀ была̀ така̀я ціка̀вая да растару͡опная, як і ён сам. Алѐ дзі͡е таку̀ю ўзяць, бо ві͡едамо, які̀ ў жанчы̀ны ро̀зум. От наглѐдзялі яму̀ бацькі̀ адну̀ дзеўчы̀ну ў сусі͡едняй вѐсцы ў ся̀бра, з като̀рым былі̀ ў іх заедные пчо̀лы. От сказа̀лі яны̀ аб ту͡ом сыну, да й ка̀жуць яму̀, каб ён пашо̀ў ў ту̀ю ўѐску зірну̀ць на дзі͡еўку. От была̀ недзі͡еля, ці які̀ другі̀ сьвято̀к, апрану̀ў той хло̀пец но̀вую сьві̀ту да й пашо̀ў к ся̀бру ў сусі͡еднюю ўѐску агляда̀ць ту̀ю дзі͡еўку. Прыхо̀дзіць ён туды̀. А гэ̀то было̀ на весьні͡е, от я̀кась кала̀ Вялі̀кдзеня. Высыпалі дзеўкі з ку̀рнікаў на загумѐччэ, паю̀ць пі͡есьні да ска̀чуць там на до̀шках. Уба̀чыў ён, што та̀я дзі͡еўка сьмеѐцца, ляско̀чэ бы клеку͡отка да так ска̀чэ па до̀шцы, што спадні̀ца аж на го̀лаў задзіра̀ецца. Зірну̀ў ён да й ду̀мае, што гэ̀то са̀мая дурні͡ейшая дзі͡еўка. От прыхо̀дзіць ён даму͡ой да й ка̀жэ бацьку͡ом, што да тых час не бу̀дзе жані̀цца, по̀куль не зна̀йдзе сабі͡е са̀маі͡е разумнаі͡е (жанчы̀ны). Нема̀ чаго̀ рабі̀ць, згаджа̀юцца бацькі̀ й на тòе, да ту͡олькі кача̀юць галаво̀ю, бы не даю̀ць ві͡еры таму̀, што дзі͡е нѐбудзь е така̀я жанчы̀на. Ві͡едамо, лю̀дзі ка̀жуць, што ў жанчы̀ны во̀лас до̀ўгі, да вум каро̀ткі. От і пашо̀ў той вѐльмі разу̀мны хло̀пец у сьві͡ет шука̀ць са̀маі͡е разумнаі͡е жанчы̀ны. Хадзі̀ў ён мо̀о гу͡од, два, ці бу͡ольш, абхадзі̀ў усѐ ца̀рство, а тако̀і͡е жанчы̀ны нідзі͡е

немàш. Усіюды жанчы̀ны, як жанчы̀ны. Яны̀ яшчэ̀ дурні̑ей, чым сябрава дачкà. От і пачàў ён пытàць у жанòк, ці не знàюць яны̀ дзі̑е сàмаі̑е разумні̑ейшаі̑е жанчы̀ны. А тыя й кàжуць: — ой, сакòле ты наш ясны, чаму̀ не ві̑едаем. Былà ў нас тутаднà дзі̑еўка, якìсь вы̀радак. Янà ўсе рабìла не палюцку, лìчыла себè вèльмі разу̀мнаю. — Не хачу̀, — кàжэ, — быць як другі̑е дзеўкі, я хачу̀ быць разумні̑ей мужчы̀н. — Алè ві̑едамо, вы̀шэ нòса не плю̀неш. Хвабры̀ласа янà, хвабры̀ласа да на ту̑ой сàмуй . . . і сі̑ела. А цепèр такàя-ж дурнàя, як і ўсі̑е бàбы, бо якì бàбські рòзум! — От пашòў ён зірну̀ць на тую сàмаю разу̀мную да й бàчыць, што янà ні бàба, ні мужы̀к, аж яму̀ штось запу̀дзіло. Гòдзі ён бу̑ольш шукàць разумнаі̑е жанчы̀ны, верну̀ўса да гаспòды да й пабрàўса з дачкòю сябра, бо янà дурнàя, а другі̑е яшчэ дурні̑ей, ці бо ўсі̑е сàмые разу̀мные.

Саспу̑оўські.

В. Рожан.

## 99. Каму̀ бу̑ог судзі̑ў, той і спажы̀ў.

Жыў сабі̑е не то, што панòк, а так сабі̑е багàты шляхціц. Ат бàцька яму̀ дасталòсе дòбрае пòле да велìкая гаспадàрка, бо ў ягò былò сі̑ем брату̑оў, алè яны̀ ўсі̑е памèрлі. Загру̑об ён у сваі̑е ру̀кі ўсе бàцькаўскае дабрò да й кàжэ, што дòбрэ жыць на сьві̑еце багàтаму чалаві̑еку. А старэ̀нькая мàтка гавòрыць яму̀, што не таму̀ дòбрэ жыць на сьві̑еце, хто багàты, а таму̀, каму̀ бу̑ог су̀дзіць. — Ці су̀дзіць, ці не су̀дзіць, — аткàзвае сын, — а што я мàю, тòе маè. — Ні̑е, сынòк. Так казàлі й тваі̑е браты̀, да бàчыш, каму̀ бу̑ог судзі̑ў, той і спажы̀ў. — Якòе мні̑е дзі̑ело, каму̀ што там бу̑ог судзі̑ў, ту̑ольки я знàю, што багацьці̑ей ат менè немà ў ваўсèм засці̑епку, а мòжэ й у цы̀элуй акру̀зе. — Ой, не грашы̀ бòгу, му̑ой сынòк, бо бу̑ог скарàе. — Ту̑ольки гэто янà прамòвіла, як чу̀юць яны̀, што хтось гавòрыць зверху, от нìбы з нèба: — багàты зажабру̀е, а кавàль запану̀е. — Спужàлісе яны̀, не ві̑едаюць, што рабìць. Алè той шляхціць наду̀маўся абману̀ць

бо̀га. От ён узяў усѐ зо̀лато, папёс к рацыэ да й схаваў яго̀ ў дуплена̀туй вербіе. — От-жэ цепѐр, — ка̀жэ, — нехай кава̀ль запануе. — Туольні ён гэто прамо̀віў, як зноў з нѐба хтось ка̀жэ: — бага̀ты зажабруе, а кава̀ль запануе.— Спужа̀ўсе шля̀хціц, прадаў жыдуом усю сваю гаспада̀рку, а гро̀шы схаваў у вербу. — Ото-ж пабачым, хто запануе, — ка̀жэ ён. Туольні ён гэто прамо̀віў, як зноў чуе то̀е са̀мае, што бага̀ты зажабруе, а кава̀ль запануе. Спужа̀ўсе ён і чакае беды̀. Алѐ ось яна̀ не за гарамі. Па не до̀ўгум ча̀се захварыэла яго̀ ма̀тка да й памѐрла. Туольні пахаваў ён ма̀тку, як усхадзіласе велі̀кая бу̀ра й спа̀ла така̀я навальніца, што яго̀ будынак увѐсь раскідало да й запесло̀ невіедама куды̀, а ту̀ю вербу, у като̀руй былі гро̀шы, вырвало з карыэнем і ўнесло̀ вадо̀ю. Аста̀ўсе той шля̀хціць пра̀ве го̀лы, як ма̀ць радзіла. Нема̀ чаго̀ рабіць, пашоў жабрава̀ць у далѐкі край, каб знаёмые лю̀дзі не ба̀чылі й не кало̀лі яму̀ ачэй тым, што ён хвалі̀ўсе сваі̀м бага̀тствам. Тым ча̀сам ту̀ю вербу вадо̀ю выкінуло кала̀ ку̀зні біеднаго кавал̀я. Убачыла кавалі̀ха да й ка̀жэ сваіму гаспадару: — нехай-бы ты хаць насіек мніе берэмцо дроў. Ба̀чыш, што нема̀ чым у пѐчы запаліць, каб зварыць якую пѐбудь калату̀шу. — Узяў кава̀ль з ку̀зні чужу̀ю ло̀маную сакіеру да й пачаў шчапа̀ць на дро̀ва ту̀ю вербу. Туольні ён тро̀хі атпчапіў, як аттуль пасыпалосе зо̀лато. Забраў ён зо̀лато ў хварту̀х да й панёс дадо̀му. Ско̀ро накупіў ён усего̀, што трэба й стаў папава̀ць. От прышоў раз к кавалю̀ той жабра̀к, запачаваў да й расказаў, як буог скараў яго̀. Пачулі то̀е кава̀ль і кавалі̀ха да й дагада̀лѐсе, што гэто яго̀ гро̀шы яны̀ спажываюць. Думалі яны̀, думалі, як ім даць таму̀ шля̀хціцу зо̀лата, каб яму̀ хапіло пражыць да смѐрці, а не жабрава̀ць. Надумалісе яны̀ палажыць зо̀лато ў булку хліеба да ту̀ю булку даць жабраку, та ён як пачнѐ іесці хліеб, та й зна̀йдзе там зо̀лато. Так і зрабілі. Узяў той жабра̀к з зо̀латам булку хліеба, падзякуваў да й пашоў. Туольні тро̀хі атышоўся ён, ба̀чыць, аж біедны чалавіек арэ на по̀лі дзераўяпаю сахо̀ю без сашнікоў. — Што ты, — ка̀жэ, — чалавіечэ, арэш без жаліезных сашнікоў; гэтож ты туолько мучыш жыўѐло.—Калі-ж,

братко̀, я бі͡едны чалаві͡ек і не ма̀ю за што купі̀ць сашнікоў.— Узяў жаль таго̀ жабрака̀. От і атдаў ён таму бі͡еднаму чалаві͡еку цы͡элую булку хлі͡еба, каб ён купіў у каваля̀ сабі͡е сашнікі. Пашоў той чалаві͡ек к кавалю да й атдаў яму за сашнікі тую булку хлі͡еба. Разры͡эзала кавалі̀ха той хлі͡еб, ажно̀ там то̀е зо̀лато, што яны̀ палажы̀лі. От кава̀ль запруог до̀браго каня̀, ўзяў то̀е зо̀лато да й паі͡ехаў даганя̀ць таго̀ жабрака̀. От абагна̀ў ён яго̀ да й ба̀чыць, што ўпѐрадзе цѐраз ры͡эчку зро̀блен муост. — Ну, — думае, — жабра̀к не мінѐ гэ̀таго мо̀ста. — Насыпаў гэто ён у ша̀пку зо̀лата, палажы̀ў ша̀пку пасеруод мо̀ста да й цікуе, як жабра̀к заберѐ зо̀лато. Тульки ось жабра̀к падышоў к мо̀сту да й думае сабі͡е: отто̀-ж ці я ўмі͡ею хадзіць не ба̀чачы, бы сляпы̀. От ён заплюшчыў во̀чы да й перайшоў цѐраз муост, нічо̀го не ба̀чачы. — Ні͡е, — думае кава̀ль, — што буог судзіў, то̀е й будзе. Праўду ка̀жуць: каму буог судзіў, той і спажы̀ў. — І забра̀ў сабі͡е зо̀лато.

Шляхцянка Умінская.

Крыжы.

## 100. У пъя̀тніцу не смі͡ейсе, а ў недзі͡елю не плач.

Ві͡едамо, гаспада̀рка, — таўчы̀се ад ра̀на да вѐчара куожын дзень і нікòлі нема̀ табі͡е спачы̀нку. Пры̀дзе сьвета̀я недзі͡елька, дак хо̀чацце схадзіць па грыбы̀, ці па я̀гады, бо зайздруосно, што лю̀дзі пазбіра̀юць грыбоў да я̀гад на ўсю зіму, а ў цебѐ нема̀ чаго̀ й хво̀раму даць. От і ро̀біш так, як людзі, да тульки ўздыхнеш, нехай буог даруе ця̀жкі гры͡эх. Дак от-жэ так адна̀ кабі͡еціна ў недзі͡ельку пакінула до̀ма двое дзі͡етак да й пашла̀ ў лі͡ес па грыбы̀. Было̀ мо̀крае, алѐ вѐльмі цѐплае лі͡ецячко, зарадзіло грыбуоў, хаць касі. Назбіра̀ла та̀я кабі͡еціна по̀ўну каробку грыбуоў са̀мых малѐнькіх да маладзѐнькіх да яшчэ̀ наклала цы͡элы прыпуол, так што ця̀жко несці дадо̀му. Паседзі͡ела яна̀ тро̀хі на пеньку да й пашла̀ на даро̀гу, расхіля̀ючы ві͡еткі. Выхо̀дзіць яна̀ на паля̀начку, дзі͡е былі растанцы̀, а на іх які̀сь на̀бажны чала-

віек паставіў крыж, да й сустракае кала таго крыжа якуюсь маладую да вельмі харошую жанчыну. Павіталася яна з ею да й хаціела йці далей, але тая й кажэ: кепско ты робіш, што не сьвяткуеш недзіельки, а ходзіш па грыбы. — Перахрысьцілася тая кабіеціна на крыж да й кажэ: нехай буог даруе цяжкі грыэх, бо ніельга ў гаспадарцы сьветкаваць. — Ой, мая міленькая, — кажэ тая, — паслухай мене. У пъятніцу не сьміейсе, а ў недзіельку не плач да дзіела не рабі, та буог табіе ўсе дасць. — А сама й зьнікла. Здзівілась тая кабіеціна да й дагадалась, што гэто была матка божая. Памалілась яна перад крыжам да й пашла да дому, туолько маўчыць нікому аб туом нічого не гаворыць. Прышла пъятніца, сабраліся жанкі, пачалі паміж сабою сакатаць, пачалі прыдумоўваць уселякіе сьмешные здарэня да й смеюцце, аж заходзецце. Туолькі тая кабіеціна маўчыць, бы вады ў рот набрала. Прыкміеціў тое чорт да й пачаў хадзіць за тою кабіеціною, як ціень, не атступае ат яіе ні на крок. Сьцеражэцце яна, каб у пъятніцу не засьмеяцце, а ў недзіельку не заплакаць да дзіела не рабіць. І пашло з тых часаў ей шанцаваць у гаспадарцы, пашло усе на карысьць, так што людзі пачалі завідуваць. Туолькі ось у адну недзіельку пашоў гаспадар к людзям на сход. Пачалі яны там гаманіць да радзіцце, як ліепш весці гаспадарку да абрабляць поле, загаманіліся да й доўгі час седзяць сабіе на ўзгуорачку пад ліпамі. Тым часам тая кабіеціна пакінула адных дзецей у хаце да й пабіегла ў цэркаў памаліцце да паставіць сьвіечку. Уходзіць яна ў цэркаў, а чорт чмыхнуў носам, ніельга йці туды, от ён абазлівсе, пабіег у хату да й задушыў у калыпцы маленькае дзіцятко таіе жанчыны. Памалілась яна богу да йдзе да дому. Убачыў яіе гаспадар, да й пашлі яны разам. Уходзяць яны ў хату, аж бачаць, што маленькае дзіцятко нежывое, а буольшаго саўсім нема й невіедамо, куды яно дзіелось. А яно як убачыло, што маленькае дзіця памерло, дак спалохалось да й залізло ў піеч. Божкае гаспадар, плачэ, аж рукі ломіць, а матка смеецце да кажэ: буог даў, буог і ўзяў. Яго сьвятая воля. Пабачыў гаспадар, што жуонка смеецце да й думаў,

што яна з гора ашалієла. От ён наклаў у пієч дроў, запаліў і прыставіў чагун вады, каб было чым памыць тое дзіця. Тым часам і большае дзіця ў печы затохласе. Агледзієўсе гаспадар да чуць не ашалієў з гора. А жонка ходзіць сабіе па хаце да смеецце з гаспадара. А чорт залієз над пієч да там тулькі хвастом круціць ат радасці да думае, што от цепер пачнуць тые людзі сварыцце, лаяцце да наракаць на бога, што даў ім такое нешчасце. Пабожкаў чалавієк, пагараваў, але як пачала яго жонка весело ўмаўляць, дак прышоў у себе да й годзі турбавацце. Тым часам нагрэлася вада; памылі, убралі яны сваіх дзецей да й вынеслі на гору. Прыбралі яны ўсе ў хаце да й сієлі вечэраць. Тулькі ось схаменулася тая жанчына, што забыла кала дзецей паставіць сьвієчкі. От запаліла яна сьвієчкі да й палієзла на гору. Падходзіць яна к дзієцям, аж яны абое жывы й здаровы, седзяць сабіе на руках у таіе самаіе жанчыны, якую яна сустрэла кала крыжа, да йграюць. Пакланілася яна матцы божуй да самаіе землі. Тая аддала ёй дзецей, благаславіла іх і тую жанчыну да й знікла. Прынесла яна ў хату дзецей. Убачыў тое гаспадар да й сам пачаў смеяцце ат радасці. От і расказала яна гаспадару ўсе, як тое было. Можэ й цепер яшчэ жывы тые людзі. Слухаюць яны бога, дак і бог ім усе дае. Дак от бачыце, якое было здарэне.

Шляхцянка Умінская.

Крыжы.

# Зьмест.



## Казкі і апавяданьні:

стар.

## Зауважаныя абмылкі.

| *Стар.* | *Радок:* | *Надрукована:* | *Трэба:* |
|---|---|---|---|
| 2 | 6 зьнізу | ніхадзілі | ні хадзілі |
| 16 | 5 зьверху | весі͡ельльле | весі͡ельле |
| 23 | 5 » | на̀ нач. | на̀нач. |
| 44 | 8 » | наловіў | налавіў |
| 49 | 4 » | чуля̀е,— | гуля̀е,— |
| 59 | 1 » | ціка̀васц°. | ціка̀васьць. |
| 82 | 10 » | і͡ешто | ні͡ешто |
| 88 | 7 зьнізу | то | што |
| 132 | 10 » | ў ка̀го. | ў ко̀го. |
| 156 | 6 зьверху | на̀рабка, | па̀рабка, |
| 176 | 10 » | да му͡оўкі, | даму͡оўкі, |
| 177 | 6 зьнізу | ён. | ём. |
| 199 | 8 зьверху | растӯрхаў | раскатӯрхаў |
| 204 | 13 » | ускры̀ні, | у скры̀ні, |
| 205 | 17 » | купа̀ло, | Купа̀ло, |
| 215 | 7 зьнізу | Ён на кабы̀лцы, | Ён па кабы̀лцы, |
| 221 | 10 » | да й | да ў |
| 228 | 9 зьверху | боя̀ўса | бая̀ўса |
| 233 | 4 зьнізу | На пакӯтава- | Напакӯтава- |
| 235 | 3 зьверху | — бо ўпаду̀. — | — ой, упаду̀! — |

---



